# Пятрусь Броўка

ЗБОР
ТВОРАЎ
У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ





МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

# Пятрусь Броўка

ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ

7

АПАВЯДАННІ
АПОВЕСЦІ
УСПАМІНЫ



Рэдактар тома
М. І. МУШЫНСКІ

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
ЗАБРОДСКАЙ С. В.

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

## ПАЧАТАК

Прачнууся я, калі яшчэ было цёмна. Тое, што мне ўчора сказалі бацькі, не давала спакою. Я ляжаў з расплюшчанымі вачыма і думаў.

— Раніцай пойдзем з табою ў двор, Будай прыехаў,— папярэдзіла маці. Я ўжо знаў, што хочуць прасіць валаснога камісара, каб узяў мяне на работу.

— Пісарчуком станеш, калі возьме, а не, дык будзеш каровам хвасты заломваць,— дадаў бацька.

«Што будзе са мною?» — непакоіўся. Я так прывык да гэтага кутка, дзе ляжаў з братамі на саломе, засланай дзяружкай, што не ўяўляў сабе чаго інакшага. Тут, у гэтай хаціне, усё здавалася такім блізкім і родным. Белая велізарная печ, што расселася на палову хаты, цяпер ледзь відна была ў мораку. Я нічога не бачыў, але добра ўяўляў, дзе стаіць наш доўгі, нязграбны стол, ад якога заўсёды пахла кіслай капустай. І мыцельнік з лыжкамі, пазначанымі біркамі.

У хаце стаяла цішыня. Толькі чутно было, як шамацелі над самым вухам прусакі і тараканы. Мне чамусьці прыгадалася, як мы, малыя, забаўляліся з імі. Калі не было старэйшых, лавілі тараканоў і пускалі ў велізарную гліняную місу з вадою. Кожны выпраўляў у плаванне свайго. Потым сачылі, чый хутчэй дабярэцца да берага. Колькі было хвалявання і смеху! Усе нашы тараканы-плыўцы мелі мянушкі.

«Глядзі, глядзі!.. Мойураднік як грабе... а нос — як лапата!.. Не задавайся, шляхціц вусаты абгоніць!.. Ха-ха-ха!.. зашыбаваў у бакі, якраз як стараста з манапалькі!..»

Я ляжаў і непакоіўся. Мне хацелася ехаць з камісарам Будаём, і ў той жа час было нечага вельмі шкода.

Я пачуў, як заварушылася і ўздыхнула маці. Устала і ледзь чутна пратупала басаног да лучніка. Значыць, раніца. Хутка лучына з трэскам асвяціла сцены, і з кута, завешанага ручніком, сурова глянуў святы Мікола.

— Уставай, Федзечка... А ты і не спіш...— падышла да мяне маці і, хоць гэтага даўно не было, пацалавала ў галаву.

Я ўскочыў і замітусіўся па кутках. Чаканне новага пасяляла трывогу.

— Дзе боты?.. Дзе боты?..— дапытваў я, шукаючы абутак старэйшага брата, ведаючы, што гэты абутак вызначылі мне ў дарогу.

— Пачакай, не ўзнімай вэрхалу,— азваўся бацька і, крэкчучы, выйшаў у сенцы. Праз хвілю ён падаў мне знаёмыя юхтовыя боты старэйшага брата, якому я зайздросціў.— На, я ўчора іх дзёгцем змазаў... Насі ды помні: як на свае заробіш, вярнуць будзе трэба...

Маці выняла з куфра белую кужэльную сарочку і чорныя картовыя штаны, і я пачаў збірацца.

Хутка прачнуліся меншыя, і ў хаце ўзняўся сапраўдны гармідар. Усе ўжо ведалі, што сягоння я з маці пайду ў панскі двор, куды прыязджаў камісар Будай. Ён апісваў панскую маёмасць.

— Дык ты з ім апісваць будзеш?..— прыставалі да мяне малыя, а я ўжо, як дарослы, злосна буркаў у адказ і паважна масліў слінай свой непакорлівы віхор.

Маці паклікала снедаць. Ды не да яды было мне. На гэты раз з'еў некалькі бульбін, тыцнуў колькі разоў лыжкай у саладуху і падняўся.

— Не спяшайся, камісар яшчэ, відаць, спіць, а ты ўжо няўрымсцішся...

Было крыўдна, што бацька так сурова выпраўляе мяне ў дарогу, але тое хутка забылася, як апынуліся з маці за сялом, ідучы сцяжынкаю ў панскі двор. Яна хацела ўзяць мяне за руку, але я не даўся: яшчэ, чаго добрага, надумае весці, як некалі вадзіла малога на пасту, а я ж лічыў ужо сябе вялікім, крыху нават падобным да самога Будая, што насіў жаўтаватую шапку з чырвонаю зоркаю. Маці, захінуўшыся ў шырокую паласатую хустку, нешта час ад часу пыталася ў мяне, але я не зусім да ладу адказваў, бо быў заняты сваімі марамі.

Сцяжынка вілася між вузенькіх шнуроў да рэчкі, дзе за велізарнымі ліпавымі прысадамі бялеў палац. Стаяў ён, як казалі, без гаспадара, бо пан уцёк, як толькі першы раз прыехаў камісар Будай у нашу вёску. Я ніколі яшчэ не быў у панскім двары, і мне вельмі хацелася пабачыць, як жылі паны. Ведаў адно, што ў пана дужа злосныя сабакі, і калі трэба было праходзіць паблізу моста цераз рэчку, за якім пачынаўся дзядзінец, сэрца ад страху ледзь не замірала. Заўсёды стараўся прашмыгнуць тую мясціну непрыкметна, бо аднойчы панская сучка Мірта добра пашкума-

тала мае штаны. Цяпер я ведаў, што гэтых сабак няма, і таму ішоў спакойна. Хвалявала невядомасць — а што ж са мною будзе? Ці возьме мяне Будай? І я ўжо ўяўляў сабе, якім буду ў воласці. А пасля марыў яшчэ, як, вярнуўшыся дадому, буду ісці вуліцаю сяла ў такой жа шапцы, як і ў Будая, а яшчэ лепш — у скураной куртцы і абавязкова з наганам, што з доўгім шнуром, і як пабягуць за мной зайздрослівыя хлапчукі...

— Папраў шапку,— сказала маці, перапыніўшы мае мары.

Я зняў, паглядзеў на аблуплены казырок ды пастараўся акуратна зноў надзець, хоць той шапцы далёка было да Будаёвай. Мы ўзышлі на дзядзінец. Перад намі ўзвышаўся двухпавярховы белы дом, перад якім распасціраўся велізарны круг, высаджаны кустамі. Была позняя восень, круг быў голы, і жоўтае лісце шамацела пад нагамі. На двары стаяла каламажка, на якой я бачыў некалі пана. А можа, цяпер, думаў я, на ёй прыехаў Будай? Далёка за кругам віднеўся шэры панскі свіран, а побач з ім двухпавярховая салька. Я многа чуў пра гэтую сальку, і калі ўспомніў, у мяне ажно пацякла сліна... Казалі, што ў пана заўсёды вісела там поўна кумпякоў і кілбас. Нават цяпер, здалося, адтуль патыхала вяндлінаю...

Перад пакоямі сустрэлася ахмістрыня. Яна была сярэдніх год, высокая мажная кабета. Я заўважыў, што твар у яе белы, не такі, як у нашых спрацаваных жанчын на вёсцы. Прыгожыя пацеркі матляліся на тоўстай шыі. Я чуў, што яна прыслугоўвала пану, а яшчэ на начлезе пастух, стары Кубел, рагочучы, расказваў нам пра яе такое, ад чаго ў нас чырванелі шчокі.

— А, Марцініха...— працягнула нездаволена ахмістрыня.— Што вам трэба?..

І калі даведалася, чаго мы прыйшлі, нехаця пайшла ў пакоі.

Пазвалі нас. Неўзабаве выйшаў у велізарную залу і ваенны камісар Іван Будай, так яго ўсе звалі. Я глядзеў то на залу, дзе грудамі ляжалі розныя рэчы, то на Будая. Мне давялося бачыць камісара толькі аднаго разу, калі ён праязджаў праз вёску, і цяпер я яго не пазнаў. Тое, што пабачыў, проста ўразіла мяне. Перад намі стаяў высокі чарнявы чалавек з падстрыжанымі чорнымі вусамі, у скураных штанах і ў жаўтаватым фрэнчы, падпяразаным шырокай тоўстаю дзягай. Ён здаваўся мне героем, падобным да Кузьмы Кручкова, партрэт якога вісеў усю

вайну ў нас на сцяне. Не мінула маё вока і доўгага шнура ад нагана, які звісаў ніжэй калена.

— Дык гэта той? — спытаў ён голасна, так, што пакацілася рэха ў пустой зале.— Дык гэта той, за якога ты ў мяне на сходзе прасіла?.. Я ж думаў, ён большы, а ён жа кацянё! Га-га-га!..— І Будай, хітра бліснуўшы вачыма, узяў мяне за падбародак.

Я разгубіўся... «Што гэта ён са мною, як з малым»,— пакрыўдзіўся я і стараўся напусціць суровасць на твар.

— Міхаліна!..— гукнуў, адвярнуўшыся ў дзверы, што ішлі ў другія пакоі, Будай.— Паперу, чарніла сюды!..

І калі ахмістрыня палажыла на столік каля акна паперу з ручкаю ды паставіла чарніліцу, камісар загадаў:

— Ану, пішы!..

Я расхваляваўся, не ведаў, куды дзець шапку, пакуль не ўзяла яе ў мяне маці. Баязліва прысеў на краёк крэсла і ўзяў ручку. Рука ў мяне дрыжала.

— Ды ты садзіся добра,— параіў Будай,— і пішы спакойна — не цару пішаш, а мне, камісару Будаю, свайму чалавеку. Разумееш?..

Я сядзеў насцярожаны і толькі думаў, як гэта напісаць, каб спадабалася яму.

— Ага... што пісаць, не ведаеш,— здагадаўся камісар і нахмурыўся на хвіліну.— Ну, добра,— і ён выняў з нагруднае кішэні ўчацвёра складзеную паперку. Старанна распрастаўшы яе, загадаў: — Вось табе дэкрэт... пішы!..

Я абмакнуў пяро і пачаў старанна выводзіць літару за літарай. Маці стаяла воддаль і сачыла за ўсім. А камісар Будай, задумана ходзячы па зале, падбадзёрваў мяне, разважаў:

— Ты, брат, пішы, нічога не бойся. І на крэсла садзіся як найлепей, як гаспадар. Ты глядзі, як я... Вунь ахмістрыня раней пану служыла, а цяпер камандую я: Міхаліна!..— У дзвярах паказалася ахмістрыня.— Не трэба, гэта я так! — замахаў рукамі Будай. А калі яна знікла, ужо гаварыў цішэй: — Скажу: «Міхаліна!» — і яна тут!.. Разумееш? А чаму? А таму, што наша ўлада цяпер. Ты такі мужыцкі сын, як і я. Толькі што меншы. Дык, можа, і шчаслівейшы. Вось і сядзі цяпер у панскім пакоі спакойна. Наша цяпер гэта, разумееш!..— і ён, падахвочваючы сябе, хадзіў усё хутчэй і хутчэй па пакоі, ды раптам спыніўся.

— Ану, пакаж! — і ўзяў са стала напісаную мною паперу.

— Ого, ды ты як сам поп Сеўба пішаш,— зарагатаў Будай і ўскудлачыў мне чупрыну.— Так роўненька, усё роўна як гарошак рассыпаў.— І ён захадзіў па хаце, трымаючы перад носам паперыну.— Ну, чыста Сеўба, далібог! Калі я вянчаўся, дык я тады прыгледзеўся, як ён пісаў... Ну і малайчына, брат Федзя! Марцініха! — звярнуўся ён да маці.— Збірай заўтра ж сына ў валасць, у камісарыяце са мною рабіць будзе. У камісарыяце, разумееш? Начальнікам будзе, ха-ха-ха!..— і ён яшчэ раз ускудлаціў маю галаву.

Дамоў я ішоў падскокваючы. Часамі толькі супыняў сябе, пераконваючы, што няможна гэтак, трэба трымацца больш паважна, бо я ўжо не абы-хто, [illegible] камісарыяцкі!

— Разумееш, маці! — стараўся я гаварыць так, як камісар Будай.

# ХРЫСЦЯ

Як убачыла Хрысця сінюю зубчастую сцяну роднага бору, ногі ясе аступіліся. Яна прысела на камень побліз дарогі і як утаропілася ў цьмяную далеч, так і не магла адарваць вачэй. Там і цяпер, здавалася Хрысці, хаваецца для яе многа таемнага. І дрыжачая рука яшчэ мацней туліла невялічкую схованку ля грудзей. А ў тым невялічкім зашмуленым ласкутку, з якім яна не разлучаецца каторы ўжо год, самае дарагое для Хрысці — некалькі бялявых космачкаў яе Максімкі. Недзе там, а дзе, яна і ўявіць добра не можа, але далёка ў мясціне, якая прыкра звалася Аушвіц, Максімка застаўся. Ён ляжаў на нарах пры ёй нерухомы, суханькі, зялёны, а ў памяці ёй застаўся той бялявы пушок над сцюдзёным лобікам, які шавяліўся, калі яна шаптала над ім у непрытомнасці. Хрысця ляжала з нежывым хлопчыкам цэлыя суткі, баючыся адкрыцца, што ён памёр, бо ведала, што забяруць яго і тады застанецца зусім адна... Уночы адрэзала пасмачку бялявых валасоў і, загарнуўшы ў шкуматочак, схавала за пазуху...

Недзе далёка загула пастырская труба. Хрысця скаланулася. Гэта ж яна сапраўды дома, а непамысны Аушвіц недзе там, нібы ён зусім на другім баку зямлі. Яна не ведае нават, як трапіла дахаты і колькі дзён была ў дарозе. А можа, мне здаецца, што я дома,— хваляваліся Хрысця.— Можа, гэта не я, а нейкая другая прыйшла сюды, а я ляжу там на брудных нарах, так зняверылася, што можна было вырвацца з таго пекла. А можа, я толькі сплю,— і Хрысця нават ушчыпнула сябе за руку. Баліць... і значыць, жывая... Вось ужо каторы год як Хрысця ведае толькі адно адчуванне болю... І сёння хоць яна вярнулася, але боль у грудзях не сціхае, а стаў вастрэйшы. Хрысця глядзіць на дарожку, што жоўтым паясочкам пакацілася ў бок лесу, і вочы яе шукаюць Максімкавых слядоў. Гэта ж ён бег тады перад ёю, каб схавацца, як ён казаў, на густой яліне ў вавёрчыным гняздзе ад тых злосных разбойнікаў, што білі людзей і палілі хаты.

Папраўіўшы невялікі хатулёк за плячыма, яна ідзе ў бок лесу, хоць вёска, як добра ведае, крыху застаецца ўба-

ку, за ўзгоркам. Толькі ёй адной на пяску дарожкі быццам відны такія дробненькія адбітачкі пятак і пальчыкаў сына. І яна выкідае з галавы тое, як, ашчэрыўшы зубы, лагерная «капа» вырвала ў яе з рук сцюдзёнае дзіця і кінула ў тачку. Не, відаць, гэтага не было. Гэта толькі сон. А яе Максімка там, у лесе, і сапраўды пад густою ялінаю, дзе была іх зямлянка. Яна помніць, як туліўся хлопчык да яе ў цёмныя ночы, калі так грукала ўдалечыні і таемна, трывожна гулі дрэвы.

Хрысця прыбаўляе кроку. Спяшаецца. Вось ужо знаёмая кладачка цераз ручай. Тут Максімка папрасіў напіцца. Яна нават дазволіла яму крыху пасядзець на дошцы і пацялёпкаць у празрыстай вадзе босымі ножкамі. Хрысця ўспомніла, як, адыходзячы, хлопчык яшчэ раз прагна прыпаў да вады, і ёй захацелася цяпер самой прагнаць смагу. Стаўшы на каленкі і спаласнуўшы далоні ў вадзе, зачэрпнула поўныя прыгаршчы і ўпілася ў іх вуснамі... Напіўшыся, мокрымі рукамі абмыла твар. Здалося, што нейкая надзвычайная сіла разлілася па грудзях, і нават вочы пачалі бачыць зырчэй. І Хрысця яшчэ больш заспяшалася ў бок лесу. Цяпер яна цвёрда пераканала сябе, што там яе чакае радасць. Яна пільней углядалася ў бок гушчару, і ёй здавалася, што вяршаліны дрэў прыхільна схіляюцца насустрач. А калі ўвайшла пад іх густую засень, сосны і яліны сапраўды гаманілі роўным, размераным гудам. Як быццам нічога і не змянілася. Праўда, то там, то сям тырчалі ссечаныя макушкі дрэў, часцей трапляліся вываратні, але так, памятае яна, было не раз, калі над лесам праносілася бура. Толькі трапяткія асінкі шоргалі, нібы хацелі штосьці паведаць, і яна спяшалася хутчэй туды, у густы ельнік на астраўку, дзе — успамінае — так утульна было з Максімкам... Вось ужо і сцяжынка, якая вяла з баравое дарожкі туды, дзе, напэўна, чакае родны яе маленькі хлопчык з белым віхром на круглай галоўцы. Ён жа заўсёды выбягаў да яе неспадзеўкі. Але — што гэта? — сцяжынка як бы зарасла. Відаць, мала ходзяць па ёй, не, ды, мусіць, гэта пасля дажджоў так узнялася трава, суцяшае сябе Хрысця... А Максімка яе там, яна ўпэўнена ў гэтым... Вось і прыкмета ўжо блізка... гэта ж вунь ён, высокі пень, аброслы сівым мохам, як барадою... Усе звалі яго «дзядзька Антон», так ён быў падобен сапраўды на дзядзьку Антона, што жыў у канцы сяла. Яна, параўняўшыся з пнём, міжволі схіляе галаву, нібы здароўкаецца з ім, і ёй здаецца, што смалістымі вачыма нібы адказвае

ёй і нібы таксама падганяе ісці... Хрысця яшчэ больш спяшаецца... Дзяцел грукоча па кары часта-часта... а сэрца Хрысцініна б'ецца часцей, ледзьве не выскачыць з грудзей. Ногі не паспяваюць за яе імкненнямі, яны часамі заблытваюцца ў траве, і, зачапіўшыся за які вузлаваты корань, Хрысця падае... Але ёй не балюча, не... Яна хуценька выцірае ўспацелы твар, папраўляе хатуль на спіне і ступае яшчэ хутчэй...

Вось ужо пяройдзена апошняя імшарына з буйнай выварацццю. Сюды ў вялікую спёку не раз прыходзілі з Максімкам, каб напіцца. Як ён спачатку раздзьмухваў даўганогіх плывунцоў на паверхні вады і прагна піў, схіліўшы белую галоўку над чорна-сівымі вузлаватымі каранямі прылёгшае набок стогадовае яліны... Сцежачка ўзнімаецца ўгору... А вунь і тыя зямлянкі, дзе жыла яна з суседзямі, толькі яе была самаю далёкаю, там, у такой глухамані, што рэдка хто туды дабіраўся. Максімку, як казалі на лясным хутары, было сумна, і нездарма ён часта прасіўся сюды, да гэтых густых зямлянак, на сяло. Але затое было ціха. Цяжка каму было знайсці іх. Хрысця ўзыходзіць на ўзгорак. Што гэта?.. Дзверы на зямлянках параскрываны. Мабыць, усе пайшлі ў паход і ніхто пакуль не вярнуўся. А там, у густым ялінніку, напэўна чакае яе хлопчык. Гэта ж яна варочаецца толькі з задання. Нідзе яна далёка не была. І Хрысця, прыхінуўшыся, рассунуўшы маладыя сасоннік, прадзіраецца цераз лазу... і вунь яны — тры старых густых яліны. Голле такое магутнае, што праз яго не відно нават неба... Ніколі кропля дажджу не спадала з іх на дол побліз таўшчэразных камлёў... Зараз-зараз выбежыць Максімка. Гэта нічога, што яго няма, ён, відаць, недзе забавіўся, але ён тут, у гэтым яна перакапана. Вунь жа яго штонікі і кашулька, што павесіла яна сушыць, каб даць яму чыстыя ў нядзельку... Яна добра бачыць, што вісяць там, як і павесіла іх. Сэрца яе ледзь не выскачыць ад радасці. Зараз яна здыме апратку малога, пакачае, каб сталі мякчэйшымі, і пасобіць маленькаму апрануцца. Хрысця, задыхаючыся, бяжыць да вяроўкі, на якой вісіць адзенне сына, хапае яго рукамі, але толькі клубы шэрага пылу ўзнімаюцца на тым месцы, дзе віселі Максімкавы кашулька і штонікі, і Хрысця падае...

Яна не памятае, колькі ляжала непрытомнаю. Быццам правалілася ў нейкую глыбокую, чорную бездань, і ўсё для яе знікла. Потым паволі вярнуўся шум голля на дрэвах і пах прэлага моху з недалёкай імшарыны. Але яна

баялася ўзняць галаву. Дзе яна? Можа, гэта не родны лес і пахне не мох, а прагніўшыя сеннікі, што так доўга ляжалі на нарах. Вецер узнімаўся яшчэ мацней. Час ад часу, здавалася, грукалі сухія сукі, адрываючыся ад голля... Не, яна не ўзніме галавы, можа, гэта не сукі, а бахаюць стрэлы канвойных, калі гоняць іх на работу. Можа, яна ўжо ляжыць нежывая. Але што гэта — гукі ад паламанага сучча ўсё мацней і мацней... Вось яны ўсё больш набліжаюцца да Хрысці. І вось яны побач. Хрысця не ўзнімае галавы... І раптам нехта кранаецца яе пляча. «Ратуйце!..» — прарэзліва крычыць яна і рэзка паварочваецца... Вочы яе застылі ў нямым споласу.

А перад ёю быў каваль Анухрэй. Ён стаяў разгублены, і вусны яго дрыжалі.

— Адкуль ты... адкуль ты, Хрысцечка?..— шаптаў ён.— Чаму ты тут апынулася?..

— А чаго ты?..— не падумаўшы, запытала яна і даверліва ўзнялася.

Анухрэй апусціўся і прысеў каля Хрысці. Яны доўга глядзелі адно на аднаго і маўчалі. Ім не было чаго расказваць, бо ўсё было вядома. І калі Хрысця з зацятым болем утаропілівалася на расчыненыя дзверы зямлянкі, ён нічога не сказаў ёй, а толькі, уздыхнуўшы, пасобіў узняцца. Лёгенька паклаўшы руку на яе вострае плячо, Анухрэй павярнуў Хрысцю ў бок сяла, і яны пайшлі. Доўга ішлі моўчкі. Ён баяўся яе непакоіць, і толькі невыносны боль раскрываў яго вусны.

— І маіх няма?..— з нейкай надзеяй запытаўся ён.

— Няма!..— прашаптала Хрысця.

Анухрэй глядзеў у Хрысціны вочы і бачыў, што слёзы ў іх свяціліся пакутным сінім агнём. Яму было шкода яе, ды толькі не ведаў, як лепш супакоіць. Ён шаптаў адно:

— Не плач... не плач, Хрысцечка!..— А ў самога каціліся слёзы па шчоках. Ён непрыкметна выціраў іх шурпатаю далонню і зноў шаптаў: — Не плач, Хрысцечка!..

Яны не памятаюць, колькі ішлі ў сяло. На ўскраіне, каля рэчкі, стаяла невялічкая хацінка Анухрэя, якую ён склаў, калі вярнуўся з партызанаў. Гэтая хацінка была такая малая, што дзіўна, як ён, такі вялікі, мясціўся ў ёй нават адзін. Стаяў як быццам зруб для калодзежа, прыкрыты драпічнаю шапкай. Але дзверы сваёй сялібы Анухрэй ветла раскрыў перад спадарожніцай. У хаце ён завіхнуўся. З салдацкага пракопчанага мяшка выняў не зусім чысты абрус і заслаў столічак на козлах. Хрысця села на

зэдлік і маўкліва нахінулася над сталом. А Анухрэй гаспадарыў. З драўлянае дзежачкі, што стаяла ў кутку, выняў ён кавалак чорнага хлеба і крышан сала. Расклаўшы крывы вялізны ножык, які, відаць, выкаваў сам, адкроіў лусту хлеба і, аздобіўшы яго скрыльчыкам сала, паклаў побач з Хрысцяй. Смачна ўкусіў і сам.

Яна доўга сядзела моўчкі. Пасля паволі ўзяла скібу з салам і ўзялася есці.

Доўга Хрысця ела моўчкі, а ён заклапочана пазглядаў і радаваўся, што яна ажывае. Анухрэй нічога не сказаў ёй, як быццам яна павінна была ведаць сама, што рабіць, і пайшоў за дзверы.

Праз колькі хвілін раздаўся тонкі, пераліўчасты звон, які даляцеў у невялічкую хацінку з калгаснай кузні. Хрысця ўстрапянулася. Глянула на двор. Адтуль жоўты праменьчык мільгануў на яе збялелы, знясілены твар. Недзе далёка, як быццам азваўшыся на звон каваля, загаманіў трактар.

Хрысця ўздыхнула, узнялася, знайшла ў кутку свежы бярозавы венік і пачала падмятаць хату.

## ПАШТАВІЧКА

Вось ужо другі год як носіць Зоська пісьмы і газеты ў свой калгас. І хоць туга набітая сумка заўсёды за плячыма, яна ніколі не скардзілася, што цяжка. Бо не адчувала цяжару. А ісці было нямала. Ажно сем кіламетраў. Але што маладой дзяўчыне такая далячынь. Выйдзеш з сяла, пройдзеш колькі гоняў каля рэчачкі, ды на ўзгорак, а там ужо хаты першай брыгады, павітаешся з людзьмі, пагамоніш ды далей цераз лясок, у другую вёску. А там праз лугі і дамоў, у самы цэнтр да праўлення. Хто ні сустракаўся на шляху, толькі любаваўся дзяўчынай. Маленькая, але пруткая Зоська так імкліва крочыла па пратаптанай сцяжынцы, што яе непакорныя бялявыя валасы выбіваліся з-пад берэта і развяваліся нават без ветру. Сустрэнецца дзяўчына з роўнымі сабе, пажартуе з імі, што ёсць для іх пісьмо, але быццам не хоча аддаць, і, засмеючыся, затупае чорнымі боцікамі далей.

Так было заўсёды. А вось ужо некалькі дзён як заўважыла Зоська сама, стала для яе больш маруднаю дарога. Хто-хто, а яна добра ведала ў чым справа. Няма пісьма ад Ярся. Каторы дзень як пайшоў у войска — і нічагуткі. Можа, для каго гэта і невялікі час, але калі сэрца дзяўчыны жыве каханым кожную хвіліну, дык і некалькі дзён — гэта замнога. Вось і сёння нязменна імклівая Зоська павольна ступае па сцежцы, прыемныя ўспаміны пераплятаюцца з раптоўнаю трывогай, завалодваюць душою, і яна жыве толькі адным Ясем.

Памятае Зоська, колькі Ясь хадзіў з ёю гэтаю дарогай. Сустракаўся, быццам выпадкам, але заўсёды знаходзіў нейкую патрэбу, ды Зоська разумела сапраўдную прычыну. І гэта цешыла ейнае сэрца. Нават тое, што Ясь, разгубіўшыся пры спатканні, не заўсёды трапна вёў гаворку, падабалася. Ды яна і не вельмі чакала ад хлапца асаблівых размоў. Быў Ясь трактарыстам і больш за ўсё гаварыў пра трактар. Але ўсё ж хацелася, каб ён сказаў ёй тое, чаго яна чакала...

Вось і цяпер, выходзячы з гайка, што на ўзгорку, непадалёк у зацішку чакалі яе і той клён з бярозкаю... Зось-

ка прыгадала і ажно зачырванелася. Тут аднойчы ён прыпыніў яе. Узяў за руку. А потым моцна абняў і закружыў так, што ажно зляцела ў Зоські сумка з пляча і парассыпаліся лісты. Разгубіўшыся, Ясь няўдала падымаў іх з долу. А пасля, ідучы дахаты, так і не сказаў, што кахае, чаго яна чакала, толькі абяцаў, што будзе пісаць з арміі, куды адыходзіў назаўтра. Зоська не пачула ад Яся гэтых хвалюючых слоў, адно вочы і дрыжачыя вусны яго, калі развітваўся, пра ўсё ёй сказалі.

Неяк несучы чарговую пошту, праходзячы каля клёна з бярозкай і прыгадаўшы тую хвіліну, якая найдаражэй за ўсё сэрцу, Зоська парашыла: клён — гэта Ясь, а бярозка — яна. І цяпер, калі параўнялася з імі, яна раптам, звярнуўшыся да клёна, гарэзліва пажартавала:

— Дзень добры, Ясю!.. Што ж ты забыўся на мяне? — І раптам, напалохаўшыся, ці не пачуў хто, ажно адбегла ад таго месца. Азірнулася, лёгкі ветрык шастаў кляновымі лістамі, як бы пераконваючы, што Ясь пачуў яе словы, і Зоська весялей пакрочыла далей.

А каб вы бачылі Зоську, калі яна сапраўды атрымала ліст з войска ад Яся! Яна заўважыла ягоны канверт з вайсковаю пячаткаю паміж усіх. І каб загадчык пошты быў больш уважлівы, ён бы прыкмеціў, калі яна прымала гэты ліст, як задрыжалі ў яе рукі. Ды і твар ажно ўспыхнуў. Старому паштавіку, у якога ў той час кляхатала ў зубах пракураная піпка, было не да сантыментаў...

А вось Зоська не вытрымала. Выскачыўшы з канторы і азірнуўшыся, што няма нікога, усхвалявана разарвала канверт. А калі толькі заўважыла ўгары пісьма: «Дарагая Зоська!..», дык ажно пабеглі кругі перад вачыма. А далей і не чытала. Хутчэй, хутчэй за сяло. Туды, дзе няма нікога. Яна ледзь не бегла і, можа, пабегла б, каб не саромелася людзей. А сумкі за спіною як і не было. Толькі адчувала, як горача ў руцэ ад Ясевага пісьма і як настойліва просіцца з грудзей сэрца.

Затое за сялом, прысеўшы пад кустом каліны, перачытала Ясева пісьмо, можа, разоў з дзесяць. І чытаючы, яшчэ знаходзіла ў ім нешта новае. А самае галоўнае, што ў гэтым першым пісьме было тое, чаго Ясь ніколі не адважваўся сказаць,— ён яе вельмі кахае. І нават літары, якімі былі напісаны гэтыя словы, здаваліся Зосьцы зграбнейшымі ад усіх.

Начытаўшыся ўволю і супакоіўшы сваё сэрца, яна жвава пакрочыла дахаты. Аб розным думалася ёй. А Ясь

увесь час стаяў перад вачыма. І калі Зоська дайшла да клёна з бярозкай, супынілася і ажно тройчы праказала:

— Дзень добры, Ясю! Дзень добры!.. Дзень добры!..

З гэтага часу, у нецярплівым чаканні Ясевых лістоў, пайшлі Зосьчыны дні. Маці нават дзівілася, што гэта сталася — дзяўчына пачала выходзіць у дарогу на пошту замнога раней, як трэба. Ды хіба магла старая ведаць, чаму так спяшаецца дачка. А Зоська спяшалася, бо думала, што на пошце яе абавязкова чакае Ясева пісьмо. Яна нават уяўляла і выгляд таго пісьма. Было, што і не памылялася. І калі б клён з бярозкаю, што на ўзгорку, маглі наглядаць, яны б адчувалі, ці атрымала Зоська пісьмо для сябе ці не. Гэта лёгка было заўважыць па тым, як яна віталася з імі.

А Зоська дык зусім пераканала сябе, што клён з бярозкаю разумеюць яе, і размаўляла з імі, як з жывымі. Балюча было, калі няўрымслівыя восеньскія вятры без жалю зрывалі з іх пажаўцеўшыя лісты і разносілі па полі. Яна нават падабрала некалькі лісткоў і насіла іх з сабою ў сумцы. Можаце сабе ўявіць, што адчувала дзяўчына, калі зімою на марозе касцянелі голыя галіны яе сяброў. Зосьцы здавалася, што недзе Ясь таксама, відаць, успамінае пра гэтыя дрэўцы. Бо клён як бы замяняў ёй цяпер далёкага каханка.

Год прайшоў, як яны гаварылі адзін з другім толькі лістамі. А можаце сабе ўявіць, што перажыла яна, калі раптам нечакана заявіўся сам Ясь. За выдатную баявую вучобу пусцілі яго праз год на пабыўку аж на цэлы тыдзень. Тут ужо Зоська ад Яся ні на крок. Ці больш пэўна ён ад яе. Нават усе аднавяскоўцы дзівіліся, што кожны дзень хадзіў на пошту і Ясь з Зоськаю. Некаторыя нават жартаваць пачалі:

— Ну, відаць, вельмі важныя пакеты наша Зоська носіць, бо і вайсковая ахова пастаўлена пры ёй!

А трэба было бачыць, як не хацелася Зосьцы, каб Ясь адлучыўся толькі на адзін дзень у суседнюю вёску. Але маці Ясева настойвала, каб сын абавязкова наведаўся да сваіх цётак і дзядзькоў. Вельмі ж хацелася ёй пахваліцца выпраўкаю сына-танкіста.

Водпуск Яся праляцеў вокамгненна. Зноўку стаялі закаханыя, як і ў першы раз, побліз бярозкі і клёна, але на гэты раз абледзянелых. Дрэвы мерзлі, а закаханыя не адчувалі сцюжы. У грудзях было горача ад хвалявання сэрцаў, нават ад тае горычы, што надышоў час развітання,

І так, як заўсёды бывае, доўга не маглі яны разысціся, а разняўшы рукі, адышоўшы, кожны некалькі разоў паварочваўся ў бок другога і замест спіны бачыў устрывожаны твар, які глядзеў насустрач.

Перайшла і гэтая зіма. Надышла вясна. Зоська нязменна хадзіла на пошту. І яна заўсёды гаманіла са сваімі сябрамі. Яе цешыла, што на іх з'явіліся кволыя зялёныя лісты, падобныя, як думала яна, і на іх пяшчотнае каханне. Яна нават пісала Ясю пра гэта. Якой жа радасцю было атрымаць ад яго адказ, у якім і ён успамінаў памятную мясціну.

І раптам перайначылася ўсё. Аднойчы, атрымоўваючы чарговую пошту, Зоська заўважыла, што рукою Яся напісаны канверт, і каму?— не ёй, а дзяўчыне ў суседнюю вёску. Якраз туды, куды ездзіў Ясь у часе пабыўкі са сваёю маці. Яна спачатку нібы акамянела ад нечаканасці. Потым усю яе нібы абліло варам, калі ўзяла тое пісьмо ў рукі. Яна не памятала, як зграбла ўсё ў сваю сумку. І хутчэй, хутчэй на поле, каб застацца адной. Увайшоўшы ў гаёк, яна падалася ў бок ад тае мясціны, дзе стаялі зялёныя яе сябры, бо саромелася нават сваіх горкіх думак пры іх. Адшукаўшы сухаваты пагорак пад сасною, прысела і, зняўшы сумку, адклала ўбок, баючыся нават дакрануцца да яе. Доўгі час сядзела, спусціўшы галаву, ды вусны самі бездапаможна шапталі: «Што гэта?.. Няўжо ён мог такое зрабіць? А так абяцаў! А сёння замест мяне вось каму піша...» А потым находзіла сумненне. А можа, гэта не яго рука. Яна адкрыла сумку, выняла ўсхваляваўшы яе канверт і пачала ўважліва вывучаць. Нават па асобных літарах. Не, ён, ён, так толькі ён піша... А што, калі ўскрыць і паглядзець?.. Тады будзе ўсё ясна. Але якое ж яна мела права? Яшчэ ні разу ў жыцці яна не зрабіла таго, чаго няможна, наперакор свайму сумленню.

І колькі ні вагалася, але не адважылася раскрыць канверт таго пісьма. Як жа яна можа гэта зрабіць, людзі ж ёй вераць, бо яна паштавічка.

Але, калі пайшла далей, неадольная цікавасць узяла верх. Ніяк не магла яна прайсці з тайнай, мінуўшы сваіх сяброў: «Няхай жа і клён, а значыць, і ён сам, бачыць, як я пакутую!» І Зоська нервова разарвала канверт. Калі выняла спісаны лісток паперы, ажно пабялела. Так яно і ёсць. Гэта ж рука Ясева. І што ён піша. «Паважаная Зіначка!..— А далей... а далей...— я пра ўсё даведаўся. Можаце прыехаць на курсы рахункаводаў... спадзяюся, што

вас прымуць... і мне весялей будзе, што часамі буду бачыць сваю зямлячку...»

Узнерваваная Зоська хацела спачатку пашкуматаць пісьмо, так яно стала ёй невыносным, але падумала, як жа яна можа гэта зрабіць? Яна ж паштавічка... Досыць і таго, што яна вытварыла недазволенае... А знішчаць нямножна. Шмат клопату было ў яе, пакуль яна склеіла канверт адарваным чыстым крайком паперы ад марак і палажыла зноў у сумку. Каб адрасат пісьма магла разгадаць, што здарылася з яе пісьмом, яна б заўважыла, што на тым канверце засталося і некалькі слязінак Зоські.

Нехаця варочалася Зоська дахаты: як быццам нягведама які цяжкі камень ляжаў у яе сумцы. Успаміна Яся, і слёзы міжволі набягалі на вочы. А дома маці не магла здагадацца, што сталася з дзяўчынаю. Нават з твару спала. Нібы хто падмяніў яе.

У той вечар Зоська доўга не заснула. Колькі перадумала яна. А думкі не адыходзілі ні на хвілю ад паштовае сумкі, дзе ляжала цяпер толькі адно Ясева пісьмо. Усе раздала, а яго пакінула. Ніяк не магла вырашыць, што з ім зрабіць? Ці то ўзяць і парваць, ці вярнуць са злоснаю прыпіскаю Ясю, няхай ведае, што паміж імі ўсё скончана, ці пайсці і кінуць у твар яе разлучніцы... І спынілася на тым.

Раненька, перад тым як ісці на пошту, пабегла ў суседнюю вёску. Ах, колькі жорсткіх слоў роілася ў яе галаве, якія яна збіралася кінуць у твар сваёй суперніцы. Але, калі перадала той Зіне пісьмо, ажно здзівілася, што тая вельмі спакойна прыняла яго, нават холадна падзякаваўшы. І цяпер уся злосць перайшла на Яся, як ён можа пісаць такой, што нават і ўвагі не звяртае. Так нічога не сказаўшы Зіне, Зоська вярнулася дахаты і парашыла толькі адно: з Ясем цяпер скончана.

З таго дня яна стала вельмі маўклівая. І хоць Ясевы пісьмы прыходзілі да яе, яна іх не чытала. Яна ўпікала сябе яшчэ тым, што праз яго парушыла свой службовы абавязак, свавольна раскрыла тайну пісьма.

Доўгі час пакутавала Зося. Можа, ад самае вясны да восені. Маці хвалявалася, што сталася з дачкою? А справа вырашылася сама сабою. Аднойчы да Зоські прыйшла тая самая Зіна і папрасіла аднесці пісьмо на пошту. Зоська ледзь не аслупянела, калі пабачыла, што яно на адрас Яся. І не паспела яна падумаць, што тут зрабіць з абразніцаю, як тая сама высветліла ўсё:

— Прасіла Яся, ці можна паехаць у горад вучыцца, але...— пахвалілася яна,— выходжу замуж... Пішу, каб не клапаціўся...

— За каго...— ажно закалацілася сэрца ў Зоські.

— Ды за нашага рахункавода... А сама як была цялятніцай, так і буду... Прыходзьце на вяселле...

І Зоська нечакана расцалавалася з новаю сяброўкай.

А ўвечары, расказаўшы пра ўсё маці, перачытала з ёю ўсе Ясевы лісты. Ах, як білася Зосьчына сэрца, калі яна дазналася з аднаго пісьма, што Ясь хутка прыязджае і назаўсёды будзе з ёю.

Цэлую ноч Зоська пісала Ясю адказ на ўсе яго лісты. А сабе дала зарок ніколі не заглядаць у чужыя пісьмы і быць сапраўднаю паштавічкай.

## БЫЎ ТАКІ...

Жыў Антон Ясень са сваёю маці ў канцы сяла Царкавішча, нават крыху наводшыбе. Сасновы пяцісцен паставіў яшчэ ягоны бацька Піліп у першыя гады рэвалюцыі з панскага лесу. І таму, што ад вясковых хат адлучаў Антонаву сялібу невялічкі гаёк, празвалі гэты куток «Зацішак». А ўсталявалася такая назва, можа, яшчэ і таму, што ціхім быў Піліп — Антонаў бацька, які памёр неўзабаве пасля пабудовы, так і не пажыўшы ўсмак у новай хаце. Ніхто ніколі не чуў ад яго ні лаянкі, ні крыку. Ды каб ён і заспяваў калі, таксама б не заўважылі. І адышоў Піліп непрыкметна, і людзі хутка звыкліся з тым, што не відаць яго ўжо ніколі. Тым больш што і сын Піліпаў Антон не вылучаўся рахманасцю, быў ва ўсім падобны на бацьку. Як быццам на двары ці ў агародзе корпаўся той самы, што і раней, толькі маладзейшы. А на працы з Ясенем мала хто сустракаўся. Працаваў стары Піліп начным вартаўнікам у калгасе. Памёр — заступіў на яго месца сын. Не парушала цішыні і гаспадыня хаты — Антонава маці Альжбета. Яна сарамлівая змалку, можа, таму, што накульгвала зроду, заўсёды імкнулася быць у асобку ад людзей.

Калі Антон пасля смерці бацькі прыйшоў яму на змену і, ускінуўшы стрэльбу за плечы, выходзіў на варту, некаторыя, пабачыўшы яго здалёку, жартавалі:

— Бач ты, Зацішак пайшоў... Можам спаць спакойна!..

А яно так і было. Ціхі, ціхі Антон, а ўсё бачыў. Маўклівы, маўклівы, але не праспіць, а заўсёды там, дзе трэба, са стрэльбай пахаджае. Ніякага прыкрага здарэння пры ім не адбывалася. Малодшы Ясень ведаў і сам, што з яго маўклівасці і сарамяжнасці, бывае, кпяць людзі, ды краталa ягоную душу толькі тады, калі з яго жартавалі дзяўчаты.

— Зацішкавец!.. Зацішкавец!.. І спіць і ходзіць!..— неслася часамі яму ўслед, і ён нават баяўся падысці да іх. Калі заклікалі яго ў карагод, дзе было шмат і хлопцаў, дык і то далучыцца не адважваўся.

— Няхай сабе Зацішкавец, няхай сабе «спіць і хо-

дзіць»,— пакутаваў ён, але з ночы ў ноч тупаў па-ранейшаму адзінотай паміж калгасных свірнаў і адрын. Ён вельмі падыходзіў для сваёй працы, якой таксама неабходна была цішыня. Невялічкага росту, з круглым засмужаным тварам і спакойнымі шэрымі вочкамі, заўсёды апранены ў шэрую світку, як бы і сам не вылучаўся ў змроку ад пасівелых па часе сцен калгаснае забудовы.

Мала хто цікавіўся Антонам Ясенем, бо рэдка хто з ім і сустракаўся. Уночы ён ходзіць, паўдня спіць, а потым корпаецца ў сябе ў садзіку ці ў агародзе. Ды і сам Антон не вельмі імкнуўся на людзі.

А ўсё ж, не-не ды адна кранула ягонае сэрца. Гэта была даярка — маленькая Дарота. Так выпадала, што кожнаю раніцаю яна першая спяшалася на працу. І якраз тады, калі Антон, пасля начы, варочаўся сцежкаю ад калгаснае фермы дахаты, сустракаў яе. Невялічкая, чарнявая, вяртлявая Дарота ніколі не мінала Антона, каб не пажартаваць. Параўняўшыся з ім, абавязкова ўскрыкне нешта падобнае: «Ах ты, маё золатка!.. Ах ты, мой Зацішкавец!.. Калі ж ты да мяне ў сваты прыйдзеш?..» А яшчэ, бывае, з налёту і абдыме хлопца.

Антон збянтэжыцца, ажно аслупянее, ледзь на нагах устаіць, зачырванее, а Дарота пырхне ад яго, і яшчэ доўга чутно маладому вартаўніку, як яна хіхікае за яго спіною.

Спачатку гэта не падабалася Антону. Каб не сустракацца, ён некалькі разоў варочаўся з варты другою, даўжэйшаю, дарогаю, а пасля звыкся і, калі не бачыў Дароты, нават сумаваў. У яго пачалі роіцца такія-сякія і планы ў дачыненні да малое даяркі-рагатушкі. Справа ў тым, што і Дарота, як і Антон, была нейкім чынам адзінокаю. Жыла яна з малою дачушкаю Верачкай. Паехала неяк па вярбоўцы на лесанарыхтоўкі ў Карэлію адна, а вярнулася ўдваіх з дзіцем. Так і жыла з дачушкаю ў старой бацькавай хаце. Апрача стрыечнае сястры Ульяны, нікога ў Дароты з родных не было. Ніхто ў яе і не пытаў, як яна прыдбала Верачку, а сама Дарота, хоць і рагатушка, пра гэта маўчала.

— А чаму б яно... каб і не так...— думалася часам Антону. І ён бачыў Дароту на сваім двары... І на сэрцы рабілася трывожна-горача, калі ўяўляў, як смяецца яна ў яго пад акном. Ды і Верачка не лішняя... Але далей мараў Антон не ішоў, ды не сказаў пра гэта ні слова і Дароце пры сустрэчах. Не паказваўся ён і на вясковых гульнях, хоць і сумаваў па ёй. А там яна заўсёды бывала. Так і за-

стаўся ён, як і звалі, «зацішкаўцам». Без ніякіх змен ішло ягонае жыццё.

І раптам перайначылася ўсё. Моцна здрыганула вайна вясковую цішу. Не толькі ўзрушыліся людзі, а, здалося, і хаты настубурчыліся, насцярожыліся. Усё часцей чуліся енкі і плач. Хлопцы пайшлі ў салдаты. Ззаду за імі ішоў і Антон Ясень. Можа, таму ён адставаў, што праводзіла яго, накульгваючы, маці. Людзі бачылі, як, развітаўшыся ля высокага каменя з сынам, ражком хусцінкі выцірала яна вочы і доўга глядзела ўслед. І калі нейкая няўрымслівая лапатуха ўсё ж паспрабавала ўсклікнуць:

— Бач ты, і Зацішак пайшоў, вось задасць фашыстам жару!..— малая Дарота так сыканула, што жартаўніца ажно адскочыла. А Антону, які агляну ўся апошні раз на развітанне, здалося, што ён пабачыў на вачах слёзы не толькі ў маці, а і ў Дароты.

Праз колькі дзён прыйшлі немцы. І хоць на вёсцы яны не затрымаліся, а пакінулі невялікі гарнізон у бліжэйшым мястэчку, усё роўна спакойнага жыцця не было. Пацягнуліся доўгія, пакутныя дні. Цераз тыдзень-два наляталі з мястэчка і немцы, і паліцаі і рабавалі ўсё, што ім хацелася. Недзе далёка грукала вайна, пра якую расказвалі тыя, хто варочаўся дадому з акружэння ці вырваўшыся з палону. Той-сёй, не стрываўшы гора, падаўся ў лес, у партызаны. Часамі трапляла вестка пра каго-небудзь з царкавішчанцаў у пісульцы, перададзенай невядома як. А пра Антона Ясеня, як кажуць, ні слыху ні дыху. Ды ўспамінала пра яго толькі, відаць, маці. Колькі разоў бачылі людзі, як яна стаяла паблізу таго вялізнага каменя на выгане, дзе развіталася з сынам, і доўга ўглядалася ўдалеч. А пасля памалу, накульгваючы, яшчэ больш згорбленаю, варочалася дахаты. Зусім маўклівым стаў Зацішак. Можа, за год вайны адна Дарота колькі разоў наведала гэты куток і паспачувала адзінокай пакутнай. Старая Альжбета, застаўшыся адною, відавочна чэзла. І толькі калі Дарота нагадвала пра Антона, здавалася, успыхвалі вочы на яе зямлістым твары. А пасля людзі бачылі Антонаву маці ўсё менш і менш, пакуль аднойчы не знайшла Дарота ў Зацішку старую, якая ляжала на ложку нерухома. Яна, паклікаўшы суседзяў, і пахавала яе. Прыйшло з лесу на пахаванне і некалькі партызанаў, з якімі ведалася Дарота.

Некалькі тыдняў пуставаў Зацішак, пакуль аднойчы не сказаў Дароце пасланец ад камандзіра атрада:

— Пераходзь у Ясеневу хату, нездарма яна завецца

Зацішкам. Нам зручней будзе прыходзіць, каб даведацца, што ў вас робіцца.

Не ўпіралася Дарота і таму, што ў душы ўсё яшчэ спадзявалася на сустрэчу з Антонам, ды і бацькава хата яе была горшаю.

Так і ажыў Зацішак. Дарота з Верачкай сталі жыць там. Праўда, яны асталяваліся толькі ў трысцене. У ім, які лічыўся чарнейшаю паловаю хаты, была вялікая печ, каля сцяны шырокі драўляны ложак, засланы даматканаю коўдраю, на покуце стол і абразы з Міколам святым і прачыстаю богамаці пад вышытымі ручнікамі. Дарота не чапала багоў, яна ведала, што старая Альжбета часта станавілася на калені перад імі і прасіла аднаго, каб Антон здаровым вярнуўся дамоў. Наогул Дарота нічога не пераст аўляла ў хаце, думала — вернецца Антон, хай застане ўсё, як было яму звыкла. На чыстую палавіну хадзіла зрэдку і Верачцы наказвала, каб нічога там не чапала. А Верачцы ішоў ужо чацвёрты год, і яна была вельмі дапытліваю. Неяк аднойчы, калі яны прыйшлі з маці на чыстую палавіну, каб паліць герані на падаконніках, Верачка першы раз нечакана запытала:

— Усе кажуць, што іх таты ваююць, а дзе мой татка, мамка?

Дарота разгубілася, каб хто быў пры гэтым, пабачыў бы, што шчокі яе зачырванеліся, а вочы спахмурнелі. Яна на хвіліну замялася, але, будучы па характару свайму вынаходліваю, глянуўшы на фотакарткі, што віселі на сцяне пад шклом у драўлянай аправе, паказала на Антона:

— Вось дзе твой татка, дачушка!..

І Верачка, узабраўшыся на зэдаль, доўга прыглядалася да вобліка вусатага дзядзькі, як быццам разважала, ці сапраўды ён яе татка, а потым нечакана хуценька цмокнула яго ў твар.

У Дароты аж закалацілася сэрца ад дзіцячае шчырасці, і сама яна, уздыхнуўшы, падумала — а было б куды лепей, каб яно і было так...

Дарота і Верачка жылі ў Зацішку, але навокал не было цішы. Вёска знаходзілася нібы ў нейтральнай зоне. У мястэчку немцы. У лесе партызаны. Раз-пораз заскоквалі фашысты з паліцаямі і, нарабаваўшы ўволю, вярочаліся зноў у мястэчка. Прыходзілі і партызаны. Трэба было і падмацавацца з харчам, і абмыцца, і падрапаравацца. Калі ў вёсцы нікога не было, даведваліся ад Дароты. А было і так, што ўночы хтосьці тройчы грукне па-ўмоўленаму ў

цёмную шыбу, і Дарота адчыняе. А тады, пазанавешваўшы коўдрамі вокны, сустракае госця і расказвае яму, што бачыла надоечы ў мястэчку, куды часта хадзіла па заданню партызанаў.

У вёсцы ўсё менш і менш заставалася мужчын, затое іх большала ў лесе. Неяк аднойчы сабралася партызанская сіла і ўдарыла па мястэчку. Разбілі немцаў. Але затрымаліся ў мястэчку ненадоўга. Падышоў вялікі карны атрад, выбіў адтуль партызанаў, загнаў у глыб лесу і пакараў Царкавішча. Забралі тады і астатніх кароў і спалілі колькі хат. Сярод іх спалымнела і старая Дароціна хата.

Цяпер ужо Дарота і не думала выходзіць з новага прытулку. Хацелася толькі дачакацца Антона, тым больш што кожнага дня некалькі разоў Верачка цягнула яе за руку на чыстую палавіну:

— Мамка! Пойдзем паглядзім на нашага татку!..

А Антона Ясеня ўсё не чутно. Ну няхай, што фронт быў далёка. Немцы распускалі чуткі, што і Маскву ўзялі. А цяпер, як казаў надоечы адзін партызан, недзе на Курскай дузе б'юцца, і Верачка перапытвала:

— Мамка, з якой дугой б'юцца, ці не той, якою дзядуля Восіп (бацька стрыечнай сястры Ульяны) каня запрагае?

— Дурненькая ты!..— шлёпнула тады Дарота Верачку.— Гэта так вялікае поле завецца, дзе нашы б'юцца з гадамі, а яно далёка адсюль.

— А татка наш там?

— Там!..— І сама ўжо верыла Дарота, што сапраўды Антон — тата Верачкі, і яшчэ больш шчымела сэрца, што яго няма. Уцёк адзін з палону і, пабыўшы ў Царкавішчы, пайшоў у лес. Дарота пыталася ў яго, можа, дзе бачыў Антона? Не, мусіць, загінуў, казаў той... І Дарота крыўдзілася, што гэтакім адказам выбівалася з яе грудзей усякая надзея на сустрэчу.

Цешылася Дароціна сэрца тым, што ўсё больш калашмацілі партызаны немцаў. Вось і з маленькага мястэчка, што непадалёк ад іх, выбілі. Цяпер толькі ў раённым гарадку трымаюцца. Збег і паліцай Мікіта, які сам быў з Царкавішча, разам з немцамі. У Царкавішчы настала размясціліся партызаны. А ў Дароты амаль афіцыйна знаходзіўся іхні штаб. З ускраіны сяла добра праглядалася дарога ў мястэчка, адкуль можна было чакаць нападу. І хоць варта ў партызанаў была, ды Дарота не раз заўва-

жала, як партызанскія камандзір і камісар насцярожана паглядалі ў той бок.

Партызаны ваявалі. Выходзілі на аперацыю, знікалі на колькі дзён і вярочаліся зноў. У Дароцінай хаце цяпер гучала і радыё. І па ім Дарота чула, як гаварыла Масква пра тое, што немцы ўжо шмат адкуль бягуць.

— Цяпер нам трэба біць немцаў як можна больш,— гаварыў Дароце камандзір атрада...— Трэба ўсім, чым можна, дапамагаць фронту гнаць іх адсюль.

Аднойчы ён звярнуўся да Дароты:

— Вось і табе выпала заданне.— І паставіў перад ёю кошык з яйкамі.— Трэба занесці ў горад. Я скажу табе, каму перадаць.

Дарота здзівілася, але калі камандзір зняў некалькі радоў яек, заўважыла на донцы кошыка маленькую чорную бомбу. А што гэта была за бомба, яна добра ведала, бо за вайну нагледзелася ўсяго.

Развіталася Дарота з Верачкай і пайшла. Не раз яна выконвала партызанскія даручэнні, спадзявалася, што і на гэты раз усё будзе добра. А нечакана выйшла інакш. У горадзе, як на тое, сустрэў яе паліцай Мікіта. Ён добра ведаў пра сувязь Дароты з партызанамі. Як ні адпіралася яна, Мікіта перагледзеў кошык і, знайшоўшы там бомбу, ударыў кулаком, як гіраю, Дароту так, што яна страціла прытомнасць.

А пасля турма, і ніхто не чуў ужо, куды падзелася Дарота.

А на Царкавішча наляцела процьма карнікаў. Загналі зноў у лес партызанаў. Ульяна забрала Верачку да сябе. Перавезла яна тое-сёе і з важнейшых Антонавых і Дароціных рэчаў. А Верачка не разлучалася з таткавай карткай, якую яна зняла са сцяны ў Зацішку. Мела яна і здымак маці. Цяпер ужо Верачка вельмі чакала абаіх — і мамку, і татку.

Увесну Верачка бегала з цётчынай сялібы ў Зацішак даведацца, а можа, з'явіліся мамка з таткам ды забыліся на яе. Але ўжо здалёку здагадвалася, што дарэмна спадзявалася, бо знаёмая хаціна за гайком стаяла па-ранейшаму з закрытымі акяніцамі, з дошкамі, папрыбіванымі на іх крыж-накрыж.

— Пачакай, пачакай, ужо нядоўга,— суцяшала Верачку цётка. А аднаго дня ўранку, калі выбухі скаланулі так хаціну, што ажно пасыпаліся шыбы, цётка схапіла Верачку і ўскочыла з ёю ў склеп у сенцах.

— Не бойся,— прыціскала яна дзяўчынку да грудзей,— гэта мамка з таткам немцаў выганяюць.

Удзень, калі сціхла ўсё навокал, выйшлі яны на вуліцу. І пабачылі, што з выгану беглі ў сяло запыленыя салдаты ў касках з аўтаматамі напагатове. Можа, толькі на хвіліну спыняліся яны каля некаторых хат напіцца вады ды зноў імчаліся далей. З кветкамі сустракалі іх жыхары. Была рада і Верачка, калі прыняў ад яе некалькі рамонкаў адзін дзядзя, які высока ўзняў яе і пацалаваў, а сам пабег следам за таварышамі. Верачка прыглядалася да ягоных вусоў, але гэта быў не татка, спыталася ў цёткі, а тая сказала:

— Татка, відаць, з другога сяла немцаў выбівае. Чакай, чакай, прыйдзе... А з ім і мамка вернецца.

А пасля яшчэ доўга хадзіла Верачка ў Зацішак, чакаючы сваіх.

І вось аднойчы на досвітку Антон Ясень з'явіўся дамоў. Прыйшоў запылены ад доўгай дарогі, з рэчавым мяшком за плячыма. Як толькі ўзышоў на двор і пабачыў закалочаныя аконцы, адразу адчуў нядобрае. Ён нават не адважыўся адразу ўвайсці ў хату. Прысеў на пакарабачаным ганку, глянуў на кучы смецця на двары, на ашчэраную пройму замест дзвярэй у хляве і пераканаўся, што даўно тут ніхто не жыве.

А праз колькі хвілін ужо ведаў, што маці яго памерла і што некаторы час жылі тут Дарота з дачушкаю. І што Дароты таксама няма. Расказалі яму пра ўсё суседкі, якія раніцаю гналі кароў на выган. З імі ж ён і пераступіў парог сваёй хаты. Паставіў Антон свой салдацкі мяшок на лаву, сеў за стол і ашчарэпіў галаву рукамі. Слухаў суседак, зрэдку адказваў на іх пытанні і не заўважыў, як у хаце набіралася людзей усё болей і болей і як непрыкметна з'явіліся перад ім на стале і бохан хлеба, і глечык з малаком, і пер'е цыбулі, а да таго ж і бутэлька, заткнутая пакуллем. Яе прынёс таксама салдат, які крыху раней вярнуўся дадому і працаваў ужо калгасным кавалём.

І хоць ведалі ўсе, што Антон не вельмі гаваркі, але размова наладжвалася і рабілася жывейшаю. Ды раптам узбуджаны дзіцячы галасок перабіў усё:

— Татка... татка прыехаў!..— убегшы ў хату, кінулася Верачка Антону на рукі.— А дзе мамка, татка?..— шчабятала яна, моцна абхапіўшы ягоную закарэлую шыю ручкамі. Антон, разгубіўшыся, стаяў з дзяўчынкаю сярод

хаты і ў адказ на дзяўчынчыны пацалункі ўсхвалявана цалаваў яе чарнявую галоўку і недаўмёна паглядаў на ўсіх, але не паспеў ачуняць, як у хату прыбегла Ульяна і, убачыўшы гэты малюнак, шэптам і намёкамі паведала салдату, у чым справа.

І ён прыняў рашэнне. Схадзіў на могільнік і, як бы параіўшыся з маці, таго ж дня вечарам прывёз Верачку ў сваю хату.

Так і сталі, чакаючы мамку, жыць удваіх татка з дачкою.

Прайшло колькі год. Астоялася, асталявалася жыццё. У Царкавішчы адбудаваліся хаты. Ды і калгас стаў на ногі. Антон Ясень па-ранейшаму працаваў вартаўніком. Падрасла Верачка і пачала хадзіць у школу. Даведалася яна, што загінула яе мамка. А Антон так прывык да дзяўчынкі, што не мог і думаць, як і дзень без яе пражыць. Дарма намякалі некаторыя адзінокія суседкі, што блага жыць без гаспадыні. Антон і думаць не мог, як можна здрадзіць малой Верачцы. Тым больш што і па хатняй гаспадарцы ў іх усё ладзілася. Спраўляўся ён у хаце пасля начное варты сам, ды і дзяўчынка шмат памагала.

А як добра з Верачкай было доўгімі восеньскімі вечарамі. За акном дождж, вецер гудзіць, ажно акяніцы рыпяць, а дзяўчынка, прытуліўшыся да яго, просіць:

— Раскажы, татка, як ты ваяваў?

І Антон, хоць не любіў апавядаць пра гэта другім, ахвотна ўспамінаў аб тым, што яму давялося перажыць на фронце. Гаварыў ён паволі, часта перапыняючыся, як бы зноў перажываючы тое, што было некалі, а яна, стаіўшыся, слухала і часта ўздыхала. Многа прыгод расказаў ён, нямала яму давялося пераадолець нягод за чатыры гады. Але дзяўчынцы найболей запомнілася, як расказваў яе татка:

— Вось як гэта было. Перад нашымі акопамі было міннае поле. Мы тады абараняліся, а немцы наступалі. А каб ім было не лёгка прарвацца да нас, прыблізна за паўкіламетра ўперадзе нашы сапёры панастаўлялі многа мін. Дык што зрабілі гады! Выгналі з сяла старых, жанчын і малых і пагналі перад сабою на міны. Нельга было без жаху глядзець, як падрываліся нашы людзі. Крык, лямант, плач... а страляць па сваіх мы не маглі. На нашых вачах загінулі ўсе. А калі засталіся адны немцы, мы ўдарылі так, што палажылі іх першыя рады, а астатнія пакаціліся назад. Глядзім мы з болем на груды нявінна

загубленых людзей і раптам бачым: нешта маленькае варушыцца. Глянулі ў бінокль. Ажно гэта хлопчык жывы... Што тут рабіць? Выклікаліся добраахвотнікі ратаваць. Папоўз адзін, але быў падбіты... І другі не дабраўся таксама. Загінуў. Тады выклікаўся з нашае роты адзін ціхі, непрыкметны салдат. І вось ён дапоўз і вярнуўся з параненым хлопчыкам. І самога салдата ранілі, але маленькага ён уратаваў. У той жа дзень мы вызвалілі ўсё сяло.

— А хто гэта быў, што ратаваў хлопчыка, тата?

— Быў такі...

— А як яго звалі?

— Не помню... Быў такі,— толькі і пачула яна і ў другім адказе.

Антон Ясень, як вядома ўсім, чалавек негаваркі, замкнуты, нікому не расказваў пра свае вайсковыя прыгоды.

Але Верачка аднойчы прымусіла яго ўсё ж загаварыць. Аднойчы ў Дзень Перамогі запрасілі былога салдата Ясеня ў школу. Відаць, не без Верчынай парады. Антон прыйшоў. Ён расказваў вучням аб прыгодах на вайне і зноў жа пра адважнага снайпера. Але так і не назваў яго-нага прозвішча. «Быў такі»,— каторы раз чула ўжо Верачка адказ таты на ўсе запытанні.

А па сяле папаўзлі-пайшлі нават новыя кпіны. І да Зацішкаўца дадалі ўжо і «Быў такі». А дзеці, якія вельмі цікавяцца ўзнагародамі, часам балюча крыўдзілі Верачку:

— А ў твайго таты, відаць, нічога і няма!..

Мінула колькі год. Адбудавалася і папрыгажэла сяло. Цагляны брыгадны клуб вырас насупраць школы. Выраслі і дзеці. Вера хадзіла ўжо ў дзесяты клас. Антон прыглядаўся. Стала такою ж неўгамоннаю шчабятушкай, як і ейная маці. І толькі сам ён не змяніўся. Па-ранейшаму хадзіў на варту, а пасля моўчкі корпаўся ў агародзе. Людзі нават забыліся, што ён і на вайну хадзіў. І раптам аднойчы прыехаў у сяло раённы ваенны камісар.

Перш-наперш зайшоў да Антона Ясеня. А калі ўвечары народ сабраўся ў калгасным клубе, на «газіку» прымчаў на сход камісар, а з ім Антон і Верачка. А найбольш здзівіла ўсіх, калі ваенны камісар, зачытаўшы ўказ, прычапіў на грудзі былому салдату ордэн Славы і расказаў, за які подзвіг. А апавяданне камісара амаль слова ў слова

супала з тым, пра што марудна і часамі няўмела расказваў дзецям Антон Ясень.

— Дык вось хто гэты «Быў такі»! Дык вось табе Зацішкавец! — пачулася аднекуль з грудка вучняў, якія сталі ля сцяны.

А каб вы бачылі, з якім гонарам вярталася Верачка са сваім татам дамоў.

## СПАКУСА

Вельмі не падабаўся вялікі пост Сёмку: і гэтага няможна, і гэтага нельга.

— Не, не, Сёмачка, і малачка таксама няможна... вялікі грэх,— казала маці, калі ён з жадобаю паглядаў на масла, збіванае ў слоіку.

А пост цягнуўся надта доўга. Казалі, што трэба пасціць ажно сем тыдняў. Спачатку Сёмка пазначаў пражытыя ім дні вугальком за каптуром на печы, а пасля прапусціў адзін ці два, зблытаўся і пакінуў гэтую работу: вельмі ж марудна наставаў вечар, каб можна было паставіць нарэшце запаветную рыску.

А кілбасы, што віселі на гары пад страхою, так і стаялі перад вачыма. Як толькі Сёмка прачынаўся, тут жа і бачыў іх на доўгім шастку ў кольцах: і тонкія, маленькія, і таўсцейшыя, і сярэднія, і зусім тоўстыя, як бы панадзіманыя, паперавязваныя грубымі суровымі ніткамі. А які ж ішоў ад кілбасаў пах, асабліва ад тых, што вэнджаны ядлоўцам...

Сёмка не звяртаў увагі на ўсё астатняе, што знаходзіла прытулак на гарышчы, і нават калі маці пасылала па венік — а венікі віселі насупраць кілбас на другім шастку,— дык не на венікі глядзеў ён, а на кілбасы.

Ды яно і нядзіўна. Сем тыдняў вялікага посту цяжка было вытрываць хлапчуку. Сядзі дзень пры дні на адной бульбе, капусце ды квасе. Нават алею на прыправу бывала рэдка.

Але аднойчы Сёмка павесялеў. Неяк, устаўшы ранењька, маці сказала:

— Ну, ужо хутка, Сёмачка, вялікдзень. Некалькі ўсяго дзянькоў асталося. А прыйдзе той божы вялікдзень, тады ўсё можна.

І пасля гэтага, калі маці пасылала яго па якой патрэбе на гарышча, ён трымаўся стойка і нават усміхаўся, што ягоныя пакуты хутка кончацца.

Прыйшоў нарэшце і перадвелікодны дзень. Маці наварыла яек, нафарбавала іх цыбульным лушпіннем, завязала ў хустачку ды паслала Сёмку на ўсяночную ў царкву,

каб пасвянціў святою вадою. «А чаму б мне не пасвянціць і кавалак кілбасы,— падумаў Сёмка,— яна ж, відаць, будзе яшчэ смачнейшая?» Прычакаўшы, калі маці адлучылася з хаты, ён хуценька матануў на гару, адламаў ад самага тоўстага кружка ладны кавалак ды схаваў яго ў кішэню свае світкі.

На ўсяночную ішлі хлапчукі вельмі борзда. Да царкаўкі, што красавалася на ўзгорку вялікага сяла, было вёрст пяць. Бралася на вясну. Зямля ачышчалася ад снегу, толькі дзе-нідзе па лагчынах, між густога кушчэўніку, яшчэ ляжалі снежныя лапікі. Чуўся грачыны вэрхал на вяршалінах дрэў. Па раўчуках цурчала вада. Ва ўсіх хлапчукоў былі свае вузельчыкі з яйкамі на пасвянчэнне. А ў Сёмкі да таго ж яшчэ і таемны кавалак кілбасы, ад якога ён думаў паспытаць адразу ж, як бацюшка пакропіць. Тады ж ужо не будзе граху!

На цвінтары каля царквы было шмат людзей. Ведама, сышліся з усіх навакольных сёлаў. Увечары пачалося набажэнства. Калі ўсе рушылі ў царкву, дык у ёй, невялічкай, драўлянай, стала цесна. Сёмка і хлопцы прыладзіліся ззаду. Ім нават не было відаць бацюшкі, толькі чуліся ягоны хрыплаваты голас ды хор з кліраса. Праз некаторы час зрабілася душна. Сёмка адчуў, што анямелі ногі. Захацелася выйсці на волю, і ён, ціхенька пасоўваючыся назад, дапяў да паперці, а пасля крутнуў на цвінтар. Памацаў кішэнь, ці ёсць кілбаса, бо баяўся, каб не выцягнуў хто з хлапчукоў у той цясноце.

«Ёсць!» — узрадаваўся ён. І так захацелася Сёмку паглядзець цяпер жа на той спакуслівы кавалак. Ён ціхенька падаўся ў канец цвінтара, дзе, схаваўшыся за кустоўем, разгарнуў ільняны шкуматок і пацешыўся. Але зноў лагодненька загарнуў, каб не нарабіць граху. Успомніў страшны абраз, што вісеў у іх на покуце: на ім было намалявана пекла, на вялікай паляніцы дроў палілі грэшніка, а вакол рагаталі страшныя, хвастатыя і рагатыя чэрці, падкладаючы яшчэ і яшчэ карчэўя. А самы галоўны чорт — Люцыпар, падважыўшы грэшніка за язык віламі, цягнуў яго немаведама куды...

І хоць у Сёмкі аж сліна цякла, так яму хацелася паспытаць кілбасы, але ён, перажагнаўшыся тройчы, рушыў зноў у царкву да людзей і стаў ззаду, слухаючы далей бацюшкавы казані.

Але сам Сёмка маліцца ўжо не мог. Так захацелася есці, што аж ногі дрыжалі. Усяляк адганяў ён ад сябе

думку пра кілбасу, спрабаваў нават шаптаць малітвы ўслед за бацюшкам, каб забыцца на спакусу, ды нічога не выходзіла. Кавалак кілбасы, дотык якога ён адчуваў добра, не даваў спакою. «Ну, дай хоць паліжу крыху, гэта ж не есці, які ж тут будзе грэх»,— развачажаў ён і, павагаўшыся крыху, выйшаў зноў у тое кустоўе. Разгарнуў трапнічок, узяў кілбасу ў рукі, крутнуў галавою ў бакі, азірнуўся — здаецца, нікога не відаць,— паднёс кілбасу да носа — ах, як прыемна заказытала ядлоўцам у носе,— лізнуў толькі з кончыка. Лізнуў нясмела і ўжо забыўся на ўсе пагрозы, не вытрымаў, укусіў раз, другі, а потым насмеліўся і пачаў сілкавацца як след. І раптам сцебануў яго пранэзлівы голас:

— Ага, папаўся!.. Што ж ты робіш, нягоднік? Скажу бацюшку, ды і маці скажу!

Пераляканы Сёмка пазнаў вясковага хлапчука Мінку, паспрабаваў схаваць рэшту кілбасы ў кішэню, але Мінка схапіў яго за руку:

— Не, брат, так не выйдзе! Давай сюды, а то скажу. Усім скажу, грахаводнікі!.. Давай, я пасвянчу, а тады з'ямо...

Сёмка выпусціў недаедзены кавалак кілбасы з рук.

Мінка толькі гэтага і чакаў. Ён пачаў напіхваць рот Сёмкавай кілбасой і смачна чаўкаць. Ды яшчэ і пацяшаўся:

— Вось як трэба знішчаць грэшную скаромніну... А цяпер хадзем да калодзежа, нап'ёмся, грэх змыем,— весела сказаў ён Сёмку.

Пасля яны абодва дружна стаялі ў царкве і, пачуўшы «Хрыстос уваскрос», падставілі пад крапідла бацюшку нафарбаваныя яйкі.

Дарэмна Сёмка баяўся, каб не выкрыла яго маці. Выкруціцца памог кот Мурзік, раптам саскочыўшы з печы. Трэба было толькі вычакаць зручнай хвіліны. Яна якраз і настала. Як толькі Сёмка аддаў маці пасвянцоныя яйкі, маці тут жа пашыбавала да старэнькай суседкі, каб занесці і ёй пару свянцонікаў. Сёмка стрымгалоў кінуўся на гарышча, падбег да зламанага кольца кілбасы, памусліў яе канец у роце і падрапаў вострымі пазногцямі.

Ну вось, няхай уся памоўка цяпер ідзе на ката Мурзіка.

Вярнуўшыся, маці паслала светлы льняны абрус на стол, прыбрала яго дзеразою і расставіла ўсё смачнае перад Сёмкам: пірог і яйкі, масла і сыр.

— Ай, пайду ж я яшчэ, Сёмачка, ды адрэжу вэнджанае паляндвічкі ды кілбаскі...

У Сёмкі закалацілася сэрца. Цяпер ён не ведаў, удалося ці не ўдалося яму ашуканства. А што, калі раптам?.. Ён чуў, як у сенцах бурчала маці. І тут жа паспакайнеў, бо на ўсе сенцы пачуўся прарэзлівы каціны крык...

— А каб ты спрах!.. Ах, каб ты здох, гэта ж трэба гэтулькі кілбасы ўперці,— прыгаворвала маці.

Але доўга злавацца ў святы дзень грэшна, і яны смачна паснедалі ўдваіх у велікодную раніцу. А пасля Сёмка пабег да хлапчукоў качаць велікодныя яйкі і забыўся пра ўсё.

Толькі Мурзіка было шкада. Калі ўвечары, на печы, Мурзік падышоў да яго, Сёмка пагладзіў ката па выцягнутай спіне і ціхенька прашаптаў:

— Ну, даруй!.. Гэта ж мне грэх, а не табе.

Але Сёмка ўжо не баяўся граху так, як да гэтага. І нават чэрці, што былі намаляваны на покуце, не былі такія страшныя.

## РАЗАМ З КАМІСАРАМ

Вельмі мне спадабалася ў валасным ваенкамаце. Размяшчаўся ён у панскім палацы. Я хадзіў па ўсіх пакоях і дзівіўся. Іх было гэтулькі, што ўсё наша сяло ўмясцілася б. А пан жа быў адзін. Ну, няхай яшчэ пані, яшчэ і паненка, але ж гэтакі прастор, гэтакі абшар... Я аглядаў такія пакоі ўпершыню, бо раней толькі здалёку мог дзівіцца на палац. З-за адных сабак нельга было туды падступіцца. А цяпер я хоць і быў узрушаны нечаканасцю, але адчуваў сябе спакойна, нават крыху баяўся такое вольнасці. Калі ж усе — камісар, ваенрук і супрацоўнікі — раз'язджаліся ці разыходзіліся па хатах, вось ужо была мне раскоша! Я абыходзіў усе куткі і спрабаваў абмацаць усё, што толькі траплялася пад рукі. І, вядома, барабаніў на раялі. Я не вельмі зайздросціў на незразумелую мне скрыню-музыку, больш мне падабаўся гармонік. Вельмі вабілі шпалеры. Чаго толькі не было на іх намалявана: там, дзе, казалі, спала пані, на сценах красавалі нейкія дзівосныя кветкі, такія, якіх у нас і не расло. А дзе жыў пан — на сценах, як сапраўдныя, былі яловыя лапкі, рогі ласіныя, стрэльбы, а дзе паненка — адны мордачкі прыгожых сабак. Ото ж было дзіва! А яшчэ я любіў і пагойкаць у вялізных пакоях, асабліва ў зале, дзе як гойкнеш, дык коціцца рэха, не раўнуючы як у тым лесе.

Любіў я ваенкамат і раніцаю, калі мы ўсе садзіліся за свае столікі і пачыналі працаваць. Я стараўся як мага лепш рабіць сваю перапісчыцкую справу. Машынкі ў ваенкамаце не было, дык мой абавязак быў загады, якія выходзілі ад камісара, старанна перапісваць, і гэтулькі прымернікаў, каб іх хапала на ўсе сельсаветы.

Працаваць пачыналі рана. Звычайна мы ўжо сядзелі і рыпелі пёрамі, калі з'яўляўся камісар Будай. Павітаўшыся з усімі, ён вымаў з кішэні свой срэбны гадзіннік (а гадзіннік быў толькі ў аднаго яго), глянуўшы на гадзіннік і сказаўшы: «Какурат восем!» — накіроўваўся ў свой пакой.

На гэты раз Будай нават не зайшоў да сябе і, не скідаючы свае прасторнае зялёнае бекешы, загадаў мне:

— Збірайся, Федзя, адным мэнтам... Паедзем з табою па воласці. Вопісь рабіць!..— і сам выйшаў на двор, дзе, я заўважыў, стаялі ўжо запрэжаныя расфарбаваныя ў розныя колеры панскія санкі.

Доўга чакаць мяне не давялося. Я, схапіўшы пад паху сваю папку з паперамі ды ўскінуўшы на плечы кажушок, быў побач з ім у санках. Стаенны жарабок, што застаўся ад пана, імчаў нас па расслізганай дарозе з узгорка на ўзгорак па заснежаных палях, мінаючы пералескі і гаі, нават вёскі. Ах, як я ганарыўся, што сяджу з камісарам побач! Мне здавалася, што хлопцы з суседніх вёсак, якія ведалі мяне, вельмі зайздросцяць: вось куды дапяў Федзя Марцінёнак... І я знарок стараўся трымаць галаву як мага вышэй. Дый камісар сам не раз мне гаварыў:

— Ты, Федзя, арлом глядзі! Усё ў цябе наперадзе. Наша прыйшло цяпер.— І на гэты раз ён не забыўся мне нагадаць: — Некалі было панскае, а, бачыш, сягоння ўсё яно наша...

Мы ехалі ў маёнтак апісваць маёмасць, што засталася ад пана Сіпайлы, і я быў вельмі рады, што вопіс даручылі і мне.

Маёнтак Вазуліна, куды мы прыехалі, хоць быў і самы вялікі ў нашай воласці, ды ўбачыў я яго ўпершыню. Усё тут: і белы мураваны палац, і сад навокал яго, свірны, аборы — было большае, чымся ў нашага пана. А палац на два паверхі, з балконам наверсе, як бы прылепленым ластаўчыным гняздом! Няйначай, пан аглядаў адтуль усе свае ўладанні, якія прасціраліся даволі шырока.

Спыніўшыся каля палаца, камісар выскачыў з санак і, зачапіўшы лейцы за вялізны шар на слупе каля ганка, адразу ж рушыў у палац. Я паспяшаўся ўслед. У калідорах і ў тых пакоях, якія мы праходзілі, было сцюдзёна і не прыбрана. На падлозе дзе-нідзе валялася рознае смецце, нацяганая нагамі салома, пясок...

Камісар, як я заўважыў, адразу ж раззлаваўся. Ён пачырванеў болей, чым ад марозу.

— Какурат свінні... какурат свінні,— мармытаў ён сабе пад нос, пакуль ішлі мы ў канец калідора, дзе змяшчалася кантора. А калі пераступіў парог канторы, ён проста аслупянеў ад нечаканасці. На пісьмовым століку стаяла недапітая бутэлька гарэлкі, якая і сама нібы сумна пазірала на ўсё, што было вакол яе: абгрызеныя кавалкі агуркоў, скрыдлі сала, лусты хлеба, паадразаныя ад буханкі абы-як. За сталом, крыху воддаль на працёртай ужо кана-

пе, хроп сярэдніх год мужчына. Ён ляжаў у кажушку, не распранены і не зняўшы ботаў, так, як zaваліўся, відаць, адразу пасля гулянкі.

Камісар пастаяў хвіліну моўчкі, паківаў галавою, азірнуўся вакол ды раптам як крыкне, што ажно шыбы зазвінелі:

— Устаць, ядрона маць! Устаць, кажу!..

П'яны, мабыць, ужо адыходзіў ад гарэлкі, бо хуценька ўскочыў, і хоць яшчэ не разумеў, чаго ад яго патрабуюць, але выцягнуўся па-вайсковаму і спачатку незразумела мармытаў:

— А што?.. А што? — А калі пазнаў камісара, з павагаю звярнуўся да яго: — Слухаю вас, Іван Рыгоравіч!

— Добра ты слухаеш, пся маць... калі нават не чуў, як мы сюды з'явіліся. Хто ты такі?

— Вартаўнік, таварыш камісар!

— Ты не вартаўнік, а какурат свіння, вось хто ты! А чаго ты ў кантору забраўся са сваім лычам?

— Петражыцкі мяне паставіў яшчэ звечара.

— Дык ты з учарашняга і не прачынаўся? Добры вартаўнік, нечага сказаць... А дзе сам Петражыцкі?

— На вяселле да Шатыбелкаў, казаў, паедзе, вы ж ведаеце, што да фальварка тут недалёка...

— Каб зараз жа ён быў тут! Як цябе завуць?

— Прытыка... Іван Прытыка, таварыш камісар.

— Дык вось што, Прытыка, да гарэлкі больш не прытыкайся, а каб мэнтам Петражыцкі быў тут. Чуеш?

Калі той выйшаў, Будай, уражаны такой нечаканасцю, прысеў на канапу і ўздыхнуў. Ён не чакаў, што сустрэне гэткае відовішча ў адным з найбольшых народных маёнткаў воласці. Але тое, пра што ён хутка даведаўся ад чалавека з падвязанаю рукою, які зайшоў у кантору, расхвалявала яго яшчэ больш. Ад Міхася Галушкі, які толькі ўчора пасля ранення ў барацьбе з бандамі вярнуўся да бацькоў, камісар дазнаўся пра ўсё, што тут адбылося.

— Вярнуўся і — паверыш? — ажно за галаву хапіўся, таварыш камісар. Хіба толькі тут гарэлка? — паказаў ён на непрыбраны столік.— Увесь наш народны маёнтак п'яны. Нават і бабы некаторыя ўпокат ляжаць. І мой жа бацька таксама... Кажуць, віно і гарэлку знайшлі, усё, што пан пахаваў, уцякаючы. Каваль цэлыя дні каваў даўжэзныя пожыхі, якімі тут увесь лес перапаролі. Жывога месца няма. Пазнаходзілі шмат... Кажуць, што адзін лёкай, які верай і праўдай служыў пану Сіпайлу, выдаў...

Будай прыглядаўся да Міхася Галушкі. Яго разважлівая гаворка пераконвала, што ён удумлівы чалавек. І Будай раптам прапанаваў:

— А ведаеце што, таварыш Галушка: давайце не марнаваць часу і, пакуль прыедзе Петражыцкі, праверым, ці ўсё ў парадку па нашай вопісі, што рабілі, як толькі пан уцёк... Ну, хоць не ўсё, а праверым самае галоўнае...

І камісар, выняўшы з кішэні фрэнча спіс, ужо даволі пакамечаны, перадаў мне:

— А ты, Федзя, добра адзначай, што ёсць, а чаго няма.

І мы пайшлі. Наперадзе камісар з Галушкам, а я ззаду, прыслухоўваючыся да таго, што яны гавораць. А гаворка была даволі сумная ад усяго таго, што мы пабачылі. Забруджана было скрозь, як быццам да падлогі год не дакраналася мятла. На вокнах бруд, пыл, павуцінне. Ды і рэчы выглядалі не лепш. Замест двух раяляў, што значыліся ў спісе, стаяў у зале толькі адзін. Камісар адкрыў века, і на яго ашчэрылі зубы клавішы — паабламаныя, аблупленыя, уперамешку — то белыя, то чорныя... Паспрабаваў націснуць на некаторыя — гук быў такі, як быццам і ўсё нутро раяля на «катар» захварэла: хрыпела, кашляла, стагнала...

У залу падышло некалькі чалавек знадворку. Відаць, цікавіліся, чаго камісар прыехаў. Няйначай, як зранку ўсе былі пад мухаю, бо языкі іх варочаліся не вельмі спраўна. Будай стараўся не чапаць іх цяпер, але яныналазілі самі на гаворку. Камісар, глянуўшы ў спіс, запытаўся:

— А дзе ж другая музыка?..

Адзін з іх зарагатаў з'едліва:

— А другая далёка, да новага пана паехала.

— Як далёка?.. Куды?

— А гэта вы ўжо ў Петражыцкага спытайце.

— Ды чаго ты дурыш галаву! — умяшаўся сівы дзядок, чырвоненькі, з прытушанаю пінкай у зубах.— Да Шатыбалкаў у фальварак і паехала...

— Можа, цяпер Петражыцкі і скача пад тую музыку...— падміргнуў рыжабароды ў кажуху, падпяразаным аборамі.

— Як гэта ён мог народнае дабро аддаць? — ускіпеў камісар.

— А ён казаў нам, што цяпер усё ўсіхнае: тваё — маё, маё — тваё.

— Ды, па праўдзе кажучы, паліха яна нам, тая музы-

ка? На нашу весялосць дык і скрыпкі з цымбаламі хапае,— зноў азваўся рыжабароды.

— Не, сябры-таварышы,— рэзка абарваў іх камісар.— З вамі сягоння, відаць, кашы не зварыш, какурат розум прапілі. Ідзіце вы праспіцеся, а заўтра пагаворым...

— А можа б, і ты з намі выпіў, таварыш камісар? — насядаў найбольш настойліва рыжы.— А смачная яна, панская, далібог, смачная. І-эх!.. Гарэлачка ты мая, як у песні пяецца...— заспяваў ён і пашыбаваў за дзверы.

— Ну, і вы следам! — выпіхваў астатніх Будай.— Толькі не кроплі, а заўтра будзем гаворку весці... Прап'яце, какурат прап'яце Савецкую ўладу, таварышы, и не вы ж адны яе здабывалі.

Астаўшыся з Галушкам, камісар пачаў пытацца, чаму так здарылася, што ва ўсім адчуваецца заняпад, але неўзабаве з'явіўся і сам вінаваты. Неяк баязліва зарыпелі дзверы, і Петражыцкі, скідаючы з галавы каракулевы стаўбун, ліслівa звярнуўся да камісара:

— Пшапрашам, таварыш камісар... забавіўся крыху... на каляцыю быў запрошаны,— лапатаў ён.— Змардаваўся на працы, ведаеце, і спачыць часамі трэба.

— Не хлусі, не хлусі, не крыві душою. Бачу, як ты змардаваўся, пан Петражыцкі, ты ж аконам панскі, а на пана хварэеш. Што ты нарабіў кругом? Ці ты ведаеш, што табе будзе за гэта? Трыбунал! — і ён крыкнуў пра гэту ўстанову так пагрозліва, што нават Прытыка, які стаяў за Петражыцкім, падаўся на колькі крокаў назад.

— Пшапрашам, а што такое трыбунал? — разгублена пытаўся Петражыцкі.

— Паспытаеш, даведаешся, злыбеда! Там пірагамі кормяць, мёдам пояць... Куды ты раялю загнаў?

— Толькі на вяселле пазычыў Шатыбалкам, як бога кохам...

— А чаму ў цябе п'яныя кругом? Відаць, ніхто нічога і не робіць...

— Тут я не вінаваты, пшапрашам... Калі ўцякаў пан Сіпайла ад бальшавізмы, ну як яно ёсць, ад нас ён пахаваў у лесе амаль усё, што было ў яго падвалах. А старшы рабочы Мірон, які гэтую схову рабіў, і раскрыў усім.

— А ты нічога не ведаў, дух святы?

— Тое-сёе знаў.

— А чаму не сказаў нам?

— Я ўсё збіраўся, але было боязна, таварыш...

— Каб заўтра ж усё, што паразбіралі, было знесена ў

свіран! — І Будай паляпаў па кабуры кольта.— А цябе, таварыш Галушка, прызначаю за кіраўніка гэтага маёнтка.

— Дык я ж мала ў гэтым разумею...

— Нічога, навучышся. Глядзі, каб заўтра ўсе на сход прыйшлі. А пакуль што праверым, ці ўсё тут ёсць, што па вопісі.

І мы пайшлі. Петражыцкі бег наперадзе, расчыняючы дзверы свірнаў і аборы, стараўся вытлумачыць камісару, чаму яно ўсюды так непрыглядна.

Шмат чаго не ставала, асабліва плугоў і барон спружыновых. Петражыцкі тлумачыў, што завеяны снегам на полі.

— Ужо за тое, што завеяны, цябе судзіць трэба! — злаваўся камісар.— Але праверым. Больш пэўна, што ты ўсё парапрадаваў. Ах, будуць табе добрыя краты...

— Злітуйцеся, таварыш камісар, дзеткі малыя...

А калі ў кароўніку мы пабачылі худую жывёлу, якая стаяла за пустымі драбінамі, Будай, грозна ўставіўшыся на Петражыцкага, не стрымаўся:

— Прэч з маіх вачэй, контра! Каб я цябе больш не бачыў! Давай ключы сюды! — і вырваўшы з рук збянтэжанага Петражыцкага ключы, аддаў іх Галушку.

Я замардаваўся ў той дзень, ходзячы за камісарам. А ўвесь вечар Будай сядзеў са мною і ўстрывожана пазіраў на спіс, дзе аж стракацела ад дробных рысак, якімі пазначалася, чаго не хапае ў гаспадарцы.

Я ўжо ўлёгся спаць, але яшчэ доўга скрозь сон чуў, як размаўлялі Будай з Галушкам. Чуў, як выходзілі яны з канторы і зноў вярталіся.

Раніцою быў сход.

Сабраліся ў зале. Надзіва, амаль усе цвярозыя, толькі некалькі чалавек яшчэ не зусім адышлі, бо ўсё пускаліся ў вясёлыя жарты.

За стол, засланы чырвоным палатном, сеў Будай, пасадзіў побач Міхася Галушку і мяне, каб запісваў тое, што будзе гаварыцца. Выкліканы Петражыцкі спрабаваў залезці за столік, але Будай яго адхінуў і загадаў сесці асобна на зэдліку каля сцяны, тварам да ўсіх.

— Дык вось што, таварышы дарагія,— і ён грозна абвёў вачыма залу, калі гамана сцішылася,— як жа будзем жыць, пытаюся я ў вас? Нічога рабіць не будзем, толькі піць, какурат як паны?.. Гэта ж не народны маёнтак, як вы цяпер называецеся, а какурат кабак.

— А за што мы рабіць будзем?

— А мы тваё прапіваем, ці што? — задзірыста прагучаў ззаду голас.

— Пяты месяц, як ніякае платы і пайкі...

— Ды гэта ж горш, як за панам! — пачуўся той жа голас, які задзіраўся спачатку.

— А што Петражыцкі — даўно вам нічога не даваў?

— Ды ўжо з паўгода, як і макавага зерня не даў.

— Петражыцкі, устаць! — загадаў камісар.— Кажы народу праўду!

Петражыцкі нехаця прыўзняўся. Атрос сваю камізэльку ад попелу цыгаркі і баязліва пачаў тлумачыць:

— Усё-ўсё дзяржаве здалі, таварыш камісар... Ёсць яшчэ крыху жыта немалочанага, дык няўпраўка была...

— Ды чаго ты маніш, што няўпраўка? — узняўся старэйшы рабочы Мірон. Яго чорная да смолі барада яшчэ больш гнеўным рабіла твар.— Колькі разоў мы табе казалі, што трэба малаціць, а ты ўсё — што дазволу няма.

— Няпраўда гэта, няпраўда, пшапрашам, таварыш камісар. Я не казаў гэтага.

— Не ўжо, калі не так, дык я скажу праўду. Слухайце, людзі. Пану Сіпайлу Петражыцкі самы верны служка. Чаго таіцца, і я яму верна рабіў. Нездарма калі Сіпайла ад'язджаў, дык толькі яму і мне даверыў, дзе віно і гарэлку схаваць. А ты, Петражыцкі, устань, скажы людзям праўду: ці не казаў ты мне, што Сіпайла вернецца яшчэ і ўсё пойдзе па-старому? Дый гарэлку ты раіў адкрыць: чорт іх бяры, казаў, няхай заліваюць бельмы, можа, згіне хутчэй усё, пазнаюць, як жыць без гаспадара.

— Мана!.. Мана гэта. Мірон яшчэ не праспаўся, таварыш камісар. Яму дзяцей маіх не шкада...

— Сядзь! — загадаў Петражыцкаму камісар.— Дзяцей сваіх ты сам не пашкадаваў. А табе, таварыш Мірон, дзякуй, што шчыра расказаў пра ўсё. Мы з табой яшчэ папрацуем!

Зала злосна загудзела. Некалькі яшчэ не зусім працверазелых галасоў крычала з усіх бакоў:

— Да сценкі!.. Да сценкі яго... курву!.. Забіць, гада!..

Петражыцкі зусім абвяў і сядзеў на зэдлі ўбаку, апусціўшы галаву. Нават Будай ужо не чапаў яго, а звяртаўся з новай прапановай:

— Ведаеце добра Міхася Галушку? — і ён паказаў рукой на хлапца, што сядзеў побач.

— Ды яшчэ з пялёнак ведаем, а не тое што...

— А калі б мы яго за кіраўніка замест пана Петражыцкага паставілі?

Праз некаторае маўчанне пачуўся голас:

— А ці справіцца ён?

— Ды справіцца. А мы што — не паможам?..— рашуча заявіў, пахрабрэўшы, Мірон.— Стаў яго, таварыш камісар.

— А як вы? — запытаўся яшчэ раз у сходу Будай.

— Дык і мы, як вы...— гукнуў нехта з сярэдзіны.

— Ну, дык быць па-вашаму: з сённяшняга дня Міхась Галушка кіраўнік вашай гаспадаркі. Устань, Галушка.

Галушка ўстаў, паправіў на падвешанай руцэ перавязку і разгублена сеў.

— А з п'янствам кончана — так скажам мы,— ужо дабрадушна сказаў Будай.— Хто набраў чаго лішняга, каб зараз жа ў свіран! За працу, таварышы! А ты, пан Петражыцкі,— з намі!

Сход разышоўся. Праз некаторы час мы ад'язджалі ў воласць. Было відно, як то там то сям заварушыліся за працай людзі. Мы ехалі з камісарам наперадзе, а ззаду ў розвалках Міхась Галушка, які вёз Петражыцкага ў воласць. Калі ўжо былі за якія гоні, пачуўся гул малатарні з гумна. Камісар Будай задаволена разгладзіў рукою вусы і праказаў:

— Пачалі малаціць, Федзя. А таго гада,— ён махнуў рукою назад, на Петражыцкага,— у халодную. Какурат там яму месца, какурат, Федзя!

# З ДРАЎЛЯНЫМ САЖНЕМ

Чарговая мая паездка па воласці з камісарам Будаём была ўжо ранняй вясною.

— Забірай з сабою паперы, Федзя, і гайда! — сказаў Іван Рыгоравіч, выходзячы са свайго пракуранага кабінета. І хоць я ніколі не перапытваў яго, на гэты раз пацікавіўся:

— А куды паедзем, Іван Рыгоравіч?

— Запомні, Федзя, раз і назаўсёды: у службовы час я табе не Іван Рыгоравіч, а таварыш камісар. Пасля службы можна і Рыгоравічам зваць, а так ты — службовец, ну, як цябе завуць,— какурат баец і, як баец, павінен па-страявому. Ну, а калі табе так захацелася ведаць куды, дык паедзем мы ў Бушанку, зямлю ў Альфрэда Жванскага абрэзваць. Зразумеў?

— Зразумеў, таварыш камісар,— пастараўся паправіцца я і, захапіўшы сваю пашарпаную папку, неўзабаве сядзеў побач з ім у валваенкамацкай каламажцы.

У маіх Селішчах, за тры кіламетры ад якіх у фальварку жыў Жванскі, Будай узяў з сабою старшыню камбеда Хомку Кісяля з драўляным сажнем. Тады такой прыладай карысталіся замест каморніцкіх тэадалітаў.

Хомка Кісель, рыжабароды, з вусамі яшчэ больш рудымі ад непамернага курэння, быў у той апратцы, у якой прыйшоў з вайны: у заношаным, задымленым і нават мясцінамі прапаленым салдацкім шынялі ды ў зімовай, не лепшай, шапцы, якой не здымаў з галавы, хоць ужо сонца даволі ладна прыпякала ў плечы.

Кісель вярнуўся са службы ўсяго толькі яфрэйтарам, але быў наскрозь вайсковым. Дысцыпліны трымаўся ва ўсялякай справе. І калі дома парушаў хто яе, нягледзячы на дабрыню душы, прымаў па-свойму неадкладныя захады. Аднаго разу, калі Праксэда, Хомкава жонка, адмовілася выканаць яго прапанову па гаспадарцы, Хомка, седзячы за сталом, на якім стаяў кацялок з варанаю на снеданне бульбаю, раней папярэдзіўшы Праксэду, што завіхалася каля печы: «Праксэдка! Аб'яўляю вайну!» — пачаў абстрэльваць яе так, што тая ўцякла ў сенцы.

— Дык як, таварыш Кісель, абрэжам сягоння Жванскага? У яго ж, можа, дзесяцін сорак лішняе...

— Так точна, таварыш камісар. Даўно следавала.

— А людзей ты зазваў у Бушанку, каго мы там надзяляць будзем?..

— Так точна, таварыш камісар. І тыя будуць, каму мы павінны наразаць надзелы, ды яшчэ і такія прыйдуць, якім усё мала: а можа, думаюць, і ім што перападзе.

— Ну, гэта ўжо якурат шкурнікі.

— Так точна, таварыш камісар, сабачая шкура ў іх. Трэба такім аб'яўляць вайну!

У Бушанцы ўсё гудзела. Яшчэ здалёку мы заўважылі, што каля ганка ў Жванскага згрудзіўся натоўп, а сам Альфрэд нешта крычыць і пагрозліва размахвае рукамі.

Калі мы ўз'ехалі на двор, Жванскі саскочыў з ганка і схаваўся ў натоўпе. Да нас падбегла ўдава Аўдуля Сыменіха і, матляючы сарванаю з галавы хусткаю ў бок хаты Жванскага, паскардзілася:

— Вы чулі, людцы, што ён тут вытвараў? Ён пагражаў, што хутка ўлада зменіцца, а ўсім нам будзе канец! Люцыпар ён, душагубца, вось хто такі Жванскі!.. Ці мала я яму нарабілася?..

Камісар Будай паволі рукою адхіліў жанчыну і, падышоўшы да натоўпу, дзе прыхаваўся Жванскі, голасна гукнуў:

— Ану, вашамосць Жванскі, выходзь!

— Так точна! — пацвердзіў загад Хомка Кісель.

Альфрэд пакорліва выйшаў з натоўпу і моўчкі стаў перад камісарам. Выгляд у яго быў разгублены, нават расшпіленая камізэлька матлялася па баках, як два падбітыя крылы. Але не прайшло хвіліны, як, ірвануўшы з усёй злосці свой каўнер так, што ажно гузікі паадляталі, дзіка зароў на ўвесь двор:

— Ну, казаў... Ну і казаў, што Савецкая ўлада нікуды не вартая, што яна дазваляе забіраць маё кроўнае.

— Гэта не тваё,— перапыніў камісар.

— Так точна,— пацвердзіў Хомка Кісель.

— «Такточна!» — перадражніў яго Жванскі.— Можа, ты мне зямлю даў? «Такточна!» Мой бацька, мой дзед нямала крыві на ёй пралілі.

— Не сваёй, а нашай! Мала мы на вас папрацавалі, каты? І змоўкні зараз жа, а то знойдзем на цябе ўправу.

— Пайду вышэй... Пайду вышэй,— закрычаў Жванскі і пабег у хату.— Паглядзім, што яшчэ вярхушка скажа.

— Мы табе пакажам вярхушку,— ажно зарагатаў Будай, так яго насмяшыў Жванскі сваім дзікім пагрозлівым віскам.— Пішчыць — какурат кабан, калі яго прыколваюць... Пайшлі, людзі! Хадзі, Аўдуля! Мы табе першай тут і адрэжам, вось зараз жа за агародамі, дзе лепшая. Нямала ты на яго нарабілася.

— Ай, людцы, людцы, каб вы толькі ведалі, як я тут напрацавалася...

Камісар Будай павёў за руку Аўдулю, а за імі, па-вайсковаму, як на парадзе, пераможна пазіраючы на бакі, ускінуўшы сажань на плечы, крочыў Хомка Кісель. І тыя, хто чакаў надзелу, і тыя, хто цікавіліся, а што з гэтага будзе, ішлі следам, перагаворваючыся і смалячы цыгаркі з самасаду. Пакуль выйшлі на агароды, аднекуль вынырнуў і дзяк Мікіта Роўба, які хоць і не ўмешваўся ў гутарку, але навастрыў вушы і не адставаў ад людзей, спяшаючыся, ажно яго крыссё разляталася...

Мералі драўляным сажнем. Паперадзе крочыў Будай, кіруючыся ад агародаў да бліжэйшага гайка, а за ім, па слядах, рашуча куляў сажнем Хомка Кісель. Аўдуля па-гаспадарску ішла за імі, як бы прымаючы ёй адведзенае. Ой, як радавалася Аўдуліна сэрца! Першы раз у жыцці будзе яна гаспадыняй працаваць на сваёй зямлі. А чорныя скібы раллі ажно льсніліся пад цёплым красавіцкім сонцам. Уздымалася з прыгрэтых разораў пара і ледзь прыкметна кучаравілася па-над зямлёй. З кустоўя, што траплялася на пожаньках між раллі, пад праменнямі сонца спадалі на зямлю кропелькі начное расы. Сымоніха ішла, усцешаная сваім нечуваным шчасцем, і з вачэй яе падалі на дол светлыя слязінкі.

Адрэзванне зямлі ад Альфрэда Жванскага і надзяленне ёю бедната ішло далей. Я заносіў у свой спіс, па колькі каму адведзена паводле сажнёвай меркі Хомкі Кісяля. А перад самым канцом, калі прыселі на высокі паўзмежак адпачыць, да камісара падступіўся дзяк Мікіта Роўба:

— А мне што будзе, Іван Рыгоравіч?

— А чаго табе? — як бы нічога не разумеючы, крывячыся ва ўсмешцы, запытаў камісар.

— Як чаго? Вы ж і ад мяне царкоўны надзел забралі. А мне б хоць пожаньку, хоць на адну кароўку! — І дастаўшы з-пад доўгага крыса насцічку, нібы выцер ёю слёзы...

— На цвінтары касі! — ужо больш злосна пажартаваў Будай.— Цвінтар — какурат твой надзел...

— Як на цвінтары? Боская моц!.. Не маеце права так гаварыць!

— А ты вот слухай, таварыш-гаспадзін дзяк Мікіта Роўба. Царква адлучана ад дзяржавы. Зразумеў? Чытаў дэкрэт?

— Не ведаю я ніякіх дэкрэтаў, а ведаю толькі адно, што жыць мне трэба.

— А ты, дзяк, Суса Хрыста знаеш?

— Госпадзі памілуй!

— А ты ведаеш, што ён голы хадзіў, толькі аўчынаю прыкрыты?

— Ратуй мяне, божа!

— Вот і ты пахадзі, як Сус! Га-га-га!..

— Свят, свят, свят!

— А тады на неба ўзнясіся.

— Не грашы ж, камісар, я чалавек просты.

— А чаму ў святога іграеш? Ну, не на неба, а хоць на той вунь пагорак узляці!

— Не здзекуйся, камісар, а як мне жыць, скажы!

— Калі ты чалавек просты, дык працуй, і жыць будзеш. Скідай вось зараз жа свае доўгія лахманы ды бярыся за плуг, за касу, за сякеру, паварушы трохі сваім тоўстым чэравам, дык і сам пад'ясі і дзеці сыты будуць. Ты лепш не падавай папу панікадзіла, не гугні там яму, а папрацуй, не трэснеш! — зарагатаў ужо на ўсю моц Будай.

— Свят, свят, свят! — замармытаў дзяк і, бясконца жагнаючыся, задам адыходзіў ад камісара ажно да дарожкі, а потым павярнуўся і, падкасаўшы крысы, хуценька пабег у бок царквы. Праз колькі хвілін пачуўся са званіцы нейкі тлумны звон. Што хацеў гэтым сказаць дзяк Мікіта Роўба — ці то выліваў сваю злосць на камісара, ці суцяшаў сваю крыўду — невядома.

Вярнуўшыся ў маю вёску, мы прайшлі па вуліцы ажно ў канец, дзе чакала нас каламажка. Я з гонарам крочыў за камісарам і асабліва паважна трымаў сваю папку пад пахай — няхай бачаць аднавяскоўцы, і асабліва мае равеснікі, якіх чыноў дасягнуў я.

Хомка Кісель расказваў камісару, дзе хто і як пабудаваўся. І сапраўды, вёска толькі за год з нечым змяніла выгляд. Сярод збуцвелых і пацямнелых ад часу падслепаватых хат шмат дзе, як тыя маладзіцы, што ў самым саку, выглядалі новыя, з жоўтага адборнага бярвення, хаты і паглядалі на нас задзёрыста новымі вокнамі.

— Чуеш, Хомка,— узрушана звяртаўся да старшыні

камбеда камісар,— ад гэтых новых хат і зрубаў як смольнаю сасною патыхае?

— Так точна, чую,— пацвердзіў Кісель і на гэты раз дадаў: — Здаровае жыццё пачалося.

Але, заўважыўшы, што на адным двары стаялі побач ажно дзве новыя хаты, Будай прыпыніўся і запытаў нашага суседа Тумаша, а навошта яму дзве спатрэбіліся.

— Сабе і сыну! — з гонарам адказаў Тумаш.

— Дык жа сын у цябе яшчэ малы.

— А не тады ж ставіць, калі ажэніцца.

— Не, так нельга, ты какурат кулак.

— А табе шкода? — ужо злаваўся Тумаш.

— І шкода! Досыць самаўпраўства. Цяпер не панскае, а дзяржаўнае ўсё, а значыць — народнае, дзеля ўсіх лес! Так мы пасячом, што і дрэўца не застанецца. Каб ты не смеў болей гэтага рабіць. Запішы, Федзя, каб я не забыўся: разбіраць будзем!

І я, разгарнуўшы сваю папку, старанна запісаў загаданае камісарам, а ён яшчэ доўга не мог супакоіцца ад Тумашовага свавольства, нават і тады, калі сядзеў ужо ў каламажцы па дарозе ў воласць.

## ПЕРАПЫНЕНАЯ ВЕЧАРЫНКА

А здарылася гэта так. Аднойчы камісар сказаў:

— Хлопцы, закажанелі мы тут, дый закруціліся, ездзячы па воласці. А наш ваенкамат — какурат манастыр ці як тая казарма: ніводнае жанчыны ў нас няма. Давайце збяром вечарынку.

Усе прыкметна зацікавіліся. А ваенрук Касцюковіч падтрымаў Будая і, паказаўшы на Мацея Жаваранка, намякнуў: «Мацейчыку і гармонік у рукі!»

— А што, ён грае? — здзіўлена запытаў камісар.

— Ды трошкі пілікаю,— кіўнуў у знак згоды галавою Жаваранак.

— Дык чаго ж ты маўчыш, ліха тваёй матары! — упікнуў яго камісар.— Зараз жа скоч дахаты і жыва з гармонікам назад. А ты, Лукаш Ігнатавіч,— звярнуўся ён да ваенрука,— як самы выкшталцоны ў нас кавалер сып па паненак.

Касцюковіч пачырванеў. Ён сапраўды быў больш за ўсіх падцягнуты, заўсёды ўважна сачыў за сваёй выпраўкай, ведаў і навакольных дзяўчат, але разгублена запытаўся:

— А каго ж запрашаць? Дзе ж тыя паненкі?

— Ну, калі ты не ведаеш, дык я табе падкажу: Мальвіну Садоўнікаву, Александрыну Падголаву, Фаню Сыравараву... Ну, і там каго яшчэ надумаеш.

Касцюковіч, апрануўшы скуранку і насунуўшы крыху набок з прыгнутым казыркам фуражку, знік за дзвярыма. Следам пайшоў і Мацей Жаваранак. А ў гэты час усе астатнія ўзяліся за прыхарошванне. Пайшлі ў ход расчоскі і брытвы, нават сам Будай так падстроіў свае чарнявыя вусы, што яны вострымі кончыкамі тырчалі задзёрыста.

Вядомая рэч, прыбралі і найбольшы пакой для вечарынкі. Паадсоўвалі сталы да сцен, а мне загадалі падмесці падлогу («Табе лягчэй згінацца!»), што я і зрабіў старанна. Каб ажывіць пакой, прыцягнулі нават два фікусы. А ў самую вялізную лямпу падлілі да краёў газы, каб хапіла ажно да раніцы.

Неўзабаве вярнуўся з гармонікам Мацей Жаваранак.

I калі ён расцягнуў мяхі ды прайшоўся па галасах, сапраўды ўсё пасвятлела і стала вельмі ўтульна, хоць яшчэ і паненак не было.

А калі з'явіўся Лукаш Ігнатавіч і разам з ім, абдадзеныя ў дзвярах клубамі марознае пары, увайшлі дзяўчаты ды зашчабяталі — усіх як быццам падмянілі. Нават я, яшчэ малы, з цікавасцю ўглядаўся: такімі прыгожымі здаліся мне яны.

А дзяўчаты і сапраўды былі ладныя. Мальвіна Садоўнікава, відаць, самая малодшая, была невялічкага росту, а калі зняла прыгожы чырвоны кажушок, танклявым станам у карычневай сукенцы і бялявай галоўкай нагадвала мне гімназістку, якую я аднойчы бачыў на скверы ў павятовым гарадку, калі ездзіў з бацькам на кірмаш. Вядома, што больш за ўсіх я прыглядаўся да Мальвіны, але цікаваў і за другімі. «На каго ж утаропіцца камісар?» — думаў я. І доўга не давялося чакаць. Ён круціўся каля Александрыны, якая была большая за Мальвіну, ды і мажнейшая станам. Чырвоныя шчочкі яе гарэлі пад капою каштанавых валасоў, а з-пад вышыванае кофты двума вострымі пагоркамі пазначаліся грудзі. Фаня ж справядліва карысталася ўвагаю самога ваенрука Лукаша Ігнатавіча. Яна была найбольшая і мажнейшая ад усіх. Чорная спадніца-клёш зграбна аблягала яе дзявочыя поўныя сцёгны, ногі ў высокіх, зашнураваных амаль да каленяў, модных чаравіках. Як я бачыў, яна забірала ўвагу не толькі ваенрука.

Доўга не марудзілі. Як толькі ўсе распрануліся, Мацей націснуў на галасы, і адразу ж закружыліся ў вальсе пары. Пасля ў круг увайшло некалькі хлопцаў, якім не хапіла дзяўчат. Мне ж, малому, было зайздросна, што не магу прыняць удзелу, дый крыўдна, што не дарос. Затое я з цікавасцю сачыў за ўсімі. Ах, як прыгожа скакалі ўсе! Мне здавалася, што куды прыгажэй, чымся на нашай вясковай вечарынцы. А трэба было бачыць камісара! Ён ішоў з Александрынаю так плаўна, што, здавалася, ледзь краналіся падлогі яго наваксаваныя хромавыя боты. А калі, закружыўшыся на ўсю моц, ён адводзіў адну руку ўбок, а другой абдымаючы Александрыну, быццам плыў па крузе, здавалася, што можна глядзець на іх бясконца.

Аднак не камісар з Александрынаю, а Касцюковіч з Фаняю ўзялі верх. І ён і яго паненка былі, відаць, напрактыкаваныя добра раней, бо ў іх выходзіла куды зграбней: яны то плылі плаўна, то раптам пачыналі кружыцца так

хутка, што ў мяне ажно мільгацела ў вачах. Іхнія постаці вылучаліся з усіх. Толькі Мальвіна Садоўнікава, з якой скакаў справавод ваенкамата Сёмка Цагелік, як быццам нічым не вызначалася, хоць мне яна была найбольш даспадобы.

Пасля кароткага перадыху танцы мяняліся: хадзілі полькі, кракавяк і падэспань, нават кадрылю на шаснаццаць кален згулялі. Ваенрук верхаводзіў. Ён голасна падаваў каманду, і ўсе слухаліся яго. Пасля забаўляліся ў фанты, у жмуркі ды зноў пачыналі скакаць. Нават было і такое, што дзяўчаты выбіралі кавалераў. Як жа збянтэжыўся я, калі, відаць, на жарт, Мальвіна выбрала мяне і прымусіла пайсці ў круг. Я стараўся патрапіць у такт з Мальвінай, але выходзіла дрэнна, і я, вырваўшыся ад яе, пабег ды схаваўся за дзвярыма. Саромеўся, але і цешыўся, што Мальвіна прыкмеціла мяне. Скокі і гульні цягнуліся за поўнач, і невядома, да якое пары гулялі б, калі б не здарылася нечаканасць. Нешта вельмі загрукала па дзвярах, і раптам, праз расчыненую палавіну, уварваўся расхрыстаны чалавек з кіем у руках. На збялелым твары яго сінела пляма.

— Бандыты! Бандыты на магазін напалі! Ратуйця... таварыш камісар, ратуйця!

Гэта быў вартаўнік валаснога каап填ератыва Юрка Салівончык.

Камісар, не распытваючыся падрабязна, крыкнуў:

— У ружжо!..

І праз момант, хто накінуўшы шынель, а хто так, пахапаўшы вінтоўкі, выскачылі на двор. Дзяўчат як змяло. Я, счакаўшы, кінуўся ў пакой, дзе хавалася зброя, схапіў першы, што трапіў пад рукі, карабін і памчаў следам...

Калі дагнаў сваіх, камісар, раззлаваўшыся, нават буркнуў на мяне, але махнуў рукою: «Ну, ладна!» Калі ж мы былі недалёка ад кааператыва, загадаў спыніцца і прылегчы за кустамі.

— Не спяшайцеся, трэба падумаць, як узяць іх,— сказаў ён.— Давайце хвілiначку памяркуем. Колькі іх, д'ябла? — запытаўся ён у вартаўніка.

— Чацвёра я налічыў,— прашаптаў ён.— Ой і страшныя, барадатыя ўсе.

— Нікога не пазнаў?

— Ды не, дзе там!

У магазіне ледзь мільганула нейкае святло, ці то ад запаленае свечкі, ці ад ліхтара «лятучая мыш».

— Эге, дык яны яшчэ там,— прамовіў сам сабе камісар. І звярнуўся да нас: — Вось мой вам загад, хлопцы. Навошта нам сустракацца з імі твар у твар і рызыкаваць. Падстрэляць, чаго добрага, каго-небудзь. Лепш гэта зробім мы. Кладзіцеся ўсе. На баявы ўзвод — і агонь!..

Праз момант дружны залп з нашых вінтовак ускалыхнуў паветра.

— Яшчэ! — загадаў камісар.— І яшчэ!..

Мы не прымушалі сябе чакаць і палілі хто па камандзе, а хто і не трымаючыся яе.

Раптам заўважылі, што агеньчык у краме пагас, і следам за камісарам пабеглі туды. Калі пераступілі парог, у поўнай цемры ў кутку пачулі стогн. Камісар чыркнуў запалку. Перад намі ляжаў, скурчыўшыся, чорны барадач. А з-пад яго распаўзалася лужына крыві. Вартаўнік запаліў недагарак свечкі, і, калі прасвятлела, камісар узяўся за барадача:

— Хто ты такі, бандзюга?

Той злосна скрыпнуў зубамі:

— Што вы са мною нарабілі, невірутнікі!

— Ай, божачка, я ж яго пазнаў! — закрычаў на ўсю краму вартаўнік Салівончык.— Ды гэта ж Вінцук Жулькевіч з Лагоў!

— Пазнаў, зараза,— буркнуў сабе пад нос паранены.

— Дык гэта ўсё твае справы. Какурат я так і думаў. Усе рабункі навокал. Бандзюга ты з-пад чорнай гвязды!.. Дзе астатнія?

Бандыт прамаўчаў.

— Недзе дзенешся, скажаш... Ну-тка, Федзя! Бягом да фельчара, хай пакуль што паможа гаду, а пасля пагаворым. А ты, Салівончык, мяняй кій на вінтоўку ды вартуй гада.

Салівончык узрадавана пераняў з рук камісара трохлінейку і не забыўся дадаць:

— Вось каб раней была яна ў мяне, дык я б ім не пададаўся!

— А мы паспрабуем дагнаць астатніх... іх следам. За мной, хлопцы! — і ўсе за камісарам рушылі ў бок лесу.

Адвёўшы фельчара, я пайшоў у ваенкамат ды яшчэ доўга чакаў, пакуль блізка каля поўдня вярнуліся камісар з хлопцамі з лесу.

— Уцяклі, гады. Ну, недзе дзенуцца,— злосна бурчаў ён, скідаючы боты і кладучыся адпачываць.

## ВІНЧЭСТЭР

Аднаго разу на досвітку, калі ўсе яшчэ спалі, я пачуў, што ў пакоі ў камісара Будая нехта ўстрывожана бубніць. Па голасу быццам наш камбед вясковы Хомка, але, думаю, чаго яму так рана быць? Я не ўтрымаўся і, падышоўшы да дзвярэй, зірнуў праз дзірачку ў замку. Так і ёсць! На крэсле каля Будаёвага ложка размахваў рукамі Хомка Кісель, і твар у яго быў вельмі ўзнерваваны. Каўнер салдацкай Хомкавай гімнасцёркі быў расхрыстаны... Будай, спяшаючыся, нацягваў сваё галіфэ. А праз колькі хвілін я пачуў, як у зале строгім голасам камісар загадаў:

— Хлопцы, пад'ём!

Выбег і я, калі да камісара сышліся яшчэ не раскатурханыя ад сну супрацоўнікі. Пабачыўшы мяне, Будай сказаў:

— Ну, а ты мог бы яшчэ паляжаць,— і адразу звярнуўся да ўсіх: — Каля Селішчаў банда аказалася. Вось таварыш Кісель кажа, што ў суседніх Поплаўках учора краму пачысцілі.

— Так точна! — пацвердзіў Хомка Кісель і махнуў рукою, што шабляю, побач сябе.

— Дык вось, праз паўгадзіны каб усе былі гатовы, паедзем на аблаву. Ну, а ты,— звярнуўся камісар да мяне, бо заўважыў, што я таксама рвуся ў паход,— застанешся тут. Дзяжурным на ўвесь ваенкамат. Разумееш, якая табе адказнасць?

Мне нічога не заставалася рабіць, як пагадзіцца, і праз некаторы час я і сапраўды застаўся адзін на ўвесь ваенкамат. Было крыху крыўдна, што камісар не ўзяў мяне з сабою. Аддаючыся гераічным марам, я часта ўяўляў, як змагаўся б з бандаю, як менавіта я знішчыў бы іх галоўнага завадатара. І на гэты раз я так захапіўся сваімі марамі, што мяне і сапраўды пацягнула бліжэй да зброі. Я перайшоў у адзін з вялікіх пустых пакояў, што вокнамі выходзіў у сад і ў якім была сабрана зброя з усяе воласці. У нядаўні час, калі салдаты пакідалі фронт і варочаліся дахаты, шмат хто прыхапіў на ўсякі выпадак сваю зброю, а бывае, выбіралі яшчэ лепшую. Па загаду зброю здалі ў

ваенкамат, хоць, відаць, і не ўсю, але ў тым пакойчыку было яе поўна.

Чаго там не ляжала толькі! І пяхотныя трохлінейкі з вострымі штыкамі і без штыкоў, і кавалерыйскія карабіны, і французскія, з прыгнутымі да ложа затворамі, і абразанкі розных гатункаў, якія рабіў кожны сам, каб найлепей было насіць пад кажухом ці світкаю. Але маю ўвагу прыцягнуў амерыканскі вінчэстэр, зроблены зусім не так, як астатняя зброя. Затвор яго адкрываўся знізу, а сам вінчэстэр быў болей зграбны. Нездарма ён належаў самому камісару. Я нават здзівіўся, чаму Будай не ўзяў яго сёння з сабою, а захапіў звычайны кавалерыйскі карабін, ды пасля падумаў, што ён памчаў сёння конна, а ў такім разе кавалерыйскі карацейшы карабін больш зручны.

Я ж як прыкаваўся да вінчэстэра, не мог адчапіцца. Варочаў яго і так і гэтак. Не раз прымерваўся ў акно, ляскаў затворам. А пасля падумаў: дай пальну з вінчэстэра, хоць і не на поўную моц. Так, каб і стрэл быў не надта моцны і каб камісар не пазнаў. Тут жа, вырваўшы з патрона кулю, я высыпаў порах, а кулю загнаў назад. Ляснуўшы як належыць затворам, засунуў патрон у ствол вінчэстэра. Ну, а цяпер, думаю, куля паляціць ціха. І перад тым як стрэліць, адчыніў у акне фортку — хай, думаю, шпокне дзе-небудзь у пустым садзе. Як надумаў, так і зрабіў. А калі націснуў курок, пачуў, як вельмі ціха пстрыкнула. Палюбаваўшыся, як вінчэстэр механічна выкінуў пустую гільзу, я пераможна глянуў, навёўшы на акно камісарскую зброю, у ствол і ажно закалаціўся ад страху: куля сядзела ўсярэдзіне, і ствол не прасвечваўся. Я паспадзяваўся, што дам рады, і, узяўшы шомпал ад другой вінтоўкі, пачаў настойліва выбіваць кулю, але нічога не выходзіла. Мяне, папраўдзе, браў ужо страх: што будзе са мною, як вернецца камісар? Які ж з мяне выйшаў дзяжурны? А найболей мне было страшна, што выганіць ён мяне з ваенкамата, і тады што я буду рабіць?

І раптам павесялеў, здагадаўшыся, што можна зрабіць. Калі тая куля не паддалася шомпалу, падумаў я, дык дзе ж яна дзенецца ад другое кулі? Зараз жа я загнаў яшчэ адзін патрон у ствол і навёў камісарскі вінчэстэр зноў у тую ж фортку.

Навёў спакойна, а калі націснуў — грымнула так, што мяне аглушыла. Я нават выпусціў вінчэстэр з рук. Першае, што пабачыў, калі ачуўся і падняў стрэльбу,— увесь ствол разарваны, пакарэжаны. Я адчуў і нешта мокрае на

твары. Мацнуў рукамі — кроў. Забалела плячо. Бачу, што разарвана сарочка і на тым месцы, дзе баліць, нацягваецца крывёю...

Такім мяне застаў вартаўнік кааператыўнае крамы Юрка Салівончык, прыбегшы на стрэл.

— Хто гэта так цябе? — запытаўся ён і, штурхнуўшы, расчыніў акно, глянуў у сад, шукаючы злачынца. Нават і не падумаў, што гэта маё штукарства.

Спачатку, бачачы, што ён не здагадваецца, я і думаў зманіць. Але, збаяўшыся камісара, што яшчэ горш мне будзе за ману, сказаў усю праўду.

— Ну што ж, давай да фельчара,— і, абматаўшы маю галаву парваным ручніком, а параненае плячо нейкаю хусцінкаю, павёў мяне да Сысоя Сільвестравіча, нашага валаснога фельчара, куды я і сам бегаў раней па загаду камісара.

Сысой Сільвестравіч быў ужо сталага веку чалавек, з акулярамі-пенснэ на доўгім мясістым носе. Кожны раз мяне дзівіла: як тыя акуляры трымаюцца? Сам ён невялікага росту, камлюкаваты, у такім фрэнчы, які я бачыў на здымку ў Керанскага, але ў штанах навыпуск. Жыў ён у невялічкім трохпакаёвым драўляным дамку. У адным з пакояў размяшчаўся і ягоны лячэбны ўчастак на тры ложкі. Чуў я ад камісара, што Сысой Сільвестравіч не вельмі паважаў Савецкую ўладу, лічыўся эсэрам, а яшчэ і набожным чалавекам. У нашым царкоўным прыходзе Сысой Сільвестравіч быў на нейкай пасадзе, старастам, ці што...

Калі Юрка Салівончык прывёў мяне да фельчара, той сустрэў груба, непрыветліва:

— Ну што, дастукаўся, смаркач? — А калі даведаўся пра сутнасць справы, перавязваючы, бурчаў яшчэ больш: — Чорт ведае што вашы бацькі робяць, такіх блазнаў, як ты, з дому выпускаючы.

Я ўпарта маўчаў, а ён, фельчар, бубніў сваё далей:

— Нябось богу не молішся, чортведама з чым пазнаўся... Ганяў бы яшчэ на пáсту ды часцей у царкву хадзіў, дык і не дастукаўся б такога...

І хоць гэта мяне вельмі абражала, але я маўчаў, бо пакутаваў ад болю і найболей ад страху перад камісарам. Калі ж фельчар прысыпаў раны ёдаформам, востры пах якога я адразу адчуў, мне палягчэла. Я пакорліва пайшоў за ім і лёг на адзін з ложкаў, які ён мне паказаў.

Што рабілася ў маёй душы ўвесь той дзень, цяжка і пераказаць. Як я сустрэнуся з камісарам? Што яму ска-

жу? А можа, мяне аддадуць пад суд за тое, што зглуміў камісараву зброю? А што я скажу маці, калі камісар мяне выганіць і я вярнуся дадому? І галоўнае — як насмяюцца з мяне мае сябрукі. «Ну што, даслужыўся да камісара?» — будуць упікаць, калі зноў пачну з імі ганяць радоўку.

Аднак Сысой Сільвестравіч мяне болей не чапаў. Ён нават некалькі разоў на дні заходзіў і прынёс добрую місу з клёцкамі. Вечарам жа я зусім акрыяў. Вярнуўшыся з аблавы на бандытаў, камісар Будай наведаў мяне і ні разу не крыкнуў, а, спагадліва палажыўшы руку на маё здаровае плячо, гаварыў:

— Ну што ж, Федзя... Канечне, ты зрабіў злачынства. Але што з табою зробіш? Малы ты яшчэ, блазан, вось што. А настрою ты какурат нашага, бальшавіцкага... А мы вашага суседа-бандыта Жванскага з кампаніяй спаймалі. Не будзе больш трывожыць. Дык папраўляйся...

У мяне высыпалі слёзы, а Будай яшчэ больш ласкава:

— Ну, ладна, бо за бітага двух нябітых даюць. А ты, Сысой,— Будай амаль да ўсіх звяртаўся на «ты»,— каб праз два дні мне байца на ногі паставіў.

І, развітаўшыся са мною, ужо адвярнуўшыся ў дзвярах, сказаў, што мяне вельмі абрадавала:

— Вернешся, я табе новую шынельку наладжу. Чуеш?

У той вечар я доўга не мог заснуць, бо ўжо бачыў сябе ў новым шыняльку і ўвесь час перада мною стаяў такі мне родны і блізкі, суровы і ў той жа час такі ласкавы камісар Будай.

## АНЭТКА

Прайшло тры гады, як я пачаў працаваць у ваенкамаце перапісчыкам. Быў я ўжо на новай пасадзе і ў новай установе: справаводам валвыканкома. Павышэла мая пасада, дый сам я павышэў ростам. Яно і не дзіва: мне было ўжо шаснаццаць год. За тры гады час змяніўся, ён прынёс шмат новага, толькі начальства для мяне асталося ранейшае: Іван Рыгоравіч Будай быў ужо не валасным камісарам, а старшынёй валвыканкома. А я гэтаму быў і рад, бо рос на ягоных вачах і ў пэўнай ступені быў мне ён бацькам.

Можа, таму, што ў апошнія гады жыў я толькі з дарослымі, неяк ранавата стаў дарослы і сам. Аднойчы здарылася такое, чаго я не мог ведаць, будучы дзіцем. Мне адкрылася нешта нязведанае, трывожнае і таемнае...

Валасны выканаўчы камітэт быў цяпер у памяшканні былога валаснога праўлення, але нашы вечарынкі па-ранейшаму наладжваліся ў колішнім панскім палацы. Там была вялікая зала, большая, можа, разоў у пяць за «зборню» ў воласці, можна было сабрацца і па-сапраўднаму разгарнуцца на вечарынцы.

І вось аднаго разу я прыйшоў на вечарынку ў маёнтак. Трэба сказаць, што я па магчымасці сачыў ужо за сваім выглядам, штаны меў хоць картовыя, але галіфэ, няхай кужэльную, пафарбаваную карой, але гімнасцёрку з кішэнямі, ды яшчэ падпяразаную добрым армейскім рэменем з паскам цераз плячо, і боты хоць і юхтовыя, але начышчаныя да такога бляску, што здавалася, у іхніх халявах адлюстроўваўся ўвесь навакольны валасны краявід. Ганарыўся я яшчэ і тым, што да грудзей маіх быў прыколаты невялічкі, але вельмі зграбны кімаўскі значок, ну і, вядома, казыр фуражкі быў таксама прыгнуты, як і ў другіх, па тагачаснай модзе. Я заўважыў, што дзяўчаты-падлеткі ў гэты час вылучалі маю юначую постаць сярод другіх, і мне гэта, вядома, лесціла.

Але аднойчы ўсё перавярнулася.

На вечарынку Мальвіна Садоўнікава прыйшла са сваёй малодшай сястрою Анэткаю. Ёй ужо было, як я даведаўся, столькі, колькі і мне,— шаснаццаць. Прыйшла Анэтка ў

вышыванай кофтачцы з махровымі кутасікамі, павязанымі на шыі, у саматканай у клетачку спадніччы, якая вельмі хараша абцінала яе зграбны стан. У яе быў круглы тварык, а вочкі — сінія-сінія, ды такія агністыя, нібы сыпаліся з іх іскры, калі яна жартавала. Я адразу, як кажуць, прыкаваўся да Анэткі, цікаваў, як яна і з кім бавіла час, але сам падысці не адважваўся. Ды памог выпадак. Была нейкая гульня, у якой трэба было хлопцам памяняцца месцамі. І вось трапіла мне сесці каля Анэткі. Калі я неяк міжволі дакрануўся спаднічкі, мяне як агнём прапякло. Што са мною рабілася, я не ведаю, але калі хто глядзеў на мяне, то, напэўна, бачыў, як я мяняўся ў твары — то чырванеў, то бялеў... Баючыся, што можа здарыцца нешта яшчэ горшае, я нічога не сказаў Анэтцы і выбег на двор.

Пасля тае вечарынкі я зусім змяніўся. Анэтка ўвесь час стаяла перада мною. Калі працаваў, яе задзірлівы, вясёлы тварык выплываў да мяне нават паміж радкоў тых папер, якія я пісаў. Хадзіў гуляць і, дзе б ні быў, усюды, здавалася, чуў яе гарэзлівы галасок, бачыў яе твар. Клаўся спаць, і, пакуль сон не зморваў, усюды мне паказвалася Анэтчына галоўка — са столі, са сцен, куды б толькі не зірнуў. Устаўшы раніцаю, я толькі і думаў, як мне хоць на хвілінку пабачыць яе. Да пачатку працы я стараўся хоць некалькі разоў прайсціся паблізу яе хаты. Увечары выбіраў тую самую дарогу. Адным словам, я зразумеў, што моцна пакахаў Анэтку, ды вельмі баяўся, каб хто-небудзь не адкрыў мае тайны. Не ведала гэтага пакуль што і Анэтка. Але як жа пабачыцца з ёю? Самы надзейны спосаб — вечарынка.

Мне пашанцавала. У нас, у валвыканкоме, працаваў справаводам той самы Мацей Жаваранак, які раней служыў са мною ў ваенкамаце, і я ўпрошваў яго кожную нядзелю пайграць нам, а то, бывала, і ў будні дзень сярод тыдня. Моладзь ахвотна збіралася. Прыходзіла і Анэтка.

Танцаваць да гэтага часу навучыўся і я, нават, як казалі дзяўчаты, і нішто сабе. І быў вельмі рады, калі ў танцы, у якім трэба было мяняцца дзяўчатамі, мне выпадала быць з ёю.

Сам я не адважваўся запрашаць на танцы Анэтку, каб не адкрылася маё заляцанне, але ў той жа час вельмі раўнаваў, калі яна танцавала з другімі. Мне здавалася, што любы хлопец абавязкова ўскружыць ёй галаву і яна знікне з маіх вачэй назаўсёды, бо большасць хлопцаў была з суседніх вёсак.

Але як я ні хаваў свае адносіны, яны былі відны. Шмат хто здагадаўся. Аднаго разу мне здалося, што і сама Анэтка ведае пра гэта і знарок пасмейваецца. Я танцаваў з ёю ў пары, але яна ўвесь час, сустракаючыся ў крузе з хлопцам, з якім танцавала раней, загаворвала з ім. Я пакінуў танцаваць, адвёў яе на зэдаль каля сцяны, адышоўся ў другі куток і пачаў думаць, што б мне такое зрабіць, каб прышлыя хлопцы зразумелі, што маюць справу не абы з кім. І дадумаўся: некалькі разоў пералажыў пісталет з аднае кішэні свайго галіфэ ў другую. Па-першае, мне хацелася, каб Анэтка пабачыла, якім даверам я карыстаюся ў валвыканкоме, і зразумела б, што я магу пайсці ў сваёй пасадзе яшчэ вышэй, можа, да самага старшыні валвыканкома; па-другое, каб хлопцы не смелі са мною заводзіцца, дазнаўшыся, што я маю вока на Анэтку.

Не ведаю, ці зрабіў я нейкае ўражанне на іх, бо маёй зброі ніхто не баяўся, на вёсцы тады шмат у каго былі абрэзы, якія грукалі гучней за маю пістолю. Адно суцешыла мяне: было ўжо цёмна, калі вечарынка канчалася, і Анэтка, адыходзячы з дзяўчатамі, ці то жартам, ці то сур'ёзна прашчабятала:

— Ай, дзевачкі, я баюся ісці, няхай бы нас Федзя правёў...

О, каб ведала яна, колькі шчасця ўліла гэтымі словамі ў маё сэрца! Я зараз жа, забыўшыся на тое, што хаваў ад усіх свае пачуцці, усхвалявана адказаў:

— Можаце быць спакойны! Я пайду з вамі,— і пасля адумаўся, што вельмі хутка згадзіўся, тым самым выдаў сваю зацікаўленасць. Дзяўчаты жартавалі паміж сабою, а я быў так заняты сваімі перажываннямі, што ішоў больш моўчкі і часамі толькі няўдала ўстаўляў якое слова. «Няўжо і яна звярнула на мяне ўвагу?» — усё больш перапытваў я сябе. І, развітаўшыся з Анэткай каля яе ганка, весела пакрочыў у валвыканком, дзе мы працавалі і жылі. Усё ва мне спявала, і, мабыць, нікога ва ўсёй воласці не было ў гэты час шчаслівейшага за мяне.

Адзін час у тое лета мне здавалася, што Анэтка і папраўдзе звяртае на мяне ўвагу. Асабліва памятаецца адна наша прагулка. Ад валаснога цэнтра сама больш за паўкіламетра пачынаўся вялізны хваёвы лес, які цягнуўся кіламетраў, можа, пятнаццаць. А на ўзлеску, прайшоўшы гоняў са двое, было невялічкае, але цудоўнае азярко. Сапраўды цудоўнае! Сіняе, крыху з зеленаватымі адценнямі каля берагоў ад стромых хвой, яно прасвечвалася да роў-

ненькага пясчанага дна. Ранняю вясною мы і пайшлі гуляць туды цэлаю сваёю дружынаю, пар пяць дзяўчат і хлопцаў. Выпала так, што Анэтка ўвесь час трымалася мяне. Яшчэ калі ішлі ў лес і спявалі. Ах, як я стараўся тады перад ёю — мне хацелася, каб голас мой вылучаўся паміж усіх сваёй пявучасцю. А як я быў рады, калі Анэтка, як бы смехам, упікнула аднаго хлапца, што ад ягонага крыку ажно вушы баляць.

— Ты лепш прыслухайся да Федзі — аж за душу бярэ! — прыхінулася яна да мяне.

Зноў на нейкі момант мяне працяло, як агнём, але я ўжо не адрываўся ад Анэткі, а, наадварот, некалькі разоў, як бы знячэўку, сам браў яе пад руку.

А ля возера, калі бавіліся ў розныя гульні, яна не раз выбірала мяне за свайго нарачонага. Ну, я не заставаўся ў даўгу: назбіраўшы баравых кветак, звіў іх у вянок і, перасільваючы сорам, усклаў яго на бялявую Анэтчыну галоўку. Яна засмяялася так ласкава і з такім гонарам прайшлася паміж дзяўчат, што сапраўды выглядала красуняю. Ах, як я шкадаваў, што ў мяне не было майго маленькага люстэрачка, каб магла глянуць у той час, якая яна прыгажуня. Калі вярталіся дадому, ужо за поўдзень, Анэтка ішла побач са мною. Мы і па дарозе не пакідалі гульні: калі мне давялося бегчы за ёю навыперадкі, яна, дагнаўшы, як мне здалося, моцна пацiснула маю руку.

Праводзячы Анэтку да самае хаты, я нават хацеў адкрыцца, што вельмі ўпадабаў яе. Але ўвесь час мы былі не адны, а калі падышлі да ганка, яна, як ластаўка, пырхнула з гурту дзяўчат і, хуценька пераскочыўшы прыступкі, знікла за сваімі дзвярыма. Праз міг яна ўжо глядзела праз шыбіну свайго акна. Твар яе свяціўся ласкавай усмешкай.

У валвыканкоме засеў я за свае паперы, ды ўвесь час не пакідаў мяне гэты ласкавы твар. З таго часу і пакутаваў я ад свайго кахання. Дрэнна спаў, усё думаў аб ёй, складаў бог ведае колькі планаў, як мне зрабіць так, каб Анэтка па-сапраўднаму гарнулася да мяне, а яшчэ больш пра тое, як мне ёй адкрыцца. Часта было так, што, прыняўшы канчатковае рашэнне, я ўжо цвёрда ішоў на сустрэчу. «Ну, не давядзецца быць адным, адклічу яе ад дзяўчат і — што будзе, то будзе — скажу пра ўсе свае пакуты». Ды толькі, калі сустракаўся, так і не адважваўся выканаць сваю задуму.

Маё вока ўвесь час пільна сачыла за Анэткай. Ад мяне

не хавалася ніводная змена яе настрою. Мне здавалася, што я магу адчуваць нават тое, што яна думае. Праўда, гэта было няцяжка, бо заўсёды Анэтка была вельмі рухавая і вясёлая, а галасок яе, як званочак, калі яна толькі выходзіла на свой ганак, чуцён быў далёка, бо не было і часінкі, калі б яна з кім-небудзь не жартавала.

І раптам я не пазнаў Анэткі. На адну з вечарынак яна прыйшла не падобная на сябе: ціхая, задуменная, бледная, нават не вельмі ахвочая да танцаў. Я ўсё ж адважыўся запрасіць, але яна сказала:

— Ай, Федзя, нешта мне сягоння ніякавата...

Ах, каб яна ведала, як стала мне горка на сэрцы! Я нават не ведаў, што мяне больш трывожыла: ці тое, што яна і мне адмовіла і гэта можна лічыць за абразу, ці няясная здагадка, што з ёю нешта робіцца.

Так я і застаўся ў той вечар з нявысветленаю трывогаю і сам змарнеў, бо калі паглядаў у люстэрка (а я пачаў галіцца, каб хутчэй зрабіцца сталейшым), дык заўважаў, што пацямнела і пад маімі вачыма.

Ды хутка сакрэт адкрыўся. І адкрыў яго Мацей Жаваранак, наш гарманіст, з якім я даволі добра пасябраваў.

— А ты нічога і не бачыш, Федзя,— сказаў ён мне аднойчы.— За Анэткаю ж увіваецца маянткавы бухгалтар Восіп Восіпавіч, хоць за цябе і за яе старэйшы больш як удвая...

Я задрыжаў ад нечаканасці. Не трэба казаць, што ўсё, што адчуваў я, было напісана на маім твары.

— Адкуль ты ўзяў гэта? — спытаўся я, усё яшчэ спадзеючыся, што ён пажартаваў.

А Мацей як абухам па галаве:

— Хоць ты і бегаеш да яе ганка, ды, відаць, не тады, як трэба. А я бачыў, як туды хадзіў вечарам сам Восіп Восіпавіч. Ды які прыбраны! А вусы, як тыя пандзэлкі, тырчаць угору...

— Не здзекуйся, Моця! — толькі і мог я сказаць і грунём пабег з валасці. Хацеў зараз жа скочыць да Анэткі, папытацца, можа, няпраўда, але замест яе ганка рушыў у лес, дзе на адзіноце павяраў сваю крыўду толькі соснам...

Тое, што расказаў Мацей, я вырашыў усё ж праверыць. На змроку сабраўся і пайшоў да Анэтчынай хаты. У грудзях так смылела, што я нават палажыў сваю пістолю ў кішэню. Думаў — калі што, дык пальну, каб агідныя вусы Восіпа Восіпавіча ніколі ўжо ўгору не ўздымаліся...

Анэтчына хата глядзела двума вокнамі ў сад, і мне зручна было прыладзіцца ў густым зарасніку бэзу.

Калі я схаваўся ў кустах і заўважыў, што ў Анэтчыным акне ўспыхнула святло, разгубіўся. Моцна грукала ад хвалявання сэрца, ды я ўсё не адважваўся падысці да акна.

Як наліха, пачаў накрапваць дождж, і мая рудая гімнасцёрка стала ўвачавідкі макрэць... Некалькі разоў я памыкаўся зірнуць у акно, але тут жа асаджваў сябе. «Што я раблю? Ну няхай сабе выходзіць замуж, а я ўсё роўна яе не кіну. Паеду ў горад, вывучуся, вярнуся сапраўдным камісарам...— і я ўжо бачыў сябе ў прыгожым фрэнчы і галіфэ, пры нагане з доўгімі шнурамі,— вось тады, якая б яна ні была, я адбяру яе ад Восіпа Восіпавіча, а яго... ну, я тады прыдумаю, што зрабіць з ім...»

Але цікаўнасць і рэўнасць перамаглі. Я рашуча ступіў да акна і тут жа адскочыў, як абліты варам. Дык гэта ж твая праўда, Мацей: на невялічкай канапцы пры сцяне Восіп Восіпавіч абдымаў Анэтку.

Праз хвіліну, ачухаўшыся, але яшчэ не ўтаймаваны, перш-наперш рашыў, што расквітаюся з вусатым гадам. Але збаяўся, што магу прамахнуцца і пацэліць у Анэтку, яны ж так блізка сядзяць. Мабыць, трэба ўварвацца ў хату, падумаў я; а дождж ліў і ліў, ён наскрозь праняў мяне, толькі не мог астудзіць таго жару, што палаў у маіх грудзях... Я падняўся і зірнуў у акно яшчэ раз. Анэтка пакорліва схіліла галаву да грудзей Восіпа Восіпавіча, а ён перабіраў сваёю вузлаватаю рукою яе бялявыя кучары. Я ўжо не шкадаваў яе і вырашыў не ратаваць ад нахабніка.

Адскочыўшы ад акна, я пальнуў два разы ўгору і памчаў цераз кусты, цераз плот, у парк, які цягнуўся аж да самай воласці.

У сваім ложку я да рання стагнаў і ліў слёзы ад болю і крыўды.

«Што будуць гаварыць цяпер наўкруга?» — думаў я. Аніхто нічога і не гаварыў. Ці мала якіх стрэлаў чулася ўсюды ў той час.

Праз некалькі дзён я дачуўся, што Восіп Восіпавіч вядзе пад вянец маё першае каханне...

Ах, Анэтка!..

## КАНТРАБАНДЫСТЫ

Гудзела, калацілася, ледзь не развальвалася Сахонава хата. Вечарынка была ў поўным разгары. Тры гарманісты, расцягваючы мяхі гармонікаў ад пляча да пляча, рэзалі бесперапынку. Потныя пары бязлітасна таўклі падлогу, ажно пыл узнімаўся да столі. І на гэты раз асабліва вызначаліся Макоўскія: Антось, Марка і Кузя. Гэта былі рослыя хлопцы з хутара Гайка, якія заўсёды неяк нечакана з'яўляліся на вясковай вечарынцы і поўнасцю авалодвалі ёю. Вось і цяпер, вышэйшыя ростам ад усіх, яны гойсалі ў сярэдзіне круга, распіхваючы ўсіх, хто ім не даспадобы, а сваіх паненак, захапіўшыся імклівасцю танца, дзеля забавы ўздымалі так, што ажно падалы ўзляталі, як парасоны. Такіх высокіх, як Макоўскія, ва ўсёй нашай акружцы не было. І выглядам яны ўсе былі падобныя — даўгацелыя, чарнавалосыя, з нейкімі зеленаватымі і вострымі, як у рысі, вачыма. І можа, таму, што ім самім хацелася чымнебудзь адрозніваецца адзін ад аднаго, апраналіся яны паразнаму. Рабіць гэта было не так цяжка, бо ўсе ведалі, што жывуць яны не са сваёй гаспадаркі, а з таго, што здабываюць, гойсаючы начамі і перавозячы цераз мяжу, туды і назад, розныя тавары. Адным словам, я тады ўпершыню пачуў такое слова, як кантрабандыст. Антось насіў модныя ў той час галіфэ і боты, сарочку, што каўняром упіралася аж пад бараду, і пінжак з сіняга аксаміту; Марка з'яўляўся на гульні ў штанах і чаравіках, а шыя заўсёды была абкручана нейкім доўгім пярэстым шалікам; Кузя — у галіфэ і ў шырокай бардовай талстоўцы, казалі, што яна добра прыкрывала яго кішэні, а ў іх мог быць і рэвальвер.

Вечарынка ў нашым сяле заўжды адбывалася ў Сахонавай хаце. Ён, як кажуць, меў з гэтага сваю карысць: хлопцы заўжды прыносілі Сахону добрую пляшку, і ён, лежачы за шчытом печы, час ад часу пасмоктваў з рыльца ды папыхваў цыгаркаю, абыякава наглядаючы за ўсім, што адбывалася ў хаце. А яшчэ хацелася Сахону добра выдаць замуж сваю адзіную дачку Тадорку, дык ён стараўся выхваліцца перад усімі сваім багаццем. У нядоўгія часы кі-

равання Часовага ўрада, невядома дзе і як назапасіўшы керанак, Сахон выклеіў імі цэлую сцяну. А таму, хто стане зяцем, абяцаў выклеіць грашыма ўсю хату. Але ніхто не квапіўся ні на абяцаныя грошы, ні на Тадорку. Яна была такая нязграбная, што мала хто адважваўся нават запрашаць яе на танец. А Сахонавы керанкі, выклееныя на сцяне, толькі давалі магчымасць хлопцам пажартаваць. Вось і цяпер малодшы з гайкоўцаў Кузя, ужо даволі ап'янелы, калі скончыўся танец, нядбайна пакінуўшы сваю дзяўчыну, крута павярнуўся да шчытка, за якім ляжаў гаспадар, і з'едліва закрычаў на ўсю хату:

— Гэй, Сахон! Нуль цаны тваім паперкам на сцяне, вось дзе сапраўдныя грошыкі! — І, выхапіўшы з кішэні сініх галіфэ некалькі залатовак, шпурнуў па хаце. Усе замітусіліся. Шмат хто кінуўся падымаць, у адным месцы збілася цэлая куча. А Кузя, узяўшыся ў бокі, стаяў і рагатаў на ўсю моц. І браты ягоныя, Антось і Марка, з гонарам пазіралі на Кузеву забаву.

Ніхто не адважваўся сказаць што-небудзь насуперак Макоўскім. Усе іх баяліся. Мала таго што ў любую хвілю яны маглі збіць каго хочаш, яны і забіць маглі. Не так даўно ў лесе знайшлі нежывога Максімку, іхняга хаўрусніка з суседняй вёскі, дык хадзілі чуткі, што гэта іхняя работа. Жылі Макоўскія асобна ад усіх нашых вёсак на хутары Гаёк. Сасновы бор абкружаў на ўзгорку іхнюю адзінокую хату. Мелі яны з валоку зямлі, ды мала рабілі на ёй. Больш наймалі. А самі жылі з другога, іх звалі «начнікамі». Каля нашых вёсак пасля вайны з панскаю Польшчаю пралегла мяжа. І Макоўскія, у якіх засталося шмат радні па той бок, наладзілі з імі сувязь. Вазілі туды здабытыя праз перакупшчыкаў золата і шарсціннe, а адтуль сукно, хром, сахарын, розныя напіткі. А яшчэ больш кралі і сплаўлялі за мяжу крадзенае. Аднаго разу абулі ў лапці добрага жабрака, звялі яго з суседняга хутара за граніцу.

Макоўскія вызначыліся ў нашай ваколіцы за той час, калі я мала быў дома, а працаваў у воласці. Яны былі старэйшыя за мяне гадамі. Мне вельмі запомнілася, як аднаго разу яны, нібы на забаву, выйшлі на касьбу. У сініх, з добрага сукна галіфэ, у фрэнчах з крамніны заморскіх гатункаў, у хромавых ботах. Высозныя, дужыя, яны шырока размахвалі косамі, больш, відаць, для таго, каб паказаць, якія яны багацеі, што нават касіць выходзяць у хромавых ботах.

Мяне перавялі з валасці ў сваё сяло загадчыкам хаты-чытальні і выбралі сакратаром камсамольскай ячэйкі. Макоўскія адкрыта не паказвалі да мяне сваёй непрыязні, ды я адчуваў нядобрае ў іхніх вачах, калі сустракаўся з імі.

На гэты раз на вясковай вечарынцы, дзе быў і я са сваімі сябрамі-камсамольцамі, Макоўскія хоць і не асмельваліся зачапіць мяне, але падкрэслівалі сваю пагарду, што я сціпла адзеты. Асабліва ім было не па душы, што на сяле я быў найбольш вядомым актывістам.

Я адчуваў, што мне давядзецца сутыкнуцца з Макоўскімі, і сутыкнуцца востра. Усё ішлося да таго. Паскорыў гэтую справу ўпаўнаважаны пагранатрада Косцін, які аднойчы заявіўся да мяне ў хату-чытальню. Я з павагаю ставіўся да нашых пагранічнікаў і, кажучы шчыра, нават зайздросціў ім. Прыгожая форма — сінія галіфэ, хромавыя рыплівыя боты, добра скроеная гімнасцёрка з зялёнымі пятліцамі, а галоўнае — фуражка з зялёным аколышам і чырвонаю зоркаю. Яна так ішла да твару Косціну, што мне ён здаваўся самым галоўным на граніцы. Мне ён уяўляўся нават важнейшым за раённага арганізатара камсамола, вось чаму я так пільна заўсёды прыслухоўваўся да таго, што ён гаварыў. А Косцін на гэты раз адразу ўзяўся за сваё:

— Што ж ты, камсамольскі сакратар, зачыніўся ў сваёй хаце-чытальні, унурыўся ў газеты і не бачыш, што робіцца вакол?..

— А газеты ж і ёсць мая работа,— паспрабаваў апраўдацца я.

— Ды я цябе ад культуры не адрываю,— тлумачыў мне Косцін,— але і нам ты са сваімі камсамольцамі дапамагаць павінен.

— А як? — нібы ні аб чым не здагадваючыся, пытаўся я.

— Ды вакол жа вас кантрабандысты вытвараюць што хочуць, хіба ты не ведаеш?

— Ведаць-то я ведаю і нават на свае вочы бачыў, як Макоўскія залатоўкі на вечарынцы раскідвалі... А толькі што мне рабіць?..

— А ты падпільнуй з сябрамі, калі яны за мяжу пададуцца, і прасігналь нам. Граніца доўгая, пагранічніка да пагранічніка не паставіш адзін к аднаму, а лес гэты кантрабандысты як свае пяць пальцаў ведаюць, паспрабуй спаймай іх. Асабліва гэтых хітруноў Макоўскіх. Вось чаму я і прашу, каб вы, камсамольцы, памаглі нам.

Калі Косцін паехаў, я так захапіўся меркаваннямі, як спаймаць Макоўскіх, што не супакоіўся, пакуль увечары не стрэўся са сваімі найлепшымі сябрамі-камсамольцамі Мінкам Буевічам і Янкам Барадэйкам. Яны жыва адгукнуліся на тое, каб падпільнаваць, калі пойдуць за мяжу Макоўскія. Нават вырашылі, што і затрымаць іх трэба нам самім. Вось будуць дзякаваць пагранічнікі.

— А як са зброяй? — пытаўся я ў сяброў.— Макоўскія ж так не здадуцца?..

— У цябе ж наган ёсць,— сказаў Янка.— Пальнеш разок, і яны — хто куды.

— Ды не,— пярэчыў Мінка,— мала аднаго нагана, у майго бацькі добрая дубальтоўка, ён жа ляснік. Вазьму, знадабіцца.

— Ну, а я таксама што-небудзь прыдумаю,— прапанаваў Янка.

І мы вырашылі надоўга не адкладваць справы.

Цэлы тыдзень з вечара да рання мы, схаваўшыся ў алешніку, наглядалі за хутарам Гаёк. І дарэмна. Як на злосць, праз усе дні ніхто з хутара не выходзіў і на хутар не прыязджаў. Мы сядзелі і качанелі ад сцюдзёных вятроў цэлымі начамі, і толькі галасісты певень у двары Макоўскіх гарланіў асабліва прарэзліва, на ўсю акружку, нібы здзекаваючыся з нас.

Але аднойчы ў прыседжаным намі алешніку позна ўвечары мы заўважылі, як з двара Макоўскіх хутка прамчалася ў бок лесу каламажка, але так хутка і ціха, што мы нават не прыкмецілі, колькі чалавек у ёй было. Колы не рыпелі і не грукацелі, як быццам гумавыя...

— Ну, хлопцы,— узяў на сябе камандзірскія абавязкі я,— цяпер за справу! — І мы рушылі следам у той бок, куды памчаліся Макоўскія.

Мы ўвайшлі ў лес, а ён нам з малых год быў добра знаёмы і таму не выклікаў ніякае трывогі. Тым больш што былі мы ўзброены. Мой наган, дубальтоўка ў Мінкі і нейкае асаблівае прыстасаванне ў Янкі. Да выструганага ложа ён прымайстраваў чорны трохгранны штык, знойдзены ім у кучы мялiння ў суседа. Гэта здавалася нам дастатковаю зброяй, каб пазмагацца з кантрабандыстамі.

«Вось,— думалі мы,— будуць дзякаваць пагранічнікі, калі мы, камсамольцы, даставім вядомых кантрабандыстаў Макоўскіх проста на заставу!» І ўжо марылі пра ўзнагароды, якімі за нашы подзвігі будзем адзначаны.

Так і рушылі мы ўноч па следзе Макоўскіх да аднаго

добрага сховішча ў густым ельніку, дзе, думалася, найлепш зрабіць засаду.

Ноч была непагодлівая. Буйны вецер хістаў вяршаліны ялін і сосен, голле рыпела так, што спадзявацца на тое, што мы пачуем, як рыпіць кантрабандысцкая каламажка, было дарэмна. Уся надзея наша была на добры зрок. І мы, выслаўшы сваё седала густымі лапкамі хвоі, пільна ўгляdaліся ў далеч лясной прагаліны, на якой мы ўгледзелі след ад калёс і па якой, меркавалі, будуць варочацца кантрабандысты з таварамі з-за мяжы. А да граніцы было яшчэ добрых кіламетры тры. Пільнаваць бліжэй мы палічылі непатрэбным, бо там магла спаймаць іх варта пагранічнікаў.

Мы сядзелі як змоўшчыкі. І хоць вецер гудзеў не спынаючыся, перамаўляліся толькі шэптам. Зброя наша была напагатове, хоць мы добра ведалі, што страляць нам можна толькі ўгору. Уся надзея была на тое, што кантрабандысты напалохаюцца і здадуцца. Усе трое мы напружана ўглядаліся ў чорную прорву лесу, пакуль не стаміліся. Тады ўмовіліся пільнаваць па чарзе, а астатнім адпачываць.

Кожны з нас, відаць, у час адпачынку думаў пра сваё. Я ляжаў і глядзеў на хмурнае неба, і калі яно праяснялася на момант і на ім усплывалі дрыготкія зоры, марыў аб тым, што, відаць, і ў маім жыцці выблісне зорка, якая павядзе мяне туды, дзе я магу раскрыць усе свае сілы. А можа, адна з тых, якая высвятляецца цяпер, і будзе маёю. Вось спаймаем кантрабандыстаў, даставім на заставу, а там мяне як арганізатара, вядома, узнагародзяць, возьмуць да сябе ў пагранічнікі, выдадуць на першы раз, можа, і не такую прыгожую форму, як у Косціна, але пасля падымуць вышэй і дадуць такую, як у яго, а калі яшчэ вышэй — такую, як у самага найважнейшага начальніка ўсіх пагранічнікаў... Адным словам, марам маім не было канца... Але раптам прарэзлівы крык спудзіў нашу глухмень. Мінка нават ускочыў.

— Ды ціха вы! Гэта ж сава, а вы падымаеце вэрхал. Каб без маёй каманды ні-ні,— наказаў я і сам заступіў на варту. Я дбайна ўглядаўся ў цемру і стараўся прыслухоўвацца даляснога гулу так, каб адрозніць кожны трэск галінкі, рыпенне, нават пачуць, як прашмыгне зверанё.

І вось характэрны трэск сухога суччa, па якім ступае конская нага, пазнаў я адразу. Пачулі гэты трэск і мае хлапчукі, і трэба было бачыць, як яны насцярожыліся.

Мінка палажыў сваю дубальтоўку на тоўсты сук яліны і застыў, прымерваючыся да тае мясціны, адкуль мы чакалі начных падарожнікаў. Янка прыўзняў перад сабой сваю вострую піку, я выхапіў з кішэні наган. Мы застылі, чакаючы. Усё выразней і выразней патрэсквае галлё пад капытамі, пад коламі каламажкі, а вось ужо добра пачулася глухая ступа, відаць, прытомленага жарабка. Аднаго разу здалося, што даляцелі прыглушаныя людскія галасы. Неўзабаве і каламажка наблізілася да нас.

— Стой! Рукі ўгору! — не вытрымаў я. І не паспелі мы апамятацца, як некалькі стрэлаў пранеслася над нашымі галовамі. Напалоханы стрэламі, прамчаў, як чорная здань, жарабок, напоўніўшы ноч сакатаннем каламажкі. І раптам усё сціхла...

— Ну вось табе і спаймалі! — разгублена сказаў Мінка, закідваючы сваю дубальтоўку за спіну. Янка апусціў сваю нязграбную піку штыком уніз. Я і сам быў не ў лепшым настроі. Мы пайшлі хоць глянуць на тыя каляіны, што пакінулі нам сваёю каламажкаю Макоўскія, і раптам знайшлі адзін клумак, які, відаць, зляцеў, калі напалоханыя кантрабандысты ўцякалі. Гэта нас падбадзёрыла. Мы развязалі згубленае кантрабандыстамі і знайшлі ў ім каля дзесяці хромавых шкурак і адрэз сіняга шавіёту метраў на трыццаць.

— Што мы цяпер скажам Косціну? — запытаўся я ў хлопцаў, трымаючы знойдзены клумак.

— А можа, нічога і гаварыць не варта, пакуль Макоўскіх не спаймаем? — уголас падумаў Мінка.

— А куды гэта дзенем?

— А з гэтага,— весела параіў Янка,— давайце галіфэ і боты пашыем. Вось будуць дзівіцца на вечарынках дзяўчаты.

— Такія, як у кантрабандыстаў? — перапытаў я.

— А што ж там такога,— не адступаўся Янка.

— Не, з гэтага нічога не выйдзе,— рашуча сказаў я.— Лепш занясём таварышу Косціну і раскажам пра ўсё так, як было.

Прыгнечаныя няўдачаю, мы вярочаліся дадому, стараючыся трымацца следу, які пакінулі Макоўскія. Мала і гаварылі. У кожнага былі свае меркаванні. А мне думалася: раптам Макоўскія з-за паломкі не маглі далёка ад'ехаць, прыпыніліся і мы іх зловім. Ды дарэмна. Бо нават невялікі след, які заставаўся дзе-нідзе на аслізлай зямлі,

паступова знікаў, зацярушваючыся на ветры познім алешнікавым лістам.

Аднак хутка мы ад нечаканасці ажно паразяўлялі раты. Следам за тупатам, што далятаў ад нашага сяла, паказаліся постаці трох коннікаў. У пярэднім з іх мы пазналі таварыша Косціна. Ён, не злазячы з каня, грозна запытаў:

— Дзе вы былі?..

— Лавілі Макоўскіх, таварыш Косцін,— сіліўся апраўдацца я.

— А дзе ж яны?

— Ды ўцяклі! — загаварылі мы ўжо адразу ўтрох.

— А я аб чым цябе прасіў, Федзя?

— Мы ж думалі, што пакуль тое паведамленне, дык мы іх цёпленькіх...

— Цёпленькіх, цёпленькіх... Перабралі вы, хлопцы, меру. Я ж вас прасіў паведаміць, а вы — самаўпраўства... Што з вамі рабіць?

І ён задумаўся.

— Дык мы справу паправі́м, абавязкова спаймаем і прывядзём да вас,— ужо рашуча паабяцаў Мінка.

— Не, вы рабіце тое, што вас просяць. Прасачыце ды на каня, да мяне, а мы ўжо самі...

— А дзе яны могуць быць цяпер? Ну, не так многа часу прайшло, як мы іх перапудзілі... Можа, яшчэ нагонім? — спадзяваўся я.

— Нагонім, нагонім,— перакрыві́ў мяне Косцін.— Яны ўсе ўжо дома сядзяць. Мы толькі што былі ў Гайку, хату адчыніў адзін, нават у споднім, а астатнія і не падняліся з ложкаў.

— Фацэція, ды і толькі,— паспрабаваў пажартаваць я.

— Вось табе і фацэція,— гаварыў, развязваючы клумак, Косцін.— Заўтра ж прыходзьце хто з вас на заставу, падпішам акт, дамовімся, як далей рабіць...

Забраўшы клумак, Косцін з пагранічнікамі паскакаў у бок заставы.

Ужо на досвітку вярнуліся мы ў сяло, засмучаныя няўдачай і зганьбленыя Косціным. Але маладая задзёрыстасць узяла сваё. Пасля чарговага сходу камсамольскай ячэйкі, застаўшыся ўтрох, мы цвёрда рашылі з Макоўскімі разлічыцца. Тым больш што на чарговай вечарынцы яны, п'яныя, разгуляліся так, што пачалі пагражаць і нам, камсамольцам. Відаць, яны здагадаліся, што засада ўначы была справа нашых рук.

— Камсамольцы-перагольцы — зрэбныя штаны... перагольцы-камсамольцы — зрэбныя штаны... Вось хто нашы камсамольцы,— пасміхаўся п'яны Антось.— Чорт іх ганяе цёмнымі сцежкамі... Будзе і на іх кляп!.. Га-га-га! — і ён, выхапіўшы з кішэні пінжака цэлую пляшку «Злотэга клюву», пачаў жлукціць да канца...

Мы пайшлі з тае вечарынкі, мала што яшчэ мог вырабіць п'яны кантрабандыст. Але такога, праўда, парашылі нізавошта не дараваць.

І вось пасля сходу, застаўшыся ўтрох, добра абмеркавалі, што і як зрабіць, каб выканаць заданне таварыша Косціна. З таго часу, па чарзе, кожную ноч, якой бы яна ні была — ясная ці дажджлівая, цёплая ці сцюдзёная,— адзін з нас сачыў за Гайком. На хутары, як знарок, не было ніякага руху.

І вось аднаго разу, калі выпаў добры снег і пазасыпаў усе дарогі і сцежкі, у цёмную віхурную ноч, калі мяцеліца закружыла так, што на колькі крокаў нічога не відаць было ўперадзе, я сам пачуў, што з Гайка хутка праляцелі запрэжаныя сані ў бок граніцы. Як і было ўмоўлена, хутка сабраўшыся ўтрох, мы прынялі неадкладнае рашэнне. Я памчаў на Мінкавым кані верхам на пагранічную заставу, а Мінка з Янкам пайшлі на тую дарожку, па якой маглі варочацца Макоўскія.

Імчаў я на заставу на ўвесь дух. Каб вы толькі бачылі, як скакаў я на растрывожаным кані! Вецер біў мне ў твар, а галіны соснаў і ялін наплывалі перад вачыма, як доўгія зялёныя хвалі. Гудзела ў вушах. Ах, каб пабачыў Мінкаў бацька, як няшчадна ўзмылены быў яго конь!

Відаць, хвілін за сорак я прамчаў усе дзесяць кіламетраў і, прывязаўшы каня каля ганка заставы, убег да таварыша Косціна. Размова была кароткая. Можа, не болей як за пяць мінут Косцін з пагранічнікамі конна зніклі ў лесе, а я паляцеў назад да сваіх таварышаў. Ехаў я ўжо спакайней, бо ведаў, што галоўнае цяпер зробяць пагранічнікі і я не спазнюся на сваю варту.

Мінку і Янку я знайшоў на тым самым умоўленым месцы. Толькі добра ведаючы, можна было папасці на яго паміж густых ядлоўцавых кустоў.

— Ну як? — перапыталіся ў мяне хлопцы.

— Будзе парадак! — пераканаўча адказаў я, як быццам усё залежала толькі ад мяне.

Зноў, як і ў тую ноч, калі мы дзейнічалі самастойна, пацягнуліся для нас трывожныя хвіліны. Нам здавалася,

што час ідзе надта марудна, бо, як мы меркавалі, Макоўскія павінны былі б ужо варочацца. А можа, яны паедуць другою дарогаю, вось будзе шкада,— хваляваліся мы. І тут жа суцяшалі сябе: быць не можа! І прыслухоўваліся і ўзіраліся ў тым кірунку, адкуль павінны былі б паявіцца Макоўскія.

Але выйшла ўсё так, як мы не чакалі. Раптам да нашых вушэй даляцелі глухія, адзінокія стрэлы. Мы выскачылі на дарогу. Пачулася некалькі стрэлаў, ужо больш выразных. А пасля, як віхура, прамчалі каля нас запрэжаныя санкі і прыўзнятыя постаці ў іх. Мы, ведама, нічога не маглі зрабіць, толькі пальнулі некалькі разоў угору. Праз момант, не зважаючы на нас, прамчалі пагранічнікі. Мы пабеглі ўслед. Можа, праз кіламетр, на невялікай лясной палянцы, нагналі ўсіх і пры святле месяца ўбачылі такое відовішча: жарабок Макоўскіх быў прывязаны да сасны, а ў санках паміж розных мяхоў і скрынак ляжаў забіты Кузя Макоўскі. Антось сядзеў каля яго, апусціўшы галаву. Наўкруга стаялі пагранічнікі.

— Ну вось, хлопцы, дзякуй вам, кончылася іхняя песня,— сказаў нам Косцін.— Не хацелася біць чалавека, не спыніліся, вінаваты самі. Мы едзем на заставу, а вы — дамоў.

Антось Макоўскі так злосна пазіраў на нас, як быццам нажамі пратыкаў наскрозь. Але мы яго ўжо не баяліся. Ведалі, што не хутка вернецца дадому. А ва ўсёй акрузе жыць будзе спакайней. Праўда, застаўся яшчэ Марка, але, відаць, і ён сцішыцца.

Толькі праз некаторы час спаймалі і Марку, калі ён на плячах нёс з-за мяжы мяшок кантрабанды.

Так і скончылася бурнае, але недаўгавечнае жыццё кантрабандыстаў Макоўскіх. А мы доўга спадзяваліся, усё чакалі, калі ж нас паклічуць у пагранічнікі.

## «ЧЫРВОНЫ АЛОВАК»

Пяць год як усталявалася Савецкая ўлада ў нас. За гэты час усё навакольнае ператварылася так, што не пазнаць. Памаладзелі вёскі. І калі раней, паглядаючы на наша сяло, можна было параўнаць яго са старою, прыгнутаю горам, бабуляю, што безнадзейна паглядала ў зямлю, дык цяпер сяло — як добрая, дзябёлая маладуха, зыркала вачыма-шыбамі ў далеч шляхоў, адкуль, здавалася, чакала яшчэ найлепшых вестак.

Павесялелі пабуйнелыя сялянскія палоскі, спарнейшымі хвалямі захадзілі на іх жыты і пшаніцы, ды і людзі сталі больш жвавымі: часцей чулася дзявочая песня і ў полі, і ў лесе. І пералівы гармоніка па вечарах склікалі моладзь да былых панскіх пакояў.

Добра сябе адчуваў і я. Газеты і часопісы, якія прыходзілі ў хату-чытальню, былі ў поўным маім уладанні. Шмат гадзін праседжваў за імі. Ах, колькі новага спазнаваў я кожны дзень! Радаваўся добрым весткам, якія прыходзілі з іх, але траплялася на вочы і благое, што засмучала мяне. Тым больш што і ў нас не ўсё было ў парадку. Шмат хто здолеў выкарыстаць новыя магчымасці, каб толькі самім нажывацца. І перш-наперш перад маімі вачыма стаяла трое такіх. Гэта аб'ездчык лясніцтва Вікенці Шылька, якога невядома адкуль прыслалі да нас; ён адразу ж заняў некалькі панскіх пакояў. А да яго амаль у кожную нядзелю цягнуліся падводы з мяхамі збожжа, з парасятамі і рознай жыўнасцю. Дзяржаўнага лесу было многа, хто там мог палічыць, колькі сосен ішло набок, апрача нарадаў, якія выдаваў ляснічы.

За адзін год раздаўся ўшыркі новапрызначаны мельнік Мікодым Мякота. З'явіўся ён у нас худы, як тая жэрдка, а разбух ад дзяржаўных фунтаў, што браў за мліва. Яшчэ больш за Мікодыма распухалі тыя парсюкі, што сталі ў ягоным хляве.

Не драмаў і наш Цімошка Сакун. Ён мала варочаўся дома, а больш жыў у лесе на астраўку, у такім хмызе, што, як кажуць, і ўдзень з агнём не знойдзеш. Толькі па дымку, які высокім слупком узнімаўся ў бязветранае надвор'е

ўгору, можна было адшукаць яго. Стаяў на астраўку ў Цімошкі Сакуна адменны самагонны апарат, на якім пераганяў Цімошка фунты, сабраныя мельнікам, у моцны напой. Прыбытак жа ад збыту напою Сакун дзяліў з Мякотам.

Я чытаў газеты і бачыў, што нешта падобнае ёсць і ў іншых мясцінах, і дзівіўся, як востра пра гэта пішацца ў допісах. А чаму ў нас, думаў я, не знойдзецца такога чалавека, які выкрыў бы ўсё таксама праз газету? Адзін міліцыянер у воласці не спраўляўся змагацца са злачынствам, а калі я яго папракаў за гэта, патрабаваў:

— А ты зрабі так, каб я іх спаймаў.

І вось аднойчы, калі асабліва ўдалы артыкульчык у павятовай газеце «Бядняк» выкрываў нейкае злачынства, а пад артыкулам я пабачыў востры подпіс — «Шыла», я падумаў, а чаму б мне самому не ўзяцца за пяро? У той жа вечар, застаўшыся на адзіноце ў хаце-чытальні, пры газніцы я доўга пісаў і перапісваў свой першы допіс. Пра аб'ездчыка. Я падрабязна апісваў, як жыве Шылька не па грашах, называў прозвішчы тых, хто і што вазіў яму за адпушчаны лес. Пісаў і пра тое, як спыняюцца ў яго кантрабандысты, якія гулі наладжваюцца ў яго, як займаў ён панскія пакоі. Прачытаўшы ў газеце, што допіс трэба пісаць на адным баку паперы, я пачаў падклейваць старонку да старонкі. Калі ж скончыў допіс і выцягнуў яго ўдоўж, дык ён не мясціўся на стале. Цяпер, калі ўсё было напісана, хваляваўся за самае галоўнае — як падпісацца? І парашыў, што калі можна падпісвацца «Шыла», дык не горш будзе выглядаць «Чырвоны аловак». Так і зрабіў, хоць да таго часу чырвонага алоўка і ў вочы не бачыў.

Справа была зроблена. Першае пасланне скручана ў трубачку, перавязана пяньковачкаю і заадрасавана ў газету «Бядняк». Цяпер толькі чакаць. Ну і чакаў жа! Кожную новую газету я разгортваў ледзь не дрыжачымі рукамі. Больш таго: я не мог іх дачакацца і штодня хадзіў на пошту за пяць кіламетраў. Загадчык пошты Зялёнка дзівіўся — чаго я гэтак зачасціў? І калі да Зялёнкі я хадзіў лясною дарожкаю нават насвістваючы, дык, несучы адтуль газеты, ледзь не плакаў ад крыўды.

І вось аднойчы — толькі я выйшаў ад Зялёнкі і разгарнуў «Бедняка», як мае рукі закалаціліся, а твар апякло агнём. На трэцяй старонцы пабачыў я такое жаданае і даўно чаканае: «Чырвоны аловак». Ах, як ярка і прыгожа былі надрукаваны літары майго патаемнага подпісу! А за-

галовак яшчэ буйнейшымі: «Аб'ездчык — хапуга». Я радаваўся, што не бачыць мяне той жа Зялёнка, бо ён адразу дагадаўся б, хто такі «Чырвоны аловак». На лясной дарожцы я некалькі разоў перачытаў свой допіс. Мне ўяўлялася, як падскочыць Вінцук Шылька, чытаючы пра сябе.

У хаце-чытальні я палажыў «Бедняка» на самым відным месцы. Няхай, думаў я, усе пачытаюць і ўбачаць, што і ў нас ёсць нехта, хто так удала можа выкрываць розных махляроў.

Ды чакаць было доўга. Дзень быў самы рупны, касілі і жалі, толькі ўвечары з'явіўся да мяне першы чытач. Гэта быў мой сябра Мінка. Калі я паказаў яму допіс, Мінка, прачытаўшы, хапаўся за бакі ад рогату.

— Хто ж гэта зрабіў?— радасна здзівіўся ён.— «Аб'ездчык — хапуга», ах, як здорава!.. Ну Шылька ж, сапраўдны Шылька!.. Нават і — «рука руку мые», як ён любіць гаварыць... Ну, хто ж гэта ў нас такі майстар? Можа, ты, Федзя — дапытваўся ён.

Я аднекваўся, хоць мне і вельмі хацелася пахваліцца. Нават бліжэйшаму сябру баяўся я прызнацца. Возьме яшчэ ды дзе-небудзь і прагаворыцца. Не, ніхто пакуль не мусіць ведаць, хто такі «Чырвоны аловак».

Усе, хто прыходзіў у чытальню ў той вечар, пыталіся, ці не ведаю я, хто напісаў такі хвацкі допіс. Але я маўчаў.

Галоўны вінаваўца Вінцук Шылька даведаўся пра газету толькі праз некалькі дзен. І то не дома, а будучы ў аб'ездзе. На пустой каламажцы на гэты раз вярнуўся ён. Злосны такі, што нават свайго любімага каня, выпрагшы, агрэў колькі разоў дратаванаю пугаю так, што той ад нечаканасці папёр ажно на поле. Ды і праз вокны чулася Вінцукова нястрыманая лаянка. Відаць, спагнаў ён сваю злосць на жонцы. І хоць казалі, што кабета раіла яму маўчаць, каб людзі не бачылі, як гэта яго кранула, Вінцук не вытрымаў. Нажлукціўшыся самагону, хадзіў па сяле разам з Цімошкам Сакуном і пагрозліва выкрыкваў:

— Чырвоны аловак, чырвоны аловак... Будзе твая морда чырвоная ад крыві, нягоднік ты нейкі!

І Цімошка Сакун, здагадваючыся, што чарга можа прыйсці і да яго, рашуча падтрымліваў свайго сябра:

— Так, так яно, дарагі Вінцулька. Скрышыць трэба... скрышыць гэты чырвоны аловак.

— Будзе, будзе морда чырвонаю... Гэта ж трэба так набрахаць на сумленнага чалавека,— не сунімаўся Шылька.

Усе дзівіліся, як сноўдалі па сяле ў той вечар Вінцук і Цімошка, аж пакуль не схаваліся ў Цімошкавай хаце, дзе ўжо, відаць, за новаю пляшкаю выказвалі свае крыўды.

Затое вельмі радасна было «Чырвонаму алоўку». Я ўначы не мог заснуць, усё ўяўляў сабе ўстрывожанага Вінцука і думаў пра тое, што цяпер час узяцца і за мельніка Мікодыма Мякоту.

Падганяла мяне яшчэ і тое, што неўзабаве прыехала рэвізія з лясніцтва і Вінцук Шылька быў зняты з аб'ездчыка, пазбаўлены адбою з літарамі «ЛБ», якім спрытна гандляваў, а застаўся толькі лесніком. Выехаў з панскіх пакояў у сяло, дзе зняў у аднаго селяніна трысценак.

На гэты раз я пісаў карацей, бо навучыўся ўжо, прыгледзеўшыся, як быў скарочаны першы мой допіс. Калі б змясцілі цалкам, заняў бы добрую палову газеты. Але і пра Мікодыма Мякоту пісаў я падрабязна, каб было з чаго выбіраць. У Мікодыма было нямала розных спраў, галоўнае ж шальмоўства ў тым, што ён пракруціў ледзь прыкметную дзірачку ў латаку, і за суткі памолу яму без ніякага клопату набягала паўпуда мукі. Вось табе і пірагі, і свінні, і гатовая пляшка. Адаслаўшы допіс у рэдакцыю, я зноў зачасціў да паштавіка Зялёнкі.

А мельнік Мікодым і самагоншчык Цімошка не драмалі. І хоць рабілі сваё ўжо больш спрытна, але казалі людзі, што па вечарах збіраліся, запрашалі і свайго дружка Вінцука, пілі і ўсё нешта згаворваліся, відаць, трывожыліся, што «Чырвоны аловак» возьмецца і за іх.

Іх пагрозы і пошукі не былі дарэмнымі. Аднойчы я, прыйшоўшы ўранку на працу, знайшоў у дзвярах пакамечаную запіску, у якой было друкаванымі літарамі нязграбна напісана:

«Слухай, ты, чырвоны аловак, лепш кідай, паперу не марай, а то будзеш біты, добра знай».

«Ого!» — падумаў я і засмяяўся: так складна напісалі, няйначай тут сынок Вінцука ўдзел браў, які вучыўся ў горадзе. Прыязджаючы да бацькі, ён браў у чытальні найчасцей кніжачкі вершаў.

Я пачаў асцерагацца, нават паштавіка Зялёнку ўзяў на падазрэнне. Тым больш што мне пераказалі, як у адзін з вечароў ён сядзеў у кампаніі з усімі на млыне за самагонкаю да самага рання.

Што мне пачалі помсціць, адчуў нават бацька. Аднойчы ў восеньскую дажджлівую ноч згарэла наша гумно, у

якім было шмат яшчэ немалочанага жыта. А ў хаце-чытальні ў дзвярах я знайшоў новую запіску:

«Слухай, ты, ад чырвонага алоўка загарэлася гумно, а будзеш шкодзіць людзям — згарыш і сам».

Я ўжо добра ведаў, што гэта справа іхніх рук, і толькі здзівіўся, чаму яны дзейнічаюць так нахабна. Справу ж не пакінуў, а, будучы ў воласці, расказаў пра ўсё сакратару валкома партыі, запіскі аддаў старшаму міліцыянеру Раману Місуну.

Загаманіла ўсё сяло, падзяліўшыся на два бакі: адны, не хаваючы таго, асуджалі злачынцаў, другія казалі, чаго гэты «Чырвоны аловак» лезе ўсюды. Рабілі яны і рабіць будуць, так, як хочуць. А трэція, на жаль, сярод іх быў і мой бацька, казалі, што так яму і трэба, «Чырвонаму алоўку», хай не муціць людзей на вёсцы.

Цяжка мне было, калі я пісаў у «Бядняк» трэці допіс, на гэты раз пра самагоншчыка Цімошку Сакуна. Напісаў і пра сваё гора, пра тое, як па-рознаму ставяцца да мяне людзі. Сваё пісьмо я паслаў не праз Зялёнку, а адвёз у мястэчка за пятнаццаць кіламетраў. Трывожна мне было чакаць надрукаванага, бо часта бачыў, як па-варожаму ставіцца да мяне гэтая вясковая зграя. Хацелася з некім параіцца і атрымаць дапамогу, бо горка было аднаму.

І я раскрыўся самым найлепшым сваім сябрам — Мінку і Янку.

І вельмі ўзрадаваўся, бо надта цёпла яны мяне падтрымалі.

— Пішы, пішы, «Чырвоны аловак»,— тузалі яны мяне за плечы.— А мы табе паможам і матэрыялаў падбавім. А іх ты не бойся, хутка ім прыйдзе капец. З Цімошкам мы й самі справімся. Прывядзём міліцыянера. Знойдзем яго за самым сінім дымком, і будзе Цімошку нявыкрутка.— І мы пачалі ўтрох раіцца, што нядрэнна было б нам апроч допісаў у павятовую газету выпускаць і сваю хоць бы насценную, тут жа, у хаце-чытальні. А каб мне не браць усё на сябе, на камсамольскім сходзе выбралі рэдактарам Мінку Буевіча, бо ён умеў трохі і маляваць. Там жа прыдумалі і назву «Чырвонае гарно».

— Ну, што ж,— жартаваў рэдактар новай газеты,— пачалі мы з «Чырвонага алоўка», а раздзьмухаем і сваё «Чырвонае гарно».

І цераз які тыдзень мы ўзяліся за справу. А Мінка, якому я расказаў аб сваім допісе пра Цімошку Сакуна,

сказаў, што не пашкодзіць яго прабраць і ў насценгазеце. Ён нават пачаў маляваць Цімошку, як той сядзіць за самагонным апаратам. Пра ўсё яму расказаў вясковы пастух Трахім, які знішчыў, будучы на пасце ў лесе, Цімошкава стойбішча. І злаваўся на яго за тое, што пачаставаў Цімошка нейкаю бурдою, а першаку пашкадаваў.

Мы ўжо думалі самі і спаймаць самагоншчыка, але аднаго разу вечарам да нас завітаў старшы міліцыянер з воласці Раман Місуна. Ён прывёз з сабою нумар «Бедняка» з маім допісам.

— А ці не даволі ўжо пра Цімошку пісаць, час канчаць з яго вінакурняй! — сказаў ён.

У той жа вечар мы і пусціліся ў лес.

Мы ішлі больш спакойна, не так усхвалявана, як некалі ловячы кантрабандыстаў, бо не баяліся Цімошкі, а галоўнае — з намі быў сам Раман Місуна. Храбрасць і настойлівасць яго была вядома далёка за нашу воласць.

Доўга, не менш за пяць кіламетраў, нам давялося ісці markознымі ляснымі сцежкамі, цераз імшары і баравыя ўзгоркі, то выходзіць на чысты бор, то забірацца ў такі хмыз, праз які і зверу цяжка прабрацца. Нямала перабудзілі і соў, каршакоў, якія сядзелі на кашлатых галінах елак. Наскрозь прамоклі ад расы, што асыпалася на нас з кустоўя. Нарэшце падышлі да невялікай баравінкі, адкуль і сапраўды пацягнула дымком і пачуліся тлумныя галасы.

Раман Місуна прыпыніў:

— Давайце прыгледзімся, што тут робіцца.

І мы прыселі ў невялічкай выварацы за лазовымі кустамі. З баравінкі даляталі да нас п'яныя галасы, там не вельмі асцерагаліся, але разабраць было цяжка, бо моцна гуў вецер у вяршалінах хвой. Счакаўшы хвілінку, Місуна сказаў:

— Падыдзем, хлопцы, бліжэй, паглядзім, што яны вытвараюць.

І мы ўслед падпаўзлі яшчэ бліжэй у кусты, адкуль раскрылася ўсё Цімошкава ўтульнае стойбішча. Каля агню вакол вялізнага пня, на якім стаялі пляшкі і ляжала закуска, сядзелі тры адданыя адзін аднаму сябры: Цімошка, Вінцук і Мікодым. А непадалёк на поўным хаду працаваў сапраўдны самагонны заводзік. Пад чорным катлом гарэў невялічкі агеньчык. Трошкі воддаль стаяла велізарная бочка з брагаю, звязаная пакручанымі дудкамі з катлом і з невялікім халадзільнікам.

Сяброўская гамонка ішла бесперапынку аж да таго ча-

су, пакуль Раман Місуна не выйшаў з кустоў і не стаў перад кампаніяй:

— Ну што ж, галубчыкі,— пажартаваў Раман Місуна,— з'явіліся і мы да вас у госці!

Перапалоханыя сябры яшчэ не маглі апамятацца, маўчалі, а Місуна насядаў:

— Чаго ж маўчыце?.. Можа, шкада пачастунку? Дык не шкадуйце, дабро ж народнае, фунты сялянскія, чаму ж не запрашаеце?..

Першы ачуўся Цімошка. Ён ускочыў на ногі і, шырока развёўшы рукі, нібы прымаючы Місуновы словы за праўду, гасцінна прамовіў:

— А і сапраўды, дарагія госцейкі, будзьце ласкавы, у кампанію!

— Не, мы не вашай кампаніі, ядрона мыш! — ужо злосна выкрыкнуў Раман.— Вылівай брагу, хлопцы! — і першы пачаў выварочваць бочку.

Цімошка і тут не вытрымаў:

— Пачакай, таварыш Місуна, хай ужо дакапае, усё роўна адзін адказ.

— Ты менш балбачы, а адказу табе хопіць.

Вінцук, крыху супакоіўшыся,. паспрабаваў выкруціцца:

— Ну, я пайшоў дадому. Вось не пашанцавала, таварыш Місуна, выйшаў паглядзець лесу, а тут Цімошку сустрэў, не вытрымаў, пачаставаўся...

— Ладна, ладна, ведаем, як ты выйшаў глядзець лесу. Пасабляй дудкі разбіваць ды несці пасобіш,— бурчаў Місуна.

І мельнік Мікодым, скеміўшы, што гаворка пайшла спакайнейшая, паспрабаваў адвесці бяду ад сябе.

— Дык ты, таварыш старшы, можа, скажаш і мне несці, можа, думаеш, што я вінаваты? Я ж толькі ў грыбы пайшоў, вунь і кошык стаіць, трэба ж было натыркнуцца.

— А фунты чые?

— Фунты Цімошкавы, са свайго новага жыта.

— І праўду, са свайго,— пацвердзіў Цімошка.

Мы з Мінкам маўчалі ўвесь час, і толькі, калі склаўшы акт, Місуна папрасіў падпісацца і калі Цімошка пагрозліва кінуў у наш бок: — Ведаем, ад каго ўсё загарэлася... Ну, пачакайце, хлопцы! — я ўжо не вытрымаў:

— Ведаеце, дык ведайце і далей, што не будзеце дзяржаўнае красці! Мы вас не баімся... А іх пагрозу запішы ў акт, таварыш Місуна!

Місуна даў надпісацца нам, Цімошка з Мікодымам адмовіліся. А Вінцук, хітра падміргнуўшы Цімошку, узяў і надпісаўся. Але пасабляць несці ўсё начынне ў сяло і ён адмовіўся. Давялося цягнуць нам.

У той жа вечар я напісаў допіс у першы нумар насценнай газеты «Чырвонае гарно», а Мінка так удала намаляваў Цімошку з сябрамі каля самагоннага апарата ў лесе, што нават і мы, якія бачылі ўсё сваімі вачыма, рагаталі да колікаў у жываце. На малюнку сядзелі перапалоханыя Вінцук і Мікодым, шырока паразявіўшы раты, а Цімошка, развёўшы рукі, запрошваў нас на пачастунак.

А пад допісам і малюнкам я, ужо не баючыся нікога і каб усе ведалі, што кожнае злачынства будзе пакарана, падпісаўся з гонарам «Чырвоны аловак».

На сяле паспакайнела. Нават устрывожаныя Вінцук, Мікодым і Цімошка маўчалі. Ведалі, што на іх заведзены судовыя справы, і чакалі вырашэння. Казалі людзі, што некуды ездзілі, спрабавалі замазаць, але нічога не выйшла. Вінцук за лес, а Мікодым за дзяржаўную муку былі засуджаны, і аднойчы Раман Місуна, прыехаўшы з воласці, забраў іх з сабою. Цімошка ж адрабіўся вялікім штрафам ды стаў такім лагодным, што ты яго хоць у вуха кладзі. Ніхто не знаходзіў ужо яго за апаратам у лесе, хоць некаторыя казалі, што, на сваю патрэбу, гоніць Цімошка самагон у сваёй істопцы. Можа, і так, бо часта бачылі яго пад мухаю, але прыціхшага.

І маё жыццё ўвайшло ў пэўную, спакайнейшую плынь. Я болей чытаў і больш прадумана пісаў у газеты. А камсамольская ячэйка стала завадатарам усіх культурных мерапрыемстваў на сяле, ставіла спектаклі, ва ўсе вечары ўносіла сваё новае.

А ўвосень прыйшло для мяне нешта нечаканае. Пад самыя замаразкі, калі з раніцы на пасохлым лісці ляжыць першая восеньская сівізна, а з поля цягне гаркаватым дымком з ледзь прыкметным пахам печанай бульбы, у хату-чытальню з'явіўся сакратар валкома партыі Урбановіч з нейкаю прывабнаю маладою дзяўчынаю:

Прывітаўшыся, Урбановіч адразу перайшоў да справы:

— Вось Тамара Жызнеўская — знаёмцеся. Валком рэкамендуе яе на тваё месца... Яна культасветвучылішча скончыла.

Я аслупянеў ад нечаканасці і думаў, завошта, за якую правіннасць мяне здымаюць, але сакратар валкома зараз жа супакоіў:

— А цябе валком рэкамендуе за старшыню сельсавета. Хутка выбары. Спадзяёмся, што сяляне падтрымаюць нас, яны ж цябе добра ведаюць...

Я думаў, што мне сказаць. З аднаго боку гэта мне і падабалася, мяне вылучаюць на адказную справу, ды засмучала тое, што давядзецца пэўным чынам разлучыцца і з юнацтвам і з яго забавамі. Быць прадстаўніком улады — справа адказная.

— Ну, чаго задумаўся? — запытаў мяне Урбановіч.— Я папрасіў вечарам сход склікаць. Усё будзе добра.

У той жа вечар, у вялікай зале панскага палаца, адбыўся сход сялян нашага сельсавета. Калі Урбановіч, пахваліўшы мяне за добрую працу як вясковага актывіста, прапанаваў выбраць старшынёй сельсавета, ніхто і не спрачаўся.

— А ці не рана? — выкрыкнуў толькі пад хмяльком з задніх радоў Цімошка Сакун.

Але, пачуўшы «Табе б лепей памаўчаць!», замоўк.

Так я і стаў старшынёю сельсавета. Паважна насіў у кішэні гербавую пячатку і, набыўшы зялёны брызентавы партфель, штодня хадзіў па навакольных вёсках: і дзяліў зямлю, і збіраў страхоўку і падатак, а вярнуўшыся ў сельсавет, падпісваў акты грамадзянскага стану — і аб шлюбе, і аб нараджэнні. Чаго не любіў, дык падпісваць дакументы аб смерці. Вядома, сам быў малады і аб смерці не думалася. Аб якой там смерці можна было думаць, калі з'явілася ў хаце-чытальні новая загадчыца Тамара Жызнеўская! І з кожным днём я пераконваўся, што пасля Анэткі яна яшчэ мацней кранула маё сэрца.

## ЗАЙЗДРАСЦЬ І ЗАСПАКАЕННЕ

З пасадаю старшыні сельсавета я асвойтаўся хутка. Шмат чаму навучыўся ў свой час ад камісара Будая, ды і самі гады далі вопыту. І хоць мне падабалася кожны дзень рашаць якую-небудзь новую справу, я крыху сумаваў па хаце-чытальні. Колькі там было і газет, і брашур, і нават самых цікавых кніжак.

А яшчэ, па праўдзе кажучы, я пачаў заўважаць, што мне штодня хочацца пабачыць Тамару Жызнеўскую. Вельмі ж вылучалася яна ад нашых вясковых дзяўчат і сваім хрaктарам, і выглядам. Бялявы тварык з нейкімі асабліва прывабнымі ямачкамі на шчоках, і белыя частыя зубкі, калі смяялася, нібы гаварылі, што Тамара ніколі не сумуе. Яна была танклявая, сярэдняга росту, і ў што ні апраналася, ішло да яе стану. Ці то чорная спаднічка з белаю кофтачкаю, ці то невялічкая скуранка, ці зграбна павязаная чырвоная хусцінка. І поўныя ножкі ў чорных боціках. Ды і само імя Тамара было новае. Такіх яшчэ не было ў нашай акружцы. Прыехала яна з нашага павятовага горада, дзе бацька яе працаваў на чыгунцы. Гадавалася і вырасла сярод рабочай моладзі. Іграла і спявала ў «Сіняй Блузе» чыгуначнага клуба. Гэта і пацягнула яе ў культасветвучылішча, а далей, вядомая рэч,— наша хата-чытальня. Яна прыгожа спявала і нядрэнна танцавала, была яшчэ добрай выдумшчыцай, як кажуць, на ўсе рукі. Хутка прывабіла да сябе вясковых дзяўчат і хлопцаў. І ніколі не заўважалася, што ў вёсцы ёй сумна.

Пасада старшыні сельсавета вымагала, каб я сябе паводзіў больш стала. Я пачаў устрымлівацца ад танцаў на вечарынках, але адмежаваць сэрца ад юначых пачуццяў не мог. І калі па справах адлучаўся з сельсавета на некалькі дзён, дык пачынаў заўважаць, што нечага мне не хапае. Нейкая трывога і сум часамі апаноўвалі мяне, і надзіва ўсё знікала, калі я сустракаўся з Тамарай Жызнеўскай. І тут, ужо нягледзячы на імкненне трымацца стала, я не вытрымліваў і разам з усімі браў удзел у розных забавах.

Чым далей, тым больш адчуваў жаданне часцей ба-

чыць Тамару. Нават само імя, калі чуў, як хтосьці ўспамінаў яе, выклікала ў мяне замілаванне. Я адчуваў, што ўсё радзей і радзей успамінаю Анэтку. І што нанесены мне ёю боль знікае. І сам воблік першага майго ўлюбёнства паволі расплываўся. Я ўжо не збіраўся дамагацца Анэткі, тым больш што ў яе расло двое дачушак ад Восіпа Восіпавіча. А яго я ненавідзеў па-ранейшаму.

Толькі воблік Тамары цешыў мяне цяпер. І хоць я нікому і нічым не выдаваў сваёй зацікаўленасці да яе, сама яна, як кожная дзяўчына, нейкім асаблівым дзявочым пачуццём здагадвалася, што нечым мяне кранула.

А можа, і ўбачыла мяне самотнага, калі я позна ў цёмную і ў месячную ноч стаяў, вярнуўшыся з абходу сельсавета, на невялічкім драўляным мастку каля млына. У мельніка, у дамку за шлюзам, кватаравала цяпер Тамара Жызнеўская. Яна спала недзе за белымі фіранкамі, а я ўглядаўся то ў тыя вокны, то ў белапенную плынь і бясконца марыў. Можа, Тамара стала прычынаю, што я пачаў захапляцца вершамі пра каханне, якія трапляліся мне ў кніжках, а іх мне раіла чытаць яна. Вось і цяпер, калі стаяў у задуменні, неяк самі складаліся паэтычныя вобразы:

«Месячная ноч, маўклівае тваё акно, Тамара, ты спіш і не чуеш, што нечае сэрца блукае каля твайго ўзгалоўя. Ты спіш і не чуеш, як ценёнькія пасмы месячнага святла перабіраюць твае бялявыя валасы. А гэта не толькі месячныя пасмы, гэта і думкі мае пра цябе, яны ахоўваюць твой спакой. Яны шэпчуць табе, каб ты ведала, што нехта заўжды з табою. Ты спіш, Тамара, і не чуеш, як гулка пеніць у шлюзах вада, гэтак жа пеняць і мае пачуцці да цябе, і яны ніколі не будуць мець спакою.

Ты спіш і не бачыш бесперапыннай плыні, а яна вядзе мае думкі ўдаль, і я спадзяюся, што так, як далёка будзе каціцца вясною паміж цвяцістых берагоў гэтая плынь, і наша жыццё будзе плысці далёка-далёка... Ах, як хацелася б мне быць заўсёды ў гэтым жыцці з табою!..»

Я доўга стаяў у тую ноч на мастку пры млыне, пазіраючы на Тамарына акно, аж пакуль драч на лузе не пракрычаў, што пачынае світаць.

Назаўтра я не ўцерпеў і з саменькай раніцы з'явіўся ў хаце-чытальні, як бы мне была надта вялікая патрэба перамяніць кніжку.

А Тамара то жвава раскладала газеты на століку, то перастаўляла кніжкі на паліцах, то проста, узяўшы трапічок, выцірала пыл і на паліцах, і на падаконніках. Яна

быццам і не заўважала мяне. Я ўздыхнуў з палёгкай: значыцца, нічога не ведае аб маіх пачуццях і, вядома, не бачыла, як я прастаяў усю ноч у яе пад акном.

Змяніўшы мне кніжку, Тамара пацікавілася, ці не прыму я ўдзелу ў новым спектаклі. І калі я адмовіўся, сказаўшы, што мне цяпер няёмка іграць абы-каго, яна ўпікнула:

— Ільічу не было няёмка цягаць бярвенні разам з усімі на суботніку, а табе ўжо сорамна з намі пайграць. Ці не занадта ты думаеш пра сябе, Федзя?..

І яна засмяялася так звонка і прывабліва, паказаўшы свае мілыя ямачкі на шчоках, што я сапраўды збянтэжыўся і пастараўся хутчэй развітацца.

Удзень, захапіўшы свой брызентавы партфель, я зноўку пайшоў у далёкія вёскі, дзе за справамі забываўся на свае летуценні. А ўвечары, хоць і прапаноўвалі ў адным месцы добры адпачынак, хутчэй пакрочыў да нашага млына і, як раней, пад шум шлюзнае вады, паглядаў у Тамарына акно. Мне здавалася, што мае думкі могуць зусім нябачна дайсці да дзяўчыны. І сам сябе асуджаў, што ў мінулы раз, пад уплывам розных вершаў, занадта пяшчотна марыў пра наш далейшы лёс. Гэта зусім не да твару нам, камсамольцам. Цяпер стараўся думаць так, каб думкі мае былі сугучны таму, як пісалася тады ў баявых камсамольскіх газетах:

«Тамара! Мы маладыя кавалі новага жыцця. Моцна гучаць заклікальныя горны няўрымслівых сэрцаў, заклікаючы нас наперад да ўсясусветнай камуны. Ты і я — будаўнікі, многа ў нас клопатаў, шмат у нас і шчасця. Мы абвеяны агністымі праменнямі непер襄можных чырвоных сцягоў, плячо ў плячо, рука да рукі мусім ісці і не спыняцца».

«Ты спіш, Тамара! І не чуеш, што нехта чакае цябе, каб ісці разам будаваць новае.— І, глянуўшы на прываблівы месяц, які плыў над далёкімі абрысамі лесу, усё ж не пабаяўся і на гэты раз дадаць: — ...і хто цябе любіць...»

І назаўтра я не мог абысці хаты-чытальні. На гэты раз Тамара запыталася першая:

— А ці не ты, Федзя, стаяў доўга ўчора на нашым мастку?

— Не,— адказаў я засаромеўшыся.

— Ну, дык нехта вельмі падобны. І з такім партфелем, як твой... Я ўжо хацела нават выйсці і запытацца.

— Не,— зноў адмовіўся я.— А такі партфель якраз і ў страхавога канторшчыка з суседняе вёскі ёсць.

А сам думаў, што дайшлі да яе і не далі спаць мае мары.

І калі ўжо на трэці раз спыніўся я на запаветным мастку — усё раскрылася. На самым гарачым месцы маіх лятункаў паволі рыпнулі дзверы мельнікавай хаты. У знаёмай мне скуранцы ішла да мяне Тамара.

— А вось і ты, Федзя,— засмяялася яна.

— На гэты раз я,— як быццам апынуўся ўпершыню, пагадзіўся з ёю.

— Нешта і мне не спіцца... Ах, як тут хораша ў такі час. А я і не здагадвалася. Як прыйду, дык хутчэй у ложак. Глянь, які месяц... як ён люструецца на возеры. А гэты такі таемны шум каля млыновага каляса. Ну сапраўды цудоўна, як пішацца ў кнігах...

І яна стаяла побач, нахінулася да перакладзіны над вадою і кранулася майго пляча, і мяне ўсяго абдало нейкім невыносным жарам. Нават анямеў на час і не ведаў, пра што гаварыць...

А Тамара пыталася:

— Федзя, а ты быў у горадзе?

— Не, далей свайго мястэчка нідзе не быў. Нават поезда не бачыў...

— Ах, які ж ты адсталы, Федзя,— і ўсміхнуўшыся,— не крыўдуй, я таму, што ты многа чаго не бачыў. Не быў нават у сваім павятовым, а ў маім родным горадзе. А яшчэ «Чырвоны аловак»,— жартавала Тамара. І, відаць, успомніўшы родныя вуліцы, ажно ўздыхнула.

— Прыгожа тут, ах, як прыгожа, але каб ты бачыў, як хораша і ў нас. У нас, у даволі невялічкім гарадку. Асабліва на чыгунцы, дзе мы жывём... Там пераклікаюцца гудкі паравозаў, нібы жывыя людзі, то басам, то тэнарам, то дыскантам... А я разумею іхнюю гамонку. Адзін паравоз пытаецца ў другога: як ехалася, ці няцяжка было браць пад'ём на дарозе?..

«Не, лёгка,— адказвае той басам,— мне гэта не навіна, я заўсёды ўсё лёгка бяру...»

«Ну, не мані,— спрабуе ўлезці трэці,— я ж, ідучы насустрач, чуў, як ты крактаў...»

«Брахун, брахун, ты сам крактаў»,— адказаў адрывіста басавік і ўжо нікому не адгукнуўся.

— Хораша, Федзя, у такую ноч тут, а каб ты бачыў, як хораша ў нашым прычыгуначным садзе ў летні вечар.

Шэпчуць ліпы сваім мяккім лісцем. А электрычныя ліхтары, як сапраўдныя месяцы, вісяць па-над голлем. А моладзь, моладзь, яна ўсюды на дарожках, вясёлая, звонкая. А па пляцоўцы «Сіняя Блуза», спевы, танцы...— І Тамара яшчэ раз уздыхнула...

Я слухаў і баяўся перабіць, бо была яна поўная захаплення. І толькі адно, што адважыўся сказаць:

— Шкада, што я гэтага ніколі не бачыў...

— А ведаеш, Федзя,— і раптам яна дакранулася рукою да майго пляча: — Давай з'ездзім у горад да нас...

— А як жа я магу? — ужо з надзеяй адказаў ёй.

— Ну, а ці не можна, каб «Бядняк» запрасіў цябе як «Чырвонага алоўка» на якую-небудзь нараду? — І калі я прамаўчаў: — А то давай проста са мною на колькі дзянькоў. Ты не хвалюйся, спыніцца можна і ў нас. Мае бацькі добрыя...

— Я б з вялікай радасцю... Дзякуй табе, Тамара,— і, паціснуўшы яе руку, затрымаў больш як звычайна. Яна не спрабавала вызваліць яе, і гэта давала надзею думаць, што я ёй неабыякавы...

Мы прайшлі з ёю ўздоўж возера, але позні час паклікаў дзяўчыну дахаты, і яна, шапнуўшы сваё «бывай», хуценька знікла за ганкам.

А я доўга яшчэ хадзіў поўны надзей, і мне зусім не хацелася спаць. Я хадзіў і марыў пра тое, як мы з Тамарай паедзем у горад. І я ўжо яскрава ўяўляў сабе і вуліцу каля чыгункі, дзе яна жыве з бацькамі, і тыя паравозы, што сапраўды па-чалавечы пераклікаюцца, і чыгуначны сад, і моладзь, моладзь... І, вядома, Тамару, з якою там хадзіў. Аднаго толькі баяўся, як там паставяцца да мяне, простага, вясковага... Потым уяўляў, як мы заходзім у рэдакцыю «Бедняка» і як хваляць «Чырвоны аловак» за добрыя допісы, кажучы, што ад мяне можна чакаць і большага,— і ўсё гэта пры Тамары.

Ды, на жаль, не ўсё збылося так, як марылася. Праз некалькі дзён пасля нашае сустрэчы з Тамараю здарылася такое, што патушыла ўсе мае летуценні. У суседняе сяло на адпачынак прыехаў марак, камсамолец Яшка Баброўскі, якога два гады назад мы ўрачыста праводзілі ў Балтыйскі флот. Ён з'явіўся памажнелы, спрытны, падцягнуты, з мужным абветраным тварам і нейкімі асабліва зыркімі вачыма. А матроска з сінім адкладным каўняром, а белая бесказырка з такімі прывабнымі літарамі «Чырвоны курсант», а прамяністая зорка, а якары на рукавах, а

стужкі-стужкі, якія разляталіся ў бакі ад ледзь рухомага ветру! Як гэта ўсё было чароўна!

І вось у нашым сельскім клубе, у зальцы, дзе мы сваімі сіламі пабудавалі невялічкую драўляную сцэнку, адбываўся вечар самадзейнасці. Я некалькі дзён быў у воласці на нарадзе і не ведаў, што падрыхтаваны гэты вечар. Калі ж прыехаў і дазнаўся пра вечар, неадкладна памкнуўся туды з надзеяй сустрэцца з Тамараю. І сустрэўся, але так, што горка мне стала. Калі я прыстроіўся сесці, ужо ішоў паказ. Спяваў невялічкі наш хор. Я спадзяваўся, што пасля яго выйдзе Тамара, каб абвясціць чарговы нумар. І яна выйшла, і не адна, а разам з чырванафлотцам Яшкам Баброўскім. І пачалі яны скакаць «Яблычка». І як скакаць! Яшка, відаць, на караблі авалодаў гэтым танцам як след, ды і Тамара не ўступала яму. Вельмі ж узрушана і задзёрыста адбіваў Яшка сваімі чаравікамі чачотку, а Тамара, то падыходзячы да яго, то адыходзячы, высыпала такую выбіванку сваімі боцікамі, што зайздросна было глядзець на іх. Яшка ўсміхаўся, прывабліва ззялі прыгожыя ямачкі на шчоках Тамары. А як гарэлі іхнія вочы! А ўсе пляскалі і не адпускалі танцораў са сцэны, і яны то прыпыняліся, то пачыналі танцаваць ізноў, ажно пакуль Тамара не прытамілася. А тады яны зніклі за сцэнаю. Я чакаў Тамару, а яна не выходзіла. Чарговыя нумары абвяшчаў Мінка Буевіч, які лічыўся за агітатара ў нашай ячэйцы.

Я ўстрывожыўся. Хацеў пайсці за сцэну і пабачыць, што там дзеецца, але годнасць маёй пасады, думаў я, не дазваляе так рабіць. Я чакаў канца. І дарэмна. Лепш бы я не бачыў. Угледзеў Тамару з Яшкам праз акно, як яны, не затрымліваючыся, пасля сканчэння вечара пайшлі ў канец сяла. Яшка Баброўскі пайшоў праводзіць Тамару дадому.

Я хацеў пайсці следам, але зноў не адважыўся парушыць сваёй старшынскай годнасці. Не заходзячы дахаты, пасунуўся начаваць у пуню, дзе ў мяне было прыгатавана месца, у якое я забіраўся, не хочучы трывожыць бацькоў, калі вяртаўся позна.

Хоць і не вячэраў, але не думаў пра яду. Адно стаялі ўваччу Тамара і Яшка. Якія балючыя для мяне былі гэтыя малюнкі! Яны глыбока ранілі маё сэрца. Я закрываў вочы, спрабаваў думаць пра тое, што заўтра ў мяне цяжкі дзень, трэба ў адной вёсцы дзяліць зямлю, але ратунку не было. Уяўляліся Тамара і Яшка каля млына, на маст-

ку, над гулкаю плынню шлюзавае вады. Мне здавалася, што бачу Яшкаву руку на круглым Тамарыным плечыку і чую, як яна смяецца, паказваючы свае белыя дробныя зубкі.

Некалькі разоў я памыкаўся ўстаць і пайсці, каб паглядзець на іх, але пакрыўджанае самалюбства не дазваляла. Ледзь заснуў я, зમораны, раніцаю.

Назаўтра ж, хуценька паснедаўшы, падаўся на падзел зямлі ў тую далёкую вёску, каб забыцца на ўласныя перажыванні. І цэлы дзень, заклапочаны падзелам і другімі справамі, як быццам глушыў сардэчны боль. Начаваць застаўся там жа, каб быць далей ад гора, але спыніць сваёй трывогі не мог. Раніцою, ідучы дадому, спрабаваў пераканаць сябе, што, можа, і пакутую зусім дарэмна. Ці мала чаго пайшоў Яшка Бабро̆ўскі з Тамараю разам? Яму ж дахаты ў сваё сяло якраз туды, каля млына. Можа, ён і пайшоў дахаты адразу, а я пакутую дарэмна.

Выйшла так, што трывожыўся я нездарма. Назаўтра ў клубе сустрэў Яшку Бабро̆ўскага. І Тамару каля яго. Яны зноў удваіх нешта рыхтавалі. І мне здалося, я перашкодзіў ім. Ніхто з іх не прапанаваў мне пабыць з імі ці параіцца пра іх задуму.

Я выйшаў з клуба, перакананы, што ўсе мае добрыя лятункі скончыліся. Загінулі мае мары на паездку з Тамараю ў горад, не кажучы пра надзеі на далейшае. Мяне грызла зайздрасць.

Чаму я не такі, як Яшка Бабро̆ўскі. Чаму не я, а ён пайшоў у Чырвоны флот? Чаму не ў мяне, а ў яго так прыгожа і прывабна разлятаюцца матроскія стужкі над галавою?

А Яшка з Тамараю як бы выстаўлялі свае адносіны напаказ. Іх часта бачылі разам і ў клубе, і на палявых дарожках, і на мастку каля млына ў месячныя ночы.

Я хацеў забыцца на ўсё, але пачуцці крыўды яшчэ больш абвастраліся. Аднавіўся і глухі боль няўдалага кахання да Анэткі! Няўжо я такі нягеглы, што так лёгка кідаюць мяне? Я глядзеў у люстэрка і знаходзіў усё новыя і новыя адмоўныя рысы на твары. І толькі ўздыхаў. Спрабаваў пераканаць сябе, што не маю права спадзявацца на нейкую асаблівасць, але і гэта памагала слаба. І толькі адно важнае даручэнне з воласці адцягнула мяне ад штодзённых пакут. Мне даручылі даць ад сельсавета некалькі экспанатаў на сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскву. Наш сельсавет славіўся добрымі гатункамі бульбы і вы-

ключнымі антонаўскімі яблыкамі. Яны, як мядзяныя, налітыя пруткім сокам, красаваліся ў нашых гаспадароў за платамі. А яшчэ быў у саўгасе такі кныр, які славіўся на ўсю акружку. Вось усё гэта мне і было даручана ў самым найлепшым выглядзе даставіць у воласць. І людзей даць, каб завезлі ўсё ў павет да чыгункі. Справа і адцягнула мяне па некаторы час ад уласных перажыванняў.

А за гэты час адбылося нешта новае. У Яшкі Баброўскага скончыўся адпачынак, і ён падаўся зноўку ў Чырвоны флот. Я не імкнуўся даведацца, як ён бавіўся з Тамараю астатнія дні, нават пазбягаў, каб не трывожыць сэрца. Ды Тамара сама прыйшла. Была на пошце і прынесла мне пісьмо з газеты «Бядняк». Яна змянілася. Не была такая вясёлая, як некалі. Амаль моўчкі перадала заштэмпеляваны канверт і пайшла ў сваю хату- чытальню. Я здагадаўся, што яна і сапраўды закахалася ў Яшку Баброўскага і што ёй цяпер нялёгка. І, успомніўшы сваё, нават на нейкі міг пашкадаваў яе.

Так і разышліся мы з Тамараю, не пазнаўшы адно аднаго.

Я заняўся рознымі справамі, і пакрысе сціхаў боль майго няўдалага заляцання. Ды і Тамара замкнулася ў сабе. Падышла позняя восень, закружыла жоўтае лісце, сцюдзёны вецер часамі, як шматкамі полымя, шпурляў лістотаю паміж спахмурнелых хат, а затым — і зіма з густымі снягамі і моцнымі маразамі. Сустракаўся я з Тамараю толькі ў клубе ці чытальні, бачыў яе нязменна маўклівао, нават сумнаю.

І вясна не прынесла ажыўлення дзяўчыне. Мінула год, як з'явілася яна ў нас, а нібы яе падмянілі. А на пошту, як некалі спяшаўся я, зачасціла бегаць цяпер Тамара. Відаць, чакала пісьмаў ад Яшкі Баброўскага. Аднойчы я нагнаў яе лясною сцежкаю па дарозе дадому, і мы ішлі разам. Відаць, нам абаім не хацелася ўспамінаць таго, што некалі пачыналася паміж намі. А мне ўсё ж не цярпелася даведацца, да каго яна горнецца сёння, і я пайшоў на хітрасць:

— Тамара, ах, як вы хораша скакалі з Яшкам летась... Вось бы яшчэ раз паглядзець на вас!

Яна ледзь прыкметна ўсміхнулася і, відаць, зразумеўшы намёк, перасіліла сябе:

— Не, ужо не пабачыш ты, Федзя, нашага танца.

— А чаму?

— Ат,— адмахнулася яна і перавяла гаворку на другое.

Я так і не зразумеў тады яе становішча і толькі цераз колькі дзён, будучы ў вёсцы Баброўшчына, даведаўся ад Яшкавых сяброў, што ён скончыў ужо курсы, прызначаны малодшым камандзірам на карабель, а галоўнае, што больш узрушыла мяне,— Яшка жэніцца на гарадской дзяўчыне...

І я зразумеў, чаму не хацела Тамара нічога гаварыць мне пра Баброўскага тады, калі сустрэўся з ёю ў лесе. Я нібы і быў задаволены тым, што так атрымалася, але было крыху яе і шкадавата.

Мне хацелася пагаварыць з ёю, і я нават узрадаваўся, калі праз некаторы час сустрэўся зноў. Была вясна ў самай сваёй поўні, калі на кожнай кветцы сядзела амаль па пчолцы, а на кожнай галінцы па птушцы. І Тамара Жызнеўская, мне здалося, нібы ачуняла вясною. Зноўку з'явіліся прывабныя ямачкі на шчоках. Выпала так, што я амаль цэлы дзень быў разам з ёю. Быў наш так званы камсамольскі суботнік. Мы ўсёй ячэйкай у бліжэйшай камуне, што арганізавалася паблізу нас, працавалі на «камсамольскай дзесяціне». Саджалі бульбу і гародніну. Канечне, я ўвесь час наглядаў за Тамараю. А яна, у сваіх чорных боціках і ў скуранцы, у чырвонай хусціначчы, ішла ўслед за плугам за свежаю баразною і з пляцёнага кошыка саджала бульбіну за бульбінай. А мне здавалася, што кладзе яна ў зямлю літару за літарай, і ўяўлялася, як хутка за ёй вырасце зялёны радок нашага новага жыцця. Чуўся яе звонкі галасок: яна перакідвалася жартамі з хлопцамі і дзяўчатамі.

Вечарам, калі скончылі работу, я захацеў пабыць на адзіноце з Тамарай. І гэта было не вельмі цяжка. У яе была асобная дарога на млын, а я прыдумаў, што і мне трэба па сельсавецкай справе туды ж, і мы апынуліся разам.

Яна стала зноў такая ж вясёлая і непасрэдная, як і тады, калі прыехала. Я нават здзівіўся, што яна сама пачала гаворку:

— Федзя, помніш, ты пытаўся ў мяне, ці будзе наш танец з Яшкам Баброўскім?..

— Ну,— ад нечаканасці толькі і вымавіў я.

— Дык вось, Федзя, не будзе, не будзе гэтага танца...

— А чаму?..

— А таму, што і мяне ты разам з Яшкам ніколі не ўбачыш...

— А чаму? — зноў спытаўся я, нібы нічога не ведаючы.

— А таму, што ён здраднік...

— Як так?

— Ат, не хачу казаць, сам даведаешся.— І яшчэ паспрабавала засмяяцца.— Усе вы, хлопцы, здраднікі,— гаварыла яна далей.— Ах, Федзя, Федзя, «Чырвоны аловак», глядзі, каб і ты не закружыў дзявочых галовак.

— Не, я не такі, каб здраджваць,— сур'ёзна сказаў я.— Тамара!.. Хацеў я табе нешта сказаць, але не адважваюся.

— І праўда, падумай яшчэ, Федзя,— і яна павярнула на сваю сцяжынку да мельнікавае хаты.

А назаўтра здарылася такое, што крута павярнула маё жыццё. У сельсавет прыехалі сакратар валкома разам са старшынёю валвыканкома Будаём. І нібы ашпарылі мяне нечаканай весткаю:

— Федзя!.. Ёсць рашэнне павятовага камітэта камсамола адклікаць цябе на камсамольскую работу. Мы далі згоду.

— А як жа я? — у разгубленасці толькі і здолеў вымавіць.

— Нічога, справішся, Федзя!

У той жа вечар адбыўся сход сялян, на якім выбралі новага старшыню. Мяне ўзрушыла, што некаторыя выступалі і не хацелі адпускаць. Але, калі даведаліся, што сам я не супраць падацца ў горад, спагадліва казалі:

— Што ж, яго ўсё наперадзе!..

Сапраўды, я чакаў нечага незвычайнага менавіта наперадзе. Хацелася пазнаць новае і шкада было, прызнацца, пакідаць Тамару Жызнеўскую, да якое ізноўку сэрца горача памкнулася.

Я не мог паехаць, не развітаўшыся з ёю. І я прыйшоў на запаветны масток каля млына. Шумела шлюзавая белапенная вада, і плылі па ёй занесеныя ветрам, адцвіўшыя пялёсткі. Прыйшла і Тамара. Мы глядзелі на імклівую ваду і на пялёсткі, якія знікалі ў ёй. Тады я адчуў у сабе паэта. І я сказаў:

— Глядзі, Тамара! Вось, як гэтыя пялёсткі, пралятаюць і нашы гады з табою. І няма ўжо ім звароту назад...

І Тамара, нібы адчуўшы маё сэрца, пяшчотна палажыла сваю руку мне на плячо:

— Вось і трэба, Федзя, каб хутка яны не знікалі... І каб як можна даўжэй яны красавалі.

А яшчэ яна, адчуўшы маю засмучанасць і, відаць, здагадваючыся аб маіх пачуццях, спагадна праказала:

— А я таксама хутка прыеду ў горад. Хочацца пабачыцца з бацькамі...

— І знойдзеш мяне, Тамара?

— А як жа, і я правяду цябе на чыгунку. Ах, колькі будзе ў цябе сяброў, Федзя! І ты пабачыш паязды... І, чуе маё сэрца, павязуць яны цябе далёка-далёка...

Я быў вельмі ўзрушаны. Мне хацелася пацалаваць яе, але збаяўся. І толькі моцна, па-камсамольску, пацiснуў яе такую любую мне далоньку.

Я ад'язджаў вельмі рана. Яна гэта ведала. І, можа, таму, калі я, ужо развітаўшыся, праз колькі хвілін азірнуўся назад, я ўгледзеў, што Тамара ўсё яшчэ стаяла на запаветным мастку і глядзела мне ўслед. І, убачыўшы, калі я павярнуўся, доўга махала мне чырвонаю хусцінкай над галавою.

## ЗАКОНЫ СЭРЦА

Заўсёды, калі Міна Марук абходзіў свой участак лесу, ён спыняўся перад высозным, разложыстым дубам. Марук палюбіў яго яшчэ з дзён партызаншчыны, калі размаўляў з ім, быццам з жывым. Яму здавалася нават, што дуб нагадвае дзеда Адама, якога ўжо не было на свеце, бо не вярнуўся дзед з лесу, калі карнікі напалі на лагер.

А калі Міна сам прыйшоў у партызанку, ён і ўявіў, што дзед Адам няйначай ператварыўся ў гэты магутны дуб. Стаяў Міна, схіліўшы галаву, і яму здавалася, што ў дуба такія ж моцныя, вузлаватыя рукі, як і ў ягонага дзеда, а шэпат лісця пад ветрам нагадваў спакойную, разважную дзедаву гамонку, калі той апавядаў калісьці ўнуку пра нешта паважнае і доўгае.

Міну было ўсяго шаснаццаць год, калі давялося стаць мінёрам у партызанскім атрадзе. Ён хутка засвоіў, як падкладваць міну туды, куды яго пасылалі: і пад рэйкі на чыгунцы, і на шашу, а было і пад які склад у варожым гарнізоне. Ягоны спрыт хутка стаў вядомым ва ўсім партызанскім лагеры. А начальнік мінёраў Піліп Лагуцкі жартаваў:

— Ды цябе ж бацькі мінёрам і нарадзілі, нездарма Мінаю назвалі.

А партызанскі паэт Цімох Бязлітасны нават вершык пра яго склаў, які не раз зачытваў каля партызанскіх вогнішчаў:

Там, дзе Міна
Ложыць міну,
Там заўсёды фрыцы гінуць.
Пруць вагоны пад адкос,
Гады ж фрыцы да нябёс,
Ды не цэлыя яны,
З іх кавалачкі адны...

І памятае Міна Марук, як кожны раз сваю ўдачу, калі было гэта вясной ці ўвосень, адзначаў пасадкаю маладых дубкоў. Вось ён і цяпер з прыемнасцю паглядае, як дружнаю чародкаю абкружылі яны дуба-дзеда. І за кожным з іх прыгадваецца Міну Маруку пэўная падзея, што адбы-

лася ўжо больш за трыццаць год назад, у якой ён вызначыўся з сябрамі. Вось і самы апошні, але чамусьці вышэйшы ад усіх дубок, які ён пасадзіў у «рэйкавую вайну». Ажно на трох кіламетрах падарвалі яны тады ў розных мясцінах рэйкі з сябрамі. Ды не пашанцавала Міну. Асколкам варожае гранаты, якія шпурлялі фрыцы ўслед партызанам, што адыходзілі ў лес, адарвала ў яго на левай руцэ ажно тры пальцы. З таго часу Міна Марук і абыходзіцца дзвюма на левай руцэ. Спачатку было нязручна, а пасля прывык.

А з партызанскім лесам былы мінёр не развітаўся. Як толькі вызвалілася родная зямля ад нягоднікаў, падаўся Міна Марук у леснікі. І з таго часу больш за трыццаць гадоў амаль кожны дзень абыходзіць свой участак рознымі сцежкамі, пільна сочыць за сваімі абшарамі. Яму тут усё знаёма і блізка: і стромыя сосны, якія ўзняліся мядзянымі станамі па выгарах, і калматыя яліны, што зялёнымі падаламі абкружылі сябе, а з-пад іх дзе-нідзе паглядае махавічок, а то і сам баравік, фанабэрыста надзеўшы цёмна-чырвоны брылёк, і вечна неўгамонны асіннік, што сваімі неспакойнымі лісцікамі, быццам шархоткамі, звоніць нават пры слабых павевах ветру, і часты-часты ядлоўчык, пруткі і бухматы, у голлі якога будуюць свае гняздзечкі хітрыя птушачкі, бо ніякаму звярку не здагадацца, што ў гэтым ядлоўчыку ўтульныя сялібкі невялічкіх птушанятак... А чарніцы і паземкі, а суніцы і галабоні... куды ні глянеш, нешта новае і новае... А сцежкі-сцежкі, па якіх яны варочаліся заўсёды ў лагер, быццам у хату, каб дакладжыць пра зробленае і адпачыць...

Любіць Міна Марук прыязныя яму мясціны, дзе пражыў у партызанах амаль тры гады. Вось ідзе ён па знаёмых сцежках і пераходзіць уброд невялічкую рачулку... Вунь і тая бяроза на крутым беражку па-над струменістымі хвалькамі, якія перакочваюцца з каменьчыка на каменьчык ды гамоняць з зялёнаю красуняю. Вялікая вырасла ўжо бярозка, а тады ж была зусім маладая... Такая, як і ягоная Марылька, з якой Міна пасябраваў у партызанцы. Бялявая, гаваркая і, нягледзячы на вялікае гора, заўсёды бадзёрая. Была Марыля разведчыцаю ў атрадзе. Часта хадзіла з даручэннямі да сувязных у бліжэйшыя вёскі і ў суседнія атрады. У яе заўсёды было шмат навін. Міна памятае, як у вольныя часы, пасля выканання чарговых даручэнняў, сустракаліся яны тут і гаварылі, гаварылі і пра тое, чым жылі тады, і пра тое, што будзе

пасля вызвалення... За частымі сустрэчамі і гаворкамі сардэчнымі моцна пасябравалі яны, ды і пакахалі адно аднаго. І хоць не прызнаваліся пра гэта, але абое адчувалі, што разлучыцца ўжо не могуць. Памятае Міна, як Марылька абмывала ды перавязвала яго скалечаную далонь.

— Што я цяпер буду рабіць, такі калека? — хмурыўся Міна, але Марыля выводзіла яго з тугі:

— Тое, што ўсе. Падумаеш, калека, без трох пальцаў. Цяпер і не такія ваююць.

— Ну, добра, міну я падкладу і адною рукою... А застануся жывым, на што я варты ў гаспадарцы?

— І зробіш, і прыладзішся да ўсяго... А яшчэ,— і яна ўразіла хлапца нечаканым,— а ў мяне, бачыш, рукі якія дужыя. Удваіх мы з табою горы перавернем!

І абхапіла яго за шыю. Міна ажно захлынуўся ад шчасця.

— Дык як жа... дык як жа... дык да чаго ж ты гэта гаворыш... — хоць і ўражаны, але абнадзеяны, зашаптаў ён.

— А да таго, да таго...— і яна, раптам цмокнуўшы Міну ў шчаку, пырхнула ад яго і знікла ў гушчары.— Не гаруй, Міна!.. — данеслася здалёк.

З таго часу, як памятае Міна, і пачалася ў яго з Марыляй такая дружба, што з'яднала іх назаўсёды.

Лесніку Маруку цяпер крыху за пяцьдзесят. Шмат чаго змянілася з таго часу. Ёсць у яго з Марыляю і сын і ўнук. Толькі сын, ажаніўшыся, падаўся ў горад на будоўлю, пакінуўшы дзеду на выхаванне малога Андрэя. Але і сёння, стоячы пад запаветнаю бярозаю па-над рачулкаю, Міна ўспамінае, як прыходзіў сюды некалі і чакаў Марылю. Вунь і той заваротак у рачулцы, дзе вада заўсёды ціхая, дзе ён перад спатканнем прыхарошваўся. Мыў задымлены і запылены твар і прычэсваўся грабянём, які сам зрабіў з бярозы-чачоткі. Па даўняй звычцы ён і сёння, зняўшы форменную шапку з цэшкаю, глянуў у ціхі закутак, як у люстэрка, і з вады паглядзеў на яго, хай сабе пастарэлы і пагрубелы, але яшчэ бадзёры твар. Міна спаласнуў твар сцюдзёнаю вадою, і перад тым як насунуць на галаву сваю форменку, задаволена разгледзеў яе і нават з любоўю пагладзіў дубовыя лісткі свае лясное адзнакі.

Адпачыўшы крыху каля рэчкі, рушыў далей у абход. Настрой ягоны ўзнімаўся разам з сонцам, якое штохвіліны, набіраючы сілы, прабівала лістоту і абсыпала яго ўсяго

дробнымі зайчыкамі. Ён праходзіў дзялянкі, дзе рабілася падсочка, і ўчасткі з новапасаджаным хвойнікам на месцы высечанага лесу і з падзякаю ўспамінаў школьнікаў, якія шмат дапамагалі. Цешыўся са свайго ўнука Андрэйкі, што ў лясной справе быў першым памочнікам. Такім задаволеным Міна, відаць, і вярнуўся б з абходу, калі б не гэтыя прыкметы, што спачатку ўзрушылі яго, а пасля і прывялі да месца злачынства. Спрактыкаванае Мінава вока заўважыла ласіныя разарваныя сляды між пасівелага моху і штампаваныя гумовыя адпячаткі ад ботаў, якія асабліва выразна відны былі, калі ступалі на краціныя свежанарытыя кучкі. Значыць, нехта гнаўся за ласём, пераканаўся Міна Марук і заспяшаўся як мог далей. Цераз колькі гоняў ён апынуўся на месцы, дзе, відаць, нядаўна ўсё і адбылося. Спачатку заўважыў кроў, якая вісела кропелькамі на верасах, а пасля ўжо дробным шнурочкам павяла яго да густога алешніку, а там, нарэшце, разгарнуўшы кусты і голле, Міна заўважыў здратаваную траву і мох. Гэта лось у астатнія хвіліны біўся капытамі па іх, драпежна забіты нейкім злачынцам. На ядлоўцавым галлі побач засталося некалькі шкуматкоў і шызае поўсці, калі, абдзіраючы бакі, ірваўся знайсці тут схovішча лясны красун.

У Міны сціснулася сэрца, твар абліўся потам. Такога ў ягоным абходзе яшчэ не было.

— Хто б гэта мог? — стараўся здагадацца ён і, як ні ўспамінаў усіх навакольных, нікога падазронага не знаходзіў. А яшчэ непамысна было Міну і тое, што непрыемнасць гразіла і ягонаму сябру-егеру Лявону Спірыдовічу, да нагляду якога належаў гэты лясны ўчастак.

— Трэба паведаміць зараз жа... — вырашыў ён і рушыў дадому. А калі выйшаў на лясную пясчаную дарожку, дык заўважыў і выразныя адбіткі шынаў машыны.— Значыць, тут справа адбылася і не без шафёра. Быць не можа, знойдзем вінаватых!..

І ён усхвалявана пайшоў шпарчэй, увесь час маракуючы, як жа пра ўсё дазнацца.

Было за поўдзень, калі Міна выйшаў з лесу на палявую дарожку. І хоць гадзінніка Міна не меў, адчуў, што якраз пара палуднаваць, бо ў гэты час сустрэўся з ім Андрэйка, які варочаўся са школы. Дзед дужа любіў унука і за тое, што хлапец вельмі цікавіўся дзедавай справай, і за характар ягоны спакойны, разважлівы, і нават за падабенства ў характары. І хоць гэтага Міна не выказваў

пры людзях, але проста асалода разлівалася па ягоных грудзях, калі чуў, як людзі гаварылі пра Андрэйку: «Ну, выліты ж дзед!..»

Андрэйка і сёння спакойна прывітаўся, але крыху ўстрывожыўся, прыглядаючыся да дзедавага спахмурнелага твару. Як заўсёды, ён цікавіўся, што новага бачыў ягоны дзед, бо той меў звычай расказваць Андрэйку ці пра якога звярка, ці пра качак, што жывіліся на рачулцы, ці нават пра тое, дзе ён знайшоў чмялінае гняздо.

Але дзед маўчаў. Толькі, прайшоўшы амаль паўдарогі да хаты, запытаў:

— Ну, а як у цябе ў школе?

— Ды на пяцёрку сёння, дзядуля! — хочучы падбадзёрыць дзеда, прашчабятаў Андрэйка.

— А ў мяне, браце, на двойку, дый яшчэ горш, на адзінку,— прабурчаў стары.

— А што такое?

— Забойства, мой унучак, забойства...

І ён расказаў Андрэйку пра ўсё, на што наткнуўся ў часе абходу. Ён гаварыў аб гэтым так, што быццам сам бачыў, як канаў красун лось.

— А дзе ляжыць той лось? — горача запытаўся Андрэйка.— Я з хлопцамі збегаю паглядзець...

— У тым-та і бяда, што няма яго, а трэба і лася адшукаць, і таго, хто забіў яго.

— Я раскажу ўсім хлапцам у школе, быць не можа, дазнаемся...

— Гэта добра, Андрэйка, але і мне трэба нешта рабіць. Такога ж у нас яшчэ не было.

Вось такіх, заклапочаных, і сустрэла іх абодвух Марыля.

— Чаго ты так доўга бавіўся, полудзень астыў? — напікнула яна дзеда, не зважаючы на ўнука.

— Лася забілі!.. — паспяшаўся апярэдзіць дзеда Андрэйка.

— Якога лася?..

Андрэйка і тут не мог дачакацца, пакуль адкажа дзед.

— Якога? Рагатага! Такога, у якога рогі вельмі прыгожыя, у нас у школе на сцяне вісяць...

— Пачакай, Андрэйка! — стрымаў яго дзед.— Я раскажу. Ды не я яго забіў, нехта другі. Памятаеш, блізка каля рэчачкі, дзе мы з табою...

— А дзе той лось?

— Ды я толькі кроў ды поўсць бачыў... А хтосьці забіў і павалок...

— А што табе? — спакойна сказала бабка, стаўляючы дзеду з унукам крупнік на стол.

— Як што? У маім абходзе! Ды і шкода! І егеру нашаму будзе непамысна...

— Няхай яму і будзе шкода!..

— Я ж не магу так, Марылька,— нібы ўжо раззлаваўшыся, адказаў Міна.

— Мы знойдзем... мы знойдзем, дзядуля! У нас у школе пра ўсё ведаюць,— стараўся заспакоіць Андрэйка.

Але ўвесь полудзень і нават адвячорак прайшоў у лесніковай хаце сумна. Час ад часу, нават нешта робячы, стары сам сябе пытаў:

— Хто б гэта мог быць?.. Хто б гэта мог быць?!.

Нават у ложку ўжо ніяк не мог заспакоіцца. Ён маўчаў, часта варочаўся, уздыхаў. Марыля любіла Міну яшчэ з дзён партызаншчыны, перажыла з ім шмат нядолі і добра ведала Мінаў характар. Яна спрабавала адвесці гаворку ў другі бок, прыгарнула, як некалі ў маладосці, ягоную галаву да грудзей, ды пераканалася, што дарэмна. Ужо занадта ўсё ўзяў да галавы Міна. Нават раззлавалася:

— Ну, забілі дык забілі, не чалавека ж...

— Дык жа шкода вельмі... Ды і егеру ж...

— Шкода, шкода... Хопіць яшчэ і ласёў.

— А дзяржава што на гэта скажа?

— Не хвараэй ты за дзяржаву, не збяднее. У яе ўсяго хапае...

— Як ты можаш так казаць, Марылька?..

— А так кажу, што спі ты ўжо!

Міна прытварыўся, што заснуў, а напраўду дык спаць не мог. Амаль цэлую ночку перабіраў у памяці кожны двор суседняга сяла, спрабуючы здагадацца, хто б гэта мог зрабіць.

А раніцаю, пачапіўшы стрэльбу за плечы, пайшоў да егера Лявона Спірыдовіча. Знайшоў таго за сваёй працаю. Габляваў Лявон дошкі пад павеццю.

— Ведаеш ты пра лася? — з ходу запытаў Міна.

— Ды ведаю ўжо, чаму ж не,— здалося, абыякава адказаў Лявон і нават нездаволена, што лезе Міна не ў свой клопат.

— Дык што рабіць будзеш?

— А што... пайду заўтра і заяўлю.

— А чаму так позна?

— А гэта ўжо да мяне належыць. Забітага лася ўсё роўна не адратуеш, а тут вось рамы да восені аднавіць трэба. Зімою акалееш...

Міна пайшоў ад егера растрывожаны. Мала таго што не падзякаваў за дапамогу, дык яшчэ, відаць, раззлаваўся.

І Міна раптам падумаў. А што, калі ён сам і забіў? Дый пра дошкі падумаў, а ці не з тых яны пнёў, што й цяпер стаяць голыя ад тайна спілаваных хваін у ягоным абходзе?

З такім цяжкім настроем і пайшоў Міна ў свой абход. На гэты раз паабыходзіў нават такія глухія мясціны, дзе і сам рэдка бываў. Можа, некага падцікуе: ці парубшчыка, ці сваволька-паляўніка, якія ганяюцца за дармовым здабыткам. Але нідзе нікога не знайшоў. Праўда, дзень быў не такі, каб спрыяў парушальнікам. Ціхі. Сонечны. І ласкавы. Нават лісцікі на дрэвах быццам прыхарошваліся, выпростваючыся і вызваляючыся ад ранішняй расы. І сэрца Мінава таксама вызвалялася паволі ад перажытага і нават крыху разамлела ад ласкі, калі ён сустрэў нечакана дзівосны малюнак. Непадалёк ад таго месца, дзе ўчора адбылося забойства. Міна пачуў трубны ласіны рык. Можа, таму, што Міна наблізіўся да лася якраз у час яго глыбокага закліку, той не заўважыў яго. А Міна, прысеўшы на пяньку, з-за кустоў ажыны любаваўся яго прыгажосцю: спрытнае, нібы вылепленае прыродай-мастаком, даўгаватае цела ласнілася карычнявата-сіваватаю поўсцю на спіне. А рогі! Яны то прыгіналіся да спіны ад закінутае галавы, то ўздымаліся ўгору, адмысловыя, невыказна прыгожыя ў зялёна-кактусавай пабудове.

Міна прытаіўся, каб не спалохаць красуна, і ўхвалявана любаваўся ягонай прыгажосцю і ў той жа час перажываў: а можа, ён кліча сваю сяброўку, тую, якую ўчора здрадліва прабілі куляю, а цяпер, відаць, парэзалі на кавалкі і ўпісваюць, ухмыляючыся, пасля добрае чаркі... А можа, прыйдзе на ягоны заклік другая, адтуль, куды далятае ягоны заклік, і, значыцца, жыццё ідзе далей... Міна радаваўся, што лес ягоны прываблівае вось гэтакіх красуноў і трэба клапаціцца добра пра лес і пра яго магутнасць. А ў сэрцы ў Міны варушылася невялікая крыўда і на сваю Марылю. Гэта ж, у партызанах, яна была такою сумленнаю, дасціпнаю, дзялілася апошняю бульбінаю з тымі, хто гараваў больш за яе, пасабляла папраўляцца параненым, перавязваючы іх ласкутамі парэзанае дзеля гэтага апошняе льняное сарочкі. Адным словам, у прыклад

усім была, калі жылі ў бядзе і ў горы. А вось пачалі жыць лепш, дык відавочна змянілася. З'явілася ў яе нават нейкая зайздрасць.

— Паглядзі, вунь як людзі жывуць! — часамі ўпікала яна Міну, намякаючы на сястру сваю Лізу і на яе мужа Сідара. Ліза, ці, як усе ў наваколлі звалі, «Лізка-Лізавета», працавала прадаўшчыцай у краме, а Сідар Барадэйка шафёрам. Яна мела, як людзі казалі, сёе-тое ад крамы, а Сідар ад таго, што на сваім грузавіку слугаваў патрошку людзям, ды, відаць, недарэмна.

Міна крыўдзіўся на Марылю, што яна папікала яго сваёй сястрой і яе чалавекам. Міну і самога дзівіла, што пасля вайны сваякі змяніліся на вачах у горшы бок. А пра Лізку гаварылі ўсялякае і жартавалі:

— Лізка-Лізавета, я люблю цябе за гэта!..

А яшчэ любіла катацца Лізка з шафёрамі, пакуль не спынілася на Сідары Барадэйку, і нават сёй-той злосна насміхаўся.

— Накаталі шафёры Лізку, накаталі... — намякаючы на тое, што Лізка нарадзіла сваю дачку неўзабаве пасля вяселля з Сідарам. Ды Барадэйка стараўся сябе супакоіць тым, што дачка была падобна на маці. А яшчэ яму здавалася, што вочы ў дачкі ягоныя.

Крыўдзіўся за ўпікі на Марылю Міна, а вось сёння і да яго закралася думка: ∎ можа, ён і папраўдзе жыве не так, як трэба, можа, было б лепш жыць, як Лізавета з Сідарам? Здабываць усё, што можна, і як найбольш, і жыць у сваю асалоду. Можа, і праўду кажа Марыля, што хопіць у дзяржавы і лесу і ласёў...

Ды не, не — ён рашуча адганяў ад сябе такія чорныя думкі. Ніколі не быў, не будзе Міна Марук такім!

А прыйшоўшы дадому, пабачыўшы сваю Марылю з унукам, нават асудзіў сябе, што так дрэнна падумаў пра яе. Марыля завіхалася ля печы, а Андрэйка сядзеў за кніжкаю пры стале. У хаце было вельмі ўтульна, што так і вабіла ў ёй пасядзець. Часта засланая аерам, свежавымытая падлога напаўняла ўсе куткі такім пахам, што адразу ўяўлялася рэчка, зарослая чаратамі пабліз бору. Ды і Марыля была прыбрана нібы па-святочнаму, вышываная кофтачка абцінала яе паўнаватыя грудзі, а белы чэпчык так ішоў да яе льняных валасоў. Нейкая асаблівая пяшчотнасць разлілася па Мінавых грудзях. Ён нават запытаўся:

— Якое сёння свята?

— А хутка тройца! Ты і не ведаеш?

— Дык ты надумала ўжо цяпер святкаваць?

— А што, табе гэта шкодзіць? Вельмі мала свят у нас, а я ж іх люблю...

— Ну, як сабе хочаш,— пагадзіўся Міна, і сам, зняўшы стрэльбу, прысеў каля ўнука.

Андрэйка ў школьнай форме пры чырвоным гальштуку выглядаў таксама крыху па-святочнаму.

— І ў цябе тройца? — пажартаваў дзед.

Андрэйка ўздыхнуў:

— І ў мяне тройца, толькі вось па алгебры... Але я выпраўлю гэта. А вось пра лася...

— А што пра лася? — узрушыўся Міна.

— Нічога не даведаўся, дзеду. І ніхто ў нас нічога не чуў.

— Ды хопіць вам пра таго ўжо лася,— перапыніла ўнука бабка.— Сядайце лепш вячэраць!..

І яна, паставіўшы на стол паліваную місу з мачанкаю і высыпаўшы на свежы абрус горку дранікаў, сама ўзялася за яду.

Некалькі хвілін макалі ў верашчаку моўчкі. Але калі Міна рассмакаваў добра мяса, тушанае ў гаршку, і адчуў нечаканы пах алешніку і асіны і нават быццам ягельніку, ён устрапянуўся і запытаў:

— А дзе ты ўзяла гэтае мяса? Я думаў, што мачанка з нашае салёнае кабаніны, а гэта ж свежае...

— Ды Лізка прынесла цяляціны, дзякуй ёй.

— Адкуль жа яна ўзяла цяпер цяляціну?

— А ты еш вось ды дзякуй,— нібы ўжо раззлавалася Марыля.— А калі цябе так цікавіць, дык Сідар, казала, ажно з-пад Брэста прывёз ад таварыша. Гаварыў, што прырэзаў той цялушку, бо скрывіла нагу ў лесе...

— Так, так... Нешта ж цялушка лесам пахне...

Але далей не вёў сваіх здагадак Міна, бо не хацелася гэтага рабіць пры Андрэйку. А ў самога кальнула ажно ў сэрца: няўжо гэта Сідар забіў таго ласябе?..

Палажыўшы відэлец, ён перастаў есці, а, каб Анрэйка не падумаў чаго, паспрабаваў весела сказаць:

— Дзякуй, дзякуй і Сідару, і Лізцы, і табе! Смачная вячэра...

Ды раптам перавёў гутарку:

— Андрэйка, пойдзеш заўтра са мною?

— Ой, як я хачу! Як я хачу, заўтра ж нядзеля...—

устрапянуўся Андрэйка.— А тройку я перараблю на пяцёрку...

— Толькі сумленна, Андрэйка, сумленна.

— А я заўсёды так, як ты кажаш, дзеду...

— Ну, дык кладзіся, адпачывай, а ранкам, чуць развіднее, і ў дарогу.

— Зараз жа! — і Андрэйка, разабраўшыся, схаваўся пад коўдраю.

На Міну ж тым часам нападаў усё большы клопат.

— Няўжо ж гэта Сідар? — усё пытаўся ён у самога сябе.— Вось табе і швагер... Вось табе і баявы партызан!..

Марыля доўга прыглядалася да Міны і нарэшце не вытрымала:

— Чаму ты такі заўзяты? Што ты ад гэтага маеш?

— Што я маю? Усё! — рашуча сказаў Міна.— Хлеб маю? Маю! Што апрануць ёсць? Ёсць! І страху над галавою. І сын вывучыўся, а цяпер працуе. І ўнук вучыцца. Што табе яшчэ трэба?..— хваляваўся Міна.

— А машыну сваю маеш? — з'едліва шаптала Марыля.

— Не,— пагадзіўся Міна.— А навошта яна табе?

— Як навошта?.. Як навошта? — ужо засакатала, як сарока, Марыля.— А вот жа Лізка з Сідарам на сваіх «Жыгулях» катаюцца. Усюды ездзяць і свет бачаць. І з людзьмі знаюцца. А ты, апрача свайго хвойніку ды ельніку, нічога не бачыш...

Міна нічога не сказаў на гэта, толькі было адчуванне, быццам нехта кіпцюрамі падрапаў сэрца. І пайшоў спаць. Але і на гэты раз заснуць не мог. Не варушыўся, каб не разбудзіць Марылю, якая неўзабаве ціха захрапла. «Нічога яе не кранае,— думаў ён.— Шчаслівы чалавек! Можа, з такім, як Сідар, ёй бы жылося лепш...» І зноў узнікла: «А што, калі б яму павучыцца ў Сідара Барадэйкі? Мала там што могуць людзі сказаць...» Але прыгадаўся Андрэйка, такі адкрыты і дапытлівы, з чыстымі, як ранішняя раса, вачанятамі, і ён адагнаў ад сябе здрадлівыя думкі. «Яшчэ невядома, што з каго будзе. Андрэйка можа быць шчаслівым, а вось Барадэйка — ці надоўга. І хіба ў гэтым шчасце?»

Пад раніцу Міна ўсё ж прыдрамнуў, нават не пачуў, калі ўстаў Андрэйка. Ускочыў, калі паварушыла Марыля.

— А-а-а, Андрэйка!..— задаволена загаманіў дзед.— Ты сягоння мяне перагнаў. Ну што ж, і ў дарогу!..

— Ды перакусіце хоць, ляснічыя,— пажартавала з дзе-

да і ўнука Марыля. І, сабраўшы на стол, частавала іх, нават не ўспомніўшы ўчарашніх размоў.

А дзед узброіўся стрэльбаю і, закінуўшы за плечы рэчавы мяшок, у якім ляжаў акраец хлеба з салам, пазваў унука за дзверы. Андрэйка захапіў невялічкую сякерку.

— А на што яна табе?..— запыталася Марыля.

— А я сабе ружынку зраблю, а яшчэ хачу і вулейчык для чмялёў...

— Хай прывыкае да майстэрства,— адобрыў дзед, і, узбадзёраныя яскравым, хоць сцюдзёнаватым ранішнім сонейкам, яны таропка рушылі ў дарогу.

А ў лесе Міна ўстрывожыўся зноў. Не пакідалі ранейшыя думкі: «Няўжо гэта Сідар? Ну, швагер, швагер... Табе ўсяго мала. Ды і Лізка — цаца. Можа, яна яго і зводзіць?»

І ён вырашыў цвёрда падпільнаваць, прасачыць, а калі што якое, дык па закону! Няхай сабе і сваякі! Няхай сабе і Марыля што хоча вытварае, а ён не даруе...

І Міна выкінуў сваякоў і апошнія прыгоды з галавы.

Андрэйка са сваімі ўсякімі роспытамі павярнуў увагу на сябе. Яму цікава было ўсё, што робіцца ў лесе, і дзед паказаў яму, як каля рачулкі працавалі бабры.

Ах, як прытаіўся Андрэйка каля дзеда, калі ўбачыў тых баброў. Іх было двое. Яны наладжвалі ў рачулцы запруду. З берага адзін падаваў напілаваныя зубамі асінавыя паленцы, а другі, узяўшы паленца на пярэднія лапы, быццам на рукі,— адплываў ад берага і спрытна ўторкваў паленцы ў мяккае балоцістае дно. Некалькі хвілін дзед з унукам глядзелі на незвычайных будаўнікоў, пакуль тыя не заўважылі іх і з прарэзлівым гукам «Ку!..» — ударылі па вадзе хвастамі, быццам лапаткамі, і зніклі.

Можа, з паўгадзіны Андрэйка з дзедам чакалі, а ці не з'явяцца бабры зноў, але яны не паказаліся.

Унук прасіў яшчэ пачакаць, але дзед паабяцаў паказаць нешта іншае, таксама цікавае. На невялічкім сонечным пагорку ў адным месцы ён прыўзняў кавалачак моху, і адтуль роем сыпанулі чмялі. Андрэйка кінуўся ўцякаць, але дзед супакоіў і, прыўзняўшы з гнязда чмялінную гронку, паказаў унуку соты — і тыя дробныя, што напаўняліся мёдам, і тыя, закрытыя глуха, адкуль павінны былі ў свой час выпаўзці маленькія чмялі.

— Многа, вельмі многа, Андрэйка, цудоўнага ў лесе,— гаварыў дзед,— ты толькі ўсёю душою прыслухайся да яго. І не шкадуй сваіх ножак, а пахадзі ўволю сёння са мной!

Яны ішлі, і сэрцы іх спявалі. А Міна Марук, мінаючы адну цікавую мясціну за другой, успамінаючы, што ў партызанцы ў вольную часіну і сам спрабаваў пісаць употай вершы, голасна, нібы дэкламуючы, выказваў свае думкі, якія прыходзілі яму за доўгія гады лесніцоўства.

— Вось ён, той магутны дуб,— толькі нячулы чалавек можа прайсці, не заўважыўшы яго, побач. Волат, сапраўдны волат!.. Глядзі, якія ў яго шырокія плечы, а рукі, рукі дужыя і вузлаватыя са скураю-карою, быццам каванаю, а галава, яго галава, за якую чапляюцца хмары і разрываюцца, ніякі пярун, ніякая маланка ёй не страшны, яна ніколі і ні перад кім не згіналася. А якое ўбранне... Лісце яго то моцна-зялёнае, то моцна-мядзянае летам спявае, а ўвосень і зімою звініць, як шархоткі. Не схіліў дуб галавы і ў вайну. І натхняў нас усіх, як сыноў. А мы часта стаялі пры ім, як тыя магутныя падлеткі-сыны, што абкружаюць яго цяпер і якіх я сам прывёў да яго. Слаўся, дуб наш, волат, герой, слаўся, красун!..

— Ты гаворыш, дзядуля, так, як у кніжцы,— заўважыў захоплены Андрэйка.

А той чым далей і сам захапляўся ўсё болей:

— Глянь жа, Андрэйка, на гэтыя яліны, на гэтыя сосны. Вунь яны — сосны гонкія, выносныя. Стан медзяністы, а шапкі пад неба. Яны быццам воіны-рыцары ў лесе. Ах, якое незлічонае войска! А яліны, яліны... Быццам паважныя гаспадыні, разгарнуліся ў лесе. Якія густыя і вечназялёныя іхнія сукенкі. Кропля дажджу не кранецца цябе, калі ты схаваешся пад імі ў любую навалу. А вунь, мы падышлі,— глянь на тыя бярозкі...

Быццам карагод самых прыгожых дзяўчат, разбегліся на гэтым лужку. Бялявыя станы, сукенкі з празрыста-зялёнага шоўку, а пацеркі, пацеркі... Іх пацалункі, як толькі растопіцца снег, сочна-салодкія...

А клёны, а клёны, што вунь на ўзгорку. Які майстра так адмыслова аздобіў узорамі шырокае лісце! Кожны лісток, быццам далонь, нібы жывыя жылкі на іх. Ах, як лісцейка гэтае ў познюю восень высока ўзлятае і, паўшы на дол, нібы прыкрывае яго ад марозу...

А вунь ясень, ліпы, граб — усяго не злічыць насельніцтва ў лесе. І кожны адменны. А глянь навокал: на ядловец, ажыну, шыпшыну, на маліннік гушчэразны...

А чуеш, праходзячы кладку,— не ўтаймоўваўся дзед,— як спявае ўсім дрэвам наша рачулка, а тая крынічка, дон-

ца якое пяшчанае бясконца варушаць і варушаць незгасальныя падзямельныя ключы...

А бачыш, галубы-варкуны, дзікія,—узняліся па-над усім і варкочуць, варкочуць...

— Дзедка, ты гаворыш, як быццам кніжку чытаеш,— заўважыў у другі раз Андрэйка.

— Не, унучак, я сэрца сваё, сэрца чытаю, яно ж у мяне навечна аддадзена лесу.

І раптам дзед спахмурнеў. Андрэйка гэта заўважыў адразу.

— Ну, а цяпер я табе пакажу і тое месца, дзе лася забілі,— і дзед павёў Андрэйку ў бок недалёкай шашы. Адсюль ужо чутна было, як па ёй сюды-туды гулі машыны. Але не прайшлі яны і сотні метраў, як дзед устрывожаны стаў і некалькі разоў панюхаў паветра.

— Гарыць,— сказаў ён.— Чуеш, Андрэйка, гарыць. Бяжым хутчэй, недзе гарыць!

І яны кінуліся наўпрост цераз зараснік і імшары. Праз некалькі хвілін яны ўжо ўбачылі, як чорны густы дым клубамі ўздымаўся з маладога ельніку, а ветрык, хоць і невялікі, даносіў выразна гаркаватыя пахі. Яшчэ праз хвіліну яны ўбачылі, як агністая жоўта-чырвоная стужка паўзла па сухой траве далей і далей...

— Андрэйка, давай гасіць!..— загадаў дзед і сам, скінуўшы ўсё з плеч, пачаў збіваць агонь яловаю лапкаю, ссечанаю Андрэйкаваю сякеркаю. Гэта не памагала, і дзед узяўся за лапатку, што прыхапіў з сабою. Разграбаючы мох да пяску, рабіў шырокую ачышчаную палосу, каб агонь не мог перабрацца цераз яе. Андрэйка гасіў агонь яловымі лапкамі і прытоптваў, дзе мог, але агонь то там, то сям пераскакваў на мясціны, здаецца, уратаваныя імі, і, дробнымі язычкамі ўспыхваючы далей і далей, усё больш пашыраўся.

І Міна загадаў унуку:

— Андрэйка, бяжы ў сяло, бяжы ў школу, заві людзей, скажы і ў сельсавеце... Трэба ратавацца, а то згарым, усе згарым. Кліч хутчэй!

Андрэйка кулём памчаў у бок сяла. А Міна, застаўшыся адзін, у адной сарочцы, спатнелы, як апантаны, кідаўся з месца на месца. Ён прыглушваў агонь у адным месцы, а той узнікаў у другім, і Міна баяўся, што вось-вось пакінуць яго сілы. Ён не заўважыў, колькі прайшло часу, калі побач пачуў выратавальныя галасы школьнікаў і настаўнікаў...

І ўжо ўсе разам абкружылі агонь з усіх бакоў. Прыглушалі на моху лапатамі, прытоптвалі, абкапвалі вузкімі раўчукамі, а мясцінамі засыпалі пяском... І агонь прыкметна здаваўся. Але ішоў агонь не толькі па зямлі, а скакаў і па вяршалінах дрэў вавёркаю з яліны на яліну, а пасля ўспыхваў аж пад неба з трэскам, іскрыстымі вогненнымі фантанамі.

Толькі пад вечар скончылі змаганне з агнём. І пад канец знайшлі прычыну пажару. Каля шашы, адкуль распаўзалася агністая рака, Міна з настаўнікамі і школьнікамі знайшлі вялізную, закіданую розным ламаччам яму. Там валяліся цэлыя і пабітыя бутэлькі ад гарэлкі і віна, пустыя бляшанкі з павыварочванымі скіўіцамі, розная пакамечаная і пашкамутаная папера. Каля пня ляжала разбітая ў цуры гітара са слядамі крыві на грыфе. Відаць, тут адбылася сапраўдная бойка п'яных гулякаў, якія наехалі з горада. Трава і мох каля гэтага сметніка былі да пяску здратаваны нагамі, ці то ў танцах, ці то ў бойцы, а агонь пачаўся метраў за тры ад логава, куды была, відаць, кінута непатушаная запалка альбо цыгарка...

Настаўнікі растлумачылі школьнікам, чаму і ад чаго тут пачаўся пажар, а Міна прыкінуў, колькі гэтым пажарам зроблена шкоды.

Змрочыла, калі ўсе вярнуліся дахаты.

А пасля ўжо да самых халадоў усё ў Міны было спакойна. Ніякіх здарэнняў у лесе. Праўда, бутэлькі і рознае смецце даводзілася прыбіраць часта, але пажараў не ўзнікала. Ды і забойства звяроў не сустракалася. І Міна жыў, як кажуць, звычайна, размерана. Абыходзіў лес, вяртаўся і рабіў што ў хаце. Адно Марылю як быццам хто падмяніў. Час ад часу яна ўпікала яго ўсё ў адным:

— Вунь, Хвядос з Пораўна, трактарыст, дык ужо два ордэны заслужыў. А ты што маеш у сваім лесе?..

— Пачакай,— спакойна пярэчыў Міна,— заслужу і я.

— Нешта не верыцца,— крывілася яна.

— Марыля,— ужо злуючыся, гаварыў Міна,— няўжо ты не разумееш, што лепш хай людзі скажуць: «Чаму яму не даюць?», чымся: «Завошта яму далі!»

— Ну, ладна,— пагаджалася Марыля,— хай сабе так будзе з ордэнамі, а чаму мы жывём горш за Сідара з Лізакаю?

— А чаго табе не хапае?

— Не хапае, не хапае...— не пераставала Марыля.—

І апрануцца так, як яны, не можам, ды і выехаць да людзей няма на чым.

— А можа, скажаш, што і чаркі не хапае? — ужо наступаў на Марылю Міна.

— А што ж, хай сабе і чаркі. Вунь, якая вясёлая ў Лізкі хата. Як заспяваюць, дык на ўсё сяло чуваць. А хто цябе чуе ці бачыць? Ваўкалак ты нейкі!

Даведзены да астатняга, у такі час Міна насоўваў на галаву шапку, апранаў што на плечы і ішоў у лес. Толькі там ён прыходзіў да ладу. Не мінаў ён і свайго дуба, якому часта скардзіўся на згрызоты дома. І калі б якая птушак, што чула Мінавы размовы, запісвала ўсё, ды каб магла перадаць гэта людзям, хто б даведаўся, што гаварыў усё гэта вельмі прачулы чалавек, якому дарага ўсё, што яго абкружае і якога вельмі неспакояць тыя людзі, што толькі і дбаюць, каб найболей нагрэбці ўсяго сабе.

А ўвосень, у першую ж парошу, здарылася такое, што і пацвердзіла Мінавы падазрэнні. Сідар Барадэйка — браканьер. Памог пераканацца ў гэтым Андрэйка. Аднаго разу, калі Міна варочаўся з лесу, сустрэўся Андрэйка па дарозе са школы. І, хто яго ведае, знарок ці выпадкова, пахваліўся дзеду:

— А мы ўчора з бабкай у цёткі Лізы цяляціну елі.

— Адкуль жа ў яе цяляціна?

— Казала, што дзядзька Сідар аднекуль прывёз.

— Ну і смачная? — як бы так сабе папытаўся дзед.

— Ды такая, як некалі ты казаў, што пахне лесам.

— Ты добра гэта распазнаў?

— Ну якраз пахне, быццам асінавай кары пасмокчаш і яшчэ грыбамі...

— Грыбамі не можа быць! — чамусьці, прыбавіўшы кроку, сказаў дзед.

Дома ён сярдзіта папытаў у Марылі:

— Ты была ўчора ў Лізкі?

— Была. А што?

— З Андрэйкам?

— А што, з ім нельга?

— Ды не пра тое я,— ужо больш строга дапытваў Міна.— А што вы ў Лізкі елі?

— Ты б, можа, лепей спытаўся, што я піла? Ну, ядлоўцавую настойку. Хіба няможна?

— А цяляціна чым пахне?

— Які табе клопат да Лізчынай цяляціны?

— Ды цяляціна не Лізчына, а Сідарава. Адкуль ён яе прывёз?

— Ха-ха-ха,— засмяялася Марыля.— Адтуль, дзе яе ўжо няма. Можа, думаеш з твайго лесу?

— А што ж, і з майго!

— Вельмі ты ўжо багаты, калі ўвесь лес твой. А вось у падрапанай куртцы ходзіш. А Сідар — малайчына, добра з ім жывецца Лізцы, вось што я табе скажу. Можа, і лася забіў. Дык жа не на спекуляцыю, а сабе! Як гэта ў вас завецца — браканьерам, ці што? Хай сабе і браканьер...

— Ты вось і не ведаеш, што гэта слова значыць. Папраўдзе, дык і я не ведаю, бо не нашай мовы. Але добра разумею, што браканьер — гэта злодзей. Забойца!

— А ты не кажы, чаго не трэба, пакуль не спаймаў.

— І спаймаю, пабачыш, спаймаю,— злосна і перакanana сказаў Міна і лёг спаць. Ён не падняўся нават павячэраць.

Міна ведаў, што пройдзе колькі часу, пакуль Сідар ўправіцца са здабытым мясам, і таму не надта і пільнаваў — дома ён ці не. Але выпала першая пароша, пачаліся невялікія маразы, і Мінаў спакой прапаў. Гэта самы найлепшы час для палявання на ласёў, бо забіраюцца яны ў густы алешнік ці асіннік, дзе са смакам грызуць кару і пачываюць у цішыні.

Аднаго разу Міна праседзеў цэлую ночку ў лесе, паблізтаго месца, дзе стаялі ласі, але толькі намёрзся, ніякіх паляўнікоў не прычакаў. Толькі наслухаўся, як крычаць совы ды, быццам друкуючы, грукаюць дзятлы па елках.

Раніцаю Марыля наляцела на Міну:

— Ты што, звар'яцеў? Прападаў цалюткую ноч. І нічога не сказаў. Я ж таксама ўсю ноч не заснула... Што ты ў партызанах, ці што?

— Ну, ладна, у партызанах, у партызанах... Не сказаў, бо само так выпала,— быццам прызнаўся ён у сваёй віне, але ў душы вырашыў, што неўзабаве зробіць тое ж самае.

Праўда, на гэты раз, каб не злавалася Марыля, давялося змані́ць. Выйшаўшы апоўначы на двор, вярнуўся і сказаў, што чуе, як пілуюць недзе ў лесе, мусіць пайсці праверыць. Марыля хоць і бубніла нешта з прасоння, але не пярэчыла. А Міна, хуценька апрануўшы кажушок і захапіўшы стрэльбу, падаўся на даўно прыгледжанае месца, дзе найбольш спыняліся ўночы ласі. Але як ні спяшаўся ён, ды спазніўся. Зноў знайшоў толькі акрываўленае

месца, але паспеў заўважыць, што мільганула воддаль нейкая машына. Адно цешыла, што пайшоў у лес на гэты раз недарма. Ноч была месячная, зорная. І Міна паспеў запомніць нумар грузавіка, на якім звезлі, відаць, забітую тушу лася: АБ 14—40. Яму здавалася, што гэта нумар машыны, якую водзіць Сідар Барадэйка. Але цвёрда не быў упэўнены, бо мала цікавіўся швагрусёвымі справамі. Хуценька пайшоў ён у сяло, дзе жылі Барадэйкі, і ўсё паўтараў той нумар машыны: АБ 14—40... АБ 14—40...

Дайшоўшы да сяла, Міна падаўся задамі, бо ведаў, што калі гэта зрабіў Сідар, дык ён не пад'едзе з вуліцы. Але, надзіва, ніякае машыны на двары не было. Тады ён сцяміў, што швагер хітрэйшы за яго: навошта ж яму ехаць задамі, калі прыгуменак бліжэй да лесу. Пакрадкам, ціхенька перайшоўшы вуліцу, Міна і сапраўды на гумнішчы ўбачыў Сідараў грузавік з тым самым нумарам: АБ 14—40. Глянуў нават у кузаў, але, апрача пасланае саломы і пустых мяшкоў, нічога там не было. Прыгледзеўся да Сідаравай хаты. Цёмна. Відаць, не дурныя — паліць святло. Прытаіліся. Але ўжо ўсё было цяпер Міну ясна.

Спачатку падумаў быў схадзіць да Лявона Спірыдовіча, але ўспомніў, як хадзіў да яго першы раз, і перадумаў. Такі непаваротлівы, можа не дапамагчы, а нават сапсуць справу. Пакуль выберацца што зрабіць, дык ад лася і валасінкі не застанецца.

І Міна Марук павярнуў у бок сельсавета. Бралася на світанне, у сельсавеце яшчэ нікога не было, і ён рашуча пашыбаваў да міліцэйскага ўчастка. Дзяжурны, калі расказаў яму пра ўсё Міна, як быццам быў незадаволены.

— Хоць бы адна ночка спакойная,— уздыхнуў дзяжурны.— П'янства, хуліганства.— І, пакідаючы на ўчастку міліцыянера, які толькі што прыйшоў з абходу, сказаў Міну: — Ну, давай паедзем!

— Не, я не паеду,— астудзіў яго Міна,— я вам усё расказаў, а цяпер упраўляйцеся вы самі...

— А ты што, баішся?

— А можа, і баюся.

— Яго, Барадэйкі?

— Не яго, а свае жонкі.

— Ну і ахоўнік лесу. Жонкі баіцца...

— Ды яна ж сястра Сідаравай Лізкі...

— Ну, тады ладна, абыдземся і без цябе. Толькі глядзі, акт усё роўна давядзецца падпісаць.

— Ды, відаць, падпішу,— адказаў Міна, думаючы пра тое, як яму апраўдацца перад Марыляю.

Дамоў Міна з'явіўся, калі Андрэйка пайшоў у школу, а Марыля пякла аладкі. Ён лёг спаць. А прачнуўся ад несамовітага Марылінага крыку. Чуў ён, што нешта расказваў Андрэйка, а Марыля ўсплясквала рукамі і крычала.

— Што такое ў вас? — папытаўся ён падымаючыся.

— Што такое? І ты яшчэ пытаешся?.. Гад ты печаны, вось што,— кінула яму адразу ў вочы Марыля.

А Андрэйка растлумачыў дзеду:

— Дзядзьку Сідара заарыштавалі.

— Як заарыштавалі? — яшчэ не ведаючы, як яму паводзіць сябе, перапытаў Міна.

— Прыехаў участковы з егерам. Зрабілі вобыск. Лася знайшлі... і заарыштавалі.

— Дык егер, значыцца...— спрабаваў прытварыцца Міна, што гэта яму ў навіну.

— Егер, егер,— наскоквала Марыля.— А ты нічога не ведаў? Дзе ж ты ўсю ночку бадзяўся?

І Міна не вытрываў і адказаў ужо цвёрдым голасам:

— Ну і ведаў.

— Дык гэта ты свайго швагра пасадзіў?

— Ну і я! Няхай не будзе злодзеем.

— Пасадзіў за кавалак мяса?

— За кавалак, ды яшчэ жывога... Хай ведае, як жыць трэба. Крадзенае бокам вылазіць.

— Ты пасадзіў свайго сябра-партызана.

— Ён ужо не тым стаў, кім быў тады.

— Як я буду Лізцы ў вочы глядзець?

— А так, як і я.

— Не, я так не хачу! Дык вось жа табе — на!..— І яна бразнула патэльню на падлогу, шпурнула з кута венік на сярэдзіну хаты.— Жыві сабе як хочаш, калі табе звяры даражэй за жонку і за радню! Жыві, а я пайду ад цябе,— і хуценька ўскінуўшы кажушок на плечы і ледзь прыкрыўшы галаву хусткаю, выбегла з хаты.

Калі засталіся адны, дзед з унукам некаторы час маўчалі. Андрэйку было шкода дзеда, бо ён ад яго навучыўся любіць і лес і ўсё жывое ў ім. І хоць унуку было шкода і бабку Марылю, але душою ў гэты час ён быў разам з дзедам.

— Ды, відаць, дзядзьку Сідара выпусцяць хутка,— хацелася яму паспачуваць дзеду.

— І я так думаю,— згадзіўся Міна.

— А што яму зробяць?
— Ды, відаць, зробяць допыт. А пасля суд.
— А што можа суд?
— Суд усё можа. На то ён суд. Можа — штраф, а можа, і турэмкі даць.
— Ай, дзеду, і мне шкода лася, таксама як табе, але турэмкі не трэба.
— Ды, відаць, так яно і будзе,— стараўся заспакоіць Андрэйку Міна.
— А як ты будзеш жыць цяпер адзін, дзеду? — не мог супакоіцца Андрэйка.
— Што ж рабіць, неяк жа буду.
— А хто нам варыць будзе?
— Ды самі. Я ж навучыўся ў партызанцы.
— А хочаш, і я табе навару. І ў лес хадзіць буду.
— А ў школу?
— Я ўсюды паспею.
— Не, дзякуй, мой унучак. Усё перажывём... Ты ўжо сваіх бацькоў не трывож, не пішы ім. А бабка вернецца...
— Вернецца? — ажно павесялеў Андрэйка.
— Пабачыш, так яно і будзе!
І Андрэйка павесялеў і пабег у школу. А Міна, пераканаўшы апошнімі довадамі ўнука, пераканаў і сябе. Ён нават заспяваў. Так яно і павінна было быць! Навошта крывіць душою? І Сідара навучаць, і стане ён зноў чалавекам!
Хатняй гаспадаркай давялося заняцца самому. Падмёў падлогу, прыбраў свой ложак, паснедаў. Не выдумляў вельмі чаго, а з'еў кавалак хлеба з малаком. Занёс сена карове. Пасыпаў таго-сяго курам. А справіўшыся, пасядзеў з гадзінку ў хаце. Думаў, быць не можа, хутка вернецца Марыля...
І каб адысці ад гэтае непамыснасці, апрануўся, ускінуў стрэльбу за плечы і падаўся ў лес.
А хаты не запіраў, бо можа прыйсці Марыля, а тады яму яшчэ перападзе і за тое, што і ў хату не хацеў пусціць.
У такім настроі Міна і ўвайшоў у свой абход, дзе яліны і сосны сваім шумам нібы абхінулі і заспакоілі яго, і ён крочыў усё далей і далей, прыходзячы да ладу.
Вечарам вярнуўся дахаты. Але як пакінуў клямку ў дзвярах, заторкнутую бярозавым пруцікам, так і застаў яе. Значыцца, Марылі не было. А гэта ж час карміць і даіць карову. І, узяўшы даёнку, ён заняўся Марылінай справаю. Добра, што некалі ў партызанцы яму давялося навучыцца і гэтаму.

За такою работаю і застаў яго Андрэйка.
— Дзе ты бавіўся дагэтуль? — папытаўся строга Міна.
— Ды ў бабкі з цёткаю.
— А што яны там робяць?
— І сварацца і плачуць.
— А дзе сам Сідар? — пацікавіўся дзед.
— Толькі цяпер вярнуўся.
— Ну і што?
— Судзіць, кажа, будуць.
— А што яшчэ?
— А яшчэ выняў з шафы бутэльку, і селі ўтраіх піць.
— І бабка п'е?
— І бабка.
— А чаму ты яе дадому не пазваў?..
— Ды зваў... Не пайшла.
— А што яна казала?
— Ідзі, кажа, ад мяне да свайго дзеда. І ты такі самы, як ён.— І Андрэйка са спачуваннем паглядаў на дзеда.
— Ну, што ж нам рабіць, Андрэйка? Не загінем, аднак, з табою. Хадзем вячэраць!
І яны павячэралі тым-сім, што было пад рукамі. Праўда, абодва сумавалі. А кладучыся спаць, дзед заспакоіў унука:
— Вось пабачыш, Андрэйка, бабка хутка вернецца, быць не можа, каб яна нас з табою пакінула...
Раніцаю, збіраючыся ў школу, Андрэйка занепакоена паглядзеў на дзеда:
— А можа б, ты схадзіў, дзедка, і перапрасіў бабку?
— Не, мой унучак, не буду. Не я вінаваты. Ды яна сама прыйдзе, недзе дзенецца!
Так яно і было. Цераз тры дні з'явілася Марыля. Прыйшла з Андрэйкам. Ці то ён пазваў бабку, ідучы са школы, ці сама прыладзілася яна па дарозе да ўнука. Прыйшла ціхая, лагодная. І ні ў чым не ўпікала Міну. Адразу ж моўчкі ўпраглася ў хатнія клопаты. А калі ўсе селі за стол, не ўтрывала:
— Скажу табе, Міна, нельга так жыць.
— Як — хто?
— Як Лізка з Сідарам...
— А што? — адчуваючы нядобрае, перапытаў Міна.
— А тое, што і Лізку з магазіна выгналі.
— Завошта?
— Ды не хапае грошай.
— А колькі?

— Пяць соцень.
— А што я табе казаў, а ты мяне не слухала.
— А хіба я прапіла гэтыя грошы?
— Не ты, але і сястру магла б перасцерагчы. Дык цяпер абаіх судзіць будуць? — цікавіўся і нібы сцвярджаў Міна.
— Ды абаіх, калі не паможам.
— Каму?
— Ну, хоць бы Лізцы! Давай пазычым ёй, Міна?
— Падумаю! — адказаў ён, а сам ужо рашыў бясспрэчна пазычыць, хай хоць не двое, а адзін будзе злачынец у хаце.
Мінула некалькі месяцаў. Прыйшла вясна. Усё зазелянела, зацвіло, сыпанула сонейка ў Мінаву і Марыльчыну хату, прыйшоў спакой, а трывога перамясцілася да Сідара з Лізкаю. Даволі там адгрукалі па падлозе і адспявалі, ажно калаціліся сцены. Многа было каля бутэлек сяброў у гаспадароў. А здарылася бяда, усе пахаваліся, як мышы па норах. І Сідар і Лізка заўважалі, што нават пацямнелі ў іх сцены і шыбы ўжо не так прыветна свяцілі ім, калі вярталіся дадому. Добра, што яшчэ Міна з Марыляю пазычылі паўтысячы і Лізка выкруцілася ад суда і засталася на рабоце. А Сідару да суда і яшчэ раз не пашанцавала.
Аднойчы, калі Міна абыходзіў свой абход, ён сустрэў Сідара якраз каля таго дуба з падлеткамі. Сядзеў ён на старым, выкарчаваным пні, апусціўшы сваю пасівелую галаву і, здавалася, не заўважаў таго, што дзеелася вакол.
— Здароў, Сідар!..— гукнуў яму Міна.
— Здарова, братка,— адказаў Сідар быццам узрадаваны, што прыйшоў Міна.— Я цябе з раніцы тут чакаю.
— Як жа ты здагадаўся, што я прыйду сюды.
— Міна, Міна!.. Я ж яшчэ з партызаншчыны ведаю тваю натуру.
— А чаму ты не прыйшоў дахаты? Гэта ж было б больш пэўна.
— Ды пасаромеўся Марылі. Яна б магла і выгнаць.
— Няпраўда, яна не такая. Яна ж і тваёй Лізцы памагла.
— Дзякуй за гэта. Але тое, што я буду прасіць, яна б, можа, і не дазволіла.
— Ды кажы мне проста. Відаць, ізноў грошы, і немалыя,— здагадаўся Міна.
— У тым-та і рэч, што немалыя. Быў суд. Паўтары ты-

сячы штрафу як лёду. А маглі б даць і турму. Партызаншчыну маю ўлічылі.

— Дык ты, можа, вінаваціш, што ўсё гэта праз мяне?

— Не, Міна! Я ўсё зразумеў. Некалі такое павінна было адбыцца. Яшчэ і так добра.

— А што?

— Прызнаюся толькі табе: тры ласі я забіў. А за аднаго спаганяюць з мяне. Так што памажы мне, Міна, і клянуся, што ніколі, ніколі я такога больш не зраблю.

Міна ішоў з Сідарам тымі сцяжынкамі, дзе некалі хадзілі юнакамі ў партызанцы, і думаў пра свайго былога сябра. Калі ён гаворыць праўду, дык трэба памагчы, трэба пасобіць чалавеку.

— Ладна, калі ты шчыра гаворыш. Параюся з Марыляю. Колькі табе трэба?

— Ну, хоць бы тысячу? — слязліва прасіў Сідар.

— Можа, тысячы і няма. Ёсць семсот... дадзім... пазычым... Толькі будзь чалавекам.

— Праўду кажаш, Міна, а я і не крыўдую... Павер, што я ніколі не забуду тваю дабрату... Не, і я праўду кажу: калі б ты не перапыніў майго злачынства, я, відаць, не спыніўся б. А чым бы ўсё скончылася. Толькі ты не кажы, што я тры ласі забіў.

Гэта была апошняя сустрэча Міны з Сідарам у тую вясну. Семсот рублёў у пазычку аднесла Лізцы Марыля. І Сідар, сабраўшы ўсё, што мог, разлічыўся па суду. Нават пачаў пакрысе разлічвацца з Мінам.

Неяк раз Сідар, аддаючы пяцідзесятку, ажно здзівіў Міну:

— А ведаеш, каб не цягнуць так доўга з аддачаю, паеду я на шахты.

— Куды?

— У Салігорск. Чуў, там добра зарабляюць.

— Ды я ж не падганяю цябе.

— Дзякую, я гэта ведаю. Але мне яшчэ і сорамна тут пасля ўсяго.

І Сідар паехаў. Прыслаў пісьмо Міну з Марыляю, што добра ўладкаваўся. Працуе на аўтаваганетцы пад зямлёю. Атрымаў пакуль койку ў агульным пакоі.

А чым далей, дык пісьмы ад Сідара былі ўсё весялейшыя. Ды і грошы прыходзілі часцей. Гэтак цераз год з нечым Сідар і разабраўся з Мінам.

У апошнім пісьме пісаў, што раіцца з Лізкаю: а можа, і ёй пераехаць да яго.

# СЫМОНАВА ГОРА

## I

Гэта было вясною. Сонейка ўжо высока плавала па небе, кідаючы пырскі залатых праменняў на зялёныя гоні. Цёплы подых маёвага вецярка песціў жыццё. Усё жывое ў гэты дзень жыло неяк незвычайна. Якаясь асаблівая радасць адчувалася, птушкі так весела і задорна спявалі. Звон маленькай, толькі што вылезшай траўкі быў такі пяшчотны, такі мілы. Рэчка іграла хвалямі, цалаваланаземістыя берагі, нібы і яна хацела разарваць свае граніцы, пайсці ў поле, на прастор, зліцца з ім, зліцца з вясною.

Здавалася, кожны лісток, маленькі, тоненькі лісток на дрэве гаворыць: жыць, жыць, жыць... Сімфонія птушыных галасоў зліваецца ў адзін акорд вясны і таксама чуваць: жыць, жыць, жыць...

## II

Сымон адзін ішоў вілаватаю дарожкай, якая ў даліне гублялася ў лесе. Вецер гуляў з чорнаю смоллю яго валасоў, перабіраў пяшчотнымі пальцамі пасмы яго кудрэй. Цалаваў расхрыстаныя грудзі. А ён ішоў ціхай хадою, уткнуўшы чорныя засмучаныя вочы ў зямлю. Нібы хацеў знайсці разгадку сваім жудасным думам вось у гэтых каляінах дарогі, якія ідуць далёка-далёка туды, дзе б ён мог знайсці сабе шчасце і спакой...

І думкі-мары плылі перад ім... Успомнілася бацькава хата. Такая старэнькая, уросшая ў зямлю з прызбай. Шыбы нібы стараліся вылузацца з пралалін вокан і плакалі потнай бросьняю. Комін скрывіўся ад непагоды. Страха дарыла ветру астопамі. Успомніў, і кволыя пяражыткі дзяцінства так і палезлі ў Сымонаву душу.

...Яму было 7 год. Ён быў тады такі шчаслівы. Пры ім была мама. Ён помніць яе. Такую мілую, хваравітую, і вось яна сядзіць за калаўротам і выцягвае даўгую кужэль-

ную нітку. Памакае пальцы ў місачку і ізноў цягне бясконца. Нават песню такую ж сумную і доўгую завядзе:

Дзе ж знайсці, дзе ж знайсці
Сваё шчасце, долю:
Ці ў бары дрымотным,
Ці ў шырокім полі...
Дзе ж знайсці...

Ён помніць, як сядзеў у яе на каленях, як яна часала яму валаскі. І такімі добрымі вачыма заглядала ў яго твар, поўнымі пяшчотамі матчынага сэрца. Ён помніць, як яна гаварыла:

— Сымонка. Мой Сымонка. Сынок дарагі. Маленькі ты цяпер. Нічога не знаеш. Падрасцеш — не забывайся пра нас, старыкоў. Не ведаеш ты, сынок, бацькавага гора...

І з воч яе падалі слёзы. Капалі яму на галаву, а яна гаварыла далей:

— Не ведаеш ты, сынок, свайго бацькі. А ён далёка-далёка... На самым канцы зямлі недзе. У Сібіры. І там ён, бедненькі, пад зямлёю. Вось ужо тры гады, як паехаў на шахты. Трэба быў кавалак хлеба. А апошні конік прапаў. Жыць было неяк... Паехаў. Але нешта баліць маё сэрца.

І слёзы яшчэ буйней падалі. Ён добра помніць гэта...

...Дзень і ноч плакала яна. Сядзела доўга моўчкі. Часамі толькі грудзі глуха адзываліся на ўздых. А вочы бяссэнсна глядзелі ў дол. Мокрыя, мяккія вочы.

Нават Сымону было неяк нудна і страшна, і ён разам з ёю плакаў...

Ён добра помніць, калі яна ўжо саўсім спакойная ляжала ў труне. Белая, белая. А на вачах былі застыўшыя слёзы.

Сымон зваў яе, прасіў адказаць яму хоць паўслова, але не адзывалася...

Толькі нейкія дзядзькі ды цёткі стаялі ля яе і гаманілі:

— Не вытрывала, бедная, гора. Забіла Базыля на шахтах... вось і памёрла...

Бачыў апошні раз. Толькі праз год Сымону паказалі невялічкі курганчык і сказалі — тут твая мама.

Доўга ляжаў Сымон на гэтай магілцы. Паліваў сваімі слязамі паросшую маладую траўку і клікаў маму...

Пасля ўжо далёка быў ад бацькаўшчыны. Наняў яго за пастуха адзін панок-шляхціц. Шэсць гадоў адтарабаніў. Памятае і гэта Сымон.

Досвіткам выганяў у поле і цёмна пryганяў дамоў. Многа раз быў няеўшы, многа мок пад дажджом. Пасля быў парабкам. Працаваў на падпанка як вол...

...Думкі абарваліся. Перад вачыма ўсплыла Гэлька. Сэрца так забілася.

Стаў азірацца. Угары ветлаківалі галлём стромкія сосны. Наабапал дарогі маўчаў верас. Толькі нейкія птушкі перагукваліся.

Сымон нібы апомніўся.

Успомніў, як пакахаў Гэльку — дачку свайго гаспадара-падпанка. Як яна таксама кахала яго. Як не раз ночкай, адкраўшыся ад усіх, яны ўдваёх сядзелі там у садку пад кучараваю старою ліпаю і слухалі адзін другога шэпты сэрца. Упіваліся маладосцю, шчасцем сваім, як пакляліся моцна і неразлучна любіць адно аднаго.

Год кахання.

Бацька-шляхціц прагнаў яго сёння з хаты. Нічога не даў.

А Гэлька заплаканая асталася. Прасіла, маліла бацьку — не памагло.

На твары Сымона брызнулі слёзы. Пастаяў. Падумаў нешта. Паглядзеў, як зялёны каларыт заклікаў да жыцця. Брыдка стала за слёзы. Выпрастаўся. Падняў галаву. «Жыццё — барацьба»,— сказаў і цвёрдымі крокамі пайшоў уперад.

Постаць Сымона схавалася між елак.

### III

Золак гарэў на ўсходзе. Кідаў малінавыя праблескі на зялёна-кучаравыя гоні. Туман шызаю плёнкаю ўзнімаўся павольна ўгару ад ледзь чутнага подыху вецярка. Кропелькі расы чыстыя, як дзявочыя слёзы, віселі на траўцы і блішчэлі брыльянтамі.

Па шляху, які ідзе ў бліжэйшы акруговы гарадок, у гэтую пару нельга было нікога прыкмеціць. Такая пусташ і цішыня.

Толькі дзесь далёка краталася адна стамлёная постаць, ледзь перастаўляючы ногі, з галавою, звісшаю на грудзі і такімі ж павісшымі чорнымі валасамі.

Відно было, што палова гэтага стану чалавека нястрымана жадала рухацца ўперад, а палова гаварыла аб адпачынку.

Ногі раз-два ступілі яшчэ па пяшчанай дарозе, узнялі клубы пылу, захісталіся і адмовіліся далей ісці. Постаць у бяссіллі звалілася на ўзмежак...

Гэта быў Сымон.

Сонейка вынырнула на зямлю, пацалавала ў твар незнаёмага бедака сваімі цёплымі ранішнімі праменьчыкамі. Вецер павольна перабіраў ласкуткі яго кашулі, шалясцеў пасмамі яго валасоў...

## IV

Сымон прачнуўся ад нейкага нячутага да гэтага ім гулу, які раптам ускочыў яму ў вушы. Вочы свавольна расчыніліся і паблёклай павалокай блішчэлі. Паглядзеў. Азірнуўся. Цяжкі ўздых вырваўся з грудзей.

Перад ім на дарозе стаяў і пыхцеў самакат. Згараючы, бензін распушчаў сіняватыя ручайкі дыму. З дзвераў машыны вылез мужчына гадоў пад сорак у шкураной курткі і кепцы. Вочы задуменна гарэлі на яго бледным твары.

Сымон глядзеў на яго стомленымі блукаючымі вачыма.

— Таварыш! што гэта вы ляжыце на дарозе нібыццам п'яны ці мёртвы? — запытала шкураная куртка.

Сымон абвёў вачыма ўсю яго постаць. Спусціў галаву ў дол. Слёзы пасыпаліся на пясок.

— П'яны я, таварыш. Жыццём п'яны. Гора маё прывяло вось мяне на гэтую дарогу і кінула бездапаможнага.

Вочы пад шэраю кепкаю яшчэ больш забегалі і заіскрыліся.

— Што ж за гора? Скажэце, можа, можна пасобіць?

— Выгнаў з хаты мяне кулак. Працаваў, стараўся. Усе свае сілы клаў на працу. Парабкам быў. Выгнаў... Нічога не даў. Г-а-д-зюка!

Твар Сымона напружыўся, стаў чырвона-цагляным, постаць свавольна выпрасталася, нібы-то ён збіраў апошнія сілы, каб у апошні раз змагацца з жыццём.

— А куды вы ідзіцё?

— І сам не знаю. Іду шукаць закону.

— Сядайце, я давязу вас.

Машына яшчэ мацней зарыпела і пайшла разварочваць глыбокія пласты пяску, пакідаючы ледзь прыкметныя адбіткі рызінавых шын.

Сымон сядзеў разам са шкураною курткаю. Курыў дадзеную яму папяроску. Гаварыў аб чымсьці так жыва. На сэрцы ў яго было лягчэй...

## V

Невялікі пакойчык з парудзелымі абоямі. Выцвятшы старэнькі столік. На сцяне партрэты Леніна, Сталіна, Рыкава. Нейкія дыяграмы з выведзенымі рознакаляровымі стоўбікамі і кружкамі. За столікам сухапары, смуглявы чалавечак ля трыццаці сядзіць і ў задуменні пераварочвае ліст згрэмзанае паперы. За спіной на сцяне невялічкая шыльдачка:

---

*Старшыня Акраддзялення*
*Саюза працзямлесу*

---

Сымон з сваім новым знаёмцам уваліўся ў гэты пакойчык.

— Добры дзень, дзядзька Матавіла.

— А! добры дзень! добры дзень! таварыш Секчароў!— ветла залепятаў смуглявы чалавечак, працягваючы руку.

— Што, ужо прыехалі?

— Так. Але я да цябе па справе. Я зварочваўся з раёна і па дарозе ўбачыў вось гэтага чалавека. Знайшоў яго непрытомным, бездапаможным. Захапіў яго сюды. Аба ўсім ён сам табе паведае. Трэба прыняць рашучыя меры, каб абараніць.

— Добра!.. Добра. Зараз.

Шкураная куртка развіталася з Сымонам і Старшынёй Саюза і схавалася за дзвярмі. Як потым Сымон даведаўся, гэта быў старшыня Акруговага Савета прафсаюзаў.

Сымон сядзеў здаволены, цягнуў папяроску, пушчаючы саромліва дымок у падлогу і апавядаў пра сваё гора.

Старшыня Саюза Матавіла доўга выслухоўваў, моршчыў лоб, нібыццам збіраўся з блытанымі думкамі, і нарэшце:

— Таварыш Рэдзька, напішыце скаргу батрака Зязюлі і з адносінай сёння ж перашліце ў суд.

## VI

Імем Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі грамадзянін фальварка Прытычына Фэлька Жмухоўскі за эксплуатаванне батрака Сымона Зязюлі прымаўляецца да аднаго з паловай гадоў зняволення. З маёмасці Жмухоўскага за неаплочаную працу Зязюлі ў карысць апошняга павінна быць аддадзена 400 рублёў альбо 1 конь, 2 каровы, 3 авечкі.

Злосна забегалі вусы Жмухоўскага. Радасная ўсмешка на твары Сымона.

— Сымон! Давай памірымся. Будзем жыць добра. Прасці мяне,— маліўся Жмухоўскі.

— Не, ужо досыць здзекаў. Не хачу!

Міліцыянер павёў Жмухоўскага...

Сымон з падскокам выскачыў на вуліцу.

## VII

Зноў быў вясновы дзень. Смяяліся зялёныя гоні пад пякотай сонейка. На двары ля клеці Сымон ладзіў калёсы. Ля яго сядзела і вязала панчохі Гэлька. Паміж іх поўзаў, як кацянё, чорнагаловенькі хлопчык.

Усе яны былі рады... рады жыццю.

## ПАМЫЛКА

Было ўжо позна. На вуліцах толькі нема мігцелі ліхтары, раскідаючы ў дрыжыках водбліскі на збітую панэль і камяніцы.

Дзе-нідзе прамільгне ля вугла сабака, ды зрэдку пралязіць па бруку возчык, везучы поўную брычку «ездакоў», напэўна, адкульсці з буйнай, п'янай гулянкі.

Зоры толькі спакойна паглядалі на хмурыя камяніцы, ды месяц плаваў між іх нібы вартуючы іх спакой. Здавалася, спіць ужо гэты маленькі, пануры гарадок, спіць усё жывое, каб назаўтра зноў замітусіцца і хоць на крыху ўзварушыць яго цішыню. Не спаў толькі Грышка. Чагосьці хадзіў ён па панэлі з апушчанай у дол галавою, мерна адшлепваючы «вясновую гразь» ціхаю паходняй. Грышку не спалася...

— Вось сягоння я камсамолец і нават актыўны — сакратаром гарадской ячэйкі,— думаў Грышка,— і добра палітадукаваны, а калісьці нічога, нічога не ведаў. Жыў на вёсцы. З дзяцінства ганяў у поле. Школы не было блізка. Так і рос не́вучнем. Усё ж такі вялікая школа гэты камсамол, трэба ж так перарабіць хлапца, што і спазнаць...— і Грышка задаволена ўсміхнуўся пры думцы, як будуць дзівіцца з яго суседзі, як прыедзе ён дадому на адпачынак...

І зусім не заўважыў Грышка, як перайшоў на другую вуліцу.

Раптам застанавіўся. Штосьці моцна прыкавала яго погляд угару. З вакон двухпавярховага каменнага будынку ліліся гукі вальсу...

Грыша застанавіўся, паразважаў:

— А! што, калі пайсці туды? паглядзець, як людзі праводзяць час. Некалі ж і я ў вёсцы надзвычайна любіў вечарынкі...

Пастаяў, падумаў Грышка і спраквольна пачаў узнімацца па ступеньках лесніцы на другі паверх.

* * *

Адчыніўшы дзверы, Грышка ўбачыў, як пар сорак хлапцоў і дзевак рознымі выкрунтасамі і вырабамі церабілі падлогу.

Адны так павольна, нахіліўшыся адзін да другога, калыхаліся ў гэтым віры гукаў, другія, здаецца, ажно з кожы вылазілі, як са ўсёй шчырасцю да дзесятага поту выстуквалі для лепшага «пафосу» нагамі, нібы шкадуючы натраціць у млявасці і хвілінку.

Музыканты дулі са ўсёй сілы. Нейкая захаваная боль гаварыла іх вачыма...

Цяжка было граць, а грошы трэба, бо трэба жыць...

У паветры была духата... Пар так і валіў клубам праз адчыненыя вокны...

Грышка сеў на ўслон і блыкаў вачыма па тварах гуляючых. Пераносіўся думкамі ў мінулае. Успомніў ён, як калісць яшчэ семнаццацігоднім юнаком таксама ўпіваўся гэтымі забавамі, як пазнаёміўся і пакахаў на вечарынцы вясковую дзяўчынку Агатку.

Яна была такая добрая, мілая... Не! але цяпер Грышка нікога не кахае, яму яшчэ шмат працы і вучобы наўперадзі, і толькі гэта ён моцна кахае, і толькі гэта яго цікавіць...

Вальс скончаны.

Узмыленыя парачкі пачынаюць адсопвацца, пашлі па розных кутках, махаючы каля твараў насавымі хусціначкамі, наганяючы імі вецярок і паціху перашоптваючыся. У кожнага з іх свае інтарэсы... кожны толькі і заняты сабой, не зважае на другіх. І на твары ва ўсіх такая ўтомленая асалода...

Музыканты абцерлі пот і пачалі перакурываць і размаўляць паміж сабой. Іх цікавіла, ці доўга ім трэба яшчэ іграць...

З натоўпу гуляючых прыйшла і села на вольнае месца на ўслоне ля Грышкі адна чарнявая дзяўчынка. Села і нервова церабіла пальцамі за край сваёй вязанай курткі, нібыта не здолеючы засланіцца ад якогасьці толькі нядаўняга ўражання. Яна была прыгожай.

Чорныя вочы з якоюсь захаванай глыбінёю і неразгаданасцю тупа глядзелі ў дол.

Пасмы чорных валасоў завіваліся на тонкай шыі і прыдавалі твару нейкую замілаванасць.

Гібкі стан павольна быў нахінуты ўперад і прыдаваў ёй нейкую асаблівую грацыёзнасць.

Грышка з зацікаўленасцю аглядаў незнаёмку. Яму было радасна, што і яна таксама аб чымсьці думае і не павярхова ўпіваецца рознымі «дрындушкамі» і скокамі.

Чамусьці дужа яму захацелася з ёй загаварыць. Ён сачыў за кожным яе рухам.

У гэты час незнаёмка загаварыла аб чымсьці з сваёй суседкай. Відна было, што гутарка была не асабліва цікавай, бо і вялася яна неяк вяла.

Раптам музыка зноў гранула... Незнаёмка ўстрапянулася і крута віхнулася ўправа, зачапіўшы локцем Грышку.

— Выбачайце! — неяк здрыгануўшыся сказала яна і паглядзела на Грышку.

— Калі ласка... нічога, мала што бывае.

Нервы ў Грышкі напрудзіліся.

Яму захацелася зараз жа загаварыць з ёй. З нецярплівасці выхапіў ён з кішэні папяросу і стаў круціць яе ў руках...

Пары зноў пусціліся ў пляс. Грышка яшчэ раз паглядзеў на незнаёмку і нерашуча пачаў:

— А чаму вы не скачаце?

— Нецікава, ведаеце. Усё гэта мішура. Нічога сур'ёзнага. І як можна скакаць, калі гэта не задавальняе цябе.

— А чаму вы? — у сваю чаргу запытала яна.

— Таксама нецікава. Ды і прыйшоў я не на скокі, а проста паглядзець.

Відна было, што яе таксама зацікавіў сваёй загадачнасцю Грышка, і яна з нейкай прытворнай наіўнасцю і ўсмешкай запытала:

— А! што ж вас цікавіць?

— Што можа цікавіць у нашы гады моладзь,— неяк рашуча сказаў Грышка,— праца, вучоба, вось наша мэта. Гэта і павінна цікавіць. Я думаю, што і вас, а можа, памыляюся?

— Не... таксама. Дзіўна, як мы аднолькава глядзім на рэчы...— сказала яна.— Але не менш дзіўна, як мы з вамі пачалі і вядзём гутарку зусім незнаёмыя.

— А хіба ж тут патрэбна афіцыйнасць?

— Не, але ўсё ж такі!

— Ну, дык будзем знаёмы. Я — Грышка Ціханаў — рабочы з лесапільнага заводу. Камсамолец.

— Ну, а я — Раіса Бярозкіна. Вучуся. Хоць і не камсамолка, але душою... таксама. Вось і знаёмы.

І абодва рассмяяліся.

Вечар скончыўся. Сабраліся разыходзіцца.

— Ну, дык цікава было б з вамі яшчэ ўгледзецца,— сказала Раіса.

— Добра! дзе-небудзь стрэнемся,— адказаў Грышка, і яны развіталіся.

* * *

Прайшло ўжо два тыдні як Грышка пазнаёміўся з Раісаю.

Спачатку дужа жадаў угледзецца, бо яна цікавіла яго сваёю працаю, але не ведаў адрасу, дык і не шукаў, а потым і забыўся.

Вясна ўжо набліжалася. Плакалі дахі камяніц зімовымі слёзамі. На вуліцах счышчалі снег, які пад промнямі палкага сонейка журчэў ручайкамі і сцякаў у дол. Панэлі гораду ажылі. Нібы спрасоння высыпала ўсё жыхарства парадавацца сонейку, парадавацца вясноваму дню.

Грышка стралою пралятаў паміж натоўпу па панэлі, бо спяшаўся, каб не спазніцца на чарговае пасяджэнне бюро ячэйкі.

Ён не глядзеў на акаляючае, бо ў яго думках была праца і яму некалі было зяваць па баках.

— Таварыш Ціханаў! добры дзень!..

Грышка ажно спалохаўся. Ускалыхнуўся... Штосьці знаёмае пачулася яму ў гэтым голасе. Ён стаў, паглядзеў набок. Каля яго стаяла Раіса і з заманкаю на яго паглядала.

— А-а-а! добры дзень! добры... Як вы жывеце? А я вас так хацеў бачыць...— неяк незвычайна пралепятаў Грышка.

— А вы не маніце?

— Не, сапраўды не!

— Ну ды і я вас таксама жадала ўбачыць,— з бачнаю какетлівасцю сказала Раіса...— Хочаце, пойдзем пагуляем? Сёння так добра, так вясёла! Здаецца, гуляў бы і гуляў.

— Чаму ж не. Я згодзен.

І Грышка запамятаваў на працу. Штосьці асабліва ўзварушыла яго сэрца, нейкі чад атуманіў яго галаву. Ён стаў бачыць перад сабой толькі дзяўчыну, а ўсё астатняе знікла бясследна. І ён пайшоў...

* * *

На вышцы прабіла ўжо дзве гадзіны начы, а Грышка ўсё не спаў. Качаўся з боку на бок. Вочы самі ўжо зліпаліся ад утомы, а ў мазгах усё па-ранейшаму блыталася, паказваючы ў успамінах усё новыя і новыя вобразы... Грышка думаў аб прайшоўшым дню.

Спатканне з Раісаю. Гулянне за горадам... яе дзіўна прыгожы стан... Яе словы: «Грышка, вы мне падабаецеся», «давайце гаварыць на «ты» і іншае не давала яму спакою. Ён нарачыта адганяў гэтыя думкі, стараўся думаць аб таварышах, аб працы, сіліўся заснуць, але не мог.

Яе словы: «Заўтра спаткаемся, а восьмай гадзіне за ракою» так і блыталіся ў яго галаве. Яму хацелася, каб гэтая ноч так непрыкметна праляцела, хацелася каб стала што-небудзь цудоўнае, каб зараз жа перавярнула зямлю, каб стаў дзень і хутчэй надыйшлі хвіліны спаткання. Самаю ўжо раніцаю заснуў Грышка...

* * *

— Не спазнаць Грышку! не спазнаць,— гаварылі паміж сабой яго таварышы па працы і ячэйцы.— Зусім змяніўся чалавек.

І сапраўды, Грышку цяжка было спазнаць. Гэта стаў не той Грышка, які так прагна аддаваўся працы і вучобе.

Гэты Грышка зусім другі. Часта ён адвільвае ад працы на заводзе, даючы розныя матывы: што хворы, што трэба ісці на пасяджэнне.

Не ходзіць зусім на сходы...

Не прыходзіць у клуб і чытальню.

Вечарам толькі і можна ўбачыць Грышку з якоюсь дзяўчынай альбо ў піўнушцы са смагаю глушачага піва. І апранацца зусім іначай стаў Грышка. Купіў сабе вострыя «джымі», мяняе часта гальштукі, нават купіў капэлюш і стусіну.

Так гаварылі яго таварышы...

* * *

Грышка і сам не знаў, што з ім робіцца. Ён пакахаў моцна Раісу. Яна патрабавала ад яго частых спатканняў, ды каб і яна цяпер не патрабавала, ён бы сам прасіў яе аб іх, бо іначай, яму здавалася, нельга жыць.

Яму хацелася зведаць штосьці нязведанае, новае... а як дайсці да гэтага, ён і не знаў. Ён моцна палюбіў Раісу, з каханнем выконваў яе розныя капрызы, а на астатняе не звярочваў і ўвагі. Грышка напаказ раскідваў сябе ў піўнушках...

Вось ужо пяць месяцаў, як Грышка гуляе з ёй. Ён ужо ўбачыў, што Раіса «не свая», што ёй другая дарога, чым яму, што яна ніколькі да яго не прывязана, а наадварот, яшчэ пахаладнела ў адносінах да яго. І толькі капрызнічала.

«Грышка! ты павінен сёння зрабіць тое, ты павінен пайсці туды!»

Грышка добра зразумеў, што ён памыліўся, што ён знайшоў не сябра, якога шукаў сабе, а «мяшчанку», якая досыць хітра звяла яго з дарогі і завяла ў балота.

Але выкарабкацца з гэтага балота ён не змог адзін. Не хапала волі крута павярнуць назад. Трэба была падтрымка...



Грышка апавядаў бюро ячэйкі, чаму ён дайшоў да такога разгульнага жыцця, чаму ён не працаваў, а піў цэлымі месяцамі.

— Не было ў свой час рэагавання з боку ячэйкі, а я кахаў, і гэты чад і «мяшчанская» вуліца расклалі мяне. Я не думаў, што яна такая...— гаварыў Грышка, панура спусціўшы галаву.

Слёзы адна за адной падалі на падлогу.

— Таварышы! я адкідаю ўсё. Даруйце мне... я буду зноў разам працаваць і вучыцца...

«Рыгору Ціханаву за ненаведванне сходаў, прагулы і п'янства даць строгі выгавар з папярэджаннем...»



Сонца ўжо хавалася па-за дахамі камяніц, раскідваючы ружовыя праменьчыкі ў шыбы вакон. На вуліцах было поўна народу. Гульлівая публіка па рознаму шчабятала на панэлі. Грышка ішоў ■ кніжкамі ў чытальню...

— Грышка! мне хочацца сёння ў кіно. Пойдзем?! — сказала, сустрэўшыся з ім, Раіса.

— А-а! гэта вы. Мне хочацца вам сказаць некалькі слоў. Пойдзем убок. І, адвёўшы, Грышка сказаў:

— Раіса, мы з вамі людзі розныя. Вас цікавіць адно, а мяне другое. Досыць таго, што я, не ведаўшы, раскідаў сябе напаказ перад вамі. Што за карысць нам вясці такую валынку. Вы ж мяне не кахаеце? так?

— Хам! мужык! хацеў, каб я яшчэ яго кахала. Няўжо я магу кахаць рабочага. А ад нечага рабіць, час правесці я была згодна і пакарыстацца тваёй прастатой... Фу, «какой чудак»! — і яна схавалася ў натоўпу. Так яны развіталіся...

* * *

Праз некалькі месяцаў я бачыў зноў жыццярадаснага, бадзёрага Грышку ў чытальні за кніжкай. І аднойчы напаткаў Раісу п'яную, напудраную з «нэпмачамі» ў адной з піўнушак.

## ТРЫ САСНЫ

Сярод невялічкага поля, сціснутага са ўсіх бакоў калматымі пералескамі, хмызнякамі, у сэрцы жытнёвага мора калоссяў стаяць тры сасны...

Пяюць калоссі... пяюць і сосны... Але больш глыбока, больш цягуча і прыгожа спяваюць сосны, калоссі толькі ўглядаюцца ў іх кашлатыя галовы ды падцягваюць мінорам... Неба жмурыць бровы і слухае песню, звесіўшы шапку на бок слухае вёска, слухае поле, лес, слухаюць усе... Прыслухайцесь ж вы, аб чым гэта песня:

Галя...

Вось і цяпер яна стаіць ля гэтых сасён. Гады праляцелі як віхор, падхапілі, закруцілі Галю ў сваім віры і ў развітанне паклалі на яе прыгожы лоб — пучок каляінак-змаршчын. Ад пацалункаў гэтых жа гадоў аснежана палова галавы ў Галі, ад абдымкаў іх — прыгнуліся плечы, ад іх пераажыванняў закаціліся вочы далёка-далёка, і ледзь-ледзь зеленаваты свет іскрыцца з-пад чорных, аснежаных броў... Вось пакаціліся слёзы як боб, гарачыя, празрыстыя. Кладуцца радкамі на жывы вянок магілкі... Галя сагнулася, абшчапіла так палка, так натхнёна гэты курганок зямлі, нібыта так, як абдымаюць дзяўчаты любага пры развітанні на доўгі час... А хто знае, мо гэтая зямля, якую яна так цёпла абдымае, і ёсць даражэй ёй за ўсё. Так яно і ёсць. Там пахаваны яе любы Рыгорка.

Таму ўжо 8 год.

А Рыгорку было семнаццаць...

Звіваючыся як вужака, цячэ Бяроза... Нішто яе не змяніла. Яна такая самая, як і сто год назад, і толькі вада крыху парыжэла. А чаго?..

1920 год. На тым беразе палякі. У нас чырвоныя. Гудуць гарматы, снарады ссякаюць верхавінне дрэў і галовы людзей, кулі свідруюць ствалы дрэў, пні, косяць траву і свідруюць сэрцы людзей.

Вунь, прыгнуўшыся, паўзе ля берагу ў зялёнай, чырвонаармейскай вопратцы і сам зялёны, малады хлапец... І толькі кучаравыя, чорныя як смоль валасы кажуць, што ён прыгожы, што гэта ўтома часова лягла на яго твар, яна

сыдзе тады, калі і на тым баку будзе вольна, вясёла... Гэта Рыгор Курган з вёскі Сівы Мох. Ён тутэйшы... малады, але хітры... быў атаманам партызан, а цяпер начальнік палкавой разведкі.

Аднойчы позняй ноччу, ледзь-ледзь ужо світала, палякі моцна ўдарылі па леваму флангу. Нашых было мала. Не вытрымалі... адступілі. Рыгора паклікаў камісар палка. Прамова кароткая была: «Рыгор, ты застаешся зноў на партызанскай рабоце. Ненадоўга!.. Арганізоўвай і работай!»

Рыгор не чакаў больш нічога з губ гэтага абветранага, мускульнага твару. Ён ведаў свайго камісара і камісар яго.

* * *

Ноч. Цемень абшчарэпіла поле і лес, грудзьмі налягла на згорбленыя стрэхі хат. Здалёку белаю зданню свеціцца панскі палац... Там штаб польскай дывізіі. Рыгор вужакаю паўзе па канавах, ля частаколу... Яму трэба выхапіць сакрэтныя дакументы... Хутка, з наскокам тыгру перахрушчвае горла вартавому... Толькі ўздох — о-о-х!.. хрып... і больш нічога. Ускаквае згарача ў пакой. Шукае... пот на лбу... рукі дрыжаць ад нервовасці... Узламвае скрынкі... няма! Моцна пугаецца і назад. У дзвярах:

— Стой! Пся крэў!..

Дарэмныя патугі... звязалі і ўкінулі пад варту ў яму для бульбы...

* * *

Дзень як нарачыта вясёлы. Смяецца сонца, але ныюць мужыцкія грудзі... Рыгора вядуць да трох сасён. Побач чатыры з чатырохкантоўкамі і шаблямі, якія агідна блішчаць. Адзаду вусаты ў палетах... А яшчэ воддаль недзе і ўцягнецца, пакідаючы ручаі слёз, Галя, паўзе старая маці і шамкаюць у знямозе губы.

* * *

Тры сасны.

— Стой, пся крэў!..

— Яшчэ раз кажы, дзе астатнія?!

Маўчанка — адказ.

— Растшэляць!

А паабапал поўзаюць і слязьмі льюцца маці і Галя...

— Даруйце, паночкі, даруйце.

Абцасы па галаве — адказ. Рыгор пе вытрымаў:

— Эх, сволачы, не доўга вам! Мама! Галячка, бывай! не кінуць вас і без мяне.

— А, пся крэў, бальшавік, яшчэ размаўляць! Стшэляй!..

Ба!.. Чатыры адарваных стрэлы схаваліся ў грудзях. Бывайце... Ха-й жы-ве Ка-му-ні-с... і хрып...

* * *

Рыгора не стала.

Тры сасны... могілкі і Галя, якая ніколі не запамятвае, а старая маці памерла... Не вытрымала...

* * *

Сумныя песні трох сасён.

## ЯНКА КАШЭЛЬ

І вось сёння я ўжо настаўнік. Так хутка праляцелі дні. Гэтыя чатыры гады, што адбыў у тэхнікуме,— і не заўважыў. Вучоба, работа ў ячэйцы, грамадская работа запаўнялі ўсе шчыліны дню... Некалі было падлічваць дзён, некалі было сумаваць — так разважаў малады настаўнік Янка Кашэль, у гэту яшчэ вясну скончыўшы педагагічны тэхнікум, ідучы па пыльнае панэлі шумлівага акругавага гарадку.

* * *

— Добры дзень!

— Дзень добры!.. дзень добры!..— неяк спяшаючыся, адказаў крыху сутулены чалавечак, шпарка перакідваючы паперкі на стале. Потым раптам застанавіўся...

— Вам чаго?

— Я прыйшоў пад ваш загад. Куды вы мяне накіруеце на працу... я малады настаўнік...— пераміпаючыся з нагі на нагу, адказаў Янка.

— Ага, так... так... Зараз пабачым... І, адшукаўшы вялікі аркуш паперы з наведзенымі ім меркаваннямі, адказаў:

— Камісія пастанавіла накіраваць вас, Янка Кашэль, на работу ў Замшанскі раён, Бабыніцкую школу, атрымайце пасведчанне і накіроўвайцеся...

* * *

Толькі што надыходзіць восень... Напалову пажоўклыя лісты бяроз зялёна-жоўтаю коўдраю закрывалі небасхіл... Вецер стаў больш непакойлівым, больш прыставаў з пацалункамі, сотні разоў перабягаў дарогу, узнімаючы за сабою сцежкі пылу, хмарнае неба ледзь-ледзь, як праз сіта, цадзіла маленькія-маленькія крупінкі дажджу, пасохшае бацвінне бульбоўніку і дзе-нідзе бабкі збожжа казалі ўжо, што жаркі час на вёсцы прайшоў, што цяпер будзе спакойная гаспадарчая работа.

І Янка, гледзячы на гэты каларыт, марыў аб тым, як хутка прыбягуць дзеці ў школу, як ён з імі павядзе працу,

як вольныя ад школы часы будзе ён выкарыстоўваць на працы ў ячэйцы, у клубе, па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і ў іншых месцах... Адным словам, у яго галаве з кожнаю хвілінаю нараджаліся ўсё новыя і новыя планы работы...

Ён з кожнаю хвілінаю варочаўся на сядзенні, і, здавалася, каб у той час была перад ім самая найадказная задача, ён бы раптам яе выканаў...

— Дзядзька!.. а дзядзька!.. ці многа ў вашых Бабынічах хат? — запытаў ён возчыка-селяніна.

— Гэ-э! сынок... досыць. Сам убачыш... дрэнна жыць... Хат каля сотні будзе, а ў поле, браце, ехаць, дык бяда цэлая... Ёсць шнуры аж за тры вярсты...— кашлянуў стары і мімаволі сцебануў каня, нібы на ім жадаючы выказаць сваю боль...

— А дзяцей шмат? Ну, такіх, якім трэба ў школу...

— Чаго добрага, браце, а гэтага дабра ёсць... Што ні двор, што ні баба, дык сямёра, васьмёра, а што ў школу, дык набярэцца і з дзвесце... але яны ўсе ў нас не ходзяць у школу. Дый мы самі не пасылаем. Навошта ўсіх вучыць!.. што будзе, калі ўсе вучонымі стануць... Хто ж будзе араць? трэба каму і на гаспадарцы працаваць!..— сказаў стары, а нібы ў пацвярджэнне задыміў з добры палец цыгарку...

— А вунь на ўзгорачку і наша вёска... Бачыш, вунь школа, што каля царквы?..

Убачыўшы невялікае згорбленае памяшканне з саламянаю, ускалмачанаю страхою і пабітымі шыбамі, на якім вісела шыльда «Бабыническое сельское земское училище», Янка ўздыхнуў...

* * *

Завываў сіверны вецер... ляскалі вакяніцы і сваім скрыпам навявалі жуду. Стагнала старая страха... Бліскала дагараючая свечка, а ў коміне быў сапраўдны баль замарожаных вятроў...

Янка сядзеў ля стала, падпершы рукамі ўскудлачаную галаву, часамі перабіраў пальцамі пасмы валасоў, а вочы стомлена глядзелі ў куток... Відаць было, што работа на яго паклала свой адбітак. Калісьці мяккае, ружовае аблічча стала суровейшым і худзейшым... Янка думаў: «Вось ужо чатыры месяцы як я ў школе. А сколькі зроблена, сколькі зроблена!.. шмат, але яшчэ больш рабіць...» Успамінае першыя дні прыезду. Як цяжка было загітаваць ся-

лян адрамантаваць школу. А ўсё больш перашкаджалі кулакі і самагоншчыкі, а асабліва з іх Кузьма Карыта і Сымон Лазоўскі... Як толькі ўзнімаў Янка дзе на сходзе аб гэтым пытанне, яны сваім крыкам заўсёды збівалі беднату:

— Навошта гэта нам!.. Хай дзяржава робіць!.. а дзе наш падатак?

Цяжка, дужа цяжка даводзілася Янку спрачацца з імі, даказваць беднаце, што аднаго сялянскага пачатку дзяржаве мала, каб задаволіць усе патрэбы. Але, нарэшце, бедната пайшла за Янкам, стала больш прыхільнай да яго, затое лютымі ворагамі сталі кулакі і самагоншчыкі...

Вось і ў камсамольскай ячэйцы давялося шмат працаваць. Складалася яна ў Бабынічах з 20-ці чалавек. Сакратаром быў папоў сынок, які хітрыкамі пралез у камсамол. Усе амаль камсамольцы толькі і лічыліся імі і насілі білеты ў кішэні, якія надавалі па іх разуменню ім большае права піць і хуліганіць. Паловы іх няма цяпер у ячэйцы, вылецела разам з сакратаром-паповічам, астатнія сталі прыкладнымі, затое некалькі хуліганаў на чале з паповічам увесь час вастрыць зубы на Янку.

Даведаўшыся, што Янка селькор, піша ў газету, узброіліся супроць яго самагоншчыкі...

Але Янка цяпер іх ужо не баіцца, за ім большасць — бедната, за ім ячэйка, вясковы актыў, а з дапамогаю іх ён яшчэ шмат зробіць.

Раптам думкі Янкі былі перарваны лёгкім, паважным грукатам у дзверы... Прайшлі думкі, вочы зноў заіскрыліся, адрывіста стукнула сэрца... Янка выйшаў...

— Хто там?..

— Гэта я!..— так плаўна, нейкім срабрыстым гарошкам расплыўся галасок...

Янку гэтага было даволі. Сэрца так моцна застукала ў грудзях...

— А, гэта ты... Мальвінка!..

І, зачыніўшы сенцы, пераступіла парог.

— Я да цябе, Яначка!..— пачала першая Мальвіна,— сёння тата прачытаў у газеце, што ты напісаў аб ім і аб Кузьму, як яны хлеб пераганяюць на самагон... Прачытаў ён якраз, калі Кузьма, ён і папоў сын пілі ў нас... Мне было дужа боязна, калі, прачытаўшы, яны грымнулі ў адзін голас: забіць яго!.. забіць яго, падлюгу!.. Вочы блішчэлі ў іх нібы ў параненых ваўкоў... а Стась, папоў сын, сказаў нават: «Я, кажа, заб'ю, у мяне абрэз ёсць». Яначка! любы, я баюся!..

— Не палохайся, мая галубка, неяк жа будзе, няўжо ж у іх хопіць смеласці гэта зрабіць?

* * *

Дзынь!.. на падлогу паляцелі шыбы, адарваны вакяніцы... Палахліва прыціснуліся да сцяны Янка і Мальвіна... П'яны гоман і лаянка чуваць былі па-за вокнамі.

— Бі!.. бі!.. яго! такую растакую, пісара гэтага, паскудства...

— О-го-го! Га-га! — пад такт падрыквалі п'яныя надарваныя галасы!..

— А, і Мальвіна там!..— лютым зверам зароў Сымон Лазоўскі,— сюды, хлопцы, сюды.— Ускочылі яны праз акно, з кулакамі падскочылі да Янкі з Мальвінаю. Янка стаяў, нібы анямеўшы, не ведаючы, што рабіць... Ён не чакаў гэтага.

— Дык вось ты, паскуда такая!.. На нас пісаць, жыць нам не даваць і яшчэ дачок добрых людзей псаваць. Я ж табе, маць тваю...— рычэў, выкаціўшы чырвоныя вочы на лоб, Сымон і махаў кулаком ля твару ў Янкі...

— Стась! ты разбярыся з гэтаю паскудаю, а я з сваёю курвай,— і за руку схапіў спалоханую Мальвіну. Штуршком нагі ў грудзі паваліў яе на падлогу, астатнія наваліліся на Янку, сталі біць яго кулакамі, а, урэшце, зусім паваліла яго на падлогу куля Стасевага абрэза... Патухла свечка... Забойцы зноў вылезлі праз акно. Толькі бледны месяц вартаваў два разам паложаных станы... Палахліва гудзелі вятры ў коміне.

* * *

Русакудры чэрвень рассыпаў белыя пялёсткі яблынь... Сонейка цалавала набухшыя грудзі зямлі, Янка зноў прыехаў у Бабынічы... Адбыў у бальніцы цэлага паўгода, выздаравеў, не ўгадала бандыцкая куля. Цяпер у Бабынічах было спакойна... усе забойцы сядзелі ў турме. Вёска ўжо перайшла на пасёлкі і парашыла адбудаваць школу. Было прыемна... але і цяжка, што не было Мальвіны... Невялікі курганок зямлі на крыжавых дарогах ўспамінаў толькі аб ёй... І Янка часта, падоўгу сядзеў там...

# КАЛАНДРЫ

## Частка першая

Сягоння стары Муляўка, прымаючы ад Косці па змене варштат, не быў такі ласкавы, як раней. Ён, правёўшы даланёй па накаце, нешта злосна замармытаў у сівыя пракураныя вусы, потым скурчыўся, паглядзеў прышчурана на перадачу і неяк прыдушана выціснуў:

— Ідз-з-і, не паспееш, падшывалец!

Косця матнуўся ад яго да ўмывальні. Там, падстаўляючы рукі пад цурочкі сцюдзёнае вады і са смакам абдаючы закопчаны твар, адчуў ніякаватасць перад старым Муляўкам. Ягоная злосць была наскрозь вядомаю. Неяк аднаго разу, калі Косцю толькі яшчэ паставілі на яго варштат, Муляўка, спаткаўшыся ў клубе за партыяй у шашкі, доўга гаварыў яму пра завод:

— Я люблю яго! Тут мая маладосць была. Вось ты прыйшоў, блазен, і нічога не ведаеш. Ходзіш праз заводскую браму — і ні гу-гу. Нічога! А каб ведаў, дык заўсёды шапку скінуў бы. На той вунь браме павесіў Смальнянскі спраўнік Хведара Грыдзюшку і Змітрака Паўлоўскага... А што за яны, гэтыя хлопцы, былі... Во! — і ён нервова ўзняў тады вялікі палец на руцэ і патрос ім угары...— Во хто яны! Лівуцыянеры нашыя. Яшчэ ў пятым годзе нам пра Савецкую ўласць кожын дзень баялі. А яны ж дружбакі мае былі...

Помніць Косця, як хмурыўся тады стары, як пытліва глядзеў на яго ў той вечар у пракураным клубе. Муляўка ў той жа час навучаў, як трэба даглядаць за варштатам:

— Каб як люстра, ведаеш! Аніякае пылінкі! Тады варштат табе брат родны, ні кашляне, ні запнецца, а нам дыхавічных не трэба, далёка не заедзеш з такім.

І Косцю пякла ў грудзях апрыкрая слізгота, што правініўся ён, не перацёр сягоння накаты перад здачай. Яму было не па сабе. Хуценька зашпільваючы каўнер кашулі, падумаў, што недарма стары злуецца, у душы з'явіўся агеньчык вінаватасці, і хлопец пабег на двор. На лесвіцы, спяшаючыся, падбіў камсамолку Рыву. Яна азірнулася, пырснула дзвюма скалкамі сініх воч, агрызнулася:

— Звар'яцеў, ці што?

Прабачэння Косця прасіў, ужо вылецеўшы на двор. Нешта гнала ўперад усярэдзіне жывое, гарачае і, здавалася, даравала сённяшнія памылкі. Прыйшоўшы ў паккамеру, Косця не знайшоў Веры. Рой жаночых галасоў і шабуршанне паперы, якую там лічылі і складалі ў роўненькія пакункі, былі падобны да прыбою на моры. Адна за другою, як чайкі, узляталі над галовамі рукі, прыгожа ўскідваючы пакункі паперы. Дзе-нідзе між сабою перашэптваліся і жартавалі дзяўчаты. Некаторыя паглядалі на Косцю. А яму здавалася, што яны кпяць з яго, ведаючы ягоныя думы і прычыны, якія яго прыгналі сюды.

Косця сціснуў поўныя губы, стараючыся быць сур'ёзным, хоць адчуваў, як шчокі гарэлі. Выццам па справе, падышоў да сартавальніцы Сімы, сяброўкі Веры, і запытаўся:

— Здарова, Сіма! Не ведаеш, куды пайшла з работы Вера?

— А навошта табе? — адказала, усміхнуўшыся, тая.

— Кінь бузіць! — насядаў Косця.— Вядома, камсамольскія справы.

— Ну, дык ідзі ў машыннае. Яна там. Сягоння звыш часу ўся паккамера адвозіць брак з-пад машын. Але я думаю, што Вера сама лепш ведае, калі і хто яе чакае.

— Ну думай, думай! — разззлаваўшыся, выбухнуў Косця і неўпрыкметку сігануў у машыннае аддзяленне.

* * *

Калі Косця спускаўся ўніз у машыннае аддзяленне, яго абдало клубамі сасновае пары, якая бялявымі хмарамі плыла пад столлю. Гэтая пара ўзнімалася з вялікіх бакаў, у якія бегла па трубах гарачая маса зваранае сасны і саломы з рольнага аддзялення. Косця ведаў, што з гэтае белае кашы потым выбягае з-пад вялізарных машын буйнымі хвалямі тысцюткая папера. Яго цікавіла гэтае аддзяленне. І яму нават здавалася, што ў гэтым аддзяленні лепш працаваць, бо ў ім заўсёды цёпла, светла і чысцей, чымся ў іхняй майстэрні. Ён нават у душы пазайздросціў рабочым, што стаялі пры даўжэзных, складаных машынах.

Каля трэцяе машыны прыпыніўся. На сцяне, на чорнай дошцы, неразборлівымі каракулямі была накрэмзана вымова прыбіральшчыцам Яноўскай і Салавейчык за кепскую ўборку рознага папяровага глуму. Тады нешта кальнула ў галаве, стала сорамна і разам з тым трывожна. Кос-

ця думаў: «А калі і мяне ўляпілі сёння на чорную? Прыкра!.. Аднак гэта глупства перад той хваробай, што ў мяне,— разважаў ён,— перад хваробай, што я нашу ў сабе і дзень і ноч». Ён кіўнуў галавой, нібы ў пацвярджэнне свайго перакanання, і хуценька падбег да майстра:

— Дзядзька Слаўскі, дзе тут паккамера працуе?

— О дзівак,— утаропіўся старэйшы майстар,— ці ты першы дзень? На гары, вядома!

— Я ведаю, што на гары, а от звыш часу дзе яны цяпер?

— А ты хіба да дзяўчат у паккамеру на работу падаўся?

Косця нерваваў. Ён перабіў пальцамі падол свае зашмальцаванае курткі, перабягаў абражана вачыма па нястрымных валіках машыны. Потым злосна кінуў:

— Не хочаш, сам знайду!

— Га-га-га!.. Я толькі пажартаваў, хлопча! — паспешна сказаў старэйшы майстар.— Ідзі да шостай. Яны там... А больш і не распытвай, бо некалі, ведаеш! — крыкнуў ён у спіну Мігуцкаму і сам пачаў прачышчаць муфты ад набітага глуму.

Каля пятае машыны Косцю сустрэлі нагружаныя бракам тачанкі. Яны праразліва вішчалі жалезнымі кольцамі па цэментавай падлозе. Ад іх дрыжалі ценькія шыбы велізарных акон машыннага аддзялення. Уперадзе адною рукой тачанкаю кіравала дзяўчына, а ззаду двое падштурхоўвалі. Так адна за адной каціліся некалькі тачанак. Мігуцкі прапусціў іх, прыглядаючыся, ці няма дзе за каторай з іх Веры, і калі паказалася ўжо апошняя, запытаўся ў дзяўчат:

— А дзе Сізова Верка?

Адна з іх, расчырванелая, бялявая, з валасамі, раскіданымі па поўных плячах, на хаду агрызнулася:

— Захочаш, знойдзеш!

І Мігуцкаму на сэрца ўпала вялікая абраза. Яму здаваліся цяпер прыкрымі гэтыя задзёрыстыя фабрычныя дзяўчаты. Мімаволі ў галаве праносілася параўнанне: а ўсё ж такі там, у нас на вёсцы, лепшыя. Працейныя! Толькі Верка, здаецца, не такая, яна больш чулая.

Праз некалькі хвілін зноў загурчалі тачанкі. За другой пабачыў Веру. Яна грукала жоўтымі боцікамі, упіраючыся ў падлогу, белавалосая, чырвоная. У Мігуцкага на час скамянеў язык. Вера ўгледзела яго. Калі тачанка

параўнялася, ён крыху прайшоў побач і на хаду запытаўся:

— Вера, калі?

Яна на момант прабіла яго крамністымі вачыма, усміхнуўшыся, адказала:

— Ідзі-і-і да шостай!.. Скажу!

Каля шостай цэлыя гурмы паккамерніц нагружалі брак. Некаторыя рыхтаваліся цягнуць. У рабоце жартавалі:

— Ганка, а ножкі ў цябе харошыя, трошкі кавалерыйскія. Ды што там! Самаго дырэктара за нос водзіш!

— Кінь ты, пустамалот Дунька! Няма чаго другога путнага ў цябе.

— А і далі мы Кузьміну на сходзе...

— Па самыя вушы.

— Ха-ха-ха!

— Начальнік аб'явіўся!

Каля іх, аглядаючы брак, хадзіў загадчык вытворчасці ў машынным — стары рабочы Ахрэменка. Ён часамі супакойваў жанчын. Але больш стаяў і глядзеў на вялікую гару браку, потым на машыну, нешта прыкідваў на пальцах. Загінаў іх, відаць, па прывычцы. Што ён думаў? — невядома: ці ён падлічаў, калі адсюль прыбяруць гэтую горку браку, ці як зменшыць брак, каб менш ірвала машына. Задумаўшыся, ён пастаяў з хвіліну. Потым каструбаватым пальцам паклікаў да сябе рабочага і паказаў яму на сцежку, што ішла з-пад машыны на двор.

— Бачыш,— казаў ён,— колькі тут бруду: шмат пудоў. Падумай толькі, Ларывон, гэты бруд разам з бракам зноў збяруць у кацёл. Пераварацъ. Пусцяць на машыну. І што? Зноў брак. Памяркуй толькі, якая гэта кругасветная брудная падарож выходзіць. І каму на галаву, нам!... Так век браку не зменшым.— І ён дакучліва паківаў галавой.— Ай, хлопцы, хлопцы! Наша гэта ці не?

Ларывон паглядзеў на Ахрэменку. У яго быў той жа неспакой, але ён махнуў рукой, спакойна прагаварыўшы:

— А ведаеш, гэта цэлюлознікі валэндаюцца тут на двор. Я іх больш не пушчу! На выпадак чаго, дык паганяю, во як! — і ён пагразіў кулаком.

— Не гэта трэба, Ларывон. Сам ты не ведаеш, што рабіць. Скажы прыбіральшчыцам, каб не клалі браку на дарогу. А куды ж цэлюлознікам хадзіць? Яны ж па справе!

— **Яно** і гэтак. Хоць часамі няма дзе класці, але хай лепш угору падымаюць. Так лепш!

Мігуцкі слухаў гэтую гутарку і думаў, што Ахрэменка вельмі ж падобны да яго аднаварштатніка Муляўкі. Неўзабаве вярнулася Вера і сказала, што вечарам а сёмай гадзіне будзе ў клубе. Трэба рыхтавацца да палітбою.

— Калі хочаш, прыходзь! — сказала яна і зноў, учапіўшыся за нагружаную тачанку, схавалася за сталом вялікае машыны.

Тады ў душы Косці выбухнула сумненне. Нешта такое ліпкае, горкае легла на сэрца. Ён глядзеў на машыну, за якой схавалася Вера. Яму здавалася, што за машынай, можа, падскочыў да яе Ванька Крук, сакратар камсамольскай ячэйкі, які заляцаецца да Веркі. І Мігуцкаму стала крыўдна на Веру, на Крука і на машыну, якая схавала дзяўчыну ад яго. Косця чакаў, што Вера паабяцае прыйсці да яго ў сад паглядзець разам на поўную рэчку, на месяц, што так прыгожа спускае сівыя валасы на цёплую ліпеньскую вечаровую ваду, паслухаць адзін другога, а тут Крук, відаць, зацісну яе сваёй сухой палітыкай.

Ён глядзеў, як бясконца мітусіліся сінія валікі, як бегла белая рэчка паперы па машыне і круцілася на іх, як узнімалася пара з цёплых барабанаў, як гудзелі пасы і шумелі калёсікі ў нейкай своеасаблівай, без ніякага закону рытміцы, і, не разабраўшыся ў гэтым гудзе, сказаў сам сабе: «Крыўдна! Сумна!» — і пайшоў з машыннага.

* * *

Андрэй Ганушчанка прыйшоў на папяровую фабрыку Завадскага яшчэ хлопчыкам. Выпала так, што неяк у каляды ўпоўз бацька без сілы ў сені. Ён быў без памяці. Калі паклалі яго на ложак, дык вадзіў вачыма ў непрытомнасці па аблупленых сценах і нешта мармытаў. Казалі, што таго вечара ён перабраў сівухі ў старога Шлёмы, які на горцы трымаў карчму. Потым прыпхнуўся дахаты, лёг на прызбе і так ляжаў колькі гадзін. Пэўна, застудзіўся, лежачы на марозе. Толькі на другі дзень, памятае Андрэй, роўма раўла маці, і на лаве ляжаў жоўты нерухомы бацька. А яшчэ помніць Андрэйка, як хадзіла і кленчыла маці, прасіла дошак на дамавіну.

У сям'і Ганушчанкаў толькі чатырнаццацігадовы Андрэйка быў тады галоўнай надзеяй, каб як-небудзь пажыць, бо акрамя яго ў мацеры застаўся маленькі Уладзік,

які і гаварыць яшчэ не ўмеў. Ён адзін, можа, толькі не адчуваў тады ні гора, ні пакуты.

Трыццаць пяць год мінула з таго часу. Многае змянілася цяпер. І пра ўсё гэта можа апавядаць Андрэеў твар. Маршчакоў на ім не пералічыш, больш мо як па тры на год давядзецца. Быў Андрэй і вучнем, і падмайстрам, і майстрам. Усялякае работы перарабіў. Яго каструбаватыя, крыху пакрыўленыя пальцы спыталі ўсяго. Хадзіў Ганушчанка па вуліцы з чырвоным сцягам. Тады гэтыя пальцы насілі дрэўка самаробнага штандара. Быў на фронце, пальцы націскалі на спуск кулямёта. Дай голас гэтым пальцам, і яны загавораць, як яшчэ ні адзін прамоўца ў свеце. І калі над фабрыкаю ўзвіўся чырвонай ракетаю пераможны сцяг, калі надрыўна загудзелі гудкі і паклікалі на творчую працу да сябе, а стары ўладар схаваўся за дротам польскае мяжы, фабрыка пайшла шпарка ўперад і атрымала пачэсную назву «Герой Кастрычніка». Ганушчанка тады агульным сходам быў адзначаны «Героем працы».

Цяпер ён сядзеў за невялічкім столікам, сагнуўшыся, і нешта выводзіў на паперы. І калі электрычная лямпачка часамі гасла, ён ускокваў і нервова крочыў па пакоі, кленучы механікаў электрастанцыі:

— Пачакайце! Дабяруся я да вас!..

Як толькі лямпачка занімалася святлом яшчэ спачатку цьмяна-чырвоным, ён бег да століка і зноў углядаўся ў свае паперы.

Ён доўга моршчыў лоб, імкнучыся прыдумаць, як палепшыць падачу масы ў машыну. Хацеў, каб яна хутчэй даходзіла да машыны, каб гэта было прасцей, каб даўжэй стаялі трубы і каб усё танней каштавала.

І калі дзядзька Андрэй, здавалася, дайшоў ужо да кропкі, як кажуць, толькі спусціць цынгель, у хату ўвайшоў Косця Мігуцкі. Убачыўшы, што Ганушчанка нервуецца, ён захацеў адарваць яго ад пакутнае думкі, падышоў і, ціхенька дакрануўшыся да сухога пляча, што колікам тырчала з пазамшэлае курткі, паклікаў:

— Дзядзька Андрэй!

— Чаго? Каб ты згарэў...— усхапіўся той і ўтаропіўся вачыма.— Ты мне перашкодзіў!

— Адпачніце, вы і так кожны вечар чарэмзаеце гэтыя трубы. Каб іх ды ўсе панарабіў, дык увесь двор заваліў бы, не толькі на нашу, а на ўсе хвабрыкі хапіла б.

— Хапіла, хапіла. Балаболка ты, гаворыш, а сам не ведаеш, што да чаго!

Косця Мігуцкі жыў па суседству з дзядзькам Андрэем, цераз шалёвачную сценку, і часта заходзіў да яго. Ён любіў гэтага старога, асабліва калі той пачынаў гаварыць пра моладзь. Тады, здавалася, Ганушчанка сам рабіўся маладым. І сягоння, пакуль надыдзе час ісці ў клуб, ён заскочыў да яго. Тым больш Косцю хацелася пачуць ад яго хоць слова пра Веру. Яму здавалася, што калі ён кахае Веру і яна яму найлепшая ад усіх, дык і Ганушчанка павінен быць не іншае думкі. Ды наогул яму падабалася, калі хто ўспамінаў пра Веру; тады яе вобраз шчакатаў яго па сэрцы, яму рабілася лёгка. І Косця пачаў дыпламатычны падыход:

— Вось, вы, дзядзька Андрэй, цяпер седзіцё і радуецеся на свае трубы, а каб былі маладым, дык і не нарадаваліся б толькі з іх. Цягнула б і на іннае.

— Ведаеш ты многа, байструк! Я і малады быў, любіў працу. Ну, вядома, не зломак быў і пагуляць.— І, тут неяк аджыўшы, устрасянуўшыся, ён захадзіў па хаце і пачаў сваю апавядань...

— Было, было некалі! О-го, як гулялі! Мог скакаць да раніцы. І дзеўкі любілі, праўда.— Ён глянуў на Ганульку, сваю старэйшую дачку, крыху сумеўся і працадзіў: — Адчапіся ты, Косцік! Не да гэтага мне, старому. А ты гуляй, гуляй, ды ведай і меру, як той казаў. Бо казаў мне сягоння стары Муляўка, што ты не вельмі спрытны стаў, часта гультаіш!

Косцю быццам чым вострым скрамсанула па нутры. Твар яго зачырванеўся, вочы вінавата засвяціліся. І, на хвіліну згубіўшыся, ён звёў гутарку ў другі бок:

— А вось скажы мне, дзядзька, як табе Верка-камсамолка здаецца, Сізова? Добрая дзяўчына?

Стары Ганушчанка ўсхвалявана адказаў, садзячыся на крэсла:

— Адчапіся, добрая дык добрая, сам ведаеш, мне не да чаго гэта! І чаго цябе так узняло?

— Я т-а-а-к! — запалашыўся Косця, устаў і пайшоў.

* * *

Ён выйшаў на вуліцу. Час было ісці ў клуб. Праходзячы саджанаю дарогаю, чуў, як заліваліся звонкія галасы фабрычных дзяўчат, як канец іхняе рассыпчатае

песні ляцеў аднекуль здалёку і падаў у рэчку, ад чаго разыходзіліся шызыя хвалі. Недзе граў гармонік, і п'яны голас сіплым фальцэтам выводзіў:

Ішчо заплачэт да-а-ра-га-я, із каторай тры гады гуляў...

Са старое ліпы ўзняўся статак варання і паляцеў праз рэчку. Тугое ліпеньскае паветра лілося Мігуцкаму ў грудзі. Ён ішоў па крутлявай сцяжынцы пасёлкавае дарогі і радаваўся.

«Такое багатае жыццё чалавечае,— шаптаў ён сабе.— Вось толькі навучыцца браць яго. Каб жылося поўна і здорава. Бо, скажам, пражыць цябе смага выпіць, выпі кубак і не напіся, не будзеш задаволены, а выпі, адчуй задавальненне, і зусім другое. Такое і жыццё!»

Ён перабіраў у галаве цэлы рой думак. Здавалася, што ён моцны, што можа ўзяць ад жыцця шмат чаго. Так разважаючы сам з сабой, Мігуцкі спяшаўся ў клуб. Ён ведаў, што позніцца, бо заседзеўся са старым Андрэем, ужо было каля дзевяці гадзін, і супакойваў сябе толькі тым, што звычайна занятні палітгуртка пачынаюцца са спазненнем і раней дзевяці ўсе не збіраюцца. Такім чынам ён разлічваў трапіць у час.

* * *

У клубе Косця Веры не знайшоў. Палітгурток не адбыўся. Вісела абвестка, што занятні з прычыны таго, што не сабраліся камсамольцы, адкладзены на тры дні. Мігуцкі раззлаваўся. Ён кляў сябе, усіх камсамольцаў за неакуратнасць, нават узнімалася злосць на старога Ганушчанку, што заседзеўся ў таго. Яму вельмі хацелася ўбачыць Веру, а яе не знайшоў. І адчуў сябе адзінокім, хоць у клубе гурмамі споўдала моладзь, смяялася, весялілася. Паблукаў па пакоях, пашукаў і, так і не знайшоўшы дзяўчыны, выйшаў.

Неяк інстынктыўна звярнуў у бок жаночага інтэрната. Па дарозе доўга думаў, што рабіць, і сам з сабою спрачаўся. «Чаму было не прыйсці ў час? Сам вінаваты. А ўсё гэта, мусіць, выхаванне маё вінавата...— скардзіўся ён у пустэчу ліпеньскага вечара.— Бывала, скажа бацька за сенам з'ездзіць. Збіраешся, збіраешся, пакуль збярэшся, дык і гадзіна пройдзе. Бо на некага пакладаўся. Няма рашучасці тае. Але чаго шмат хлопцаў не прыйшло фабрычных? Яны ж гадаваліся па камандзе, па гудку». І стаўляючы гэта ў апраўданне, адчуваў сябе лягчэй.

Так ён неўзабаве падышоў да інтэрната. Глянуў у акно пакоя, дзе жыла Вера. Там было светла. Тры таварышкі яе сядзелі дома. Бачыў, як адна з іх цыравала шкарпэткі, другая нешта пісала, а трэцяя шпігавала ручнік. Мігуцкага абдало жарам... Веры ў пакоі не было. Дзе ж яна? Куды пайшла? З кім? Нейкая злосць на сябе і на Веру падкацілася пад самае горла. Так яна яго чакае! Такое, відаць, у яе і каханне!

З паўгадзіны нервова хадзіў паўз дом, шалёна працінаючы вачыма цемень, спадзеючыся дачакацца Веры і застаць яе з Круком.

Ішла дахаты моладзь з клуба. Жартавала з яго:

— Чаго ты сноўдаешся, начнік, тут?

Маўчаў, злосна сціскаючы зубы, захінаючыся ў восеньскае бобрыкавае паліто, ды не вытрымаў і пайшоў. Завярнуў у клуб, думаючы ўсё ж напаткаць Веру. Але дарэмна. Тады накіраваўся да рэчкі. Сеў на пень спілаванае бярозы, доўга ўглядаўся ў сінюю ваду, курыў і цвыркаў сабе пад ногі.

Калі ўжо на далёкай сенажаці абудзіўся дзяркач, і палілася песня яго, падобная на раванне суровага палатна, Косця ўстаў і пайшоў спаць.

* * *

З раённае газеты прыехаў на фабрыку таварыш Караткоў. Ён сядзеў у чытальні са старшынёю фабкома Калядой і рэдактарам шматтыражкі Курніцкім у куточку за столікам, закіданым газетамі, і пра нешта перашэптваўся. Даставаў з абгрызенага партфеля розныя памятыя паперкі, размахваў рукамі, шырока растапырваючы пальцы. Каляда і Курніцкі слухалі яго, нешта пярэчылі, раілі, ківалі галовамі. Потым усталі і пайшлі.

На калідоры яны сустрэлі некалькі камсамольцаў, што ўжо разыходзіліся па хатах, бо не адбыўся палітгурток. Тут былі Ванька Крук і Верка Сізова.

Адклікаўшы іх убок, Курніцкі ўрачыста і разам з тым неяк таемна ўзняў вялікі палец правае рукі.

— Знаеш, камса, сягоння налёт робім! Вось з газеты да нас таварыш Караткоў прыехаў. Рабкораўскі, разумееш, а вы, здаецца, рабкоры...

Пры гэтым Караткоў цененькім галаском паспеў давесці, што справа вельмі адказная, бо гэта заданне Камуністычнай партыі і раённае газеты «Чырвоны штандар», і

ён спадзяецца, што рабкоры «Чырвонае бракамолкі» абавязкова прымуць актыўны ўдзел у гэтым важным мерапрыемстве. Даводзячы пра ўсё, ён так пяліўся, што ў беднага выступілі сінія жылы на твары, а ўсё ж пры размове ён не спыняўся павольна пагладжваць свой кругленькі жывот.

Ванька Крук не ўстрымаўся, перабіў Каратнова:

— Кінь агітаваць! Каго агітуеш? Самі знаем, вось нас тут ёсць пяцёх — усе і пойдзем!

Караткоў зноў сабраўся нешта даводзіць і ўжо быў памянуў, што Камуністычная партыя... як Верка Сізова хапіла яго за руку і пацягнула:

— Ну, вядзі!

— О, у нас, брат, хлопцы — агонь! — задаволена прагаварыў Каляда.

З клуба ўсе пайшлі ў фабком. Там ужо чакала чалавек дваццаць рабкораў. Яны сядзелі, хто на лаве, хто на крэсле, а некаторыя проста на падаконніку і нават на століку. Дыму было так поўна, што праз крыху адчыненыя дзверы, калі праходзіш пярэдні цёмны пакой, здавалася, быццам ён хвалямі вырываецца адтуль.

Увайшоўшы, Каляда закашляўся, пакруціў носам і незадаволена замармытаў:

— Ай, накурылі ж, чэрці вас... А яшчэ і рабкоры. Тыя, што курылі, спрабавалі апраўдацца:

— А дзе ж курыць будзеш?

— На двор, ці што, бегчы? — і пры гэтым раскацiста рагаталі.

Другія, што не ўжывалі тытуню, падтрымоўвалі Каляду:

— Можна і пачакаць было!

Тады адзін з курцоў падышоў да Каляды, шчоўкнуў на хаду пушкаю з папяросамі і прапанаваў яму. Каляда ўзяў папяросу і засмяяўся.

Караткоў і тут паспеў выказаць свае аратарскія здольнасці. Ён адтапырыў нагу, выкаціў уперад жывот і цененькім, проста лебядзіным галаском пачаў:

— Культурная рэвалюцыя вымагае культуры, таварышы рабкоры. Вы, як культурныя, павін-н...— але тут адчыніў нараду Каляда.

Караткову давялося сесці.

Каляда інфармаваў пра значэнне нарады і налёту. Ён доўга гулка кідаў свае словы з-за століка. Здавалася, што кожнае слова звінела, вырываючыся з-за зубоў. Проста і

перакanальна ён давёў, што гэта нікуды не варта, калі ёсць такія рабочыя, што ўвесь дзень працуюць дома, а потым прыходзяць на фабрыку спаць, што адсюль і прамфінплан ніяк не можа паправіцца, як знізіўся, дык каторы час не можа ўзняцца, што многа каля машын нядбайства.

Потым гаварылі Караткоў і Курніцкі. Выказалася і Сізова Верка аб тым, што некаторыя камсамольцы не лепшыя, валэндаюцца дзень немаведама дзе, а потым плюскаюць вачыма каля варштатаў. Яе грудны прыемны голас быў нейкаю асобнаю жывою струной сярод гэтых пракопчаных, агрубелых галасоў.

На нарадзе парашылі сабрацца для налёту ў дзве гадзіны ночы каля прахадной будкі фабрыкі.

* * *

Пасля нарады Волька Панушкіна — паккамерніца — запрасіла Веру да сябе. Волька жыла ў сям'і, займала асобны катушок за перагародкаю. Бацька яе быў ліцейнікам на гэтай жа фабрыцы. Калі прыйшлі яны, у хаце нікога не было, акрамя маці. І тая ўжо спала. Да збору заставалася яшчэ тры гадзіны, і дзяўчаты рашылі адпачыць, каб прыйсці свяжэйшымі на працу. Але ж, як яны ні варочаліся на ложку, сон не браў. Ды і не дзіва, як можа ўзяць сон дзвюх маладых дзяўчат, калі ў абедзвюх усярэдзіне трапечацца такі жывы агонь неперададзенага і непераказанага, неперагаворанага.

Ім хацелася пагаварыць пра тое, аб чым звычайна не гавораць ні на сходах, ні на нарадах. Гэта гаварыла маладая кроў....

І першаю пачала Вера. Яна адцягнена загаварыла пра паэзію. Даводзіла Вольцы шапатком, што, колькі яна ні чытала паэтаў, усе пішуць пра каханне, што яна і сама, каб была паэткаю, не абмінула б гэтае тэмы, толькі б пісала так, каб каханне было здаровым, каб яно клікала да жыцця, бо часамі гэтая тэма з-пад пяра паэтаў выходзіць бруднай.

Пачаўшы з адцягненага, яны паступова перайшлі і да сябе.

— А знаеш, Верачка,— вусцішна, прыхінуўшыся, загаварыла Волька,— мне падабаюцца хлопцы такія, у каторых не толькі адно голае нутро, а ёсць і нешта кволае, нават хваравітае. Я люблю, калі на яго твары можна прачытаць усё, што ён думае, люблю, калі нават у яго бываюць

зрывы. Скажам, укахаўся ён у цябе, а ты хоць і адчуваеш магнасць да яго, але не паказваеш гэтага, і ён ходзіць доўга адзін вечарамі і ўначы, думае, трывожыць сябе, часамі і вып'е з адчаю...

Верка ўстрывожылася. Яна зразумела ў гэтым вобразе Мігуцкага. І ёй здавалася, што Мігуцкі цяпер стаіць тут, каля ложка, нахмураны, з параскіданымі валасамі, а ў вачах яго плёскаецца смутак, такі зялёны, томны і стрыманы. Але паводзіны Мігуцкага і погляды Волькі якраз не задавальнялі яе. Яна прыпаднялася і села. Пачала нават размахваць рукамі, як той Каляда ў часе гутаркі, бо хацелася пераканаць сяброўку:

— Чуеш, Волька, ты памыляешся. Такі чалавек нездаровы, і здаровых ён цікавіць не можа. Нам трэба сіла, розум і акуратнасць. Трэба, каб на рабоце ён мог перавярнуць горы, каб розум яго рухаў наперад, каб акуратнасць была для яго прынцыпам парадку. Люблю яшчэ вельмі жартаўлівых і вясёлых. Калі такі пачынае жартаваць, ён забіраецца табе ў душу, звоніць, здаецца, там нейкімі таемнымі званочкамі і апрача нават тваё волі. Тады робішся вясёлай. Тады святлее. Люблю здаровых і вясёлых. Вось як Ванька Крук...

Вольку апошняе напалохала.

— Дык ты і сапраўды Ваньку кахаеш?

— Не знаю.

— А я Мігуцкага!

Гэта закранула і Верку. Яны маўчалі хвіліну, быццам пераконваліся ў сваіх пачуццях, глядзелі ў столь. Потым Волька зноў пачала.

— А я чытала, што каханне — гэта проста... Прырода цягне мужчыну да жанчыны і наадварот. І тут просты выбар самак і самцоў. Але я думаю, што гэта не так. Каханне — гэта нешта яшчэ не разгаданае чалавекам, каханне — гэта такое, што дае чалавеку пачуцці, якія рэдка перажываюцца ў другія хвіліны. Каханне — гэта высокая нота на струнах душы чалавечае.

Вера даводзіла, што каханне і ёсць, сапраўды, інстынкт да жыцця ў чалавека і што калі людзі сыходзяцца, дык гэта толькі аснова, а астатняе ўсё надбудова. І пачуцці цеплаты і хвалявання і нейкая асаблівасць гэтага вялікага настрою...

Аднак з гэтае філасофіі яны скора спаўзлі. І пачалі зноў пра сябе.

Верка па сакрэту сказала Вольцы, што ёй раней пада-

баўся Мігуцкі, але, калі яна стала прыкмячаць у ім нешта хваравітае, калі ён пачаў не даваць спакою ёй бясконцымі спатканнямі, яна адчула сябе халоднаю да яго. А падабаецца цяпер, відаць, сапраўды ёй Ванька.

Вольга глыбока перажывала гэты расказ сяброўкі, пальцы яе непрыкметна дрыжалі. Ёй было дакорна, што Мігуцкі, пэўна, любіць Сізову, калі яна так гаворыць пра яго.

Хацелася ўскочыць, уцячы ад Веркі, пабегчы да Косціка, пра ўсё расказаць яму. Яна ведала, што Косця кахае Верку за яе тонкі стан, за белыя кучары, за тонкія вусны, і Волька злосна глядзела на свае тоўстыя ногі, кусаючы поўныя губы.

— Аднак ужо час,— сказала Вера, паказаўшы на старасвецкі гадзіннік, што вісеў на сценцы і падбіраўся да дзвюх гадзін ночы, і раптоўна ўскочыла.

Дзяўчаты апрануліся і пайшлі на фабрыку.

* * *

Калі яны прыйшлі, каля будкі былі ўсе ў зборы. Ванька Крук падскочыў да іх, перакруціўся на адной назе, зарагатаў, прысвіснуўшы:

— Ах, прыйшла ты, Верачка-козачка!..— і скалануў яе за плечы.

Вольцы гэта не спадабалася, яна адышла ўбок, нешта думала і глядзела на вялікія вокны фабрыкі, залітыя электрычным святлом.

Убаку стаяў Каляда і даводзіў Курніцкаму:

— Знаеш, брат, нейкага недарэку праслалі. Караткова гэтага. Не маглі другога, а ёсць жа там добрыя хлопцы.

— І па-мойму,— адказаў Курніцкі,— яму не рабкорамі кіраваць, а ў батальёне смерці Керанскага даўно трэба было памерці...— успомніў ён свае доўгія паходы супроць гэтых батальёнаў пад Ленінградам.— Напішам, каб другі раз лепшага прыслалі.

Потым усе сабраліся гуртам. Караткоў зноў паспрабаваў нешта завесці, як накручаны патэфон, але Каляда, ужо зазлаваўшы, крыкнуў:

— Бры-с-сь! Пойдзем!

Усе пайшлі праз невялічкі калідор канторкі на фабрычны двор. У гэты час па вузкай каляіне пранеслася са станцыі на двор нагружаная цэлюлозаю «кукушка». Усе

спыніліся. На двары пахла свежай паперай, гарам і нават, здавалася, электрычнасцю.

Каляда пачаў:

— Пішыце, хлопцы. Натуйце там каторых! Ужо колькі разоў гаварыў адміністрацыі, каб прыбралі з двара гэтае жаляззё ды спарадкавалі. А ім хоць бы што!

Усе падышлі да груды лому, пачалі прыбіраць яго, бразгаць бляхаю, грукаць нагамі па жалеззі. Здавалася, што на двары адчынілася новая халодная кузня.

Верка Сізова выцягнула з лому моцныя ржавыя ціскі.

— Паглядзіце,— сказала яна.— Яны ж яшчэ здаровыя.

Усе абступілі яе. Твары сталі здзіўленыя, злосныя, перакошаныя.

— От, гэта нумар! — забегаў каля Веркі стары рабкор-ударнік Аўсей Лібман.— Гэткія ціскі, і ўжо ў кучу. Гэта ж імі можна каня задушыць! — прагаварыў хуценька ён, успомніўшы пры гэтым доўгую шыю каня, якога запрагаў яго бацька тады, калі быў рамізнікам.

Па ґурме прабег рогат. Але было чуваць, што за гэтым рогатам хаваецца моцная злосць, такая злосць, што можа скрышыць усю нядбайнасць.

Потым адзін за другім рабкоры выцягвалі ўсё новыя рэчы. Сабралі некалькі пар шнайдэз, муфт і нават накат, які, крыху адрамантаваўшы, можна было добра пускаць у работу.

— Натуйце, хлопцы, натуйце! — сказаў Каляда.

— Так, так,— зацягнуў Караткоў.— Камуністычная партыя...— але яго голас згубіўся ў кроках брыгады, што ўжо рушыла ў цэхі.

* * *

У цэхі ўваходзілі ціха. Нават быццам крыху крадучыся. Спачатку ўвайшлі ў качагарку. Там было вельмі горача. Пахла печанаю зямлёй. Гудзелі лакамабільныя топкі. Два качагары варочалі накалены торф у чырвонай пастцы катлоў. Грудзі лакамабіляў дрыжалі і, здаецца, калацілі мураваныя сцены і зямлю пад нагамі. З кутка, куды прабівалася праз шчыліну мура паветра, ускочыў заспаны качагар Прытоцкі. Ён, пачуўшы гоман, перапалохаўся і цяпер, не ведаючы, за што ўзяцца, выхапіў у таварыша вялікі жалезны прэнт, напяў на рукі ісподкі і пачаў узбуджана варочаць у топцы. Потым павярнуўся і са спазненнем на колькі хвілін ціха выціснуў:

— Добрай ночы! Што гэта вас сон не бярэ?

— А што гэта цябе ён вельмі разабраў? — запальчыва крыкнуў Курніцкі.

— А што?

— Ды тое, што чуеш. Чаго спіш на рабоце? Гэта ж табе не дом адпачынку!..

— Я спаў?.. Я спаў!.. Чулі, сябрукі? — звярнуўся да качагараў.— Я толькі прылёг, бо галава забалела. Ён шукаў спачування ў таварышаў.

Тыя скрывілі губы, глянулі адзін на другога. І тады пачаў шырокі ў плячах качагар Пятроў:

— Не гарадзі гарод, Сцяпан! Прызнайся, што ты кожную змену па дзве гадзіны спіш, а нам пацей, напрацуешся ты цэлы дзень дома, пакуль там карову ці каня дагледзіш.

Прытоцкі згубіўся, апусціў галаву, нервова скручваў цыгарку. Потым прыдушана, вінавата сказаў:

— Праўда, спаў...

— А ці добра гэта? — запытаў Каляда.

Высветлілася, што Сцяпан Прытоцкі на фабрыцы два гады і што гэтак ён часта робіць.

Рабкоры пазапісвалі ў кніжачках. Караткоў доўга вадзіў алоўкам па блакноце і ўсё мармытаў: «У-гу... у-гу...»

Потым пайшлі па другіх цэхах. У начную змену знайшлі пяць сонных. Падлічылі, што чамусьці чацвёртая машына ў начную змену дае намнога менш паперы, чымся ўдзень. Знайшлі, што начная змена працуе павольна. Майстра Саломін не дбае зусім пра дагляд. Часта рвецца папера, накаты гуляюць упустую.

Запісалі, каб заўтра даць дыхту, заўважыўшы, што прыбіральшчыцы дрэнна адвозяць глум. Ён ляжыць горамі каля машын, і рабочыя па лахманах паперы, як па хвалях, плаваюць каля барабанаў.

Налёт удаўся. Заўтрашняя начная змена будзе працаваць інакш. Яна пачуе свежы вецер рабкораўскага налёту. Калі ўжо стомленыя, распараныя сасноваю парай вараочаліся дахаты, а гэта было каля пяці гадзін раніцы, на лесвіцы, каля труб, убачылі, што капорхаецца чалавек, нешта мерае і прыкідвае. У ім пазналі Андрэя Ганушчанку.

Стары ламаў галаву, як выпрастаць трубы...

— Мераеш, дзядзька?

— Мераю, мераю, дзеткі! — адказаў Ганушчанка і зноў закруціўся каля труб.

— Залаты чалавек,— сказаў Каляда.

* * *

Дахаты Вера ішла з Волькаю. Яны дзяліліся думкамі аб налёце. Вельмі ён ім спадабаўся.

— Чуеш сябе гаспадаром,— вясёла гаварыла Верка і шамацела абцасікамі па жоўтым пяску.

— Хоць і не выспаліся, у другі раз зноў пойдзем. Цікава! — выказвала задавальненне Волька.

Яны ішлі паўз рэчку. Ужо днела. Золак паразвешваў сівое валоссе па ліпах. Паветра вільготнае, ядранае абхалоджвала твар і бадзёрыла іх. Дзёр дзяркач.

Дзяўчаты ўспаміналі падрабязы налёту. Успомнілі і Караткова.

— А ведаеш, такому ў газеце не месца! Гэта ж ануча,— гаварыла Волька...— І потым да рабочых ён зусім не падыходзіць. Ідзе, ведаеш, каля машыны і напявае:

Ваши пальцы пахнут ладаном...

— Дзёгцю яму на пальцы, а не ладану! — пажартавала Верка.

Дзяўчаты смяяліся.

— Чуеш, Волька, мне сягоння Ванька Крук гаварыў, нібы дачуўся, што гэты самы Караткоў проста неяк працёрся ў газету.

— Трэба напісаць пра гэта,— парашылі дзяўчаты.

Калі дарога разыходзілася, яны ўбачылі на беразе рэчкі Косцю Мігуцкага. Ён сядзеў, скурчыўшыся, і курыў.

— Пойдзем да яго,— ірванулася Волька.

— Не трэба, гэта горш! — адказала Вера, і яны развіталіся.

Крыху адышоўшы, Волька пастаяла. Нешта балючае кранула за сэрца. Хацелася бегчы да Косці, супакоіць яго, развесяліць. Было шкада Косцю. Але ўспомніўшы, што ён кахае Верку, рэзка крутнулася і пайшла, абіваючы расу на траве, дахаты.

Вера прыйшла, калі таварышкі рыхтаваліся ўжо на работу. Выспаўшыся, свежыя, яны былі вясёлыя.

— Дзе была? — жартаўліва пыталі Веру.

— У налёце. Не думайце!..— адказала Вера, распранулася і бомкнулася ў ложак.

* * *

Удзень была дэманстрацыя. Святкавалі вызваленне ад белапалякаў. Было пыльна і горача. Каля фабрычных варот сабралася тысячы дзве чалавек. Тут былі і старыя

рабочыя, і камсамольцы, і піянеры. Нават акцябраты згрудзіліся вяночкам каля плота ў садзе. І здавалася, што нават сад пабуйнеў, расцвіў колерамі, бо фарбы вопратак акцябрат вельмі ўжо былі разнастайныя.

Граў аркестр. І калі тукі будзёнаўскага марша біліся ў фабрычныя шыбы, разносіліся далёка па пасёлку, здавалася, што там, дзе яны губляюцца, у канцы пыльнае вуліцы, скача Сямён Будзённы на гарачым кані, такі плячысты, з вялікімі вусамі, а за ім яго конная. І хацелася бегчы навыперадкі, спаткаць яго і скакаць разам з ім.

Добрая справа — аркестр.

Ганушчанка на ўсе рукі майстра. Фабком даручыў яму сягоння кіраваць дэманстрацыяй. І калі былі сказаны словы апошняга прамоўцы на кароткім мітынгу, Ганушчанка жвава адскочыў убок, прабег скоранькім ваенным крокам, выпрастаў грудзі, узняў сівую рэдзенькую бародку і крыху дрыжачым, усхваляваным голасам закрычаў:

— Слухайце маю каманду! Баявыя штандары фабрыкі «Героі Кастрычніка» наперад! За мною арш! — і сам пайшоў наперадзе аркестра, цвёрда і ўпэўнена ступаючы па дарозе.

Закалыхаліся сцягі. Выцягнулася калона. Зазвінелі песні. Сярод натоўпу плакаты: «Дамо 100 працэнтаў», «Не ўзяць Пілсудскаму нас!» і многа яшчэ іншых. Апошнім ехаў карнавал. Там быў і Чэмберлен, і Пілсудскі, і поп, і прагульшчык, і п'яніца.

Дзеці беглі побач, нешта крычалі, жартавалі і гразіліся плакатам.

Перайшлі мост праз рэчку. І пыльнай шырокай дарогай пайшлі ў мястэчка. Калона ішла да памяшкання Савета на пляц.

Сонца грала на медных трубах аркестра, казытала шчокі.

Хацелася жыць і некуды ісці і ісці...

Вера ішла ў атрадзе чырвоных сясцёр. Атрад быў у форме. Ёй была вельмі да твару белая хусцінка, павязка на руцэ, нават супрацьгаз, які вісеў праз левае плячо, здаваўся зусім да месца. Вера думала, што радасна жыць такой вялікай сям'ёю, што яна вельмі шчаслівая, калі з дзіцячага дома трапіла на гэтую фабрыку.

Тут і людзі, і дружба, і работа. Усё добрае. Самую паперу яна вельмі любіла. Любіла доўга сядзець і думаць над ёю, любіла і пакаваць у роўненькія пакункі. Яна зна-

ла, што гэтыя пакункі дойдуць да школ і там такія самыя, як і яна, будуць на гэтай паперы вучыцца пісаць.

І Вера голасна, як магла, выкрыквала лозунгі.

Прыйшлі. Узняліся сцягі каля трыбуны Савета, дзе навакол, ажно да самых прыземістых хат у канцы невялічкага пляца, бушавала мора людскіх галоў. Гаварылі прамоўцы. У натоўпе крычалі «ўра». Граў аркестр. Стары Муляўка ўнёс прапанову адпрацаваць па аднаму дню ў карысць абароны. Пад шумны рокат адабрэння прапанова была прынята. Калі Муляўка сыходзіў з трыбуны, асавіяхімаўкі, каб расчуліць старога, прычапілі яму на грудзі значок на чырвонай істужцы, абступіўшы яго паўкругам. Потым раптоўна закруцілі старога на месцы:

— Ай, дзядунечка ты наш!..

— Пусціце, пусціце, сакатухі! — імкнуўся стаць сур'ёзным Муляўка, але твар яго ўжо расплыўся ў стрыманай усмешцы:

— Вось, можа, паслухалі б лепш, фарсухі!

— А з намі пойдзеш, дзед?

— Куды гэта з вамі? — хмурыўся ён.

— На фронт!

— Я, мусіць, перш за вас буду патрэбен,— і ён вырваўся з гэтага жывога гарачага дзявочага кола.

Веры падабалася, што на дэманстрацыі няма нічога сухога, узаконенага, фармальнага. І, можа, таму тут было так весела.

А калі паглядзець збоку, знадворку, калі першы раз убачыць дэманстрацыю, яна вельмі здаецца суроваю.

Мітынг скончыўся пазнавата. Дахаты ішлі ўжо не так арганізавана, як на пляц, бо некаторыя пайшлі палуднаваць проста з пляца — бліжэй было. Аднак астатнія строй-на завярнулі на фабрыку.

Па дарозе да Веры падбег Ванька Крук; ён сягоння шырока ўсміхаўся, і, здавалася, твар яго забраў у сябе ўсё сонца. Ішоў каля яе збоку, апрануты ў белую кашулю, рытмічна стаўляючы ногі на пясок. З-пад цюбецейкі рассыпаліся чорныя жорсткія валасы. Пытаючыся ў Веры пра работу ў атрадзе, быццам між іншым, прапанаваў:

— А можа, пракоцімся сёння, Верка? Знаеш, добра на рэчцы!

Яна згадзілася. Умовіліся спаткацца каля лодак пад вечар.

* * *

У пакоі парткалектыву вечна гудзела. Калі там пабыць дзень, дык можна добра асвойтацца з усім механізмам фабрыкі.

Там чуўся сапраўдны пульс фабрычнага жыцця.

Не паспеў прыйсці пасля дэманстрацыі ў калектыў сакратар таварыш Стурыт, каб прачытаць тэзісы для даклада на сходзе ячэйкі пра беларусізацыю, як пачалі ўвальвацца адзін за другім актывісты.

Тут гаварылі і пра вынікі дэманстрацыі, і пра рабкораўскі налёт, і пра тое, што пятая машына вельмі рве паперу, і пра тое, што некаторыя партыйцы цягнуцца ў хвасце за адсталымі рабочымі.

Стурыт — стары рабочы-папернік, латыш. Ён ведаў усю складаную машыну папяровай фабрыкі. Не горш ён ведаў і рабочых. І калі дакладвалі яму пра ўсе здарэнні, ён хмурыў свае махрастыя бровы і цвёрда, здавалася, механічна раздаваў загады і парады. Амаль заўсёды Стурыт быў хмуры. Здавалася, што яго ўвесь час нешта хвалявала. Але пры вялікіх поспехах ён рабіўся жывым, вясёлым і, здавалася, маладым. Тады ён мог грукнуць ад радасці па падлозе цвёрдым абцасам, доўга шчоўкаць пальцамі і парывіста смяяцца.

Тады, здавалася, ажываў невялічкі пакой парткалектыву, святлелі шпалеры.

Пасля дэманстрацыі Стурыт і быў такі. Ён радаваўся, бо ўсё прайшло сёння вельмі добра. Стурыт нават пачаў жартаваць з жаночым арганізатарам Вячэльскай.

— Добрыя бабскія каманды ты сягоння вышпігавала,— і хлопнуў яе па плячы.

Якраз у гэты час увайшоў загадчык сектара рацыяналізацыі і забеспячэння камуніст Абуховіч і пачаў злосна, спяшаючыся, дакладваць:

— Ты ведаеш, Стурыт, што робіцца? Гэта чорт знае што такое! Гукаў проста жыць не дае фабрыцы. Каторы раз просіш у яго дзесяць вагонаў на адпраўку — або дасць пяць, або зусім не дае. Сёння нічога не даў! А нарады нявыкананыя... Я ж дазнаўся, што вагоны пайшлі за бульбай у раёны гуляць пустыя... і каторы раз усё так!

Абуховіч ляснуў шырокімі далонямі сябе па сцёгнах, пацёпаў плячыма і сеў на крэсла.

— Дык гэта Гукаў даўно робіць? — адразу спахмурнеўшы, спытаў Стурыт.

— Ды каторы ўжо месяц! Прыйдзеш да яго, просіш, а ён і ў вус не дзьме. Па-мойму, гэта проста нешта заблытанае!

— Не хвалюйся! — заспакоіў Стурыт і проста, крыху нават сурова, звярнуўся да жаночага арганізатара Вячэльскай:

— Сонька, ідзі да Курніцкага, зараз жа арганізуйце рабочую брыгаду і праверце работу чыгуначнай станцыі. І не марудзьце! Захапіце і яго!..— ён паказаў на Абуховіча.

Абуховіч, ускочыўшы, на хаду зашпільваючы гузікі сваёй курткі, яшчэ пырскаў:

— А чорт!.. Ён усё мне, што не рабочых справа правяраць станцыю... гэта, гаворыць, другога ведамства... пакажам табе ведамства... шышка такая!..

Стурыт, здавалася, ужо не слухаў яго, сядзеў, уліпшы вачмі ў тэзісы, і нешта значыў алоўкам па краях паперы, але калі Вячэльская з Абуховічам грукнулі дзвярыма, ён ускочыў, адчыніў дзверы і клікнуў:

— Прыйдзеце потым да мяне, я тут буду!

— Добра!..— пачуўся голас з сянец.

* * *

Ванька Крук чакаў каля рэчкі. Ён хадзіў паўз бераг і чытаў газету, а больш пэўна — не чытаў, а глядзеў, прыкрываючыся ёю, убок, бо і трымаў ён газету ў руках больш для прыліку, каб не заўважыў хто, што ён сапраўды чакае спаткання. Вельмі ж ужо кплівая наша моладзь. А яму, ён думаў, сакратару ячэйкі, і не зусім зручна расхідацца на спатканні. Што скажуць камсамольцы? Але сэрца гаварыла другое, яно часцей білася, здавалася, ірвалася з грудной клеткі і змагалася з развагаї.

Ён сам адчуў гэта і ўзлаваўся. Стаў, паглядзеў, як на другім беразе рэчкі хлопцы гуляюць у гарадкі, як спрытна лятуць кії і ўзнімаюць пыл, ударыўшыся вобземлю.

Але, прыгадаўшы такую жаданую Веру, ён адчуў, што нервовасць пачала гінуць. Успомніў пра справы, і яму стала дакорна, што не выканаў просьбы камсамольца Пятухова, не напісаў карткі, каб зняць хлопца з уліку — той ехаў вучыцца ў Ленінград,— бо рупіўся сюды. І тут нешта вострае пацяло па сэрцы. Стала крыўдна і на Веру, хоць злавацца на яе ён аніяк не мог.

Раптам дзве рукі прыкрылі яму вочы. Ванька ўздрыг-

нуў. Здагадаўся, але маўчаў. Чуў за спіной дзявочыя грудзі, чуў, як ад ветру матляецца спадніца ў яго каля каленяў, як нехта стрымоўвае свой смех.

— Хто гэта? Досыць жартаваць!

Яна маўчала. Тады ён крутнуўся, абхапіў рукамі Верчыны плечы і весела падскочыў.

— Ай, Верачка-козачка! Чаго спазнілася? — І калі яна пабегла па крутым адхоне ўніз, Ванька памчаўся за ёй. Верка сакатала на хаду:

— Загаварылася, госці прыехалі...

На лодцы Верка села на карму, а Ванька — за вёслы. Яны паплылі. Роўна рассякаў Ванька вёсламі ваду. Ён машынальна то адкідаўся назад, то нахіляўся наперад. Пры гэтых рухах у яго выстаўляліся здаровыя тугія грудзі, і праз незашпілены каўнер кашулі Верка бачыла гэтыя загарэлыя цяжкія грудзі з цёмным адценнем. І раптоўна, перакінуўшы погляд на ваду, пачала гаварыць яму пра гасцей, што прыехалі з падшэфнае часці Чырвонай Арміі і распытвалі доўга яе пра завод. Ванька слухаў, устаўляючы рэплікі, глядзеў на Веру, рос у плячах і яшчэ больш націскаў на вёслы.

Заходзіла сонца, яно кацілася цяпер беражком па вадзе, і здавалася, што ад яго гатуецца вада ў рэчцы і ад гэтага ўзнімаецца клубамі туман над вадою. Было ўтульна. Толькі, не сціхаючы, стаяў аднастайны гул, што прылятаў адтуль, з-пад фабрыкі. На пожні трашчалі цвыркачы, некалькі качак узнялося з чароту ля берага, праляцела воддаль і зноў бомкнулася ў траву. Вада ўсё больш станавілася цёплаю і цямнейшаю. Верка трымала левую руку ў вадзе, прапускаючы яе праз тонкія пальцы.

Было хораша. Абаім нічога не хацелася гаварыць. Яны жылі малюнкам захаду сонца, тым, чым жылі вакол іх пожні, гаі на беразе, маладыя ліпы, што глядзеліся ў ваду. Хацелася разгадаць нешта глыбокае, што захавана ў гэтых пожнях, чаротах каля берага, у цёмнай вадзе.

Першы парушыў спакой Ванька:

— Верка, як хораша часамі думаць. Вось глядзі, навокал гэтая самая прырода. Усё гэта пад пэўным законам. І лясы, і вада, і трава, і вунь тыя бярозы, што стаяць на беразе, і ты, і я, усе мы — прырода. А пройдзе час, на нашым месцы будуць ехаць другія, будуць стаяць другія бярозы, будзе другая трава. Яны будуць такія ж, падобныя да гэтых, крыху, можа, зменяцца, а замест мяне і цябе прыйдуць зусім інакшыя людзі, не падобныя да нас. Яны

будуць больш складаныя, а можа, яшчэ больш прасцейшыя...

— Дай адпачыць ад дыялектыкі,— сказала Вера.— Мне і ў гуртку яе хапае.— І яна заспявала. Узнімаліся поўныя маладыя грудзі, гукі рассыпаліся па вадзе, рытмічна яна ўзмахвала рукой, каб надаць выразнасць сваёй мелодыі:

С неба полуденного жара не подступи,
Армия Буденного проносится в степи...—

таяў малады голас на ўзбярэжжы.

— В сцепі-і...— падхоплівааў Ванькаў тэнар і нёсся на шумныя пожні. Пад'ехалі да вострава. Гэта быў невялічкі астравок, зарослы рознымі дрэвамі. Больш тут было ляшчынніку, бяроз і асіны. На гэты востраў шмат хто прыязджаў з фабрычных адпачыць летам у вольны час. Там вытапталі вяртлявыя сцежкі, нават у некаторых месцах былі пароблены лавачкі. На гэтым жа астраўку, апавядалі ўдзельнікі, рабіліся яшчэ ў старыя часы маёўкі. Ганушчанка часта ўспамінаў іх.

Усцягнуўшы лодку на бераг, Ванька і Верка матнуліся і пабеглі на востраў. Там яшчэ было многа моладзі. Хадзілі парамі і гуртам, гулялі, бегалі, жартавалі. Убачыўшы Крука, некаторыя закідвалі:

— Гуляем, Ванька! — і падміргвалі яму.

Абышоўшы разы два кругом астравок, Ванька і Вера спусціліся на бераг, селі на зваленае дрэва, якое кругом абрасло ляшчыннікам. Спачатку маўчалі, толькі глядзелі на ваду. І ў гэтым маўчанні хавалася многа гаворкі, цяжка было толькі яе пачаць. Узняўся вецер. Ён адкінуў пасму бялявых Верчыных валасоў. Яны рассыпаліся на ветры і крануліся Ванькавае галавы. І тады быццам хваля прабегла па ўсім целе хлопца і скаланула ўсяго. Вера хуценька паправіла валасы і ўздыхнула.

Тады неяк мімаволі рука Ванькі лягла на Верчына плячо, калені прыхінуліся бліжэй. Ён бачыў, як хвалююцца ў Веры грудзі, як гарэць яе шчокі. І тады, схапіўшы раптоўна яе, не даўшы апомніцца, прыгарнуў і ўпіўся ў цёплыя губы. Яна на хвіліну застыла, потым, нібы апомніўшыся, ускочыла і падазрона паглядзела на яго.

— Не трэба! Што ты робіш?

Ванька падбег, узяў Веру пад руку, і яны пайшлі паўз бераг. Ішлі і маўчалі, ішлі і разумелі адзін другога. Ішлі і баяліся гаварыць. Потым пачаў Ванька:

— Вера, знаеш...— замяўся ён.— Я люблю цябе!..— сказаўшы гэта, ён стаў і спусціў вочы долу.

Верка зачырванелася, доўга маўчала, потым кінулася яму на шыю, сціснула яе моцнымі рукамі:

— І я...

Пацалунак. Зноў пайшлі. Цяпер яны былі смялейшыя. Верка тулілася да яго, а ён моцна трымаў яе за руку. Яму здавалася, што ён у гэтую хвіліну намнога вырас.

Ля дарогі яны ўбачылі чалавека, які ляжаў і стагнаў у траве. Яны падышлі, той ляжаў ніцма і нешта мармытаў. Ванька калатнуў яго за плячо. Узнялася страшная, з сінім тварам, лахматая галава Мігуцкага. Ён утаропіўся ў іх, потым скрыгатнуў зубамі і дзьмухнуў п'яным перагарам:

— Гуляеце і... сво-ла-чы!..

Ванька паспрабаваў яго ўзняць, але Мігуцкі затрос кулакамі. Вера стаяла моўчкі, нібы прыкаваная да месца.

— Заўтра прыйдзеш на ячэйку! — цвёрда сказаў Ванька.

Мігуцкі апусціў галаву, убіўся ў траву і адтуль злосна прахрыпеў:

— Пай-ш-шоў! Пай-ш-шоў!..

Усхваляваныя гэтым здарэннем, Ванька і Вера пайшлі к лодцы. Яны доўга гаварылі пра Мігуцкага, парашылі, што ён сам вінаваты. Думалі, як выправіць хлопца.

— Я знаю,— гаварыў Ванька,— што яго загубіла. Тут прыехаў нядаўна ў пасёлак нейкі новы канторшчык. П'яніца — жах. Ён з ім звязаўся, каторы раз ужо бачу. І на рабоце стаў гультаіць.

Рэзка хлюпалася пад вёсламі вада. Насіўся сыры вецер. Лодка гонка плыла ўніз. Думы сноўдаліся ў прасторы.

Доўга стаялі на беразе. Цёпла развіталіся. Умовіліся заўтра спаткацца пасля таго, як Ванька прыйдзе са змены ў кузні.

* * *

Было ўжо адзінаццаць гадзін, а Стурыт толькі скончыў работу. Ён крыху адхінуўся на крэсла, узяў «Праўду» і пачаў чытаць. Адчувалася стома. Былі цяжкія плечы і гудзела галава. Ён заплюшчыў вочы. Перад ім праходзіла сённяшняя дэманстрацыя, і яму здавалася, што ён чуе яе галасы. Ён верыў у гэты строгі натоўп і жыў ім. Даў волю

сваййму ўяўленню і стаў перабіраць у памяці сённяшнія здарэнні, як раптам у сенцах загрукалі, адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшла брыгада рабочых на чале з Абуховічам і Вячэльскай.

Яны загрукалі па пакоі і, не садзячыся, наперабой пачалі гаварыць:

— Дазналіся!

— Ух, гад!

— Нарачыта рабіў.

Яны апавядалі, што калі прыйшла брыгада, дык Гукаў спачатку не хацеў пускаць іх, гразіўся, што яны адчыняць ілбом дзверы, пляваўся, лаяўся, што гэта не рабочых справа, і ледзь згадзіўся паказаць ведамасці.

— Ён увесь час калаціўся ад злосці,— гаварылі рабочыя.— Але мы блізка падышлі!

Яны высветлілі, што сапраўды ў панядзелак трынаццаць вагонаў пайшлі ў раён пустыя, тады калі іх можна было нагрузіць паперай, што Гукаў незаконна выпісаў на фабрыцы грошы за пагрузку, бо браў за гэта ж грошы і на чыгунцы, што ён паперу пускаў гуляць па свеце. Трэба, скажам, у Ленінград слаць, а ён шле ў Адэсу. Гаварылі, што на станцыі ўсе працаўнікі ў большасці яго сваякі, памочнік — швагер, і што толькі адзін вартаўнік — камсамолец, ды і таго яны заціснулі.

— Аніякай там грамадскай працы. Адзін фальш! — нерваваліся рабочыя.

Стурыт уважліва слухаў, ходзячы па пакоі, потым сказаў, што пра ўсё будзе паведамлена куды належыць і ўсё будзе зроблена. Пахваліў брыгаду. Рабочыя разышліся. А Стурыт доўга яшчэ сядзеў і пісаў у райком пра агідныя справы на станцыі. Абуховіч яму пасабляў.

Загудзеў гудок на трэцюю змену. Стурыт сабраўся дахаты.

* * *

Рыгор Мацвеевіч Курачкін — канторшчык — сустрэў аднойчы ў клубе Косцю Мігуцкага, калі той быў у нейкім меланхалічным настроі, сядзеў на крэсле, апусціўшы галаву, і ўглядаўся ў свае чорныя пальцы.

Курачкін падышоў да Косці нейкаю асаблівай віхлястай паходкай, узяў яго за плячо і сіплым надарваным галаскам пачаў гутарку:

— Пра што задумаўся, хлопча? Рукі чорныя?



Якуб Колас, Янка Купала,
Пятрусь Броўка, Змітрок Бядуля. 1939 г.



Янка Купала (*у цэнтры*) і Пятрусь Броўка (*першы справа*) сярод работнікаў Ляўкоўскага лясніцтва. 1935 г.

Косця паглядзеў падазрона на Курачкіна і быццам сам сабе адказаў:

— Працую, дык і чорныя. Я зусім і не пра гэта думаю.

Тады Курачкін закруціўся каля яго і нарачыта ласкава стаў працягваць гутарку:

— А скажыце, вам часта сумна?

— Так, як калі,— адказаў Косця.— Вось часамі вёску ўспамінаю, горна становіцца. Вальней там!

— Нічога, нічога! — замямліў Курачкін.— У кожным месцы можна знайсці весялосць...— потым неяк раптам, зусім нечакана для Косці, устаў і прапанаваў пайсці да яго: — Знаеце, у мяне дома лагодна. Можна і пабавіцца!

Мігуцкі думаў. І парашыў, што яму сёння няма чаго рабіць, а заўтра выхадны. Хацеў паглядзець, як жыве інтэлігенцыя — такім здаваўся яму Курачкін,— і ўстаў.

Яны пайшлі ажно ў канец пасёлка. Там, на ўскраі, у асобным доміку жылі ўдвух — Курачкін і рабочы з рольнага аддзялення, нядаўна прысланы з другое папяровае фабрыкі.

Іх напаткала жонка Курачкіна. Курачкін пазнаёміў яе з Мігуцкім. Яна была невялічкаю, пульхнаю і вельмі гаваркою. Здавалася ветлаю. Запрасіла ў хату. Пакой быў вельмі ўтульны, чысты і светлы, у ім стаяў вялікі стол, буфет з разьбою, этажэрка, віселі дываны. Ложкі былі закрыты полагам, на вокнах віселі чысценькія, у прыгожых карунках, фіранкі.

Курачкін таропка распрануўся. Папрасіў Мігуцкага сесці, а сам шапнуў Лідзе Пятроўне (так звалі яго жонку), каб тая несла гарбату.

Утульнасць і парадак схілялі да спакою і гутаркі. Курачкін спачуваў Мігуцкаму, што такі пералом у жыцці, як пераход з вёскі на работу сюды на фабрыку, канечне, дае адчуваць, што тут цяжэй, чымся там.

— На вёсцы, ведаеце, таварыш Мігуцкі, многа вальней, здаравей, тут адзін дым, пыл і грукат на многа год адбіраюць здароўе. Але нічога,— супакойваў ён,— звыкнецеся!

Косця маўчаў: ён адчуваў, што яму цяжка адразу перарабіцца і дысцыплінавацца. Успомніў сваю вёску. Яна невялікая. Каля трыццаці хат. Кругом лес, тры возеры, сухая сенажаць, якая так шуміць улетку. Перад вачыма паўстала маці. Здаровая, чырвоная, круглая. Гаспадарка: два кані, тры каровы. Прыгадалася маці, і захацелася сырадою, такога цёплага, духмянага, які пахне канюшынай.

П'еш і адчуваеш сілу зямлі. Маці яму і не ўяўлялася іншаю, як з сырадоем, з дранымі і смажанымі ў сале бульбянымі блінамі і са смятанаю, з вішнёваю настойкаю,— і побач бацька, вечна лагодны да яго.

Косцю стала непамысна, што гэта ўжо беззваротна. «У калгасе,— думаў ён,— сырадоем не пояць, добра, каб перагон быў».

І тады, калі Косця расчуліўся, да яго падышоў, усміхаючыся, Курачкін і паднёс паўшклянкі гарэлкі.

— Будзем жывы! — і задорна матнуў галавою.

Косця глянуў. На століку ўжо стаяў графін, на талерцы ляжалі парэзаныя агуркі і хлеб. Хлопец няпэўна ўзяўся за шклянку, дакрануўся ёю да шклянкі Курачкіна і пацягнуў...

Гарачыя ручайкі пабеглі па горле. Косця адчуў, як пачалі грэцца грудзі, з'явілася вясёласць. Тады ён пачаў жыва закусваць і дзяліцца сваімі пачуццямі.

Курачкін слухаў і падліваў. Нарэшце Косця захмялеў. У яго цяжка варочаўся язык.

Ліда Пятроўна прынесла чай. Косця піў яго і не помніў, як і заснуў.

* * *

У паккамеры, калі ў рабочых быў перапынак, Архіпаў, найбліжэйшы сябра Курачкіна, запіхаў пад сваю кашулю пакункі найлепшых спыткаў. Ён рабіў гэта не першы раз, усё яму сыходзіла з рук — і таму не вельмі непакоіўся. Часамі нават усмешка прабягала па ягоным твары, калі ўспамінаў, што стрэнецца за чаркай з Курачкіным, а пры выпадку папесціцца з самой Лідай Пятроўнай, ну, вядома, калі Курачкіна не будзе дома.

* * *

Прыйшоў лістапад, мокры, жоўты і ветраны. Над пасёлкаваю вуліцай круцілася жоўтае лісце, як вялізныя мухі. Людзі хуталіся ў асеннія паліто, у брызентавыя накідкі і здаваліся самі хмурнейшымі. Нават фабрыка быццам пацямнела. Па шыбах часта барабаніў дробны і востры дождж, дым з комінаў асядаў долу, і ад гэтага сцены рабіліся яшчэ больш суровыя.

А ўсярэдзіне, за гэтымі сценамі, гатавалася, як у кат-

ле. Людзі бегалі, ладзілі, чысцілі, прыглядаліся да кожнага шрубіка. Нервавалі, часта лаяліся.

У цэхах быў увесь актыў. Стурыт, здавалася, не выходзіў адтуль ні ўдзень ні ўначы. Ён бегаў, прыслухоўваўся, хмурыўся, загадваў. Знаёмае рыжае крыссе яго курткі часта матлялася перад кожным.

Кастрычнік месяц даў прарыў у выкананні прамфінплана на трыццаць працэнтаў. Трэба было гэты прарыў запоўніць калектыўнай сілай, каб прамфінплан зноў паставіць на ногі, каб нават павялічыць выпрацоўку. Бо нарады на паперу сыпаліся як дождж. У краіне адчынілася шмат навучальных устаноў, у адной Беларусі выпускалася столькі газет, як ніколі не было ва ўсёй царскай Расіі. Культурная рэвалюцыя настойліва патрабавала паперы, і фабрыка мусіла яе даць.

І таму рабочыя абвясцілі вытворчыя манеўры. Яны абавязаліся перавыканаць заданне.

Трэці дзень як фабрыка нагадвала ваенны лагер. Каля кожнае машыны стаялі нібы байцы і камандзіры. Сачылі за арганізмам машын, правілі яго. У цэхах па сценах віселі загады, яны былі кароткія і суровыя.

Каб вызначыць пэўную норму выпрацоўкі, да кожнае машыны прызначылі дзяжурных. Гэтыя дзяжурныя цэлыя суткі знаходзіліся каля машын. Яны прыглядаліся, запісвалі, нешта меркавалі. Потым Стурыт сабраў усіх у памяшканне парткалектыву. Выклікаў дырэктара, і тут вызначылі норму. Дзяжурныя даклалі, што норма магла б быць большаю і прарыў можна было б скора ліквідаваць, каб быў добра наладжаны рамонт.

— А то прыйдуць слесары,— гаварылі яны,— пагрукаюць, пагрукаюць і разыходзяцца. А толку мала. Дзень пойдзе машына лепш, а потым зноў закульгае.

А галоўнае — усе скардзіліся на рольнае аддзяленне.

— Чорт іх знае, якую яны даюць кампазіцыю. Вельмі часта рвецца папера. Многа глуму. Ніяк наладзіць не можна.

На нарадзе курылі, спрачаліся. Стурыт сядзеў, нібы скамянеўшы, моцна сціснуўшы тоўстыя губы. На твары ў яго бегалі жалвакі. Ён уважліва слухаў і толькі часамі коратка ўстаўляў свае заўвагі.

На нарадзе парашылі націснуць на слесараў і прыгледзець за рольным аддзяленнем.

Таго ж вечара Стурыт сабраў бюро парткалектыву і выклікаў усіх камуністаў з рольнага аддзялення.

Камуністы-рольшчыкі пагаджаліся, што ў рольным нешта няладнае, што кампазіцыя масы, асабліва ў начную змену, даецца дрэнная.

Доўга папацеўшы і паспрачаўшыся, прыйшлі да таго, што за рольным аддзяленнем трэба добра прыглядаць, што ў начную змену трэба перавесці з дзённае на работу шэсць камуністаў і што трэба змяніць загадчыка аддзялення Кратовіча.

Вылучылі ў загадчыкі Андрэя Ганушчанку...

А ў клубе быў вечар барацьбы за прамфінплан. Віселі доўгія чырвоныя лозунгі, шырокія плакаты.

Каляда ўжо спацеў і змогся, робячы даклад. Ён простымі лічбамі даводзіў, што прамфінплан павінен быць выкананы. Потым выступаў Ванька Крук, лаяў камсамольцаў, якія не сталі наперадзе ўдарнага руху.

Гудзела зала. Рабочыя і работніцы гаварылі пра свае цэхі, пра тое, што ім бліжэй, пра варштат.

Пасля пачалася мастацкая частка. Драматычны гурток паказаў такіх рабочых, якія перашкаджаюць будаваць пяцігодку. Тут былі і нядбайца, і рвач, і п'яніца, і шкоднік. З'яўленне іх на сцэне суправаджалася спяваннем частушак. Зала жыва ўспрымала гэты паказ, тым больш што ў некаторых пазнавалі сваіх. Крычалі:

— Сакольчык...

— Мігуцкі...

— Платонаў...

Косця абразіўся — ён быў у клубе. У яго забушавала злосць на ўсіх, хто сядзеў у зале, і асабліва на Ваньку Крука і Верку Сізову, якія гралі ў драмгуртку. Здавалася, што яны сумысля кпяць з яго. Ён устаў і пайшоў, моцна пагрукваючы ботамі па зале.

Наўздагон яму засыкалі:

— Ці-ш-ш-ш!..

А ў гэты час іграў на гармоніку прыезджы артыст Туішаў. Ён іграў на некалькіх розных гармоніках. І ўсялякім чынам: і адной рукою, і за спіною. Зале спадабаліся такія нумары. Доўгімі воплескамі прасілі паўтору. Знаходлівы артыст сыграў марш.

Зала грымела. Ёй спадабалася, што артыст адгадаў яе настроі. Выступалі яшчэ хор і «Сіняя Блуза».

Позна разышліся па хатах. Ванька праводзіў Верку. Яны ішлі, захутаўшыся ад дажджу, і зрэдку мяняліся ўражаннямі пра вечар. Ад канторы да інтэрната — з паўгоняў, саджаных бярозай. Вецер шкуматаў голае голле,

грукаў галінамі, імжэла. Вера тулілася да Ванькі і здавалася яму вельмі роднай. Чуваць было, як білася яе сэрца.

Раптам нешта цвёрдае моцна ўдарыла Ваньку па спіне. Ён адчуў боль і пачуў шастанне крокаў па мокрай траве, якія знікалі за вузкай каляінай. Ванька схапіўся рукою за балючае месца, трохі пастаяў, заплюшчыўшы вочы, потым рашуча ступіў уперад, узяў за руку Верку і сказаў:

— Чорт яго бяры... Пойдзем!..

— Хто гэта можа быць? — разважала напалоханая Верка.

— Добра, што гэтак... — прагаварыў Ванька.— Некалі дазнаемся.

А ў гэты час садам выскачыў на вузкую каляіну і як шалёны пабег Косця Мігуцкі, хаваючыся за загарадкаю пасялковых дамоў.

## Частка другая

На станцыю Вусы прыйшоў хуткі цягнік. Пасажыраў тут заўсёды злазіла мала. І сягоння, калі паравоз павольна падышоў да перона і стаў адсопвацца, з вагона выскачыла не больш чатырох чалавек. З апошняга, крыху спазніўшыся, выйшаў Косця Мігуцкі, нагружаны вандзэлкамі.

Ён, скочыўшы са сходняў на перон, пастаяў, пажмурыўся на сонца, на ржавую шыльду станцыі, на шэрыя сцены, паазіраўся вакол і потым пайшоў да выхаду.

Не спяшаючыся, Косця пабрыў саджанаю дарогай. Да вёскі Забонічы, дзе жылі яго бацькі, было ўсяго пяць вёрст. І разважаючы, што цяпер яшчэ вельмі рана, ён павольна ішоў вытаптанай сцежкаю каля прыдарожных бяроз, садзіўся часамі на паўзмежку, каб адпачыць ад кладзі.

Стаяў чэрвень. Дзве фарбы поўнілі прастору. Сінь і зеляніна. Млелі маладыя, свежыя лісты бяроз, увачавідкі расла трава, і, здавалася, званіла жыта. У гаях кукавала зязюля. І Мігуцкаму ўспомніліся вясковыя дзяўчаты, іхняя варажба ў вясновую раніцу:

— Зязюля, зязюля, колькі мне гадоў жыць?

— Ку-ку!.. Ку-ку!..

Тады дзяўчына, стаіўшы дыханне, здавалася, уся танула ў гэтых гуках, у лістах таго гаю, адкуль прылятала зязюлі...

Мігуцкаму хацелася самому варажыць у гэты час. Ён

у думках нават іншы раз лічыў, што, можа, у гэтай варажбе і ёсць праўда, але, успомніўшы, як пераехаў каля Рэчыцы цягнік чалавека, парашыў, што не зязюля тут вінавата, што таямнічасць прыроды і ёсць у тым, каб ствараць і разбураць, здрыгануўся, калі падумаў, што можа здарыцца з ім, ды яшчэ больш удыхаў мяккае лагоднае паветра, якое, здавалася, можна было мацаць рукамі.

Развагі не пакідалі яго, і несучы цяпер свае цяжкія вандзэлкі, ён міжволі параўноўваў іх з жыццём. Яно, калі не ўмееш авалодаць ім, такое ж цяжкае і няскладнае.

— А неба якое чыстае!.. — вырвалася ў яго.— А я такі... — І ён успомніў усе апошнія месяцы свайго жыцця на фабрыцы. Успомніў і не паверыў, што гэта ён ідзе, што гэта яго ногі ступаюць цяпер па гэтай доўгай пыльнай сцежцы, па вясковым гасцінцы, па якім прайшло безліч ног, па якім людзі насілі пакункі рэчаў і дум. Часамі рэчы знікаюць пазней, а многа дум, пранесеных тут, так і загінула ў гэтых сініх пасмах вялікага прастору, асела на кучаравым галлі прыдарожных дрэў, праплыло ручаінамі і невядома людзям.

Скажам, дзед. Ён доўга хадзіў гэтаю сцежкай, пранёс тут горы мараў і дум, а дзе яны — невядома, ды і самога дзеда няма, а вось медны кацялок, што прынёс дзед гэтаю дарогай з турэцкае вайны, і цяпер, напэўна, стаіць яшчэ са шпулькамі на паліцы.

Ён адчуваў, каб ведаў цяпер ягоныя думкі Рыгор Мацвеевіч Курачкін,— не дараваў бы яму, а можа, і не даў бы вярнуцца з дарогі. У душы бушавалі дзве сілы. Адна, старая, цягнула да сябе, і яе трымаў Рыгор Мацвеевіч, да яе больш хіліўся і Косця, і другая, новая, што ўсплыла цяпер, нечакана, пад уражаннем такой цеплыні і шчырасці гэтага вясновага дня, якая звала спаліць, разбурыць усё, што ржавым камком нарасло за апошнія месяцы.

У думках Косці паўсталі Рыгор Мацвеевіч Курачкін, рабочы Архіпаў, які дома пры зачыненых стаўнях апранаў стары адгладжаны сурдут, сарочку з накрухмаленым стаячым каўняром, піў, што трапляла пад руку, і разважаў пра чалавецтва, якое коціцца на згубу. Паўставалі доўгія снежаньскія ночы, калі ў асобным доміку на канцы пасёлка жыхары, моцна зачыніўшы ўсе дзверы, доўга раіліся, як выгадней прадаць крадзенае фабрычнае дабро — найбольш спыткі і лепшыя гатункі паперы,— каб хапіла ўсім на гулянкі; паўставала Ліда Пятроўна, цёплая, вяртлявая, што цалавала адразу трох — Курачкіна, Архіпава і

яго,— і ў кожнага на каленях спявала прыгожыя, мяккія, як і сама, урыўкі з аперэтак; зморшчыўся, калі прыгадаў, як назаўтра трашчала галава; а на фабрыцы трэба было заўсёды хітраваць, каб застацца тады, калі нікога няма ў паккамеры, і набраць чаго трэба, каб удала напіхаць усяго пад пінжак і непрыкметна пранесці праз прахадную, успамінаўся настрой пасля гэтага — задавальненне ад выкананага і невялічкая прыкрасць ад злачынства, прыгадваліся сухія пальцы Архіпава, якія пералічвалі чырвонцы за свечкаю ўначы і дзялілі на трох...

«А ці прарываўся тут калі мароз у гэту ціхую сялібу?..» — думаў Косця, падыходзячы да бацькоўскае хаты.

* * *

На століку ўжо красавалася яечня, стаялі сырадой, масла і копчаная вянгліна, нарэзаная буйнымі кавалкамі. Сядзела спакойная маці. Трымала ў руках і разглядала пакупныя хусцінкі, падарункі ад сына.

Крыху маўчалі. Косця ахвотна еў з дарогі, а маці разглядала гасцінцы. Потым стала прыкметна, як набухлі чырванню яе шчокі, а вочы нібы праціналі кагосьці:

— Загубілі нас!.. Сынок!..

— Хто?

— Ды вядома, калгас гэты!..

— А што? — узбуджана пытаўся Косця.

— Ну, летась, значыцца... упісаліся і мы... пабаяліся, што выганяць нас куды на пустэчу, на пясок. Думалі, што хутка скончыцца гэта... прыстаўленне. І зноў будзем як людзі... Завялі да іх конікі і кароўкі... Балюча было, о як балюча, сынок!.. Падумаеш толькі... сабралася галеча... Ты ж ведаеш, якія рыцары Пятро Канцавы ды Язэп Бабыль, у іх жа толькі і было ўсяго, што зрабіў, дык і з'еў... А тут проста раўнапраўнымі выйшлі... Не, не люблю я гэтага права!.. — чырванела маці, і бровы яе дрыжалі.— Як падумаю ды пагляджу, бывала, што Язэп бярэ нашага гнядога коніка ды запрагае ў бароны... ну, здаецца, ён мяне самую запрагае, так балюча. Доўга калаціліся мы са старым... Думалі, думалі, ды і выпісаліся адтуль... Цяпер самі па сабе. А яны, калгаснікі... усё круцяць нешта, каб іх духі скруціліся!

Косця ўстаў, закурыў. Нервова захадзіў па хаце. Ён не ведаў, што адказаць маці. Было злосна на калгаснікаў, што разбурылі спакой, і на бацькоў, якія не ўмеюць пры-

стасавацца да жыцця. Хіба дарэмна ён кінуў тады гэтую моцна зладжаную, як дубовы стол, гаспадарку і пайшоў на фабрыку рабочым. Хацелася выбіцца ў людзі, камуністам стаць... А яны не разумеюць.

— ...Петрака Карпеенку з Ветча на лета ўзялі... Адным не справіцца... — цягнула маці.

Тады аж аслупянеў Косця. Твар ягоны пасінеў, рукі закалаціліся...

— Што-о? — як звер, закрычаў ён.— Падурнелі, ці што?! — і ён грозна пасоўваўся на маці.— Смерці захацелі маёй!.. Сваёй!.. Бараны!.. Ая-яй! Хто вас навучыць жыць?

Маці скамянела ад гэтае перамены.

У хату ўвайшоў бацька.

На хвіліну ўсё супакоілася. Ён паважна, пазвоньваючы цуглямі, паклаў аброці на лаву, выцер рыжую калматую бараду, павольна падышоў да сына і моцна пацалаваў Косцю, ляпнуўшы па плячы. Пасвятлелы твар яго ажно памаладзеў.

— Да нас, сынок, прыехалі? — з павагаю запытаўся бацька.

Цяпер ён зваў сына на «вы». Яму здавалася гэта больш культурным.

Не паспелі яны крыху пагаварыць, як бразнулі дзверы і ў хату ўвайшоў кум Антось Прылуцкі. Так яго звалі, бо і вёску іхнюю звалі Прылукі. Ён перахрысціўся і, беражна вешаючы шапку, працадзіў:

— Добры дзень панам... І Костусь наш прыехаў?..— падышоў і прывітаўся.

Маці зноў завіхалася ля печы. Бразджала бляшанымі міскамі і звaніла патэльнямі.

«Відно, прарваўся мароз і ў гэтую цёплую хату...» — разважаў Косця.

Селі за стол. Антось выняў з глыбокае кішэні пляшку самагонкі і, азіраючыся на вокны, пачаў ліць у кубкі.

— Можа, і пачакаў бы, ягомасць... У нас жа і сваёй драбок ёсць... паспееш ты яшчэ ставіць. Які гэта пачастунак са сваёй гарэлкаю? — і бацька міргнуў маці.

Тая выняла з шафы закураны гляк.

Пачаліся цмоканне і жывая гутарка.

— То скажы ты нам, да чаго вы, фабрычныя, давесці думаеце, знацца, да... — зацягнуў Антось.— Мы вось тут пацеем, пацеем — і нічога не маем,— і ён паказаў на свае тоўстыя загарэлыя рукі.— А вам там лягчэй... папрацуеце спакваля свае гадзіны... ды і ляжыце, за прабачэнне... цэ-

лы дзень, пуза на сонца выставіўшы... — і ён іранічна ўсміхнуўся.

Стары Мігуцкі ў знак згоды ківаў галавой і смачна грыз засмажаную вяндліну.

— Яно, канечне, нам лягчэй... — азваўся Косця.— Толькі і там не смак. Тут больш пражывеш!.. Паветра больш... А чаму вы не арганізуецеся, каб лепш жыць? Не ўмееце вы жыць!

— Паспрабуй тут жыць, пане мой, ды і сам не тое запяеш... Ну якая там у мяне... як той кажа, гаспадарка? Ведаеш, вашэці, сам,— звярнуўся Антось да старога Мігуцкага.— Якія там коні... Кароўкі чуць ходзяць на пашу... А ўзялі анэгды ды абклалі, каб іх, за прабачэнне... зямелькай абклала, каламутнікаў гэтых. Кажуць, парабка трымаеш. А які там парабак? Ігнасішын хлапец!.. Ён больш з'есць, не раўнуючы як зробіць... А трэба было, каб хоць каня запрог, бо самому няўпраўка... Ведаеш, васпане, якая ўжо, а ўсё ж гаспадарка...

— Ды і няма чаго табе, дзядзька Антось, так зневажаць сваю гаспадарку,— загарачыўся Косця.— Тры валокі маеш... пяць кароў, трое коней... але дурныя вы, хоць і старыя, во што я вам скажу. На чорта вам гэтыя парабкі і лішнія каровы? Не дыпламаты вы!.. Во што я вам скажу... — і ён дакорна паглядзеў на бацьку.

— А што гэта, пане мой, за дыпламаты?..— запытаў Антось.

— Людзі, што розум маюць... Во!

Маці ўважліва слухала. Здавалася, вушы краталіся ў старое і лавілі гаворку.

Заседзеліся позна. Доўга гаварылі. Клялі калгаснікаў і сельсавет, а Косця адчуваў сябе ніякавата. Ён не ведаў, дзе яму дзецца. На фабрыцы сядзеў, як на гарачых шпільках, прыехаў — і тут агонь. «Няма спакойнага месца цяпер...» — злаваўся ён.

...Доўга раіліся і шапталіся ў паўзмроку, пад запаленай лампадкай, успаміналі даўнейшае жыццё, калі Пятрок Канцавы і Язэп Бабыль хадзілі да іх на пакос у адработкі за муку, што бабы іх зімою пераносілі гарцамі дахаты. Успаміналі і крыўдзіліся.

Ахмялеўшы, яны моцна лаяліся, што трэба найскарэй пазбавіцца парабкаў і лішняга...

— Сёння ж... Сёння ж... — гарачыўся Косця.— Інакш каюк...

Дакорліва матлялі галовамі старыя.

І калі ўвайшоў парабак Мігуцкага і толькі прывітаўся, стары Мігуцкі зазваў яго ў бакоўку. Былі чуваць адтуль спрэчкі абодвух.

— Не маеш права! Мала! — крычаў Пятрок.

— Досыць табе!.. Не рві душы!.. Ідзі!.. — гарачыўся стары.

Праз гадзіну парабак, сабраўшы свае клумкі, выйшаў з хаты.

* * *

Назаўтра Косця ўстаў позна. Ішлі каровы. Забонічаўцы ганялі статак на пашу ў лес і звычайна летам каля паўдня прыганялі жывёлу дадому, запіралі ў хлявы, бо ў лесе не давалі жыць авадні.

Косця ўстаў, паглядзеў у акно. Па вуліцы ўзнімаліся клубы пылу, у якім матляліся закручаныя хвасты кароў.

Паснедаўшы, выйшаў на двор. Пайшоў на поле. Ён ішоў па дарозе, вітаўся са знаёмымі яму мясцінамі, якія летась пакінуў. Доўга глядзеў на Іванаву гару, самую высокую ў сяле, дзе ў купальскія ночы, помніць ён, з хлапцамі паліў бочкі ад дзёгцю, і тады ў гэтым урачыстым загадкавым святле яны гулялі, круціліся, бегалі па крутых адхонах разам з дзяўчатамі, вырывалі ў іх вянкі. Яму было прыемна тады, што толькі ў яго аднаго была шаўковая кашуля і пояс з вялікімі чырвонымі кутасамі. Ён ганарыўся, што хлапцы зайздросцілі яму.

Успомнілася Марылька з Усходаў. Вясёлая дзяўчынка. Але хутка паўстала перад вачыма белавалосая Верка. Стала балюча.

Так абыходзіў ён усе палі сваёй вёскі. І на кожным знаходзіў такі кавалак, які непарыўны з ім, з яго целам, з яго думкамі, з яго жыццём. І здавалася Косцю, што прышыты гэтыя мясціны моцнымі непрыкметнымі ніткамі да яго і не пушчаюць ад сябе. І была ў гэтым радасць.

Косця лёг на спіну на невялічкім лужку ля дарогі, даў волю целу і думам. На небе лахманамі плылі белыя пашкуматаныя хмары, плылі на лес і там, чапляючыся за яго верхавінне, разрываліся і знікалі. Мары плылі такою ж чарадою.

«Старое моцнае»,— разважаў ён сам з сабою. Але адчуваў, што яно гіне. І яму было шкада. «Скажам, колькі прыгажосці ў вясёлых купальскіх начах, у варажбе на месяц, у «цярэшцы», якую жэняць калядамі... Усё неяк

здаўна прыліпае да чалавека. А цяпер толькі гул... тарарам... увечары не пойдзеш на вечарынку або дзе ў сад пасядзець... а трэба на сход... на гурток. Разбірай там палітыку розную і чаму зямля круціцца... А чорт яе бяры, што яна круціцца, абы на ёй стаяць можна было!..»

Здалёку загрымеў трактар. Косця павярнуўся і ўбачыў, што ходзіць трактар упоперак арцельных шнуроў, хаваецца ў клубах дыму і пасля яго астаецца шырокі след пашкуматаных чорных скіб. Хоць ты адразу барану запушчай.

«Рана аруць папар... — падумаў Косця.— Але трактар пераверне!..» — І Косця крутнуўся ніц, убіўся галавою ў траву. Ушчарэпіўся моцна рукамі за цёплую асаку. Ён адчуваў, што адыходзіць ад яго спакой. Расла трывога за сябе і за бацьку...

— Кончана, кончана ўсё!.. — шаптаў ён і мацней заціскаў у кулакі сцёблы травы.

Вечарам ішоў па вуліцы. На прызбе сядзелі і гучна гутарылі мужчыны. Раскідалі рукамі, што лапатамі, у густым мораку, адганяючы цэлыя раі камароў, якія звінелі ля вуха.

— Чаму не забаранавалі шнурок у Навінках?.. Што вы рабілі, Сымон з Аўдзеем? — гарачыўся Анухрэй.— Гэта ж норма вам была!

— Забаранаваў... забаранаваў... А ці праверыў ты гэтую норму?.. Там, брат, работы не на дзень. Не стаялі ж мы!

На Косцю быццам мала і звярнулі ўвагі. Прывіталіся, трошкі паглядзелі на яго і зноў загудзелі. А на гумне кружыліся дзяўчаты і хлопцы. Спявалі, і ў гэтых новых забавах, здавалася Косцю, гінулі купальскія ночы і «цярэшка».

Косця не пазнаў аднавяскоўцаў. Ён глядзеў на Анухрэя і дзівіўся. Помніць яго ссутуленым, ціхім, пакорлівым, а цяпер ажыў Анухрэй, выпрасталіся плечы, голас стаў грубейшы і пэўны, рухі рук цвёрдыя і выразныя. Такая змена наглядалася ва ўсіх. І Косцю здавалася, што ён бачыць, як нават у часе гэтае гутаркі растуць яго аднавяскоўцы і маладзеюць.

Косця спусціў вочы. «Дзень — трактар-асілак. Вечар — людзі-асілкі. Новае тут... Новае!..» — і ён абхапіў рукамі галаву. Ён думаў цяпер пра тое, што няма дарогі назад. Сталі на гэтай дарозе Рыгор Мацвеевіч Курачкін і Архіпаў

з поўнымі кішэнямі чырвонцаў, з бутэлькамі гарэлкі, з Лідай Пятроўнай.

І здавалася яму, што і на дарозе не пясок, а белыя аркушы паперы ляжаць перад ім, паперы крадзенае, і няма як прайсці па гэтай дарозе да калгаснікаў, бо выступаюць на гэтай паперы выразныя чорныя літары: «Зло-дзей!.. злодзей!..»

Аб тым-сім перакінуўшыся словамі з Анухрэем і другімі аднавяскоўцамі, Косця пайшоў на вёску. У былым маёнтку, з паўгоні ад вёскі, быў калгасны клуб. У клубе нікога яшчэ не было, бо, відно, не павячэралі яшчэ калгаснікі. Толькі ў маленькай бібліятэцы за столікам сядзела камсамолка Зіна і чытала газету.

Яна сустрэла Косцю не то радасна, не то пагардліва. Засмяялася, убачыўшы яго. Спыталася, калі прыехаў, і потым раптоўна накінулася:

— Ты ведаеш, што бацькі твае робяць?!

— А што?

— Ты камсамолец?

— Не... ужо! — і ён замяўся.

— Гэта і відаць. Ты знаеш, што яны выйшлі з калгаса, падбухторылі яшчэ трох... А цяпер парабка трымаюць. Мала таго што іх — багацеяў — памылкова прынялі ў калгас, дык яны яшчэ бурыць...

— Парабка ўжо няма...

— Ведаю! Гаварыў сёння Пятрок, чаму яго няма. Бо ты прыехаў!.. Гэтым не ўратуешся!..

Тады, як звер, кінуўся Косця на Зіну, ціскануў яе за руку, зашыпеў у твар:

— Ма-аў-чы, гадзіна!..

Зіна вырвалася, спакойна адышла ў куток і сказала:

— Супакойся, лепш будзе... Адразу відно, які ў табе воўк сядзіць...

Косця кляў сябе ў душы за нястрыманасць. Выйшаў з клуба, ціха прычыніўшы дзверы.

Дома чакалі маці і вячэра. Нічога ён не ўзяўся есці, толькі са злосці піхнуў на століку талерку. Рассыпаліся піражкі. А ён бомкнуўся ў ложак.

Доўга стаяла над ім усхваляваная маці, скрыжаваўшы рукі, і ўздыхала. Потым ціхенька зашлёпала ў бакоўку.

Косця ўзяў са століка свежы нумар газеты, доўга круціў яе, углядаўся, варочаючыся на ложку. Адна заметка проста прыкавала яго ўвагу:

«Брыгада ў калгас

Фабрыка «Герой Кастрычніка» пасылае брыгаду рабочых у калгас «Чырвоны араты» на дапамогу па ўпарадкаванні ўсяго пасеву і наогул працы ў калгасе. У брыгадзе 12 чалавек.

*А. Ганушчанка».*

«Можа, прыедзе Крук,— разважаў Косця.— Зноў ён мяне паганяе!.. — круцілася ў галаве.— Няма спакою... Няма! І Вера, напэўна, будзе... Чорт, куды ад іх уцячы?..» — доўга круціўся на ложку Мігуцкі. Не спаў аж за поўнач. Меркаваў, як выкараскацца з гэтага становішча. Бацькі вінаваты... Цяпер немаведама, што рабіць... Пятрок-парабак раскрые ўсё. Ды і ўсе яны не лепшыя.

Млела ноч. У запечку трашчалі цвыркачы.

«Не на добрае гэта!.. — думаў Мігуцкі.— Так старыя гавораць. Ванька гэты, чорт, ён мяне загубіць».

І ў акне, здалося яму, расплываецца шырокі грубы Ванькаў твар, расце, хмурыцца на яго, паўзуць доўгія рукі ад акна да ложка, і доўгія пальцы вось-вось сцісну́ць яго за шыю...

— Ай-ай!.. — ускрыквае Косця.— Пусці!.. — і маланкай ускоквае.

— Чаго ты?.. Чаго, сынок?.. — зашлёпала маці.

— Месяц... Месяц свеціць!.. Здалося... Ідзі! Спі!

Моцна ўзнімаліся грудзі, расхінаалі каўнер белае сарочкі, дрыжалі вейкі.

Доўга калаціўся Мігуцкі. А за акном іграла чэрвеньская ноч, спявалі далёка начлежнікі, зрэдку мычалі каровы.

* * *

Андрэй Ганушчанка хадзіў занепакоены па цэхах і ўсё прыглядаўся. Ну хто б гэта мог рабіць? Аб крадзяжы сшыткаў і паперы ў паккамеры гаварылі ўжо на сходах, папераджалі, прасілі ўсіх сачыць, а толку мала. Не ставіць жа спецыяльнага вартаўніка ўнутры пакоя, дзе ляжала гатовая прадукцыя. Спрабавалі даручыць прыглеедзець сяму-таму, а вынікаў ніякіх. Думалі хоць раз абшукаць кожнага пры выхадзе з фабрыкі, ды сорамна перад усім калектывам. А злачынства працягвалася... Вось пагаварыўшы са Стурытам, стары Андрэй вырашыў паступова сам высачыць злачынцаў.

Прайшоўшы каля паккамеры, Ганушчанка заўважыў

Архіпава, які старанна прыбіраў глум з-пад машыны. Мільганула ў галаве: «А што, калі ён! Ды дзе там, вельмі ўжо абыякавы выгляд у яго, ды і навошта яму, жыве адзін, заробку хапае, ніякае плямы на ім не заўважана. Прыезджы... Дык ці мала пасля рэвалюцыі добрых таварышаў да нас наехала».

А калі Ганушчанка спускаўся па ўсходках уніз, Архіпаў, злосна скрывіўшыся, прашаптаў яму ў спіну:

— Чор-р-та знойдзеш... Не такія мы дурныя... Возьмем, калі твайго духу на фабрыцы не будзе.

Так і пайшоў усхваляваны Ганушчанка пад кпіны злачынца. А да Архіпава з канторы прыйшоў Курачкін і шапярнуў яму, каб той асцерагаўся, бо ён чуў, як за сцяною ў дырэктара сакратар парткалектыву Стурыт громка даводзіў, што трэба прасачыць за роламі, нарэшце прыгледзець за многімі і што ў тым ліку памінаўся і Архіпаў.

— Пакуль што кінь!.. — шаптаў Курачкін.

...Позна выйшаў на полудзень Андрэй Ганушчанка. Фабрычныя клопаты ішлі разам з ім. Нездавальненне, што да гэтага часу ён не мог адшукаць зладзеяў, камком падкатвалася пад горла.

Запамятаўшы пра полудзень, ён і не заўважыў, што ідзе ў клуб. Па алеі бегалі дзеці, сыпаліся пяском. Пахла свежаю смоллю маладых хваінак, шастаў вецер у калматых галовах ліп. Ганушчанка ўспомніў сваё дзяцінства: «Не так мне было!»

У клубе засядалі камсамольцы. Там быў Ванька Крук і Верка Сізова. Яны гарачыліся, спрачаліся і галасавалі. Вылучалі брыгаду ў калгас.

Нарэшце адабралі дванаццаць чалавек. Чытаючы спіс, старшыня памянуў:

...Крук Ванька.

...Сізова Верка...

— Добрыя камсамольцы!..— прашаптаў сабе Ганушчанка.

А Ванька з Вераю, як і мінавалася ў спісе, так разам і сядзелі на зэдліку. Было відно, што за гэты час яны зусім блізка сышліся.

Ганушчанка нязграбнымі літарамі запісваў сабе ў кніжачку, пра што гутарылі камсамольцы.

Прыйшоўшы дахаты, ён ледзь дакрануўся да капусты, што падала жонка, паклаў лыжку на стол, пачаў разварочваць паперы.

— Паеў бы,— угаварвала старая.— Так жа саслабець можна!..

— Не хочацца невашта... — адказаў ён, ужо водзячы па белым кавалку паперы тоўстаю асадкай. Пісаў допіс у газету. Потым зноў нешта крэмзаў, маляваў трубы, ставіў толькі яму вядомыя лічбы.

У хату ўвабегла ў белай сукенцы, падпяразаная жоўтым пасакам, старэйшая дачка Ганулька. Яна падышла да бацькі, прыхінулася да яго плячыма, сказала:

— Татачка... я хачу ехаць у Мінск... на рабфак.

Ён пяшчотна пагладзіў дачку па круглым плячы, адказаў:

— Яно так!.. Трэба дык трэба! Сама ведаеш... ды і ячэйка ж накіроўвае. А толькі вы руплівыя, маладыя. Можа, папрацавала б яшчэ з годзік тут.

— Хачу ехаць!

— Добра!.. А калі паедзеш?

— Увосень.

— Ну дык паспееш, збярэшся яшчэ.— І Ганушчанка зноў усунуўся ў паперы, а дачка ўжо сядзела на лаве і нешта нашэптвала маці.

Такі быў заведзены парадак у Ганушчанкаў, калі стары працуе, каб яму ніхто не шкодзіў.

Вечарам позна прыйшоў да Ганушчанкі Стурыт. Ён спакойна прывітаўся, расшпіліў сваю пашарпаную куртку, дастаў тытунь, закурыў і пачаў:

— Хацеў цябе ўбачыць, Андрэй. Учора мы засядалі. Цябе не было. Ведаеш што, мой стары дзядзя,— і ён абапёрся на Ганушчанкава плячо,— у нас не ладна. Калі так будзе... амба нам! Прарыў расце. Ды яшчэ і зладзейства. А якая прычына... Як адшукаць? — У яго дрыжалі пальцы і, здавалася нават, ногі.

— Шукаю! — адказаў Ганушчанка.— Думаю, што знайду вінаватых у крадзяжы. Але ж справа не толькі ў гэтым. На вытворчасці працуюць не заўсёды як трэба. Мала хто дбае па-сапраўднаму аб справах.

— Трэба нам узяцца ўсім як належыць! — гарачыўся Стурыт.— Фабрыка завецца «Герой Кастрычніка», а ў нас крадуць... За Архіпавым глядзі, вельмі ён хітры, і мне здаецца, што не ўсё з ім чыста...

Падалі гарбату. Доўга пілі, непамерна пацеючы, абціралі твары хусткамі. Гаварылі цяпер пра сямейнае. Стурыт жартаваў з Ганулькі, дражніўся, што не пусціць яе на вучобу.

Яна, здавалася, не разумела жартаў.

— Камсамол пусціць...

— А партыя?

— А я не партыя! — гаварыла Ганулька.

— Ролі партыі не ведаеш! — іранічна падміргваў Стурыт.

— Жыццё навучыць... — смяяўся стары Ганушчанка.

— Дарэчы, што гэтага хлопца не відно, Мігуцкага?

— Паехаў на адпачынак! — адказаў стары.

Ганушчанка апавядаў, што нашчэнт сапсуўся Мігуцкі. Рэдка прыходзіў дахаты. А калі і прыходзіў, дык стомлены, п'яны. Нічога не рабіў. Толькі енчыў нешта на старой гітары.

Калі ўжо прыкметна стаў хіліць сон і гутарка пачала вянуць, Стурыт апрануўся і пачаў развітвацца.

Ганушчанка таксама сабраўся. І калі старая спытала, куды цяпер пацягнецца, ён коратка, як і заўсёды, адказаў:

— Мацеру глядзець!..

Так ён заўсёды зваў сваю фабрыку.

* * *

Ванька Крук і Вера ішлі ў Прылукі, у сельсавет. З імі з Забонічаў брыў у сельсавет Пятрок Карпяёнак, парабак Мігуцкага. Ішлі, каб разабраць справу хлопца, бо прагнаў яго гаспадар у сярэдзіне лета і анічога не даў за работу.

Дарога вілася полем. З аднаго боку яе ляжалі могілкі з пазамшэлымі крыжамі, захутанымі ў сівы ляшчыннік і зялёную дзеразу. Шумелі хвоі аб нечым, глыбока захаваным пад іх карэннем, што знайшло сабе гамонку цяпер у іх верхавінах.

З захаду сунуліся чорныя, поўныя дажджу хмары. Над ускрайкам лесу бліскала маланка, прыдушана грымеў пярун.

Падарожнікі спяшаліся. Не хацелася мокнуць у полі, ды і вопратка іх была вельмі лёгкая: на Ваньку — адна белая кашуля, а на Веры — вязаная куртка, толькі на парабку Петраку была лёгкая світка.

Яны тарапіліся. Толькі адзін Пятрок усё сцішаў хаду. Ці, можа, таму, што ён ужо даўно звыкся з праліўнымі дажджамі за колькі гадоў на полі, ці таму, што ў яго была ўсё ж больш утульная вопратка. І калі Ванька прыспяшаў хаду, шырока расстаўляючы ногі, а Верка бегла про-

ста ў падскокі за ім, Пятрок адзаду нездаволена мармытаў:

— Паспееце! Недалёка тут!.. Палохаецеся вельмі! Не цукар, не размокнеце!..

— Цукар не цукар, а мокнуць не хочам!.. — жартаваў Ванька.

З гэтае гаворкі пераскоквалі зноў на старое.

— Дык, ты кажаш, дагавору ў цябе не было?

— Ды не!.. — злаваўся Пятрок.— Абдурыў ён мяне!..

— А як ён карміў?

— На сухі лес ягоная яда. Раніцою і вечарам цюпку еў.

— Цю-ю-пку? Што гэта за яда?

— Ды накрышаць хлеба, падліюць вады з крыніцы, укінуць дроб сахарыны — вось табе і цюпка.

— А самі яны як елі?

— Не бойся, лепш!.. Вянгліны хапае... — узбуджана даводзіў Пятро, і, здавалася, у яго цяклі слінкі. Ён пераставўляў па дарозе кашлатыя ногі, заграбаючы лапцямі дарожны пясок. Пасля яго хады, калі паглядзець на сляды, дык іх можна было параўнаць з хадою цыркуля ў крывую.

Вера ішла і маўчала. Яна даўно не бачыла сапраўднае вёскі. І цяпер ёй усё здавалася новым. І нават хмары і маланка былі інакшыя, чымся ў горадзе ці на пасёлку. Там яны рабілі менш уражання, толькі паласкалі дахі, ірваліся на шкумаццё на высокіх штылях антэн, гром мала розніўся ад грукату тачанак. А тут такая ціш, усё, здаецца, дыхае хмараю: зялёная сакавітая трава і маладое лісце кучаравага гаю, нават вада ў прыдарожных лужынах адбівае ў сабе поступ хмары. Гэта было вельмі ўрачыстым і клікала на шчырую гутарку.

Вера набірала ў грудзі многа перададжджлівага паветра, і ёй здавалася, што гэтага паветра мала, хацелася нават рукамі загарнуць яго да сябе; быццам чэрпаючы кубкам, закідвала рукі ўгору і падносіла да твару.

— Даўно Мігуцкі да бацькі прыехаў? — спыталася яна.

— Да ўжо з тыдзень. Чорт яго не бярэ!..

Не паспеў Пятрок дагаварыць, як пачулася ззаду цоканне капытоў, шчоўканне пугі і гіканне. Усе абярнуліся. Сталі. Пад'ехаў Косця Мігуцкі. Хуценька злез з каня. Пусціў павады і з раскінутымі рукамі падбег да Ванькі.

— Браце, і ты тут?.. Калі прыехаў? І Верачка!.. — І ён кінуўся да Ванькі, відаць, хочучы пацалавацца.

Ванька павольна адвёў яго рукі. А Мігуцкі ад непрыемнасці засунуў іх у кішэні і вінавата пасміхаўся.

— Тут! І вось іду ў сельсавет! Бачыш яго? — і Ванька паказаў на Петрака.

Мігуцкі стаяў нерухома, толькі зрабіў здзіўлены твар, і нервова сталі ўздрыгваць яго плечы.

— Ча-а-го?..

— А навошта праганяў? — не вытрымаў Пятрок.

— Мала гэтага!.. — дадаў Ванька.

Тады Косця ласкавым, падроблена чыстым галаскам пачаў украдацца ў душу.

— Невінаваты я. Ды і бацькі невінаваты... Ты ж ведаеш мяне, Ванька. На фабрыцы я нікому воч не засціў, так і бацькі мае тут... Памыліліся, выйшлі з калгаса... І яго ўзялі, бо бацька хворы, не можа рабіць... Не падымайце гармідар, хлопцы.— І ён цягнуў за плячо Ваньку і гладзіў Петрака.— Будзем жыць!..

Тады разгневаная белавалосая Верка падскочыла да Мігуцкага, дыхнула яму ў твар:

— Гад ты, Мігуцкі!

Сцямнела ў вачах у Косці. Яму здалося, што падол Верчынай спадніцы вельмі падкараціўся, што стаў выпіраць яе жывот, пабольшалі грудзі. І тут змяшаліся дзве злосці, адна азначала канец спакойнаму жыццю, а другая — каханню да Веркі. Раптоўна кроў ударыла яму ў галаву, ён узняў высока нагу, хацеў моцна груннуць па Верчыным жываце, але стрымаўся і толькі прытупнуў. Потым скочыў на каня і паляцеў без дарогі па жыце, па грэчцы, шалёна гікаючы.

Стаяў Пятрок скамянелы, як слуп, і глядзеў на ляшчыннік, за якім схаваўся Мігуцкі.

* * *

Анухрэй абганяў маладую бульбу на выгане. Жывы канёк, і так гарачы, вельмі тужыўся, бо авадні не давалі жыць. Роем гулі, і не паспяваў конь адагнаць іх сваім доўгім хвастом, як яны садзіліся і, як іголкамі, праціналі яго скуру. Анухрэй ужо даўно зжалкаваўся над ім і цяпер хацеў як хутчэй адпрэгчы каня і загнаць на адпачынак пад калматы ляшчыннік да рэчкі, але трэба было абагнаць яшчэ тры баразны.

— Норма спорна!.. — разважаў ён і спяшаўся за акучнікам, які порстка разбіваў зямлю.

Скончыўшы, ён выпраг гнядога, пераклаў праз яго доўгую, як перавясла, нагу і паехаў у ляшчыннік. Там, пусціўшы каня, ён убачыў, як гняды забіўся ў гушчар і пачаў вялікімі зубамі рваць сухую траву ля дрэў.

«Бачыў ты...— думаў ён,— як есць. Папрацуе і есць. Так і людзі. Бяда толькі, калі есці няма чаго». І тут падбеглі даўнія ўспаміны. Невялікая вёска, а вялікая беднатa. Ва ўсіх хлеба — да каляд, толькі Карпей Прытыка ды Мігуцкі спраўляліся добра ды яшчэ раздавалі гарцы на адработак. Успомніў, як не было даць кавалка хлеба хворай дачцэ Настульцы і мусіў хадзіць клянчыць да старога Мігуцкага, а той, пагардліва адмяраючы гарнец, папікаў, што ўжо апошні, бо і так многа перадаваў.

Цямнеў твар Анухрэя. Вочы яго бегалі па полі.

Палолі ячмень бабы, баранавалі мужчыны. Сцяной стаяла канюшына. Паглядзеў на другі бок вёскі, а там відаць былі здаровыя, абчасаныя рэбры новае калгаснае аборы і бялела паводдаль адрына.

«Святлее жыццё... — разважаў ён.— Вось сёлета гэта скончыць, а там і за школу возьмемся. А што крычаць, дык гэта нічога, пакрычаць, пакрычаць... Убачаць, што добра, і сціхнуць. Толькі вось Мігуцкі ды Прытыка ходзяць што звяры».

Адпачнуўшы, Анухрэй устаў, каб пайсці паглядзець, як канчаюць баранаваць мужчыны. Закурыў. Толькі пусціў першыя струменьчыкі шызага дыму, як убачыў, што насустрач яму ідзе брыгада маладых рабочых, тая самая брыгада, што прыехала анэгды з фабрыкі на дапамогу. Ідуць, і відаць, як махаюць рукамі, нешта саймуюцца паміж сабой.

Калі сустрэліся з Анухрэем, адразу закідалі яго роем уражанняў і запытанняў.

— Лоўка, дзядзька, у вас!.. Адным словам — на вялікі палец!

— Толькі міру нешта няма...

— Гэта ператрэцца,— зазначыў Ванька Крук.

Хлопцы, абкружыўшы Анухрэя, расказалі яму, што абышлі ўсё поле. Пазнаёміцца трэба было. Казалі, што бачылі рупнасць. Але калі праходзілі, дзе жанчыны палолі лён, дык пачулі сварку.

І тут адзін малады хлапец з брыгады, відно, вялікі майстра да імітацыі, пачаў перадаваць працэс сваркі.

— Стаіць,— кажа,— адна маладзейшая, выцягнула з-за пазухі акраец хлеба з салам ды закусвае. Тады ўскочыла другая, старэйшая, стала са жменькаю нарванага асоту ў руцэ ды як загрыміць: «Гэта табе не пасядушкі!.. Паспееш нажорціся! Трэба было, як усе елі. Калгас жа гэта!» — «А ты хоць абжарыся, дык я нічога не скажу...»

І апавядальнік пачаў перадаваць рухі стану і рук жанчын у сварцы і, захапіўшыся сам, занадта прыгінаўся да зямлі, ледзь не куляючыся па ёй.

— Гэта на здароўе нам! — спакойна зазначыў Анухрэй, грукаючы нагой па глыжох.— Гэта нам не навіна! Лепш мо працаваць будуць.

Тут жа на полі ўмовіліся, што трэба на часок склікаць сход усяго калгаса і запрасіць аднаасобнікаў.

Ванька Крук, калі брыгада пайшла ў вёску, застаўся з Анухрэем. Ён перадаў, што сягоння ў Прылуках, у сельсавеце, умовіліся раскулачыць Мігуцкага і Прытыку. Апісваць маёмасць, казаў, відаць, прыедуць заўтра, а не дык і Аўдзей зробіць — Аўдзей быў членам сельсавета.

— Правільна!.. Правільна!..— ківаў галавою Анухрэй.

Пасля невялікага дажджу было вельмі свежа. На ўсходзе прыгожым паўкругам усміхалася вясёлка.

А поле ўсё гаманіла. Гаманіла трактарам, гоманам людзей, што працавалі на зямлі, шэптам травы і звонам жыта.

І расла сіла зямлі...

* * *

Вечарам сустрэліся ў настаўніцы Ванька і Вера, а астатнія хлопцы і дзяўчаты з фабрыкі пайшлі на рэчку. За дзень хапіла работы. Многа хто адседзеў гэты дзень у кузні, рамантаваў там плугі і бароны, некаторыя, што ўмелі працаваць на зямлі, пахадзілі дзень з калгаснікамі па шырокіх разорах калгаснага поля, а хто адбыў дзень за рэпетыцыяй у клубе. І калі камсамольцы з калгаса прапанавалі замест адпачынку праехацца па рэчцы, усе з ахвотаю пагадзіліся.

Вера ўжо цэлы адвячорак сядзела ў настаўніцы. Яны неяк скора пазнаёміліся. Звярнуўшыся з Прылук, Вера стаяла каля калодзежа і гаварыла з жанчынамі. Гаворка ў іх пачалася проста з кубка вады. Калі Вера, стаміўшыся ад хады, папрасіла ў аднае напіцца, дык другая, што стаяла побач у чорным хвартуху, хітравата заўважыла:

— Бачыш, паненачка... ваду ўсё ж адна п'еш...

Было адразу зразумела, куды хіліцца гэтая гутарка. І Вера з усёй сілай яе гарачае натуры пачала даводзіць сялянкам, што ў іх такія старыя погляды на жыццё і што гэтыя кпіны, якія яна адчула, нікольні яе не кранаюць.

Гутарка завязалася доўгая. Каля студні сабраўся цэлы кірмаш. Тут былі ўжо не толькі тыя, што прыйшлі па ваду, але і так ахвотнікі паслухаць.

Гарачыліся жанчыны, прыкладалі рукі да грудзей, бажыліся і ўціралі насы зашмальцаванымі хвартухамі.

І тады непрыкметна з-за іх выйшла адна маладая, амаль што дзяўчынка, з каштанавымі падрэзанымі валасамі, у спадніцы, скроенай на гарадскі лад, і стала ў гутарцы падмяняць Веру. Наогул, тут былі два лагеры. Адны крычалі пра адно, другія — пра другое. Але Вера ўбачыла, што гэтая маладая проста падзяляе яе думкі, быццам гэта гаворыць яе двайнік. Потым яна пачула, што ў часе спрэчак адна з жанчын у гарачцы выпаліла:

— Дзе нам з табой зраўняцца... ты настаўніца! Табе добра!..

Адышоўшы ад калодзежа, Вера пайшла з ёй. Яны хутка пазнаёміліся і былі шчырымі, як сёстры. Ленка Тарасевіч, так звалі настаўніцу, расказала, што яна першы год тут і што скончыла летась Гомельскі педтэхнікум, а бацька яе працуе слесарам на чыгунцы.

І вечарам, калі прыйшоў Ванька, яны ўтраіх доўга сядзелі за столікам, чыталі інсцэніроўку, якую думалі паставіць у калгасным клубе. Быў прыемны морак у хаце. Нават з цёмных куткоў веяла нейкай цеплатою. У хаце маладой настаўніцы было ўсё бедна, але па-дзявочаму прыбрана. Ад красак, якіх шмат стаяла на вокнах і лавах, было тугое пахучае паветра, якое кружыла галаву.

Ванька з Вераю сядзелі на зэдліку з аднаго боку стала, Ленка — з другога. І Ленка бачыла, што яны сядзяць вельмі блізка, несарамліва тулячыся адзін да другога. У галаве яе не раз мільгала думка, што гэтая пара альбо жанатыя, альбо блізкія да таго.

І тады яна крыху счырванела, сарамяжа кратаючы вуснамі, запытала:

— Вам, можа, ложак уступіць?

Ванька ўсміхнуўся. Вера нерашуча забегала вачыма па століку. Тады Ванька акрэплым, цвёрдым голасам, у якім адчувалася і доля просьбы, сказаў:

— Калі можна, дык так!..

Вера маўчала. Але ўнутранае падтрыманне было ў яе вачах.

Ленка, адчуваючы ніякаватасць у тым, што яна вельмі раптоўна і не ў свой час задала гэтае пытанне, уся гарэла. І цяпер пастаралася перавесці гутарку ў другі бок.

Гаварылі пра дзяцінства, пра школу, пра фабрыку, як сягоння праводзілі дзень.

Было прыемна сядзець у гэтай цішы і адчуваць сувязь з калектывам, які застаўся за сценамі. Цяклі ўспаміны. Час непрыкметна бег, і ўжо за вокнамі ясней гарэлі чэрвеньскія зоры над вішнямі садоў.

Нехта ў дзверы лагодна пагрукаў. Чутно было за імі перарывістае дыханне. Праз момант у хату ўвайшоў Мігуцкі.

Ён быў чыста, па-святочнаму прыбраны, у руках трымаў шэрую летнюю шапку і круціў ёю. Нейк нерашуча паздароўкаўся з усімі, запытаўся, ці можна яму правесці час, і спакойна сеў на зэдлік.

— Сумна, ведаеце!..— скардзіўся ён.— Дома такая нуда. Бацькі толькі і піляць... Усё пра гаспадарку... І зноў жа цемната такая. Няма культурнага спачыну.

Ні Ванька, ні Верка нарачыта не ўспаміналі пра яго бацькоў, пра яго адносіны да іх, бо зналі, што ад гэтага нічога не палепшыцца.

Косця нервова шарыў па кішэнях, часамі вымаў адтуль памятую папяросу і ўзбуджана курыў. Ён часта кідаў раўнівыя погляды на Веру, калі Ванька не глядзеў на яго. Было відаць, што Косця мяўся і хацеў неважта сказаць.

Але, як кажуць, ніхто не выпускаў лейцаў гутаркі, не цікавае яму, і Косцю не было за што ўхапіцца. Ён доўга круціўся на зэдліку і больш маўчаў.

За вокнамі было ціха, і таму Косцю яшчэ цяжэй было распачаць гутарку.

Так сядзелі доўга.

І калі настаўніца, пазяхаючы, напомніла пра сон, Косця, развітваючыся, сказаў да Ванькі і Веры:

— Можа, што думаеце перадаць? Заўтра паеду на фабрыку! Сумна тут. Ды і з бацькамі жыць не хачу. Кідаю іх!

Усе хітра пераміргнуліся, непрыкметна для Косці. Але Ванька, каб не пакінуць яго словы без адказу, аніякавата сказаў:

— Нічога такога!.. Самі скора будзем.

Мігуцкі развітаўся і выйшаў за дзверы. Тады зноў пачалася гутарка. Настаўніца апавядала, што знала пра Мігуцкага і ягоных бацькоў.

— Што і гаварыць, кулакі! — хвалявалася яна.— А ён жа ім слаў пачкамі грошы. Парабка яны мучылі, во як! — і пры гэтым яна цікнула кулакі і вусны.— Не ведаю, чаму да гэтага яго не раскулачылі.

— Манеўр...— пагаджаўся Ванька.

Вера не вытрымала; яна стала нервова бегаць па хаце, апавядаючы пра паводзіны Мігуцкага на фабрыцы.

— Каго мы трымаем?.. Каго мы трымаем? — гаварыла яна.

Позна ляглі спаць. Ванька адчуваў цеплату Верчынага цела, Вера — здаровыя грудзі Ванькі. Цемень, здавалася, пластамі спускалася са столі і яшчэ больш яднала іх. Было добра ведаць аднолькавасць пачуццяў і мараў, і яны не заўважалі, як коўдра паўзла і паўзла больш і больш на падлогу.

Настаўніца цяжка дыхала на ўслоне.

Уночы іх абудзіў прарэзлівы крык на вуліцы.

— Ра-ту-й-це! А-го-нь! — ірваўся надломлены голас далёка за сценамі.

Вера абудзілася першая. Што ёй кінулася ў вочы, дык гэта крывавая пляма на белай печы ў хаце. Секундай прабегла думка, што гарыць гэты пакой. Яна скамянела. Потым убачыла, што дыхаюць чырвоным святлом шыбы на вокнах. Вуліцаю нёсся гоман, Ванька, як пасля малацьбы, смачна спаў, шырока раскінуўшы рукі. Пачала кратацца настаўніца.

Вера, забыўшыся на ўсялякую перасцярогу, утрапёна забегала па хаце і дзіка закрычала:

— Таварышы!.. Пажар!..

Яна ўбачыла, як нервова ўскочыў Ванька і, даведаўшыся пра пажар, хуценька, проста маланкай, ускочыў у картовыя штаны, як умомант праверыў рэвальвер. Ленка, як узнялася на зэдліку і ўбачыла зарыва, так і застыла на месцы, толькі вадзіла непрытомнымі вачыма ды цяжка варочала языком:

— Га? Га? Га?..

Веру дзівіла, як спакойна і скора збіраецца Ванька, як ён у гэтай сумятні не забываецца ні на малейшую дробязь і не хвалюецца. Толькі больш выступілі жалвакі на шчоках.

Беглі па вуліцы ў канец вёскі. Бачылі, як мітусіліся

людзі каля хат, падносілі вёдрамі і цабэркамі ваду, мачылі палотны, дзяругі, спадніцы і нават дзіцячыя кашулі ды засцілалі імі стрэхі. Многія беглі ў канец вёскі. Зараўла пажарная машына, і было відаць, як трасецца на ёй, быццам акрываўленая, Анухрэева барада. Іскры лядалі, як чырвоныя мухі, па вёсцы, гаслі ў паветры, а некаторыя асыпаліся на сады, на гумны.

— Адрына гарыць!..— крычалі ўсюды.

— Людзі, ратуйце! — здавалася, вылузваліся са скуры жанчыны.

— Канфоз гарыць,— шаптаў стары Мігуцкі, у душы ўсміхаўся, але бег з багром на пажар.

Калі Ванька, Вера і Ленка падбеглі пад канец вёскі, яны ўбачылі адрыну ў агні: праз страху вырываўся вялікі слуп полымя і калаціў чэрвеньскую ноч.

Рабілася горача. Сцены хлявоў, што былі недалёка, смылелі, патнелі, і, здавалася, бёрны ў іх грукалі, як па марозе.

Адрына была ўся ў агні. Яна ўжо не стаяла на полі, а, здавалася, хісталася вялікім чырвоным камком то ў адзін, то ў другі бок. Поўна народу абкружыла яе, і здавалася, што гэта гарыць вялікі касцёр і людзі сабраліся сюды, каб скакаць вакол яго нейкі танец. Яны дужаліся, разрываючы цёплыя курадымлівыя бёрны, і пераскоквалі босымі нагамі з аднаго вугалька на другі.

Крыжавалі жанчыны рукі. Бегалі, сцяўшы зубы, мужчыны. Мала гаварылі, бо і не чуваць было б гутаркі з-за трэску сукоў пад чырвонымі языкамі агню.

Фабрычныя хлопцы большасцю згрудзіліся каля пажарнай машыны. Яны пампавалі ваду з невялікае сажалкі і лілі яе на агонь. Полымя рабілася на хвіліну цямнейшым, потым зноў, як ад выбуху склепа з порахам, бурна вырывалася ў неба.

Косця Мігуцкі старанна завіхаўся каля машыны. Ён быў у адных портках, падпяразаны пашарпанаю дзягай, і ў адной кашулі. Пот раўчукамі бег па яго твары. Косця не бачыў нават пытлівага погляду на сабе Ванькі Крука, які працаваў насупроць і, здавалася, нешта хацеў адгадаць у яго вачах і руках.

Пачуліся крык і лямант з сярэдзіны вёскі. Абярнуліся і ўбачылі, што з аднаго гумна расце чырвона-цёмны слуп і лётаюць чырвоныя мухі.

Большасць натоўпу хлынула туды. А па вуліцы бегаў

Апухрэй у расшпіленай кашулі, чапляўся за глыжы і каменні, падаў і загадліва крычаў:

— Усе на пажар! Досыць каля сваіх хат стаяць!.. Усе так пагарым! Да кучы!..— і здавалася, маліліся яго поўныя вільгаці, вялікія шэрыя вочы.

Ніхто ў гэтай калатні, каб і вельмі хацеў, не мог бы заўважыць, як насмешліва пераміргнуліся паміж сабою стары Мігуцкі і Прытыка, што стаялі адзін каля другога, абапёршыся на доўгія багры.

* * *

Млела вечаровая зара над сінім гаем. Дзень быў такі цёплы, што і цяпер, адвячоркам, ідучы па вуліцы, адчуваўся праз падэшву гарачы пясок. Было сем гадзін. Ішла змена на фабрыку. То па адным, то групамі рухаліся рабочыя ў зашмальцаваных куртках туды, адкуль пяць хвілін назад прарэзаў паветра металічны голас фабрычных гудкоў.

Ішлі і жыва перагаворваліся, часамі то адзін, то другі спыняліся ненадоўга каля вялікага частаколу, завешанага абвесткамі.

А Рыгор Мацвеевіч Курачкін варочаўся са шпацыру з Лідай Пятроўнай. Яны сягоння абышлі многа. Былі далёка ў полі за пасёлкам, каталіся на лодцы, ляжалі на мяккай траве каля жыта, доўга сядзелі пад старымі ліпамі вялікага гасцінца. І ўсюды яны ўспаміналі сваё знаёмства, тыя хвалюючыя дні.

...Бранск. Горад хоць невялікі, але вельмі ўтульны. Прыгожыя ўзгоркі. Непадалёк цудоўныя Бранскія лясы, пра якія так многа пісалася. А на ўскраіне горада невялічкі драўляны дамок. Усяго некалькі пакояў, але ў акно кожнага заглядаў бэз ці жасмін. Сад у некалькі дзесяткаў шырока разгаліненых дрэў, прыемны морак пад імі. Агародзік. Цыбуля. Агуркі. Укроп. І навакол цішыня...

Яны пасяліліся там пасля вялікага пярэпалаху, калі над зямлёю, здавалася, праляцеў буран і параскідаў куды каго. Вось у выніку такога бурану і апынуліся ў гэтым гарадку Рыгор Мацвеевіч з Лідай Пятроўнай. Як быццам жыццё пачалося нанова. І сапраўды так, нават імя і прозвішча сталі ў Рыгора Мацвеевіча новыя, і не такія, як цяпер, бо зваўся ў Бранску ён Фёдарам Пятровічам, а раней ён, малады паручнік, зваўся так, як звалі яго бацькі — Уладзімір Серафімавіч Узнясенскі. Духоўнае про-

звішча, бо духоўнымі былі і яго бацька і яго дзед. У часы рэвалюцыі ён быў з белымі ў Крыме, шмат чаго нарабіў у адным з яго гарадкоў пабліз Сімферопаля і мусіў адтуль збегчы. Ліда Пятроўна— міласэрная сястра, даўняя яго палюбоўніца, паехала за ім услед. Яна ведала ўсе яго прыгоды, але ўмела трымаць, як кажуць, язык за зубамі. У Бранску Рыгор Мацвеевіч прыладзіўся працаваць на спіртавым заводзе бухгалтарам. Ён быў чалавекам не дурным і вельмі хутка асвоіў гэтую прафесію. Падабалася яму працаваць на гэтым заводзе таму, што там можна было пагрэць рукі, ды і не толькі рукі, а кожны дзень і нутро.

Так і зажылі яны на новым месцы з Лідай Пятроўнай. Домік яны знялі ў адзінокае старое жанчыны. Яна здала ім усе тры пакоі, а сама тулілася на кухні. Была глухаватаю. І гэта ім спрыяла. Спрыяла таму, што не хацелася, каб яна чула іхнія гутаркі, калі да іх прыходзіў Іларыён Палікарпавіч, з якім Курачкін пазнаўся на заводзе, дзе той працаваў загадчыкам склада. Як пасля даведаўся Рыгор Мацвеевіч, гэты цыбаты, сухарлявы Іларыён Палікарпавіч таксама збеглы. Невялічкі панок з Палтаўшчыны. Яны пасябравалі хутка і неўзабаве па знаёмству пачалі карыстацца спірытусовымі запасамі са склада, але раскрыцца адзін другому не спяшаліся. Многа вечароў прайшло ў іх за агульным сталом, застаўленым графінамі і талеркамі, многа было розных гутарак, пакуль яны зразумелі адзін другога, што па складу жыцця і настрою яны амаль родныя браты.

Ліда Пятроўна ўмела ладзіць з абодвума. Калі ўсе хмялелі, яна пераскоквала з каленяў аднаго да другога. І як ні дзіўна, Рыгор Мацвеевіч не раўнаваў. Стол іх быў заўсёды накрыты багата. Іларыён Палікарпавіч наладзіў збыт спірытусу сістэматычна, а Рыгор Мацвеевіч усё выводзіў як след. Так і жылі, хадзілі на працу, там трымаліся цішэй вады, ніжэй травы, а дома за стаўнямі пачыналася інакшае жыццё. Пілі. Доўга гаварылі. Цалаваліся. Шапталіся. Чакалі змены. Змена прыйшла, але не тая, якую чакалі, звароту да старога не было, а змена прыйшла крыху нечаканая для іх. «Лёгкая кавалерыя» выкрыла іхнія злачынствы, і давялося ім уцякаць, каб не выявілася ўсё да канца. Змянілі прозвішчы, здабылі новыя дакументы. Так сталі яны: адзін — Рыгорам Мацвеевічам Курачкіным, другі — Антонам Іванавічам Архіпавым. На здабытым бланку «Бумтрэста» з Масквы напісалі сабе на-

кіраванне. Так і апынуліся на гэтай папяровай фабрыцы «Герой Кастрычніка».

І вось цяпер, застаўшыся на адзіноце, Ліда Пятроўна любіла ўспамінаць пра гэта.

Седзячы ў засені старых дрэў, яна клала маленькую руку Курачкіну на плячо, глядзела, нахіліўшыся, у вочы Рыгору Мацвеевічу і скорагаворкаю шчабятала:

— А помніш, на Бранскім вакзале была тады якраз такая ж спякота, а я прасіла цябе схадзіць у буфет і прынесці папіць ледзянiстае вады?

Падыходзячы пад сваю кватэру, яны ўбачылі маладую постаць у чорнай куртцы. Яшчэ воддаль Рыгор Мацвеевіч і Ліда Пятроўна спазналі яе. Чалавек увайшоў у хату, не чакаючы іх.

Гэта быў Мігуцкі, крыху абгарэлы і пыльны з дарогі. Калі ў хату ўвайшлі Курачкіны, ён хмурна прывітаўся.

— Што з табой?.. Нешта ты змяніўся? — пытаўся гаспадар.

Мігуцкі маўчаў. Тады Рыгор Мацвеевіч папрасіў выбачыць, што адлучаецца на хвілінку, выйшаў з Лідай Пятроўнай на кухню. Там, хуценька адчыніўшы саквояж, выняў некалькі чырвонцаў.

— Ну, душанька, як жывём? — спытаўся ён, вярнуўшыся, у Мігуцкага.

— Дрэннавата!..

— А што? — страпянуўся Курачкін.

Косця паглядзеў скрыўлена на яго і, адчуваючы, што той тут нічога не дапаможа, ухіліўся ад прызнання.

— Здароўе слабае...

— І-гі-гі, ты ж, як агурочак! А што мне сказаць?!— ён павёў далоняю па ўпалых грудзях.

Вечарам, калі зачыніліся стаўні, за столікам пілі ўсе гарбату. Сядзеў, абапёршыся на далоню, Архіпаў. Курачкін лічыў чырвонцы. Сто... дзвесце... трыста... тры тысячы пяцьсот сабралі...

— Няблага...— шапаткам прагаварыў ён.

— Малавата,— крутнуў галавою Архіпаў.

— Мне яшчэ належыць трыста...— патарапіўся ўставіць Косця.

— Паспееце... Паспееце! — заспакойваў Курачкін.

І тады дзіка забегалі вочы ў Архіпава. Плечы яго задрыжалі. Забыўшыся на канспірацыю, ён громка крыкнуў:

— Хто больш робіць? А як грошы, дык вам!

— Ці-ш-ш!..

— Ці-ш-ш-ш!!.

— Ці-ш-ш-ш!!! — адразу панеслася ад усіх.

Архіпаў, апамятаўшыся, сеў. Далі яму пяцьсот. Ён з самазадаволенаю ўсмешкаю схаваў грошы ва ўнутранай кішэні пінжака.

Курачкін доўга ўглядаўся ў Архіпава і не вытрымаў, каб не заўважыць яму:

— Хочаш многа грошай, а праца ўжо не такая цяжкая...

— Паспрабавалі б самі, як гэта лёгка. Калі гэты зараза Ганушчанка так і шныпарыць носам. Стурыт таксама не спіць. Заўсёды на нагах. Чорт іх ведае! Яны пільнуюць тут больш, чым сваё. Дый усе рабочыя. Гэта фанатыкі нейкія! Бывала, мой папан так не хварэў за сваю фабрыку, як яны. Адкуль у іх сіла?.. Хай бы сам ты паспрабаваў, як мне там. Раз... два... і засыплешся!

Рыгор Мацвеевіч прыкрыкнуў на ўсіх, каб яны не забываліся, што гэта ён іх накіраваў на добрую жылу, і паклаў грошы ў столік.

Мігуцкі маўчаў. Ён не ведаў нават пэўна сваіх адчуванняў. Яму было боязна. Грошы, атрыманыя ім, здавалася, мулялі бок праз кішэню пінжака. Ён больш глядзеў на Ліду Пятроўну, якую даўно не бачыў. Яму здалося, што яна пасвяжэла за гэты час. І, захапляючыся яе воблікам, ён ад сябе адганяў апрыклыя думкі пра калгас, пра бацькоў і пажар. Тады станавілася спакайней.

Аднак трывога расла. Яму нават час ад часу здавалася, што на ганку абавязкова стаіць ужо міліцыя і чакае яго, каб потым паказаць, што вось дзе шкоднік, вось дзе злодзей. І ён, каб заспакоіцца, усё бліжэй і бліжэй непрыкметна пасоўваўся да Ліды Пятроўны. І ад гэтага рабілася лягчэй.

Ён не чуў, як у прыдушаным гомане складаліся планы. Але Архіпаў шкуматнуў яго за рукаў і прагаварыў:

— Табе, Косця, заўтра трэба паднесці так, каб зарабіць дык зарабіць. А я бяруся адвезці ў горад, там збуду.

— Ага! — кіўнуў галавою Косця і зноў перанёсся ў свае думы.

А Архіпаў усё не супакойваўся, даводзячы пра сабачую адданасць рабочых бальшавікам, пра тое, што цяжка іх перастроіць, а таму і цяжка працаваць.

— Паглядзіце, якія яны старанныя... як мурашкі. Вось вам і чумазая класа. Хто з нашых сынкоў гатоў быў

так прападаць на фабрыцы, як гэты стары сабака Ганушчанка! I дзень i ноч... Калі толькі ён спіць? — дзівіўся Архіпаў.— Каменны арганізм... Ён больш і больш нерваваўся, адчуваючы сваю слабасць.— Вы толькі падумайце. I ў галаве ў іх прагрэс. Учора Ганушчанка выправіў трубы па свайму праекту, і зноў павялічваецца іх акаянны прамфінплан... А я думаў, што ў іх нічога не выйдзе...

— А колькі энергіі ў іх...— пагаджаўся Курачкін.

I ў сцверджанне довадаў Архіпава ён апавядаў пра работу дырэктара, рабочага-вывучэнца.

— Сядзіць і сядзіць, ведаеце... бясконца. Курыць і ўсё сядзіць, нешта мяркуючы. Прыйдуць да яго інжынеры. Ну, куды б, здаецца, яму з ягонымі ведамі, ён жа царкоўнапрыходскай не скончыў. Сам анкету глядзеў. А калі тыя пачнуць гаварыць, ён часта правіць іх... І ўявіце сабе, не памыляецца!.. Інжынеры з ім згодны... Адкуль у яго веды? Звярыная сіла ў іх!

Мігуцкаму цяпер хацелася быць такім моцным, як Ганушчанка, каб чулі ягоную сілу ўсюды, як Ганушчанкаву тут. Ён успамінаў пра бацькоў, пра разбураны спакой на вёсцы, і ў яго расла злосць на Ваньку і Веру, а разам і на фабрыку.

«Гэта яна вінавата!.. Гэта яна чорным дымам з'есць маладую зяляніну палёў...» — разважаў Косця.

Аднак успомніўшы, што позна ўжо, і жадаючы застаць яшчэ да сну Ганушчанку, ён устаў, развітаўся і выйшаў.

* * *

Шумелі каландры. Белыя шнуры паперы вужакаю віліся паміж сініх валікаў, гладзіліся, глянцаваліся і адтуль зматваліся на тоўстыя трубкі. Іх зараз жа клалі на лёгкія тачанкі і везлі ў сартавальнае аддзяленне.

Стаялі рабочыя каля рычагоў і рэгулявалі ход. Часамі, калі папера рвалася на якой-небудзь каландры, да яе падбягалі некалькі рабочых і роўнымі размеранымі рухамі ўпраўлялі паперу на валікі. Тады зноў шуршала папера, шумела неўгамонна...

Калі ж папера добра ішла, каля машыны стаяў толькі адзін рабочы і наглядаў. Андрэй Ганушчанка, агледзеўшы ўжо ўсю фабрыку, падышоў да каландраў. Ля першай каландры яго спаткала маладым звонкім голасам камсамолка Ніна, сяброўка ягонае дачкі:

— Дзядзька Андрэй, дзе сягоння Ганка?

— А што я за ёю, хаджу? — нібы злуючыся, адказаў Ганушчанка.

— Іш вы якія злосныя сёння!.. Не хочаце гаварыць?

— Ды дома недзе!.. Адчапіся!

Стаміўшыся ад доўгае хаданіны па цэхах, Ганушчанка прысеў на зэдліку каля каландраў. Ён глядзеў, як гулкія валікі жвава падхопліваюць доўгія шнуры паперы і круцяць іх і як гэтая папера цягнецца вялікімі стужкамі і потым складаецца ў роўныя пакункі.

Такімі ж доўгімі шнурамі беглі цяпер у Ганушчанкі ўспаміны пра ягонае жыццё. Успаміналася першая забастоўка, якая пачалася каля гэтых каландраў. Помніць Ганушчанка, як дырэктар тады збіў каля іх рабочага Малеўскага за тое, што ў таго па невядомай прычыне цэлы шнур паперы выйшаў брудны з-пад гэтых валікаў.

Тады пачалася цэлая калатня. Дырэктара выцягнулі за ногі і кінулі на кулі саломы, што ляжалі на двары, перад сячкарнямі. Нехта хацеў чыркнуць запалку.

Каб не паліцмайстар, можа, згарэлі б тады дырэктар і фабрыка. Успомніўся арышт пасля гэтага. Цёмныя дні і ночы ў халоднай, дзе цяпер ляжаць дровы, каля гарсавета. Ад гэтага расла злосць...

Але магутны ход каландраў, шабуршанне няскончаных шнуроў паперы супакойвалі яго, і ён часамі, проста не раздумваючы, здавалася, вадзіў вачыма па хуткіх валіках.

— Сіла!.. Сіла ў вас!..— шаптаў ён.— І ў нас!..

Падышоў Косця Мігуцкі. Ён быў у рабочай блузе, абвешаны цяжкім інструментам. Ласкава запытаўся:

— Што гэта вас цэлую ноч дома не было, дзядзька Андрэй?

— А колькі ты начэй не прыходзіў? Га! Я пытаю цябе!

— Ды не, я проста так...— сказаў Мігуцкі і пачаў пытацца, калі Ганушчанка прыйдзе дахаты; часамі хлопцу хацелася расказаць пра ўсё гэтаму старому ўдумліваму дзядзьку Андрэю.

— Як час прыйдзе, тады і буду...— і Ганушчанка ўстаў і пайшоў з Мігуцкім да пятае машыны. Яе спынілі для рамонту. Адвалілі цэлыя гурмы браку, церлі барабаны рыззём. Брыгада рамонтнікаў ужо корпалася ў яе суставах і ляскала імі, як сухімі косткамі. Тады машына здавалася мёртваю. Быццам ляжала вялікая гара костак-суставаў без жыцця.

Мігуцкі ўзяўся аглядаць барабаны. Ён падкручваў

шрубікі, часамі шараваў па няроўнасцях рашпілем і першы раз пасля колькіх месяцаў рабіў усё акуратна, як і трэба, зусім запамятаўшы на Рыгора Мацвеевіча і Ліду Пятроўну, мо таму, што недалёка стаяў стары Ганушчанка і сачыў за работай.

Да Ганушчанкі падышоў Стурыт. Ён весела апавядаў старому, што прарыў меншыцца, што па апошніх падліках глуму стала менш. Кампазіцыя з ролаў стала больш нармальнай.

— Так мы скора пераможам!..— ляпаў ён па плячы Ганушчанку і, здавалася, скакаў, як хлопчык.

Расла ўсмешка ў Ганушчанкі. Ён задаволена гладзіў сівыя вусы. Але раптоўна хмурнасць прабегла ў яго па твары. Глыбокая задума лягла на высокі лоб. Ён грукнуў сябе далонню па лбе і пацягнуў Стурыта ўбок.

— Слухай! Ты думаў? — трывожна пачаў ён.— Чаму цяпер зменшылася зладзейства?

— Думаў...

— А што?..

— А тое, што мы ўсе лепш глядзець пачалі. Толькі шкада, што не знайшлі падлюгу... А нехта ж, безумоўна, ёсць...— гарачыўся Ганушчанка.— Іначай і быць не можа.

— А хто б гэта мог быць? За Архіпавым глядзеў?

— Глядзеў.

— А што?

— Ды нічога!

Так яны доўга гаварылі. Хацелі ўхапіцца за які-небудзь кончык, каб разматаць гэты загадкавы маток. Яны адчувалі, што на фабрыцы робіцца нешта няладнае, але не маглі знайсці, хто гэта робіць. Стурыт усімі сіламі імкнуўся, каб натрапіць на які-небудзь след, але нічога не выходзіла. Не спаў ночы і Ганушчанка.

Яны доўга стаялі, меркавалі, але ў канцы парашылі, што ўсё трэба абрахаваць дзе-небудзь спакойна. І разышліся, дамовіўшыся аб гэтым.

Косця закручваў апошні шруб і збіраўся ўжо варочацца ў майстэрню, каб аднесці інструмент, як да машыны падышла Волька Панушкіна. Яна вясёлым, крыху жартаўлівым голасам, бясконца папраўляючы валасы, спытала:

— Даўно, Косценька, прыехаў?

— Учора!

— І ўжо на работу?

— Не, ужо з работы!

— Ах, які ты жартаўнік!— назаляла Волька.

— А куды цяпер збіраешся?

— У майстэрню, а потым дахаты.

— Ідзём разам.

І яна выйшла. На двары Волька чакала Косцю з майстэрні. У яе часта білася сэрца, яна абдумвала, як распачаць гутарку з Косцем. Многа перадумала яна пасля ягонага ад'езду, хацела забыць хлопца, але нешта не давала спакою, гнала, як заўсёды, у неразгаданую глыбіню разважанняў. Прыгнала і цяпер з паккамеры сюды. Яна ведала, што не хопіць сілы адысці ад Косці, і таму пакорліва стаяла і глядзела на дзверы майстэрні з сярэдзіны двара, хоць накрапліваў дождж.

Косця неўзабаве выбег, вымыты, у чыстым будзённым гарнітуры. Ён падбягаў, шырока раскідаючы цыбатыя ногі. Стаў ля Волькі, узяў па прывычцы яе за руку. І яны пайшлі хуткімі крокамі за фабрычную браму.

Спачатку маўчалі. Толькі паціскалі адно аднаму рукі і, здавалася, гаварылі імі. Косця нават адчуў лёгкі стук крыві ў галаве. Тады ён, успомніўшы пра Веру, адпусціў Вольчыну руку і пайшоў, засунуўшы свае рукі ў кішэні. Волька ціхенька пачала гутарку:

— Як у цябе з камсамолам, Косця?

— Як?.. Ніяк! —узбуджана адказаў ён.

— Навошта ты п'еш?

— Я, калі... А што табе!

— Ды я, я... так! — замялася Волька.

Гутарка ў іх не клеілася, і яны доўга ішлі моўчкі.

Але калі Косця ўбачыў, што мутнеюць у Волькі вочы, што дрыжаць павекі, яму стала сорамна за сябе. Ён убачыў дзявочую шчырасць, і тады яму захацелася кінуцца тут жа, сярод вуліцы, на пясок перад Волькай, каб тая апраўдала яго, каб зразумела, ад чаго ён часамі пакутуе, хай коратка, але непамерна балюча.

«Кароткая хвароба заўсёды вастрэйшая... А можа, яна не паверыць?» — думаў ён. І ўжо ўхапіў Вольку шчыльна пад руку, прыхінуў бліжэй да сябе, ужо, здаецца, хацеў загаманіць, як халодны, калючы спалох прабег, страсянуў усё ягонае цела. На секунду здранцвелі нервы.

— Што з табой? — пыталася Волька.

— Так! Не ведаю...

А сам думаў, што ўсе яны, фабрычныя, на адзін капыл, як гаварыў Архіпаў, быццам сабакі прывязаны адзін да аднаго і да фабрыкі. І яму хацелася кінуць усё, уцячы ад



Янка Купала, Пятрусь Броўка,
У. Ф. Луцэвіч. 1935 г.

іх з бацькам і маці куды-небудзь далёка па востраў, дзе нікога няма, дзе ніхто не мог бы яго трывожыць. І ён зноў адпусціў Вольчыну руку.

Тая многа разоў намервалася выказаць свае пачуцці, але, бачыўшы настрой Косці, маўчала. «Не зразумее мяне... насмяецца...» — думала яна.

І яны моўчкі падышлі да Вольчынае хаты.

* * *

«Вёска Забонічы невялікая. Трыццаць хат. Ды хіба гэта хаты? Добрых толькі дзве. Гэта ў Мігуцкіх і Прытыкаў. Шнуры ва ўсіх доўгія. Але ці шырокія? Шырокія толькі ў Мігуцкіх і Прытыкаў. Па кароўцы ва ўсіх ёсць. Але ці яны сытыя? Сытыя толькі ў Мігуцкіх ды ў Прытыкаў. Ды і памногу ў іх. Дзеці ва ўсіх ёсць, але ці яны здаровыя? Здаровыя толькі ў Мігуцкіх ды ў Прытыкаў. Але ў іх дзяцей мала...»

Так разважала заўсёды старая Паланея, Анухрэева маці, калі скардзілася на долю. Яшчэ ў маладосці так сваёй скардзілася яна доўгімі вечарамі, калі сквірчалі з голаду дзеці, калі трэба было насіць пустыя рэзгіны ў хлеў да галоднай каровы, калі трэба было хутацца ўірваныя кажухі, каб не памерзці з холаду, бо вецер дзьмухаў бязлітасна і званіў пабітымі шыбамі.

Так разважала старая Паланея і тады, калі збіраліся мужчыны да Анухрэя, яе старэйшага сына, і, не выходзячы з хаты, доўга крычалі і курылі, клялі сваё жыццё і шукалі ратунку.

Так разважала старая Паланея, калі яе Анухрэй, нязграбна трымаючы асадку, першы пісаўся ў калгас.

І так цяпер разважала Паланея, успамінаючы старое, выступаючы на калгасным сходзе. Яе сухія, як трэскі, рукі шпарка матляліся каля грудзей.

— Досыць папанавалі яны!..— злосна кідала яна ў прэзідыум.— Панарабіліся на іх... Ці цяперся гэтак раскашуюць? Я ўсё гляджу. Сабраліся мы разам і зноў пацеем, а яны толькі парабкамі арудуюць. Лацвей так. На чужыя рукі кожны майстра.

Сход ужо цягнуўся ад самага адвячорку. Калгаснікі ўволю нагаварыліся і напацеліся. Стаміліся і Ванька з Веркаю ў прэзідыуме. Яны пачулі так многа балючага, што было захавана ў шырокіх грудзях гэтых земляных людзей. Яны адчулі, які цяжар давялося перанесці ім за

доўгі час змагання за хлеб. І ім хацелася аддаць усе сілы, каб пасобіць выбіцца гэтым здаровым людзям з цемры, што так доўга душыла іх.

Анухрэй у світцы з абгарэлым крыссём вёў сход. Але ніякае раўнавагі ён не мог стрымаць. Крычалі то ў адным, то ў другім кутку. Тады ён, запамятаўшы на ролю старшыні, імкнуўся перакрычаць тых, што, на ягоную думку, былі няправыя, і моцна грукаў кулакамі па стале.

— Таварышы, ды ці-ш-шай вы!.. Таварышы!.. Тава... Чорт вас ведае!..

Ад гамонкі, здавалася, калаціліся сцены.

Разглядалі пытанне пра раскулачванне Мігуцкага і Прытыкі. Перагаварылі амаль усе. Тады выйшаў да століка, грукаючы пратэзам, салдат Ігнась. Так яго і звалі «салдатам», бо ён вельмі ганарыўся сваімі ранейшымі бойкамі з немцамі, бясконца выдумляючы розныя прыгоды і выстаўляючы напаказ свой белы медаль.

Ён успёрся адным локцем на стол і, расцягваючы, пачаў кідаць жорсткія словы.

— Даліжон вам сказаць...— пачаў ён,— што і над пажарам нам трэба задумацца. Так сказаць, усякаму звесна, які Мігуцкі злаўрэдны. Па назлобіі можа. І Прытыка не лутшы. Яшчэ летась, як маё парасё ненаўмысне забегла ў яго гарох, аглушыў колікам. Трэба ў розыск, сяляне...— і ён зноў загрукаў пратэзам, чыкільгаючы да лаўкі...

Тады ўзняўся цэлы гармідар:

— Ро-зы-ск!

— Розыс-с-к!

— Мі-лі-цыю!..— крычаў стары Ахрэм.

— Якую табе міліцыю, розыск!..— даводзіў Ігнась.— Розыск лутшы.

Хваля абурэння расла. Яна ўздымалася параю, што вылятала з ратоў, і кідалася ў забросненыя шыбы.

Ванька Крук ледзь стрымаў разнерваваных калгаснікаў, і толькі тады, калі сказаў, што сёння ж ён сам паедзе ў міліцыю і папросіць адшукаць злачынцаў.

Тут пытанне ніколі не разглядалася ў паслядоўнасці. А звычайна калі гаварылі пра адно, дык уносілі ў яго шэраг новых падзей, якія таксама хвалявалі калгаснікаў.

Салдат Ігнась зноў загрукаў каля лаўкі драўляпаю чыкялдою і ўнёс новую прапазіцыю:

— А як з конямі на Пятра будзе? Скора ўжо!.. Каму ехаць?

У калгаснікаў яшчэ не знік звычай у рэлігійныя святы

ездзіць на кірмаш у суседняе мястэчка Хоцічы. Часта вяліся спрэчкі за коней, бо ахвотнікаў на кірмаш было заўсёды шмат.

І цяпер, калі Ігнась укінуў іскру, бо свята было ўжо недалёка, з куткоў адразу загаварыла некалькі жанчын. Аднекуль хрыплы, злосны жаночы голас проста раздзіраў паветра.

— Чулі вы? Крывы сабраўся кірмашаваць! — сыпалася на Ігнасёву галаву.

— Каго праўленне вызначыць!

— А я так думаю, што кожны на сваім паедзе!..— пішчаў ад печы голас.

— Забудзьцеся на сваіх!..— звінелі маладыя галасы дзяўчат.

— Як?

— Паедзем!..

Зноў паплылі клубы дыму па хаце, зноў браўся за грудзі Анухрэй, і нарэшце грукат яго кулака па століку ацвярозіў усіх. Ён загаварыў сам:

— А я так скажу. Калі на Пятра будзе пагода, дык ніхто нікуды не паедзе. Будзем сена вазіць!

— Яшчэ што надумаеш?

— Падумаеш, сена!..

Але галасы адабрэння прыглушылі выбухі сваркі. Анухрэй паставіў сваю прапанову на галасаванне. Адна за другою ўзнімаліся рукі, быццам рос частакол з белых колікаў.

Галасавалі супроць. Нясмела ўзнялося тры рукі. Гэта тыя, каму асабліва хацелася ехаць. Тут была Ігнасёва жонка Тэкля, вялікая ахвотніца да раз'ездаў.

— А дзе я сукенку куплю?..— злавалася яна.— Калі гэтае свята будзе?

— Далжон вам сказаць: што міру, тое і бабінаму сыну...— азваўся Ігнась.

— Ух, каб ты спох!..

І ў хаце заспакоілася. На небе ўжо маладзік узышоў, стаў якраз насупроць акна і шчупаў шыбы сівымі пальцамі халодных рук.

— Позна ўжо...— сказаў Анухрэй.— І спаць пара!..

Сталі рыпець дзверы, выпушчаючы па адным калгаснікаў, ахутаных у плоймы белае пары.

Пасля ўсіх выйшлі Анухрэй і Ванька з Вераю. Яны ішлі да настаўніцы. Ванька і Вера, каб адпачыць, а Анухрэю з Ленкаю трэба было абавязкова падвесці справаздачу

за тыдзень. Назаўтра збіраўся прыехаць інструктар райкалгассаюза.

Яны ішлі мяккай аброшанаю вуліцай. Пасля душнае хаты на дварэ было свежа і вольна. Пахла ўкропам з агародаў і сырой травою. Анухрэй ішоў пасярэдзіне, а Ванька з Вераю — паабапал. Дзе-нідзе ў хатах яшчэ мігцелі агні. Калгаснікі ўкладаліся на спачын пасля духаты на сходзе.

Анухрэй, адчуваючы пасля доўгіх спрэчак спакой і свежасць чэрвеньскае ночы, пачаў успамінаць перажытае за дзень. Ён адчуваў, што прыемна апавядаць маладым, як многа трэба было сілы ўкласці, каб сабраць вякамі раз'яднаныя чалавечыя імкненні. Анухрэй глядзеў, з якою ўвагаю слухалі яго, і, не спяшаючыся, апавядаў:

— Збярэш, бывала, іх, а яны ледзь за грудзі не бяруцца. Зімою летась сабралі каля сотні аўчын. Каму кажухі шыць, мяркуем на праўленні. Ну, канечне, таму, хто зімою больш на дварэ бывае, хто ў дровы, на работу пойдзе. Так і размеркавалі. А на сходзе такі вэрхал узняўся. «Чаму гэта яму? Чым яны лепшыя? Як рабіць, дык усе роўныя, а тут, дык не! Вось ваша і праўда!» І паверыце, браткі...— разважаў Анухрэй,— што цэлую ноч і адседзелі толькі, каб як-небудзь размеркаваць аўчыны. Цяпер ужо лепш...— і Анухрэй лёгка ўздыхнуў.— Больш свядомыя сталі. Але хоць бы сягоння. Чулі, як пра коні спрачаліся?.. Ах, як яшчэ ўсім вучыцца трэба!.. Ай, трэба!

З гэтае гутаркі вынікла ідэя. Ванька ўзяўся па вечарах праводзіць палітгурток, пакуль рабочая брыгада будзе ў вёсцы. Анухрэй радасна прыняў гэта. Верка, нібы крыху абражаная, загарачылася, хуценька загаварыла і, здавалася, калола іх сваімі словамі.

— А я што, зломак?.. А я не магу дэлегацкі сход наладзіць?!

— Вось гэта добра! — радаваўся Анухрэй.

Яны не заўважылі, як падышлі пад ганак настаўнічынае хаты. Сталі. Было прыемна слухаць, як шапоча лістамі чэрвеньская ноч, як цені шугаюць каля дрэў. Верка абняла Анухрэя, паклала яму руку на плячо, інстынктыўна абапёрся на Анухрэя і Ванька. Тады Анухрэй ашчарэпіў абаіх дужымі рукамі і прыгарнуў. Усе яны радаваліся жыццю.

— Зробім усё!..— заходзілася Верка.

— Сілы хопіць!..— упэўнена гаварыў Анухрэй.

Ванька адышоў на паўкрока. Верчына рука ўсё яшчэ ляжала на плячы Анухрэя.

Каб яны абярнуліся, дык убачылі б, як з двара, дзе жыў салдат Ігнась, схаваўшыся за шулаю, працінала адлегласць чорнымі вачыма яго жонка Тэкля.

І калі ўсе ўвайшлі ў сенцы да настаўніцы, Тэкля пабегла ўгрунь у сваю хату. У яе аж білася сэрца і дрыжалі ногі.

«Спаймала... спаймала...— шаптала яна сабе.— Вось прыехала гэтая валацуга ды сумленных мужчын звадзіць... Скажу Аўгінні...»

І яна ўспомніла худую Анухрэеву жонку. Крыху было злосна, што яе кульгавы Ігнась нікога ўжо не цікавіць, а ён так апрыкраў дома.

* * *

Раніцою, ледзь сонца лізнула яшчэ халоднымі чырвонымі праменнямі шыбы, Анухрэй загрукаў у акно.

— Уставайце!.. Уставайце!..— І калі ўбачыў, што заварушыліся на ложку Ванька з Вераю, ціхенька ўсміхнуўся ў доўгія вусы і сказаў: — Да мяне ідзіце!..

Было чуваць, як шамацеў ён ботамі па мокрым пяску. Ванька хутка ўскочыў у чорныя вільготныя боты і пабег да качарэжніка. Схапіўшы кварту вады, паліваў на рукі над цэбрам, весела пырскаючыся, цёр свой чырвоны твар.

Падбегла Вера, моцна ўдарыла яго па шыі. Ён абярнуўся, засмяяўся, але нарачыта роблена скрывіў вусны, паказваючы, што яму нібы балюча.

— Іш!.. Недачэпа які! — пажартавала Вера і выхапіла ў яго кварту з рук.

Тады яны закружыліся па хаце, абое здаровыя, поўныя энергіі. Вера не бачыла, што з яе рук шырока плёскаецца вада па хаце, і толькі калі пырскі вады трапілі на твар соннае настаўніцы і тая са сну дзіка закрычала, яна адчула кварту ў руцэ і вінавата стала перад Ленкай. Настаўніца, ачухаўшыся, папрасіла Ваньку адвярнуцца і жвава ўскочыла з лавы.

Праз колькі хвілін усе былі ў Анухрэя. У таго на зэдліку сядзела яшчэ некалькі чалавек, а сам Анухрэй смачна мугаў шчаўе з глінянае місы, ажно на лбе выступіў пот. Ён запрашаў усіх на снеданне, але кожны адмовіўся. Толькі Вера раптоўна схапіла лыжку і пачала есці. Аўгіння скоса паглядала. Яшчэ цяпер пяклі ёй грудзі дакорлівыя словы Тэклі каля студні:

— Сядзі... Сядзі!.. А Анухрэй з кароткаи спаднічкай гуляе... На чорта ты яму!

Аўгінні хацелася ўзяць гэту місу са шчаўем і выліць на бялявую Верчыну галаву, але яна стрымоўвала сябе, бо было многа людзей.

Анухрэй, смачна аблізаўшы лыжку, паклаў на столік.

— Дык вось, браткі!..— і ён нахмурыў калматыя бровы.— Пойдзем зараз да Прытыкі і Мігуцкага. А то, чаго добрага, дазнаюцца і сплавяць усё. Яны такія...

З зэдліка ўстаў член сельсавета, калгаснік Аўдзей, і, заглядзеўшы на сваю пашарпаную папку з паперкамі, запэўніў:

— Усё запішам... Як навучыліся, але запішам. Такія ім аз-букі падвядзём.

— Толькі глядзець добра!..— папярэджваў Анухрэй.

Прыйшлі да першага да Прытыкі. У таго была шырока расчынена брама. На двары старэйшы сын з парабкам накладалі гной на воз. Відно, вазілі на папар.

Малады Прытыка выпусціў з рук вілы і стаў з шырока раскрытымі вачыма. Салдат Ігнась, грукаючы дзеравяшкай па каменнях, падышоў да ганка і іранічна прывітаўся:

— Дзень добры, ягомасці!..

Той маўчаў.

Увайшлі ў хату. Стары Прытыка, нервова расчэсваючы частым грабянём шырокую рыжую бараду, адарваўся ад кніжкі: у яго на століку ляжала раскрытае евангелле, менавіта на той старонцы, дзе была такая малітва:

Да воскреснет бог
И расточатся врази его...
. . . . . . . . . . .

Аўдзей сеў за столік, разгарнуў кардонку і паведаміў, што прыйшлі апісваць маёмасць. Анухрэй, Ванька і Вера прыселі на лаву. Толькі Ігнась чыкільгаў па хаце, глядзеў і зайздросціў, чаму ў яго не ляжыць такая роўная падлога, не давялося б яму гэтак мудравацца ў хадзьбе па доме па карабачаных, дзіравых, гнілых дошках.

Прытыка маўчаў. Твар яго выцягнуўся, відаць было, як хадзілі ў яго грудзі пад белай кашуляю, як краталася рыжая барада, але нарачыта ціха, спагадліва вёў гутарку:

— Завошта ж, таварышы? Ці я злодзей які, ці што! Здаецца ж, такі, як і ўсе суседзі!

— Ты горш злодзея, далжон я вам сказаць,— як з пе-

руна ўдарыў Ігнась і яшчэ хутчэй загрукаў па падлозе, успамінаючы, як Прытыка забіў у гаросе яго астатняе парася.

— Пакінь, Ігнась!.. Тут справа сур'ёзная,— супакойваў яго Анухрэй.

І калі Анухрэй сказаў, што так робіцца воляю ўсіх працоўных, непамерна выстаўляючы пры гэтым сваё ўменне гаварыць, калі Верка, не вытрымаўшы, выпаліла, што прыйшоў канец крывапіўцам, і пры гэтым вачыма, што стрэламі, прабіла Прытыку, а кульгавы Ігнась выплеснуў усю сваю абразу на Прытыку за доўгае суседскае жыццё, Прытыка ўбачыў, што ласкаю тут не возьмеш, што гэтыя хоць і суседзі, але яны другое крыві і не адступяць, ён, як звер, перакасіў твар, ухапіўся за грудзі і дзіка закрычаў:

— Душыць!.. Душыць прыйшлі, душагубы. Ніякай літасці! Пярун на вас усіх! — Ён кінуўся грудзьмі на ложак і пачаў драпаць па ім вялікімі пазногцямі.

Ля дзвярэй стаяў парабак. Ён разгублена і пакорліва вадзіў вачыма па ўсіх. Ігнась падышоў да парабка, узяў за світку.

— Чаго глядзіш? Пасабляй нам! Яго вось агледзім.— І ён міргнуў, паказаўшы на ніцага Прытыку.— А сам да нас!

Парабак спачатку маўчаў і не кратаўся, але калі пачалі выходзіць з хаты і клікаць гаспадара ў хлявы, ён жыва выбег наперад, падбег і адчыніў вароты ў хляве. Пагляд зелі і ўспомнілі, што каровы і свінні на пашы, усміхнуліся знянацку і пайшлі ў свіран.

— О-го! У яго яшчэ старога жыта на ўсю вёску да калядІ..— жартаваў Ігнась, гледзячы на поўныя засекі.

Парабак ухмыльнуўся і паказаў пальцам на гару. Ванька Крук ускочыў на дошкі, што нагадвалі прымітыўную столь, і весела зарагатаў адтуль:

— Тут жа яшчэ цэлае інтэнданцтва! Мяхоў... а колькі кумпякоў!..

Пакуль апісвалі і складалі дабро ў клеці, сын Прытыкі сядзеў ужо ў Мігуцкага. Ён папярэджваў пра няшчасце. Стары Мігуцкі дзякаваў за турботу і заспакойваў сябе тым, што ў яго ўночы баляваў старшыня Сымон Аўтухоў і даў яму паперку, што ён, Мігуцкі, вызваляецца ад раскулачвання, бо ў яго парабак быў у гэтым годзе толькі пятнаццаць дзён.

У старога цямнела ў вачах ад злосці. Калаціліся сце-

ны, прыкра круціліся калёсікі гадзінніка на сцяне. Успомніў Косцю. Стала цесна ў грудзях. Глянуў на акно, і яму здалося, што адлучаецца яго шчыльны частакол ад калгасаўскіх агародаў і цягнецца назад. Захісталася хата. Ён абапёрся на столік. Паўстаў уваччу пажар. Здавалася, адрына палымнее і сунецца на яго, ліжа языкамі агню яго-ны твар, смаліць грудзі. Праз другое акно, мроілася яму, цэліць у галаву бярозавым кастылём Ігнась і крычыць: «Нашто паліў?.. Нашто!..»

— Канец!.. Канец!..— закрычаў стары Мігуцкі і зваліўся на падлогу.

З бакоўкі выбегла старая, ухапілася за грудзі, схапіла конаўку вады, лінула яму на твар.

— Ай, млосна мне!..— стагнаў Мігуцкі.

Старая калаціла яго. Потым глянула ў акно, убачыла, што ад Прытыкаў ідзе да іх чарада калгаснікаў, і анямела. Яна толькі мычэла, калаціла старога і паказвала на акно. Узняўся Мігуцкі. Рука яго ўжо мацала ў кішэні паперку. Паглядзеў, і яго здзівіла, што ўперадзе ідуць Анухрэй з Прытыкавым парабкам і весела жартуюць паміж сабой.

Калі адчынілі дзверы і Аўдзей толькі пачаў гутарку пра вопіс, Мігуцкі выняў акуратна складзеную паперку і крутнуў ёю перад яго носам. Аўдзей проста аслупянеў. Ён моўчкі перадаў паперку Ваньку, а ад таго яна пачала хадзіць па ўсіх руках. Маўчалі і чыталі. Толькі Ігнась, грукаючы кавялой, настойліва патрабаваў, калаціў Ваньку за рукаў:

— Сказывай, што напісана?.. Чуеш...

— Аўтухоў адмяніў яго раскулачванне.— І Ванька паказаў на Мігуцкага.

— Як так... Як так,— злаваўся Ігнась.— Ах, ён п'яніца такі...

— П'яніца праспіцца, а дурань ніколі...— спакойна заўважыў Мігуцкі.

Тады злосць Ігнася перайшла меру. Ён, здавалася, бачыў цяпер гэтага самага Мігуцкага з агнём каля іх адрыны і ўжо крыкліва, пагражаючы, кінуў:

— Маўчы!.. Разумнік!.. Падпальшчык!

Спалох прабег сцюдзёнымі колікамі па спіне ў старога Мігуцкага. Ён думаў, што кульгавы Ігнась адшукаў сляды падпалу, але, убачыўшы нерашучасць на Анухрэевым твары, зачырванеўшыся, кінуўся на Ігнася:

— Давядзі, падла крывая! Я табе дам за абразу!

Усе стаялі і не ведалі, што рабіць. Добра зналі, што трэба цяпер жа раскулачыць Мігуцкага, але шкодзіла гэтая паперка. Яна стаяла сцяной між імі і Мігуцкім. І неяк было праз яе пераступіць. Ціха, па адным, выйшлі з хаты. Пайшлі вуліцаю. Моцна лаяўся і пляваўся Ігнась. Прытыкаў парабак ішоў побач, крыху спахмурнелы. Яму здавалася, што слабнуць лейцы, за канцы якіх ён ухапіўся.

Селі на Анухрэевай прызбе. Доўга спрачаліся. Парашылі, каб Ванька з Вераю схадзілі ў сельсавецкую партячэйку.

— Узяць іх!.. Растак іх!..— хваляваўся Ігнась і злосна пароў кавялою пясок.

А ад Прытыкаў везлі ўжо калгаснікі хлеб і мэблю. Вялікае люстра, што ляжала на возе, захапіўшы поўна праменняў, пускала іх на калгасныя вокны. Жанкі і дзеці выбягалі на вуліцу.

* * *

Ванька Крук і Вера падыходзілі да Прылук. Гарачы дзень стаміў іх, і яны селі каля невялічкае ручаіны адпачыць. Булькала па каменьчыках вада, перакатваючыся з аднаго на другі, шастала каля берага сухая ад сонца трава. Яны забіралі поўныя прыгаршчы вады, абдавалі ёю потныя твары.

Зелянела поле. Толькі далёка сінеў сасновы гай на ўзгорку. Было ціха і спякотна. Верка целяпнула босаю нагой па вадзе і сыпнула пырскамі на Ваньку. Той адбіваўся, але калі ўбачыў, што едзе фурманка з-пад вёскі, быццам злосна прабурчаў:

— Пакінь, Вера! Яшчэ скажуць, што вось дзе дзяціняцца.

Вера слухмяна падышла і села насупроць яго. Ванька, успамінаючы раніцу, ударыўся ў разважанні:

— Многа работы тут, і цікавае... Але мяне цягне ўжо на фабрыку. Як там цяпер? А гэты Мігуцкі Косця ўсё выкручваецца, гад. Думаў пісаць у ячэйку, што раскулачылі яго, ажно вазьмі!

Вера ўспомніла сяброўак. Ёй хацелася быць цяпер у крузе іх. Яна слухала Ваньку, а сама, здаецца, была ў сваёй чыстай пакамеры, шабуршала папераю.

— Скора ўжо і выедзем адсюль,— гаварыла яна і ўжо адчувала знаёмы пах фабрычнага двара.

— А так праз тыдзень! Толькі трэба яшчэ пасабіць ім добра з культработаю.

Праехала фурманка. На ёй нехта п'яны раскідаў рукі па драбінах, цягнуў іклівую песню:

Тран-сва-ль... Тра-а-а-н-сваль,
Ік... страна мая...

Кіраваў фурманкаю спакойны чорнабароды селянін. Песня знікала ў пыле.

— Калі гэта скончыцца п'янства?..— разважала Вера.— Колькі хвароб ад яго.

І яна бліжэй падсела да Ванькі і паклала яму галаву на плячо. Той гладзіў яе валасы, глядзеў на чырвоныя вусны. Яму было прыемна сачыць, як адлюстроўваліся белыя хмаркі неба ў яе сініх вачах, і ён туліў Верку бліжэй і цалаваў.

— А знаеш, Вера?.. Нам з табою і афармляцца трэба!

Яна засмяялася.

— Давай дзве справы зробім!

— Ну?

— Ды ў сельсавеце!

Верка ў знак згоды кіўнула галавою.

...У сельсавеце нікога не было. На ганку сядзела некалькі сялян і нервавалася. Ды і не дзіўна, самая прыпарніца, цяпер касіць бы толькі. Яны нядружна адказалі на прывітанне Ванькі. Толькі калі Ванька спытаў пра Аўтухова, адразу ўсе загаварылі.

— Паехаў жа п'яны як сцелька!..— прагаварыў сівы дзядок, нервова калупаючыся ў барадзе.

— Каб ён на край свету з'ехаў!

— Во абрыду выбралі на сваю галаву!

Тут пасыпалася тысяча кляцьбаў. Дзядзькі гаварылі, што яны даўно страцілі ўжо на Аўтухова надзею, што ён цэлымі тыднямі п'е ў кулакоў і патурае ім, а на справы зусім не глядзіць. Чакаюць вось толькі сакратара.

Ванька і Вера ўспомнілі п'янага за вёскай.

Каля ганка захісталася, віхляючыся на бакі, кульгавая курыца. Яна цяжка пераставўляла ногі.

— Акыш! Аўтушыха! Каб ты згарэла! — жартаваў адзін селянін.

Разнаёміўшыся, сядзелі з дзядзькамі ■ паўгадзіны. Разважалі пра фабрыку і пра калгас. І тады, калі Ванька давёў, што на фабрыцы не такая ўжо лёгкая праца, як ім здаецца, расказаў, як рабочаму даводзіцца цяжка праца-

ваць у іх у трапічным аддзяленні, яны больш даверліва сталі гаварыць і маляваць сваё жыццё.

— От і з калгасамі. Каб яно дружна было, дык і нічога...— пачаў адзін.— А то, скажам, я выйду касіць яшчэ цёмненька, а як у нас Іван дык толькі пад паўдня выходзіць. Вось і мяркуйся з ім як хочаш.

Верка гаварыла пра калгас у Забонічах, што там кожнага працу падлічаюць і таму ніхто не гультаіць.

— Вось вазьмецеся толькі дружна вы тут, а мы там, на фабрыцы, дык убачыце, праз колькі год сябе не пазнаем.

Так у гутарках непрыкметна прабегла гадзіна.

Прыйшоў сакратар партячэйкі Ткачоў. Ён спазнаў Ваньку і Веру, здарава пацiскаў ім рукі, вітаючыся.

— Зноў да нас?.. Добра! Заходзьце ў хату!

Усе пайшлі ў сельсавет. Ткачоў папрасіў Ваньку і Веру крыху перачакаць, а сам узяўся парадкавацца з сялянамі. Адзін за другім падыходзілі яны, выкладалі свае патрэбы і потым, не спяшаючыся, разыходзіліся.

Калі Ткачоў вызваліўся, Ванька, што сядзеў побач, горача тузануў яго за плячо.

— Ты знаеш што? Што гэта за тыпус Аўтухоў!.. Прыйшлі сягоння раскулачваць Мігуцкага, а ў яго паперка, што няма на гэта права. Падпісана Аўтуховым. А цяпер сустрэлі п'яным.

Верка хуценька даводзіла Ткачову, як абураны гэтым калгаснікі. Яна не магла сядзець на адным месцы, бегала каля століка, вочы яе блішчалі.

Ткачоў нахмурыўся. Было відаць, што яму балюча чуць такое. Ён нервова камячыў газету на століку.

— Гэтага Аўтухова пара пад суд ужо! Што ён не вытварае толькі... Я адчуваў, учора дагаварыўся з райкомам, каб зрабіць дадатковыя перавыбары. А пра Мігуцкага, дык так,— і, здавалася, пры гэтым ён мала раздумваў,— на прэзідыуме пастановім і выканаем самі. Толькі перадайце там Аўдзею, каб глядзеў за маёмасцю, бо расцягнуць.

Доўга гаварылі пра Забонічы. Ткачоў цікавіўся, ці доўга ў іх яшчэ будзе брыгада з фабрыкі, і скардзіўся, што дагэтуль ніхто не прыехаў яшчэ ў іх калгас.

— Але і мы самі з вусамі!..— жартаваў ён.

* * *

Косця атрымаў ліст ад бацькоў. Ён перачытваў яго шмат разоў, бегаў па пакоі, ірваў на сабе валасы і кусаў вусны.

— Пачакайце ж, сволачы, не дарую я вам!.. Разбураць хочаце ўсё, разбуру і я вас!..— шаптаў ён, гледзячы праз акно на чорны сілуэт фабрыкі.

Яму было прыкра глядзець на гэтыя высокія шэрыя сцены, на дым, што слупам узнімаўся ўгару, на белую пару, што вілася пад стропам.

І калі надрываўся гудок і, здавалася, звінелі ад яго ў вокнах шыбы, Мігуцкі хапаўся рукою за сэрца. Думаў, што сэрца не вытрымае і выскачыць з грудзей. Так было горача ўсярэдзіне.

Мігуцкі адчуваў, што, калі звернуцца з калгаса Ванька з Вераю, яму будзе нясоладка. Гэтыя шэрыя і хмурыя сцены, за якімі працуюць і пацеюць сотні людзей, могуць не прапусціць яго, а яму цяпер больш як калі хацелася расхістаць гэтыя сцены як можна болей. «Чакайце, можа, што і прыдумаю»,— злаваўся ён.

Па вуліцы спакойна ішоў сівы Ганушчанка і нешта прыкідваў на пальцах. Косця адвярнуўся. Гэты стары быў яму цяпер такі прыкры і непамысны. Каб не спаткацца з ім, пайшоў сцежкаю праз агароды проста да рэчкі.

Там, лежачы на траве, ён доўга раздумваў, як хутчэй зрабіць што-небудзь такое, каб яно балюча ўдарыла па Ваньку і па Веры, што так варожа сустрэлі яго, і па гэтым старым неспакойным Ганушчанку.

...Вечарам у клубе праводзілася спаборніцтва на лепшую ўдарніцу-паккамерніцу. На сцэне стаялі доўгія сталы, на якіх ляжала шмат пакункаў паперы. Іграў аркестр. Была поўная зала жанчын. Старшыня цэхкома Пятрова сказала, што спаборніцтва пачынаецца, і да столікаў падышло дзевяць паккамерніц.

Яны, здавалася, не глядзелі на людзей, не слухалі музыкі, а ўсе былі ўзяты ў палон папераю, якая шастала ў іх руках. Кожнай трэба было як мага ў найкарацейшы час адсартаваць па роўнаму пакунку паперы, выбраць і выкінуць глум, падлічыць аркушы.

Анямела зала. Сотні вачэй сачылі за спрытнымі рукамі паккамерніц на сцэне. Калі прайшло дзесяць хвілін, музыка змоўкла. Ударніцы кінулі работу. Журы пачало падлічаць, як выканана работа.

І так зноў некалькі разоў. У гэтым вечары не было нічога надуманага, артыстычнага, аднак зала больш як уважліва сачыла. Нішто так не можа захапіць чалавека, як вялікая рытміка працы.

Пасля прэміравалі лепшых. Адна за другою падыходзі-

лі работніцы да сцэны, атрымоўвалі скручанае трубачкамі сукно на гарнітуры, хусцінкі і чаравікі.

Стурыт сядзеў у зале і наглядаў. Калі ён бачыў, што каторая работніца адстае, яму самому хацелася ўскочыць на сцэну і пасабіць ёй. Яго хваляваў кожны няўдалы рух у спаборніцтве.

Косця Мігуцкі хадзіў па фае і нервова круціў папяросу. Ён не мог спакойна глядзець на гэта дзікае захапленне залы і адчуваў сябе спакайней у баку ад яе. Ён перабіраў у галаве тысячы розных варыянтаў, якімі можна было б хоць крыху зменшыць гэтую шалёную радасць, гэты дзікі энтузіязм.

Так ён хадзіў адзін, не гледзячы ні на кога, жывучы толькі сваімі вар'яцкімі планамі. І не заўважыў, страпянуўся ад нечаканасці, калі ўбачыў, што да яго падышоў Курачкін.

— Што гэта ты зашпацыраваўся тут?

Косця ўзрадаваўся, што ўбачыў Рыгора Мацвеевіча, і, схапіўшы яго за пінжак, пацягнуў на двор.

— Хадзі!.. Трэба пагаварыць.

Яны выйшлі на двор. Пайшлі і селі ў канцы доўгай ліпавай алеі на лаўку. Было ціха. Толькі з-за сцен клуба плыў людскі гоман, перамешаны з гукамі аркестра, і, здавалася, шастаў густымі кустамі.

Мігуцкі прыхінуўся блізка да Курачкіна і таемна, шэптам, сказаў на вуха:

— Што гэтая папера, давай зробім што-небудзь важнейшае...

— А што? — напалохаўся Курачкін.

— Давай сапсуём машыну...— гаварыў і дрыжаў Мігуцкі.

— А што будзе з гэтага табе і мне...

— Ні табе, ні мне і ні ім!..— пагразіў у бок фабрыкі кулаком Мігуцкі.

Курачкін не на жарты напалохаўся. Ён адчуваў, што гэта можа сапсуць усю добра наладжаную справу. І ён чуў, як выслізгвае з-пад яго лаўка. Інстынктыўна ўскочыў, схапіў Мігуцкага за плечы і павёў, угаворваючы, дарогай:

— Дурань ты! Малады яшчэ!.. Якая з гэтага карысць? Што нам ад гэтага? Выпіць ёсць, закусіць таксама, не голы ходзіш. Нічога, брат, цяпер лепшага не прыдумаеш...

Але хоць у размовах Мігуцкі пагаджаўся з Курачкіным, у душы яму хацелася нечага незвычайнага.

Калі Курачкін развітаўся і пайшоў дахаты, Мігуцкі бягом памчаўся, апрануў рабочую блузу, узяў вялікі рашпіль, засунуў пад крысо і пайшоў на фабрыку.

Міліцыянеру, што стаяў у калідоры канторкі, ён сказаў, што ідзе па выкліку Ганушчанкі, і прайшоў бегма. На фабрыцы ўзнімаўся па крутых лесвіцах усё вышэй і вышэй.

Ён узышоў на гарышча пад самую страху. Там на металічных жэрдках вісела шмат тоўстых ланцугоў.

Мігуцкі прытуліўся да аднае прагаліны, праз якую спускаўся ланцуг да каландраў і трымаў вялікі жалезны брус для націску паперы. Ён убачыў, што каля каландраў мітусяцца рабочыя, ладуючы вялікія пакункі паперы.

На хвіліну задумаўся. Глядзеў, як зграбна вісяць пасы, як знізу ідзе аднастайны ўрачысты гул машын, як узнімаецца адтуль цеплата, і рука ўжо слабей трымала рашпіль, гатовая зусім размякнуць і выпусціць яго. Ды зноў, як нажом, пацяло па сэрцы ўспамінамі пра бацькаў ліст, пра Ваньку і Веру.

Уважліва паглядзеў на дол. Там усё грудзіліся рабочыя каля каландраў. І ён пазнаў, што гэта такія ж самыя, як Ванька і Вера, такая ж цвёрдая ўпэўненасць у іх, у іхніх рухах каля машын, у іх характарах, гутарцы.

І тады яму здалося, што гэта стаяць там Ванька з Вераю, што скрышылі яму ўсё ягонае жыццё, і Мігуцкі рашуча ўхапіўся рукою за ланцуг і цвёрда пачаў вадзіць па ім рашпілем. Цмылела жалеза. Ён мазаў яго маслам, каб яно не рыпела, і глядзеў, як прыемна ўядаюцца зубцы рашпіля ў цвёрдае жалеза. Мігуцкаму здавалася, што пі-ліць Ваньку з Верай, і ён яшчэ больш націскаў рашпілем, моцна трымаючы ланцуг.

Было горача ў рукі. Здалося, што нешта шаснула ўбаку.

Ён адскочыў ад ланцуга, лёг на падлозе і стаіўся. Калі ўбачыў, што гэта проста падман слыху, зноў насеў на ланцуг.

Паволі пачаў расціскацца ланцуг, трымаючыся, здавалася, толькі на адной нітцы. Потым апошняя цененькая нітачка жалеза парвалася... Загрымела ўсё. Ланцуг забразгаў і паляцеў на дол.

Было чуваць, як нешта моцна грукнула на доле, ажно закалаціліся сцены. Знізу ляцелі шалёныя крыкі:

— А-яй-яй!.. Каландры!.. Каландры!..

Расчырванелы, дрыжачы, камком каціўся Косця па прыступках лесвіцы ўніз, шукаючы выйсця з чорнае пасткі фабрыкі. І здавалася тады яму, што хмурыя сцены насядаюць на плечы, белая пара ціснe за горла, а вялікія жалезныя крукі проста гоняцца за ім са столі, каб учапіцца за шыю. Калені ў яго дрыжалі. У галаве рабілася пуста, быццам гэта быў толькі пусты кацялок, які боўтаўся на плячах, і толькі адно імкненне працінала ўсяго — выратавацца.

Скочыўшы з апошняе сходкі, ён, ледзь утрымаўшыся на нагах, раптоўна падаўся назад. Перад ім стаяў заўсёды роўны і спакойны сівы Ганушчанка. Толькі на белым твары старога больш сталі прыкметныя сінія жылкі ды вочы блішчалі вастрэй.

Секунду стаялі моўчкі і глядзелі адзін на другога, абодва не бачачы, што вакол іх сабралася шмат рабочых.

А каландры шумелі... Таксама, як і раней, аднастайным металічным гулам...

— Ты адкуль? — сурова запытаўся Ганушчанка.

У гэты час ён паходзіў на пракурора. У вачах яго былі колкасць і дакор.

Косця закалаціўся ўвесь. Ён не ведаў, дзе яму дзець доўгія рукі, спрабаваў пакласці іх у кішэні, схаваць за спіной, але яны зноў выпіралі наперад і бездапаможна матляліся па баках. Потым на момант яны быццам выпраставаліся, рухі іх зрабіліся цвярдзейшыя, і, нават крыху ўзняўшы адну, Косця прагаварыў:

— Лазіў... аглядаць...

— Што-о аглядаць? — блізка падышоў да яго Ганушчанка.

Косця спусціў галаву. Зноў заматляліся бездапаможна рукі.

— Ланцугі рэзаць? Га?..— крычаў Ганушчанка.

— Га!..

— Га?..

— Га!..— неслася адразу з усіх бакоў.

Косця маўчаў. Ён адчуваў, што цяпер выйсця аніякага няма, што гэтае жывое кола людзей у сініх фартухах не запрапусціць яго. І калі зноў загудзеў каля вушэй рой запытанняў, у якіх адчувалася многа сілы, ён асеў, выставіў крыху ўперад рукі і прыглушана выціснуў:

— Я!..

Тады сіняе кола фартухоў зрабілася цяснейшым. Адна рука ўзнялася над Косцікавай галавой, але яе раптоўна спрытна перахапіў Ганушчанка.

— Не трэба! Пойдзем!..— і ён паказаў Мігуцкаму пальцам на дзверы.

У камеры следчага Косця плакаў і рваў валасы. Часамі ўскокваў і злосна махаў рукамі на следчага і Ганушчанку. Потым доўга маўчаў, не адказваў на запыты. Адварочваўся і глядзеў у акно. І калі ўбачыў за акном знаёмую сухую постаць Рыгора Мацвеевіча і круглы стан Ліды, стала дакорна, што яны на волі. Ён нервова адскочыў ад акна, падбег да століка следчага і, збіваючыся, прагаварыў:

— Пі-ш-ш-шы-це!

І палілося красамоўства...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Позна выйшаў ад следчага Андрэй Ганушчанка. Ішоў доўгаю вуліцай, непамерна сагнуўшыся, так што кароткая шыя яго і падбародак зусім схаваліся ў каўняры, і тады здавалася, што сівыя валасы ягонае барады проста растуць з каўняра чорнае курткі. Цяжка мялі пясок яго пакрыўленыя боты. Было чалавеку не па сабе. «Як гэта здарылася?..— разважаў ён.— Што ў мяне пад бокам?.. А я так думаў!»

Перад вачыма паўставалі скрыўлены твар Муляўкі і яго раструшчаная нага, з якое бегла чырвонымі цуркамі кроў. Ганушчанка, часамі запамятаўшы, спыняўся, глядзеў пад ногі і нават кратаў наском зямлю, шукаючы крыві, але, агледзеўшыся, зноў перастаўляў здранцвелыя ногі.

Яго прыціснутыя плечы схаваліся ў цёмных сенцах парткалектыву.

Гудзелі сталёвыя драты тэлеграфных слупоў... А ў інтэрнаце, як і кожны вечар, іграў гармонік...

Назаўтра вестка аб падзеях на фабрыцы абляцела ўвесь пасёлак. Яшчэ вечарам, прыйшоўшы са змены, рабочыя перадавалі пра ўсё ў сваіх сем'ях, прыкрая вестка перакідалася ў інтэрнаты, з клуба на вуліцу, на астравок, дзе гуляла моладзь, на ўсё пасялковае жыццё. Нельга падлічыць, колькі разоў было пры гэтым памянута прозвішча Мігуцкага і колькі было выказана праклёнаў:

— Мігуцкі...

— Мігуцкі...

— Мігуцкі...
— Сволач!..
Назаўтра дадаліся яшчэ некалькі прозвішчаў і больш кляцьбы:
— Курачкін!..
— Архіпаў...
— Курачкін...
— Гады!..
Усе ведалі пра арышты. Знала, што пакалечана нага ў Муляўкі. І не сціхалі грукаць дзверы ў пакоі парткалектыву. Закідалі пытаннямі Стурыта.
— Дакладзі нам пра ўсё!
Той толькі паспяваў адказваць і супакойваць узнерваваных рабочых:
— Пачакайце!.. Усё высветліцца!
А калі на вуліцы спаткалі і акружылі Ганушчанку камсамолкі Сонька і яго дачка Ганна, ён, імкнучыся выратавацца ад іх юнацкае таропкасці, не апавядаў пра няшчасны выпадак каля каландраў, а пачаў упікаць іх, што яны не даюць спакою: яму было цяжка ўспамінаць пра Муляўку.

* * *

Звярнулася брыгада з калгаса. Ды не адна. У госці прыехала дэлегацыя калгаснікаў. Ванька Крук адразу павёў іх у цэхі. Хацелася, каб яны хутчэй убачылі, як пагоджана працуе ўся гэта складаная машына-фабрыка. Ён ішоў сярод калгаснікаў як даўнейшы іх знаёмы, і яны зусім проста, па-свойску, распытвалі яго. Асабліва не даваў спакою Ігнась.
— Далжон вам замеціць, Ваня,— гаварыў ён, забягаючы наперад,— што гэта быццам як нашы сячкарні,— паказваў ён на саламарэзкі, што рыхтавалі да варкі салому.
— Бачыў ты, як спрытна яны грызуць салому? — зазначыў Анухрэй, пільна прыглядаючыся да пасткі саламарэзак, якія паглыналі сноп за снопам.
— А глядзіце...— тлумачыў усім Ванька,— як гэта пасечаная салома падымаецца на гару,— і ён паказаў на трубы.
Салома з-пад сячкарань гулка ўлятала ў трубы і ўзнімалася, уцягваючыся паветрам.
— Гэта адзін пачатак работы, а цяпер пойдзем пагля-

дзім другі...— і Ванька перавёў усіх у аддзяленне, дзе апрацоўваліся анучы і рыззё.

Гэта аддзяленне змяшчалася на гары. Там было цяжка дыхаць. Хоць няспынна гудзелі вялікія вентылятары, пыл насіўся цэлым роем. Многа там працавала сартавальніц-жанчын. Яны падрыхтоўвалі рыззё і анучы. Перакідалі лахманы, адразалі розныя рубцы і гузікі, што маглі перашкодзіць апрацоўцы.

— Вось з гэтага, Ігнась...— гаварыў Ванька,— з гэтага рыззя выходзяць самыя найлепшыя гатункі паперы, самая што ні на ёсць гербавая, як кажуць...

— А колькі ў нас гэтых лахманоў проста нізавошта гіне... Спачатку на аднімку які пусцяць, а потым і зусім выкінуць...

І Ігнась падышоў да высокіх куч прагледжанага рыззя, прыгнуўся і стаў перабіраць яго рукамі.

— Дык тут, далжон вам замеціць, і проста зрэбныя парваныя анучы ляжаць...

— Са зрэб'я самая лепшая папера, Ігнась! — тлумачыў Ванька.

— Ну?

— А як ты думаў!

— Цуд!..— ціскаў плячыма Ігнась.

Калгаснікі крыху разгубіліся ў шуме. Яны пужліва сачылі за Ванькам, які вадзіў іх, і не адставалі ні на крок. З імі хадзілі і Верка з Тэкляю. І хоць Тэкля недаверлівая была да гэтай маладой дзяўчыны там у калгасе, тут яна ўважліва слухала яе і дзівілася, як яна, такая маладая, ведала добра ўсё ў гэтай мітусяніне, у гэтым шалёным гудзе на фабрыцы.

Перайшлі туды, дзе загружалі катлы саломаю. У вялізныя катлы ссыпалі парэзаную салому, каб яна адбельвалася. У гэтыя ж катлы загружалі для адбелу і анучы. Адышоўшы ад катлоў, яны ўбачылі вялікія металічныя скрыні, у якіх плавала белая маса. Яна падходзіла пад нажы ў адным баку ролаў, дзе шкуматалася на драбнюткія часткі. У ролах гэтая маса канчаткова адбельвалася.

Стаялі каля ролаў і сачылі, як плыла, разбівалася белая маса, чэрпалі яе рукамі, доўга разглядалі.

— Ні ў жысць не паверыў бы, што так анучу выбеліш!..— заўважыў Ігнась.

З ролаў перайшлі да машын. Машыны стаялі доўгія, выцягнуўшы шыі, і бясконца гудзелі. Па сетках у іх беглі

белыя ручаіны прыгатаванае масы. Сетка адсмоктвала вільгаць. І ўжо далей яны бачылі, як праз вялікія гарачыя барабаны пераматвалася цёплая папера, якая потым накручвалася адразу на некалькі накатаў.

Доўга стаялі тут калгаснікі: яны ўбачылі цяжкую потную працу рабочага.

Перад імі покнуў шнур паперы на адным накаце. І яны ўбачылі, як рынуліся рабочыя, замітусіліся паабапал машыны і ўлезлі пад яе, каб зноў пусціць паперу на накат. А ход машыны неўгамонны — яна валіць пад сябе горы паперы, комкае, ірве яе. Але звыклыя рабочыя хутка авалодалі ёю, і папера зноў пабегла на накат.

— Я так не зрабіў бы...— прызнаўся Ігнась. Ён лічыў рабочых каля машыны сапраўднымі героямі, і яму здавалася, што яны павінны ганарыцца так сваёй работай, як ён, Ігнась, ганарыўся тым, што біўся з немцамі.

Пад вечар у клубе наладзілі вячэру. Калгаснікаў пасадзілі ўсярэдзіну. Вылучаныя з цэхаў рабочыя распытвалі пра калгас. Жыва вялася гутарка. Стурыт, захапляючыся, тлумачыў калгаснікам пра фабрыку. Анухрэй сачыў за кожным ягоным словам. Яму хацелася асвойтацца добра з работай тут, каб некаторыя ўжыткі ў працы перанесці потым у калгас.

А непаседа Ігнась круціўся на крэсле, і калі Ганупічанка гаварыў, што, азнаёміўшыся з машынаю, працаваць на ёй не так ужо цяжка, ён устаўляў у яго размову свае заўвагі:

— Гэта не плуг... Далжон я вам сказаць!

Праз колькі гадзін перайшлі ў залу. Там было ўжо многа рабочых, што прыйшлі паслухаць калгаснікаў.

Калгаснікаў запрасілі ў прэзідыум. Анухрэй адчуваў, як дабаўляюцца ў яго сілы, калі глядзеў на мора людскіх галоў, што сачылі за ім у зале. Яму хацелася перадаць ім усю радасць ад свайго новага жыцця, ад свае работы. Расказваючы пра калгас, ён вельмі гарачыўся, гнаў факт за фактам, часамі збіваўся і чырванеў. Ён вельмі горача дзякаваў фабрычнай брыгадзе за работу ў калгасе і, скончыўшы сваю кароткую прамову, доўга ціснуў рукі Ваньку Круку і Верцы, што сядзелі ў прэзідыуме. Паціскаў іх так, каб гэта бачылі ўсе ў зале.

Не вытрымаў і Ігнась. Ён узняўся, стаў побач стала і пачаў гаварыць.

— Далжон я вам сказаць...— пачаў Ігнась,— што ва-

шы хлопцы пасабілі нам хораша. Злаўрэднага Мігуцкага і Прытыку разам скінулі з панства...

Па зале панёсся рокат адабрэння.

— А цяпер мы з вамі знаем, што рабіць... Мы гарнізуем калгас ва ўсім міры...— І Ігнась, задыхаўшыся, сеў.

Брынчалі шыбы акон ад воплескаў.

* * *

Ванька Крук ішоў з майстрамі дахаты і напаткаў на вуліцы Веру. Яна бегла з клуба з кніжкаю пад пахай. Пайшлі разам. Не заўважылі, як выйшлі за пасёлак. Успаміналі калгаснікаў і сваё жыццё там. Вельмі жывымі паўставалі ў іх памяці Анухрэй і гэты жартаўлівы, неспакойны Ігнась. Клаліся са смеху, калі ўваччу вырастала свежая сцэнка раскулачвання Прытыкі і гарачыя спрэчкі ім Ігнася. Калі агледзеліся, дык шэрыя купы пасялковых хат былі ўжо з паўгоні за імі.

— Бачыла, як можна, загаварыўшыся, далёка зайсці?..— сказаў Ванька і прыгарнуў Веру бліжэй да сябе.

Тая маўчала, толькі хінулася бліжэй да шырокіх Ваньквых грудзей, клала яму рукі за шыю, потым, нібы апомніўшыся, сказала:

— Дахаты, Ванька, пара!

Ванька глядзеў на яе асмужаны сонцам твар. Бачыў, што каля воч цянюсенькімі пасмамі лягла сінь і вочы ў Веры сталі мякчэйшыя. Яму было шкада выпускаць яе руку. Здавалася, што Вера стала яму роднаю, даражэйшаю за сябе, што яна яму неабходна, што яна павінна заўсёды быць з ім. І ён, нібы знайшоўшы нечакана тое, чаго так доўга шукаў, мацней паціснуў Веру за руку і прабачліва загаварыў:

— Верачка! А мы так замітусіліся ў гэтыя дні, што і запамятавалі пераехаць. Сягоння яшчэ не позна. Пойдзем!..

Вера ў згоду матнула галавой...

Калі ўсё ўжо было прыбрана ў хаце, а Вера распакавала апошні клумак і, выняўшы адтуль белую сарвэту, заслала столік, халасцяцкі пакой Ванькі зусім змяніўся: пасвятлеў, стаў больш утульны. Не мог нарадавацца Ванька. Ён быццам адчуваў сваё новае нараджэнне. Схапіў, як дзіця, Веру на рукі, доўга нястрымна цалаваў яе... Потым абое прытуліліся да акна і доўга моўчкі слухалі, як гу-

дзіць фабрычны двор, глядзелі, як носіцца «кукушка» па вузкай каляіне.

Думкі абаіх даўно хадзілі па тым чорным фабрычным двары, што глядзеў у шыбы, і ад іх сэрцаў, здавалася, цягнуліся доўгія пасмы туды, за мураваныя сцены цэхаў, дзе маталася папера на звонкія накаты.

Да Ванькі прыйшлі камсамольцы. Убачыўшы змены ў кватэры, яны пажартавалі з яго і Веры:

— Уюцік, таварыш сакратар!

— Цяпер канарэйку!

— Цяпер канарэйку!

— Верка ў яго за канарэйку! — злосна пажартаваў адзін.

Верка не вытрымала. Ёй было балюча, што дагэтуль захаваліся такія погляды на дзяўчат у некаторых камсамольцаў.

— Як табе не сорамна, Драздоў! — занервавалася яна.— Ты і цяпер думаеш, што дзяўчына — гэта рэч?

Яе падтрымалі астатнія. Драздоў замяўся і сеў у куток. Усе жартавалі і віталі Ваньку з наваселлем. Толькі Драздоў з кутка нездаволена мармытаў:

— Забудзецеся цяпер на ячэйку!..

Тады пачалася цэлая дыскусія пра сям'ю камсамольцаў. Драздоў даводзіў, што многа добрых камсамолак, якія павыходзілі замуж, зусім пакінулі ячэйку, што белыя фіранкі на вокнах адгароджваюць іх ад камсамола.

Верка, усхваляваная, горача ўварвалася ў спрэчкі.

— Глупства ты гародзіш, Пётра! — наступала яна на Драздова.— Не фіранкі тут вінаваты. Яны дзеля таго, каб па-чалавечаму жыць! Вы вінаваты... вы! Вось паглядзі на Марылю. Яна выйшла за Жыраўскага, за гэтага ліпавага камуніста. А ў ячэйку не ходзіць. Чаму ты думаеш? Чаму? Фіранкі шкодзяць? А можа, Жыраўскі тут вінен? Яму трэба прыкладная гаспадыня ў хаце, гаворыць ён. Гнаць такую ліпу з партыі трэба!

Драздоў тут не мог нічога сказаць супроць. Ён маўчаў.

Ванька ж адчуваў, што правільна нервуецца Верка, і яму рабілася лягчэй, што будзе з кім цяпер параіцца пра справы камсамольскія, што ён знайшоў таварыша, які жыве адным з ім. Ён думаў пра тое, як цяпер прыцягнуць Мар'ю назад у ячэйку.

Раніцай, ідучы на работу ў кузню, Ванька Крук надоўга спыніўся перад бардовай дошкаю ў калідоры майстэрні, на якой крэйдай было накрэмзана многа выклікаў на спа-

борніцтва. Мала таго што тут былі выклікі, яны былі вельмі практычныя. Прыкладам, слесар Карыта выклікаў падмайстра Саломкіна. Дык ён проста пісаў, што бярэцца ў дзень прыгатаваць добра адпрацаваных сто шрубаў і выклікае Саломкіна, каб той адрамантаваў на дзень не менш двух канатаў.

Ванька, можа, таму, што хацеў паказаць камсамольскі спрыт старэйшым у рабоце, а можа, таму, што вельмі паважаў яго, выбраў для спаборніцтва Ганушчанку. Ён абяцаў у дзень адрамантаваць шэсць ціскоў і выклікаў Ганушчанку, каб той у часе нагляду за роламі сам заправіў іх у змену два разы.

У кузні Ванька спаткаўся з Драздовым. Той працаваў падмайстрам каваля. Калі Ванька ўвайшоў, Драздоў спаткаў яго не зусім ветла. У яго ўсярэдзіне расло пераканание, што Крук пасля жаніцьбы не будзе больш тым гарачым, поўным энергіі хлопцам, якім быў раней. Ванька адчуваў гэтыя думы Драздова. Яму зацелася, каб Драздоў хутчэй убачыў сваю памылку. «Такіх Драздовых у камсамоле шмат,— думаў ён.— І гэта небяспечна».

Апранаючы спецвопратку, ён нарачыта спыніўся доўгім позіркам на Драздове. Той не глядзеў, капаўся кляшчамі ў горне. Можна было зразумець, што ў яго таксама хаваецца многа нявыказанага.

У час работы, калі знімалі з кавадла падрамантаваныя ціскі, Ванька быццам выпадкова паведаміў Драздову:

— Заўтра, Пётра, ячэйкай экскурсію робім.

Драздоў іранічна ўсміхнуўся, суха адказаў:

— Глядзі, каб спраўдзілася! Заспіш!

Тады апанавала злосць Крука.

Было балюча, што шмат хлопцаў блытаюцца ў пытаннях сям'і і далёка адсталі тут, што многа яшчэ трэба, каб давесці іх да правільнага разумення. Было крыўдна за сябе і за Веру. Яны не разумеюць, што пасля жаніцьбы Вера больш пасабляе яму ў ячэйкавай рабоце, яна надае яму больш энергіі сваім таварыскім словам і парадай.

Ванька сурова глянуў на Драздова і больш нічога не гаварыў. «Хай падумае сам...» — разважаў ён.

Пасля работы каля брамы Ванька спаткаў Ганушчанку. Той быццам сумысля стаяў, чакаючы Ваньку. Калі Ванька падыходзіў, Ганушчанка прыжмурана ўсміхнуўся:

— Што ж, толькі пішаш, бюракрат ты які?

Ванька, не разумеючы, запытліва глядзеў:

— А што?

— Ды слоўмі не мог мне сказаць, а абавязкова праз дошку.

Ванька, жадаючы паказаць старому, што ён выканае свой абавязак, пачаў быццам міжвольна мацаць мускулы на правай руцэ. Ганушчанка заўважыў гэта.

— Не кідайся... Не кідайся!..— жартаваў ён.— Яшчэ паглядзім, чый верх будзе!.. Старая костка трывалая!..

— Дый маладая моцная!..— адгаварваўся Ванька.

Ганушчанка на хвіліну задумаўся. Быццам ручаінкі, гусцей пабеглі па яго твары сінія жылкі, потым ён сур'ёзна звярнуўся да Ванькі:

— А ведаеш, так дык так... Толькі не на ролах я пачну з табой дужацца. А на цісках... Ты думаеш, я гэтага не ведаю?.. Вось у мяне выхадны заўтра... Чакай раніцай у кузні! Ану, руку!..

І яны абодва паціснулі рукі. Збоку несліся жарты. Старэйшыя рабочыя заступаліся і бадзёрылі Ганушчанку:

— Наш возьме!.. Ён прыткі!..

Маладзейшыя падтрымоўвалі Ваньку:

— Глядзі! Не спусці!..

Захапіўшыся гэтым момантам, маладыя і старыя рабочыя, што наглядалі за Ганушчанкам і Крукам, пачалі выклікаць адзін другога:

— Пятроў, давай з табой!

— Восіп!..

— Давай!..

— Давай!..

Пад вясёлыя жарты ціскалі рукі. А ў грудзях у кожнага расло жаданне выйсці пераможцам.

Падышоў Стурыт. Ён радасна ўсміхаўся, наглядаючы зацікаўленасць рабочых спаборніцтвам, а ў галаве раслі думкі і планы, як зрабіць, каб спаборніцтва адзінак перакінуць на брыгады і каб гэта спаборніцтва было жывым, каб яно клікала да сябе ўсіх рабочых. Бо часамі спаборнічалі брыгады фармальна. Як у каторае выйдзе. Хто больш, хто менш. Не глядзелі, каб зрабіць добра. Калі ўжо разыходзіліся, Ганушчанка, ідучы з Ванькам, кпіў з яго:

— А ажаніцца і без мяне паспеў... Звёў Верачку!..

— Сам да гэтага дадумаўся...— жартаўліва адказваў Ванька.

— На вяселле пакліч!..— кпіў, развітваючыся, Ганушчанка.

— Не будзе яго!..

— Па-а-кліч!

— А як жа...— гаварыў Ванька, а сам быў ужо далёка.

Галава ў яго трашчала ад думак і планаў. Столькі перажытага за гэтыя месяцы ўспаміналася яму. П'янства ў ячэйцы. Мігуцкі. Зладзеі. Успамінаўся калгас з Анухрэем і крывым Ігнасём. Стаяла вясёлая Верачка. А цяпер — Драздоў з аднабокімі поглядамі, што дзяўчаты пакідаюць ячэйку. Ганушчанка выклікаў стаць уполеч дужацца каля кавадла. І ад усяго гэтага расла прагнасць жыцця, мацней станавіліся ногі на пясок, рос ён сам.

«...У жыцці трэба дужацца...» — думаў ён.

* * *

Верка падышла да Марылі, калі тая паласкала бялізну на рэчцы. Стаяла яна амаль па калені ў вадзе каля кладкі і пярыла пранікам лойны. Зрабіліся ў вадзе чырвонымі яе здаровыя ногі.

Верка ўспомніла Марылю, вясёлую таварышку, жывую камсамолку, што не давала калісьці прадухі на сходзе ніводнаму дакладчыку сваімі задзёрыстымі пытаннямі, успомніла і не пазнала яе, бо тут высока ўзнімала пранік другая Марыля.

У гэтае Марылі было больш суровае аблічча, бледны твар, нейкая зморанасць на маладых шчоках і трывога ў вачах. Здавалася, уся яна танула ў гэтых рытмічных гуках, ахутаная мокрымі лойнамі бялізны, і толькі часамі вочы выдавалі яе ранейшую.

Марыля сустрэла Верку недаверліва. Спакойна прывіталася і, здавалася, не хацела кідаць ні на хвіліну работы. Калі Верка пачала распытваць пра жыццё, яна адказала, але так, што гэтым амаль нічога не гаварыла.

— Жывём як жывём.

А за адхонамі берага біла сапраўднае жыццё. Спявалі камсамольцы. Чуліся ўскрыкі ад гульні ў лапту, звінелі галасы піянераў, грукала сэрца фабрыкі, і Верцы стала непамерна шкада ранейшае, вясёлае Марылькі. Ёй здавалася, што гэта цячэ не рэчка, дзе стаяць чырвоныя ногі Марылі, а што гэта балота, што гэта не вада плёскаецца каля ног, а сыходзіцца багна, і хацелася хапіць за рукі Марылю і пацягнуць яе на бераг, за адхон...

Але Верка адчувала, што адразу, наскокам, тут нічога

не зробіш, што тут патрэбен падыход. І яна пачала з адцягненага:

— Можа, у кіно сходзім, Марылька?

Не пасвятлела чало ў Марылі. Яна па-ранейшаму хмура адказала:

— Часу няма!

— А што ты вечарам робіш?

Марыля маўчала. Нешта дужалася сказаць і не магла. Потым, зморшчыўшы твар, рэзка адказала:

— Хату пільную!..

— А замкнуць нельга?

— Не.

— Чаму?..

— Жыраўскі не хоча.

Тады пачалася жывейшая гутарка. Верка апавядала, што і яна замужам, але яна, як і раней, вольная, што замужжа — гэта не ланцуг, які прывязвае да хаты, пачала гаварыць пра сям'ю.

Доўга слухала Марыля. Потым выпрасталася, выйшла з вады, падышла да Веркі і шэптам, хоць нікога каля іх не было, пачала скардзіцца Верцы на жыццё:

— Спачатку ён так і гаварыў, як і ты... Так і было раней... А потым пачаў не пускаць увечары нікуды... Абрыд ён мне... Любіць, але абрыд... Чым больш дрыжыць нада мной, тым горш брыдчэйшы... Не пускаў у кіно... Потым на сход... А цяпер і на фабрыку не хоча пускаць. Кажа, хопіць хлеба, сам зараблю. Нялюба гэта мне!..

Доўга скардзілася Марыля сяброўцы, часамі выступала раса на яе вачах. І было сорамна Верцы за гэтую расу і разам шкада, бо такая ўжо жаночая доля, што толькі гэтай расою і плацілі раней за абразу. І было шкада і злосна на Марылю, што яна не можа як належыць паставіць сябе.

Марыля сабрала бялізну. Верка ўзяла яе пад руку.

— Пойдзем!

— Куды?

— У ячэйку...

— Пачакай!!!

Яны пайшлі паўз бераг дахаты.

І калі ішлі разам, Марыля адчула, што прыліваецца ў яе сіла. Спагадлівыя вочы сяброўкі жывілі яе. Ёй стала брыдка за нядаўнія слёзы. Расла ўпэўненасць у сваёй волі, і захацелася тады Марылі прыйсці зараз жа дахаты, кінуць Жыраўскаму бялізну на галаву, крыкнуць: «На,

і мый сам!» Каб яму было балюча так, як ёй цяпер. І яна жыва апавядала Верцы, якія прыгоды наладзіць яна сёння Жыраўскаму.

Верка радавалася за былую Марылю.

Калі праходзілі пляцоўку, там фізкультурнікі беглі навыперадкі. Мітусіліся сінія плямы маек і белыя кропкі саколак на крузе. Дзяўчаты сталі ля месца фінішу. Адзін за другім прыбягалі, засопшыся, фізкультурнікі. Апошні, цяжка перавальваючыся, падбег Драздоў. Ён скоса паглядзеў на Марылю з Верай. Яму было крыўдна за сваю няўдачу, а да таго яшчэ ўспомніліся спрэчкі пра дзяўчат-камсамолак. І Марыля і Вера адчулі ягоны халодны погляд і скора пайшлі.

На вуліцы купы рабочых чыталі загады штаба па вытворчых манеўрах, расклееныя на плоце. Жыва абмяркоўвалі работу на зменах. Чытаючы загады, рабочыя былі асабліва рухавыя. Падыходзілі адзін да другога, спрачаліся, раіліся. Ад усіх ад іх павявала рахманасцю.

У галаве ў Марылі прабегла думка аб выперадках фізкультурнікаў, і ўваччу забегалі сінія аганькі маек. Стала балюча за сябе. Яна падышла бліжэй да Веркі, паклала ёй на плячо вольную ад бялізны руку і шчыра прагаварыла:

— А ён яшчэ не хоча пусціць мяне на фабрыку. Хто мяне стрымае?.. Пойдзем!..

І яна рашуча пайшла дарогаю...

Дома Вера застала Ваньку за газетай. Той сядзеў, і здавалася, прыліп да шэрых газетных слупкоў, так што плечы нават проста ўраслі ў паперу. Верка, узрадаваная спатканнем з Марыляю, гулка ўкацілася ў ціхі пакой, вырвала з рук газету і кінула на канапу. Ванька здзіўлена глядзеў на яе, шырока разявіўшы рот. А яна проста лётала па пакоі, бегала каля століка, трэсла яго за плечы.

— Што?.. — пытаўся Ванька.

— Марыльку ў камсамол вярнула...— сакатала, падскокваючы, Верка.

— А я думаў на бюро ячэйкі выклікаць...

— Бюро ячэйкі... Бюро ячэйкі...— дражніла Верка яго.— Не ведаеце вы дзяўчат... Не з гэтага трэба пачынаць... А цяпер можна і выклікаць, калі я пагаварыла...

Ванька яшчэ раз упэўніўся, што Верка яму найлепшы таварыш і што ўдваіх, у сям'і, многа лягчэй быць і ў грамадзе лепш. І ён забыўся на газету, што вісела з канапкі,

кінутая туды Веркаю, падскочыў, моцна прытуліў Верку да сябе.

— Верачка, ведаеш, цябе скора сакратаром замест мяне трэба выбіраць... Дадушы!..

Вера чула, што ён гаворыць шчыра. Была такая цеплата ў яго гаворцы, што выклікае пацалункі. І яны былі. Хацелася зрабіць адно аднаму што-небудзь добрае, раслі клопаты за другога. І Вера першая запытала:

— Ты абедаў?

— Не! Цябе чакаў...

— Вось дурань! А каб я не прыйшла... Абедаць неабавязкова хадзіць разам. Дарогу ж у сталоўку не забыўся. Але і я не абедала, пойдзем разам.

І яны выйшлі ўдваіх.

* * *

Назаўтра Ванька ўстаў раней звычайнага. Усю ноч ён варочаўся на ложку, не мог спакойна заснуць. Паўставаў заўтрашні адказны дзень у кузні. І калі ён, стаміўшыся, засынаў, яму мроіліся аднастайныя сны, мроіліся і варочалі, здавалася, мазгі. Вырастала шэрая майстэрня. Грукалі молаты. Гудзелі горны. Насупраць стаяў Ганушчанка і спрытна ладзіў ціскі. Ванька імкнуўся не адстаць. І калі яму здавалася, што вось-вось сівы Ганушчанка пераганіць яго, ён усхопліваўся раптоўна на ложку. Верка шмат разоў уначы супакойвала яго:

— Ды кінь ты! Гэта ж нядобра!.. Калі табе так сніцца, дык ты так, пэўна, і думаеш... Добра, што спаборніцтва, але навошта ж зайздрасць!..

Засынаў Ванька, але ўсё грукала майстэрня, і, прасынаючыся, хацелася аднаго: не паддацца!

Ускочыўшы рана з ложка, Ванька збегаў на рэчку пакупацца, каб падрыхтавацца сябе да работы. Зморанасць давала адчуваць сябе.

Ён ведаў, што губляць сілы на такія думы, якія хаваюць у сабе зайздрасць, не варта, і таму адганяў зусім думкі пра тое, што праз гадзіну трэба сустрэцца з Ганушчанкам.

Выйшаў прайсціся па алеях парку. Свежая раса блішчала на траве, узнімаўся белымі космамі туман ад рэчкі, нараджаўся дзень, і чулася Ваньку, быццам лісты на ліпах гавораць між сабою: «Жыць... жыць...» Быццам поўз не туман з рэчкі, а вырывалася белая пара з фабрычных кат-

лоў, быццам далёка ў лес бегла не шырокая рэчка, а каціласяз машын папера. І здавалася яму, што ахутае гэтая папера доўгімі стужкамі ўсю зямлю, а на гэтых стужках будзе надрукавана першая газета будучыні камуны. Плылі мары і губляліся далёка за лесам, праходзілі шырокія палі ў звонкім жыцце, гарады ў лясах рыштаванняў, акіяны з неспакойнымі хвалямі, і не было стрымання для мараў... Толькі калі мацней біўся пульс неўгамоннае фабрыкі і апераджаў усе гукі раніцы, Ванька ўспамінаў Ганушчанку.

У майстэрні Ганушчанку спаткаў спакойна. Быццам крыху ўрачыста прывітаўся. І пачаў паважна аглядаць сваю зброю: цяжкі молат, пацёршы па пятцы рукою, паклаў на кавадла, перагледзеў на сценцы ў скрынцы рашпілі. Па гудку пачалі працаваць. Моўчкі званілі малатамі, і пад імі выгіналася пруткае жалеза. Ванька крыху нерваваўся. Ён увесь аддаўся рабоце, нават не спускаў воч з кавадла, а стары Ганушчанка мерна грукаў па гарачым жалезе і часамі нават паджартоўваў, гулліва вызваньваючы паміж моцнымі ўдарамі малатком па пустым кавадле.

У розных кутках майстэрні шмат рабочых спаборнічала між сабой. Сабраліся дужацца сілы. Змагаліся старая, выпрабаваная Ганушчанкава сіла і маладая, задзёрыстая сіла Ванькі. І было чуваць, што ў гэтых разнастайных гуках, у гэтай напружанай рытміцы працы расце новая непераможная, яшчэ не бачаная сіла, ад якое ўздымаюцца паверх за паверхам. І здавалася тады, разыходзяцца шырока сцены майстэрні і падымаюцца ўгару з кожнаю хвілінай. І было радасна.

Пасля змены пачалі падлік. У розных баках майстэрні гудзелі галасы спаборнікаў — журы аглядала якасць. Ганушчанка перагнаў Ваньку на адны ціскі, ды да таго ж, аглядаючы Ванькаву работу, знайшлі, што шчака ў адных яго цісках недаваранaя.. Ганушчанка падышоў, усміхаючыся, да Ванькі, пакалаціў яго за руку:

— А што?.. Дармо, што даўно не рабіў! — і калі ўбачыў, што гэта вельмі хвалюе хлопца, па-бацькоўску пачаў супакойваць: — Глупства! Малады яшчэ. А і ты добры ваяка. Пажывеш — абгоніш!

Ванька ў душы не злаваўся на Ганушчанку. Было крыху крыўдна на сябе за адставанне, але стары станавіўся цяпер яму жывым прыкладам, як трэба ўсюды ўмець працаваць і быць заўсёды нястомным. Дзень спаборніцтва падабаўся яму, але было нуднавата адчуваць сваю адзіноту,

бо з моладзі ў майстэрні сягоння спаборнічаў ён адзін. Разгарачыўшыся, ён прапанаваў Ганушчанку:

— А вось давай мы маладой брыгадай на вас выйдзем!

Ганушчанка цёпла прыняў прапанову, пальцы яго жвава церабілі рэдзенькую бародку.

— Гэта-то добра! Але заўтра ж я іду на ролы. Ты з маладымі спаборнічай тут, а рольнае аддзяленне выкліча ўсю вашу майстэрню. Вось там паглядзім!

На двары спаткалі Стурыта. Той горача пра нешта гаварыў з дырэктарам. Відно было, што яго штосьці вельмі хвалявала, што ён некуды спяшаўся, бо бясконца пераступаў з нагі на нагу і біў абцасамі па бруку. Але калі Ванька і Ганушчанка параўняліся з ім, ён, умомант адарваўшыся ад гаворкі, з цікавасцю запытаў:

— Ну, хто?

Ванька адчуў сябе ніякавата, калі Ганушчанка сказаў, што ўсё-такі старыя перамаглі. Стурыт адразу перакінуўся на гэту гутарку, пачаў выказваць розныя планы наконт спаборніцтва. Ён некалькі разоў памінаў, што трэба заўтра сабрацца на нараду па гэтаму пытанню. Убачыўшы адчуванне ніякаватасці ў Ванькавых вачах, ён весела жартаваў:

— Нічога, Крук! Ты хлопец геройскі. Возьмеш! Вы ж наша змена. А, дарэчы, калі ваша экскурсія ў саўгас?

— Ды хутка. Думалі сягоння, але адклалі,— адказаў Ванька.

— Скажаце мне!..

Потым Стурыт перадаў, што скора на фабрыцы будзе працэс над зладзеямі. Фабрычных нягоднікаў будуць судзіць тут, каб бачылі ўсе рабочыя.

Стурыт ужо колькі разоў даводзіў пра гэта Ганушчанку:

— А што? Знайшлі, Андрэй, знайшлі!..

І, можа, таму, што прычуліся Ганушчанку гэтыя словы, ён спакойна адказаў:

— А хіба я не знаю!

Прыйшоўшы дахаты, Ванька скардзіўся Веры на сваю няўдачу. Тае не кранула гэта. Яна сядзела спакойна на канапе і нешта кроіла з крамніны на каленях. Проста і перакапальна яна гаварыла:

— Было спаць ноч!

— А што ты думаеш?..— адказаў Ванька.— Можа б, я і больш зрабіў?

* * *

Зашумелі бурныя дні над пасёлкам. Вытворчыя манеўры прывялі фабрыку ў баявы парадак. Крывая прамфінплана пачала расці, і паказальнік выкананых працэнтаў, пабудаваны накшталт гадзінніка, што вісеў знадворку клуба, чорнымі вусамі ўзнімаўся ўгару. Хадзілі, успаміналі старое і клялі злачынцаў.

Чуткі пра хуткі працэс абляцелі ўсіх. Чакалі, каб пабачыць і вылаяць іх у вочы. А за Муляўкам проста наладзіўся грамадскі нагляд. Кожны дзень хадзілі ў бальніцу. Каго там ні было!.. Нават піянеры вылучылі дэлегацыю адведаць старога і потым былі вельмі нездаволены, калі дапусцілі з іх у палату да хворага толькі аднаго. Казалі, што ён правіцца, адчувае сябе добра, ды толькі шкадуе нагі. Але часам ён нават жартаваў...

— Каб не мая нага,— казаў ён,— дык, можа, і цяпер хадзілі б зладзеі на волі.

Камсамольцы першае змены збіраліся на экскурсію на фізкультурнай пляцоўцы. Сыходзіліся купамі і паасобку. Многа з тых, што прыйшлі раней, ужо забаўляліся. Бегалі па крузе, кідалі металёвыя дыскі, ганялі над галовамі мяч.

Каля пятай гадзіны сабраліся. Для парадку пастроіліся шарэнгамі і пайшлі за мястэчка. Да саўгаса Беразоўка, куды ішлі камсамольцы, пяць кіламетраў. Прайсці пяць кіламетраў у адвячорак, калі сонца ўжо спускаецца на захад і толькі лагодна шчупае праменнямі кашулі, а не паліць, не так ужо цяжка. Разлічвалі так, што на хадзьбу трэба аддаць гадзіну, на агляд тры, а тады, калі ўжо сцямнее, наладзіць з саўгаскімі камсамольцамі вечарыну. Можа, таму і крыху спяшаліся. Але калі выйшлі на поле, дык шарэнгі разбіліся на асобныя купы, з аднае песні, што была ў радах, нарадзілася многа песень, якія несліся ад кожнае з груп і потым блыталіся разам. І чулася ў гэтых песнях непадробнае хараство жыцця.

Хораша было на полі. Хінулася долу спелае жыта. Млела потная трава, і звінела сухое паветра над дарогай. Страчаліся вялікімі чародамі жнеі. Яны, не разгінаючыся, ступалі і ступалі ўперад, заграбаючы вялікія пукі жыта, пасоўвалі жоўтую сцяну наперад. Часамі званілі касцы на мурагах. Калі падыходзілі да саўгаса, стрэлі жняяркі. Яны хутчэй гналі сцяну дымнага жыта, чым некалькі чародаў

жанчын. І было адразу відно, чаму сумесная работа з машынай шмат спрытней і вальней.

Рабочаму, што сядзеў і кіраваў адною жняяркаю, сыпалі камсамольцы пытанні:

— Ці хутка жне, дзядзька?

— Калі пачаў?

Ён не мог пачуць усяго, пра што пыталіся. Пачуў толькі— якая машына? І, крыху адвярнуўшыся ў бок падарожнікаў, крыкнуў, каб тыя пачулі:

— Мак-Кормік!..

— Мацъ корміць!..

— Мацъ корміць!..— пранеслася жартаўлівае па гурме.

— Сапраўды, яна можа накарміць многа!..

Верка дарогаю спрачалася з Драздовым. Той настойваў на сваім:

— А вось скажы, чаму ж Марыля не пайшла сягоння? Бачыш, ты гаворыш, варочаецца да нас, а не пайшла.

— Можа, ты хочаш, каб яна з табой і навыперадкі бегала? — спрачалася Вера.— Няма часу, дык і не пайшла.

Драздоў падумаў, што Верка хоча яго абразіць за тое, што ён адстаў на пляцоўцы ў выперадках, і таму яшчэ больш гарачыўся.

— Знаю вас... Добра знаю!..— даводзіў ён.— Усе толькі, пакуль замуж, і камсамоліце.

Каля Драздова сабралася многа дзяўчат. Даведаўшыся пра яго гаворку, яны не давалі яму праходу. Кпілі з яго, што ён непаваротлівы, другія даводзілі, што яго тэорыя ўся таму, што яму не пашанцавала ў каханні. Гэта зусім вывела з раўнавагі Драздова, і ён, сплюнуўшы, адышоў убок і пайшоў адзін, нахмураны, ні з кім не размаўляючы.

У саўгасе іх спаткаў старэйшы рабочы Зенберг — латыш. Ён пажартаваў, што добра было б паслаць усіх экскурсантаў вазіць снапы. Але калі раптам пачалі насядаць на яго маладыя галасы, што яны гэтаму вельмі рады, ён пачаў аднеквацца, што самі справяцца, ды і не будзе на чым вазіць такому вэрхалу. Пайшлі аглядаць саўгас.

Гэта быў былы маёнтак. Стаяў ён у вельмі прыгожай мясціне. Самую сялібу агінала з трох бакоў крутлявая рэчка, за рэчкаю звінелі мурагі, за мурагамі сінеў лес. Узвышаўся белы двухпавярховы панскі палац з балконам. У палацы цяпер жылі рабочыя, а ў вялікай зале быў клуб і маленькая прымітыўная сцэна з заслонаю з шэрых коўдраў. Недалёка ад палаца былі яшчэ тры жыллёвыя драўляныя

дамы, адзін з іх яшчэ зусім новы жаўцеў воскам на сонцы. На дзядзінцы — кругі з кветкамі. Паводдаль жыллёвых будынкаў стаялі аборы і свінарнікі, кругом агароджаныя вялікім частаколам. На гумне прыгіналіся пагорбленыя клуні, а каля тока тырчала чорная труба лакамабіля. За рэчкаю спеў вялікі малады сад.

Спачатку знаёміліся знадворку. Абыходзілі кругом. Камсамольцы былі не толькі пасіўныя наглядальнікі, але і паміж добрага шукалі дрэннае, каб не паказаць, што яны ўжо зусім нічога не разумеюць у гаспадарцы.

Праходзячы каля хат, хто-небудзь з іх заўважаў, што нядобра, калі смецце валяецца каля якога ганка; аглядаючы сад, яны шкадавалі маладых дрэўцаў, паабглыданых зайцамі, з запушчанымі сухімі сукамі, пры гэтым нездаволена зазначалі:

— Садоўніка ў вас няма, ці што?

Вельмі захапіў усіх свінарнік. Там па цесных каморках ляжалі белыя тоўстыя іаркшырскія свінні. Самаздаволена хрукалі, круцячыся каля сцен. Каля некаторых склыгаталі цэлыя гурмы беленькіх малых парасят, соўгалі маленькімі лычамі, прасілі есці. Тоўстая маці з павагаю клалася на бок і спакойна хрукала, а малыя яшчэ больш ажыўлена, пераскакваючы адно праз другое, шкуматалі мяккі жывот мацеры. Зенберг ганарыўся свінячаю гаспадаркай. Казаў, што ў гэтым годзе саўгас перавыканае заданне па мясу. Ён пяшчотна глядзеў на каморкі, дзе хрукалі свінні, і амаль кожную зваў па імені.

Калі абышлі гумно, каля пярэплата на траве селі адпачыць. Пачалася гутарка. Камсамольцы не давалі спакою Зенбергу:

— А як жывуць рабочыя?

— Як зарабляюць?

— Ці вылічаецца за паёк?

І на ўсё спакойна той адказваў, што плата за работу налічваецца рабочым грашыма, а за паёк бярэцца па пэўнай таксе. Апавядаў пра тое, як жылі рабочыя раней пры пане. Ён сам тады быў за каваля.

— Уставалі некалі рана. Асабліва ўлетку. Чуць золак. І так без спачыну ажно да вечара. А вечарам часта збіраліся на дзядзінец да пана. Ён вельмі вялікі жартаўнік быў. Збярэ, бывала, людзі проста стаяць не могуць: так морыць сон, а пан загадае «мядзведзя» скакаць. Гэта такія цяжкія скокі: становяцца мужчына і жанчына адно да другога, сагнуўшыся, выпростваюць рукі, бяруцца імі і тады

круцяцца, пакуль не зваляцца. Пан — стары халасцяк — рагоча з балкона. Тым, хто найбольш вызначыцца спрытам, дае па цукерцы, а то і кубак гарэлкі. Потым, калі пацешыцца, гоніць вон.

Кватэры былі сырыя. Хварэлі дзеці. Галадалі. Вы бачылі, як цяпер? Яшчэ не зусім добра. Але што раней было...

Зенберг доўга гаварыў, уздыхаючы. Моўчкі слухалі ўсе. Некаторыя думкамі пераносіліся ў мінулае, і расло абурэнне, падкатваючыся пад горла. Камсамолец Бурак пісаў нешта ў кніжку. Калі яго пыталі, ён гаварыў, што напіша нарыс, і ўсе [redacted] павагаю паглядалі на яго, бо нездарма ён сам гаварыў часта:

— Я пісьменнікам буду!

Некаторыя кпілі [redacted] яго, але ўсё ж верылі, бо вельмі сур'ёзна ён браўся за справу. Па гумне праязджалі вазы з нагружанымі снапамі жыта. На некаторых ехалі саўгасныя камсамольцы. Яны звонка здароўкаліся, махаючы шапкамі, і абяцалі, што пасля работы зараз жа прыйдуць, а фабрычныя хлопцы зазыўна, дружна заклікалі да сябе.

Ванька шаптаў Веры, каб яна арганізавала сягоння на вечарыну больш саўгасных дзяўчат.

— Табе зручней...— казаў ён.— А нам трэба завязаць дружбу.

Тая не пярэчыла.

Вечарам, калі сонца пачало хавацца за саўгаснаю адрынай, пачалі збірацца саўгасныя камсамольцы. Зазвалі фабрычных пайсці павячэраць. А потым, казалі, парашым, куды ісці.

— На малатарню!.. На малатарню!..— крычаў Драздоў, калі камсамольцы сабраліся ў клубе пасля вячэры.— Няма чаго па рэчках ездзіць!

Было дзве прапановы: адна — паехаць па рэчцы на круты бераг лесу і там пры агнях правесці сход, другая — пайсці на малатарню, пасабіць працаваць, потым параіцца, ідучы дарогаю.

— Хоць дзве гадзіны папрацуем!..— не сунімаўся Драздоў.

Большасць фабрычных хлапцоў хілілася да прапановы Драздова, толькі саўгасныя маўчалі, бо ім не хацелася ўпрагаць гасцей у работу. Але калі Ванька Крук унёс прапанову, каб папрацаваць дзве гадзіны, а потым адпачыць гадзіну на гумне і крануцца ў дарогу, ніхто не запярэчыў. Усе жвава заварушыліся і пайшлі да выхаду. Па двары

ўжо разносіўся тэтар з гумна. Сакратар камсамольскай ячэйкі з саўгаса Карпека гаварыў, што яны ўслед і малоцяць пасля звозу, бо снапы цяпер сухія.

Змрочылася. Паўзла цемень і атуляла вялікімі лахманамі сялібу. І гэтую цемень, як два ваўчыных вокі, праціналі агні лакамабіля. Ён грукаў і так пыхцеў, быццам гэта білася стасільнае сэрца. Прарэзліва гудзеў барабан, грызучы кулі саломы.

На малатарні хутка раскінулі сілы. Палова пайшла падносіць снапы, палова адносіла салому. Пажаваная салома выскоквала цэлымі горамі з-пад малатарні, і камсамольцы, жвава заграбаючы яе, аберуч насілі ў другі канец тока. Там частка складалася ў торп. Падаваць снапы арганізавалі канвеер. Сталі радочкам ад машыны ажно да канца, дзе ляжала жыта, і па два снапы шпургалі з рук на рукі. У барабан падаваў стары рабочы. Ён спрытна разразаў пачапку на снапах і роўна пучкамі слаў жыта па століку, запраўляючы ў барабан. Калі большыя пукі саломы пападаліся ў барабан, барабан злаваўся, грымеў сталёвымі зубамі і калаціў рамы. Наогул малатарня нагадвала сабой жывога ненасытнага вялікага звера.

Адвозілі мяшкі ў свіран. Калі жыта насыпалася ў іх з жалабкоў каля малатарні, мяшкі зараз жа клалі на воз. Праз кожныя пяць — дзесяць хвілін ад'язджала падвода.

Камсамольцы так захапіліся, што і не заўважылі б, можа, што канчаецца час умоўленае працы, каб не адзін выпадак. Драздоў працаваў вельмі шчыра. Ён, падаючы снапы, так захапіўся падачаю ў барабан, што не спушчаў воч з падавальшчыка. Потым стаў назаляць, каб той дазволіў яму паспрабаваць. Рабочы не пагаджаўся, але калі Драздоў зманіў, кажучы, што ён працаваў на малатарні і ведае, як гэта рабіць, той на хвіліну адышоў і даў яму месца. Хлопцы не пярэчылі. Колькі часу ішло ўсё добра: Драздоў з адчуваннем майстра запраўляў снапы ў барабан, праз хвіліну ён ужо стаў выхваляцца, азіраючыся па баках, як у гэты час моцна пацягнула яго за рукаў. Ён, перапалохаўшыся, ірвануў руку і выняў яе з адрэзаным кавалкам далоні. Кроў пабегла на салому... Рабочы скочыў на сваё месца, каб не было пустога ходу машыны. Да Драздова падбегла некалькі хлопцаў. Калі саўгасныя рабочыя зноў занялі свае месцы і работа пайшла без перабою, сабраліся ўсе. Драздоў не адчайваўся, а нават жартаваў:

— Руку папсула!.. Во гадзіна!

Акружылі яго вянком дзяўчаты. Некаторыя выцягнулі

бінт і пачалі ўкручваць руку. Курсы санітарак дапамаглі. Парана была невялікая. На шчасце, ён недалёка запусціў руку. Але ўсё ж кавалачак мякаці з далоні быў вырваны.

— Абы пальцы цэлы!..— сцішаў расхваляваных дзяўчат Драздоў.

І тады, можа, ён першы раз адчуў сябе аніякавата. Яму было сорамна за свае ранейшыя словы пра дзяўчат. Ён бачыў, колькі ў іх энергіі і непадкупнае шчырасці. Ён глядзеў з удзячнасцю на іх, але маўчаў... Яшчэ больш адчуў прыхільнасць, калі тыя стрымоўвалі выпадковыя кпіны хлапцоў. Хлопцы часамі бурчалі:

— Во майстар знайшоўся...

Але адно: «Як вам не сорамна!..» — стрымлівала іх.

Так скончыліся дзве ўдарныя гадзіны на малатарні.

Выйшлі на двор. Месяц, як паламаная паабапал падкова, вісеў над стадолаю. Несла сырасцю з палёў. На мурагах за клуняю званілі званочкамі коні.

Ванька Крук унёс прапанову рушыць дахаты, бо было ўжо каля адзінаццаці гадзін, а заўтра шмат каму трэба было ўставаць на змену. Пагадзіліся на гэтым. Саўгасная моладзь выклікалася праводзіць.

Дарогаю развважалі пра работу на малатарні. Кожны імкнуўся давесці, што ён быў незамянімы, і было прыемна, што расло ва ўсіх імкненне да працы. Проста нечакана вынікла думка пра спаборніцтва. І тут жа дарогаю па памяці складалі ўмову, радаваліся, што гэта вельмі арыгінальна.

— Мы ліквідуем прарыў у гэты месяц...— абяцалі фабрычныя.

— А мы змалоцім і падрыхтуем сеяць...— адказвалі саўгаснікі.

Так кіламетр за саўгасам развіталіся. Абяцалі прыслаць падпісаныя ўмовы.

Ішлі дахаты хутчэй. Дарогаю спявалі песні і, каб весялей было, апавядалі розныя прыгоды. Глыбокая ноч, што ключамі, званіла срэбнымі зорамі. Дужэлі плечы ад работы за дзень. Драздоў ішоў пад клапатлівым доглядам дзяўчат. Ішоў, і ў душы яму было крыўдна на сябе, што быў другое думкі раней, успамінаў Марылю.

Ванька і Вера зусім згубіліся ў натоўпе. Ішлі паасобку і былі заняты кожны сваім. Ванька ўмаўляўся дарогаю пра камсамольскую брыгаду ў майстэрні, падлічаў і праектаваў, як яны павінны абагнаць старых рабочых, і ўвесь

захапляўся гэтым, а Вера ў другім коле, дзе было больш дзяўчат, раілася, як вусім прыцягнуць назад Марылю.

Шмат было гутарак пра вучобу. Набліжалася восень, і многа хто хваліўся, куды ён паедзе, і складаў перспектывы на будучыню.

— Я ў Маскву ў горны...

— А я ў рабфак да Мінска...

— А я ў Ленінград...

Кожны жыў сваімі думамі, і разам з тым гэтыя думы былі не толькі сваімі, былі агульнымі.

Непрыкметна прыйшлі на фабрыку. Ванька так захапіўся брыгадай, што не ведаў, куды дзелася Вера. І калі ён пачаў яе клікаць, усюды рагаталі:

— Жонку згубіў!!!

Добра свяціў вятох, абліваючы срэбрам вокны, калі Ванька спускаў на вокны фіранкі.

* * *

Мігуцкі ішоў, спусціўшы галаву, толькі Курачкін і Архіпаў здаваліся спакойнымі, як і раней. Паабапал іх быў канвой. За арыштаванымі з бакоў і ззаду беглі натоўпы дзяцей. Іх цікавіла больш не справа, а самы працэс вартавання арыштаваных. Яны больш глядзелі на чырвонаармейцаў, чым на арыштаваных, і, відаць, моцна зайздросцілі, чаму яны не могуць насіць цяпер шыняля, высокага шлема і вострае шаблі. Асабліва захапляў наган. І каб тады прыслухаўся хто да іх гаворкі, дык пачуў бы, што большасць з іх жадае быць чырвонаармейцамі.

...У клубе панавала нейкая асаблівая строгасць. Сцены здаваліся цямнейшымі, была пільная цішыня, а сцэна быццам сунулася на залу.

Пачаўся працэс. За чырвоным столікам сядзелі суддзі: два прыезджых і трое рабочых з фабрыкі. Адзін з іх, Ганушчанка, увесь час сядзеў нерухома, проста не спускаючы вачэй з падсудных. На адным баку сцэны ўмасціўся дзяржаўны абвінаваўца, на другім — абаронцы. Падсудныя сядзелі ўнізе, і паабапал іх стаялі чырвонаармейцы. Курачкін круціўся на зэдліку і перабіраў сухімі пальцамі. Відно было, што яго нешта непакоіць.

Чытаўся абвінаваўчы акт. Многа гаварылася пра тое, адкуль карэнні гэтага злачынства. Калі чыталі біяграфіі шкоднікаў, па зале панёсся шум.

— Дык ён і не Курачкін, і гэты не Архіпаў! Во нячыстая сіла!

Калі падлічылі, колькі нарабілі злачынцы шкоды, усе проста жахнуліся. Дзівіліся, дзе яны маглі падзець гэтулькі грошай.

У гэты дзень толькі і паспелі скончыць абвінаваўчы акт.

Ванька вельмі здзівіўся і адначасна ўзрадаваўся, калі вечарам да яго ў хату прыйшоў кульгавы Ігнась з калгаса. А той, не спяшаючыся, распрануўся, сеў на крэсла каля століка і пачаў гаворку:

— Прачытаў я газету... Далжон я вам сказаць. Віжу — суд. Во і прыехаў сюды, штоб адшукаць, хто адрыну спаліў. Мігуцкі відзь тут... А старых ужо няма. Яны далёка...

Ванька бегаў каля Ігнася, клапаціўся пра яго, як пра дзіця, падстаўляў яду, а сам усё пытаў, як у калгасе. І Ігнась спакойна, павольна вымаўляючы словы, цягнуў сваю апавядань:

— Мігуцкага і Прытыкі няма... Далжон я вам сказаць. Правялі мы іх... Зямлю самі ўзялі. А ў кватэры ў Прытыкавай я... Далжон вам сказаць,— і тыркаў сабе пальцам у грудзі.— Аўтухова, старшыні, няма. Скруцілі. Цяпер ён на адседках... А ў сельсавеце наш Аўдзей. Ну што яшчэ сказаць... Далжон я вам сказаць, жыта звязлі... Пааралі папар. Да...— нібы раптоўна ўспомніўшы, сказаў ён,— адрыну зноў вазводзім...

І па тым, як шырока прабегла па Ігнасёвым твары цёплая ўсмешка, было відаць, што ён рады за жыццё.

Ігнасю доўга не давалі спакою. Верка насядала, ці працуе там гурток кройкі і шыцця, і чалавек толькі спраўляўся адказваць.

— Да канечне... І мая, далжон я вам сказаць, там працуе. Вось і паглядзі,— і ён паказаў на новую чорную паркалёвую кашулю,— яна ўжо змайстравала, далжон я вам сказаць... Да-да! — і ён вінавата паглядзеў на Веру.— Даў я пытлю ёй, далжон я вам сказаць! — і ён апавядаў, што па ад'ездзе брыгады з калгаса Анухрэева Аўгіння ўзняла цэлы гармідар.

— Сустрэліся мы з Анухрэем, а той гаворыць, што мая нагаварыла... во тут я і даў перакатку, далжон я вам сказаць.

Вера ўпікала, што гэта дарэмна, што не варта было крыўдзіць жанчыну. Яна ўсхвалявана даводзіла Ігнасю,

што гэта само пройдзе, калі жанчыны ў калгасе больш пабачаць свету.

Позна леглі спаць. А назаўтра ўсе сядзелі на судзе — Ванька з Вераю былі выхадныя,— пачаўся допыт абвінавачаных.

Першым адказваў кіраўнік зладзейскае групы на фабрыцы — Курачкін. Ён не мог стаяць спакойна на месцы, перамінался з нагі на нагу. Рукі яго не ведалі спачыну, яны то прыкладаліся да грудзей, то бязвольна віселі па баках. Вочы ўтарапіліся ў падлогу.

Курачкін прызнаўся, што ён кіраваў, і апавядаў, як адбылося яго прызначэнне на гэтую фабрыку. Здавалася, што ён шчыра прызнаецца перад сотнямі людзей у зале, але ж даводзіў, што сам непасрэдна нічога не рабіў. Ён быў такі брыдкі, такі бездапаможны, што проста хацелася ўзяць яго за каўнер і кінуць з кручы ў рэчку. Калі ён настойваў на сваёй невінаватасці, Ганушчанка з прэзідыума перабіў яго:

— А што вы нас усіх абакралі, дзяржаву абакралі — гэта жартачкі?!.

Курачкін маўчаў, разгубіўшыся, не ведаючы, што адказаць, але пад націскам суда прызнаўся, што мала таго, што крадзеным жылі самі, пасылалі грошы яшчэ таму-сяму са сваіх сяброў.

Так адзін за другім праходзілі абвінавачаныя. Калі гаварыў Мігуцкі, Ігнась не мог уседзець на месцы, некалькі разоў імкнуўся запытацца і зноў садзіўся, а нарэшце не вытрымаў:

— А адрыну хто спаліў, далжон я вам сказаць?

Мігуцкі закалаціўся. Спачатку ў яго прабегла думка стаіць, потым захацелася перакласці на аднаго бацьку, але, убачыўшы, як грозна то падымаецца, то апускаецца Ігнасёва кавяла, прызнаўся:

— Я з бацькам і Прытыкам...

Ігнась не мог уседзець на месцы ад злосці. А тут яшчэ ён пачуў, што па Мігуцкага віне страціў нагу стары Муляўка. Ён парываўся да Ванькі:

— Пусціце... Я яго сам прыкакошу, далжон я вам сказаць... Як ерманца...

Ванька ледзь супакоіў Ігнася. Той сеў, але было відаць, як дрыжаць у нервовасці ягоныя рукі. Калі Ігнась супакоіўся, Ванька даводзіў, што германца ён некалі дарэмна біў такога, як сам, працоўнага чалавека, а гэтага варта, але і суд яму не даруе.

— От, далажу я вам, гад пякельны...— злаваўся Ігнась.

У Волькі Панушкінай, што сядзела наперадзе, пасля допыту Косці былое каханне змянілася на нянавісць. Яна не магла глядзець на яго тоўсты, крыху аблеклы твар і адводзіла вочы.

Было злосна на Мігуцкага, а ў душы рос дакор і на сябе за сваю слепату.

«...Любіла злодзея...» — дакарала сябе.

Яна не вытрымала і выйшла з залы.

У апошнім слове абвінавачаныя прасілі літасці. Асабліва Мігуцкі. Ён спасылаўся і на маладосць, і на каханне. Кляўся, што па смерць будзе добрасумленна працаваць.

На трэці дзень чыталі прысуд. Сотні воч праціналі суддзяў, надзвычайна напружаная была зала.

Суд вызначыў кожнаму належную меру пакарання. Усе дружна і доўга пляскалі далонямі.

Злачынцаў павялі на станцыю, а за іх спіною чуліся нястомныя лакамабілі фабрыкі і гудзелі маторы, каля якіх працавалі рабочыя. Зноў беглі дзеці. Яны цяпер уяўлялі з сябе ўжо суддзяў.

* * *

Аднаго дня выклікалі на бюро парткалектыву Крука. Той думаў, што выклік звычайны, бо ён — сакратар камсамольскай ячэйкі. А выйшла не так, як заўсёды. Калі ён прыйшоў, Стурыт, скончыўшы адно пытанне, сказаў:

— А цяпер пагаворым, каго нам вылучыць у агітпропы парткалектыву. Івінчык паехаў у камвуз. Я думаю так, што самы раз будзе — Ванька Крук. Ён хлопец здольны і развіты. Доўга сакратарстваваў у камсамоле. Ды і член партыі не малады.

Для Ванькі гэта было нечакана. Ён зачырванеўся ад хвалявання. Было радасна ад прызначэння, але было шкада пакідаць камсамольцаў. Ён імкнуўся нешта пярэчыць, сабраўся ўжо гаварыць, як астатнія члены бюро пачалі падаваць рэплікі:

— Акурат будзе!

— Што чырванееш, як дзеўчына!

Тады Ванька ўжо клапаціўся пра намесніка. Ён ставіў сур'ёзна пытанне, каго паставіць у ячэйку. Стурыт яго папярэдзіў:

— Ты думаеш, мы не раіліся? Мы так сабе сядзім?

— Драздова паставім. Ён хлопец актыўны.

Ванька ўспомніў погляды Драздова на дзяўчат, яго адносіны да іх і пачаў адводзіць яго кандыдатуру. Стурыт усміхнуўся, сказаў пасля:

— Зноў ты адстаў. Сягоння Драздоў быў у мяне і прызнаўся ў гэтым сам. Прыходзіла з ім і Марыля. Памыляўся, але хлопец-бой! А ты ж сам у іхнім бюро застанешся.

Ванька пагадзіўся. Пасля пасяджэння ён, проста падскокваючы, пабег дахаты. Па дарозе яго спынілі камсамольцы. Крук, каб не хваліцца, пачынаў так:

— Было пасяджэнне парткалектыву. Знаеш, мяне на партработу бяруць...

— А хто ў нас будзе? — пыталіся тыя.

— Мусіць, Драздоў...— адказваў ён і зноў бег далей.

Так Ванька спыняўся, каб пагутарыць з сябрамі, многа разоў. Было радасна, што партыя даручае яму адказную справу. Хацелася хутчэй перадаць навіну Верцы. І калі ён увайшоў у пакой і не знайшоў Веркі дома, яго пачала грызці нецярплівасць. Ён некалькі разоў паглядаў у акно, чакаючы, ці не ідзе яна, нават выходзіў на вуліцу. А ў галаве ўжо складаліся планы, як ён возьмецца за новую работу. Ён падзяліў ужо ячэйку на групы, падбіраў для іх літаратуру, даваў кансультацыі і сам кіраваў занядкамі.

«Трэба мне літаратуры больш выпісаць...» — разважаў ён.

Калі ўвайшла ў хату Верка, Ванька яшчэ з зусім юнацкім запалам закруціў яе па хаце, потым пачаў таропка перадаваць пра свае навіны.

Верка слухала і радавалася за яго. Яна гладзіла яго жорсткія валасы і сама хацела таксама многа расказаць яму.

— Знаеш, Ванька,— гаварыла яна,— гэта вельмі добра. Але помні пра вучобу. Нам трэба быць сапраўды культурнымі. Думай, што трэба будзе і вучыцца паехаць.

— Так... Так... Верачка. Паеду... Абавязкова паеду... Толькі папрацую хараша... Тут так многа работы. І я тут патрэбен яшчэ. Бачыш, партыя гэта таксама ведае...

— Ванька,— гаварыла ўсхваляваная Верка,— я падаю заяву ў партыю. Як ты думаеш? — І яна чакала адказу ў жывых вачах Ванькі.

— Правільна... Правільна... Я пра гэта даўно думаў. Ты можаш быць у партыі, Вера...

Яны чулі, як аднолькава ў іх б'юцца сэрцы. Яны ад-

чувалі, што нават думкі іхнія плывуць аднолькава, і было радасна. Святлеў пакой, а з паліцы, здавалася, кніжкі звалі іх да сябе. Быў такі настрой, калі хацелася многа думаць, мала гаварыць і чуць аднаму другога.

Верка думала пра партыю. Яна ўспомніла сівога Ганушчанку, і здавалася ёй, што яна стаіць перад ім і просіць рэкамендацыі. Нават перад вачыма ў яе ўжо ляжала анкета, а ў спісе рэкамендацый — Ганушчанкавы крупчасты подпіс: «Ганушчанка Андрэй, член партыі з 1912 года, білет №...».

Калі Ванька пяшчотна прытуліўся, яна быццам раптоўна ўспомніла і адкрыла яму сваю таямнічасць:

— А знаеш, Ванька... у мяне ўжо...— і зачырванелася.

Доўга цалаваў Верчыны валасы Ванька. Ён радаваўся, што нараджаецца новае жыццё...

* * *

Фабрыка паходзіла на ўзрушаны лагер. Па ўсіх кутках чорнага двара капорхаліся людзі. Звінелі лапаты, грукалі па бруку нагружаныя тачанкі, звякала жаляззё. А ўсярэдзіне стаялі, як мёртвыя, машыны, і па іхніх нежывых рэбрах лазілі рабочыя, перацiралі суставы.

Гэта быў дзень паходу за чыстату. Машына любіць, каб яе шанавалі, тады яна не нервуецца і працуе роўна.

Стурыт бегаў з лапатаю па двары. Падыходзіў да групы рабочых, пасабляў ім. Ён увесь час даводзіў:

— Нам трэба даць ход. Ды каб і знадворку было не сорамна паглядзець. А то маглі б на брудзе і ў рэчку ўсёю фабрыкаю сплыць...

Рабочыя моўчкі прыбіралі лом, грузілі на тачанкі, скрэблі рыдлёўкамі двор. Стурыту спакойна каторы-небудзь адказваў:

— Не клапаціцеся! А мы навошта? Як люстэрка будзе!

Ванька падмятаў на двары. Пасля прыбранага лому трэба было адсоўваць смецце ў бакі. Ён так спрытна завіхаўся мятлой, захапіўшыся чысткай, што нават Драздоў, што збіраў ламачча побач, жартаваў:

— Табе на фабрыцы і няма чаго рабіць. Ты ж першы дворнік! Ідзі вуліцы месці!

Ванька прапушчаў гэтыя жарты, а сам яшчэ больш разганяў мятлой, як касой, наўкруг сябе. І здавалася яму, што ён разам са смеццем гоніць і злачынцаў з фабрыкі. Быццам у смецці ляжалі і боўталіся Мігуцкі, Ку-

рачкін і Архіпаў. Запамятаваўшы, калі прабягала па двары «кукушка», ён кінуў крыху смецця на рэйкі. Уваччу здавалася, што там ляжаў Мігуцкі...

Стурыт крыкнуў на яго ззаду:

— Што ты робіш?

Ён, уздрыгануўшыся, апамятаўся:

— Неяк вырвалася!

Да Стурыта падбег ажыўлены Абуховіч. Ён грукаў ад нецярплівасці лапатаю па доле і ўсхвалявана апавядаў:

— Дабіліся свайго, Стурыт! Гукава знялі са станцыі. Учора прыслалі новага, свайго, камуніста. От чорт, не будзе больш пустых вагонаў ганяць!

Абуховіч перадаваў, што ён быў у камісіі, калі правяралі справы.

— Чаго толькі там не знайшлі! — гаварыў ён.— А галоўнае, што мог кожны дзень адвозіць нашу паперу. Ён жа і зрываў нам усё.

Абуховіч пачаў зграбаць смецце каля Стурыта і бясконца апавядаў пра станцыю.

— Добра, калі за сваю справу хварэеш! — супакойваў расхваляванага Абуховіча Стурыт.

У рольным аддзяленні ішла капітальная чыстка. Тут працавалі паккамерніцы.

Каля кожнага рола проста вянкамі віліся дзяўчаты. Чысцілі, шаравалі яго. А Ганушчанка залазіў сам усярэдзіну, аглядаў вентылі. І калі ён выпростваўся і па грудзі тырчаў з рола, ствараўся малюнак карагода. Быццам Ганушчанка быў у карагодзе маладым хлопцам, а вакол яго звінелі галасамі дзяўчаты. Ён нават у час работы раз пажартаваў. Стоячы ў роле, сцягнуў набок шапку, узяўся рукамі ў бокі і, прыстукваючы нагамі, заспяваў карагодную песню:

Каго любіш, пацалуй!.. Каго любіш, пацалуй!..

Пранёсся здаровы смех па ўсім аддзяленні. Нечаканы жарт Ганушчанкі ўзбадзёрыў дзяўчат, і яны, каб дагадзіць старому, пачалі:

Ой, люлі, пацалуй!..

— Ціш-ша вы! — супакойваў Ганушчанка.— А то і сапраўды падумаюць, што мы тут карагоды водзім.

Але песні не стрымаць. Пачалася толькі новая. І яна звінела вакол. Галасы пралятаді праз ролы, мацнелі там і біліся ў шыбы. Дзяўчаты шаравалі забруджаныя, чор-

ныя бакі ролаў і спявалі. Нездарма кажуць, што з песняю лягчэй. Ганушчанка быў ужо не рад, што пачаў.

Ён пералазіў, аглядаючыся, з рола ў рол. У адным ён доўга капорхаўся і нездаволена мармытаў:

— Збіў жа, мядзведзь, галоўку ў вентылі. Напэўна, грукаў ломам. Толькі пазаўчора адрамантавалі.— Ён злаваўся на майстра Зарубу, якога ўвесь час прыкмячаў у нядбайнасці.

Вера працавала тут. Яны стаялі на адным роле з Марыляю. У часе работы гаварылі паміж сабою.

— Ну, я цяпер вольная!..— хвалілася Марыля.— Учора як прабралі Жыраўскага на ячэйцы, дык сягоння цішэй вады. Што хочаш, тое і рабі. Нават сам гаварыў мне, чаму гэта я на ячэйку не хаджу.

Верка радавалася за сяброўку. Умаўлялася з ёю вечарамісці на гурток, а сама і ў часе гутаркі ўсё не спускала воч з Ганушчанкі. Пільнавала яго. І як ніколі ёй хацелася з ім пагаварыць. Яна чакала толькі добрага моманту. І калі падышоў да іхняга рола Ганушчанка, яна ўвесь час жартавала з ім. Неяк адразу не магла пачаць. Ёй здавалася, што тут ён не будзе гаварыць сур'ёзна. Доўга важылася, ці гаварыць, і нарэшце пачала.

Яна чырванела ад таго, што не магла вымавіць некалькіх слоў, якія сціскалі ёй горла.

— Дзядзька Андрэй!.. Ці можна...

Той жартаўліва перабіў:

— Га! Замуж за мяне захацела! Позна ўжо!

— Ах, які вы нягодны!..— быццам і сапраўды злавалася Вера.

Тады Ганушчанка ўвесь стаў увагаю:

— А што ж, дачушка?

— Ды я не хачу вам цяпер гаварыць!..

— Ну скажы!..— упрошваў ён.

— Калі вы не слухаеце!..

— Ды слухаю!..

Тады Верка сур'ёзна выняла з кішэні курткі складзеную анкету і, нічога не кажучы, падала яму. Па твары Ганушчанкі прабегла ўсмешка. Ён паглядзеў на анкету і толькі сказаў:

— Рэкамендацыі хочаш? — і калі Вера кіўнула галавой, спакойна выняў з кішэні хімічны аловак, паслініў паперу і на брыжы тоўстага рола пачаў падпісваць.

Не магла стаіць радасці Вера. Яна ўся дрыжала: такім дарагім ёй здаваўся дзядзька Андрэй. Гэта быў пер-

шы фармальны акт уступлення яе ў партыю. Узяўшы ў Ганушчанкі анкету, яна доўга ўглядалася ў подпіс старога, потым уклала анкету ў кішэню і пачала яшчэ больш націскаць анучаю, шліфуючы брудныя бакі рола.

Пад вечар, калі скончылі работу, Стурыт і Ганушчанка хадзілі па ўсіх цэхах фабрыкі і аглядалі. Чыстата ляшчыла вока. Стаялі адчышчаныя ролы, новымі здаваліся машыны, блішчалі накаты.

І калі праз акно падалі кароткія праменні вечаровага сонца на якую-небудзь частку машыны, усё свяцілася і іграла.

— Вось так павінна і заўсёды быць...— гаварыў Ганушчанка.— Нашых хлопцаў трэба толькі прывучыць, і фабрыка будзе як люстра.

Маўчаў Стурыт. Ён ведаў, што Ганушчанка гаворыць праўду.

У машынным за кантрольным столікам сядзеў Аўсей Лібман. Ён пісаў нешта на лахманку паперы, нязграбна трымаючы аловак. Калі падыходзілі Стурыт і Ганушчанка, ён кінуў паперу і аловак на століку, а сам выйшаў насустрач.

Шырока расставіўшы рукі і не даўшы агледзецца Стурыту, хуценька загаварыў:

— А... Стурыт! Быў я ўчора ў раёне на нарадзе. Ты ведаеш, выходзіць што? — і сам пры гэтым хваляваўся і радаваўся.— Райком мяне на курсы рэдактараў хоча ў Мінск паслаць. Як ты думаеш, га? — і ён проста бегаў вакол Стурыта, чакаючы адказу.

— Ну што ж, едзь! Прыедзеш і Курніцкага замeніш, бо мы яго на другую работу мяркуем... Вучыся, стары балабоста...— жартаваў Стурыт.

У Аўсея хутчэй забегалі вочы. Потым ён, нібы што ўспомніўшы, глуха зарагатаў, насядаючы проста на Стурыта і Ганушчанку.

— Памятаеце?.. Памятаеце вы Караткова, што прыязджаў сюды налёт рабіць?..— І ён не мог стрымаць смеху.— Я яго бачыў. Дык гэты Караткоў, хто ёсць, як бы вы думалі? — і ён зрабіў перадых.— Не ведаеце? Папоў сын!..

— Дык што тут смешнага, чаго ты заходзішся? — пытаў Стурыт.— Прагналі, ды і ўсё.

— Не, не! — адмахваўся рукамі Аўсей.— Дай ты мне дагаварыць. На нарадзе ён выступаў. Пачаў гаварыць бясконца, што павінны рабкоры рабіць, і што слова, дык

божыцца: Камуністычная партыя... Камуністычная партыя... Ажно ён не разгледзеў усіх. Як толькі кончыў, дык выйшаў з радоў хлопец з таго раёна, адкуль і ён родам, і гаворыць: «Як гэта вы, таварыш Караткоў, сюды трапілі?» Дык Караткоў проста ўехаў у каўнер. А той хлопец усё гаворыць, як дровы коліць...— перадаваў Лібман.— «Таварышы, гаворыць ён, гэты самы Караткоў у нас кааперацыю абакраў, растраціў, значыць. Як ён сюды трапіў? Ды ён жа яшчэ папоўскі сын! Ды каб сам добры быў. А то дрэнь — і бацька яго зараза». Караткоў толькі выйшаў і пачаў апраўдвацца, што Камуністычная партыя ўсім дае работу... Ну мы яго і прагналі адтуль і з рэдакцыі.

Лібман проста рос ад задавальнення. Калі Стурыт і Ганушчанка пайшлі далей паўз машыны, Аўсей хуценька падбег да свайго століка і пачаў дапісваць. Ён старанна выводзіў літару за літарай і, хоць рука яго дрыжала, не адрываўся ад паперы. У думках ён ужо быў на курсах у Мінску.

* * *

Драздоў і Ванька сядзелі ў невялічкім пакойчыку ячэйкі і лісталі паперы. Ванька перадаваў новаму сакратару справы. Драздоў доўга ўглядаўся на сабраныя ў папках паперы, цёр задумліва лоб, потым узяў рукой і пасунуў паперы ўбок.

— Ну іх к чорту, валакіту гэтую! Ты мне лепш раскажы, што рабіць трэба...

— Гэта само сабой, а і без папер не абыдзешся. Вось бяры план і глядзі!

І тады яны пачалі разглядаць пункт за пунктам. Драздоў значыў алоўкам выкананыя пункты.

Калі скончылі з планамі, Ванька доўга гаварыў, што дзяцер трэба рабіць, ён па некалькі разоў вяртаўся да аднаго і таго ж пытання, жадаючы, каб Драздоў адразу ўхапіўся за сутнасць.

— Табе толькі ўчапіцца, а там пойдзе!..— гаварыў Ванька.

Калі яны захапіліся планамі, як правесці Міжнародны юнацкі дзень, і спрачаліся, як лепш падабраць праграму вечара ў той дзень, у пакой увайшлі Верка з Марыляю.

Хлопцы толькі глянулі на іх і працягвалі сваю гаворку.

Дзяўчаты слухалі. Толькі калі Драздоў пачаў меркаваць, што на вечар трэба будзе запрасіць артыстаў з горада, Марыля пярэчыла:

— Наліха яны! Прыедуць ды толькі цягнуць такое, што ажно спаць хочацца. Лепш самім наладзіць. Ёсць жа ў нас драмгурток.

Драздоў агрызнуўся:

— А што ж ён робіць, твой драмгурток?

— Вось і гавары з табой. Трэба яго ўзварушыць толькі...

— Ну вазьміся ж і ўзварушы!

— І ўзварушу!

Марыля ўзялася кіраваць драмгуртком. Драздоў адно павесялеў, што яна сама ўцягваецца ў работу.

Вера пацягнула ўсіх на рэчку. Там ладзілася сягоння спаборніцтва па плаванню. Яны прыйшлі на бераг, калі там было ўжо ўсё падрыхтавана да пачатку. Першай рыхтавалася хлапецкая каманда. Хлопцы стаялі на беразе, моцныя, загарэлыя, і з нецярплівасцю чакалі сігналу. Драздоў, вялікі ахвотнік да спорту, не вытрымаў. Ён хуценька скінуў з сябе верхнюю вопратку і ў трусіках падбег да каманды. Хлопцы жартавалі:

— Глядзі, Пётра, не прыплывеш назад!

— Застанешся, як на стадыёне...

Але ён мнагазначна кіўнуў галавою, іранічна выціснуўшы: «Н-ну?» — і быў гатовы кінуцца ў ваду.

Трэба было праплысці туды і назад два кіламетры.

Далі сігнал. Разам усе кінуліся ў ваду. Узніклі хвалі. Пачалі плысці. Тырчалі толькі галовы з вады ды часамі выгіналіся плечы. Плылі, як хто ўмеў. Хто ў грабкі, моцна заграбаючы ваду пад сябе і адпіхаючыся нагамі, хто мерна рассякаў ваду рукамі навысцяж, у паўсажонкі, а хто — дагары.

Каля берага пайшло многа людзей праводзіць плыўцоў. Тыя, што засталіся, сачылі за адплываючымі. Далей, як качкі, расплыліся галовы. Тырчалі то па адной, то па некалькі разам.

Ванька і Вера з Марыляю засталіся чакаць. Яны гаварылі між сабой, як ім наладзіць драмгурток, думалі, адкуль дастаць сродкі для пастановак, а галоўнае, ламалі галаву над п'есаю.

— Няма добрае...— скардзілася Марыля.— Чаму гэта не напішуць добрае п'есы для нас?

— Пісьменнікі вінаваты...— гаварыла Верка.— Каб яны ведалі, як п'есы трэба тут, яны, напэўна, напісалі б.

Парашылі, што трэба з'ездзіць за п'есамі ў раён.

Ванька так углядаўся на плыўцоў, што ляжаў, застыўшы, уставіўшы вочы на рэчку, абапёршыся на руку. Ён не чуў нават, пра што гаварылі дзяўчаты. І Верка з Марыляю, заўважыўшы гэта, захацелі з яго пажартаваць. Ціхутка падкраліся і пацягнулі разам за ногі. Локці яго каўзануліся, і Ванька ўпаў тварам на зямлю. Раптам павярнуўшыся, хацеў вылаяцца. Дзяўчаты бачылі, што ён злуецца, і пачалі смяяцца. Тады заўважылі, як адыходзіць чырвань у яго з твару, а рот расцягваецца ва ўсмешцы:

— Кіньце вы!.. Вам нецікава, дык і не глядзіце. Чуць не забілі!

Селі чакаць разам. Здалёку набліжалася першая белая кропка. Пачалі гадаць, хто гэта. Вакол загаварылі і заспрачаліся:

— Пятроў!..

— Які табе Пятроў? Я знаю, што Кантар возьме.

— А вось і не!

— А вось і так.

— Давай заклад!

Верка жартавала, што абавязкова Драздоў прыйдзе апошні.

— На стадыёне...— гаварыла яна,— заўсёды так. Ён такі непаваротлівы...

— Паглядзімо яшчэ...— зазначыў Ванька.— Ён хлопец моцны.

Раслі і набліжаліся белыя кропкі на вадзе. Скора было чуваць, як хлюпаецца вада, а праз хвіліну быў відаць твар першага хлопца.

— Драздоў!.. Драздоў!..— закрычалі вакол.

Усе рынуліся бліжэй да рэчкі, вось-вось гатовыя зваліцца ў ваду. Чакалі Драздова. За ім неўздалёк плыло яшчэ некалькі хлапцоў.

Драздоў пад гукі адабрэння выскачыў на бераг першы. Ён перарывіста дыхаў. Страсянуў [redacted] сябе ваду і з выглядам пераможцы пачаў хадзіць па беразе, зводзячы для роўнага дыху рукі ўгару.

Прыплылі астатнія. Паціскалі рукі Драздову. А ён

радаваўся, што першы раз перамог у выперадках хоць на вадзе, калі не на стадыёне.

Адна за другой бомкаліся ў ваду дзяўчаты — паплыла жаночая каманда.

* * *

Закружылася восеньскае лісце над фабрычнаю брамай. Спахмурнелі сады. Сцюдзёная імгла забіралася пад расшпіленыя накідкі і курткі і давала сябе адчуваць. Менш стала людзей на вуліцах і ў парку, зусім пераста-лі ездзіць на астравок. Затое больш стала ў клубе. Толькі змрочыла, там ужо гулі па розных пакоях галасы моладзі.

Запрацавалі гурткі. У адным сядзелі за кніжкамі, у другім разбіралі стрэльбу, складалі, адзявалі супрацьгазы.

Стрэлка на паказальніку прамфінплана знадворку клуба пераваліла за сто працэнтаў. Яна ўжо забіралася далей, пад сто дзесяць.

У парткоме па-ранейшаму сядзеў Стурыт і меркаваў, як павысіць прадукцыю. Ён выклікаў Ганушчанку і цяпер чакаў яго. Хацелася пагаварыць, як ён думае зрабіць, каб менш зношваліся сукны на машынах, бо на гэта вельмі скардзіліся рабочыя.

Райком патрабаваў накіраваць добрага чалавека на год у калгас. Учора пастанавілі паслаць туды старога Андрэя. І Стурыту было радасна, што ён аддае такога добрага работніка, і шкада, што цэлы год не будзе Ганушчанкі. Да яго ён прывык, усё роўна што да бацькі. Стурыту здавалася, што будзе сумаваць па ім уся фабрыка: не будзе больш старога, які поўзаў дзень і ноч па заканурках і ўсё мацаў і ўсё пераглядаў.

Ціха адчыніліся дзверы. Увайшоў Ганушчанка, а з ім Муляўка, селі на крэслы. Стурыт забегаў каля іх, частаваў папяросамі, яму хацелася як мага дагадзіць гэтым адданым старым рабочым. Муляўка і не глядзеў на сваю нагу, спакойна курыў папяросу. І калі Стурыт распытваў, як здароўе, ён такім голасам, быццам і нічога з ім не здарылася, упэўнена гаварыў:

— Заўтра на работу пайду...

Стурыт запэўняў, што час яму ўжо і адпачыць. Досыць напрацаваўся. Гаварыў, што ён будзе забяспечаны. Фабрыка яго не пакіне. Але Муляўка не пагаджаўся, круціў галавою і, здавалася, абражаўся.

— Пусціць не хочаце! Я ж звар'яцею ад суму! Што я буду рабіць? А даглядаць за каландрай я магу. Во яшчэ ёсць! — І ён паказаў здаровыя рукі.— І стаяць магу...— Муляўка ўстаў з крэсла і некалькі хвілін хадзіў па пакоі.— На каня я не магу сесці. Там ужо вы, калі трэба будзе. А каландры мяне прымуць. Яны мяне знаюць...

Дарэмна Стурыт і Ганушчанка адгаворвалі яго. Ён настойваў на сваім. Парашылі задаволіць просьбу старога.

Потым пачалі гаворку пра сукны. Ганушчанка падсунуў да сябе паперу і пачаў маляваць, паказваючы Стурыту і Муляўку, што трэба зрабіць, каб менш церліся сукны.

— Рэгуляваць вінты... А то заціснуць так, што сукно напружваецца, ледзь не пэкне, вось і трэцца... Сабраць майстроў і пагаварыць з імі... Вось што трэба...— упэўняў Ганушчанка.

— Шкада мне развітвацца з табой, Андрэй! — гаварыў Стурыт, і ў вачах яго сапраўды прасвечваўся сум.

Ганушчанку гэта быццам і мала кранала.

— Знайшоў шкадаваць каго. Я з ахвотай еду. Убачыш, як запрацую. Вы толькі пасабляйце.

Позна пакінулі Стурыта.

Стары Муляўка і Ганушчанка ціха ішлі на фабрыку. Калаціў вецер галлё, кацілася з шумам восеньскае лісце, цемната клалася пад ногі, а вочы ішлі да фабрычнае брамы, залітай электрычным святлом...

— Помніш, Андрэй, гэтую браму...— гаварыў Муляўка.

— Яшчэ як помню...— адказваў, уздыхаючы, Ганушчанка.

І яны пайшлі праз яе, праз двор, прайшлі па цэхах. Доўга хадзілі, аглядалі кожную мясціну. І раслі ўспаміны. Ім быў знаёмы кожны шруб, як куток у сваёй хаце. Яны бачылі сябе юнакамі і маладымі то за адной, то за другой машынай, такімі, як некалі былі.

Каля аднае каландры Муляўка прасіў пачакаць. Ён доўга стаяў, глядзеў, як шабуршыць праз яе валікі папера, падышоў і пагладзіў раму, міжвольна прагаварыўшы:

— Заўтра да цябе прыйду!..

За поўнач ад фабрыкі сунуліся па дарозе дахаты старыя. Адзін радаваўся, што заўтра зноў вернецца сюды, каб стаць на старое месца, дзе яму знаёмы кожны цвік, а ў другога на сэрцы расла трывога, што скора трэба развітацца з фабрыкай, хоць і ненадоўга.

* * *

Ганушчанку праводзілі на станцыю. Стурыт і Ванька неслі спакаваныя яго хатулі. А кругом была проста дэманстрацыя. Выйшлі старыя таварышы праводзіць свайго Андрэя. Камсамольцы ішлі развітацца са сваім дзядзькам. Дзень быў сухі, падмерзлаваты, грукалі ногі па застылай дарозе, гудзелі галасы. Стурыт усю дарогу раіў Ганушчанку, як трэба сябе паставіць у калгасе, а больш упэўняў яго:

— Ты сам, Андрэй, ведаеш, як рабіць.

Ганушчанка, жвава, проста не па-старэчаму, перастаўляў ногі, і вочы яго былі вясёлыя.

На станцыі, перад тым як сесці ў цягнік, Ганушчанка з усімі развітаўся. Доўга падыходзілі да яго і трэслі рукі, і калі хто-небудзь затрымліваў, другі проста адштурхоўваў яго, даючы разумець, што многія чакаюць, каб развітацца. Калі адыходзіў цягнік, усе махалі шапкамі і хусцінкамі. Крычалі пажаданні на дарогу. А Ганушчанка стаяў на ўсходцах і смяяўся. Здалёку ён крыкнуў яшчэ:

— Кланяйцеся Муляўку!

У той дзень вечарам Ванька і Драздоў арганізоўвалі камсамольскую камуну. Сабралася трыццаць чалавек, якія хацелі жыць разам. Умовіліся ўвесь заробак складаць і выдаткоўваць, каб усім было роўна. Набываць тое, што каму патрэбна. Камуна ўжо атрымала інтэрнат.

Ванька хваляваўся, выступаючы на сходзе камуны, уносячы прапанову, як арганізаваць сумеснае жыццё, захапляўся новаю ідэяй:

— Гэта першая камуна на фабрыцы і ў нашай майстэрні.

А ў гэты час каля каландры стаяў і сачыў за кожным яе рухам стары Муляўка. Стаяў і не чуў аніякага болю ў нагах, ён зусім забыўся, што заместа нагі ў яго дзеравяшка, і, крыху накульгваючы, хадзіў каля машыны.

Роўна, бесперабойна білася фабрычнае сэрца, мерна круціліся барабаны на машынах, плыла белая рэчка паперы, стары рабочы радаваўся, што ўжо няма зладзееў на фабрыцы і што душы людскія ў іх калектыве чыстыя і светлыя, як тая папера, што ручаінамі бегла з каландраў.

* * *

Аднаго дня Ванька Крук варочаўся з заняткаў дахаты. Было прыемна ад таго, што гурткі працуюць добра, што асвойтаўся з работаю. Да таго ж Стурыт гаварыў, што ёсць думка, каб накіраваць яго ў камвуз, і Ваньку хацелася хутчэй расказаць пра ўсё Верцы. Ён спяшаўся дахаты. На парозе яго спаткала Марыля і загарадзіла рукамі дзверы. Ванька здзівіўся. А Марыля па-ранейшаму яго не пускала, крыху засаромеўшыся, гаварыла:

— Не ідзі... Не трэба... Верка нараджае...

Ён усхваляваўся, чаму яна не ў больніцы, але радасць захапіла ўсю яго істоту. Яму хацелася хутчэй праскочыць праз дзверы, за якімі чуліся стогны. Выскачыў на двор, пачаў часта хадзіць каля акон. Калі Вера стагнала, балюча сціскалася сэрца. Было шкада яе. І ўспаміналася яму Вера белагаловаю дзяўчынкаю, жывою і вясёлаю, успаміналіся рэчка і калгаснае поле, дзе яны гаварылі адно аднаму пра шчырасць. За гэты час успомніў сябе ад самага дзяцінства, і здавалася яму, што і ягонае дзіця ўжо здолее гаварыць з ім...

Мары плылі разам з апошнімі лістамі, што зрываліся з дрэў і адносіліся ветрам. І хоць вецер і золь білі яму ў твар, ён нічога не чуў, як заведзены хадзіў з канца ў канец каля акна.

Калі выйшла Марыля і паклікала яго, ён угрунь ускочыў у хату. На ложку ляжала стомленая Вера. Вочы яе запалі і былі абведзены чорнымі кругамі, а з іх свяціў такі цёплы матчын бляск. Валасы былі раскіданы па падушцы. Ён падбег, доўга цалаваў Верку, потым, адскочыўшы, убачыў у начоўках малое чырвонае цельца, якое пішчала ад непрывычкі да новага свету, стаў каля яго і доўга неадрыўна глядзеў.

— Сын...— сказала змучаная Вера.

«Сын...» — запаланіла гарачая думка галаву Ванькі.

Нарадзіўся новы фабрычны чалавек.

## ДОНЬКА-ДАНІЭЛЬ

Многа было мянушак у Донькі з нашага сяла. І хоць некаторыя, на першы погляд, здаваліся і крыўднымі, мы, малыя, што заўсёды круціліся каля яго, гэтага не адчувалі. Донька-выдумшчык, Донька-чмут, Донька-беззаконька, Донька — крывая ножка, дурны трошка... Ды і сам ён не вельмі хваляваўся, калі гэтыя мянушкі даходзілі да яго. Калі вы прачытаеце ўсё, што я здолею расказаць вам пра Доньку, вы згодзіцеся з тым, што яны прыдумляліся нездарма. Хочацца, каб вы змаглі ўявіць выгляд прывабнага героя нашых дзіцячых год. А зрабіць гэта мне нялёгка, бо заўсёднага ў ім было мала, ён вельмі часта мяняўся. Гадоў Донька быў, як кажуць, сярэдніх, можна было даць і трыццаць і ўсе трыццаць пяць. Можа, толькі хітраватая жмурнасць яго невялічкіх шэрых вачэй ды ледзь прыкметная скептычная складка на вуснах не мяняліся. Цяжка было ўгадаць, які будзе Донька на наступным тыдні. Звычайна ён старанна галіўся, мы нават бачылі той аскабалак брытвы, які Донька прынёс з нейкага чарговага паходу ў горад. Праходзіла колькі часу, і ён з'яўляўся ўжо з фанабэрыста падкручанымі вусамі, а то і зусім з адпушчанаю рыжаю барадой. Гэта ўсё, як мы даведаліся потым, залежала ад Донькавага настрою ці ад тае веры, да якое ён у пэўны час хіліўся. Скажам, калі Донька збіраўся праз колькі тydняў на фэст, дзе мог заляцацца да хутаранскіх шляхцянак,— адгадоўваў прывабныя вусікі; калі надыходзіў час кірмашу каля нашае прыходскае царквы, ён меў выгляд такі, як і заўсёды,— быў добра паголены. А раптам находзіла на яго і такое, каб наведаць у мястэчку сінагогу,— тады адпушчаў бараду. Аднаго ж разу вярнуўся наш Донька з далёкае вандроўкі, пагаліўшы і галаву. Ён нешта тлумачыў пра алаха, а кім быў той алах, мы так з ягоных расказаў не даведаліся.

Яшчэ часцей мянялася Донькава вопратка, хоць магчымасцей на гэта ў Донькі было няшмат. Самым даступным для яго было зрэбнае палатно, ды часам удавалася выпрасіць у маці кавалак кужэльнага. Фарбаваў Донька

свой матэрыял алешнікавай карой ці лушпіннем цыбулі, а то проста балотнай іржой, гледзячы што меркавалася зрабіць. Ну, калі выпадала, давалі Доньку ў хаце на ягоны строй крыху шырокага, самімі зваленага, сукна ды на колькі зім некалькі аўчын. Форму свайму адзенню Донька заўсёды надаваў якую толькі хацеў, залежна ад настрою, які прыходзіў да яго ў выніку азнаямлення з новымі модамі ў часе чарговых паходаў у гарады. Сам сабе і кроіў, і шыў. І, можа, таму, што адзенне яго заўсёды было незвычайным для ўсталяванага сялянскага густу, ніхто Доньку заказаў як краўцу не даваў. Але ён не надта і бедаваў. Убачыўшы ў пана летні белы гарнітур, Донька неўзабаве ладзіў са свайго зрэб'я і сабе падобны. А пафарбаваўшы алешнікавай карой, з таго ж матэрыялу ён майстраваў штаны навыпуск, пінжак з кішэнямі і нават камізэльку. Пазней не цураўся Донька і галіфэ з фрэнчам. Ну, вядома, не насіў ён простае світкі ці кажуха: хай сабе з таго ж матэрыялу, але абавязкова шыў паліто ці бекешу. А якіх формаў былі ў яго шапкі, дык і не злічыць. Шапкі таксама ладзіў сам. Помню, зімою, забіўшы барсука і вырабіўшы шкуру, ён зрабіў такую, што нават і ў пана не было: высозную, на паўметра, з вострымі калючкамі. Летам жа насіў звычайную кепачку-аладку, нешта падобнае да брыля. Або, недзе здабыўшы бліскучы казыр, шыў сабе такую, як у суседніх шляхцюкоў, або проста майстраваў шэрую ярмолку, бо бачыў, што такія носяць у сінагозе. Вяртаўся часамі Донька са сваіх паходаў і ў армейскай фуражцы.

Частыя змены адзення ў Донькі вельмі падабаліся нам, малым. Кожны новы ягоны вобраз дыхаў на нас нечым свежым, ён як бы выводзіў нас далей за межы вясковай глушы і пашыраў нашы далягляды.

Дый усе на сяле змірыліся з Донькавымі дзівацтвамі. Нават дома яго не чапалі. Быў ён банкарцюком у маці, таму і звалі яго некаторыя «Донька-беззаконька», але і айчым не меў нічога да Донькі, бо маці прынесла за Доньку ў хату ажно паўвалокі зямлі, і таму спакойна глядзеў на тое, як жыў Донька. Хацеў ён — пасабляў у гаспадарцы: араў ці касіў, хацеў — майстраваў нешта, хацеў — забаўляўся з намі, «з гэтымі блазнамі», а надумаўшыся, адлучаўся ў гарады, каб набрацца, як ён казаў, «розуму».

І нас, яго прыхільнікаў, не крыўдзілі мянушкі, што яму даваліся. Адна толькі не падабалася: Донька — кры-

вая ножка, дурны трошка. Што крывая ножка, мы пярэчыць не маглі, бо сапраўды Донька накульгваў на левую нагу, а як гэта здарылася, чуткі хадзілі ўсякія.

Аднойчы Донька з чарговага паходу доўга не варочаўся. З'явіўся амаль праз паўгода. Пайшоў у горад стройны, як належыць, а сустрэлі мы яго кульгавага, з сукаватым, нязграбным кіем, схуднелага.

Сам Донька расказваў, што пакалечыў нагу, калі ратаваў дзяўчынку на пажары. Быццам ён саскочыў, прыхінаючы маленькую да грудзей, ажно з трэцяга паверха. «Вось нага і трэснула»,— казаў ён. Каб даказаць, што гэта праўда, заўсёды вымаў невялічкую жаночую насцічку з вышытым незнаёмымі нам літарамі імем: «Marta». Гэта нібы маладая дзяўчынчына маці яму падаравала. А яшчэ казаў, што звала яго Марта пяшчотна — Даніэль... І прасіў нас, каб час ад часу і мы яго так звалі, бо гэта «вельмі далікатна».

Злосныя ж языкі сцвярджалі іншае. Быццам бы, калі Донька быў у горадзе, там хавалі нейкага высокага папа. Хаўтурная працэсія, вядома, змрочная і маўклівая. Донька ж, не пагаджаючыся з гэтым, залез на званіцу і ўдарыў у званы, як на вялікдзень.

— Трэба, каб да бога дайшло! — упарта сцвярджаў ён, не спыняючы перазвону, калі царкоўны вартаўнік узбег на званіцу, каб перапыніць святатацтва. Донька не здаваўся, і царкоўны служка спіхнуў яго са званіцы.

Хто яго ведае, дзе праўда. Скажу толькі, што ні ад аднаго, ні ад другога наша захапленне Донькам не паменшала. Многа цікавага перажылі мы разам з ім. Вось пра гэта я і хачу расказаць.

## Донька-скульптар

Зімою, пасля школы, ледзь перахапіўшы чаго ў хаце, мы беглі да Донькі на сажалку. Там, пад яго верхаводствам, яшчэ з першых маразоў, была наладжана намі адмысловая коўзанка. Некалькі дзён майстравалі яе. Вядома, Донька быў галоўным будаўніком, а мы толькі памагалі. У аснову коўзанкі было паложана выкінутае са старога млына, адпрацаванае кола, якое замацавалі на даволі тоўстым кругляку, загнаным у дно сажалкі. Калі кола заняло сваё месца і мы глядзелі, паразяўляўшы раты, Донька мнагазначна запытаў:

— Ну, а што далей, кураняты?

Мы маўчалі, бо і сапраўды не маглі разгадаць ягонае думкі, толькі паглядалі на Донькаву высокую барсучыную шапку, якая так пасавала ў гэты момант да яго вострых запытальных вачэй.

— А далей,— гаварыў Донька не то самому сабе, не то нам,— а далей, ведаеце-разумееце, пойдзем са мною, вось што далей...— І ён павёў нас у лес, прыхапіўшы пілу і сякеру.

Лес шумеў у канцы нашых сялянскіх шнуроў. З самага ўскрайку на некалькі метраў ён быў яшчэ сялянскі, але Донька там не спыніўся, а павёў далей, у панскі, які цягнуўся без канца без краю... Спыніўшыся на высокай баравінцы і агледзеўшы высокую сушыцу, перад тым як пусціць у ход пілу, ён не забыўся павучыць нас:

— У нашага пана ў аднаго болей сосен, чым ва ўсёй валасці ў мужыкоў, а таму нічога яму не стане, ведаеце-разумееце, калі мы ў яго пазычым...— і, усміхнуўшыся і пазваўшы большага з нас, узяўся за пілу. Пасыпалася жоўтае, як ядраныя крупы, пілавінне, і неўзабаве сушыца шухнула на аснежаны дол.

— А цяпер зараз жа, кураняты, абкарыце як след, чысценька,— і перадаў нам сякеру.

Праз момант адсечанае суцча і кара ляжалі ўжо ў кучцы. Донька надпаліў сухое галлё, і яно ўспыхнула яркім полымем. Ах, як прыгожа было ў гэты час у лесе! Водбліскі агню, які то прыгасаў, то мацней разгараўся, кляліся рознакаляровымі ўзорамі на зялёныя падалы ялін. Мы сачылі за вогнішчам, а Донька толькі любаваўся на ўсё, седзячы на высокім пні побач, і мы бачылі на твары яго добрую ўсмешку. Калі агонь пагас, Донька загадаў:

— А цяпер попелам змажце свежы пень так, каб хто ні глянуў, дык падумаў бы, што ўжо колькі год як гэтага дрэва не стала... А на ўсё вогнішча награбіце свежага снегу...

Мы варочаліся з Донькам на нашу сажалку, а па дарозе ён яшчэ павучаў:

— Чорт яго, пана, не возьме, у яго можна, а вось у сваіх нямажна, гэта я пра бацькоў вашых кажу, бо ў нашага брата, ведаеце-разумееце, калі і ёсць лесу, дык толькі на дамавіну.

Не забыўся Донька далучыць нас пры гэтым яшчэ і да сваёй стратэгіі:

— Чаму я смела пайшоў з вамі ў лес сягоння? А таму,— Донька, калі што даводзіў, дык любіў заломваць

палец за палец, прыгнуў адзін да далоні,— што, па-пер-шае, ведаеце-разумееце, я даведаўся, што пан у горад па-ехаў, а па-другое,— і ён прыгнуў другі палец,— што і ляс-нік сёння на хутар у госці падаўся...

Мы неслі ўслед за Донькам абкораную яліну, і нам не было цяжка...

На сажалцы зрабілі з сушыцы дышла ды прымацавалі да кола. Да канца дышла прычапілі ажно трое саначак. Калі прымацаванымі поручнямі круцілі кола — а гэта было пад сілу нам, малым,— ох, як хутка насіліся санкі па лёдзе! Колькі радасці, віску і смеху ляцела ў той ве-чар на ўсё наваколле, асабліва тады, калі сам Донька вы-язджаў на першых санках пакатацца. Трэба было бачыць шчаслівы твар нашага ўлюбёнца!

Аднойчы, ужо на другой палове зімы, калі снегу было столькі, што ажно да стрэх хлявоў даходзіў, мы, прыбег-шы са школы, сустрэлі на сажалцы Доньку за незвычай-ным заняткам. Ён ляпіў з мяккага снегу, у той адліжны дзень, ажно дзве постаці. Ён не гаварыў нам, што думае зрабіць, а толькі загадваў насіць вялізныя камы снегу, а нам і гэта было ў ахвоту.

Маўчалі мы да таго часу, пакуль постаці не пачалі на-бываць выразны воблік. Калі ж Донька з вугалля ўставіў вочы, а з пакулля адной постаці зрабіў доўгія валасы, а на другую ўзджабурыў старую салдацкую фуражку з кры-латым знакам, мы завойкалі:

— Ды гэта ж наш царкавішчанскі бацюшка і ўраднік з воласці!

Донька яшчэ больш падкрэсліў нашу здагадку, паве-сіўшы аднаму на бок драўляную шаблю, а другому — уторкнуўшы ядлоўцавае крапідла за пояс.

Постаці расшчаперанымі рукамі бралі за грудзі адна адну. І мы пакаціліся з рогату, бо ўсе добра ведалі пра тое, як аднойчы ў нашым царкоўнапрыходскім сяле пас-ля доўгае п'янкі поп і валасны ўраднік добра патузаліся на вачах у сялян. Колькі гаворкі і смеху было пра гэта!

Мы з асаблівай асалодаю каталіся ў той вечар на сан-ках, бясконца праязджаючы каля папа з ураднікам і ад-даючы ім «чэсць». А Донька сядзеў на сасновым кругля-ку на ўзгорку і задаволена ўсміхаўся.

Толькі мала дзён мы пацешыліся. Пра Донькаву заба-ву хутка загаварыла не адна наша вёска, а ўсё навакол-ле. Дайшло ажно да воласці. Аднаго дня пад вечар, калі наша гулянне было ў самым разгары, прымчаўся конна з

воласці ўраднік. Ні ў кога нічога не пытаючыся, ён першнаперш пасек выхапленаю з ножан шабляю і сябе, ледзянога, і ледзянога папа, а нашаму беднаму Доньку колькі разоў перапаласаваў спіну нагайкаю. Нічога нікому не сказаўшы, ён крутануў каня ў бок воласці і памчаў з сяла, толькі камякі снегу запырскалі з-пад капытоў. Донька маўчаў, разгубіўшыся ад гэтага налёту, адно часта паціраў рукою патрывожаную спіну, а мы, малыя, стаялі і глядзелі на яго спачувальна, са слязьмі на вачах.

— Нічога,— суцешыў нас Донька,— мы яшчэ, ведаеце-разумееце, не такое зробім! — і ён пайшоў дахаты.

А нам ужо было не да катання, мы следам рушылі за Донькам, цвёрда верылі, што нешта ён прыдумае незвычайнае, каб адпомсціць урадніку.

І мы чакалі гэтага...

## Донька-кравец

Пасля таго як ураднік наздзекаваўся з Донькі, наш ўлюбёнец надоўга знік з вёскі. І таму, што Донька рабіў гэта не першы раз, усе ведалі, што няйначай як ён пайшоў у горад, куды хадзіў час ад часу, шукаючы праўды і разрыўкі сваім дурным настроям, жадаючы нечаму навучыцца.

Толькі на сыходзе зімы вярнуўся Донька дахаты. Мы сустрэліся з ім на выгане, бегучы са школы, вельмі ўзрадаваліся і дзівіліся. Пазналі яго толькі па знаёмым накульгванні ды па пляцёным з лыка кошыку, які вісеў цераз плячо. А так паспрабуй дазнацца: замест чыста пагаленага Донькі ішоў рыжабароды дзядзька ў паношанай зімовай афіцэрскай шапцы, а вопратка дзіва дзіўнае: паліто не паліто, паддзёўка не паддзёўка, армяк не армяк — нейкая абадраная сукня, пачынаючы ад паясніцы, распушчаная зборкамі, як у старой вясковай бабы спадніца.

Калі мы падбеглі, ён заўважыў нашу разгубленасць і паспяшаўся растлумачыць:

— Гэта бекеша, вось як яна, ведаеце-разумееце, завецца... Выменяў у горадзе на свой кажух. Цяпер у горадзе ўсе важныя людзі ў такіх ходзяць. І сам я навучыўся гэтыя фальбоны рабіць...

Мы, уцешаныя, што вярнуўся Донька, абкружылі яго, кульгавага, у дзівосным убранні, і праводзілі да самае хаты.

Некалькі дзён Доньку мы не бачылі. Відаць, ён рас-

казваў хатнім і суседзям аб сваіх прыгодах у горадзе ды рапараваў сваё адзенне, бо пабачылі мы ўжо яго ў бекешы, старанна палапленай... Толькі ніякіх забаў, нягледзячы на нашы жаданні, ён не заводзіў, а сказаў сур'ёзна:

— Я кравец!

І пра гэта, відаць, абвясціў на ўсю вёску, бо, як дазналіся мы, сівы Гарасім занёс Доньку сабе на кажух ажно восем аўчын.

Калі заказ быў выкананы, мы дазналіся пра гэта па прарэзлівым ляманцэ, які разлятаўся на ўсю вёску ад Донькавай хаты.

Там было цэлае зборышча. І крык і рогат перамешваліся ў гурце мужчын і жанчын, якія абступалі Доньку і сівога Гарасіма. Раззлаваны Гарасім, апранены ў аўчынную бекешу, выглядаў смешна. На яго разгневаным чырвоным твары ледзь не выступалі слёзы, і ён гразіў Доньку кулакамі:

— На каго ты мяне зрабіў? Аддавай аўчыны, такую тваю...

Высакародны Донька быў пакрыўджаны няўдзячнасцю і толькі разгублена разводзіў рукамі:

— Пардон, пардон, дзядзька Гарасім, я ж бачыў, што ў горадзе цяпер сам воінскі начальнік так ходзіць.

— Сапсаваў кажух і яшчэ так брыдка лаешся?.. Я табе пакажу пардон!

— Га-га-га! Гарасім — воінскі начальнік! — ляцелі кпіны з усіх бакоў. Рагаталі мужчыны, а жанкі хітра пырскалі смехам, падміргваючы адна адной, прыкрываючы ўсмешку ражкамі хусцінак.

Старая ж Альжбета, Гарасімава жонка, галасіла на ўсю вуліцу:

— А божачка мой! Знявечыў, знявечыў! Гэта ж некалькі гадкоў збіралі аўчыны. І сушыць сушылі, і дубіць вазілі. А на каго ж ты падобны цяпер, мой ты Гарасімка!.. Зняважыў ты нас, Донька!..

— Пардон, цётачка Альжбета,— збянтэжана шаптаў Донька.

— Ай, людцы! — яшчэ мацней загаласіла Гарасімава старая.— Ён жа і мяне бэсціць!

А людцы рагаталі.

Айчым Донькаў стаяў убаку, увесь наліўшыся крывёю. Здавалася, яшчэ момант — і на Донькаву спіну ляжа кій, на які ён апіраўся.

— Ну што мне, мужчыны, рабіць?.. Можа, у суд падаць на гэтага гада? — пытаўся Гарасім.

Донька стаяў зусім бездапаможны, толькі бясконца паўтараючы «пардон». І тады айчым раптам здзівіў нас усіх.

— Гарасім,— сказаў ён,— я табе аўчыны аддаю. А бекешу, калі ты не разумееш, я зшашу і сам. А Донька — малайчына, шыць навучыўся. Калі ён бекешу зрабіў, дык просты кажух і пагатоў зробіць. Ёсць кавалак хлеба ў Донькі.

І праз нейкі момант вынес з клеці Гарасіму восем жоўтых дублёных аўчын.

Уся вастрыня спрэчак мінула. Айчым з Донькам паважна рушылі ў свае вароты, а ўсе астатнія хоць і са смяшком, але без ніякага здзеку разыходзіліся па хатах. «Бекешнікамі» сталі з таго часу зваць Доньку з айчымам, але кажухі шыць Доньку давалі, бо, навучаны гэтым вопытам, бекешаў ён ужо не рабіў, а кажухі шыў спрытна.

## Донька-астраном

Ужо добра пайшло на вясну, калі мы зноў сустрэліся з Донькам пасля кравецкай гісторыі. Нас распусцілі са школы, і мы, асабліва ўзбуджаныя з гэтае радасці, варочаліся палявою дарожкаю дамоў. Было паміж нас многа тлуму і вэрхалу, але раптам усё сціхла, калі мы заўважылі ў невялічкім прыдарожным гайку Доньку. На гэты раз ён быў без барады, акуратна паголены, і толькі невялічкія вусікі, падобныя на такія, як насіў наш пан, упрыгожвалі Донькаў твар. Сам Донька, пільна аглядаючы засохлы ствол даволі таўстое кляніны, быў так заняты, што нават не заўважыў, калі мы абкружылі яго. Хітраватая ўсмешка на яго вуснах расплылася шырэй, чым звычайна.

Аднак ён доўга не выпрабоўваў нас сваім маўчаннем і, падняўшы даўжэзны, метраў на пяць, ствол кляніны перад сабою, запытаў:

— Ану, кураняты, ведаеце-разумееце, што з гэтага мае быць?

Мы маўчалі, паразяўляўшы раты, бо не ведалі, на што магла спатрэбіцца гэтая кляніна. А Донька яшчэ больш прыжмурваў маленькія шэрыя вочы:

— Ну, дык як, дадумаліся?..

— На дышла! — не вытрымаў цыбаты Ігнась.

— Сам ты дышла, куды павярнуў, туды і выйшла...—

задаволена зарагатаў Донька.— Не зразумець вам гэтага, ведаеце-разумееце.— І, прыставіўшы кляніну да вачэй і падняўшы яе канец да неба, мнагазначна заявіў: — На трубу!

— Дык яна ж завялікая на трубу пастырскую,— асмеліўся ўмяшацца я.

— А ты, апрача, ведаеце-разумееце, пастуховае трубы, нічога і не ведаеш,— упікнуў Донька.— Пойдзем са мною, тады і даведаешся.— І ён павёў нас на ўзлесак, дзе было многа сухога хмызу.

Так мы і рушылі за ім, не зайшоўшы дадому, каб пакінуць свае школьныя торбачкі, пазаліваныя чарнілам. А на той пагорак, куды прывёў Донька, ён загадаў нам як мажна болей нацягаць сухога ламачча. Калі мы выканалі ягоны загад і нацягалі добрую кучу парыжэлага галля, Донька чыркануў запалку. Слуп чырванаватага полымя вырваўся ўгару з-пад клубоў шэрага дыму, і вогнішча пачало разгарацца ярчэй і ярчэй... Донька адлучыўся на хвіліну ў хмызнік, выцягнуў адтуль, відаць, прыгатаваны раней доўгі жалезны прут і ўткнуў яго ў самую сярэдзіну агню. Пакуль прут напальваўся, ён прысеў паводдаль і, выцершы пакамечанаю хусцінкаю спатнелы твар, пачаў раскрываць нам сваю тайну.

— Ну, дык, ведаеце-разумееце, што з гэтага будзе? — кіўнуўшы галавою на кляніну, выгукнуў неяк асабліва ўрачыста.— Труба! Але якая труба? — І, счакаўшы, каб яшчэ глыбей уразіць нас, яшчэ больш настойліва: — Труба! Але якая труба! Падзорная труба, ведаеце-разумееце. не пастырская, а труба падзорная. На неба, на зоры глядзець.

І Донька, абматаўшы руку змочанаю ў імшарыне анучаю, выхапіў з агню жалезны пожах, пекануў ім у самую сярэдзіну кляніны так, што ажно засквырчала, чорны густы дым паваліў з яе. Да самага вечара мы глядзелі, як Донька прапякаў сваю трубу, а пасля абмотваў яе берасцою. Калі падзорная труба была зроблена, яна вонкава нічым не вылучалася ад звычайнае пастуховае трубы, хіба, можа, толькі сваёй даўжынёю. Затое, каб бачылі вы. з якім гонарам нёс Донька трубу на схову ў сваё гумно, як важна ён паглядаў на неба, здавалася нават — менш накульгваючы ў гэты час.

Па дарозе зноў жа неўгамонлівы Ігнась пацікавіўся:

— Даніэль! А дзе ваша барада, Даніэль?

Донька, надзіва, не раззлаваўся, а сур'ёзна растлумачыў:

— Бараду я насіў, ведаеце-разумееце, думаючы трымацца старое веры. Вы бачылі, блазны, на абразах: і сам бог і яго апосталы — усе з барадамі. У горадзе, калі я быў у старавераў, мяне пераканалі ў гэтым. Але надоечы пабыў я ў касцёле на службе. Ну, скажу вам, ледзь не заплакаў ад арганаў, а дзяўчатачкі — беленькія як анёлкі, а ксёндз — ксёндз таксама чысценькі, паголены. А як завядзе, пардон, літанію, аж за сэрца бярэ. Ведаеце-разумееце, веру я, што ўсё да бога даходзіць, вось і я вырашыў бліжэй да гэтага касцёла стаць.

У гумне Донька схаваў трубу, прысыпаўшы яе каля сцяны мяліннем, каб ніхто не знайшоў. Паабяцаў, што пакажа нам праз трубу тое, што не відаць простым вокам. На гэтым мы разышліся, чакаючы колькі дзён, а што ж нам дзіўнага пакажа Донька.

І вось аднаго разу, калі ехалі на начлег, мы ўбачылі, што папярок свайго каня Карчыка Донька трымае тую самую даўжэзную трубу. Выгляд у яго быў нейкі асабліва дзівосны. На белыя са зрэб'я порткі звісала доўгая, у зборках, кашуля, а на галаве — нешта падобнае на торбу ці на трохкутны мяшэчак, у якім адціскаюць сыры, нават з прышытым кутасом ад пояса. Донька ехаў наперадзе маўклівы, а мы — за ім, не адважваючыся парушаць яго задуменнасці.

Каля невялічкага ляска, у якім раслі магутныя стогадовыя яліны, спыніліся. Спуталі і пусцілі коней. Донька прысланіў трубу да аднае з ялін. Вось тут Донька і аддаў першы свой загад:

— Давайце на гэтай елцы зробім такое гняздо, каб хоць утрох-учатырох сесці.

Ён палез да вяршаліны, а мы за ім. На зручным месцы, дзе тоўстыя сукі разыходзіліся ва ўсе бакі, ён, зламаўшы верхняе суччa, каб не засланяла неба, паклаў аснову — дно гнязда. Неўзабаве даволі ёмістае гняздо трымала ўжо нас чатырох. І сапраўды яснае, зорнае неба нібы ярчэй раскрылася нам. Донька загадаў падаць трубу. Праз момант, паважна прыставіўшы яе да вачэй, замёр. Некаторы час усе маўчалі, пасля ўзрушаны Донька сказаў:

— У імя айца і сына, пакуль што бога не бачу, а ўсе яго блакітныя палацы перада мною... Бачу коўш неабдымны, ведаеце-разумееце, з якога ён п'е невычэрпную

сінюю брагу... Божа, божа, злітуйся і адкрыйся мне! Не хочаш адкрывацца. Відаць, я не варты гэтага. Перадаю трубу меншаму, ён жа, можа, яшчэ не грэшны, адкрыйся яму! А я з Прузынаю, пардон...— і ён аддаў трубу мне.

Як я ні стараўся, нічога не ўгледзеў, хоць зоры і здаваліся яснейшымі. Донька па чарзе перадаваў трубу маім сябрам, але, не дачакаўшыся, каб мы хоць чым успелі яго, сказаў:

— Відаць, усе мы, ведаеце-разумееце, няправільна верым, трэба шукаць! Не адкрываецца неба, можа, адкрыецца зямля,— і ён павярнуў трубу ў бок мястэчка Жары, якое было кіламетраў за пяць ад нашага гнездзішча. Доўга круціў трубу, прыстаўляючы да вачэй і так і гэтак, пакуль не гойкнуў на ўвесь лес, ажно рэха пакацілася ў канцы шнуроў:

— Ай, што я бачу! Анэлю! Анэльку бачу! Вунь яна ў садку, як анёльчык каля сваёй хаткі. І ў мой бок глядзіць, ведаеце-разумееце, у мой бок!

Нам было вядома, што Анэля Жванская адна з улюбёных Донькам паненак. І калі ён ткнуў трубу мне, каб я пераканаўся, хоць мне мястэчка было відно ў сінім міражы, ніякай Анэлі я не мог бачыць, але, не хочучы яго расстройваць, пацвердзіў:

— Бачу!

— У белым? — дапытваўся Донька.

— У белым.

— І сюды глядзіць?

— Сюды!

— Пардон! Давай трубу мне, бо яна на мяне ўглядаецца.

Доўга мы яшчэ валтузіліся ў той чэрвеньскі вечар з трубою. З надзеяй углядаліся ў зорнае неба, і часамі нам нават здавалася, што сапраўды там паказваліся нейкія белыя крылы. Відаць, гэта праплывалі лёгкія воблачкі. І хоць мы не пабачылі бога, але былі рады, што Донька даў нам гэтулькі ўцехі...

Наша забава спынілася раптоўна. Здалёк, праз гоні, пачуліся злосныя крыкі і лаянка. Мы здагадаліся, што нашы коні дапялі да панскага аўса, а начныя вартаўнікі захапілі іх. Пакуль мы прыбеглі туды з Донькам, пакінуўшы і трубу, вартаўнікі гналі ўжо коней у панскую стайню, каб накласці на нас штраф.

Доўга выпрошваў Донька, каб даравалі, і, нарэшце, калі, бясконца ўторачы, паўтараючы «пардон», паабяцаў

аднаму з іх пашыць дарэмна кажух, яны адпусцілі нашых коней.

Вярнуўшыся, мы ўжо не лазілі на яліну, а думалі толькі пра тое, каб не даведаліся ў сяле пра нашу патраву.

Нават Донька, палажыўшы каля сябе трубу, нічога нікому не гаварыў.

## Донька на фэсце

Аднаго разу ў летняе каталіцкае свята, на святога Баболя, ці што, Донька выправіўся на фэст, да самага бліжэйшага касцёла ў Перабежцы. Усю раніцу цераз нашу вёску то паволі рыпелі, то праносіліся каламажкі вакалічных шляхцюкоў, якія накіроўваліся на імшу. Хто бяднейшы, тупалі на набажэнства пешкам.

Донька, які апошні час сцвярджаў, што каталіцкая вера самая правільная, таксама выправіўся туды. Ну і вядома, што апранены ён быў, як і большасць незаможных католікаў, тых, што мералі дарогу сваімі нагамі. Нягледзячы на дзень спякотны, на Доньку былі саматканы шэры не то фрэнч, не то пінжак, тоўстыя суконныя штаны, забраныя ў боты. І галёшы. На галаве ганарліва ўзвышалася скроеная ім самім чатырохкантоўка, пра якую Донька гаварыў, што глядзіць яна на ўсе чатыры бакі свету. А яшчэ быў пры ім просты стары-стары парасон, які наш набажэнец з гонарам нёс пад пахаю.

Мне з Ігнаськам даручылі бацькі купіць у бліжэйшай ад касцёла крамцы запалак, і мы радаваліся, што можам пашпацыраваць разам з Донькам. Ён і не пярэчыў асабліва, што мы ішлі таксама ў Перабежку, толькі патрабаваў, каб трымаліся крыху воддаль, бо, як казаў, калі сустрэнецца з кім, то каб мы не перашкаджалі, мала якія размовы могуць у яго быць. Што ж, мы цвёрда выконвалі загад, хоць бачылі, што да самай Перабежкі ніякіх сустрэч у нашага Донькі не адбылося. Накульгваў ён усю дарогу адзін, часамі нешта спяваў, часамі насвістваў, а часамі падобна да таго, што маліўся, знімаючы чатырохкантоўку і прасціраючы рукі да неба.

Касцёл быў невялічкі. Стаяў ён на прыгожым узгорку каля ўзлеска, пры пятлястай рачулцы. Тут жа, за драўлянаю агароджаю, раскрыжаваўся маленькі могільнік, на якім католікі хавалі сваіх нябожчыкаў. Нямала там стаяла крыжоў з езусамі і анёламі, упрыгожанымі штучнымі кветкамі ды белымі і чорнымі стужкамі. Мёрт-

вых там ляжала нямала, але яны не перашкаджалі жывым, і, пакуль не пачыналася імша, з розных чародак белакрылых дзяўчат далятаў шчэбет і прываблівы смех. Донька наблізіўся да адной купкі і загаварыў пра нешта такое, што прымусіла рагатушак нават прыкрыць твары.

Але ўдарылі званы, больш ценькія, чым царкоўныя, пачалося набажэнства, і ўсе рушылі ў касцёл, вядома, і Донька быў паміж імі.

Мы не адважваліся пайсці следам, а збегалі ў крамку, купілі за яйкі запалак, а потым чакалі, калі скончыцца імша.

А набажэнства было нядоўгае. Як толькі сонца стала над вяршалінамі соснаў, з касцёльчыка павалілі людзі. І калі ў касцёл яны ўваходзілі паважна, схіляючы галовы, больш па адным, дык адтуль, распараныя, выкочваліся гуртамі. Але ні ў адным гурце мы не бачылі Донькі. Ён выйшаў амаль апошні, і, на наша дзіва, побач з ім ішла не то дзяўчына сталых гадоў, не то кабета гадоў сярэдніх. Яна не была прыгожая, нейкая крыху ацеслая, з невялікім рабаціннем на твары. Толькі наплоеныя ценькія кучары выдавалі, што яна хоча яшчэ падабацца.

Донька са сваёю паненкаю пайшлі невялічкаю сцяжынкаю, якая вяла далей ад касцёла ў лес, і мы неўпрыкметку сачылі за тым, як, стараючыся трымацца раўней, Донька нешта даводзіў спадарожніцы, час ад часу нахінаючыся долу і падносячы пасля то белы рамонак, то медунічку. Можа, ён гаварыў у гэты час штосьці ўзвышанае, бо неаднойчы парасон ягоны ўздымаўся над галавою.

Неўзабаве, калі Донька аблюбаваў невялічкую прагалінку паміж буйнога кустоўя, ён, выняўшы з кішэні даволі ладную шэрую хусцінку, разаслаў перад паненкаю, і яна прысела. Прысеў і Донька. А мы, стаіўшыся за кустамі, хоць і не бачылі іх, але добра чулі іхнюю гаворку.

— Дык панна Юзэфа, як вы казалі, з Бушанкі будзеце?..

— Гэта ж не так далёка ад вас, няўжо то вам нязнана?..

— Пардон... пардон, ведаеце-разумееце, я так часта не бываю дома, што магу і забыцца.

— А пан Даніла даконт выязджае?..

— Пардон, паненачка, завіце мяне Даніэлем. Так я завуся, больш далікатна. А выязджаю я часта, ведаеце-разумееце, да Пецярбурга, там у мяне дзядзька багаты.



Пятрусь Броўка (першы справа) на з'ездзе пісьменнікаў у Маскве. 1970-я гады.

— Ото ж там, відаць, цуды, пан Даніэль. Можа, і мяне возьмеце хоць раз з сабою?

— Ведаеце-разумееце, паннačка, я б хацеў узяць вас і назаўсёды, толькі трэба добрую сялібку купіць.

— А пан Даніэль мае на то пенёндзы?

— Дзякуючы майму добраму дзядзечку, маю. Але скажэце, панна Юзэфа, як вы гледзіцё, ведаеце-разумееце, на маю куплю? А больш на тое, каб пасля паехаць разам у нашу новую сялібу?

— А дзе пан Даніэль мае набыць і цо таке?

— Фальварак, фальварак, панна Юзэфа, і далей адсюль, ад нашых мужыкоў, бо ад зайздрасці яны яшчэ спаляць. Я чуў, што недзе ажно пад Барысавам добры фальварак на прадажу, ведаеце-разумееце, маецца... Дык як, паедзем туды разам?

— Ой, пе вем, спытайцеся ў таткі з мамкай,— адказала Юзэфа.

А пасля, праз некаторы час, толькі чулася ўзбуджанае Донькава: «Ну як?.. Ну як?..» Ды Юзэфіна: «Не вем, не вем!» — пакуль не перапыніў іхняга варкавання прарэзлівы, п'янаваты голас:

— О, пшэклента моц!.. Дзе ты прыладзіўся, кульгавы Донька?.. Панна Юзэфа, ты што — звар'яцела?..

Юзэфа і Донька хуценька падняліся, Юзэфа, засаромеўшыся, стаяла ўбаку, а Донька хоць і разгублены, але адказваў даволі ваяўніча:

— Пардон! Пардон, ведаеце-разумееце, я вам не Донька, а Даніэль! А яшчэ, як вы можаце так нас крыўдзіць?

— Га-га-га! О, пшэклента моц! Пан Даніэль, адкуль ты ўзяўся? Ты Донька, кульгавы Донька з Селішчаў. І прыстаеш да паненак пажондных. І яшчэ, відаць, маніш, што фальварак купляеш? Гэта ж ужо на ўсю воласць вядома. Вось які ты багатыр, Донька, пшэклента моц! — і выхапіўшы з Донькавых рук парасон, уміг раскрыў яго над галавою. Праз шматлікія дзіркі засвяцілі сонечныя промні. Шляхцюк адкінуў парасон у кусты і, узяўшы панну Юзэфу пад руку, павёў далей ад Донькі, яшчэ выкрыкваючы на хаду:

— Пан Даніэль... пан Даніэль! О, пшэклента моц!

Мы баяліся выдаць сябе і маўчалі. Бачылі, што некаторы час Донька стаяў аслупянелы. Але гэта цягнулася нядоўга. Рашуча ён падняў і склаў парасон, прыладзіў яго пад пахаю і ўпэўнена пакульгаў на дарожку, якая вя-

ла дадому. Неўзабаве ён замармытаў нават нейкую песеньку.

Мы пайшлі следам.

## Донька-паэт

Пасля няўдалага заляцання да шляхцянкі Юзэфы Донька знік на цэлы год. Мы бачылі яго ў дзень адыходу ў горад. Апранены па-паходнаму, у бардовую світку, пашытую самім, з заплечным салдацкім мяшком, ён сапраўды быў падобны на падарожніка. Нават шапка-магерачка, якая спрытна абціскала яго галаву, здавалася, была прыстасавана знарок для далёкай дарогі. На выгане, перад тым як узяць крутляваю пясчаную пуцінаю кірунак на ўсход, ён на развітанне пахваліўся:

— Вось пайду і зараблю столькі грошай, што куплю фальварак. А не зараблю, дык выйграю. Бачыў я, як людзі не толькі на фальварак, але і на маёнтак, ведаеце-разумееце, выйграюць. А на пачатак у мяне ёсць.— Ён выняў здалёку, з-за пазухі, акуратна завязаную на некалькі вузельчыкаў насnічку і, паволі разблытаўшы, дастаў з яе і памахаў перад нашымі насамі зялёнаю паперкаю, прымаўляючы: — Вось ён, мой пачатак, ведаеце-разумееце! — А пасля, папляваўшы на шчасце і прыпляскаўшы далонямі, паважна загарнуў і схаваў.

— Пашкадуе Юзэфа! — чулася нам, ужо калі ён быў далекавата.

— Будзе фальварак, але тады знойдзецца лепшая за яе.

З такім ваяўнічым настроем пусціўся Даніэль у дарогу.

Праз год, перад самым Іванам Купалам, Донька вярнуўся. Не такім чакалі мы яго сустрэць. За гайком, на лужку, пасучы гусей, заўважылі адзінокую шэрую постаць і толькі па знаёмым накульгванні пазналі свайго Даніэля. Мы чакалі, што ён з'явіцца як пан. А на гэты раз ён быў апранены нават горай, як адыходзіў. Доўгая палатняная кашуля са зборкамі на грудзях, падпяразаная простаю пяньковай вяроўчынай, палатняныя запыленыя штаны і лапці, звычайныя вераўчаныя лапці. А да таго ж рыжая барада і даўжэйшыя, чым раней, вусы таксама змянілі Даніэля. Калі павіталіся з ім, мы заўважылі, што і на твар ён стаў інакшы: зблажэў, паспакайнелі і спахмурнелі вочы. І гаварыць ён стаў павольна.

— З разумнымі людзьмі я пазнаўся на свеце. Яны

мяне, ведаеце-разумееце, па-божаму жыць навучылі. Наліха мне той фальварак. У мяне душа — не толькі фальварак, а больш за маёнтак. Адной душой жыць буду. А душа мусіць быць чыстая. Не буду болей губіць нічога жывога, ведаеце-разумееце. І есці нічога з жывога не буду. Зернем, травою жыць буду. І насіць шкуры не буду. Ёсць вялікі граф, казалі, ён так жыве. Адно буду спяваць і славіць прыроду, як сам Пушкін. Вось ён,— і, выняўшы з-за пазухі, дзе некалі ляжала на шчасце грашовая паперка, памахаў перад нашымі насамі невялічкаю кніжачкай.

Мы былі рады, што Донька вярнуўся, і чакалі, што абавязкова нечым нас усцешыць. І ён не прымусіў доўга трывожыцца. Калі мы скончылі прыбіраць вуліцу пад вечар на Івана Купалу і сабраліся грудком паблізу Донькавае хаты на суседскай прызбе, выйшаў ён у той жа вопратцы, што прыйшоў, але ў чыста памытай і, відаць, добра пакачанай. Размовы ў нас не выйшла. Донька толькі кіўнуў нам рукою, паказаўшы за сяло, і мы пайшлі з ім разам аж у жытное...

У жытным Донька загадаў нам плесці вянкі з васількоў, і сплёўшы першым, з гонарам уздзеў на галаву. І сапраўды, у такім выглядзе ён стаў падобны на нейкага святога. Мы следам за ім зрабілі тое самае, а калі глянулі адзін на аднаго, здалося нам, што ўсе мы нават пасвятлелі.

Калі ж кожны з нас звіў яшчэ па некалькі вянкоў, Донька павёў увесь наш рой на невялічкі ставок каля млына, дзе, як ведаў ён, збіраліся дзяўчаты. Звычайна ён праводзіў усе нашы забавы асобна, але на гэты раз адступіўся, бо на Івана Купалу і варажыць, пэўна, даводзілася разам.

І сапраўды, калі прыйшлі да млына, там ужо быў цэлы гурт дзяўчат, таксама з вянкамі і кветкамі.

На заходзе сонца пачалі варажыць. Сонца схавалася за бор, і толькі цьмяна-чырванаватыя промні яго, прабіваючыся між вяршалін, кладліся на дробныя азёрныя хвалькі. Шумела загадкава белапенная вада, спадаючы са стаўка паблізу вялізнага драўлянага кола млына.

Было і прыгожа і неяк таемна...

Дзяўчаты шчабяталі, спявалі і шумна варажылі. Донька загадаў нам задумаць што-небудзь жаданае і кідаць вянкі. Не ведаю, ці задумвалі што-небудзь астатнія,

а я ні пра што і не спрабаваў, калі кідаў свой вянок. Адно думаў, што ў той час мне было добра.

Калі як след сцямнела, маці пачалі гукаць дахаты сваіх дачушак, і яны хутка пабеглі на вёску.

А ў нас пачалося самае цікавае. Відаць, Донька і надумаў гэта зрабіць на адзіноце. Ён адвёў нас на ўзлесак і загадаў раскласці агонь. Мы гэта і зрабілі. І тады, як нейкі апостал, усё яшчэ не зняўшы з галавы васількавага вянка, дастаўшы кніжачку з-за пазухі, пачаў Донька нам чытаць. Ён чытаў Пушкіна паволі: мо таму, што надаваў чытанаму вялікі сэнс, а яшчэ, відаць, таму, што не ўмеў хутчэй чытаць. Калі што-небудзь асабліва падабалася, падымаў палец угору, прымаўляючы:

— Вось як, ведаеце-разумееце!

Мы былі зачараваны паэтычнымі словамі ў той вечар, хоць таго-сяго і не разумелі. Відаць, не разумеў усяго і наш Донька, бо, прачытаўшы: «Буря мглою небо кроет...» — сказаў: «Кроець... Як гэта неба кроіць?.. Хлеб можна кроіць, а не неба...»

І зноў чытаў. Што нас узрушыла, дык гэта казка пра рыбака і рыбку. І мы ўяўлялі таго рыбака з сеткаю на беразе нашага стаўка, адкуль мы толькі адышлі.

А пад канец вечара Донька, выняўшы з-за пазухі зашмальцаваную запісную кніжачку, сказаў, што будзе чытаць нам тое, што напісаў сам. І мы паразяўлялі раты. А Донька, павёўшы рукою ў бок лугу, які ўжо засцілаўся бялявым туманам, і ў бок вялізнага панскага саду, які віднеўся паводдаль, урачыста пачаў:

Луга ажываюць сваею прыродзе,
Сады расцвітаюць пры яснай пагодзе!
Плады жа зрываюць фараоны стыда...

— Ну як?! — усхвалявана запытаўся ён.

І хоць мы мала чаго зразумелі з Донькавага — куды менш, як з Пушкінавага,— каб не крыўдзіць яго, сказалі:

— Добра!

Тады Донька паважна паведаміў нам, што ён даскапала ведае нейкія «рымы», якім навучыўся ў горадзе, а каб мы праверылі, загадаў: хто з нас захоча, няхай выкрыкне любое слова, а ён неадкладна дасць «рыму».

І пачалося. Адзін за другім мы выкрыквалі то якое слова, то цэлы сказ, а Донька зараз жа адказваў і пры гэтым пераможна ўсміхаўся.

А яно чулася:

— Наша вёска,— крычалі мы.
— Жыве Воська,— адказваў Донька.

Анёл панскі — памёр Жванскі.
Наша хатка — небагатка.
Жонка — даёнка.
Бабка — слабка.
Дочка — квочка.
Сынок — япручок.

А калі нехта ўжо кпліва выгукнуў: «Даніэль!..» — Донька, раззлаваўшыся, сказаў: «Маўчы, дрэнь!..» — і, нязграбна згарнуўшы сваю кніжачку, падняўся і пакрочыў на вёску адзін.

Мы асталіся. Вядома, насварыліся на таго, хто сапсаваў пад канец такі цудоўны вечар. Збіраючыся дахаты, заўважылі кавалачак паперы каля таго пня, на якім сядзеў Донька. Разгарнулі і прачыталі:

Прузына, Прузына,
Адзіна, адзіна,
Люблю цябе веле —
Любі Даніэля.
Аслі пацалуеш,
Не пашкадуеш.
Прузына, Прузына,
З табой і ў адрыну,
І ў клець, і ў гуменца.
Люблю цябе венца —
Адкрый мне каленца...

Рагаталі мы ўсю дарогу, ідучы дамоў. Во як, даведаліся мы, умее пісаць наш Донька! І больш за ўсё нас пацяшала, як напісаў ён пра сваю Прузыну. Мы ж яе добра ведалі. Жыла яна, адзінокая ўдава, у канцы сяла. Мы бачылі, што часта туды заходзіў Донька. Нават аднойчы вечарам, крадучыся ад айчыма, нёс туды мех збожжа. Але мы нікому не сказалі, баючыся выдаць Доньку. І на гэты раз, калі праходзілі каля Прузынінай хаты, мы змоўклі, бо падумалі, што там Донька. Толькі адзін з нас усё ж не ўцярпеў і хай шэптам, а падражніўся:

— Адкрый мне каленца!..

Так скончыўся наш вечар на Івана Купалу.

## Донька-кавалер

Пасля свята на Івана Купалу мы доўга не маглі ніякіх забаў дачакацца ад Донькі. Ён увесь аддаўся працы. Бачылі яго то з касою, то з граблямі... Айчым, відаць, быў

задаволены, бо казалі, што сам купіў у мястэчку ў падарунак Доньку новы чорны парасон. А Донька ад самага світання аж да заходу не прыходзіў з поля ці сенажаці. Нават есці яму туды прыносілі. І калі аднойчы мы, будучы паблізу ад Донькі на пашы, падышлі, каб спакусіць на якую-небудзь забаву, ён спакойна, але цвёрда адказаў:

— Не такі, як я, а сам граф за сахою ходзіць. Я ж працую і, ведаеце-разумееце, у гэтым смак адчуваю. І вам, кураняты, мусіць быць вядома. Больш няма чаго пытацца: праца... праца... праца... праца...

І, не зірнуўшы больш на нас, пайшоў за абганялкаю паміж радкоў у бульбоўніку аж да самага лесу.

Пакуль не выпаў першы снег, мы так і не сустракаліся з Донькам. А калі пабачылі, дык адразу заўважылі, што ён зноў перамяніўся. Стаў Даніэлем. Знікла барада, толькі маленькія вусікі ўпрыгожвалі яго хітраваты твар. На нагах добрыя боты, апранены ў даўно знаёмую нам бекешу. Такога мы ўбачылі Доньку між хлапцоў неяк у суботу, калі яны збіраліся на вечарынку. У гуртку ж хлапечым, відаць, не было згоды, куды падацца, бо доўга спрачаліся, размахваючы рукамі. Толькі, відаць, перамог Донька, бо голасна заявіў:

Ведае кожны пан-закаханак:
Няма паненак лепш хутаранак! —

і пакульгаў дарогаю, што вяла на хутары. А ўсе хлопцы рушылі следам.

Мы з Ігнаськам таксама пайшлі з імі — былі мы большыя за сваіх сябрукоў і часцей трымаліся старэйшых.

— У Бушанку пойдзем...— узбуджана гаварыў хлапцам Донька.— Ото там панны слічныя. І Ядвіська. І Анэлька. Дый сам пан Антоні... ён жа закрыстаянам быў у касцёле. Пагаварыць, розуму набрацца...

— А Юзэфа? — падражніў яго адзін з хлапцоў.

— Маўчы пра Юзэфу! Яна зусім у другім баку жыве.

— А чаго ты, Даніэль, так перад падпанкамі і панамі гнешся?..— нападаў на яго ўсё той жа, што ўпікаў Юзэфаю.

— Я не гнуся, ведаеце-разумееце,— спакойна адказваў Донька,— а вывучаю іх, каб умець з імі гаварыць, як прыйдзе час.

— А пра што ты з імі гаварыць збіраешся?

— А вось пра што,— паважна адказаў Донька і падняў — было снежна — угору свой чорны парасон,— вось

што я ім скажу: «Бог у нас адзін, ведаеце-разумееце, панове?» — «Адзін»,— відаць, адкажуць яны. «Сонца ў нас адно?» А што болей яны могуць сказаць. «А зямля? — я іх запытаю.— А чаму яна няроўна між нас падзелена?..— Я не дам ім перадыху! — Давайце, ведаеце-разумееце, па добраму падзелімся. Вы лішкі нам аддайце, а вам яшчэ застанецца».

— Ды ты думаеш, што паны пра гэта з табою гаварыць будуць? — пыталіся некаторыя.

— Я іх угавару! — настойваў наш летуценнік.

— Зломяць яны твой новы парасон на тваім жа карку,— цвёрда заявіў той жа кпіншчык.

— Ну, тады я, ведаеце-разумееце, звярнуся да бога!

— Эх, Донька-Донька, Даніэль ты, Даніэль...— чулася яшчэ між хлапцоў. Але спрэчкі спыніліся, бо на вялікай прагаліне між дрымотнага лесу засвяціліся агеньчыкі некалькіх хат бушанскіх хутароў.

А ў даволі прасторнай хаце Антона Шавярноўскага было нямала моладзі. Ядвіся і Анэлька, маладыя гаспадынькі, адзетыя ў бялюткае, лёталі, як мятлічкі, між хлапечага і дзявочага тлуму. Хлапцы, сярод якіх я заўважыў і Фэльку Бацяноўскага, таго, што забраў ад Донькі Юзэфу, відаць, былі не вельмі рады, што прыйшлі нашы. Крыўдзіць жа, мабыць, не збіраліся, тым больш што сам Антон Шавярноўскі, звярнуўшыся да Донькі, гасцінна прамовіў:

— Проша, проша!.. До нас!

У куце адпачывалі скрыпач, цымбалісты і бубеншчык, якія нядаўна, відаць, скончылі іграць, бо яшчэ выціралі потныя твары.

Наш Даніэль, калі яго прывітаў сам Шавярноўскі, каб не быць у даўгу, неяк асабліва далікатна прыгнуўшы шыю, звярнуўся да ўсіх, але больш, відаць, да Ядвісі і Анэлькі:

— Разрашыце прадставіцца, ці магу я вам панаравіцца!..

І хоць у адказ пачуліся і ўсмешкі і хмыканне, ён, зняўшы бекешу, прысеў на край добрага зэдля. Хлапцы ж разышліся куды каторы, кожны прыглядаючыся, каго выбраць на танец.

Неўзабаве музыкі ўдарылі, і ўсе пайшлі кракавяк. Я заўважыў, што Донька ідзе ў пары з дзяўчынаю больш дарослаю, чымся другія. Калі прыгледзеўся, убачыў, што ў іх нішто сабе і выходзіла, нават Данькава накульгванне

ў цесным крузе не было так прыкметна. Можа б, на яго ніхто і не звярнуў асабліва ўвагі, калі б ён раз-пораз не выкрыкваў на ўсю хату:

— Анонс!.. Анонс!..— відаць, і сам не разумеючы, што гэта значыць. Але гэты выкрык, ці то знарок, ці то сапраўды, па-свойму зразумеў Фэлька Бацяноўскі, бо калі кракавяк скончыўся, ён падышоў да Донькі і пагрозліва запытаў:

— Каму ў нос? Каму ў нос ты біць збіраешся?

— Пардон! Пардон!..— закруціўся на зэдлі Донька, але спрэчкі не выйшла, бо сам гаспадар, падышоўшы да Фэлькі, нешта яму шапчучы, адвёў убок.

Донька з гэтае прычыны, а можа, з тае, што выбраў ён на першы танец, як даведаўся, не паненку, а наймічку Шавярноўскіх, сядзеў пахмуры. Затое, калі зайгралі вальс, ён адразу ж рушыў у кут, дзе асобна сядзела чарнявая прывабная паненка, і, сказаўшы сваё нязменнае: «Разрашыце прадставіцца, ці магу я вам панаравіцца?» — запрасіў. Танец яны пачалі амаль першымі, у хаце было яшчэ прасторна. Усе паглядалі ў іхні бок. Неўзабаве хіхіканне і ледзь стрыманы смех панесліся адусюль. Справа ў тым, што кульгавы Донька, не ведаючы, запрасіў на танец кульгавую паненку, толькі на другую нагу. І яны пачалі куляцца ў розныя бакі, збіраючыся зрабіць круг па хаце. Пад агульныя кпіны пасадзіў Донька сваю панну на зэдаль, бясконца вымаўляючы: «Пардон!.. Пардон!..» — і ўжо не адважваўся танцаваць болей.

Але Донька не мог аставацца доўга без ніякае ўвагі і таму, калі быў вялікі перапынак паміж танцамі, пачаў гаварыць, каб усе чулі:

— А я, ведаеце-разумееце, у Пецярбурзе вунь якія танцы бачыў. Далібог, не маню вам, панове, панны... А якія слічныя, голымі скачуць і панічы таксама... а ногі задзіраюць, пардон, ведаеце-разумееце, ну, не раўнуючы, аж да столі.

Усе здзіўлена паглядалі на Доньку, а дзяўчаты нават прыкрылі насічкамі тварыкі, ды толькі дзе-нідзе чуўся хлапечы рогат. Фэлька ж Бацяноўскі паволі зласнеў. Ён, можа б, што і зрабіў нядобрае, калі б сам Антоні Шавярноўскі не падышоў раней за яго да Даніэля і не сказаў рашуча:

— Ну, шапрашаенц, ягамосцю, калі вы прыйшлі ў пажондную хату, дык і трымайцеся пажондна.

— Пардон, пардон! — бясконца ўтарыў усхваляваны Донька, але ўжо выказацца яму Шавярноўскі не даў:

— То проша стонт вашэці...— і зняўшы Донькаву бекешу з качаргі, што стаяла каля прыпечка, выкінуў у сенцы.

— Ведаеце-разумееце, панове,— спрабаваў яшчэ апраўдацца Донька,— я ж хацеў расказаць, што бачыў...

Але, падскочыўшы, Фэлька грозна паказаў яму кулак і выгукнуў:

— Вось калі паспытаеш гэтага, дык ужо больш ніколі не пабачыш!

Донька хуценька выскачыў у сенцы і адразу — на двор.

Нашым хлопцам нічога не аставалася болей, як пайсці следам. Яны і самі думалі, што Донька абразіў хутаранцаў, ды ўступаць з імі ў бойку не адважыліся, бо хутаранскіх было болей.

Затое дарогаю Доньку перапала:

— Эх, Даніэль, Даніэль, пасадзіў ты нас на мель...

— Пардон!.. Пардон!..— адно дукрыў усю дарогу Донька, не прасвятлеўшы ні на хвіліну.

А нам з Ігнаськам было смешна, калі мы прыгадалі Донькавы заляцанні. «Пардон!.. Пардон!..» — падмігвалі мы адзін аднаму.

## Донька-палітык

Настаў час, калі Доньку было не да забаў. Ды і нам таксама. Загудзела, як вулей, усё сяло. Хомка Кісель, які прыйшоў з фронту, паведаміў, што цара скінулі. Донька кожны дзень выпытваў яго, што і як было. Збіраўся сам падацца ў горад, даведацца пра ўсё, але чуў, што зямлю будуць дзяліць, дый лес панскі пачалі секчы на новыя хаты. Баяўся, каб не адстаць ад другіх. А падзеі разгорталіся ўсё хутчэй. І пан, які спрабаваў спрачацца з сялянамі за лес, уцёк.

Донька падоўгу раіўся з Кісялём, але той і сам не мог толкам растлумачыць, што робіцца ў свеце. А калі прыйшоў дамоў паранены Язэп Жыгалка, Донька дазнаўся, што ўжо новая ўлада на зямлі. Дый камісар Будай з воласці заявіўся і растлумачыў, што ўсё ў Леніна ў руках.

Донька па-ранейшаму выпытваў у Кісяля, што да чаго, а найбольш у Жыгалкі, які пазней прыйшоў з горада. Мы ж, яго прыхільнікі, падраслі за гэты час і ўжо крыху самі разбіраліся ў тым, што цікавіла Доньку. Часта былі

сведкамі, як спрачаўся Донька з Жыгалкам, што стаў цяпер камбедам.

— Ну добра, зямлю падзелім,— гэта, значыць, можна, а чаму лес дзяліць нельга? — пытаўся Донька, які збіраўся паставіць і сабе новую хату.

— Лес дзяржаўны! — даводзіў Жыгалка.

— Пардон, ведаеце-разумееце,— не згаджаўся Донька.— А мы не дзяржаўныя?

— Зямля табе даецца, каб ты мог пракарміцца, а лес навошта табе цяпер, калі ты хату паставіў?

— Не я, айчым паставіў. А я сабе хачу!

— Калі будзеш жыць асобна, тады і паставіш.

— Ну, якая тут, ведаеце-разумееце, свабода, калі мне трэба пытацца, каб якое дрэва ўзяць?..

— Ты — анархіст,— злаваўся Язэп.

— Пардон, а што такое ранархіст?

— Вось яшчэ, а хвалішся тым, што ўсё ведаеш.

— Не, што цяпер у свеце робіцца, не ўсё ведаю...— згаджаўся Донька.— А што цяпер з папом, ведаеце-разумееце, будзе?.. Ніхто яму не плаціць, дый зямлю, я чуў, абразаюць.

— Калі табе трэба, дык ты і думай.

— Цёмна, нешта цёмна, ведаеце-разумееце, ты пра ўсё гаворыш,— заключыў Донька і развітаўся, але праз колькі дзён мы зноў бачылі яго за гарачаю гаворкаю то ў адным, то ў другім месцы.

Так праляцела зіма, а пад вясну аднойчы мы пабачылі, як каля Кісялёвай хаты Донька рабіў абмен. Ён аддаваў Хомку сваю бекешу, а замест бекешы браў у таго прадымлены і нібы праржавелы за франтавыя гады шынель. Абмен быў яўна не на карысць Доньку, нават сам Кісель дзівіўся:

— Навошта табе здаўся гэты шэры лахман?

— Пайду ў горад!

— Ну, дык і валяй у сваёй бекешы.

— Пардон, ведаеце-разумееце, па-першае, увесну душна ў бекешы, а па-другое, шынель мне паможа...

— Чым жа ён табе паможа? Што, у шынялі лепш будзе чутна?

— А і лепш, ведаеце-разумееце,— я ў карцінках у газеце бачыў, што ў бекешах афіцэры ходзяць, а ў шынялях салдаты.

— Ну дык што?

— А яшчэ я чытаў, што і ўлада цяпер салдацкая. Вось

і прайду я ў шынялі, ведаеце-разумееце, куды толькі захачу.

— Ну бяры, калі табе так ужо хочацца,— і Кісель аддаў Доньку шынель, а яшчэ ў прыдачу і салдацкую шапку з цьмяным казырком, і салдацкі рэчавы мяшок, зашмальцаваны горш за шынель.

Донька быў давольны.

Праз колькі дзён, у нядзелю, калі шмат хто сабраўся на Кісялёвай прызбе, каб абмяркоўваць надзённыя справы, да іх прыкульгаў Донька. На ім былі ўжо знаёмыя парыжэлы Кісялёў шынель і шапка. За плячыма, як балалайка, вісеў напакаваны салдацкі мяшок. Донька паважна звярнуўся да ўсіх:

— Мужы, ведаеце-разумееце, што я вам хачу сказаць?

— Ну што, Доня? — нехта кпліва пацікавіўся.

— Вам усё ясна, ведаеце-разумееце, у гэтым свеце?

— Ды дзе там, Донечка,— ведаючы, куды гне Донька, выказўся яшчэ нехта.

— Вось я і пайду ў горад.

— А чаго, Даніэль? — хтосьці ўжо і падражніў яго.

— Даведацца, ведаеце-разумееце, чым Савецкая ўлада дыша! — рашуча адказаў Донька і, крута павярнуўшыся, пайшоў да выгану.

Аж да самай зімы не бачылі мы Доньку. Толькі калі першаю парошаю ўкрыліся палі, заўважылі мы яго на тым жа выгане, як здавалася, памаладзелым, бо быў паголены і менш кульгаў. На ім быў усё той жа шынель, але на грудзях красаваўся прышыты стужкамі чырвоны крыж, дый на шапцы быў нібы бляшаны гузік з зялёным крыжыкам на ім.

Калі ж, ступіўшы на вуліцу, Донька зняў шапку, ці то каб выцерці пот з дарогі, ці то з павагі да родных мясцін, мы ўбачылі, што і галава яго як качан — зусім голая. Нам, што сустрэлі яго, ён так нічога і не сказаў і, толькі кінуўшы на хаду сваё дабрадушнае «пасля», знік за брамкаю.

Затое праз дзень, пасабляючы Доньку на таку малаціць жыта, мы даведаліся пра ўсё, што пазнаў Донька ў горадзе. Скончыўшы веяць зерне, ён прысеў на высозны мех жыта і паволі апавядаў нам, а мы сядзелі, паразяўляўшы раты. Дый мужчыны з суседніх такоў прыйшлі таксама паслухаць Доньку.

— Ну, ведаеце-разумееце,— апавядаў Донька,— зусім змяніўся горад. Ад сцягоў чырвана-чырвана, і, хоць есці мала чаго, пяюць, усе пяюць. І малыя, і старыя! Капелю-

шоў не пабачыш, толькі шапкі і шапкі, і чырвоныя зоркі на іх, і казыркі шмат у каго падламаныя. Хто ў чым — у скуранках, у шынялях, у паддзёўках. А дзеўкі стрыжаныя. І я вам скажу — нядрэнна, ведаеце-разумееце, анцік з маршмаладам!

— І ўсё галовы голеныя, як у цябе? — папытаўся Кісель.

— Не, не ўсе, а ёсць і такія. А я зрабіў гэтак па новай веры.

— Дык ты ўжо мусульман? — жартаваў нехта.

— Пардон, не мусульман, а праведнік.

— А ты Савецкую ўладу прызнаеш? — насядаў Кісель.

— Прызнаю, ведаеце-разумееце.

— А як жа ты і савецкай і новай веры будзеш служыць?..

— Я так хачу. Свабода, ведаеце-разумееце.

— А як Савецкая ўлада дыша? Ты ж казаў, што даведаешся? — пацікавіўся стары Гарасім, той, каму Донька заместа кажуха пашыў бекешу...

— Дыша правільна, дзядзька Гарасім... але крыху з перабоямі, ведаеце-разумееце.

— А што за перабоі? — перапытаў Доньку нехта з маладых.

— А тое, што лерыгію не прызнаюць.

— А ты б чаго хацеў?

— А я, ведаеце-разумееце, таго, каб і Савецкая ўлада і лерыгія дружна жылі. Хай бы і з чырвонымі сцягамі і з харугамі разам хадзілі...

— Дык ты, відаць, і за тое, каб і паноў не праганялі?

— І не трэба было. Яны граматныя, усё б забраць у іх, а ў канцылярыях няхай бы сядзелі.

— Дык ты за бальшавікоў ці супроць? — зазлаваў ужо Кісель.

— Пардон... пардон, я, ведаеце-разумееце, як кажуць у горадзе, ранархіст!

— А што ты яшчэ пазнаў у горадзе? — перапыніў спрэчкі Гарасім.

— А пазнаў добрага яшчэ, што ўсе вучацца. Таксама і старыя і малыя. І хутка робяць каго хочаш: і суддзяў, і начальнікаў, і дактароў.

— Дык і ты ўжо, можа, не кравец, а доктар? — пакпіў Кісель.

— Ну, амаль доктар, але фельчарам ужо стаў.

— За паўгода?..

— За паўгода. І дакумант маю.
— Дык ты будзеш ужо і нас лячыць?
— Калі хто захоча, ведаеце-разумееце.
— А дзе ж тваё лякарства?
— Вунь яно, кругом — і ўвесну і ўлетку — траўкі, дрэўцы, толькі збірай!
— Дык ты на чараўніка вывучыўся?
— Пардон, ведаеце-разумееце, па фельчара!

Шмат што яшчэ расказваў у той дзень на таку Донька. Кісель пайшоў адтуль пераконаны, што Донька шмат брэша, а стары Гарасім, якому кашаль сціскаў грудзі, захацеў папрасіць у Донькі дапамогі, ды і шмат хто падумаў: а можа, і праўда, Донька на фельчара вывучыўся. Навучыўся ўсё ж у адзін са сваіх паходаў ён шыць бекешы.

Мы падраслі, чыталі ўсё больш газеты, дый кніжкі сякія-такія траплялі пад рукі, мы не вельмі верылі Даніэлю-лекару, але і нам мроілася: а можа, ён і сапраўды навучыўся таму-сяму?

Вечарам хацелі яшчэ сустрэцца з Донькам, каб больш дакладна распытацца пра ўсё, але не маглі, бо ўбачылі, як цягнуў ён са свайго тока да Прузыны мех жыта і марнытаў нейкую песеньку, відаць, прадчуваючы асалоду спатkання. Мы не адважыліся яго перапыніць.

## Донька-доктар

Мы сумняваліся, што Донька так хутка вывучыўся на доктара. Але розныя выдумкі Даніэлевы нас забаўлялі, і таму мы не чапалі нашага ўлюбёнца. А ён, відаць, вырашыў цвёрда стаць лекарам на вёсцы, бо аднаго разу рашуча заявіў пра гэта на ўсю акружку.

А было яно так. У панскім доме (нельга яго назваць палацам, не такі ўжо вялікі) была даволі прасторная залька. У ёй мы на хуткую руку збілі з дошак памост і ставілі спектаклі. Замест сценак развешвалі назбіраныя з усяе вёскі коўдры. Ігралі тыя п'ескі, якія трапляліся нам. І вось аднойчы, калі падрыхтавалі «Збянтэжанага Саўку», перад самым адкрыццём заслоны на сцэну ўварваўся Донька, адзеты ў доўгую палатняную кашулю з чырвоным крыжам на ёй, і звярнуўся да прысутных:
— Разрашыце прадставіцца, ці магу я вам папаравіцца?..
— Можаш, можаш, Даніэль. Га-га-га! — загудзела ў

зале, але Донька не звяртаў увагі і сам рашуча сцвярджаў:

Магу!
А таму, што я вас зберагу!
Прыходзьце да мае хаты,
Дзядзі і цёці,
А таксама дзяўчаты...

— І Прузына,— выкрыкнуў нехта, каб падразніць Доньку, але той як бы і не пачуў.

Прыходзьце!
Ці магу я вам панаравіцца?
Магу!
А таму, што я вас зберагу!
Лякарстваў веле-веле
Ёсць у Даніэля!

Пад гоман і рогат Донька паважна сышоў на дол і сеў у першым радзе на зэдлі. І мы, неаспрэчваючы яго заявы, пачалі іграць свайго «Збянтэжанага Саўку».

А Даніэль, відаць, усур'ёз намерыўся ўзяцца за лекі. Усю вясну і лета старанна збіраў розныя травы, кветкі, карэнне. Зліваў у гарлачы бярозавы і кляновы сок. Нешта пераліваў, нешта падмешваў. У пустой, закінутай пашта веці расстаўляў свае лекі на палічкі. Дваіх з нас, мяне і Ігнаську, ён аднойчы і запрасіў, каб пахваліцца:

— Вось, ведаеце-разумееце, мяне ў горадзе гэтаму навучылі: усе лекі дае наша зямля, трэба толькі ведаць, што да чаго. Вы заўважылі, калі сабаку ўкусіць змяя, што ён робіць? Бяжыць! Куды бяжыць? Траву шукаць, ведаецеразумееце. Знойдзе, пажуе добра і здароў. А я падгледзеў, якую ён траву жуе. Вось гэта настойка на той траве ад змяі. А як завецца? — і ён хітра прыжмурыў маленькія шэрыя вочкі.— Фараонавы слёзы завецца. А чаму? А вось чаму: фараон плача, калі яго кусае змяя.

Тры настойкі паказаў нам новы доктар Даніэль: настойку вясновую — з бярозавага і кляновага соку, настойку летнюю — з чабору і верасоў, настойку восеньскую — з рабіны і ганаболяў. Былі тут і мазі, адна звалася: здароўбудзь! — з алею і маку, ад жывата. І мазь ад каросты і цыпак, з дзёгцю і смалы сасновай, якую ён з гонарам назваў — «мазь Даніэля»... А назву адной, якая прыемна пахла ранневясновымі таполевымі лісточкамі, ён не хацеў доўга нам адкрываць, але нарэшце здаўся. «Прузына»,— сказаў ён і шчасліва ўсміхнуўся.

Усё лета і восень збіраў, настойваў і сушыў травы, а

таксама і розную кару, а ўзімку мы дачуліся і пра першыя Даніэлевы лячэнні. Неяк перад калядамі прыбегла да нас ў хату канцавая Домна і, загаласіўшы, расказала:

— А татачкі, а матачкі, а родненькія... Загубіў Клёмку Донька, відаць, памрэ...

— А што ён нарабіў? — пацікавіўся мой бацька.

— А тое, што кінула Клёмку ў жар. Куды, думаю, падацца, а мо і праўда Донька паможа, і пабегла да яго. Вось ён і прыйшоў. Памацаў галаву Клёмкаву і сказаў: «Жар у галаве імеіцца, трэба адцягнуць. Аброць, цёця Домна, у вас імеіцца?» — «Ёсціка, кажу, Донечка»,— і прынесла яму аброць. Узяў аброць Донька, перацягнуў за бэльку, зачапіў Клёмкавы ножкі і падняў. А тады, кажа, нясіце хутчэй добры брус лёду з сажалкі. Мы пабеглі, высеклі і прынеслі. Паклаў Донька гэты брус лёду Клёмку пад зад і кажа: няхай ляжыць, пакуль лёд не растане, і жар адцягне. Мы і чакалі гэтага... Пакуль лёд таяў, Клёмачка тое-сёе мармытаў, а пасля змоўк зусім. А жару яшчэ больш стала.

— Хутчэй па фельчара ў мястэчка! — толькі і крыкнуў мой бацька і, запрогшы каня, знік у снежнай замеці.

Пад раніцу прыехаў наш валасны фельчар Мажынскі. І нечым мазаў ён Клёмку, і расціраў, і ставіў банькі. Ледзь, казаў, урававаў. А прыйшоўшы да Донькі, грозна запытаў:

— Хто табе даў права лячыць?

Донька паважна выняў з куфэрка старанна складзеную паперку і, акуратна распрастаўшы, падаў:

— Вось хто даў, горад даў! Не такія дактары, ведаеце-разумееце, як ты!

Мажынскі глядзеў на Доньку разгублена і не ведаў, што яму сказаць. Ён то чырванеў ад злосці, то па твары ягоным прабягала ўсмешка.

— Эх, Даніэль, Даніэль,— уздыхнуў, гледзячы на Доньку, Мажынскі.— Каму ты паказваеш? Думаеш, што я чытаць не ўмею? Хіба тое, што ты паўгода служыў санітарам у бальніцы, дае табе права на лекі?

— Пардон,— імкнуўся давесці сваё Донька,— я з гарадскімі дактарамі і не такія, ведаеце-разумееце, хваробы вылечваў, як ты вылечваеш!

— Дык вось што, Даніэль. Толькі шкадую цябе, а то б табе турма!..

— Няма такое сілы, ведаеце-разумееце, каб мяне за краты. Я свае лекі на сабе правяраю. Вось пачаў у мяне

балець жывот — і я яго маладою сасноваю смолкаю лячу. І добра.

— Ну што з табою гаварыць. І гэта дрэнна. Але сябе можаш лячыць, калі хочаш. Відаць, у цябе не ўсё як трэба! Паеду, але глядзі, калі каго ў магілу загоніш, дык пазнаеш!

І Мажынскі паехаў, а Донька яшчэ доўга кідаў яму ўслед:

— І лячыў, ведаеце-разумееце, і лячыць буду! Мяне гарадскія дактары навучылі. Яны больш ведаюць, чым ты. І дакумант вось далі, а ці ведаеш ты, Мажынскі, што такое санітар? Як яно гучыць — санітар! Гэта ўсё роўна што асэсар, а я і ёсць асэсар у сваёй справе! І лячыў і лячыць буду! — І Донька пайшоў пад павець, дзе трымаў на палічках свае лякарствы, ды пачаў клапатліва перастаўляць іх.

## Донька адышоў...

Усю зіму да вясны Донька, відаць, быў пад уражаннем таго, як яго напалохаў фельчар Мажынскі. Ён амаль не выходзіў з хаты, толькі аднаго разу прыйшоў да нас, калі мы ігралі «Паўлінку». Пасядзеў хмуры і толькі на развітанне сказаў:

— Гэта ж не Быкоўскі, а наш Гумоўскі з Рэпішча. Ах, каб мне жывот не балеў, я б сыграў яго, ведаеце-разумееце, лепей за вас!

Больш да вясны мы яго не бачылі. Аднойчы заўважылі, што сядзеў Даніэль у Прузыны, але непакоіць не адважыліся.

А вясной выйшаў Даніэль на прастор. Ён цэлымі днямі хадзіў па лугах, збіраючы розныя кветкі і травы, блукаў і па лесе, адкуль варочаўся з пукамі розных, толькі яму вядомых, зёлак. Не забываўся ён надзяваць сваю доўгую палатняную кашулю з чырвоным крыжам на грудзях. І гэтым нават нас, малодшых, неяк пераконваў, што ён, відаць, і сапраўды нешта ведае ў доктарскай справе. Да якой рэлігіі ён цяпер належаў, мы не ведалі, бо не хадзіў Донька ні ў царкву, ні ў касцёл. Быў заўсёды гладка паголены, нават з голаю галавою. Вось мы і думалі, што ў гэты час ён трымаецца новай веры, пра якую расказваў, прыйшоўшы з горада апошні раз.

Ці лячыў ён каго, мы не чулі, а калі лячыў, дык цішком. А сам часта скардзіўся на рэзь у жываце і казаў, што



Экспазіцыя музея П. Броўкі
ў вёсцы Пуцілкавічы.

хутка ад гэтае рэзі пазбавіцца, бо ўжывае свае лекі. А гэтымі лекамі былі проста кавалкі маладых сасонак, на якіх выступала свежая смала. Ну, такія, з якіх мы малыя рабілі ружынкі. Ён проста абглыдваў іх. Казаў, што робіцца лягчэй, хоць мы гэтага не бачылі. Ён марнеў на нашых вачах. І хоць з выгляду Донька вельмі хутка мяняўся ў горшы бок, задзёрысты дух яго не мяняўся. Ён нават прыйшоў да нас у ячэйку на ўрок палітграматы і паспрабаваў папракнуць, што мы не зусім правільна вучымся. Можа, крыху ў яго было і праўды, калі ён казаў:

— Вы як славеснасць, ведаеце-разумееце, у салдатах вучыце, а трэба пра жыццё, каб ведаць, што нам у вёсцы рабіць!..

— А як жа нам вучыцца, Даніэль?

У адказ ён толькі хітра ўсміхнуўся і не то жартуючы, не то сур'ёзна сказаў:

— Прыміце мяне ў камсамолы, тады навучу!

— Дык ты ж стары!

— Які я стары! — пакрыўдзіўся ён.

— Ну, па гадах да нас не падыходзіш.

— А хто мае гады падлічваў?

Каб не думаў Донька пра гэта сур'ёзна, нехта з нас заўважыў:

— А яшчэ ж ты веруючы!

— Гэта праўда, ведаеце-разумееце, але што гэта вам пашкодзіць? Я цяпер сам шукаю, якая вера найлепшая, а знайду, дык і вас навучу!

— Не, Даніэль, нам ніякай веры не трэба.

— А я хутка пайду ў горад, давучуся там на доктара і пра веру канчаткова, ведаеце-разумееце, пазнаю!

Але ў горад нашаму Доньку пайсці не давялося. Ён захварэў, і, відаць, моцна. Зрабіў ён цяпер сабе пад густою ялінаю ў гумне нешта падобнае на паветку, прыкрыў яловымі лапкамі і, наслаўшы сена, ляжаў цэлымі днямі. Праўда, на свае доктарскія справы ён, відаць, не забываўся, бо на палічках каля яго былі расстаўлены лякарствы ў глечыках, бутэлечках, кошычках, ва ўсялякім посудзе, які яму ўдавалася здабыць. Ён доўга не паказваўся нідзе, і мы парашылі аднойчы праведаць яго самі. Доньку цяжка было пазнаць. Ён стаў белы-белы, з сінімі кругамі пад вачыма. Мы пра гэта яму не сказалі, а сам ён, нягледзячы на хваробу, настрою быў баявога. Калі мы падахвоціліся паклікаць фельчара Мажынскага, ён рашуча быў супроць:

— Мажынскага нізавошта! Я сам ведаю болей, чым ён,

і сам вылечуся, ведаеце-разумееце,— і ён паказаў нам на сасновыя смалістыя кіёчкі, частка якіх ляжала ўжо аголеная.

Нам так і не ўдалося пераканаць Доньку, каб ён звярнуўся да фельчара. А заняўшыся сваімі справамі, мы нават і забыліся пра яго. Чулі, праўда, што нехта бачыў, як ён са свайго логава хадзіў да Прузыны, і думалі: калі так, дык справы ў яго не зусім дрэнныя.

Толькі дарма мы паспадзяваліся і пасля вельмі шкадавалі. Аднойчы, на самым золку, прывёўшы коней з начлегу, мы пайшлі сцежкаю блізка Донькавага гумна. Парашылі праведаць яго. А прыйшлі — і аслупянелі. Донька ляжаў моўчкі. Белы-белы, але як бы з нейкаю хітраватаю ўсмешкаю на вуснах.

— Даніэль! — паззвалі мы, думаючы, што ён спіць. Але адказу ніякага.

— Донька! — асмеліліся крыкнуць мацней.

Мы ўзялі яго за руку, якая трымала аловак. Рука была халодная. Побач ляжала паперка з недапісанымі радкамі. Мы прачыталі:

У лузе, у лесе
Буду хадзіць.
Буду шукаць зёлку такую,
Я ўсіх уратую,
Будзеце дзякаваць
Веле...

І на гэтым канец. Відаць, не паспеў дапісаць: «Вы Даніэля...» — як смерць прыйшла.

Мы схілілі галовы. Нам было вельмі шкода спадарожніка нашых дзіцячых год, выдумшчыка розных забаў, які хацеў уратаваць усіх людзей, а не ўратаваўся і сам.

На пахаванні Донькі было мала людзей. Айчым хацеў пахаваць яго з крыжам, але і поп, і ксёндз адмовіліся, бо не ведалі, якой ён на астанні трымаўся веры. А поп, відаць, не дараваў і тае снежнае скульптуры.

Мы правялі Доньку на могілкі. Назаўтра на невялічкім курганку з'явіўся бярозавы крыж, які паставіў айчым. А калі праз некалькі дзён мы праходзілі каля Донькавае магілы, заўважылі на крыжы дзве чорна-белыя стужачкі, якія пад ветрам разляталіся так, быццам хацелі вырвацца на прастор. Казалі, нехта бачыў, што прывязала іх Прузына. А мы глядзелі на неспакойныя стужачкі і думалі, што гэтак жа Донькава душа ўсё жыццё рвалася на прастор...

# ВЕЧНАЯ ПЛЯМА

## I

— Вось і скончылася,— уздыхнуў Ягор Плігаўка, сышоўшы з поезда на бліжэйшай ад дому станцыі. На вакзале ён нікога са знаёмых не знайшоў, не было нідзе блізка і спадарожнай машыны.— Ат,— махнуў ён рукою,— дайду! Тым больш усіх рэчаў — адзін рукзачок за спіною, падумаеш — дванцаць кіламетраў. Ды яшчэ чыстым паветрам надыхаюся, даволі ж набыўся пад зямлёй,— і ён спорнаю хадою падаўся ў свой бок.

А варочаўся Плігаўка дахаты, адбыўшы тэрмін у калоніі на Поўначы за тое, што пры немцах служыў паліцаем у сваёй жа мясцовасці. Пайшоў ён у паліцыю дзевятнаццацігадовым хлапцом. Не тое каб ужо вельмі рваўся на гэтую службу, але бачыў, што тым, хто там быў, няблага жылося: смакчы самагонку, еш колькі хочаш, а не гібей, як некаторыя, у лесе.

І цяпер Ягор спяшаўся ў сваю вёску не ў такім ужо дрэнным настроі. На ім быў ладны суконны цёмна-зялёны гарнітур, які ён прыдбаў на Поўначы за тыя невялікія грошы, што налічваліся яму за звышурочную выпрацоўку. А яшчэ меў і добрую паперку ў кішэні, у якой значылася, што працаваў без ніякіх парушэнняў і нават не раз ставіўся ў прыклад на працы. І яго бледнаваты твар, на якім ад роду каля левага вуха красаваўся нейкі сіні жучок з невялічкімі, быццам наліплымі кропінкамі не то солі, не то вугалю, расплываўся цяпер ва ўсмешцы... «Хай паспрабуюць прычапіцца... У мяне ж дакумент!.. Я сваё адбыў!.. А што служыў у паліцыі, дык хіба я такі адзін?..» Праўда, крыху непакоіла — навошта купіў сабе гарнітур гэткага колеру — цёмна-зялёнага,— могуць падумаць, што знарок пад колер нямецкі, вайсковы, але і гэтую заклапочанасць адагнаў, у савецкім жа магазіне куплены, мала што прывярзецца каму ў галаву.

І Ягор спяшаўся тою дарожкаю, якою многа разоў некалі варочаўся з прыстанцыйнага мястэчка дадому. А неўтаймаваныя думкі так і мітусіліся ў галаве, пераскокваючы з аднаго на другое: то ўспыхвалі перад ім малюнкі далёкага маленства, то тыя глыбокія шахты, у якія спу-

скаўся па Понаўчы, а то маці, якую заўсёды бачыў, як яна накрывала свежы палатняны, крыху сцюдзенаваты абрус на стол перад ядою, то Агапку, старэйшую ад яго гадамі, з якой бавіўся часамі, каб не мець клопату ад маладзейшых. Прыгадваўся і бацька — у вечаровым змроку перад абразамі, з разгорнутымі жоўтымі старонкамі бібліі. Ды больш за ўсё думкі трымаліся дзвюх падзей у мінулым яго хатнім жыцці: ці забыліся людзі, як ён адводзіў у раённую камендатуру двух невядомых, відаць, савецкіх людзей, ды — ці захаваўся той залаты крыж, што закапаў Ягор пад разлапістаю ялінаю далёка ў лесе, там, дзе хаваўся некаторы час, калі былі непярэліўкі.

Ягор ішоў палявою дарожкаю, мінаючы гаі, на самым прадвесні, і дзе-нідзе са свежага зялёнага моху ўглядаліся на яго блакітныя пралескі. Дарога была ціхая. Толькі некалькі разоў прашумелі побач палінялыя вясковыя «газікі». Але ніхто не спыніўся, відаць, ехалі незнаёмыя. Напэўна, думаў ён, шмат хто ўжо і забыўся пра яго. І гэтым ён быў нават задаволены.

Прыглядаючыся да наваколля, Ягор заўважыў, што змянілася шмат чаго так, што і не пазнаць. Панастаўлена вакол электрычных слупоў з дратамі, якія разыходзіліся ў розныя бакі, ды, як дзябёлыя маладзіцы, паглядалі з розных мясцін белыя вежы з зялёнымі хусткамі на іх, відаць, сіласныя, і вялізныя мураваныя аборы, і склады...

Павырасталі і новыя драўляныя, але найбольш мураваныя калгасніцкія дамкі побліз дарогі. Траплялася яшчэ нямала хацін і драўляных, пахілых, з паўрастанымі амаль у зямлю вокнамі. «Відаць, і наша такая?» — думаў ён.

І прыгадваўся Ягору бацькоўскі кут. І, вядома, стары бацька. Крыху прыгорблены. Рыжабароды. З вострымі, заўсёды неспакойнымі вачыма, якія, здавалася, усюды нечага шукалі. Ягор не памятае бацькі без работы. То ён у лесе, дзе прыладзіўся да лясніцтва рабіць падсочку,— там апрача невялікага заробку меў магчымасць прыараць якую дзялянку, падсочка давала яму права трымаць свайго каня; то за плугам ці бараною, а яшчэ памятае, як бацька дагляраў старых дзікіх пчол, знойдзеных ім у лясной глушы ў толькі яму вядомых дуплах, і тое, як пад восень варочаўся з лесу з цэлаю дзежкаю пчалінага мёду. Хапала яго на ўсю зіму і сабе і на продаж. У калгас бацька не пайшоў з самага пачатку.

«Што я там буду мець? — гаварыў ён маці і сыну.— А я заўсёды спосаб пражыць знайду. На свет не наробіш-

ся, а сябе, галаву меўшы, заўжды дагледзець можна. А яшчэ будзе й перамена,— бубніў ён, гартаючы парыжэлыя лісткі невядома адкуль здабытай бібліі.— Вось што гаворыць прарок Ісайя,— сказаў ён, гартаючы старонкі тае бібліі: — «Скажыце палахлівым душою: будзьце цвёрдымі, не бойцеся, вось бог наш, прыйдзе адплата, вздаянне боскае. Ён прыйдзе і ўратуе нас».

Сам стары Плігаўка, як ён неаднойчы і даказваў, умеў добра ратавацца.

«Вось ты глядзі, Ягорка,— казаў ён яшчэ сыну-падлетку.— Людзі пайшлі ў калгас, а я не... А хто жыве лепш?.. Ты сам бачыш... — І бацька, выхваляючыся, загінаў па чарзе пальцы.— Хлеб мы маем — хвакт, хвакт — хай сабе я ў лесе то там, то сям нейкі лапік узару... Яечню на свята пячэм — хвакт, ды і засквaранае, ды забеленае кожны дзень — хвакт, хвакт!.. А сена на кароўку, у лесе ж травы багата, трэба толькі ўмець яе ўзяць... Ды і мядок, як той кажа, ад кашлю і сабе і на капейчыну — хвакт!.. Вось ты і вучыся, як трэба жыць, першы нікуды не кідайся... А калі што не падабаецца — цярплівасць і цярплівасць, як кажа прарок Ісайя: будзьце цвёрдымі, гэта значыць цярплівымі, і прыйдзе вздаянне божае...»

І Ягор, уяўляючы цёплую сустрэчу з бацькамі, спяшаўся і прыбаўляў ходу. Успамінаў, як не заўсёды слухаў бацьку, і сам сабе думаў, што, можа, праз тое і пакутаваў. Бо нездарма ж бацька раіў: будзь цярплівым, не спяшайся ў паліцыянты, паслухай, што кажа прарок Ісайя, мы ж не галодныя... А Ягор, як успамінае, рашыў тады, што немцы ўжо навечна, дык якое там цярпенне, будуць і самагонка, і кілбасы, і вечарынкі ў мястэчку. Канечне, цяпер ён адчуваў, што, відаць, даў маху, але, што за смак у лесе, таксама добра ведае, пажыўшы ў зямлянцы, хаваючыся ад сваіх жа, калі вярнуліся чырвоныя.

За некалькі гадзін, што ішоў дадому, вяртаючыся з лагера, Ягор Плігаўка ўсё сваё жыццё перадумаў: думкі пераскоквалі ад адной падзеі да другое. Аднекуль здалёку даляцела да яго блямканне. Гэта, відаць, давалі сігнал на перапынак на калгаснай ферме, што віднелася непадалёк. А яму прыгадалася царква... І той крыж, залаты крыж, які цяпер чакае недзе яго ў лесе і пра які ніхто не ведае. Гэта ж цэлае багацце... Вось толькі Агапка, калі жыве, каб яна не выдала... Але ж ён запэўніў некалі яе, што той крыж адабраў у яго начальнік паліцыі Зубіла. І яна тады паве-

рыла. Уся справа да самых невялічкіх дробязей прыгадалася яму цяпер...

А было так. Недзе на другі год вайны Плігаўка быў ужо ў паліцыі. Давялося яму аднойчы стаяць на варце пры кватэры самога начальніка Каятана Зубілы, а кватараваў той у папа ў іхнім царкоўным прыходзе. Хоць прозвішча начальніка было і Зубіла, ды ўсе звалі яго найбольш «Перабіносам», бо ў яго і сапраўды нос быў перабіты і скрыўлены. Калі і чаму гэта здарылася, ніхто не ведаў, бо прыехаў Перабінос аднекуль здалёку на другі дзень, як прыйшлі немцы, і адразу пачаў лютаваць. Дык у той час, калі Ягор стаяў на варце заявіўся да папа начаваць нейкі найгалоўнейшы поп, ці то «благачынны», ці архірэй. Увечары пачалася гулянка ў папоў і Перабіноса.

Агапка, кручаная дзеўка, якая ўжо мела двух малых невядома ад каго, пакінуўшы іх на маці, служыла ў папа наймічкаю і прыслужвала ім у гэты вечар. Чуў Ягор, ды нават і бачыў праз акно, як бавіліся папы з Перабіносам. Шмат пляшак рознага колеру стаяла ў іх на стале. Спачатку яны пілі, пасля заспявалі. А наезджы, самы тоўсты з іх, нават прыўзняўся і, зацягваючы ці то боскае, ці то якое іншае, шырока размахваў рукамі, ажно матляўся ў бакі яго бліскучы залаты крыж на грудзях. Бачыў Ягор, што, ужо, відаць, перабраўшы, то адзін, то другі з іх шчыпаў, а то спрабаваў абняць Агапку, а тая пішчала, ажно шыбы звінелі. А Ягор Плігаўка злаваў. На дварэ мароз, яны п'юць, гуляюць, а тут стой, калей і на сто крокаў да хаты нікога не падпускай. Ды нічога не зробіш, такая ўжо ягоная служба, і ён мусіць калець, спадзеючыся, што, можа, сам некалі стане начальнікам. «Вось тады,— думаў ён,— і я разгарнуся дык разгарнуся!»

Пасля поўначы паволі гулянка сціхла і пачалі ўкладвацца, хто дзе мог. Ягор прыгледзеўся, што самы галоўны поп, нягледзячы што п'яны, сам распрануўся, зняў з сябе вялізны залаты крыж, паклаў яго на століку побач і прыкрыўся на ложку.

З гэтага часу крыж не даваў Ягору спакою. Гэта ж колькі ў ім золата! Во каб займець, забагацеў бы на ўсё жыццё. А што, калі рызыкнуць ды ўзяць, як поп разаспіцца? Але ж Агапка... Можа, хіба паспрабаваць яе ўгаварыць, яна ж, здаецца, раней і на яго кідала вока. А што ёй той Перабінос ці той поп стараваты? Калі ва ўсёй хаце сцішылася, Ягор рашуча падаўся на кухню да Агапкі, дзе тая яшчэ мыла посуд.

— Агапка! — сказаў ён.— Дай кроплю, а то замерзну.

— А ці ж табе можна на варце? — гулліва запыталася яна.

— А хто будзе ведаць: толькі ты ды я,— і Ягор прытуліў Агапку да грудзей. А яна і не працівілася, і паднесла кубачак гарэлкі.

Ягор выпіць-то выпіў, але не забываўся пра сваё. І калі Агапка, захмялелая ўжо, ляжала ў ягоных абдымках, пачаў нашэптваць:

— Агапка, хочаш быць багатай?..

— Чаму не, хі-хі...

— Бачыла ў чужога папа вялізны залаты крыж?

— Бачыла... Ну што?

— Вось калі б нам з табою займець яго.

— Што ты, звар'яцеў?

— Не звар'яцеў, а розум маю. Былі б у нас і добрая сяліба, і конь, і кароў столькі, што жыць ды жыць.

— Дык чаго ты хочаш?

— Прынясі ціхенька мне гэты крыж, Агапка.

— Дык мяне спаласуюць.

— Цяпі, цярпі, Агапка, як мой бацька кажа, прарок Ісайя цярпець вучыць. Затое пасля будзе нам добра...

— І ты са мною будзеш?

— Буду! — цвёрда запэўніў Ягор.

І разамлелая Агапка пад раніцу, вызваліўшыся з абдымкаў Ягора, прынесла яму велізарны залаты крыж. Яны параіліся, куды схаваць крыж. Нарэшце парашылі, і Ягор, расшпіліўшы кашулю, надзеў крыж на голае цела. Пасля ў поўнай паліцэйскай форме ён тупаў па вуліцы, ахоўваючы спакой свайго Перабіноса. За гадзіну да світання змяніў яго другі паліцэйскі, і Ягор, пайшоўшы спачываць, завітаў у адну апусцелую сялібу, дзе ўжо не было гаспадара, і ў хлеўчуку, загарнуўшы ў свой шарсцяны шалік, схаваў залаты крыж глыбока пад гной, а сам пайшоў і прылёг спачыць у казарме.

Раніцай яго паклікалі да Перабіноса. Там стаяў такі гармідар, што і не сказаць. Седзячы на тапчане на кухні, роўма раўла ўся ў сіняках Агапка.

— Дзе крыж, падавай яго сюды! — кінуўся з кулакамі да Ягора Перабінос.

Ягор, глянуўшы на Агапку і ўбачыўшы, што тая не здаецца, адказаў, нібы нічога не ведаючы:

— Які крыж?..

І Перабінос, паверыўшы ў яго невінаватасць, трэснуў кулаком па твары паліцаю, што змяніў Ягора.

— Дык гэта ты недагледзеў, нягоднік?

Доўга яшчэ ў паповым доме шукалі крыжа, ды скончылася ўсё для Ягора тым, што быў ён адпушчаны.

А ўвечары, сустрэўшыся з ім на вуліцы, Агапка шапярнула, што важны той поп паехаў, хоць і без крыжа, ды падміргнула:

— Можа, і сягоння прыйдзеш? Перабіноса не будзе...

Так Ягор стаў Агапчыным палюбоўнікам і ўладальнікам вялізнага залатога крыжа, праз які не было яму спакою і цяпер праз усе гады.

Крыху адпачыўшы ў гайку, Ягор пайшоў яшчэ шпарчэй. Мінуўшы ручай, цераз які ляжаў новы масток, і ўзняўшыся на ўзгорак, ён убачыў і сваё Любова:

— О-го!.. І тут усё змянілася!

На полі пад лесам, што звалася ў іх «у канцы шнуроў», віднелася доўгая бела-шэрая будыніна з высознаю вежаю. «Відаць, жывёлагадоўчая ці малочная ферма»,— падумаў Ягор. Спыніўшыся на самым высокім месцы, ён напружана ўглядаўся, шукаючы сваёй хаты. А як жа, стаіць! На тым самым месцы, і нават бяроза па-ранейшаму маячыць па-над страхою. «Як там бацькі?» — падумаў ён, і сэрца закалацілася. Ён выняў з кішэні пінжака шаўковую хусцінку, што прыдбаў у Магадане для маці, і складаны гаспадарчы ножык для бацькі, змайстраваны ў калоніі Ягоравым сябруком. Палюбаваўся яшчэ раз падарункамі. «Хай сабе мала,— падумаў ён,— але ўсё ж будуць старыя рады». І, павярнуўшыся наўпрост на сцяжынку цераз лужок, прыбавіў ходу.

Але, не даходзячы, можа, з якія гоні, яшчэ раз спыніўся каля дзікае грушы на ўзгорку.

«А можа, я дарма рвуся сюды?»

Можа, знайшліся тыя людзі, якіх адвозіў некалі ў камендатуру, і толькі і чакаюць, каб падпільнаваць яго? Ён жа на допыце не ўсё расказаў, як вёў іх на згубу. Адвёў — дый усё, даводзіў Плігаўка, а не прызнаўся, што тыя звалі яго ў лес, а ён адказаў — не хачу ісці да бандытаў... Не прызнаўся і ў тым, што яны спрабавалі напасці на яго, каб вызваліцца, а ён страляў па-над іх галовамі, мог і забіць катарага, такі быў у яго настрой. Ды і нямала бэсціў Ягор Савецкую ўладу, чаму іх навучалі ў паліцыі.

«А можа, павярнуць, пакуль не позна? — разважаў Ягор.— Возьмуць ды запякаюць яшчэ не дзесятку. Усё мо-

жа быць!» — ён пастаяў колькі хвілін у глыбокім роздуме. Але жаданне ўбачыцца з бацькамі ўзяло верх, і ён цвёрда і рашуча падаўся ў бок сваёй хаты.

Калі падышоў бліжэй, убачыў, што ўсе суседзі, асабліва каторыя жылі горш, нанава пабудаваліся. Светла, па-святочнаму глядзелі на вуліцу іхныя драўляныя і цагляныя дамкі. Адна хаціна Плігаўкаў стаяла за гнілым парканам воддаль ад вуліцы і яшчэ больш урасла ў зямлю. Нават калодзежны жораў ніжэй прыгнуўся і пазелянеў ад часу. Відаць, мала яго і трывожылі старыя.

На двары Ягора першая ўбачыла маці. Яна выпусціла з рук кошык, з якім некуды збіралася ісці. Як быццам ірванулася насустрач, але, разявіўшы рот, анямела і не магла ступіць ні кроку. Ягор падбег, абняў яе, пастарэлую, згорбленую, з пачырванелымі, заплаканымі вачыма, і моўчкі павёў у хату.

— А дзе тата? — запытаўся сын у маці, калі адчуў нейкую пустэчу ў хаце і асабліва тое, што не было пад абразамі, як памятаў з дзяцінства, парыжэлае кніжкі.

— Няма таткі, няма майго Сахонькі, бог забраў,— загаласіла маці і пачала завіхацца каля печы, зазваніўшы патэльняю.

— Даўно памёр? — холадна, нібы не адчуваючы і гора, запытаўся Ягор.

— Яшчэ летась на пакровы,— адказала яна.— Гарую адна.

— Ну, нічога, маці, цяпер зажывём!.. Вось табе падарунак,— і ён, выняўшы з кішэні хусцінку, завязаў на галаву старой.— А вось і яна, самая важная,— і Ягор выняў з другое кішэні акуратна складзеную паперку з пячаткаю.

У той паперцы сведчылася, што Ягор Плігаўка працаваў у калоніі добра і нават адзначаны прэміямі, а цяпер можа жыць і працаваць на волі.

— Вось бачыш, маці,— і ён з гонарам доўга трымаў дакумент перад ёю.— Што было — прайшло! Цяпер твой Ягор пойдзе ў людзі, пойдзе. Дарога яму адкрыта...

А маці, як заўважыў ён, неяк недаверліва паглядзела на тую паперку і ўздыхнула.

— Чаго ты ўздыхаеш, мама?

— Ат, ад непамыснасці...

— А больш жа яе не будзе? — сказаў сын, але, адчуўшы, што маці не верыць у ягоныя словы, устрывожыўся. Ён прыгадаў свайго аднагодка, з якім некалі рос.

— А Васіль Руткевіч дзе цяпер?

— Дык ён жа ў нас старшынёю,— неяк абыякава адказала маці, стаўляючы яечню на стол.

— А-а-а...— здзіўлена працягнуў Ягор.— Няўжо ён так узняўся?

— Узняўся, ды яшчэ як, увесь у медалях. Як прыйшоў з вайны, усё ўгору і ўгору...

Ягор паглядзеў на яечню і на пусты стол вакол яе, папытаўся:

— А ці няма ў цябе, мама, чаго-небудзь з прыправы?

Тая глыбока ўздыхнула і палезла ў куфар. Выняла літровую бутэльку самагону. Яна хацела адліць Ягору ў шклянку, але той забраў пляшку ў свае рукі:

— Не бойся!.. Цяпер навучыўся. Колькі год на норме трымалі,— і наліўшы поўную шклянку, перакуліў адразу.

— Ну, добра,— праз колькі часу, ахмялеўшы, ужо сам сабе храбрыўся Ягор.— Старшынёю Руткевіч дык Руткевіч. Хоць ён і злосны на мяне, але што цяпер можа зрабіць? Работу мусіць даць, а там я пайду і пайду... Я навучыўся цяпер!..— і Ягор падліваў і падліваў сабе ў шклянку.

Маці глядзела ды ўздыхала. Са шкадаваннем яна думала — не, не вельмі змяніўся яе Ягор. Прывык некалі, каб усё лёгка давалася, і калонія, відаць, яго не перайначыла. Уздыхала, бо ведала, як ставяцца цяпер людзі да іхняе хаты. Ніхто пасля вайны і не расчыніў да іх дзвярэй, ніхто не прывітаўся зычліва на вуліцы, як некалі перад вайною. Нават, здавалася, адварочваліся, калі праходзілі побач.

Ягор жа ўсё больш хмялеў і выхваляўся, як ён пойдзе ўгору:

— Ну, хай сабе Руткевіч прызначыць мяне простым рабочым. То гэта ж ненадоўга, людзі ўбачаць, што я ўмею працаваць, і скажуць: стаў Ягора брыгадзірам... А пасля,— і, уліўшы новую порцыю, марыў далей,— пасля і самім старшынёю выберуць... Вось пабачыш!

Але ў ружовыя мары і ўзлёты ўрывалася і трывога:

— А не чула ты нічога пра тых, што я адводзіў у камендатуру?

— Дзе ж я магла чуць, нікуды не выходзячы? Нас жа ўсе цураліся, нават і нябожчыка бацьку ўсе абыходзілі.

— Ай, тата, тата! — ужо добра захмялеўшы, закрычаў на ўсю хату Ягор.— Загубіў ты нас, татачка, загубіў!.. А дзе ягоная біблія?

— Навошта яна табе?

— Душу адвесці, мама, пачытаць хачу...

І старая выняла з куфра пажаўцелую кніжку. Ягор разгарнуў і, знайшоўшы мясціну, якую некалі бацька часта чытаў, забубніў:

— Будзь цвёрды... цвёрды... перамена... перамена... цярплівы, цярплівы... Вздаянне боскае... Вось табе вздаянне! — і, наліўшыся чырванню, ірвануў з кніжкі зашмальцаваныя лісткі; разадраў іх на дробныя шматкі, шпурнуў на хату.— Вось табе вздаянне, Ісайя! Вось табе вздаянне, Ісайя!

Маці выхапіла ў Ягора біблію, палажыла ў куфар, замкнула, пачала збіраць на падлозе пашкуматанае.

— А дзе Агапка? — успомніўшы пра крыж, крыху паспакайнеўшы, запытаўся Ягор.

— О-го! Агапка цяпер выйшла ў людзі.

— Куды яна выйшла? Можа, з'ехала! — перапытаў з надзеяй Ягор.

— Ды куды яна з'едзе? Яна ж тут уся ў золаце ходзіць.

— У золаце, кажаш? — устрывожыўся ён.— Няўжо яна знайшла той крыж?

— У золаце! Ды пры медалі.

— Ну пры медалі,— паспакайнеў ён.— А завошта ж гэта ёй?

— Ды за цялят. Цялят гадуе.

— А дзе ейныя дзеці? Яна ж казала, што ў яе двое было?

— Двое і ёсць. Хлопчык і дзяўчынка. Хлопец ужо школу скончыў, трактар водзіць. А дзяўчынка яшчэ ў школе.

— І жывуць жа людзі... Жывуць. Вось табе і перамена. Перамена...

І глытнуўшы яшчэ паўшклянкі, падняўся, хістануўся, пайшоў да ложка, плюхнуўся ў яго ва ўсім, у чым прыйшоў, нават не зняўшы чаравікаў, і захроп на ўсю хату...

Маці ўздыхнула яшчэ цяжэй, глянуўшы на сына, і зноў падумала, што няма ў ім перамены... «Што з яго будзе? — трывожылася яна.— Гэта ж і тады, дарма ён крычыць на бацьку, ніхто ж не пасылаў яго ў паліцыю. Нікуды не пасылалі, ёсці было што, хай бы сабе чакаў, што да чаго выйдзе. Нездарма ж і нябожчык Сахон казаў: цярплівы будзь! Не быў цярплівы ні да гарэлкі, ні да гуляў... Вось адпакутаваў, а што далей?.. Не даруе яму Васіль Руткевіч, не даруе... Калі дасць работу, дык не лёгкую... А як яшчэ лю-

дзі глянуць... Са мною, старою, невінаватаю, не вельмі гаворыць, а з ім...»

І яна, накрыўшы сына тонкім прасцірадлам, выйшла з хаты, усё яшчэ не перастаючы цяжка ўздыхаць.

## II

Старшыні калгаса Васілю Руткевічу першы раз за вясну выпаў вольны вечар. І ён з прыемнасцю адпачываў са сваімі меншымі Марфачкай і Андрэйкам. Яны расказвалі бацьку пра свае клопаты: неўзабаве экзамены. Пасля паглядзелі па тэлевізары невялічкую перадачу. А калі пачулі паведамленне, што ў свята Перамогі адбудзецца парад вайсковікаў і былых партызанаў у Мінску, прысталі да бацькі:

— Ты і сёлета на парад паедзеш?

— А як жа, там жа я са сваімі сябрамі сустрэнуся. Але раней адсвяткуем дома, у нас.

— Вазьмі і нас у Мінск,— прытулілася да бацькавых грудзей Марфачка.

— Гэта будзе ад вас залежаць, ад таго, што прынесяце мне са школы.

Андрэйка маўчаў. Стараўся трымацца па-даросламу. Заўсёды з павагай ён глядзеў на бацькаву параненую, без трох пальцаў, руку, якой нязручна было што-небудзь рабіць у хатняй гаспадарцы.

Васіль Руткевіч не раз расказваў дзецям пра свой асатні бой пад Берлінам, дзе мінным асколкам яго паранітала. Гаварыў і пра тое, як жылі ў лесе і як змагаліся партызаны, як ішла «рэйкавая вайна», пра якую вісеў у іх плакат на сцяне. Марфачка ласкава ўпрасіла бацьку сёння яшчэ раз расказаць пра гэтую «рэйкавую», з якой не вярнуўся іх дзядуля.

— Вы бачыце на гэтым плакаце, як крышацца, налятаючы адзін на адзін, вагоны, як полымя выбухаў асвятляе лясную ноч і пакарабачаныя рэйкі ўзлятаюць аж пад неба... Вы бачыце, як заляглі з аўтаматамі партызаны, адстрэльваючыся ад немцаў і паліцаяў. Сярод партызанаў быў і ваш дзед, і я, яшчэ тады юнак... Мы ляжалі, як вось гэтыя, што намаляваны... А дзед ваш прылёг з намі пасля таго, як падклаў міну пад рэйкі. Гэта ягоная работа, гэты выбух. Тут ён намаляваны толькі адзін, а колькі іх было на ўсёй Беларусі, дык і не злічыць. Ад Брэста ажно за Віцебск, ад Гродна ажно за Гомель калацілася ўся зямля...

Многа было парвана тады і рэек, і пакрышана вагонаў, і знішчана фрыцаў... Але былі і ў нас ахвяры. Тады ж загінуў і ваш дзед. Ён камандаваў узводам і, загадаўшы адыходзіць, застаўся прыкрываць усіх. Не паспелі мы адпаўзці і сотні крокаў, як заўважылі, што змоўк ягоны аўтамат. Вярнуліся мы ўдвух з таварышам і ўжо нежывога прынеслі яго ў лес. А цяпер вы самі ведаеце, дзе ляжыць ваш дзед са сваімі сябрамі... На помніку ярка гараць іхнія імёны. Вось у свята Перамогі мы найперш наведаем іх. А пасля запалім касцёр.

Андрэйка раптам перапыніў бацькава апавяданне:

— Тата, а з немцамі і нашы паліцаі ў гэтым баі былі?

— Якія яны ў чорта нашы, гэта ж нямецкія паслугачы. Але былі,— паправіў ён сына.

— А ў нашым сяле іх многа было?

— Ды не, усяго адзін. Такі, што ім прадаўся.

— Тата, а як яго звалі?

— Ды Ягор Плігаўка,— з агідай азваўся бацька і ўжо злосна дадаў: — Вярнуўся ж учора, адбыўшы пакаранне на Поўначы.

— А можа, ён і нашага дзеда забіў? — дапытваўся Андрэй.

— Казаў, калі дапытвалі, што не быў у гэтым баі, але чорт яму вер. Усё можа быць! — і, відаць, растрывожыўся:— Ай, досыць, дзеткі, пра гэта ўспамінаць,— і выйшаў памагаць маці, якая гатавала вячэру.

Сын напомніў Васілю Руткевічу пра Ягора Плігаўку, і яму зноў стала непамысна. Ён быў не рад, што той вярнуўся. Кожны дзень гэты невірутнік будзе нагадваць пра чорныя часіны. А можа, нават і ягоная куля абарвала бацькава жыццё. Мала што ён клянецца, нібы Перабінос пасылаў яго ў тую ноч з паперамі да раённага бургамістра.

Пасабляючы збіраць стол сваёй Настачцы, з якой пасябраваў яшчэ ў партызанах, а пасля вайны і пабраліся, Руткевіч ніяк не мог адкараскацца ад думак пра Ягора. Гэта ж трэба спаганіць так вёску. І на табе, вярнуўся! Не вярнуліся слаўныя людзі, з кім мёрз і гібеў у партызанах, а пасля прайшоў нямала франтавых дарог. А Ягор не прапаў, вярнуўся... Відаць, хутка прыйдзе прасіцца і на работу... «Ну, гад, толькі тут цябе і чакалі. Дам я табе работку, дам, але не вельмі ўзрадуешся!..»

І дзеці, і Насця, ад якой нічога не схаваеш, заўважылі, што бацька, пачуўшы пра тое, што вярнуўся былы паліцай Ягор Плігаўка, увесь вечар быў не ў гуморы...

— Плігаўка, Плігаўка... Плюгаўка — вось хто ён, Плюгаўка,— час ад часу гаварыў ён нахмураны.

Раніцаю ў праўленні Васіль Руткевіч застаў Ганну Дабрыян — птушніцу. Ён вельмі высока цаніў яе і за тое, што працавала спраўна — каторы год была амаль першаю ў раёне і не раз узнагароджаная. І яшчэ ён яе паважаў як былую партызанку, жонку аднаго з найлепшых сваіх сяброў Міколы Дабрыяна, які пасля партызанаў пайшоў на фронт і не вярнуўся. Застаўшыся на папялішчы з двума малымі, Ганна не разгубілася, а рабіла і за сябе і за Міколу. Як толькі яна трывала — дзівіліся людзі. Хадзіла за бараной і за плугам у калгасе, і з сякераю і касой упраўлялася колькі год не горш за мужчын. І новая хата з'явілася на сялібе Дабрыянаў. Не пазней, чым у другіх. Не мела каровы, затое трымала курэй і качак, хапала сабе, ды і на капейку, так што яе малыя, Марынка з Толікам, былі як трэба дагледжаны. Праўда, калі стаў старшынёю Васіль Руткевіч, ён пасабляў ёй чым мог і перавёў на птушкаферму, думаючы, што Ганне там будзе лягчэй.

— Як я бачу, ты ж майстар на птушку!..— жартаваў ён.

Так Дабрыян стала птушніцай на ферме, а неўзабаве і брыгадзірам. Але лягчэй там не было, наадварот — пабольшала клопату. Толькі яна не скардзілася. Дзеці падраслі і пасаблялі па хаце. Больш за ўсё Ганна жыла на ферме. Малыя яе там і знаходзілі, калі была якая патрэба. І хоць цяжка, але кідаць сваю працу не збіралася. Праўду казаць, то яе адзначалі ці грашоваю прэміяй, ці ўзнагародаю. І хоць шмат было куранят і курэй, якіх трэба дагледзець, ды ў Дабрыян амаль для кожнае лепшае чубаткі была ласкавая мянушка.

Непакоіла толькі адно: не хапала людзей. Раз'язджаліся маладыя, хто на вучобу ў гарады, а хто на далёкія будоўлі. Хлопцы адыходзілі ў салдаты, а дзяўчаты выходзілі замуж і адляталі. А яе гаспадарка ўсё большала, і, вядома, працы прыбаўлялася.

І вось Дабрыян прыйшла параіцца са старшынёй, што ёй рабіць.

— Ну, Ганна, што скажаш добрага? — устаўшы з-за стала і выйшаўшы насустрач, прывітаўся Руткевіч. І нейкая асаблівая цёплая ўсмешка асвятляла ягоны твар, калі ён сустракаўся з даўняю сяброўкаю.— Як жывеш, як дзеткі?..

— Ды дзеткі нічога сабе, і пра сябе не жалюся, а вось

добрага я табе, дарагі старшынька, мала скажу. Памагай, а то завалім мы сёлета нашу птушкагадоўлю. Не быць нам у перадавіках.

І яна падрабязна расказала, чаму ёй цяжка. Механізацыя ўводзіцца, але так паволі, што пагражае сарваць усе планы.

Руткевіч выслухаў Ганну і задумаўся. Потым выняў з шафы спісы, доўга перагортваў, нечага шукаў у іх і, нарэшце, сказаў:

— Памочніка, кажаш, трэба? А што, калі ты Плігаўку Ягора возьмеш?.. Ён жа з Поўначы вярнуўся.

Ганна ўспыхнула, шчокі яе пачырванелі, а вочы сталі вострыя:

— Гэтага гада ды да курэй? Ён жа іх усіх перапатрушчыць. Прывык жа ў паліцыі гусей, качак ды курэй хапаць. Як ты мог так падумаць? Яго не толькі да птушкі, наогул да нічога жывога падпускаць нельга, д'ябла гэтага. Гані ты яго адсюль, гані! Няхай ідзе пад зямлю, туды, дзе быў, сярод нас яму няма чаго рабіць.

— Ну, што ж, Ганна, я цябе разумею... Я таксама на яго вока не маю. І твой Мікола не вярнуўся, і мой бацька загінуў, можа, ад такога ж вось злыдня. Але закон ёсць закон. Ён адбыў, што яму было дадзена, і мае права на працу.

— Дык хай там і працуе пад зямлёю, дзе быў,— настойвала яна.

— У яго дакумент, што можа жыць і ў нас, ды яшчэ напісана, што добра працаваў.

— Не, лепш так абыдземся, а Ягора да сябе не вазьму,— і яна, як здалося Руткевічу, нават пакрыўджаная, пайшла за дзверы.

А Ягор, як кажуць, тут як тут. Дабрыян з дзвярэй, а ён у дзверы. Адаспаны, паголены, быццам учора і не выжлукціў літра самагонкі, з задаволенасцю на твары прывітаўся.

— Дзень добры, таварыш Руткевіч,— галасна, нібы ўзрадаваны сустрэчай, гукнуў ён на ўвесь кабінет і, хуценька выняўшы з кішэні, паклаў на стол сваю паперку.

Старшыня нават збянтэжыўся ад такое раптоўнасці. Ён адсунуў паперыну ў бок ад сябе:

— Пастой, пастой, як цябе...

І Ягор адразу адчуў яго настроенасць.

— Ты вось садзіся ды лепш раскажы, як адрабляў заробленае?

Ягор рашыў не здавацца і трымацца свайго.

— А што ж мне расказваць? — з выклікам зірнуў ён на Руткевіча.— Адбыў усё сумленна, што мне было прысуджана, вось і дакумент мой перад табою...

— Чаго тыкаешся? Як быццам мы з табою сябрукі?

— А што ж, мы разам гадаваліся і раслі...

— Раслі, ды ў розныя бакі, Ягор Плігаўка!..

— Віхура, віхура ваенная нас параскідала ў розныя бакі...

— Чаму гэта з нашага сяла толькі цябе ў другі бок?— і Руткевіч пачаў чытаць Ягораву паперку.

— А яшчэ і гарэлка, каб яна колам пайшла,— апраўдваўся Ягор.— Ды я праз яе і пры немцах нічога не бачыў.

Старшыня згарнуў Ягораву паперку і гаварыў ужо, нават злуючыся:

— Не бачыў... не бачыў... Сцежку ў партызаны не бачыў, а тую, просценька ў паліцыю, дык ты адразу знайшоў...

— А яшчэ Перабінос,— апраўдваўся Ягор,— добра, што яго прыстукнулі, мяне ўцягнуў. Казаў, ты толькі на варце пры маёй кватэры стаяць мусіш. Затое і сыты і п'яны будзеш заўсёды. Вось я і стаяў на варце.

— І нікуды не адлучаўся?

— Ды амаль нікуды...

— А хто ж гэта двух нашых людзей затрымаў і адвёў у камендатуру?

— Быў такі грэх, таварыш...

— Пачакай ты, «таварыш»,— прыкрыкнуў Руткевіч.

— Ды я ж ім нічога не зрабіў.

— Не зрабіў, а немцам здаў! А чаму ты іх не выпусціў, калі ішоў цераз лясок каля Прудзішчаў?

— Ды яны ж не прасіліся.

— Не веру я гэтаму!

— Ну, хай будзе па-вашаму: неяк казалі мне — адпусці нас тутака, дык будзе табе некалі палёгка...

— А ты не пусціў.

— Не,— схіліў галаву Ягор.— Ды, папраўдзе, я Перабіноса баяўся. Да яго дайшло б, што я вёў дарогаю двух, але не давёў... Ён жа мяне застрэліў бы. Ну, прызнаюся, збаяўся, ён жа мяне застрэліў бы,— апраўдваўся Ягор.— А так я толькі і вартаваў, таварыш...

— Ды пастой ты, «таварыш»,— не мог супакоіцца Руткевіч.— І ты ні разу не страляў, кажаш?

— Страляў, але больш з дурасці. Падпіўшы, забаўляўся, бывала, найболей па галках...

— А па людзях не?

— Не,— разгублена бубніў Ягор.

— І ў «рэйкавую», калі мы рвалі чыгунку паблізу вашае камендатуры, ты не страляў?

— Быў я, быў тады, але, верце ці не верце, страляў так, каб ні ў кога не папасці. Пускаў, як кажуць, па малако...

— Каб ні ў кога не папасці, а трох і ў нашым атрадзе забілі. І майго бацьку... Можа, і твая куля, Ягор?

— Барані бог, барані бог, павер мне, Васіль,— пачаў выціраць хусцінкаю вочы Ягор.— Клянуся табе, таварыш...

— Я твой не таварыш, Ягор! Ведай, і на ўсё жыццё ведай пра гэта!.. А працу табе, як кажа наша добрасардэчная ўлада, дам!.. На, бяры сваю паперку. Дам працу, але не такую, якую ты захацеў бы, а якую мы, сумленныя людзі, захочам: будзеш рабіць, хлеб есці будзеш. На тваю паперку!

Выправіўшы Ягора з кабінета, Руткевіч яшчэ доўга не мог заспакоіцца.«Таварыш, таварыш... знайшоўся мне таварыш»,— злосна перадражніў ён Ягора.

Аднак, што трэба прыладзіць Плігаўку на работу, ён не сумняваўся. І таму, пахадзіўшы па гаспадарцы і агледзеўшы ўсё як трэба, Руткевіч падаўся ў цялятнік да Агапкі Кляпацкай. Да яе наважыў пасланць Ягора. Хай спачатку гной папрыбірае. Самая яму работа. Ды і Агапку ён добра ведае. Побач жа былі пры немцах. У Перабіноса.

Праўда, Агапка была ўсяго служанкаю, а Ягор паліцаем. Пасля немцаў яна прыйшла працаваць у калгас, не цуралася ніякае работы, а вось ужо каля дзесяці год як на цялятніку. І працуе добра. Нават медалём «За працоўную доблесць» адзначана. Ніхто ёй і не ўспамінаў, што яна прыслугоўвала Перабіносу. Праўда, казалі, што яшчэ колькі год яна вольнічала з кім траплялася. Але падраслі дзеці — і Агапка схамянулася, паспакайнела. Нават папрыгажэла. Тое, што яна крыху патаўсцела, больш ішло да яе стану. І каб не дурная слава з мінулага, дык магло стацца, што хто-небудзь і пагаліўся б на яе.

Руткевічу ж галоўнае было, што яна стараецца і што ўсё ідзе ў яе на лад. Таму ён ставіўся да яе добразычліва,

хоць і з некаторымі кпінамі. Вось і цяпер, сустрэўшыся з ёю, старшыня папытаўся:

— Агапка!.. Табе патрэбен падсобнік на цялятніку?

— А як жа, самі ведаеце,— азвалася яна, выходзячы да старшыні з загароджы ад цялят.

— Ну, дык прымай кавалера!..

— Ай, не жартуйце, таварыш Руткевіч, досыць і без вас я ўжо насміхання начулася.

— Не, я табе сур'ёзна кажу.

— А каго? — і яна прыкрыла, як быццам ад сораму, хусцінкаю свае пачырванелыя шчокі.

— Ды Ягора Плігаўку.

— А што, ён ужо заявіўся? — здзівілася яна.

— Заявіўся! І работы просіць.

— Не, не, таварыш Руткевіч, не хачу яго, не хачу.

— А чаму? Ты ж яго добра ведаеш...

— Вось таму і не хачу. Што ён будзе ў мяне рабіць?

— Гной выграбаць.

— Работа, праўду кажучы, самая для яго. Ён жа ўмеў пры немцах усё выграбаць. Але хай цяпер выграбае дзе ў другім месцы. І так мне праз Перабіноса праходу не давалі. Забыліся. А з'явіцца Ягор — зноў пачнуць. Не хачу яго, не хачу!

Доўга Руткевіч угаворваў Агапку прыняць Ягора, і нарэшце яна здалася:

— Ну, ладна, няхай прыходзіць, але, калі нагодзіцца хто лепшы, памяняеце. Добра?

## III

Ягор крыху супакоіўся дома. Нават адчуў няёмкасць, што пры першай жа сустрэчы абразіў маці. І на другі ж дзень, прачнуўшыся ад самагоннага чаду, вінавата паглядаў на старую, якая, заварыўшы крухмалу, склейвала дробныя шматкі бацькавай бібліі. Яму нават хацелася, каб яна і выгаварыла яму, але тая маўчала, як заўсёды. Усё жыццё яна была такая. Рабіла ў хаце, на агародзе, падавала есці. Дый пры немцах ані раіла яму ісці ў паліцыю, ані адмаўляла таго. Толькі па засмучаных яе вачах Ягор бачыў, што яна асуджае яго за жорсткі ўчынак да памяці старога Сахона.

І таму, калі ён даведаўся, што Руткевіч бярэ яго на працу, хай сабе і да Агапкі, стараўся супакоіць яе:

— Ты не хвалюйся. Я ўсё сам разумею! Буду рабіць

так, што ты дрэннага пра мяне не пачуеш. Ну, парваў кніжку. Дык жа гэта я не на бацьку злаваўся, а на кніжку, што яна няправільна кажа: перамена, перамена... а яшчэ на таго Ісайю,— і Ягор адпусціў колькі блатных слоўцаў у адрас прарока.— Вось каб я яго сустрэў, гэтага Ісайю, вылупіў бы яму бараду, усю адразу...

Але, калі маці выйшла на агарод і ён застаўся адзін, сапраўды занепакоіўся, як жа ён будзе жыць? Ну, добра, пойдзе да Агапкі, а што яму там рабіць, не цялят жа глядзець, а пэўна, прыбіраць з-пад іх. Ды пад Агапчынай камандай. Хіба мог ён тады падумаць, калі абдымаўся з ёю? А цяпер яна будзе ім камандаваць... Чуў жа яшчэ, што яна і пры медалі... І раптам самае галоўнае ўстрывожыла: а яна ж можа і пра крыж успомніць і яшчэ каму данесці. Каб не прымусілі адшукаць і здаць у казну. Гэта ж такое багацце, крыж залаты!

І раптам Ягор прымае рашэнне: пакуль ісці да Агапкі, разабрацца з крыжам. Трэба знайсці яго.

У першую ж ноч ён наважыў пайсці ў лес і адкапаць залатую схованку. А знайсці яму лёгка — быў перакананы. Ён жа ляжыць недзе спакойна, пабліскваючы, загорнуты добра ў суконныя анучы, тлуста змазаныя ворванню. Ніхто ж не ведаў, дзе ён ляжыць. Нават нябожчык бацька, калі прывёў Ягора хавацца на гэтым астраўку ад чырвоных, калі выгналі немцаў. Астравок быў абкружаны вакол непралазным балотам, зарослым лазою так, што нічыя нага туды не ступала.

Памог выкапаць зямлянку, прыносіў харч і кожны раз супакойваў:

«Будзе перамена... будзе вздаянне боскае...»

А сын разумеў, што вздаянне ён можа мець толькі ад аднаго: ад залатога крыжа. Ён закапаў яго пад лазовым кустом і прыбраў тое месца зялёным і сівым мохам так, што нельга было знайсці ніякага падазронага знака.

Пяць месяцаў, аж да марозаў, адседзеў Ягор у сваёй зямлянцы, але перамены не дачакаўся. Прыходзіў бацька і таксама прыносіў сумныя весці: чырвоныя ўжо далёка загналі немцаў, ажно за Варшаву. А мароз браўся. А Ягор зарос, абпаршывеў, пазелянеў. Доўга яны меркавалі з бацькам, што рабіць. Прыходзіла Ягору і такая думка, што, можа, захапіць крыж ды шугануць куды-небудзь далёка, за мяжу. Але як туды дапнеш? Гэта ж трэба прайсці праз два франты — чырвоны і нямецкі, а цяпер і ў полі і ў лесе войска, што і ступіць некуды. Лёгка могуць забіць,

а што ўжо крыж адбяруць, дык і думаць няма чаго. І парашыў ён не чапаць свае схованкі, а пайсці і здацца. Ну, дадуць колькі год — адбыць іх, а пасля вярнуцца, адкапаць. Вось тады зажыве!..

І параіўшыся яшчэ раз з бацькам, ён, калі лес і поле прыкрыліся ўжо белымі абрусамі, а за вушы добра шчыпаў мароз, заявіўся ў раённую міліцыю і неўзабаве атрымаў ад суда належнае. А пра крыж думаў увесь час. І цяпер ён не даваў яму ні хвіліны спакою.

Вось і згадзіўся Ягор пакуль што ісці да Агапкі.

І ў першую ж ноч рушыў у сваю дарогу. Маці сказаў, што пойдзе ў госці да дзядзькі ў суседнюю вёску, а сам, схаваўшы пад пінжаком невялічкі шуфлік, рушыў у лес. Сяло ўжо спала. Ні ў адной хаце не было агню. Выйшаў ён з сяла непрыкметна. Толькі калі праходзіў каля свірна, нехта кашлянуў. Гэта, відаць, вартаўнік дзед Саўка, які заўсёды нёс гэтую службу. І ў партызанах, калі быў вартаўніком каля іхніх складоў. Ягор нават закалаціўся: а раптам заўважыў яго дзед Саўка? Адышоўшы з паўгоняў, супакоіўся. Каб заўважыў Саўка, спыніў бы. Дзед не такі, каб прапусціць. Відаць, недагледзеў. І Ягор, выйшаўшы на поле, паспяшыў як мог хутчэй да лесу.

Перад вачыма ў яго стаяў крыж. Ён уяўляў, як зараз яго знойдзе, як разбагацее, забудзецца ўсё тое, што з ім было, мінецца яно. То раптам брала трывога. А што, калі хто-небудзь з тых, каго ён адводзіў, вернецца? Тады ўжо яму не ўратавацца. Усюды ж ён гаварыў няпраўду. Калі яму даручылі іх весці, Ягор сам папрасіў, каб ім пазвязвалі рукі за спіной. Нават пасабляў скручваць іх і звязваць вяроўчынай. Вёў іх ажно дваццаць кіламетраў і, калі праходзілі праз якія гайкі, ступаў за імі крокаў на дваццаць ззаду, трымаючы вінтоўку напагатове. Адзін быў мужчына сярэдніх год, а другі яшчэ зусім юнак. Вельмі ж замардаваныя. Яны гаварылі, што ўцяклі з палону і дабіраюцца дамоў у суседнюю воласць. І ўвесь час прасіліся:

— Пусці ты нас, мы табе некалі аддзякуем.

— Ха-ха,— рагатаў ён тады,— аддзякуеце вы мне, бандыты!

— Мы не бандыты, мы простыя людзі.

— Вы ж партызаны, а партызаны і ёсць бандыты.

— Пусці нас, а то нам смерць...

— Пушчу я вас — мяне ж самога заб'юць. Ды што за размовы, зараз як пушчу вам кулю ў спіны!

— На гэта ты, відаць, майстра,— азваўся старэйшы.

— Маўчаць! — прыкрыкнуў ён тады і наставіў вінтоўку.

Так яны ішлі, спрачаючыся, часам упрошвалі яго, але Ягору абрыдла і слухаць іх. Шкада яму палонных не было. Наадварот, ён адчуваў, што пахваляць у камендатуры, а можа, яшчэ і адзначаць. І так ён тады захапіўся сваімі марамі, што і не заўважыў, як старэйшы вызваліў з вяровак рукі і крута павярнуўся да яго. Ягор ледзь здолеў ухіліцца і, адскочыўшы на колькі крокаў, секанý па ім з вінтоўкі. Палонны адскочыў, але схапіўся за правую руку, з якой цурком пацякла кроў. Так і давёў Ягор палонных да камендатуры, не даўшы зрабіць нават перавязкі, і, вядома, атрымаў падзяку. А вечарам Перабінос пачаставаў яго квартай самагонкі... Дык не можа ж быць, каб з іх хто застаўся жывы...

Падбадзёрыўшы сябе думкамі, што ніхто пра гэта не ведае, спяшаўся як хутчэй да запаветнага месца. Да таго месца яшчэ было далёка. Стары Сахон выбраў такую схову, што не так лёгка яе знайсці. А калі ўлічыць, што Ягор хадзіў тут больш дзесятка гадоў назад, ды яшчэ ўночы, рабілася нават страшнавата. Ці так ён ідзе? Павырастала гэтакае кустаўё, што, абыходзячы яго, можна было скіравацца і ў другі бок. Ён прабіраўся праз густую лазу, аступаўся ў багну, боты набраліся халоднай слізкай твані. Часам крычала спуджаная сава, а то здавалася, што недзе трэскала голле, і Ягор уздрыгваў. «Во калі мядзведзь,— калаціўся ён,— што я зраблю яму гэтым маленькім шуфлікам?» Ён ішоў, як успамінаў, па мясцінах, куды хадзіў некалі пры немцах, калі пасылалі яго разведаць, ці далёка партызаны. Нават пазнаў адну вялізарную яловую вываратнь, пад якой тады хаваўся, прыкрыўшыся мохам і дзеразою, калі пачуў здалёку людскую гамонку. Ну і пакалаціўся ж ён! А гэта ж і былі партызаны. Ён па голасу пазнаў тады дзеда Саўку, які, відаць, выводзіў сваіх сыноў з сябрамі на больш тайны, але найбольш кароткі шлях, каб хутчэй дабрацца да сяла, дзе была камендатура. Во калі б тады спаймалі — канец быў бы. Ён радаваўся, што ад суда стаіў і гэта, як хадзіў у разведку, бо каб ведалі, то далі б яшчэ больш.

Неўзабаве ён дасягнуў тое мясціны, дзе, відаць, і партызаны ніколі не былі. То прадзіраючыся праз зараснік, то пераскокваючы па куп'і, то часам проста перапаўзаючы, ён выбраўся на невялічкую выспачку, ну не больш як

метраў дзесяць ушыркі і столькі ж у даўжыню. І ўзрадаваўся. Тут ён некалі хаваўся. І тут недзе чакае яго жаданы залаты крыж, які адкрые яму цяпер дарогу ў добрае жыццё. І Ягор, забыўшыся на тое, як некалі гібеў тут і выў ад камарэчы, хутчэй кінуўся да запаветнае мясціны. Вось ён пазнаў сваю зямлянку, яна, праўда, зарасла, нават уваход цяжка знайсці. Але вось і тая мясціна, дзе ляжыць схова. І на ёй вырасла лазіна. Ягор ірвануў яе так, што разам з карэннем паляцелі ў бакі і камякі зямлі. Хутчэй за шуфлік. Капаць, капаць! Ажно пот выступіў на твары. І нарэшце — ёсць! Анучы сатлелі, і калі Ягор выхапіў іх з зямлі, рассыпаліся на попел, а крыж, запаветны крыж, быў ужо ў яго руках.

Пачало світаць. Першыя праменні, прабіўшыся праз кусты, асвятлілі крыж і Ягораў узрадаваны твар. Раптам на твар набегла засмучэнне. Зялёная цвіль укрыла крыж, і Ягора на момант працяло сумненне: а што, калі гэта не золата? І ён, не шкадуючы суконнага пінжака, скінуў яго з плеч і пачаў церці крысом. Цёр доўга, бязлітасна, і, калі крыж зноў бліснуў залацінкай у той мясціне, якую ён цёр, ад сэрца адлягло. «Гэта ж не дзіва, за столькі гадоў наліпла рознага бруду,— думаў Ягор,— і яго нялёгка будзе сцерці». І, схаваўшы крыж у сподняй кішэні, заспакоены і ўзрадаваны, паспяшаўся дахаты.

Дома, як толькі маці адхінулася з хаты, ён неадкладна ўзяўся за работу. Попелам і ў парашок натоўчанай цаглінай пачаў шараваць. Цёр датуль, пакуль крыж не заблішчаў на ўсю хату. Трэба было бачыць, як расплываўся ў шчаслівай усмешцы Ягораў твар. Цяпер варта схаваць у надзейным месцы. Ён загарнуў крыж у сухую суконку і палажыў пакуль што ў закутку на печы, а сам прылёг адпачыць.

Ягор ляжаў на ложку, і хоць быў вельмі прытомлены, але заснуць не мог. Што толькі не мроілася яму! І як ён будзе добра жыць, і куды яму трэба падацца, і якая ў яго будзе красуня жонка і нават дзеці, дзеці... Але ў галаву прыйшлі і сур'ёзныя развагі. А куды ж з ім, з тым крыжам, падзецца? Хто дасць за яго добрыя грошы? Падацца за мяжу? Не, цяпер глядзяць так, што не прадзярэшся, і спаймаюць, загінеш разам з крыжам. Самае лепшае — далёка!.. Можа, і на Поўнач... Але даволі ўжо там набыўся. І раптам яму прыгадалася, што адзін сябручок, з якім адбываў кару на Поўначы, сцвярджаў, што золата прымаюць і ў савецкім банку і што даюць за яго добрыя грошы. Трэ-

ба, відаць, і зрабіць так, але паехаць далёка, не ў сваім жа блізкім горадзе займацца гэтым. Пацікавяцца ж, адкуль у цябе крыж? І раптоўная трывога праняла ўсяго. Наогул з крыжам нельга нікуды ісці. Відавочны крадзеж! А што рабіць? Доўга думаў ён, пакуль не прыняў рашэнне: распілаваць! Не крыж ён прапануе для продажу, а вялікія кавалкі золата. Дарэчы, на ім жа нічога не напісана. Кавалкі будуць, ды ўсё! І Ягор цвёрда спыніўся на гэтым.

Здабыўшы нейкую паржавелую нажоўку, Ягор па начах узяўся за справу. А маці сказаў, што будзе майстраваць тое, што яму загадалі на ферме. Ды маці не вельмі і цікавілася, чым ён там займаецца,— шуруе, хай сабе шуруе...

А Ягор пілаваў доўга, упарта. Саржавелая, затупленая, з рэдкімі зубамі нажоўка ледзь уядалася ў метал. Пілаваў так, што крыж рабіўся гарачым і яго цяжка было, неабгорнутага, трымаць. Хоць справа ішла марудна, але Ягор спадзяваўся, што за тыдзень усё ж перапілуе крыж на кавалкі. І ніхто не пазнае, адкуль яны. Шкада было Ягору і залатога пілавіння, і ён падсцілаў пад пілку сурвэтку. А на дзень, згарнуўшы ўсё, зноў хаваў у запечку. Не выносіў з хаты, бо быў упэўнены, што ніякіх вобыскаў у яго не будзе.

## IV

Прамарудзіўшы пасля размовы са старшынёю тры дні, спаслаўшыся на хваробу, Ягор Плігаўка заявіўся нарэшце на цялятнік да Агапкі, каб узяцца за работу.

Ён пабачыў Агапку, калі яна закладала канюшыну ў адну з кармушак і пяшчотна гладзіла мышастае цялятка. Яна так была занята, што не заўважыла, калі заявіўся Ягор. А ён як угледзеў яе, дык нават прыпыніўся за слупом. Як яна змянілася! Бялявы твар і пасмы светлых валасоў, што выбіваліся з-пад блакітнае хустачкі, рабілі яе невыказна прывабнай. Прыгожы быў і стан, зграбна ахінуты белым халатам. І пастава, калі яна так міла нагнулася над цяляткамі. У яго мільганула думка, што яна яшчэ ў вельмі добрым жаночым веку і што нядрэнна было б прыстаць да яе. Але не, не!.. Ён знойдзе сабе і маладзейшую, і больш па душы... Ды нельга было доўга разважаць, і Ягор гукнуў, стараючыся вымавіць усхвалявана-радасна і пяшчотна:

— Агапка!..

А яна, ужо чуўшы пра Ягора і папярэджаная, што ён прыйдзе на работу, азірнулася і адказала абыякава:

— Ну?

— Што ну? — спрабуючы жартаваць, агрызнуўся Ягор.— Не пазнаеш, ці што?

— А калі пазнала, дык што?

— Дык гэта ж я, Ягор!

— Ягор, Ягор, адкуль цябе чорт прыпёр?

— Табе ж гаварыў Руткевіч — на работу!

— Не вельмі я цябе чакала,— сказала яна.

— Ты праўду кажаш? — ажно спахмурнеў Ягор.

— А чаму ж няпраўду? Ішоў бы ты куды ў другое месца.

— А мы ж з табою былі некалі разам,— паспрабаваў крануць памяць Ягор.

— Разам-то разам, але я з табою не хадзіла страляць па сваіх людзях.

— Ды і я не страляў,— спрабаваў апраўдацца Ягор.— Я больш вартаваў.

— Ой, не кажы, сам Перабінос гаварыў, што пасылаў цябе шукаць партызанаў у лесе. Дый калі партызаны рэйкі ўзрывалі, ты таксама на іх хадзіў. Сам Перабінос казаў!

— А ты ў Перабіноса на каленях сядзела,— ужо злосна прыкрыкнуў Ягор.

— А ты перад Перабіносам на каленях стаяў!

— Ну, досыць,— паспрабаваў спыніць спрэчку Ягор.— Ты лепш скажы, куды ты мяне паставіш?

— Скажу табе праўду, не хацела я цябе не толькі браць на работу, але і бачыць. Толькі Васіль Руткевіч настояў, а ён такі чалавек, што не магла я адмовіць яму. На работу, кажаш? Можа, ты думаеш, і я цябе за вартаўніка вазьму? Не, дудкі! Бяры вунь вілы ў рукі ды гной выграбай!.. Вось твая работа! І яшчэ скажы дзякуй, што ўзяла. І так могуць сказаць людзі, што зноў роўныя сышліся, а я не хачу гэтага чуць. Ну, чаго стаіш аслупянеўшы, бяры вілы! — загадала Агапка і знарок крутнулася ад Ягора ў другі канец цялятніка.

Узяўшы вілы, Ягор пачаў ачышчаць адно стойла за другім. Вядома, ні размова з Агапкаю, ні гэтая работа яму не падабаліся, але што зробіш? І ён, цялежка за цялежкаю, вывозіў за абору пласты гною.

Праз некаторы час Агапка прыйшла праверыць работу. І ўсё яшчэ злосная і за мінулае, і за тое, што ўпікнуў

яе сёння Перабіносам, захацела адпомсціць Ягору. А можа, чаго добрага, возьме ды ўцячэ ад яе? Было б нядрэнна! І яна, падышоўшы да Ягора, зачапіла з'едліва:

— А скажы ты мне, Перабіносаў вартаўнічок, куды ж ты крыж падзеў?

— Перабінос забраў. Перабінос, дальбог!.. Памятаеш, калі ён пабіў таго Ананю, дый табе перапала... Ён і на мяне накінуўся. Ну і забраў, вядома. Расшпіліў мундзір, надзеў пад сарочку, а куды пасля падзеўся той крыж, хіба я ведаю?..

— Так я табе і паверыла,— сказала Агапка.

І трывога, сапраўдная трывога напала на Ягора. Што цяпер рабіць?.. Яшчэ, чаго добрага, дакажа, прыйдуць з вобыскам і знойдуць крыж. Што тады будзе? І ён намерыўся, як вернецца сёння з работы, перахаваць яго. Дзён за колькі дапілуе і хутчэй завязе ў горад... І, як чуў ён яшчэ ў калоніі, там дадуць за золата нямала грошай.

Варочаўся Ягор з работы хоць і ўсхваляваны, але і задаволены. Калі праходзіў каля Дабрыянавай сялібы, здзівіўся. За гародчыкам з квітучым бэзам і язьмінам стаяла пабеленая мураванка, з расчыненым балконам на другім паверсе... Адтуль неслася музыка ці то з патэфона, ці то з уключанага радыё... «Ого,— падумаў Ягор,— гэта ж Ганна Дабрыян з дзецьмі так адбудавалася... А я іду з работы ў пахілую, пагорбленую хаціну, горш за якую цяпер, відаць, і няма ў сяле...» Зацікавіў яго і другі акуратны драўляны дамок, смаляныя сцены якога прывабна выглядалі з-за штыкетніка, пафарбаванага ў зялёны колер. А кветак, кветак колькі перад вокнамі, дый садок за дамком...

— А гэта хата чыя? — спытаўся ў незнаёмага хлапчука.

— Ды цёткі Агапкі,— неяк нехаця адказаў той. І павярнуўся крута назад, пабег да школы, дзе яго чакаў гурт хлапчукоў і дзяўчынак. Неўзабаве адтуль пачулася з'едлівая песенька:

Паліцай, паліцай —
Самагонка, чарка,—

пачыналі хлапчукі.

Паліцай, паліцай —
Нямецкая аўчарка,—

падхоплівалі дзяўчынкі ды паўтаралі песню ўжо разам.

Непамысна стала. Ён ведаў, што гэта спяваюць пра яго.

Ды што зробіш, трэба маўчаць. І ад таго, што так прыгожа выглядалі новыя дамы на сяле, і ад таго, што ідзе ён у свой занядбаны куток, рабілася вельмі горка. «Сам вінаваты, сам,— цвярдзіў ён... Але тут жа і суцяшаў сябе: — Затое застаўся жывы. А дзе цяпер Дабрыян?.. Ляжыць недзе на чужыне...» А вось ён, Ягор, пераджыве гэтае ліхалецце — і Агапчыны здзекі, і дзіцячыя кпіны. Адбудуецца як належыць і зажыве. А яшчэ ёсць у яго крыж, чаго няма ў другіх... Збудзе, атрымае грошы і панакупляе ў новы дом і ложкі, і канапу, яшчэ лепшую, чым у Перабіноса была. І люстра. Люстра вялізнае. І возьме маладую жонку, высокую, прыгожую, не раўню нашым, можа, прывязе з самога горада, і будуць яны глядзецца ў сваё вялізарнае люстра вясёлыя, шчаслівыя... Не толькі патэфон, а нават радыё купіць. Хай яму зайздросцяць! Ён знарок пазаве тады ў сваю хату ўсіх, хай паглядзяць, як ён жыве. Толькі Агапку і на парог не пусціць.

Але вясёламу настрою давялося змяніцца, калі ўзышоў на свой панадворак і запахла зялёнаю гніллю адусюль, а пагоршаў настрой яшчэ больш, калі маўклівая, пахмурная маці паставіла перад ім гаршчок зваранае бульбы — і больш нічога.

— А сала? — запытаў Ягор.

— Адкуль жа я табе вазьму сала? — адказала маці.— Ты ж чуеш, у нашым хляве не пішчыць і не мычыць. Гора наша, гора...— і яна выцерла ражком хусткі заплаканыя вочы.

Ягору нічога не заставалася, як есці нішчымную бульбу і ўздыхаць, успамінаючы бацьку. Вось яно, вздаянне боскае... І злосць, злосць на ўсіх паднялася ў яго грудзях. Але і практычныя развагі прыходзілі ў галаву: нічога не зробіш, трэба ісці да Васіля Руткевіча, можа, дасць якога авансу, ды прыкупіць крыху скораму ў магазіне. Хоць і не хочацца ісці да Руткевіча, але да каго ж пойдзеш? Хіба да тых, што, можа, рагочуць цяпер ад задавальнення, пачуўшы ад сваіх дзетак тыя з'едлівыя кпіны: «Паліцай! Паліцай!..» — якія проста стралою навылёт прабілі ягоныя грудзі.

Ноччу, калі ўсё сяло спала, ён, каб праверыць, ці змоўчала Агапка, знайшоў новую схованку свайму крыжу. Зноў загарнуўшы ў анучу, ён схаваў яго пад жорнавы камень перад ганкам, стараючыся, каб не засталося ніякага следу, што камень быў зрушаны з месца.

— Хто можа падумаць, што хаваецца тут перад самым

ганкам што-небудзь? Няма такіх дурных...— і ён, разраўняўшы нават патрывожаную мураву навокал каменя, вырашыў, што цяпер хвалявацца няма чаго.

## V

Прайшло тры месяцы з таго часу, як Ягор Плігаўка вярнуўся дадому і пачаў працаваць. Нельга сказаць, што быў ён усім задаволены, але прыйшло нейкае заспакаенне. І хоць у людскіх вачах ён усё яшчэ адчуваў ледзяны бляск і насміханне ад дзяцей, а ўсё ж жыць яму стала лепш. Займеўшы пастаянны заробак, цяпер ён з маці не садзіўся за стол без закрасы. Была часамі і скварка, а што кварта малака, дык кожны дзень. Дый хату ён збольшага агледзеў: прыкрыў свежымі драніцамі дзіркі ў страсе, выкінуў пазатыканыя анучы і зашкліў вокны, прыбраў ад ламачча двор і нават пасыпаў жоўценькім пясочкам сцежку ад веснічак да ганка. Дарэчы, гэты пясок спатрэбіўся яму яшчэ і для таго, каб камень ля ганка захоўваў ад людскога вока тое, што Ягор там захаваў, бо збіраўся хутка зноў узяцца за пілаванне. Агапка, відаць, маўчала. Ніхто і не думаў рабіць нейкія вобыскі.

Заспакаенне прыйшло да Ягора, але яшчэ не зусім. Зайздрасць не давала яму спакою. Асабліва да Васіля Руткевіча. Гэта ж трэба — такі паважаны стаў чалавек! А разам жа некалі ганялі на пасту, разам у біткі гулялі, вацёлку качалі... Ды вось на табе, вузнаянне боскае — Васіль на машыне ездзіць, апранецца ў свята ды начэпіць ордэны,— няйнакш генерал які, і хто ні сустрэнецца: «Дзень добры, таварыш Руткевіч! Дзень добры!..» А з ім, Ягорам, зусім не вітаюцца. Нават Агапка не пажартуе. І не ўспомніць, што некалі зналіся. І таксама медаль на грудзях. А Ганна Дабрыян як прыбярэцца, дык лепей за якую гарадскую. Ну, але гэта жанчыны, што яны значаць? А вось Руткевіч — тут ёсць чаму пазайздросціць. Гэта ж як яго віншавалі пасля жніва на калгасным двары каля клуба. Там, дзе некалі быў панскі двор. Колькі было народу! А дзяўчат, дзяўчат, а ўсе прыбраныя, ды з вянкамі з каласоў пшанічных і жытніх, перавітых палявымі кветкамі, а ў сярэдзіне натоўпу камбайнеры, трактарысты, а ў іхнім кружку і сам Васіль Руткевіч пры ўсіх ордэнах, і вайсковых і мірных. Ах, як зайздросна блішчалі яговыя грудзі для Ягора Плігаўкі, які нават баяўся падыходзіць,

а наглядаў здалёку, насунуўшы кепку на вочы, каб не бачыць, як непрыязна паглядаюць на яго людзі.

А пасля грымнуў аркестр. Духавы. На ўсё наваколле. А трубы блішчалі на сонцы так, што нават залаціліся твары музыкантаў, тых вясковых хлапцоў, што ён ведаў яшчэ малымі. А пасля прыйшла Ганна Дабрыян з сяброўкамі і падала камбайнерам хлеб-соль. А дзяўчаты панадзявалі на іх вянкі з каласамі, а самы вялізарны вянок — на старшыню Васіля Руткевіча... А потым песні. А потым — танцы, перш на двары, а потым у клубе... Ягор не ўтрымаўся і пайшоў, хоць ззаду, услед за ўсімі.

У той вечар вечарынка была ў поўным разгары. Відаць, ведалі пра любоўскае святкаванне ў наваколлі, бо прыйшло на вечарынку шмат хлапцоў і дзяўчат Ягору і не знаёмых. Ён зашыўся за старымі ў кутку і зайздросна пазіраў адтуль, як танцавалі маладыя і як яны забаўляліся. Многа новага ў цяперашніх гульнях пабачыў Ягор. Тут была і віктарына, і яго дзівіла, што маладыя вельмі лёгка адказвалі на розныя пытанні, якія ён чуў упершыню: і гулялі, як некалі, і ў фанты. А калі спявалі, дык было проста непамысна, бо спявалі часта песні з ваенных год, вострыя словы з якіх білі проста па ім.

Але паволі ён прыцерпеўся і праз некаторы час выпаўз са свайго закутка наперад. Цяжка было сядзець аднаму, хацелася таксама паскакаць. Гэта ж маладосць яго прайшла ў калоніі, дзе не да скокаў было. А тут танцы мяняліся адзін за другім. І ўсе скакалі. Толькі заўважыў Ягор, што дзяўчат і жанчын было куды больш, чымся хлапцоў, і таму некаторыя сядзелі засмучаныя моўчкі, хоць і ім, як і яму, відаць, хацелася пусціцца ў круг.

Доўга вагаўся Ягор. Нарэшце адважыўся і падышоў да Агапкі.

— Агапка,— папрасіў ён як мог ласкава,— можа, пройдземся з табою?..

— Ногі баляць,— сказала яна і адвярнулася.

Добра, што ніхто не заўважыў. Ягор адышоўся і прысеў у новым месцы, каля дзвюх незнаёмых дзяўчат, якія прыйшлі знекуль. Адна чарнявенькая, зграбная, толькі з васпяным тварыкам, хутка і загаварыла з ім. Відаць, і ёй хацелася патанцаваць, ды не было нікога да пары. Слова за слова, пажартавалі. Ягор пачуў, што завуць яе ласкава — Волечка.

— А нас дык і не бяруць, Волечка! — сказала сяброў-

ка Волечкі, тоўстая дзяўчына з чырвоным тварам. Ягор павагаўся і нарэшце запрасіў Волечку на вальс.

Ах, як добра яму было! Ён кружыўся, лёгка абдымаючы Волечку ў танцы, і забыўся на ўсё: і на Перабіноса, і на калонію, і на крыж. Здавалася, нічога на свеце не было прыгажэйшага і даражэйшага. Тае ж ночы ён праводзіў Волечку з сяброўкаю ажно за дзесяць кіламетраў. Дарога была лясная, і, можа, таму яны пагадзіліся, каб іх праводзіў Ягор. Ледзь прыкметнае світанне кранала верхавіння ялін і сосен. Лёгкі ветрык павяваў з усходу. І на душы было па-асабліваму свежа і радасна. Сяброўкі не пыталіся ў Ягора, хто ён такі, бо на ўсю акругу было вядома, што любоўцы добрыя людзі. Былі ж дзве сяброўкі ў гэтым сяле на вечарынцы першы раз і лічылі, што нязручна распытваць кавалера, хто ён такі. Ды каб і пыталіся, не вельмі б лёгка пайшоў Ягор на шчыры расказ. Затое ён не траціў часу і за дарогу даведаўся, што Волечцы васемнаццаць год, што скончыла яна восем класаў, а цяпер працуе ў калгасе ў палявой брыгадзе. А сяброўку яе завуць Барбарай. Волечка была гаваркая, расказвала і пра тое, што жыве з бабкаю, а бацькоў няма — загінулі. Гэта занепакоіла Ягора, падумаў, калі даведаецца, хто ён,— адкаснецца ад яго. А ён парашыў працягваць знаёмства з Волечкай. Тым больш што яна і сама як быццам намякнула на гэта.

— Ах, каб вы бачылі, якая ў мяне бабулька добрая! — гаварыла Волечка.— А якія яна смачныя дранікі пячэ... а бабку... а клёцкі з душамі...

— Сціхні ўжо! — перабіла яе Барбара, мабыць, злуючыся, што Ягор яе як бы і не заўважаў.

У канцы лесу, калі здалёк сталі віднецца стрэхі Лагоў, дзе жылі сяброўкі, яны развіталіся, і Ягор падаўся дахаты. Ён ішоў і думаў пра Волечку. «Васпаваценькая, але ладная. Маладзейшая за яго намнога. Але што з таго? Жэняцца яшчэ на больш маладых. А што яна з бракам, дык і ён жа з бракам. Ды яшчэ з якім, што нават боязна, калі яна даведаецца. І жучок ад роду каля вуха, ды і ногі крыху крываватыя, нездарма ж малога яго «кавалерыстам» дражнілі. А хіба ён такі ўжо брыдкі? — і выняўшы маленькае люстэрачка, прыгледзеўся: твар яго пасля калоніі пасвятлеў, праўда, яшчэ заставалася крыху «рабаціння» ад доўгае працы пад зямлёю.— Ды і ў яе ж твар не масляны!.. Вось толькі каб не ўзяла яна на роздум таго, кім ён быў, тым больш што яе бацькі загінулі». І тут зноў агарнула трывога. І пачало Ягору мроіцца, што ўсё цяпер

супраць яго. Нават драч, які перад світаннем драў свой голас — нібы дзёр анучы. Або як бы крычаў: паліцай, паліцай!..

Дома Ягор заваліўся спаць, і ўся трывога мінула. Дзень быў святочны. Пачаў папраўляць рассохлую шафу, куфар, чамусьці звязваючы гэтую работу з Волечкай, якая не выходзіла ўжо з яго галавы. А надышла ноч — зноўку ўзяўся за крыж, бо пераканаўся, што ніхто нічога пра яго не ведае, а час ідзе, і трэба спяшацца. Абрыдла жыць аднаму. Цяжка і сумна. Вось распілуе, падасца ў горад, здасць золата. Будуць грошы. Будзе і Волечка!

## VI

Настрой у Ягора ад таго, што ён намерыўся пасватацца да Волечкі, увесь час падымаўся. Калі яны пабяруцца, меркаваў ён, дык пяройдзе жыць да Волечкі ў Лагі. Можа, не так яму будуць дапякаць пра мінулае. Усё ж гэта аж кіламетраў дзесяць ці ўсіх дванаццаць ад Любова. А што ў яе бабка, дык то ж і добра: будзе весці гаспадарку ў хаце. А маці застанецца тут. Час ад часу наведаюцца да яе ў госці. І ён ужо ўяўляў, як з Волечкай будуць яны раскашаваць ажно на дзве сядзібы.

Але ўсё ішло сваім парадкам і часта наўпярок таму, што Ягор думаў. Захварэла маці, злягла. І ўжо каторы дзень не ўставала з ложка. Ягор хацеў прывезці доктара, ды яна пярэчыла:

— Нічога ўжо мне не паможа, сынок. Цяжка мне цябе пакідаць аднаго, але воля божая... Папрашу я цябе, не рві і не выкідай ты бацькавай кніжкі. Што я яму скажу, калі там сустрэнемся?

— А навошта гэтая кніжка яму маніла: перамена... перамена?.. Вось якая яна вам, перамена!..

— Не, сынок, ты сам зрабіў сабе перамену. Ні бацька, ні я не казалі табе, каб ты ішоў туды, куды пайшоў.

— Але ж гэтая кніжка мяне ачмурыла.

— Цяжка мне, але праўду скажу: не кніжка, а гарэлка цябе ачмурыла. Добра, што жывы яшчэ. Усё ж не застанецца пустая бацькава хата.

Ягор слухаў маці моўчкі, хоць і хацелася не згадзіцца, бо і бацькі вінаватыя, што не пайшлі ў калгас разам з усімі.

А маці, відаць, добра адчуваючы свой нядоўгі век, ужо слабым голасам настаўляла:

— Жапіся ты, сынок, на добрай жанчыне жаніся. Табе спраўная гаспадыня патрэбна...

І хоць у Ягора было на душы сваё, усё ж папытаўся, каго раіць яму маці.

— А дзе ж я знайду спраўную?.. І хто за мяне пойдзе, за такога?

— Ёсць, ёсць спраўныя. І яна побач цябе жыве. Нічога, што гадамі старэйшая. Але калі паглядзець на яе, дык яна яшчэ і якой дзяўчыне не ўступіць.

— Пра каго ты гаворыш?

— Ды пра Ганну Дабрыяніху. Лепшай не знойдзеш.

— А ў яе ж ужо дзеці вялікія.

— Я і кажу, дзяўчына ўжо на выданні, вось-вось пакіне хату. А хлопец канчае вучыцца, таксама тут не затрымаецца...

І хоць Ягор у гэты час быў думкай з Волечкай, ёй не хацеў пярэчыць:

— Ладна, падумаю!..

Пакінуўшы старую з яе нялёгкімі развагамі, сам ён зноў падаўся да свайго пілавання. Позна гэтае начы ў бакоўцы націрав ён над крыжам мазалі. І калі ўжо засталося нейкае каліва работы, каб другі кавалак крыжа адваліўся, пачуў, як прарэзліва ўскрыкнула маці.

Ён пабег да ложка.

— Маці!.. Маці!..— гукаў Ягор, але яна нічога ўжо не чула. Ён стаяў над ёю, апусціўшы галаву, і бачыў, як сутаргава яна ўздрыгнула і як змоўклі яе пабялелыя вусны.

Ягор стаяў некаторы час аслупянеўшы. Што цяпер рабіць? Куды кінуцца? Але чаго ж стаяць, усё роўна нічым не дапаможа, а трэба ж яму і самому жыць. І, успомніўшы пра Волечку, ірвануўся ў бакоўку, націснуў на крыж так, што адваліўся і другі кавалак.

— Цяпер парадак!..— міжволі гукнуў ён і, загарнуўшы кавалкі золата ў добрую анучыну, выбег і схаваў пад камень.

Праз дзень Ягор пахаваў маці. Хоць на Ягора і глядзелі коса, але прыйшлі дзве жанчыны, равесніцы старой, і памаглі хаваць. Так, утраіх, іх дзве і Ягор, і праводзілі нябожчыцу на могільнік. А з могільніка вярнуўся адзін. Ніхто да яго не прыйшоў, каб разам падзяліць няшчасце. З гора, а яшчэ са злосці, што ўсе цураюцца яго, выпіў Ягор у той дзень ажно з літр гарэлкі ды заваліўся

спаць. І спаў як забіты, і канец дня і ўсю ноч, аж да новага рання.

А раніцою спахапіўся. Трэба ж жыць і нешта думаць. Бягом на работу да Агапкі, а пасля да старшыні Руткевіча. Адпрасіўся на колькі дзён з'ездзіць да цёткі аж пад Оршу, каб памагла яму, адзінокаму, на першым часе. А можа, і сама зусім пераедзе да яго.

Атрымаўшы дазвол, пачаў рыхтавацца да сваёй запаветнай паездкі. Перш-наперш вырашыў неадкладна зрабіць парадак з крыжам.

У дарогу Ягор збіраўся дасканала. Самае галоўнае, куды схаваць кавалкі золата, каб не згубіць, а галоўнае, каб іх не ўкралі? Выцягнуўшы з хатняй старызны даўнейшую самаробную фанерную скрынку, ці чамаданік, як зваў яго бацька, Ягор спыніўся на ім. Хто на такі пагаліцца? Цяпер нават самы бяднейшы чалавек пасаромеецца ехаць з такім у людзі. Ягор паклаў туды хлеба, кавалак сала, дзесятак звараных яек. Паспрабаваў сваё багацце, загорнутае ў анучку, засунуць пад спод харчу, але, падумаўшы, збаяўся. Мала чаго ў дарозе. Пабачыць хто, як ён вымае адтуль сваю яду, яшчэ пагаліцца — і тады ўсё. Не, ён захавае сваё багацце старым дзедаўскім праверанымі спосабам: пашыўшы са старога мульту адмысловы мяшэчак з матузамі, пачапіў яго цераз шыю на грудзі. Вось так больш надзейна.

І раніцаю, на ўсходзе сонца, выправіўся ў дарогу. Ішоў ён з дзяцінства ходжанаю дарогаю да свайго райцэнтра крыху ўсхваляваны: што будзе з тым абменам золата на грошы? Не, усё будзе добра! Ён вернецца з паходу і адразу ж да Волечкі! І зажывуць яны сабе на радасць, а людзям на зайздрасць. Перш-наперш пабудуюцца, і ён, ідучы, уважна прыглядаўся да новых хат: на якой лепш спыніцца? Нават уяўляў, што на ўтульным дворыку, гародчыку бегаюць ужо яго і Волеччыны дзеткі. Час пройдзе, і ніхто не ўспомніць, кім быў іхні татка.

Але пад поўдзень, падыходзячы да раённага гарадка, зноў занепакоіўся. А што, калі пайсці тут у банк і прапанаваць золата? Павінны ўзяць, павінны! І грошы даць мусяць! На нейкі час ён так сябе настроіў на гэта, што ледзь не ўзышоў на ганак раённага банка, але схамянуўся. А што, калі спытаюць, адкуль узяў? Ды, можа, прымаць будзе такі, што быў у партызанах і пра яго ведае. Не, не — крута павярнуў Ягор да станцыі.

Поезд на Оршу адыходзіў хутка, і ён, купіўшы білет,

сядзеў ужо ў купэ вагона і размаўляў з пасажырам-спадарожнікам. Высветлілася, што спадарожнік працуе ў Оршы на льнокамбінаце слесарам, а ездзіў да сваякоў на вёску. Мала пра сябе гаварыў і Ягор. Калі прыйшла пара перакусіць, суседзі, аб'яднаўшы свае запасы, узяліся за яду. Спадарожнік Ягораў, Архіп Патапеня, выняў тое, што неўзабаве ажывіла іхнюю гаворку. Чарка за чаркай — і Архіп запрасіў Ягора да сябе начаваць. Дзе ён там у Оршы будзе бадзяцца, а ў яго халасцяцкая кватэра. Таксама думае жаніцца. Ягор не ўтрываў, расказаў пра Волечку. Аднак таго, кім ён быў пры немцах і што адбыў калонію, не расказваў. Тым больш не сказаў пра тое, чаго едзе ў Оршу, а зманіў, што хоча знайсці сабе працу. І быў вельмі задаволены, што не паклаў свайго багацця ў скрынку, з прыемнасцю адчуваючы, як ягоны запаветны мяшэчак пры малейшым руху, як жывы, варушыцца ля сэрца.

Архіп спадабаўся Ягору сваёй шчырай гаворкаю. Даўно ўжо так адкрыта з Ягорам ніхто не гаварыў. Ды, відаць, і душа ў яго была шырокая: першы выняў сваю паўлітроўку. Праўда, закусваць у яго не было чым, апрача цыбуліны ды кавалка чэрствага хлеба, давялося раскашэліцца Ягору.

У Оршу прыехалі позна. Ягор быў рады, што пазнаёміўся з Архіпам. Тыя ўстановы, куды ён імкнуўся, цяпер пазакрываны. Куды б яму падацца начаваць? Відаць, давялося б гібець цалюткую ноч на вакзале. А так вось ён ідзе з новым сябрам на ягоную кватэру, і, калі той сказаў, што не шкодзіла б чаго прыхапіць з сабою, Ягор без асаблівага вагання па дарозе заскочыў у магазін і купіў цэлы літр. У кішэні яшчэ заставалася дваццацьпятка, а гэтага павінна было хапіць дахаты. А там, і ён шчасліва ўздыхаў, не будзе ён лічыцца з дробнымі паперкамі.

Архіп прывёў Ягора ў пахілы барак на ўскраіне горада. Там, у канцы паўцьмянага калідора, шчоўкнуўшы нейкаю адмычкаю, прывёў яго ў сваю кватэру. А кватэра Архіпава была з аднаго пакоя — няўтульнага і неприбранага. З мэблі ўсяго адзін ложак, засланы старою шэраю дзяружкаю, столік, дзве табурэткі. На століку стаялі пустая бутэлька, дзве шклянкі, ляжала зачарсцвелая луста хлеба і недаедзены салёны агурок.

— Як бачыш, кватэра ў мяне халасцяцкая, як табе і казаў,— спрабаваў жартаваць Архіп.— Але нічога, пера-

начуеш, усё не на вуліцы. А пакуль што — давай па адной!..

І яны распачалі сваю сяброўскую вячэру, прыладзіўшыся каля Ягоравага расчыненага куфэрка і новай паўлітроўкі. А калі за сяброўскаю гаворкаю скончылі і другую, рухнулі, не распранаючыся, удвух на ложак.

Калі ранічкаю Ягор прачнууся, Архіпа ўжо не было. «Мабыць, пайшоў на работу,— падумаў ён.— Мала што ён казаў, што ў адпачынку. А можа, пайшоў за новым падмацаваннем, не паслухаў яго, што ён раніцай будзе заняты,— а ў яго ж клопат». Адчууўшы, што мяшэчак па-ранейшаму муляе на грудзях, супакоіўся. Але калі мацнуў кішэню, аж закалаціўся: не было дваццацьпяткі... Апошняя дваццацьпятка!.. Што ён цяпер будзе рабіць? Няўжо сцібрыў Архіп? Не, быць не можа, відаць, купіць бутэльку і прынясе рэшту...

І Ягор чакаў доўга. Ужо і сонца ўзнялося амаль пад поўдзень, і магазіны, відаць, адкрыліся, а Архіпа не было. Захацелася есці. Даеў тыя кавалкі, што валяліся на стале, а куфэрак ягоны паглядаў на гаспадара пусты, расчынены, нібы і сам разявіў галодны рот. Спачатку Ягор чакаў цярпліва, пасля пачаў усё часцей паглядаць у акно і нервова хадзіць па хаце, адчыняць у калідор дзверы. Няма і няма. А калі сонца ўзнялося аж вышэй за заводскі комін, выйшаў у калідор. Сустрэў нейкага старэнькага і запытаўся, дзе можа быць Архіп.

— Э-эт, сынок!..— нібы жартуючы, нібы насмешліва адказаў той, [redacted] сам запытаўся: — А навошта табе ён?

Ягор мусіў расказаць, як сустрэліся ў дарозе, як начавалі. І як некуды той пайшоў.

— А ты і не чакай яго,— сур'ёзна заявіў дзед.

— Як гэта? — устрывожыўся Ягор.

— А таму, што ён нідзе і не працуе...

— Як гэта?

— А так, што яго прагналі за п'янства, за гультайства ды, як кажуць, за дармаедства...

— А чый жа гэта пакой?

— Быў ягоны!

— Як быў?

— А так, што ўчора прыходзілі з завода выкінуць ягоныя шмуткі. Ды, відаць, дома не засталі.

— Ай-яй! — узяўся за галаву Ягор.

І дзед ужо спагадліва запытаў:

— А што ён, узяў у цябе што-небудзь?

— Апошнюю дваццацьпятку...

— Ну, дык я ж табе цвёрда скажу: і не чакай. Пакуль ён не рашыць твае дваццацьпяткі, не вернецца. А можа, і не прыйдзе зусім, у яго ж у кватэры, відаць, нічога няма. І нам ён, суседзям, абрыдзеў. І ў нас пацягнуў нямала. Толькі і пільнуй. Навошта іх выпускаюць гэтакіх?

— А што, ён сядзеў?

— Ды, відаць, і не адзін раз,— сказаў ужо злосна дзед, моцна грукнуўшы за сабой дзвярмі.

Ягор аж знепрытомнеў ад такіх навін. Ледзь дацягнуўся да таго Архіпавага ложка. Доўга ляжаў, заплюшчыўшы вочы, і гадаў, што рабіць: чакаць ці не чакаць? А час ішоў, і сонца, стаўшы амаль на поўдні, падагнала. Пройдзе дзень, установы закрыюцца, а тады рабі што хочаш. Адзін мяшэчак у яго на грудзях заспакойваў. Ён зняў мяшэчак, пералажыў у кішэню. «Вось зараз пайду, здам,— думаў Ягор,— будуць у мяне грошыкі... Чорт з табою тады, Архіп. Не прыйду да цябе, бандзюга... Яшчэ абдзярэш зусім як ліпку»,— і ён, у гневе, расчыніўшы шырока дзверы, выйшаў на двор.

Праз якую гадзіну быў у цэнтры горада. Мог трапіць і раней, але нават на аўтобусны білет не меў. Кленучы свайго сабутэльніка, скіраваў да раённага аддзялення Дзяржбанка.

Ягор падышоў да дзвярэй, але зайсці адразу не адважыўся. «Яшчэ адбяруць, чаго добрага, мала што могуць падумаць?» — разважаў ён і адыходзіў на колькі кварталаў. Пасля варочаўся. І так некалькі разоў. Нарэшце адважыўся, рашуча тузануў ручку і ўвайшоў з такім выглядам, як быццам ён тутэйшы, гарадскі, якому такая ўстанова і не дзіва.

За шкляною перагародкаю сядзелі супрацоўнікі, мужчыны і жанчыны, добра апраненыя. Ды і не дзіва. Столькі было за шклом касаў і шафаў, у якіх, думаў ён, поўна грошай. Гэта нават ашаламіла Ягора на момант, і ён не адразу звярнуўся са сваёй прапановаю. Але калі з аконца адна жанчына ўважліва запытала, што яму патрэбна, ён, зрабіўшы выгляд, што нічога яго не здзіўляе, сказаў:

— Я прапаную вам золата. Хачу здаць!

— А дзе яно ў вас?

— Вось тут,— і Ягор выняў з кішэні падрыхтаваны раней адзін кавалак.

— Ну, што ж, давайце праверу,— сказала яна і пача-

ла ўважліва разглядаць. Доўга прыглядалася так, а пасля цераз лупу.

— Так, так, так,— бубніла сабе пад нос касірка.— А дзе вы яго ўзялі?

«Ну вось, пачынаецца»,— падумаў Ягор, і калені яго міжволі задрыжалі. Але прымусіў сябе адказаць спакойна:

— Яшчэ прадзедаўскае!

— А багаты ваш прадзед быў?

— Ды не!

— Адкуль жа яму так пашанцавала?

— Ды яшчэ з турэцкае вайны прынёс. Казаў, са Стамбула... Так казаў майму бацьку, а бацька мне...

— Так, так, так...— працягвала бубніць касірка, а пасля рашуча вярнула кавалак яму.— Можаце забраць! Гэта не золата.

— Як гэта не золата? — ажно ўскрыкнуў Ягор.

— А так што яно штучнае! Вы нас не ашукаеце, грамадзянін.

Ягор колькі хвілін стаяў анямелы. Такі цяжкі ўдар ён адчуў толькі адзін раз: калі абвяшчалі яму прысуд. І ў гэты час балюча мільганула ў думках і ягоная служба ў паліцыі: гэта ж трэба так памыліцца! Як вострае лязо, працяла сэрца зайздрасць да Васіля Руткевіча. Вось якім на добры лад мог бы быць ён. І тая невялічкая Волечка паказвалася, расплывалася і знікала перад ім, як у тумане. І яшчэ раз ён злосна прыгадаў свайго бацьку: вось табе вазданне боскае...

— Што вы думалі, што мы нічога не разумеем у золаце? Нікога вы тут не ашукаеце, грамадзянін,— больш строга сказала яна.— Што мы, нічога не разумеем? Вось жа на вашым так званым золаце ледзь прыкметны вокіс.

— Не разумееце! Не разумееце!..— ужо не стрымліваючы сябе, ускрыкнуў Ягор і, бразнуўшы з усяе моцы дзвярыма, выскачыў на вуліцу.

Нервова прабегшы колькі кварталаў і завярнуўшы ў ціхі завулак, прыпыніўся. А куды цяпер ісці? Можа, не варочацца і ў Любова, а сігануць з высознага моста ў Дняпро? Не, не!.. Жыць жа так хочацца. Ён яшчэ нацешыцца жыццём, і разам з Волечкай... І раптам успыхнула іскарка надзеі: «А можа, гэта касірка ў Оршы хацела яго ачмурыць? Не, не ўдасца! Едучы дахаты, завярну ў суседні раён, у мястэчка, праверу, там жа ніхто мяне не ведае... Але як падацца дамоў? — успомніў ён, што ў яго

няма ні капейкі на дарогу, і такая злосць узяла па Архіпа.— Знайду,— вырашыў ён,— так знявечу, што век будзе помніць. А свае грошы выкалачу...» І ўжо рашуча павярнуў на ўскраіну Оршы — шукаць свайго сабутэльніка.

І знайшоў яго. Архіп ляжаў поперак ложка, а ногі яго ў брудных кірзавых ботах былі на падлозе. Моцна хроп на ўвесь няўтульны пакой. Поза ў Архіпа была такая, быццам ён прыпаў на ложак на хвілю, стоячы на каленях. Доўга не раздумваючы, Ягор страсянуў соннага, але той замармытаў нешта і зноў апусціў галаву на коўдру «А навошта я яго буджу? — раптам падумаў Ягор.— Мне лепш такога абшукаць, знайсці сваё, і тады бывай здароў!» — і ён палез у кішэні пінжака. Але калі запусціў руку ў кішэню штаноў, Архіп раптоўна ўскочыў і, садануўшы Ягора кулаком у твар, дзіка зароў:

— Ты што, красці?.. Красці, гадзюка!.. такую тваю...— як быццам упершыню ён бачыў Ягора.

— Архіп, Архіп... Гэта я...— спрабаваў яго прывесці да памяці Ягор.

— Хто ты? Хто ты?.. Ядрона вош!.. Зладзюга, вось хто ты!..— і садануў яшчэ раз Ягору паміж вачэй.

Тут ужо і Ягор не ўтрываў, і пачаўся такі гармідар, што перавярнуўся і ложак, а адзіны столік адляцеў некуды ўбок, без ножкі, зазвінелі пустыя бутэлькі. Учарашнія сябры качаліся па падлозе. Відаць, гэтая бойка так узрушыла суседзяў, што той жа дзед, які гаварыў раніцай з Ягорам, выбегшы на калідор, узняў лямант:

— Міліцыю!.. Міліцыю сюды!..

І гэтае магічнае слова «міліцыя», з якім абодва сябры былі добра знаёмыя, умомант іх супакоіла. Яны падняліся, укачаныя ў гразь, у сіняках на тварах. І сталі адзін супраць аднаго, сцяўшы зубы.

— Што табе трэба? — нібы ўпершыню пабачыўшы Ягора, запытаў Архіп.

— Аддай мае грошы!

— Якія?

— А тыя, што ўкраў!

— Я цябе знаць не знаю! Адкуль ты ўзяўся? Ядрона вош!

Але, пабачыўшы, што не адкараскаецца ад Ягора, Архіп змяніў тактыку:

— Колькі, кажаш, я ў цябе ўзяў?

— Дваццаць пяць.

— Ну, дзе ж яны ў мяне? — і ён, выняўшы з кішэні

пакамечаную пяцёрку, дэманстратыўна вывернуў пустыя кішэні.

— Вось бяры маю астатнюю пяцёрку, і каб я цябе не бачыў.

І Архіп, выкінуўшы пусты Ягораў куфэрак на калідор і выпіхнуўшы Ягора з пакоя, зачыніў дзверы.

Ягор пайшоў на вакзал нялюднымі вуліцамі. Ён адчуваў, як мясцінамі шчымела на твары, а калі ў ціхім кутку глянуў у пустую шыбіну, заўважыў, што твар яго ны падрапаны кіпцюрамі, а над левым вокам сядзіць добры сіні гуз. Непамысна яму было варочацца такім дамоў, а яшчэ ж хацелася спыніцца па дарозе ў суседнім райцэнтры і паспрабаваць свайго шчасця з золатам.

На вакзале яму толькі хапіла на дарогу, і, атрымаўшы білет, ён залез у вагоне на трэцюю полку, каб не паказвацца на людзі з такім расквечаным тварам. На шчасце, у вагоне было амаль пуста, і ён даехаў спакойна да патрэбнай станцыі.

«Дурань, дурань я,— распякаў ён сябе,— і з паліцэйствам дурань, і з золатам дурань. А можа, на шчасце, у гэтым месцы пашанцуе? Ну, хай сабе штучнае золата, але завецца ўсё ж золата,— і хай сабе танней за сапраўднае, і грошай дадуць менш, ды штосьці павінны даць. Ну, няхай не спраўлю ўсёй гаспадаркі, а на вяселле, можа, хопіць». І прывабны воблік Волечкі, няхай сабе васпаваценькай, павёў яго зноў да ювелірнага магазіна.

Ягору пашэнціла, што райбанк у суседнім раёне быў блізка каля станцыі, і праз нейкія паўгадзіны пасля прыезду ён быў ужо там. Сустрэў яго мужчына, як і касірка ў Оршы, правяраў золата таксама цераз лупу і гэтак жа адказаў яму:

— За каго вы нас лічыце, грамадзянін?

— А што? Калі мне яго падаравалі, дык казалі, што гэта золата.

— Золата, але самаварнае,— ужо засмяяўся той, вяртаючы Ягору ягоны здабытак.

— Дык мне ж у Оршы казалі, што гэта штучнае золата,— ужо прызнаўся Ягор.

— Штучнае і ёсць! Фальшывае!

— Дык няўжо яно нічога не варта? — дапытваўся Ягор.

— Вам падаравалі, і вы падаруйце яго піянерам, яны ва ўтыль здадуць.

І Ягор выйшаў з гэтага будынка ўжо добра перакана-

ны, што загінулі ўсе яго надзеі. Да адыходу поезда было яшчэ дзве гадзіны, і ён пайшоў астудзіцца на бераг рэчкі ды заадно і спаласнуць сцюдзёнкай твар, можа, хоць гузак паменшае. На беразе рэчкі Ягор прысеў і, памакнуўшы ў ваду кавалак свайго золата, прыкладаў яго раз-пораз да гузака. Можа, хоць паменшае. Але карысці было мала. Наадварот, гузак пачынаў балець... І, збіраючыся яшчэ раз памакнуць у ваду той кавалак, што трымаў у руцэ, ён нарэшце раззлаваўся так, што шпурнуў яго аж на сярэдзіну рэчкі. А пасля другі кавалак і трэці, злосна прыгаворваючы: «Згінь ты, золата!.. Згінь, праклятае... Колькі я перапакутаваў цераз цябе, а яшчэ і гузак набыў».

Але, калі адыходзіў ад рэчкі, пашкадаваў. Вось каб было сапраўднае, пажыў бы, дык пажыў...

Цяжка было Ягору варочацца дамоў, але жыць хацелася, і ён яшчэ спадзяваўся на многае. Позна вечарам апынуўся ён у Любове ў сваёй хаце і быў вельмі рады, што ніхто яго яшчэ такога не бачыў.

## VII

Устаўшы раніцаю, Ягор доўга прыглядаўся ў люстэрка да свайго твару.

— Ну і расфарбаваў жа мяне гэты пракляты Архіп,— не вытрываў і злосна вылаяўся ён, калі ўбачыў, што вакол цёмна-сіняга гузака на лбе расплыліся яшчэ зялёныя плямы, а на правай шчацэ закарэлі драпіны. Паспрабаваў Ягор палячыцца: спачатку змазаў маслам, а тады прысыпаў крухмалам. Ды ратунку не было: плямы з-пад белага выглядалі яшчэ страшней. І ён, выцершы са злосцю твар наснічкаю, падаўся на работу.

— О-го!.. Як цябе расцалавала цётка,— зарагатала, узяўшыся ў бокі, Агапка.

— Не здзекуйся! — буркнуў злосна Ягор.— Гэта я паслізнуўся.

— Дзе ж табе собіла паслізнуцца ўлетку? — не здавалася яна.

— Быў у горадзе. А там жа скрозь асфальт. Пасля дажджу куляюцца людзі на кожнай вуліцы. Не адзін я такі...

— Ну, добра! — перавяла гаворку Агапка.— Накуляўся, а цяпер бярыся за вілы, а то гною набралася, сам бачыш...

— За вілы, за вілы...— нездаволена замармытаў Ягор.— Час было б і другую работу мне даць.

— А што я табе магу даць? Канторы ж у мяне няма. Ды каб і была, дык ты ж і пісаць добра не ўмееш! Больш аўтаматам пісаў...

— Ты б хоць змоўкла,— прагуў нібы сам сабе Ягор і стаў завіхацца з віламі ў цялячым стойле.

Так і пацягнуліся ў яго дні за днямі. Нікуды ён не хадзіў, пакуль твар не загаіўся. На работу і дамоў. Баяўся кпінаў і то не ўратаваўся. А ўсё гэтыя малыя. Адкуль яны ўзяліся, калі раніцою ішоў у цялятнік? Як разгледзелі Ягора, пырснулі са смеху, зарагаталі, пабеглі, а да вушэй ягоных даляцела:

Паліцай, паліцай —
Самагон і чарка...
Паліцай, паліцай —
Нямецкая аўчарка...

Ды яшчэ:

Паліцай, паліцай —
Вырадак паганы.
Паліцай, паліцай —
Кім размаляваны?..

Ажно закалаціўся Ягор. Відаць, і не перастануць яны здзекавацца. Ды яшчэ больш і больш выдумляюць. Дзіва што, яны ж цяпер усе навучаныя. Нават і вершыкі складаюць. А што ён ведаў? Адно ваздаянне боскае...

І Ягор стараўся заглушыць свае згрызоты работаю ў хаце. Паставіў новыя вушакі ў вокнах, пафарбаваў падлогу. Знайшоўшы ў матчыным куфры нейкія фіранкі, павесіў на вокны. Хай бачаць, што тут старанны чалавек жыве. А можа, давядзецца, угледзіць і Волечка, можа, крышку і яе прывабіць гэты куток. Ягор яе вельмі чакаў і трохі абжываўся. Меў і скорам, ды і малака з калгаса давалі ўволю. Нават сам гатаваць стравы навучыўся. Гэта ж не ганьба. А можа, якраз спадабаецца гэта Волечцы. І за працаю ды за хатнімі клопатамі Ягор паспакаіўся і стаў забывацца пра сваё золата.

Але зайздрасць, непазбыўная зайздрасць усё часцей прарывалася і выводзіла яго з раўнавагі. Асабліва да самога старшыні, да Васіля Руткевіча. «Гэта ж і я,— увесь час думаў Ягор,— мог быць на яго месцы. Што, у мяне галава горшая? Разам раслі, разам вучыліся... А цяпер на, ён на машыне і на машыне, толькі пыл слупом... А я каля гною з віламі».

Асабліва цяжка перажываў Ягор, калі даведаўся, што за поспехі ў калгасе Васілю Руткевічу прысвоілі званне Героя Сацыялістычнай Працы. І Залатую Зорку прычапілі на грудзі. Калі першы раз пабачыў Руткевіча пры Залатой Зорцы, ажно асляпіла яна Ягора. А твар Васілёў свяціўся ва ўсмешцы, быццам гаварыў: а я яшчэ і большага даб'юся! «Вось дзе золата дык золата,— пераконваўся Ягор.— Вось за якое трэба змагацца, а не за тое, з якім столькі напакутаваўся... І якое, апрача бяды, нічога не дало. Вздаянне боскае, вздаянне боскае...» — незадаволена мармытаў Ягор, прыгадваючы свае нягоды.

«Не, быць не можа, дамагуся і я лепшага»,— пераконваў сябе Ягор, і, як цяпер ён парашыў, усё залежала ад таго, што нехта павінен памагаць яму. Трэба мець гаспадыню ў хаце. Так захацелася даведацца пра Волечку. І аднойчы пашэнціла. У сельскую краму прыйшла тая самая Барбара, што была некалі на вечарынцы разам з Волечкай. Ягор, выбраўшы хвіліну, падышоў да яе. Можа, яна на яго і не зірнула б, але ён сам звярнуўся:

— А памятаеце, Барбара, як я праводзіў вас з Волечкай?

— О-о-о! — ускліннула яна.— Ды вы так змяніліся, што я вас і не пазнала.

— У горшы бок? — паспрабаваў пажартаваць Ягор.

— Ды дзе, наадварот! І памаладзелі, і паружавелі, дый гарнітур не абы-які!

Ягор і сапраўды пасвяжэў, пазбыўшыся сінякоў і пісягоў на твары. Дый, добра зарабіўшы, прыбраўся. І тое, што сказала яму Барбара, ішло проста ад сэрца, але гэтага было мала. Яму ж хацелася запытаць пра Волечку, а Барбара, можа, чакала заляцання да сябе, як знарок нічога не ўспаміпала пра тую.

— А чаму ж вы не прыходзілі на вечарынкі да нас? — рашыў ён зрабіць такі падыход.

— Не маю часу,— упіралася Барбара,— але калі вам так цікава, дык можна было б і вырваць якую часіну.

І Ягор вырашыў ісці ўжо больш адкрыта:

— Дык прыходзьце, прыходзьце разам з Волечкай!..

— А-а-а!..— быццам здзівілася Барбара.— Вас Волечка цікавіць. Ну што ж, можа, і прывітанне ёй перадаць? — крута змяніла яна гаворку.

— Перадай!.. Перадайце!..— прасіў Ягор. А яна ўжо, відаць, страціўшы інтэрас, адышлася ад яго.

Ягору нічога не заставалася, як ісці дахаты. Але, азір-

нуўшыся ўжо каля выхаду, ён заўважыў, што аб нечым вельмі ўжо шапталася Барбара з прадаўшчыцаю. І, як здавалася яму, прадаўшчыца злосна глянула ў ягоны бок. «Відаць, пра мяне,— падумаў Ягор.— Што гэта робіцца? Нідзе, нідзе няма да мяне спагады. Усе абмінаюць мяне, калі і гавораць, дык хочуць хутчэй адкараскацца. А ў хату маю ніхто ні нагой. Нават тыя, што і выпіць любяць. Прасіў — не прыходзяць. Сяджу адзін, як той пень, гібею, а калі б памёр, дык ніхто б і не ведаў, бо дзвярэй маіх не адчыняюць».

І так яму стала сумна і горка, што, прыйшоўшы дадому, доўга сядзеў за сталом, ашчарэпіўшы галаву рукамі. Усё думаў і думаў: а што яму рабіць? Можа, за бутэльку ўзяцца? «Не, загіну, загіну,— быў пераканаваны.— Я буду такім, як і некалі, а можа, і яшчэ горшым... да гэткага, як Архіп, падобны». І ён прыйшоў да вываду: не здавацца, а трымацца моцна. Пазбыцца абавязкова адзіноты, бо адзінота цяпер — самае страшнейшае для яго і можа прывесці да згубы.

Трэба жаніцца, і неадкладна. І Ягор пачаў рыхтавацца ў паход да Волечкі. «Я і без сватоў дамоўлюся,— вырашыў ён.— Языка ж мне, дзякуй богу, не пазычаць».

Праўда, зноў яго раззлавалі школьнікі. Калі адышоў ад магазіна, можа, крокаў сотню, з-за агароджы фізкультурнай пляцоўкі даляцела да яго ўжо новае і таксама здзекліваае:

Будзе табе,
Будзе табе,
Будзе табе горка,
Паліцай, паліцай,
Паліцай Ягорка!..

І Ягор, пабачыўшы, што нідзе нікога не відаць, падняў глыж і шпурнуў яго цераз агароджу, але адтуль толькі пачуўся прарэзлівы смех і піск задаволенай дзятвы. Ён ужо змірыўся з тым, што гэта непазбежна, але баяўся аднаго — каб не пачула Барбара і не перадала Волечцы.

Цэлы тыдзень збіраўся Ягор у Лагі. Выпрасаваў гарнітур так, што кант на штанах, нават калі садзіўся, мала згінаўся. Чаравікі нашараваў так, што як у люстэрка глядзі, апрануў новую кашулю і гальштук такі пярэсты, што аж у вачах стракацела. А яшчэ ў кішэньку гарнітура ўсунуў і белую насючку. У такім выглядзе ён вечарамі, некалькі дзён, хадзіў з кута ў кут па сваёй хаце, часамі

заглядаючы ў люстэрка, пакуль не спыніўся на тым, што ўсё дасканала.

І, ужо выходзячы ў дарогу, дадаў толькі да свае шапкі сарваную ў агародчыку ружу.

Амаль за дванаццаць кіламетраў дарогі да Лагоў Ягор старанна падрыхтаваўся да гаворкі з Волечкай і, калі патрэбна, з яе бабкаю. Упэўніўся, што пераканае іх. Аднак, калі падыходзіў да сяла, крыху ўсхваляваўся. Дый не дзіва. Ад гэтага залежала ўсё яго далейшае жыццё, а ён жа яшчэ ні разу не быў у Волеччынай хаце, нават не ведаў, куды пастукаць.

На шчасце, у ручайку побліз сяла нешта мыла малая дзяўчынка, і ад яе Ягор даведаўся, што Волечка з бабкаю жыве ў хатцы з зялёнаю ліштвою і чарапічным дахам ды што на іхняй хатцы самая вялікая антэна ў сяле. Атрымаўшы такія даведкі, Ягор лёгка вызначыў, дзе жыве яго жаданая, і неўзабаве падыходзіў да хаціны, заўважыўшы, што на вокнах яе гараць ярка-чырвоныя кветкі.

Гэта ўзрадавала, але тое, што пабачыў ён, падыходзячы бліжэй, неяк і ўстрывожыла. Нехта быццам матнуўся з хаціны ў бок лесу, які пачынаўся адразу ж, за садам. «Ды ці мала што?» — падумаў Ягор і адчыніў веснічкі. На двары было чыста, прыбрана, а на ганку ляжаў нават палавічок. Ягор, выняўшы суконку з кішэні, змёў пыл з чаравікаў, чыстаю насніччкаю выцер пот з твару і цераз малыя сенцы ўвайшоў у хатку.

— Дзень добры!..— весела гукнуў ён.

З-за шафы, якая перагароджвала хаціну, выйшла сівая бабуля ў чорнай спадніцы і ў шэрай кофце, з накінутай на плечы зеленаватаю хусцінаю. Яна запрасіла Ягора сесці і запыталася, адкуль ён і па якой патрэбе завітаў у Лагі. Ягор хоць і рыхтаваўся ўсю дарогу, але, калі выпала гаварыць, разгубіўся і не ведаў, з чаго пачынаць. Яшчэ больш засмучала яго тое, што не бачыў ён дома Волечкі. Ягор вырашыў падступацца да справы паволі.

— А я ў Лагах на часок. Іду далей... А спыніўся, бо наша крамніца Кацярына прасіла перадаць Волечцы, што ў магазіне паявіліся чаравічкі — такія, што цікавяць яе... А дзе ж Волечка?

Бабка сумелася. Неяк разгублена паглядзела на хату, нібы шукаючы чаго, ды адказала:

— Няма Волечкі!

— А дзе ж яна? — дапытваўся Ягор.

— Паехала ў раён на нейкі сход.

Ягору кінулася ў вочы і тое, што неяк неахвотна бабка гаворыць, што нерашуча адказвае яму. І раптам прыгадалася тая постаць, што матнулася ў бок лесу, і ён адчуў, што ўсё гэта недарма. Але ўсё ж дамагаўся свайго:

— А мне б хацелася пабачыць Волечку.

— Дык дзе ж я вам вазьму яе? — ужо злавала бабка.

— Мне ж трэба з ёю пагаварыць.

— Пра што ж вам так трэба пагаварыць? Хіба вы даўно ведаеце яе?

— Не, нядаўна, але размова важная.

— А што там за такое важнае?

І Ягор рашыў сказаць бабцы ўсё як ёсць.

— Я б хацеў з ёю пабрацца... Я адзінокі, праўда, ужо ў гадах, старэйшы за Волечку,— і больш не мог спыніцца.— Я буду так яе даглядаць, што яна заўсёды рада будзе. Я ўсё ўмею рабіць. Яна ж не будзе ведаць гора. Я на руках яе насіць буду...

— Пастой, пастой, чалавеча!..— прыпыніла бабка і, адмахваючыся рукамі, нібы ратуючы куранят ад каршуна, адкрыта заявіла яму: — Кінь і думаць!.. Як гэта вы адважыліся? Не пойдзе Волечка за вас!

— А чаму? — яшчэ даходзіў Ягор.

— Сам павінен быў бы ведаць. І няма чаго дарма надакучаць!

— А што такое?

— А такое, што Волеччыны бацькі загінулі ў вайну. Цяпер зразумеў? — і ўжо заходзячы за шафу, незадаволена дадала: — Дзе ж гэта відна, каб камсамолка, такая дзяўчына, дачка герояў бацькоў, ды за такога?.. П-фу!..

І Ягору нічога не заставалася, як выйсці з хаты. Доўга ў той дзень яму не хацелася варочацца дамоў. Ідучы лесам, збочыў з дарогі на сцяжынку і зайшоў на дзялянкі, дзе некалі з бацькам рабілі падсочку. Ачмурэўшы ад нечаканага ўдару, ён, без дай прычыны, хадзіў па мокрых верасах, не мінаў і невялікіх імшарын, не шкадаваў сваіх чаравікаў, успамінаў, як жылося некалі, і вінаваціў ва ўсім бацьку. «Навошта ён цягаў мяне сюды, адрываў ад людзей? Ішлі людзі ў калгас — і мы пайшлі б, можа, быў бы і я цяпер, як той Васіль Руткевіч, а то... будзе перамена... будзе перамена... вздаянне боскае... Во табе вздаянне, што нават васпаваценькая Волечка не захацела са мною гаварыць».

Апынуўшыся ў тых мясцінах, дзе працаваў некалі з бацькам, ён не мінуў і тых патаемных ялін, у дуплах якіх

вадзіліся дзікія пчолы. Заўважыў, што ў адно дупло яшчэ лётаюць з узяткамі пчолы... «Вось і яны ў калгасе працуюць, а мяне, як таго трутня, выкінулі... Нават Волечка... А можа, я дарма гарнуўся да яе?.. Лепей было б да Барбары. Ну, што з таго, што старэйшая, і твар чырвоны, ледзь не трэсне, і таўставатая? У хатняй гаспадарцы такая, можа б, і лепш... Ёй бы зносу не было... Але ж і Барбара не выйшла яму насустрач, а, напэўна ж, бачыла, бо казалі, што жыве проста насупраць Волечкі...»

Гэтак ён распінаў сябе ўвесь час, блукаючы па лесе. Але цвёрдасці ў пераканаinnях не меў. Ён варочаўся да тых думак, якія прыходзілі яму не раз: а можа, і нядрэнна, што пайшоў ён у паліцыю, хоць жывы застаўся. А з партызанаў ды з фронту шмат хто не прыйшоў. Мала што пашчасліла Васілю Руткевічу. А ён жа ўсё-такі жывы, з рукамі, з нагамі. А прыйдзе час, што і яму стане лепш...

Так, блукаючы па лесе са сваімі развагамі, ён і не заўважыў, што надышоў вечар, а калі сыпануў дождж і ніякая схова пад елкай яго ўжо не ратавала, наўпрасткі падаўся дадому. Перамок, акалеў, але ацвярозеў, прыйшоўшы да думкі, што толькі праца, і лагоднае жыццё, і цярплівасць яму цяпер памогуць. Ужо цёмна ён апынуўся ў сваёй хаце і, не запальваючы святла, выпіў цэлую шклянку гарэлкі і бразнуўся на ложак.

А назаўтра адчуў, што і гарэлка не памагла. Ламала галаву, балелі грудзі. Ягор прастыў і захварэў. Тры дні лячыўся сам і піў нейкія зёлкі, якія пакінула маці. Галава прасвятлела, але кашаль не даваў жыць, і, адпрасіўшыся ў Агапкі, падаўся ён у бліжэйшую сельсавецкую бальніцу.

## VIII

Сельсавецкая бальніца невялічкая, але ўтульная, новая стаяла на краі мястэчка на тым месцы, дзе некалі была хата-чытальня. Ягор, глянуўшы на светлыя мураваныя сцены пад зялёным дахам, успомніў тую ноч, калі гарэлі яркім полымем драўляныя сцены хаты-чытальні, адкуль яны тады выбівалі, як казаў ім Перабінос, штаб партызанаў. А гэта ж ён, падкраўшыся ў цемначы, сунуў пад страху жмут пакулля і падпёк. А пасля вярнуўся да Перабіноса. А цяпер ішоў у новую бальніцу, каб падлячыцца, і радаваўся, што пра тое, як ён тады вызна-

чыўся, тут ніхто не ведае. Была глыбокая ноч, і ўсе мясцовыя, што жылі побліз, паразбягаліся адсюль, а на другі дзень Ягора на гэтым месцы ўжо не было. Паслаў яго Перабінос адвезці на кватэру са здабытымі рабункамі чамадан і прыгожую скуранку. Было там і такое-сякое жаночае адзенне, а яшчэ і некалькі кумпякоў, знятых проста з шастка ў свірне аднаго гаспадара побліз чытальні.

Ягор упэўнены, што пра ўдзел яго ў гэтай бойцы ніхто не ведае, і таму смела, без вагання заявіўся ў прыёмпакой. Маладзенькая медсястра паказала яму месца ў палаце, і ён прыстроіўся на ложку каля акна. Другі ж ложак, каля сцяны, быў ужо заняты, гэта ён бачыў па тым, што на тумбачцы побач стаяла ўжо некалькі пляшак з лякарствам. Ён прылёг на свой ложак, задаволены тым, што па сваёй маладосці сястра не магла ведаць ягонага мінулага: калгаснік з Любова, калгаснік так і ёсць, вось і ўсё. І ён, чакаючы доктара, прыжмурыў вочы і нават крыху прыдрамнуў. І раптам рыпнулі дзверы, ён глянуў і збялеў. Перад ім стаяў, абапіраючыся на моцны ядлоўцавы кій, сам дзед Саўка. Не паспеў Ягор разявіць рота, як ён наляцеў каршуном:

— А ты чаго тут?

— Як чаго? — спрабаваў Ягор перавесці гаворку на спакойны тон.— Лячыцца!

— А ты маеш права на гэта? — насядаў Саўка.

— Маю!.. Маю... я ж працую...

— А ты гэтую бальніцу будаваў?

— Дык і ты ж яе не будаваў, дзядуля!

— Калі не я, дык сыны мае будавалі, а ты паліў, гад, такія бальніцы, як гэта... Вон адсюль!.. Вон!.. Я з табой і пад адным дахам быць не хачу. Ты, можа, і майго меншанькага забіў!.. Вон!..— і дзед Саўка падняў кій.

— Я нікога, нікога не біў!..— спрабаваў апраўдвацца Ягор, але Саўкаў ядлоўчык ужо некалькі разоў перацягнуў яго па спіне, так што Ягор, збянтэжаны дарэшты, кулём выскачыў з бальніцы на ганак, а адтуль, нырнуўшы ў першы завулак, на сваю дарогу.

Так і скончылася Ягорава лячэнне. Мала таго што не палячыўся, а быў яшчэ ўзрушаны тым, што, можа, дзед Саўка і сапраўды ведае, што ён быў у тым баі, калі гарэла чытальня. Некалькі дзён Ягор адлежваўся дома, перабіраў усё, адкуль мог дазнацца пра гэта Саўка, але прыйшоў да вываду, што вінаваціў дзед яго проста ад злосці на ўсю паліцыю і што ад Саўкі нішто яму не пагражае.

Ягор зноў пачаў хадзіць на работу. Працаваў спраўна, нават Агапка ні разу на яго не прыкрыкнула. Навёў парадак у хаце. Пачаў забывацца і на лагаўскую крыўду, і сама Волечка знікла, як у тумане. Але адзіноцтва ела яго, і ён не меў ратунку. Спрабаваў чытаць біблію — не памагае. Аднаго разу, выпіўшы і раззлаваўшыся, хацеў парваць яе ўжо ўсю на дробныя шматкі, але, успомніўшы, што даваў абяцанне маці, пашкадаваў. Нават, каб больш не змушала яго, палажыў яе ў куфар на самае дно і прыціснуў пранафталіненым бацькавым кажушком.

Купіў Ягор радыёпрыёмнік. Стала куды весялей. Уключыць, што цікава, паслухае, а калі і нецікава, дык усё ж чуецца нечы голас у хаце. Але мінула восень, прайшла зіма, і ўжо на новую вясну бралася, а пачуццё цяжкага адзіноцтва ў Ягора ніяк не знікала. Ну, добра, радыё — голас і голас,— гавораць і пяюць, ды голас усё ж не жывы, не такі, які ты чуеш побач і сам бачыш, ад каго ідзе, а яшчэ няма таго голасу, каб ён часамі ласкава шапярнуў што на вушка, няма такога цёплага голасу, у якога ёсць і пяшчотныя рукі, якія могуць прытуліць цябе, супакоіць і параіць, як жыць. Відаць, такая ўжо прырода чалавека, што не суджана яму быць аднаму. І Ягор усё больш пераконваўся, што няма яму ратунку, калі не знойдзе сяброўкі. Перабіраючы ўсіх, хто можа пайсці яму насустрач, ён спыніўся на Ганне Дабрыян. Праўда, яна старэйшая за яго ажно на дзесяць год, але што з таго, яна ж яшчэ такая крамяная... А дзеці?.. Дык хлопец ужо з'ехаў вучыцца, канчае і дзяўчына. Можа, таксама куды падасца, а калі не, дык хай сабе жыве і з імі. Прыйдзе час, выйдзе замуж. А ад самое Ганны Дабрыян ён пакуль што крыўднага слова не чуў. А перад ёю Ягор і невінаваты. Мужык ейны не прыйшоў з фронту, а не загінуў у партызанцы.

І з гэтага часу Ягор пачаў прыглядацца больш пільна да Дабрыян. Праўда, узімку не так зручна, каб сустрэцца з ёю. Ганна, як і ён сам, амаль нікуды не хадзіла, ці на рабоце, ці сядзела ў хаце з дачкою. А на рабоце ж яна не была адна. Калі рабіла, то заўсёды разам з людзьмі. Так што за зіму толькі раз паспрыяла яму. Калі ён быў у праўленні, сам старшыня загадаў Ягору паклікаць Дабрыян, бо меў нейкія справы. А аднаго разу занёс ёй з пошты пісьмо. І хоць ён мала пабыў у Ганнінай хаце, усяго некалькі хвілін, пакуль тая ўзяла пісьмо і падзякавала, Ягор спрактыкаваным вокам паспеў прыгледзец-

ца, што ў хаце ў Ганны парадак: чыста, утульна, на сцяне ходзікі, быццам жывыя, гамоняць, ля акон фікусы, а два ложкі чыстыя, прыбраныя. І нейкае паветра такое светлае, прываблівае... Праўда, можа, і дачка-школьніца займалася прыборкай, але вядомая рэч, не без маці, не без яе кірунку.

І Ягору ўсё больш і больш прыходзіла думка, што там яго сапраўднае месца. Ён нават шкадаваў, што гэтулькі часу дарма аддаў на Лагі. Калі б ён з самага пачатку вырашыў пайсці да Ганны, можа б, ужо жыў як чалавек.

А вясной, калі сонца добра прыгрэла і заспявалі шпакі на голлі, а той жаўра дык проста ўвінчваўся ў неба, а кругом зазелянела і вярбіна каля Ягоравага акна пачала пад ветрам шабуршэць галінкамі па шыбах, нібы клічучы некуды, Ягор не мог ужо вытрываць. І падрыхтаваўшыся добра, зноў жа апрануўшыся па-святочнаму, не горш, як некалі да Вольгі, рушыў на гэты раз да Дабрыян. Зноў жа, каб мець прычыну зайсці, ён не паленаваўся схадзіць на пошту і, быццам па дарозе дахаты, занесці ёй газеты.

Ступіўшы на Ганнін двор, адчуў яшчэ большую, як некалі, асалоду. Мала таго што двор быў добра падмецены і пасыпаны жоўтым пясочкам. На ім, па дарожцы да ганка, ляжаў яшчэ свежапараскіданы аер. Як быццам сам лёс азначыў яму гэтую дарожку, і, падбадзёраны сваімі меркаваннямі, Ягор увайшоў у хату. Усцешыла яго і тое, што Ганна была адна, дачка, відаць, на нейкім зборышчы ў школе, значыцца, можна пагаварыць.

Павітаўшыся і аддаўшы Ганне газеты, Ягор на гэты раз не павярнуўся да выхаду і, хоць не быў запрошаны, сам прысеў на лаву каля сцяны. Ганну гэта здзівіла, тым больш што, прысеўшы, Ягор маўчаў, адно нервова круціў у руках свой новы саламяны брыль.

Ганна счакала хвіліну, але нарэшце спытала:

— А што табе трэба яшчэ, Ягор?

— Ганна!.. Ты толькі паслухай мяне і не злуй,— сказаў Ягор дрыжачым голасам,— ты адна можаш мяне ўратаваць.

— Як гэта ўратаваць? — ужо злуючы, перапытала яна.— Можа, і ў нас ужо чаго нарабіў?

— Ды не! Нарабіў я толькі аднаго: горы гною з цялятніка вывез. А так усё добра, і за тое, што, як людзі кажуць, некалі дрэннага нарабіў, разлічыўся... Вось глянь,— і ён выняў з кішэні пінжака сваю магаданскую

паперку і працягнуў Дабрыян. Але яна яшчэ зласней адхіліла ягоную руку з тым пасведчаннем.

— Я і без паперкі ведаю, чаго ты варты.

— Ну, калі ты ведаеш, то я ад цябе і гэтага хаваць не хачу. Даволі мне пакутаваць! Давай будзем разам жыць!

— Што ты, ашалеў?! Каб я ды за цябе? Гэта мне ды абразіць свайго Міколу? А ён жа жыццё аддаў і за дзяцей і за мяне. Прэч!.. Прэч!.. У цябе ж вечная пляма!..

— Хіба я вінаваты, што маці мяне такога нарадзіла? — скардзіўся Ягор, торкаючы пальцам пад вуха, дзе ад хвалявання яшчэ больш пасінеў ягоны, ад нараджэння, жук.

— Ды не пра гэтую пляму я табе кажу. Гэтую пляму, можа, і могуць вывесці дактары... А пра тую, якая ў цябе навечна, якая на цябе лягла за ўсе твае злачынствы перад людзьмі... І якая ніколі і нічым не змываецца. Яна вечна на табе. Адыдзі! Адыдзі!.. Прэч!.. Прэч!.. Каб ты болей і парога майго не пераступаў, а то як скажу сыну, як прыедзе, дык ён табе такія плямы на твае шчокі бессаромныя пакладзе, што будзеш ведаць,— і яна проста выпіхнула Ягора за дзверы і яшчэ доўга не магла супакоіцца:

— Вось гад дык гад... Гэта ж трэба так надумацца!..

А Ягор на гэты раз не разгубіўся. Наадварот, другая няўдача не зламала яго, умацавала ў ім жаданне дабіцца свайго. «Вось вазьму ды ажанюся з Агапкаю... Мала што я ведаю... Ды я і сам не такі ўжо святы». І ён ад Дабрыян павярнуў адразу да Агапчынай хаты. Але дома яе не застаў.

— Яна ж у цялятніку, дзяжурыць сёння,— адказала Агапчына дачка.

У цялятніку, калі павітаўся з Агапкай і прыгледзеўся лепей,— а яна запаўняла кармушкі і была ў шэрай, даволі зашмальцаванай рабочай сукенцы,— яна здалася яму вельмі ўжо старою для яго і нязграбнаю. А яшчэ ж не знік з яго ўяўлення і Перабінос, у якога сядзела Агапка на каленях,— Ягор на момант парашыў быў не прызнавацца, чаго прыйшоў да яе. Але злосць, нястрыманая злосць апякла яго грудзі, калі ён успомніў пра свае няўдачы з Волечкай і Дабрыян, Ягор парашыў ажаніцца хоць з Агапкай, хоць з чортам. Стрымаўшы сваё перажытае, ціха прамовіў:

— Агапа, давай пабяромся з табой?

— Не, не... Я кляну той дзень, калі пазнала цябе.

— І Перабіноса,— падражніў Ягор.

— І Перабіноса! І ўсіх вас, паліцаяў!.. Каб вы ўсе пазыдыхалі! — ужо кляла яна.

— Ды ты, можа, мяне не зразумела. Я табе не пагуляць прапаную, а сысціся навечна... назаўсёды...

— Навечна?.. Ты звар'яцеў! Досыць мне свае плямы, а яшчэ тваю дадуць.

— І ты мне пра пляму! — пакрыўдзіўся Ягор.

— Ды не пра гэтую, што на шчацэ, а пра вечную, што на душы ў цябе!

— А ты пра сваю падумала? — насядаў Ягор.

— Падумала і змываю сумленнай працай. Яна ж у мяне не такая. Я ж людзей не страляла.

— І я не страляў!

— Дык за прыгожыя вочкі цябе Перабінос у сябе трымаў? Ідзі, ідзі адсюль, а то папрашу Руткевіча, дык і з цялятніка цябе выганіць.

І Ягору нічога не заставалася, як пайсці дахаты. «Усё, усё кругом супроць мяне»,— сядзеў ён доўга за сталом, зноў ашчаперыўшы рукамі галаву, а пасля знайшоў адно заспакаенне: выняў з куфра прыхаваную пляшку і ўзяўся за яе.

## IX

Свята Перамогі прыйшло ў Любова. Сёлета яно было асабліва хвалюючае. Як толькі сонца ўзнялося па-над борам і першыя праменні пырснулі ў вокны, быццам тыя пчолы з вулляў, высыпалі на вуліцу людзі. Усё сяло ўжо красавалася, па-святочнаму прыбранае, скрозь віселі чырвоныя сцяжкі, а на сценах і брамах палыхалі чырвоныя зоркі. Людзі глядзелі, чаго яшчэ можна дадаць: хто ўпрыгожваў вушакі сваіх вокнаў маладым зялёным бярозавым голлем, хто падсыпаў свежага пясочку на сцяжынкі, што зварочвалі да іх фортак. З раніцы звонка гучалі па-над усім Любовам пераможныя маршы. І, вядома, чародкі дзяцей у белых кашульках і кофтачках з ярка-чырвонымі гальштукамі, як тыя галасістыя птушаняты, ужо шчабяталі на вялізарным двары сельскае школы.

Усё сяло рыхтавалася вельмі ўрачыста адзначыць гэты дзень. А ён быў і незвычайны. Апоўдні чакалі прыезду на свята паважаных гасцей-суседзяў: з літоўскага калгаса «Пергале-Перамога» і з латышскага імя Райніса.

Любоўцы ж разам са сваімі суседзямі праваявалі ў партызанах усю вайну і, дапамагаючы адзін аднаму, ладзілі свае гаспадаркі. Хапіла ім усяго: і разам перажыць гора, і есці нішчымніцу, і хадзіць у лахманах, і часам падпрагацца, каб цягнуць плугі і бароны. Затое цяпер, калі глянуць на іх у свята, дык не пазнаць. Нездарма ўжо некаторыя старыя жартуюць, што іх аднавяскоўцы не горш за сваіх колішніх паноў апранаюцца.

Вось і Васіль Руткевіч выйшаў з хаты са сваімі сябрамі, былымі партызанамі, паглядзець на вуліцу. Адзін з іх, Мікола Зарудны, прыехаў у госці з Украіны, а другі, Іван Гарбачоў, са Смаленшчыны. Вось ідуць яны па любоўскай вуліцы і задаволена паглядаюць, як усё красуецца, ды і кожнаму мо за сорак, але яшчэ статныя, іх постаці гавораць, што яны ў самай яшчэ сіле і што яны ідуць па вуліцы як сапраўдныя гаспадары зямлі, якую і вызвалілі ад нягоды і якая пад іхнімі рукамі расцвіла.

І прыбраныя сябры кожны па-свойму, але так, што ім і маладыя пазайздросціць могуць. У Васіля Руткевіча нават капялюш на галаве. А на грудзях у кожнага — ордэны, медалі — баявыя і працоўныя. Нялёгка яны да іх прыходзілі, і крыві і поту давялося праліць нямала, але калі глянуць на іх грудзі цяпер, дык сапраўды гараць іхнія грудзі і пераліваюцца, асвятляючы твары герояў.

Паказалася на вуліцы і Ганна Дабрыян і Агапка з дзецьмі. Сын Ганны знарок прыехаў на свята з горада. Ах, які гонар на твары ў Дабрыяніхі! Глядзіш на Ганнін твар, а ён быццам усім гаворыць: «Бачыце ўсе, якое гора я перажыла, але цяпер шчаслівая». Яе дзеці, якіх яна ўзгадавала, побач з ёю. Сын Андрэйка неяк асабліва пяшчотна трымае пад руку сваю маці. Дый Агапка не хаваецца. І на грудзях яе хоць адзін, але паважна гарыць працоўны медаль.

Вось толькі Ягор Плігаўка баіцца і высунуцца са свае прыземленае хаціны. Яшчэ не ачухаўся пасля апошняга ўдару і ад трохдзённага пахмелля. Трашчыць, быццам на кавалкі развальваецца, галава. А непакоіцца ён больш за тое, што раптам нехта з тых, што прыехалі і ходзяць цяпер побач з Руткевічам, можа ўбачыць яго, ведаючы, кім ён быў пры немцах... Дый косыя погляды сваіх. Дый тая самая Агапка можа з пагардай адвярнуцца ад яго. А найбольш Ягор баяўся дзяцей. Хто іх можа стрымаць? Пабачаць — і зноў завядуць сваё: «Паліцай!.. паліцай!..» Не, як не горка, а вымушаны ён сядзець гэты дзень у сваёй

хаце і не высоўвацца. Сам вінаваты, не яго гэта свята. Хто яму паверыць, што ён можа шчыра святкаваць, калі, наадварот, у свой час рабіў усё, каб такога свята не было?

І Ягор сядзеў, стаіўшыся, нават не паказваючыся ў акне, а здалёку праз шыбы пазіраў на вуліцу і ўсё часцей уздыхаў. А вуліца ажывала і ажывала, і з кожнаю гадзінаю рабілася больш гаманліваю. Ён бачыў ужо, як прыехалі на трох грузавіках і ў адной легкавушцы літоўцы-пергалеўцы: з чырвонымі сцяжкамі, з песнямі, а з легкавушкі выйшаў Пятрас Гудзявічус — літоўскі старшыня са сваімі брыгадзірамі. Вось ён абдымаецца з Васілём Руткевічам. Неўзабаве прышумелі латышы-райнісаўцы, на грузавіках, перавітых дзеразою, з дзяўчатамі, што прыбралі свае галовы вянкамі з палявых кветак. Выйшлі латышы-акардэаністы, зайгралі. І вось ужо латышскі старшыня Ян Балаг цалуецца з Руткевічам.

Ягор глядзіць на ўсё — і сэрца ягонае шчыміць ад зайздрасці да ўсіх, хто цяпер весяліцца на вуліцы, нават да Агапкі, якая, як ён бачыць, ужо нешта і даводзіць сваім літоўскім сябрам. І ўжо зусім ахапілі яго сум і злосць, боль і трывога, калі ён пабачыў, што ўсе пайшлі на сярэдзіну сяла. І хутка адтуль панесліся бадзёрыя, нястрымныя маршы духавога аркестра, ды так магутна, што нават шыбы задрыжалі ў Ягоравых вокнах.

І Ягор ужо не мог вытрываць, заплакаў: чаму ён такі няшчасны, адзінокі, забыты, пакінуты ўсімі? Ён зноў злосна паглядзеў на куфар, дзе ляжала бацькава біблія, і прыгадаў свайго старога, які сядзеў пад абразамі, прыгнуўшыся над гэтай, пажоўклай ад часу, кніжкай, і ўсё бубніў: «Ваздаянне боскае... ваздаянне боскае...»

— Вось яно і прыйшло ваздаянне, ды не боскае, а людское! — крыкнуў на ўсю хату Ягор і пачаў нервова хадзіць з кутка ў куток.

«Пайду,— нарэшце вырашыў ён,— пайду, ну, што яны мне зробяць?.. Будуць крывіцца — няхай крывяцца, дакументы ў мяне ёсць, што я ўсё адбыў і адбыў, добра робячы, я ж цяпер такі, як і ўсе»,— і, насунуўшы шапку на вочы, выйшаў на двор. На двары і на вуліцы побліз нікога не было, усе знаходзіліся там, адкуль несліся гукі аркестра...

Ягор рашыў падысці бліжэй, але не па вуліцы, а агародамі па-за хлявамі, там было яшчэ спакойна. І паціху дайшоў да таго месца, адкуль было ўжо зусім блізка да трыбуны, ля якое цяпер пачаўся мітынг. Ягор ужо быў

наважыўся пайсці да ўсіх, як раптам да яго даляцелі словы Васіля Руткевіча:

— Я віншую вас, усіх сяброў і сябровак, з вялікім святам. Мы сваёй крывёю, не шкадуючы жыцця, здабылі яго,— і раптам, відаць, праз устаноўлены рупар, як грымне: — ...праклятыя фашысты-гітлераўцы і іхнія паслугачы паліцаі забівалі і катавалі нас. Але і мы іх білі, гэтых гадаў, нямала і выгналі іх з нашай зямлі! — ляцела адтуль.

Хіба можна было ў такую часіну далучацца Ягору да святочнага натоўпу? Яшчэ, чаго добрага, агрэе дзед Саўка па спіне ядлоўцавым, цвёрдым, як жалеза, кіем. І Ягор, павалі адступаючы, вярнуўся ў сваю хаціну і, заваліўшыся на ложак, прыкрыў галаву падушкамі, каб не чуць таго, што рабілася на вуліцы.

Так, у поўнай непрытомнасці і даляжаў Ягор да самага вечара. Узняў яго ўжо на захадзе сонца такі гул каля акон, што і мёртваму было б не ўлежаць. Спачатку прагрымеў духавы аркестр, а за ім загулі і песні. Ягор ведаў, што пайшлі ўсе на партызанскі святочны касцёр, які раскладваўся побліз невялікага гайка, дзе былі пахаваны партызаны і дзе ў памяць іх быў пастаўлены высозны абеліск, на якім былі выразаны ўсе іхнія імёны.

Ён узняўся, прыгледзеўся да вуліцы. Нідзе нікога. Ніхто ў такую часіну не мог уседзець дома. Тым больш не засталіся ў сяле малыя, якія надакучалі Ягору сваімі кпінамі. І ён выйшаў на вуліцу, знясілены ад перажыванняў, і пайшоў уздоўж яе аж да самае сярэдзіны, дзе адбываўся мітынг. Было ціха. Толькі чырвоныя сцяжкі трапяталіся пад паветрам на хатах і на трыбуне, з якое нядаўна гаварылі прамоўцы. Пакуль ён хадзіў ды прыглядаўся, ужо добра сцямнела, а вярнуўшыся да свае хаціны, пачуў, што з боку гайка, дзе былі пахаваны партызаны, даляцела песня...

У Ягора не хапіла сілы, каб у гэты час, калі спявае ўсё сяло, застацца дома. І хоць ён вельмі баяўся розных нечаканасцей, але павалі, нібы крадучыся, і сам рушыў у той бок. Чым бліжэй Ягор падыходзіў да гайка, тым больш прамяніста асвятляла вяршаліны соснаў святочнае вогнішча і магутней далятали песні...

Идет война народная,
Священная война...—

ляцелі суровыя і ўрачыстыя словы.

Пусть ярость благородная,—

гучала так грозна, што Ягору здавалася, што вось гэтыя словы якраз і накіраваны супраць яго і калі падысці ў гэты час да гайка, то доўгія бліскучыя промні, што палыхаюць, нібы тыя вострыя шаблі, праніжуць яго наскрозь. Але супыніцца не мог. Нейкая магутная сіла цягнула туды, і, добра прыглядаючыся, што нікога на дарозе няма, ён падыходзіў да гайка бліжэй і бліжэй. Так і дапяў да самага абеліска, па-за якім у нейкія гоні палала вогнішча і вакол якога спяваў народ. Ён спыніўся каля самага абеліска і, здранцвелы, чытаў асветленыя далёкімі промнямі імёны тых, з кім ён некалі гадаваўся і рос: Янка Бірута, Сымон Мацейчык, Рыгор Місуна, Панас Кулеўскі...

Ой, бярозы ды сосны,
Партызанскія сёстры!..—

даляцелі да яго хвалюючыя словы песні, і Ягору здалося, што гукі яе ліліся не толькі з боку вогнішча, а і з самое брацкае магілы, дзе ляжалі яго аднагодкі. Ён глядзеў на надмагільны ўзгорак з шаўковаю травою, і яму здавалася, што трава варушылася на ім, а з яе пагрозліва паўставалі постаці тых, хто пад ёю ляжаў і якіх ён добра ведаў. Яны адзін за адным злосна, сурова кідалі яму ў твар словы яго чорнай віны. І Ягор міжволі, крок за крокам, адыходзіў назад і ўвесь калаціўся.

Вось Ягор адступіўся ўжо на некалькі крокаў ад абеліска, а яму здавалася, што ўслед за ім, грозна ўзняўшы руку з гранатаю, ідзе Янка Бірута. У яго ад гневу перакошаны твар, і ён крычыць: «Прэч!.. Прэч адсюль!.. Я ішоў вызваляць жанчын і падлеткаў, якіх гналі на катаргу, у палон у Германію, а ты страляў па нас, і я не паспеў кінуць свае гранаты, каб вызваліць іх. Ты спрабуеш цяпер схавацца ў полі, у якім мы сплятаці вянкі, а ты здрадзіў яму!.. Прэч!.. Прэч, нягоднік!»

У Ягора выступіў ад страху пот на твары, а па спіне забегалі халодныя мурашкі. Ён ужо адступаў не паволі, крочачы назад, а пабег у ляшчыннік да рэчкі. Але калі азірнуўся, дык выразна ўбачыў Сымона Мацейчыка, які, збялелы, наганяў яго з настаўленым аўтаматам і пасінелымі вуснамі беспերастанна крычаў:

«Мы хадзілі ў вёску, каб здабыць яды, бо пухлі ў лесе ад голаду... а ты страляў па нас!.. А сам забіраў усё — і хлеб, і сала, і кілбасу, і яйкі... І абжыраўся і абпіваўся разам з бандытамі, што з'явіліся знішчыць нас... Ты спра-

буеш цяпер схавацца на зарослым беразе рэчкі, у якой мы лавілі рыбу і ў якой мы разам пекалі купаліся і, як праменнямі, абсыпаліся пырскамі... А ты здрадзіў і рэчцы... Ты чуеш, здрадзіў! Хай яна патопіць цябе... здрадніка... Хай яна патопіць цябе!..»

І Ягор, крутнуўшыся, бег ужо ў бок лесу. А дамчаўшы да ўзлесся, азірнуўся, а за ім неадступна скакаў на кані з узнятаю востраю шабляю ў руцэ Рыгор Місуна, малады калгасны конюх, які гойкаў так, што рэха кацілася па лесе:

«Прэч!.. Прэч адсюль!.. Я вёз гэтым лесам лекі для тых, хто абараняў яго, а ты страляў у мяне. У лесе, у якім мы збіралі з табою грыбы, у лесе, які хаваў нас улетку ад спёкі, а зімою саграваў нас... А ты здрадзіў яму. І калі мы мерзлі ў зямлянках, ты, расчырванелы ад гарэлкі, скакаў разам з п'янымі фрыцамі. Здраднік ты, здраднік!..»

Ягор кінуўся ад лесу ў бок сяла, імкнучыся дамчаць да свае хаты. Выбег на палявую сцежку, якая ўлілася пасля ў большую дарожку, але і тут яго спыніла пагоня. Калі азірнуўся, бачыў, што грунём за ім гоніцца Панас Кулеўскі, калгасны каваль, і ўздымаючы цяжкі молат, вось-вось апусціць на ягоную галаву, злосна прымаўляючы:

«Мы рвалі рэйкі, каб не вывозілі нашых дзяцей, наша дабро, каб не наязджалі бандыты на нашу зямлю... А ты страляў у нас... Зганяў людзей зноў класці рэйкі... І страляў... Здраднік!.. Нягоднік!.. Ты ўцякаеш цяпер рознымі сцежкамі і шляхамі... Хочаш зноў у наша сяло?.. Няма табе дарогі да нас... Здраднік!.. Здраднік!..»

І Ягора, ужо не толькі ўспацелага, а пазелянелага, зусім амаль непрытомнага, апанаваў страх. Ён толькі адварочваўся і часамі спрабаваў апраўдвацца:

«Страляў я... страляў... Але не заўсёды я страляў... Было што і ўгору... Даруйце!.. Даруйце!..»

«Няма табе даравання!..— ён чуў, як крычалі ўслед ужо не паасобку, а ўсе разам.— Няма табе літасці... Здраднік!.. Нягоднік!..»

І Ягор кінуўся зноў у хмызняк, каб наўпрасткі дабегчы да хаты і ратавацца ад пагоні. Убег у густы ляшчыннік і на ўсю моц памчаў у сяло, але ляшчынавае голле як бызцам знарок хвастала яго па твары. Пот раўчукамі збягаў па спіне, а ён, хоць ужо і не адчуваў, каб хто за ім гнаўся, не мог спыніцца.

— Усё, усё супраць мяне...— шаптаў ужо амаль звар'-

яцелы Ягор.— І людзі... Не Плігаўка я ім, а здраднік Плюгаўка. І палі і лясы, якія ў дзяцінстве атулялі мяне ласкаю, цяпер выганяюць...

Ягор, зусім знясілены, дабраўся да хаты. Але не прылёг адпачыць. Адно яго цяпер хвалявала — хутчэй адсюль! Умомант сабраў у той жа рукзак, з якім заявіўся з Поўначы, самае неабходнае. Спяшаючыся, напісаў запіску, што пакідае ўсё, што тут ёсць, і прасіў таго, хто прачытае, рабіць з усім гэтым, што захоча. А сам, нават не замкнуўшы дзвярэй, яшчэ не аддыхаўшыся ад уцёкаў, памчаў цяпер у бок горада да станцыі, адкуль год назад вярнуўся. Ён ішоў і ўсё яшчэ бачыў, што не толькі людзі, а дрэвы, кветкі і травы хмурна пазіраюць на яго.

— Паеду, паеду далёка,— шаптаў ён сам сабе,— туды, дзе мяне ніхто не ведае. Буду жыць, працаваць. Буду так старацца, каб дзеці мае, калі будуць, не ведалі, кім я быў некалі. Тут і ім не было б спакою. Паеду ў Магадан, на Сахалін, на Камчатку... Абы далёка. Зямля вялікая... І народ вялікі, можа, даруе... можа, даруе...

Ягор спяшаўся ў новую дарогу, а з партызанскага вогнішча, пасля святкавання, на ўсходзе сонца, вярталіся людзі, і яркія вясновыя промні асвятлялі іхнія ўрачыста-засмучаныя і шчаслівыя твары.

# БЕССМЯРОТНАСЦЬ АРАТАГА

Калі б мы ў свой час думалі пра тое, што нам прыйдзецца пісаць успаміны, многае з пражытага пастараліся б захаваць у памяці назаўсёды. Тады пазней было б лягчэй ярка ўзнавіць вобраз чалавека, якога нам давялося ведаць. Але такі ўжо, відаць, закон жыцця, што ў маладосці мы і не думаем пра будучы нават свой канец, а тым больш пра тое, што нехта з блізкіх адыдзе з жыцця раней. Вось так нечакана пакінуў нас Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі, якога я меў шчасце ведаць блізка, іменна шчасце, таму што быў ён чалавекам рэдкаснага таленту, па-сапраўднаму вялікім, сапраўды народным паэтам.

Я ніколі і падумаць не мог, што чалавек здаровы, прыгожы, здавалася, волатаўскай сілы, невычэрпнай жыццялюбнасці можа адысці з жыцця раней за мяне, я ж старэйшы за яго на пяць гадоў. І я бяруся за пяро, каб расказаць пра тыя незабыўныя рысы любімага паэта, якія назаўсёды запалі ў маю душу. Як шкада, што многае забылася!

Упершыню я сустрэўся з Аляксандрам Твардоўскім у Мінску ў пачатку трыццатых гадоў. Мне было тады нешта каля дваццаці пяці, ну а Сашу Твардоўскаму, як тады мы яго звалі, каля дваццаці. Малады паэт з'явіўся ў Мінску разам з групай смаленскіх літаратараў, у якую ўваходзілі Міхаіл Ісакоўскі, Яфрэм Мар'енкаў, Мікалай Рыленкаў і іншыя. Найбольш вядомым са смалян быў тады Міхаіл Васільевіч Ісакоўскі, пра яго нават пісаў Максім Горкі. Ды і празаік Мар'енкаў, старэйшы гадамі, неяк выдзяляўся. Аляксандр Твардоўскі трымаўся сціпла, на ім быццам ляжаў яшчэ адбітак нейкай вясковай адасобленасці. Ён не імкнуўся выступаць у абмеркаваннях, але яго дапытлівыя блакітныя вочы гаварылі пра тое, што ён хоча як мага лепш зразумець усё. Бо, як потым расказваў нам Твардоўскі, яго глыбока цікавіла Савецкая Беларусь — і як суседка Смаленшчыны, з якой ён быў звязаны кроўнымі сувязямі, і як рэспубліка маладой культуры, створаная воляй рэвалюцый. Ды і творчасць некаторых нашых паэтаў ужо ў той час прыцягвала яго.

Акрамя таго, што мы разам са смалянамі выступалі на прадпрыемствах і ў розных клубах, мы абменьваліся абяцаннямі сябраваць і перакладаць адзін аднаго. Дык вось не скажу, што многа абяцаў малады Твардоўскі, ён жа і тады да лёгкіх абяцанняў быў не схільны. У ім была прыкметна вялікая павага да старэйшага, да Міхаіла Ісакоўскага, са сціпласці якога, мне здавалася, ён стараўся тады нават браць прыклад. З вялікай пачцівасцю ён адносіўся і да нашых класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Многае з творчасці іх было ўжо яму вядома.

Ёсць паэты, што як быццам пастулова набіраюць сваю вышыню, а ёсць, што як быццам імкліва ўзлятаюць. Вось да апошніх адносіцца і Аляксандр Твардоўскі. Ён усё нібы прыглядаўся, вывучаючы, пазнаючы, набываючы габы прыглядаўся, вывучаючы, пазнаючы, набываючы гадамі неабходныя веды, і раптам раскрыўся перад мільённым чытачом у сваім мудрым, іскрыстым, непаўторным таленце. Бо ўжо праз некалькі гадоў я сустрэўся з ім у Маскве як з аўтарам «Краіны Муравіі» — яркага паэтычнага твора пра станаўленне калгаснага жыцця. Сустрэўся выпадкова ля Беларускага вакзала. Выявілася, што мы адным і тым жа цягнікам прыехалі ў Маскву — ён са Смаленска, я з Мінска. Мы былі ўжо знаёмыя па некалькіх ранейшых сустрэчах, ды і чыталі адзін аднаго. Я, узрадаваўшыся сустрэчы, не прамінуў яму выказаць сваё захапленне «Краінай Муравіяй» і адчуў, што гэта спадабалася майму субяседніку. Я прыглядаўся да яго і бачыў, што апрануты ён сціпла, нават, можа быць, трохі беднавата. І па яго манеры трымацца адчувалася, што вялікі поспех не ўскруціў яму галаву. Твардоўскаму, вядома, было прыемна слухаць мае захопленыя водгукі, хоць, відавочна, яны былі не першыя, ды і сам ён быў упэўнены ў дасягнутым поспеху. Некаторыя мясціны сваёй паэмы яму, відаць, асабліва падабаліся, і ён чытаў іх мне. Чытаў ён не так, як многія паэты, якія націскалі ў той час на голас, на «пафас», а выразна і неяк вельмі сардэчна. Адчувалася, што паэт ведае цану кожнаму слову верша. Пагаварылі мы і пра нашых сучаснікаў, і пра класіку. У канцы гутаркі Твардоўскі спытаўся:

— А ты Някрасава любіш?..

— Ну, вядома,— неяк звычайна адказаў я.

— Любі Някрасава... Гэта вельмі вялікі рускі паэт. Мала хто зрабіў так многа, як ён...

Я падумаў пра «Краіну Муравію» і зразумеў, што вучоба ў Някрасава нямала памагла паэту ў стварэнні цу-

доўнай паэмы і ён шчыра ўдзячны сваіму настаўніку.

Мне памятаецца, што малады Твардоўскі гаварыў у той час пра свой будучы пераезд у Маскву. Прыцягвалі яго і неабходнасць вучобы, і больш бурнае, чым у Смаленску, літаратурнае жыццё. Калі развіталіся, я паглядзеў яму ўслед, і ў мяне было такое адчуванне, што наперадзе ў паэта вялікі паэтычны шлях.

Так яно і атрымалася. Хутка паэзія Аляксандра Твардоўскага выйшла на адно з першых месц у савецкай літаратуры. Газеты і часопісы ўсё часцей публікавалі яго свежыя, глыбокія, па-сапраўднаму мудрыя творы. Ён ужо вучыўся ў ІФЛІ, дзе разам з ім вучыліся і нашы беларускія літаратары Алесь Жаўрук і Алесь Кучар. Яны расказвалі мне пра поспехі Твардоўскага, ды гэта я адчуваў і сам. А пры новых сустрэчах удавалася паслухаць і тольк і што напісанае ім.

Мне цяжка ўспомніць усе нашы сустрэчы ў тыя гады. Памятаю, што ўбачыў я хутка Твардоўскага ўжо ў ваеншым шынялі. Гэта было ў дні вызваленчага паходу ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь і ў суровыя дні вайны з белафінамі. Як мне стала вядома, ужо тады ён пачаў пісаць паэтычную аповесць «Васілій Цёркін». А калі я сустрэўся з Аляксандрам Трыфанавічам у першы год Вялікай Айчыннай вайны, дазнаўся ад яго, што ён і цяпер старанна і натхнёна працуе над «Цёркіным». Ён чытаў тады нам новыя раздзелы з паэмы. Як усё было мудра, глыбока і проста! Якія яркія эпітэты, якія народныя звароты, прымаўкі, жывыя прытчы... Паэт, які, відаць, ужо не раз праверыў гэтыя раздзелы на чытачу, быў упэўнены ў сваім поспеху, але яго прыкметна радавала і наша захопленае ўхваленне. Праўда, думаю я цяпер, недарэчы я зрабіў тады заўвагу:

— Саша! А вось наконт прозвішча Цёркін — нельга было выбраць больш мілагучнае?..

— Ты не разумееш, Пеця! — рассмяяўшыся, адказаў ён.— Па-першае, справа не ў прозвішчы героя, усё, што гаворыцца пра яго, зробіць яго вельмі мілагучным, а падругое, а чым яно не рускае, не народнае...

Я падумаў, што сапраўды мая заўвага негрунтоўная, і адчуў нават няёмкасць, што выказаў яе.

Ужо ў далейшым, пасля новых вялікіх літаратурных удач Твардоўскага, я пераканаўся, што ў творчасці паэта нічога не было выпадковым. Ён умеў знаходзіць самае галоўнае, што ў той ці іншы час вызначала інтарэсы на-

рода, і героі яго твораў, іх збіральныя вобразы, былі заўсёды характэрнымі выразнікамі іменна гэтых інтарэсаў. «Краіна Муравія» — селянін Мікіта Маргунок і гады калектывізацыі, «Васілій Цёркін» — баец і Вялікая Айчынная вайна, «Дом ля дарогі» — вобраз гераіні і тыя ж нальнічныя гады, «За даллю — даль» — засваенне бясконцых прастораў, невычэрпных багаццяў вялікай Савецкай Радзімы.

Аляксандр Твардоўскі працаваў не спяшаючыся і грунтоўна. З першых жа заслужаных поспехаў праца яго стала прыкладам для многіх і асабліва для блізкіх таварышаў. Мы, яго аднагодкі па творчасці, ды і старэйшыя, якіх ён так паважаў, ставіліся ўважліва да яго суджэнняў. Я хачу сказаць хаця б пра нашых класікаў Янку Купалу і Якуба Коласа. Пахвалу Твардоўскага яны цанілі і прыслухоўваліся да яго крытычных заўваг. Па ўзросту многія гады аддзялялі іх ад Твардоўскага. Але па сваім паэтычным credo, па накіраванасці паэзіі яны былі вельмі блізкія.

Памятаю іх частыя сардэчныя гутаркі, і асабліва ярка апошнюю, у сярэдзіне цяжкага 1942 года. У гэтыя дні Янка Купала прыехаў у Маскву з Печышчаў пад Казанню, дзе ён пасяліўся пасля адыходу з Беларусі. Жыў ён у гасцініцы «Масква», памятаю, што ў нумары 412-м. У Саюзе пісьменнікаў я сустрэў Аляксандра Твардоўскага, які прыехаў у Маскву па камандзіроўцы з Заходняга фронту. Дазнаўшыся, што Янка Купала ў Маскве, ён захацеў абавязкова пабачыцца з ім. І яны хутка сустрэліся. Трэба было бачыць, як былі абодва рады гэтай сустрэчы. Купала, які глыбока перажываў страту роднай зямлі, хмуры ў тыя дні, прасвятлеў пры сустрэчы з франтавіком. І пацякла гаворка. Быў ужо блізка вечар, і мы так і не заўважылі, што надышоў каменданцкі час. Засталіся ў Купалы, ну зразумела, што бяседа зацягнулася далёка за поўнач.

Пра што толькі не гаварылі мы ў той вечар... Купала цікавіўся становішчам на фронце, а было яно ў тыя дні вельмі грозным. Памятаю, што ўпэўненасць Твардоўскага хаця і ў нялёгкай, але безумоўнай перамозе натхняла старэйшага з нас.

— Дык буду я дома, дарагі Трыфанавіч? — пытаўся Купала, які заўсёды з павагай звяртаўся да Твардоўскага.

— Будзеце, і мы з вамі будзем, абавязкова будзем,— дапускаючы беларусізм, каб дагадзіць Купалу, сцвяр-

джаў Твардоўскі.— Хаця і нялёгкая яшчэ наперадзе дарога.

І запыленая гімнасцёрка, і сляды ад франтавых рамянёў на ёй у падпалкоўніка Твардоўскага як быццам гаварылі пра яшчэ нялёгкі франтавы шлях да перамогі.

Вядома, чыталі вершы. І больш за ўсё Твардоўскі. І вядома, «Васілія Цёркіна». Купала захапляўся франтавым паэтам, і я памятаю, што, заўсёды немнагаслоўны, у той вечар ён неаднаразова паўтараў:

— Як гэта цудоўна!.. Як гэта цудоўна!..

Скардзіўся Купала Твардоўскаму на сваё гора, на тое, што недзе пакутуе ў акупацыі старая, бездапаможная маці, і на тое, што згарэла ў яго ўсё набытае гадамі, што асабліва шкада бібліятэкі і пакінутых рукапісаў. Добра памятаю, што, акрылены сустрэчай з Твардоўскім, яго расказамі, прачытанай паэмай, на развітанне Купала запрашаў ужо Аляксандра Трыфанавіча:

— Праз некалькі дзён мне будзе шэсцьдзесят. Дарагі Саша,— і тут ён хаця ўжо не называў Твардоўскага па бацьку, але зваў, як заўсёды, на «вы»,— вы не зможаце прыехаць у Маскву, пасядзець са мной, старым, справы ж у вас франтавыя... А пасля размовы з вамі я ўпэўнены, што буду дома. Дайце слова, што наведаеце мяне на дачы ў Ляўках над Дняпром...

— Даю слова, дзядзька Янка,— ужо зусім па-беларуску і не жартуючы, запэўніў Купалу Твардоўскі.

Яны расцалаваліся, але, на жаль, сустрэцца ім ужо не давялося. Праз некалькі дзён Янка Купала трагічна загінуў.

А з Твардоўскім сустрэліся мы ўжо ўлетку 1944-га ў вызваленым Мінску. Неяк іду я, задумаўшыся, па вуліцы горада — ды і вуліцай гэта было назваць цяжка, адны руіны ды закураныя шкілеты былых будынкаў навокал,— раптам чую знаёмы жартаўлівы голас:

— Ды няйначай гэта сам таварыш Броўка па сваёй вызваленай сталіцы крочыць!..

Я азірнуўся і, пазнаўшы Твардоўскага, у сваю чаргу пажартаваў:

— З вашаю дапамогаю, таварыш Твардоўскі!..

— А што ж ты думаеш! — ён працягваў паўжартам:— У гэтым і мая нейкая доля ёсць.

— Ну раз так, пайшлі да мяне!..

Твардоўскі быў разам з Яўгенам Караб'ёвым. Ці то

прыехалі яны ў Мінск з фронту ў камандзіроўку, ці то заехалі на дарозе ў Маскву.

І мы сапраўды пайшлі да мяне на вуліцу Падлесную, дзе я часова жыў, вярнуўшыся на радзіму. Па дарозе падзяліліся навінамі франтавымі — радаснымі, у той жа час гітлераўцаў гналі ўсё далей і далей... Патужылі аб пакутах Беларусі і аб сумным выглядзе Мінска. Але адчуванне блізкай перамогі як быццам адлюстроўвалася на нашых прасвятлелых тварах.

У мяне, у маленькім, не абжытым яшчэ кутку, мы, як заведзена, пасядзелі па-франтавому. Нешта здабыў са сціплых пайкоў я, ды і Твардоўскі з Вараб'ёвым патрывожылі свае франтавыя торбы. Увогуле абед для таго часу атрымаўся на славу.

Пра многае мы гаварылі ў той дзень. І, вядома, успаміналі Янку Купалу.

— Шкада, вельмі шкада, што не дажыў Іван Дамінікавіч, вось бы паплакаў на радасцях ды і напісаў бы... Ды і на дачы ў Ляўках, куды ён мяне запрашаў, мы б пабывалі...

Твардоўскі не вельмі любіў чытаць у час такіх бясед. Але на гэты раз чытаў новыя раздзелы з «Цёркіна» ды і вершы. Памятую, што прачытаў яму і я сваю невялікую паэму «Ясны Кут». Былі размовы і нават невялікія спрэчкі пра тое, што хацелася б бачыць у нашай паэзіі.

Неўзабаве пасля вайны, гэта было ў 1947 годзе, давялося мне быць з Аляксандрам Твардоўскім, Ільёй Эрэнбургам і Паўлом Тычынам у Польшчы. Гэта была мая, ды, відаць, і Твардоўскага, першая паездка за мяжу.

Нашы польскія сябры прымалі нас ад усяго сэрца. Багата частавалі, па тым часе, можа быць, нават занадта. Яно зразумела. Мы разам адзначалі ў тыя дні радасць агульнай перамогі. Але ўнутраная сціпласць Твардоўскага праявілася і на гэты раз. Аднойчы ўвечары, дзелячыся сваімі ўражаннямі аб перажытым дні, Твардоўскі сказаў:

— А ведаеш, неяк няёмка атрымліваецца: народу ж і нашаму, і польскаму жывецца яшчэ нялёгка. Карткі... іншы раз ледзь рука са смачным кавалкам да рота падымаецца.

Але гэта адступленне. А паездка была вельмі цікавай, па-сапраўднаму неабходнай. Мы праехалі тады амаль усю Польшчу. І выступалі, выступалі... І сярод рабочых у заводскіх клубах, і ў сялян, і ў літаратараў, і ў вучоных. Трэба было бачыць, з якім захапленнем усюды прымалі

Твардоўскага. Паэзія яго ў той час была вельмі папулярная і ў Польшчы. Ды і паэтычную, вобразную мову яго, мне здавалася, слухачы ўспрымалі лёгка.

Была ў нас і адна цяжкая паездка. Гэта ў Асвенцім. Мы хадзілі па хмурых бараках, дзе гінулі тысячы і тысячы, стаялі, апусціўшы галовы ля печаў крэматорыя, праз якія прайшлі дымам сотні тысяч, схілялі галовы ля сцяны, дзе расстрэльвалі асуджаных, з нянавісцю глядзелі на вокны дома, дзе ў час пакаранняў смерцю іграў аркестр і весяліліся эсэсаўцы. Твардоўскі ўвесь дзень быў маўклівы. Я ніколі не забудуся, як ля крэматорыя ён па-брацку моўчкі пацiснуў мне руку, быццам падтрымліваючы. Ён жа ведаў, што тут загінула і мая маці. Мы праходзілі праз вялізарны барак, у якім разасланыя на падлозе ляжалі валасы — і дзіцячыя, і сівыя, валасы ўсіх колераў, састрыжаныя перад смерцю, каб выкарыстаць іх пасля для матрацаў...

Некалькі дзён мы былі гасцямі новага народнага ваяводы генерала Завадскага. Твардоўскі і я жылі разам у адным пакоі. Неяк увечары, перагаварыўшы пра ўсё, мы ўздумалі паспяваць. Твардоўскі, не валодаючы нейкім асаблівым пеўчым дарам, спяваў з вялікім пачуццём. Вось мы і заводзілі ўсё, што нам прыгадвалася. Больш народнае: рускія, беларускія ды і ўкраінскія песні. І «Уніз па Волзе», і «Ой расцвіла ружа», і «Рэве та стогне». І неяк непрыкметна спыніліся на «Карабейніках». Ну і захопленыя зацягнулі мы «Ой, полным-полна...», нават Паўло Рыгоравіч, пачуўшы, не сцерпеў і прыйшоў падцягнуць. І Твардоўскі спытаўся:

— Скажыце, Паўло Рыгоравіч, вы, вядома, вялікі майстар спеваў і нашых пеўчых дадзеных высока не цэніце... Але ж словы, словы якія?..— І ў вочы: — А вы любіце Някрасава?..

Застаны знянацку, мілы Паўло Рыгоравіч, які, відаць, вельмі любіў Някрасава, усхвалявана паўтараў:

— А як жа? А як жа?..

— Вось і Пятрусь,— прыгадаў даўнюю нашу размову Твардоўскі, — так жа мне гаварыў: «А як жа... а як жа...» — І хаця яшчэ жартам, але ўжо катэгарычна заявіў: — А я вельмі люблю Някрасава. Ніхто так, як ён, не разумеў рускую сялянскую душу... Я чытаю яго нязменна і кожны раз адкрываю ў ім новае для сябе...

Хіба можна зараз успомніць усё, што гаварыў тады пра Някрасава Аляксандр Твардоўскі! А гаварыў ён натхнёна,

з вялікім веданнем творчасці Някрасава. І пазней, калі мне даводзілася слухаць выступленні Твардоўскага — ці то змястоўныя даклады, ці то проста словы пра тыя ці іншыя літаратурныя з'явы,— я заўсёды пераконваўся, якая невычэрпная крыніца яго ведаў і якое велізарнае ўменне заўсёды знаходзіць новае для пацвярджэння сваіх довадаў.

У яго, проста скажу, акрамя вялікага паэтычнага таленту былі і вялікія літаратуразнаўчыя здольнасці. Праўда, ён рэдка карыстаўся імі. Але тое, што засталося з выступленняў Твардоўскага па пытаннях літаратуры, асабліва паэзіі, вельмі павучальна.

Ён мала пісаў крытычных артыкулаў, хаця вусна пра творчасць таго ці іншага таварыша выказваўся часта. Але рэчы, якія асабліва цікавілі паэта, былі заўсёды ў цэнтры ягонай увагі. Так пашанцавала нашаму Аркадзю Куляшову. Твардоўскі пісаў і шмат гаварыў пра яго вядомую паэму «Сцяг брыгады». Ён жа параіў свайму старэйшаму другу Міхаілу Васільевічу Ісакоўскаму перакласці яе на рускую мову. Ды і пасля неаднаразова ставіў гэты твор на адно з першых месц у паэзіі ваенных часоў.

Аляксандр Твардоўскі добра ведаў беларускую мову. І таму беларуская паэзія была для яго поўнасцю адкрытай. Ён глыбока паважаў нашых старэйшын і высока цаніў іх творчасць. Праўда, сам ён перакладаў мала. Але іншы раз звяртаўся да таго, што было для нас нечаканым. Раптам з'явіліся ў яго перакладзе вершы параўнальна малавядомага беларускага паэта Міколы Засіма. І мы ўбачылі, што дарэмна не заўважалі іх. А вершы па-сапраўднаму народныя, дасціпныя, з моцнай паэтычнай хваткай. І гумар у іх востры, густы, партызанскі...

Аляксандр Твардоўскі ніколі не таіў сваіх адносін да любога паэта. Памятаю адно з пасяджэнняў сакратарыята Праўлення СП СССР. Нехта прапанаваў шматтомнае выданне нашумелага ў тыя гады паэта, сцвярджаючы, што ўсё напісанае ім трэба абавязкова выдаць. Вось, маўляў, і Ясеніна цяпер, што ім ні напісана, выдаюць поўнасцю. Твардоўскі абурыўся:

— Ну ўжо дазвольце!.. Што Ясеніна — гэта правільна. Я ніколі не вучыўся ў Ясеніна, але лічу, што вашаму кандыдату, якога вы асмельваецеся ставіць побач з Сяргеем Аляксандравічам, куды як далёка да яго...

І ўсе згадзіліся, што параўнанне новага прэтэндэнта з вялікім рускім паэтам недарэчы.

Шмат гадоў даводзілася мне сустракацца з Аляксанд-

рам Трыфанавічам на розных пленумах і з'ездах, а часцей за ўсё разам працаваць у сакратарыятах Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Ён выступаў рэдка, але, як гаворыцца, метка, і да голасу яго заўсёды прыслухоўваліся.

Ну а што датычыць паэзіі, тут яго думка была неаспрэчнай. А калі ён узначальваў «Новый мир», надрукаваць вершы ў часопісе лічылася за гонар. Калі ўжо Твардоўскі прапусціў — значыць, нядрэнна. Ды і ў мяне, і ў маіх блізкіх сяброў былі такія выпадкі, што з пасланага Твардоўскаму цыкла раптам не з'яўляліся на старонках часопіса ці то верш, ці два. Пярэчыць рэдактару было бескарысна. Ён заўсёды пераканальна даводзіў сваю праўду.

Бясконца патрабавальны да сябе, быў ён такім жа і ў адносінах да іншых. Сам не спяшаўся друкавацца, але ўжо тое, што выходзіла ў свет, было бездакорнае. Працаваў ён заўсёды. Памятаю, што ў часе адпачынку і лячэння ў Барвісе, сустракаючыся са мною на прагулцы, ён заўсёды гаварыў пра тое, чым тады жыў. Па яго, хаця і ўрыўкавых, расказах можна было меркаваць, як ідзе праца.

— Ну, здаецца, дадумаў да канца,— гаварыў ён пра адну са сваіх паэм.— Расставіў калочкі... А цяпер толькі араць,— гаварыў ён, сустракаючыся праз некаторы час.— І барозны кладуцца як быццам нядрэнна...— ужо заўважаў праз некалькі дзён, успамінаючы пра сваю працу.

Твардоўскі, мне здавалася, не любіў выступаць на вялікіх літаратурных вечарах і сходах з чытаннем сваіх твораў. Ён не ганяўся за мільганнем свайго прозвішча на бясконцых афішах з якой-небудзь прычыны і без прычыны. А вось у коле блізкіх сяброў, тых, каму ён давяраў, любіў і пачытаць, і параіцца.

Быў ён скупаваты на пахвалы, ну, а калі адзначаў штонебудзь, усе мы ведалі, што гэта заслужана, і былі яму вельмі ўдзячны. Ніколі не забудуся і я, калі ў 1962 годзе ў час прысуджэння мне Ленінскай прэміі ён падышоў да мяне на Нягліннай у Камітэце па прэміях і сардэчна павіншаваў. Мы расцалаваліся.

Ну, а калі, як я ўжо гаварыў, Твардоўскі не любіў выступаць на шматлюдных вечарах з чытаннем вершаў, дык з прамовамі і тым больш. Затое калі ўжо выступаў на якім-небудзь адказным з'ездзе ці сходзе, дык заўсёды глыбока, грунтоўна і павучальна. У такіх выступленнях яго адчуваліся і глыбокае веданне справы, і пільны погляд у будучыню.

Усе мы ў Беларусі вельмі цанілі яго заўвагі пра нашу

літаратуру, а яго выступленне на 2-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ўспрымаецца і сёння як глыбокае, па-сапраўднаму аналітычнае, якое вызначае вехі далейшага развіцця літаратуры.

Твардоўскі не раскідаўся сваімі прыхільнасцямі. Былі ў яго сябры, сярод якіх адных ён любіў больш, другіх менш, але для ўсіх быў сябрам, па-сапраўднаму сумленным, праўдзівым. Многія лічылі яго, і не без падставы, добрым сябрам і настаўнікам. Ну, а сам ён любіў больш за ўсіх (з падзякаю ўспамінаў пра тое, што ў свой час вучыўся ў яго) Міхаіла Васільевіча Ісакоўскага. Я шмат разоў прысутнічаў пры сяброўскіх іх гутарках і адчуваў, з якой пяшчотнай любоўю Аляксандр Трыфанавіч адносіўся да старэйшага таварыша; успамінаю, з якой удзячнасцю ён гаварыў пра Міхаіла Васільевіча скрозь і ўсюды.

Як шкада, што мы не запісваем уражанняў пра нашы сустрэчы! Колькі знікла з таго, што магло дапоўніць светлы вобраз па-сапраўднаму вялікага рускага паэта Аляксандра Трыфанавіча Твардоўскага, паэта глыбока патрыятычнага, паэта-камуніста, паэта-інтэрнацыяналіста, які нямала дапамагаў станаўленню многіх паэтаў нашых брацкіх рэспублік!

Калі Аляксандр Трыфанавіч хварэў, мы ўсе спадзяваліся, што ён адолее сваю цяжкую хваробу. Мы ж ведалі, што і фізічна ён волат. Я баяўся наведваць Твардоўскага ў часе хваробы перш за ўсё, каб не турбаваць, а яшчэ — спадзеючыся, што ён адолее немач і мы ўбачым яго зноў жыццярадасным, як раней. Апошнюю яго паштоўку я атрымаў з малюнкам Вярэйскага, на якім былі адлюстраваны ласкавыя рускія бярозы ля дома, дзе жыў паэт апошнія гады. Я часта глядзеў на гэты малюнак, як бы спадзеючыся, што, хутка ачуняўшы, Саша Твардоўскі з'явіцца з усмешкай сярод гэтых бяроз.

Гэтага не здарылася. Адышоў ён ад іх назаўсёды. Але не адышоў і не адыдзе ніколі з сяброўскіх сэрцаў многіх мільёнаў ягоных чытачоў і прыхільнікаў. Я разглядаю яго новую кнігу, што выйшла ў «Библиотеке всемирной литературы», і стаўлю яе на паліцу побач са многімі самымі выдатнымі імёнамі сусветнай літаратуры. Адчуваю, што гэта навечна.

# НЕЗАБЫЎНЫ ПАЭТ І ЧАЛАВЕК

Пятра Глебку любілі ўсе за яго лагодны характар, за добрыя сяброўскія парады, якія ён шчыра даваў усім, хто звяртаўся да яго. А параіць Глебка мог шмат, бо валодаў добрым запасам ведаў. Ён не надта гаваркі і ніколі не быў пустасловам. Часам здаваўся нават маўклівым. Нездарма Якуб Колас аднойчы казаў мне пра яго:

— А ведаеш, Петрусёк, з Глебкам добра нават памаўчаць!..

І з гэтым пагаджаліся ўсе Глебкавы сябры.

Я не хачу сцвярджаць, што ён быў занадта мяккім, бязвольным. Калі трэба было, Глебка настойліва даводзіў свае перакананні, а ў спрэчках часамі злаваўся і, як кажуць, павышаў голас. Толькі рабіў ён гэта заўсёды ўмела, тактоўна, з пачуццём павагі і нейкае асаблівае ўнутранае ласкі да людзей, так што ніхто на яго ніколі не крыўдзіўся...

Глебка і сёння стаіць перад вачамі. Пазнаёміўся я з ім у канцы дваццатых гадоў, калі прыехаў у Мінск з Полацка вучыцца. Сустрэўся з ім як са студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. І хоць ён мой аднагодак, але быў старэйшы на курс на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта. Мала таго што Глебка быў на курс старэйшы, але і больш вядомы як паэт, бо, як кажуць, у той час быў ён паэтам сталічным, а я яшчэ з полацкай філіі і на свайго цёзку пазіраў з павагай. А яшчэ пасля «Маладняка» быў Глебка і ў другой літаратурнай арганізацыі — ва «Узвышшы», якая ўжо самой назвай сваёй лічыла сябе вышэйшаю за нас, маладнякоўцаў. І хоць мы пэўным чынам тады змагаліся з «Узвышшам», але адмаўляць таго, што там сабраліся здольныя людзі, не маглі. А пасада сакратара часопіса «Узвышша», якую тады займаў Пятро Глебка, таксама пэўным чынам узвышала яго.

Бліжэй пазнаў я Глебку праз нейкі год, прыгледзеўшыся да яго ва універсітэце, а больш за ўсё ў Доме пісьменніка, на сумесных літаратурных выступленнях, а часам і на выездах у раёны. Вельмі кранула мяне, калі аднойчы

па-сяброўску ён, зрабіўшы нейкія заўвагі, пахваліў мой верш. Я ўжо не памятаю, як гэта здарылася, але неўзабаве мы сталі сябрамі, і я часта пачаў наведваць ягоны ўтульны прытулак на вуліцы Розы Люксембург. Ды і ўсе маладыя літаратары хутка заўважылі наша шчырае сяброўства. Пятро Глебка — Пятрусь Броўка. Нездарма нас часта і блыталі. І мяне, і яго звалі то Броўкам, то Глебкам, ды гэта нас не крыўдзіла. Больш таго, прыгадваю цяпер адзін кур'ёзны выпадак: Пятро Глебка з тыдзень выступаў на літаратурных вечарах у Віцебскай вобласці, а ў справаздачах газеты надрукавалі, што з вялікім поспехам выступаў Броўка. Было часам і наадварот. І, можа, таму, калі я друкаваў у «Чырвонай Полаччыне» свой першы верш, каб розніцца ад Глебкі, у той час ужо даволі вядомага ў Беларусі паэта, замест Пятро падпісаўся — Пятрусь.

Хутка прайшлі першыя гады знаёмства, якія моцна паядналі нас, а пасля ўжо на ўсё жыццё нашы дарогі былі неразлучныя. Скончыў універсітэт Пятро Глебка, а праз год — і я. Літаратурная праца стала асноваю нашага жыцця. І ўсе падзеі, якія датычыліся літаратараў, былі для нас амаль аднолькавыя.

Успамінаю нашу першую, найбольш працяглую сумесную камандзіроўку. Гэта было ў 1932 годзе. У Беларусі, як і ва ўсіх рэспубліках, тады існавала літаратурная арганізацыя Чырвонай Арміі і Флоту (ЛАЧАФ). Мы былі членамі яе і па яе заданню паехалі на два месяцы ў 7-ю Самарскую кавалерыйскую дывізію, каб дапамагчы чырвонаармейцам, пачаткоўцам у літаратуры, а галоўнае, каб вывучыць жыццё воінаў і што-небудзь напісаць пра іх. 7-я Самарская стаяла тады ў Ждановічах, і мы з вялікаю карысцю прабылі ў ёй вызначаны нам час. Былі мы па-вайсковаму абмундзіраваны, жылі ў звычайных лагерных умовах, але карысталіся вольным часам, які быў неабходны нам для вывучэння армейскага жыцця і для творчай працы. Пятро Глебка напісаў у той час некалькі вершаў, прысвечаных Чырвонай Арміі, а пасля — паэму «Ноч у вайсковых лагерах», а я неўзабаве паводле гісторыі Самарскай кавалерыйскай дывізіі — сваю паэму «Праз горы і стэп».

Дарэчы, у Ждановічах я пазнаёміўся праз жонку паэта Ніну Іларыёнаўну са сваёй Аленай Міхайлаўнай, з якой праз год мы пачалі наша сумеснае жыццё. Між іншым, цікава, што амаль праз трыццаць год пасля Вялікай Айчыннай вайны, пабыўшы далёка ад дому і на франтах і

за межамі Радзімы, нам з Глебкам і з нашым добрым старэйшым другам Кандратам Крапівой выпала пабудаваць летнія сялібы на тым месцы, дзе мы некалі служылі з Пятром Фёдаравічам.

Тое, што пісалася мною ў тыя гады, я заўсёды паказваў майму сябру. Ды і ён ахвотна чытаў мне свае здабыткі. Праз яго пашыраўся і мой сяброўскі круг. У хату Глебкі часта прыходзіў Кузьма Чорны, хоць радзей, але наведваўся і Кандрат Крапіва. Вядомая рэч, што сяброўская гутарка за сталом больш за ўсё краналася літаратурнага жыцця і таго, што мы самі рабілі.

Кандрат Крапіва і Кузьма Чорны былі ў тыя гады ўжо вядомымі пісьменнікамі, і мы з Глебкам уважліва прыслухоўваліся да іх заўваг.

І вось тады, калі я напісаў сваю паэму «1914 год», Пятро параіў мне прачытаць яе Чорнаму і Крапіве. У адзін з вечароў я і чытаў паэму на маленькай кватэры Чорнага каля Траецкай гары. Пятро, які ўжо раней пазнаёміўся з паэмай і даў ёй станоўчую ацэнку, чакаў — што скажуць старэйшыя. Распачаў выказванне, як памятаю, Кузьма Чорны, якому спадабалася і пэўная, на той час, свежасць у рытмічнай будове верша, а галоўнае — героі-вясковцы паэмы. Пасля выказваўся Кандрат Крапіва, не вельмі паспешлівы на вывады. Мяне нават крыху здзівіла, чаму не распачаў гаворку Глебка, які ўжо добра ведаў маю рэч. Але хутка я зразумеў: ён сціплы і разважлівы чалавек, спачатку выслухаў, што сказалі старэйшыя, а тады абагуліў і свае меркаванні і думкі старэйшых сяброў. Сапраўды, як добры педагог. Наогул, калі б Глебка не быў паэтам, а пайшоў па педагагічнай лініі, ён быў бы добрым настаўнікам. У яго быў сапраўдны педагагічны талент. Ды і жыццёвыя звычкі Глебкавы былі арганізаваныя, прыкладныя. Дарэчы, калі паэт садзіўся за стол працаваць, ён заўсёды быў падцягнуты: паголены, прычасаны, у чыстай кашулі, нават пры гальштуку. Ён нібы паказваў гэтым, з якой адказнасцю бярэцца за справу. І радкі яго пісьма былі выразныя, непаспешлівыя, нават, калі трэба, акуратна перакрэсленыя. Дасканаласць і акуратнасць былі адметныя рысы яго характару.

Калі глядзець на Пятра Глебку звонку, здавалася, ён не вельмі рухавы, крыху запаволены, часам нават замаруджаны. Але гэта вонкавае ўражанне. Ён лёгка адгукаўся на розныя прапановы, не лічыўся з цяжкасцямі, калі было што патрэбна зрабіць і асабліва калі што спрыяла ягонаму

сэрцу. Памятаю, рускі пісьменнік Іван Шапавалаў, які працаваў у палітупраўленні пагранвойск на Беларусі, прапанаваў кампазітару Ісаку Любану, Глебку і мне напісаць цыкл песень для вартавых граніцы. Глебка адгукнуўся адразу. І вось мы паехалі з Шапавалавым і Любанам у Цімкавіцкі пагранатрад (на радзіму Кузьмы Чорнага) і там пажылі некаторы час, пакуль не стварылі патрэбны цыкл песень. Добра, цыкл мы стварылі, але шкада — няма каму выконваць. Хору пры атрадзе не было. Паспрабуй яго стварыць — колькі часу пройдзе? І таму па прапанове Ісака Любана так званы хор быў створаны са штабістаў атрада. Запрасілі ўдзельнічаць і нас. Я яшчэ вагаўся, ну, якія з нас спевакі, а Глебка заявіў рашуча:

— Петрусёк, калі трэба, дык трэба!..

І мы, апрануўшы форму пагранічнікаў, пасля некалькіх рэпетыцый пад кіраўніцтвам Любана спявалі ўжо ў хоры пагранатрада. Можа, і не так дасканала гучалі нашы галасы, але затое моцна.

У мяне з Глебкам у пачатку нашай грамадскай дзейнасці было шмат агульнага: абодва былі вясковыя камсамольцы аднаго ўзросту. Глебка быў у свой час сакратаром, а я старшынёй сельсавета. Неяк у часе адных размоў вельмі пацягнула нас у свае куткі. І мы парашылі разам наведаць родныя мясціны. Перш-наперш наведалі Вялікую Вусу на Уздзеншчыне. Помню, я прыкідваў: а дзе прыгажэйшая мясцовасць — у яго ці ў нас? Ну, вядома, мая Вушаччына і асабліва Пуцілкавічы мне падабаліся больш, хоць я шчыра хваліў ягоную ціхаплынную рэчку Вусу, і садкі, і гаі. Праўда, лес іхні, мне здавалася, у параўнанні з Пуцілкавічамі далёка ад хат, бо ў нас жа ён пачынаўся проста за гумнамі. Ды і вёска была значна большай за нашу, а я прывык да свае малой. Затое ў астатнім усё было падобна на наша: і хаты, і хлявы, і гумны, і тое, што ў хаце.

Бацькі Глебкі сустрэлі нас з радасцю і накрылі стол усім лепшым, чым маглі. Бацька яго здаўся мне ўжо вельмі старым, так яно і было — Пятро ж быў у сям'і самым малодшым. Маці, спрацаваная, вельмі рухавая, як усе нашы маці, частавала нас чым магла, з вялікай любасцю паглядала на меншанькага, які выйшаў у такія людзі. Жылі бацькі Глебкавы, як відаць, сціпла, ды і сын-паэт на той час не мог яшчэ як належыць ім дапамагчы.

Старэйшы брат Пятра Алесь жыў асобна з жонкаю.

І хата яго навейшая, ды і ў хаце вызначаўся большы дастатак. Памятаю, што і пачастункаў ён мог выставіць больш. І хоць быў просты вясковы чалавек, але цікавіўся тым, што робіцца ў свеце, і нават прасіў нас пачытаць свае вершы. Не ведаю, ці кранула яго і ягоных сяброў, запрошаных на сустрэчу, наша чытанне, але слухалі ўсе ўважліва і казалі, што добра.

Гэта паездка пераканала, што ў Глебкі, як і ў мяне, першакрыніцаю творчасці з'яўляецца наша простая вёска з яе добрымі, працавітымі людзьмі, якія сталі на новы шлях жыцця, дзякуючы Савецкай уладзе.

У тое ж лета мы з ім наведалі і мае Пуцілкавічы. Я вельмі перажываў, ці спадабаецца мая мясцовасць яму, а галоўнае — людзі, і вельмі ганарыўся, калі на сустрэчу з намі ў сельскі клуб (будынак былой царквы) прыйшло многа моладзі, ды і сталых сялян. Трэба было бачыць, з якім пафасам чыталі мы свае творы.

Спадабаліся Глебку, як я заўважыў, і мая лясная, азёрная Вушаччына, і невялікія Пуцілкавічы, і мая маці, у нечым вельмі падобная да яго матулі.

Праз некалькі год парашылі мы з Пятром Глебкам бліжэй пазнаёміцца з жыццём тагачаснага калгаса, а заадно і правесці свой летні адпачынак.

Неяк пагаварылі пра гэта з сакратаром Барысаўскага райкома КПБ таварышам Чарнышовым, а той — нядоўга думаючы:

— Прыязджайце да нас!..

Так мы і апынуліся ўлетку ў калгасе «Чырвоная Зорка» пад Барысавам. Пабралі з сабой жонак і пасяліліся ў памяшканні пачатковай школы ў былым фальварку Вільянова побліз вёскі Кішчына Слабада, цэнтра калгаса. Слаўна мы тады пажылі ў Вільянове, добра папрацавалі. Дамоў адпачынку ў той час у Саюзе пісьменнікаў не было, ды і творчых камандзіровак таксама. Не было ў нас, па праўдзе кажучы, і грошай пра запас, а жылі слаўна. Дамовіліся мы з рэдакцыяй газеты «Звязда», што будзем праз дзень прысылаць туды падвальныя нарысы пра жыццё калгаса. Рэдакцыя дала невялікі аванс, але нам і яго хапала, бо жылі мы вельмі сціпла. Бралі ў сельскай краме хлеб, калгас даваў 2—3 літры малака на дзень, бульбу і гародніну.

Вакол у лесе было поўна грыбоў і ягад. Гатавалі страву самі па чарзе, і не толькі нашы жонкі, а і мы з Пятром.

Мы цвёрда выканалі сваё абяцанне, дадзенае «Звяздзе», у якой праз дзень з'яўляліся нашы новыя нарысы. А каб нарыс напісаць, трэба было добра пахадзіць і па калгасным полі, і пабыць у калгасных кароўніках, і свінарніках, ды пагаварыць з калгаснікамі і на працы, і ў іхніх хатах. Адным словам, наш адпачынак даў нам тады добрую жыццёвую зарадку ў веданні тагачаснага калгаснага жыцця, бо, вярнуўшыся з калгаса, у тую ж восень Уравыдавецтва выпусціла нашу калектыўную кніжку «Ураджай». А здабытыя веды прыдаліся кожнаму з нас на ўсё жыццё. З якой цеплынёй, удзячнасцю ўспаміналася нам тое лета ў «Чырвонай Зорцы», асабліва калі ў вайну мы былі разлучаны з Беларуссю.

І ў Вялікую Айчынную вайну мы былі побач, хоць сустрэліся ў франтавой газеце не адразу. Калі я з Максімам Танкам і Алесем Кучарам прыехаў на Бранскі фронт у газету «За Савецкую Беларусь», дзе працавалі тады Лынькоў, Крапіва, Гурскі, Панчанка і Стаховіч, Глебкі ўжо не было. Ён цяжка захварэў, і яго накіравалі ў шпіталь, які знаходзіўся недзе за Масквой. Сустрэліся мы з ім ужо на Заходнім фронце, а потым знаходзіліся ў Маскве, пасля таго, як з рэдакцыяй газеты Бранскага і Паўднёва-Заходняга франтоў перабылі ўжо і ў Касторным, і ў Лебядзяні, і ў Мічурынску, і ў Гразях.

Пасля фронту Пятро Глебка доўгі час працаваў галоўным рэдактарам створанага ў гады вайны ў Маскве Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі. Дзе б ні рабіў Глебка ў час вайны, ён зарэкамендаваў сябе патрыётам, вытрыманым, разважлівым, адданым, які ўнёс свой плённы ўклад у вызваленне роднай Савецкай Беларусі.

А пасля вайны Пятро Глебка цалкам аддаўся навуцы. Ён стаў супрацоўнікам Акадэміі навук БССР, дзе і працаваў да канца дзён сваіх ужо як правадзейны член Акадэміі. Зрабіў ён вельмі многа. Шкада толькі, што акадэмічная работа часта адрывала яго ад паэзіі і драматургіі, але тое, што зроблена Пятром Глебкам у навуцы, заслугоўвае вялікай удзячнасці. Працуючы над слоўнікам, ён свядома ахвяроўваў сваімі літаратурнымі планамі, пісаў менш, як да вайны, і калі я зазначаў яму пра гэта, спакойна адказваў:

— А сёння слоўнік, над якім мы працуем у Інстытуце мовазнаўства, не менш варты, чым вершы. Вось пачакай, скончым, і тады на поўную моц вазьмуся...

Нягледзячы на тое, што паэт быў вельмі заняты пра-

цаю ў Акадэміі, дзе ён спачатку ўзначальваў пэўныя інстытуты, а пасля быў выбраны сакратаром-акадэмікам Аддзялення грамадскіх навук, ён актыўна ўдзельнічаў і ў літаратурным жыцці. Будучы членам Прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, дапамагаў росту літаратурнай моладзі і прымаў удзел у творчых дыскусіях і літаратурных вечарах, выязджаў у братнія рэспублікі. Шмат хто з нашых сяброў з вялікай цеплынёю ўспамінае аб ім. Пятро Глебка быў неблагі літаратуразнаўца, часта выказваўся па неадкладных задачах літаратуры. І хоць па характару здаваўся мяккім, быў прынцыповы і цвёрды там, дзе лічыў, што дзейнічае правільна. І памыляўся вельмі рэдка.

Пра Пятра Глебку можна пісаць многа. Я выказаў толькі частку з таго, што засталося ў мяне ў памяці ад доўгага сяброўства з незабыўным паэтам і чалавекам. Выпала мне быць пры ім і ў часе апошняй хваробы. Гэта было ў Маскве. Я дзяжурыў як сакратар Праўлення ў Саюзе пісьменнікаў СССР у лістападзе 1969 года. Глебка ехаў падлячыцца ў падмаскоўны санаторый у Пушкіна. Яго многа год непакоіла сэрца, паэту варта было адносіцца больш ашчадна да яго, але не мог ён заставацца ўбаку ад бурлівых падзей жыцця і працаваў, як кажуць, не шкадуючы сябе. Тады я сустрэў яго ў Маскве. Выгляд яго не прадказваў нічога благога. Быў ён, як заўсёды, роўны, спакойны, нават жартаўлівы. Мы ўмовіліся сустрэцца праз нейкі тыдзень. Але выйшла інакш. Праз дзень мне пазванілі з санаторыя і сказалі, што паэт цяжка захварэў. Я неадкладна памчаўся ў Пушкіна. У адным з пакойчыкаў санаторыя Глебка ляжаў на ложку, а побач з ім — кіслародная падушка. Твар яго быў спакойны, але стомлены ад цяжкае ночы.

У бальніцы, пад Масквой, ужо ў снежні я размаўляў з ім апошні раз. Мне здавалася, што хваробу ён пераможа і зноў будзе, як заўсёды, разам з намі. Ды і сам ён клапаціўся аб тым, як там працуюць яго таварышы ў Акадэміі, і падумваў пра тое, каб пасля паздараўлення напісаць тое-сёе. А хацеў ён напісаць новую п'есу, успаміны пад агульнаю назваю «Мая анкета», пасядзець над вершамі...

Спадзяванні не збыліся. 18 снежня 1969 года Пятро Фёдаравіч памёр у бальніцы пад Масквой. Я ўжо яго не пабачыў на развітанні, бо і сам лёг у бальніцу на другі ж

дзень, дзе давялося праляжаць даволі доўга. Свайго добрага друга Пятра Глебку нябожчыкам я не бачыў: ён заўсёды перада мною жывы, ціхі, добразычлівы, з нейкаю асабліваю цёплаю ўсмешкаю. Улетку штодня я праходжу каля нашай сялібы, якую Пімен Панчанка ў гонар Кандрата і двух Пятроў жартоўна назваў «Каппетры», і ўсё спадзяюся, што вось-вось выйдзе Пятро Глебка і гукне:

— Ну што, паедзем на працу, Петрусёк?!

На вялікі жаль, надзея дарэмная — яго няма і няма...

## ДАРАГОЕ ІМЯ

Сярод імёнаў тых, каго я заўсёды любіў і шанаваў,— дарагое мне імя Міхаіла Васільевіча Ісакоўскага. У шэрагу самых лепшых людзей ён вылучаецца нейкай асаблівай сціпласцю, нават сарамлівасцю і крыштальнай душэўнай чысцінёй.

Я пазнаў Міхаіла Ісакоўскага па вершах, якія пісаліся ім у дваццатых гадах у Смаленску. Вершы вабілі мяне прастатой, сардэчнай шчырасцю і праніклёным адлюстраваннем думак і спадзяванняў вясковай моладзі першых пасляваенных гадоў.

Але трапляліся яны мне толькі выпадкова. А вось калі я даведаўся пра станоўчы водгук Максіма Горкага аб зборніку вершаў Ісакоўскага «Правады ў саломе», я паставіў сабе за мэту абавязкова здабыць гэты зборнік. І здабыў. Без сумнення, слова вялікага рускага пісьменніка аб вершах маладога паэта ўзвялічвала іх у маіх вачах, але і самі вершы па-сапраўднаму ўсхвалявалі мяне, таму што, сабраныя разам, яскрава адлюстроўвалі нашу вёску тых дзён, а смаленскія вёскі і суседнія беларускія былі блізкія і падобныя.

З той пары я пачаў пільна сачыць за вершамі Ісакоўскага, хаця з'яўляліся ў друку яны не часта. Пасля ўжо я даведаўся, што прычынай гэтага была вельмі вялікая патрабавальнасць паэта да сваёй творчасці, захаваная ў Ісакоўскага на ўсё жыццё.

А неўзабаве мне ўдалося пазнаёміцца з паэтам. Гэта было ў пачатку трыццатых гадоў. Смаленшчына — наша бліжэйшая суседка. Вось і ўзнікла ідэя ці то ў нас, беларусаў, ці то ў смалян аб сяброўскай творчай сустрэчы. Мы запрасілі ў Мінск смаленскіх пісьменнікаў, і яны прыехалі. У групу, якой кіраваў Міхаіл Васільевіч Ісакоўскі, уваходзілі зусім яшчэ юны Аляксандр Твардоўскі, Мікалай Рыленкаў, Яфрэм Мар'енкаў і іншыя. Сустрэч у нас было многа. Мы чыталі адзін аднаму напісанае намі і абмяркоўвалі яго, выступалі на прадпрыемствах. Быў прысвечаны сустрэчы вялікі літаратурны вечар. Гэта было даўно, многае знікла з памяці, але вобраз Міхаіла Ісакоў-

скага запомніўся на ўсё жыццё. Ішлі гады і пакідалі на выглядзе яго, як і кожнага чалавека, свой адбітак, але ўнутранае аблічча паэта засталося тым жа: нейкая асаблівая патрабавальнасць да сябе, сціпласць, шчырая цеплыня гаворкі. Нават у спрэчках голас яго амаль не ўзвышаўся. Але шчырасць у меркаваннях, у ацэнках твораў таварышаў прывабіла маю ўвагу і тады. Усе смаляне ставіліся да яго з вялікай павагай, я сказаў бы — нават з вялікай пашанай.

У тую сустрэчу Міхаіл Ісакоўскі пазнаёміўся з Янкам Купалам і Якубам Коласам, і яны сталі сябрамі на ўсё жыццё. З той пары ён шмат і, бадай, лепш за многіх перакладаў нашых народных паэтаў. Гэта яму ўдавалася таму, што і сам ён быў вельмі блізкі да іх па творчай сутнасці, ды і таму, што вельмі добра ведаў беларускую мову. Ісакоўскі гаварыў, што з маленства і ў юнацтве чуў беларускую гаворку і на рынку Смаленска, куды прыязджалі сяляне-беларусы, і на вуліцах горада.

Янка Купала і Якуб Колас даражылі дружбай з Міхаілам Васільевічам. Яны заўсёды радаваліся, калі іх вершы з'яўляліся ў перакладах таленавітага рускага паэта. Ісакоўскаму вельмі ўдзячны былі нашы класікі, ды і дагэтуль — уся наша беларуская паэзія. Ён натхнёна пераклаў шмат каго.

Вядомая паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады» атрымала шырокую дарогу не толькі дзякуючы вартасці арыгінала, але і дзякуючы цудоўнаму перакладу М. Ісакоўскага.

Міхаіл Ісакоўскі працаваў не спяшаючыся, але ўпарта і многа, да скрупулёзнасці дакладна ставячыся да кожнага слова перакладаемага паэта. А працаваць яму было нялёгка: перашкаджала прыроджаная моцная блізарукасць. Максім Горкі, дазнаўшыся пра цяжкую хваробу паэта, прыслаў яму з Італіі акуляры. Яны, вядома, дапамаглі паэту, але блізарукасць, што прагрэсіравала, усё жыццё гняла яго. Вось некалькі радкоў з пісьмаў да мяне:

«...Даруй за такое «размашыстае» і «буйнакалібернае» пісьмо — так я пішу цяпер, калі даводзіцца пісаць ад рукі (інакш не бачу літар — калі яны дробныя)». І ў іншым месцы: «Я ўсё поркаюся са сваімі біяграфічнымі нататкамі. Пачаў пісаць, а зараз і сам не рады: вельмі цяжка ўсё гэта мне даецца — я ж пішу, амаль не бачачы таго, што пішу».

Вось так нялёгка было пісаць Міхаілу Васільевічу

сваю цудоўную аповесць «На Ельнінскай зямлі», якую з вялікай цікавасцю сустрэлі чытачы. Варта ўвагі, што хвароба не паклала адбітку смутку на змест аповесці, яна праўдзіва адлюстроўвае бурнае, поўнае энтузіязму, юнацкае жыццё паэта і сельскага актывіста, яна светлая і аптымістычная.

У трыццатых гадах Міхаіл Ісакоўскі па запрашэнню Саюза пісьменнікаў СССР пераехаў у Маскву. Паэту хацелася быць у цэнтры літаратурнага жыцця, ды і слабае здароўе патрабавала сталага нагляду ўрачоў.

У маёй дружбе з Міхаілам Васільевічам было столькі паважання і нават шанавання, што я ніяк не мог адважыцца называць яго на «ты», пакуль ён сам не настаяў на гэтым.

«Я толькі не зусім разумею,— пісаў ён мне ў адказ на маё пісьмо,— чаму ты, звяртаючыся да мяне, называеш мяне на «вы» і пішаш ва ўзвышаным тоне. Дык мы ж сябры і можам гаварыць адзін з другім прасцей пра ўсё, што толькі спатрэбіцца. Мне здаецца, што гэта так».

Цяжка пералічыць усё, што Міхаіл Васільевіч зрабіў для мяне. Перакладаў вершы і паэму «Лясы наддзвінскія», напісаў прадмову да майго двухтомніка, выдадзенага ў Дзяржлітвыдавецтве на рускай мове, заўсёды дапамагаў парадамі. Але самым галоўным, вядома, былі непасрэдныя адносіны з паэтам. Мы шмат гаварылі з ім пра савецкую многанацыянальную паэзію, да якой Міхаіл Васільевіч ставіўся клапатліва, любоўна і разам з тым вельмі патрабавальна. Для нас, беларускіх паэтаў, было вялікай радасцю, калі Міхаіл Васільевіч браўся за пераклад нашых твораў. За выдатны ўклад у справу папулярызацыі беларускай літаратуры ўрад Савецкай Беларусі прысвоіў М. В. Ісакоўскаму званне заслужанага дзеяча культуры БССР. Памятаю, Міхаіл Васільевіч не здолеў з прычыны хваробы прыехаць у Мінск, каб атрымаць грамату і Ганаровы знак. Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР даручыў гэтую прыемную місію мне. Я напісаў Міхаілу Васільевічу пра свой прыезд. І ў адказ атрымаў гэтае пісьмо:

«Я буду вельмі рады атрымаць беларускі медаль і буду з прыемнасцю насіць яго, калі ён прыстасаваны для гэтага. А калі для нашэння не падыходзіць, дык ляжаць яму на маім пісьмовым стале — на самым паважным месцы. Я кажу гэта не жартам. Мне сапраўды прыемнае тое званне, якое прысвоіла мне Беларусь — краіна зусім-зусім родная, як і Расія».

Я ўжо гаварыў, што быў Міхаіл Васільевіч сціплы незвычайна. У жыцці ён, здавалася, толькі і думаў пра тое, каб не зрабіць каму-небудзь непрыемнае, не патрывожыць каго-небудзь сваёй просьбай. Памятаю, як насілу ён мне прызнаўся, што хоча папрасіць аб адной паслузе. А справа была вось у чым. Яго легкавая машына добра-такі знасілася, патрэбны былі сякія-такія часткі для рамонту, у прыватнасці крылы. У Маскве ён і не ведаў, да каго звярнуцца. Дазнаўшыся пра яго патрэбу, я з гатоўнасцю ўзяўся дапамагчы яму, упэўнены ў тым, што беларускія гаспадарнікі не адмовяць дапамагчы Ісакоўскаму. Так і атрымалася. Беларускія забеспячэнцы паслалі паэту і неабходныя для машыны крылы, і яшчэ сякія-такія часткі. А Міхаіл Васільевіч не затрымаўся прыслаць пісьмо з падзякаю. Падпісаў ён яго так: «Акрылены Ісакоўскі». Як гэта дакладна і паэтычна!

А наогул Міхаіл Васільевіч быў вельмі далікатны, нават у дробязях. Антаніна Іванаўна, яго жонка, расказвала мне пра адзін выпадак. Неяк пайшоў Міхаіл Васільевіч на пошту атрымаць кнігі накладной платай і раптам пры атрыманні разгубіўся. Яму не хапала для аплаты адной капейкі. Паштавікі прапаноўвалі яму ўзяць пасылку, а капейку аддаць пасля, але ён нізашто не згадзіўся. І хаця туды і назад трэба было прайсці не менш трох кіламетраў, а пры яго здароўі гэта было нялёгка, ён усё-такі схадзіў дамоў, і толькі калі неабходная капейка была ўручана, узяў пасылку...

М. В. Ісакоўскі ўважліва сачыў за развіццём маладой паэзіі. Да яго звярталіся за дапамогай маладыя паэты, і ён сардэчна дапамагаў ім. Але заўсёды гаварыў толькі праўду, хай і непрыемную для маладога аўтара, хаця і ў ветлівай форме, але праўду суровую. Неяк аднойчы адзін з маладых паэтаў упікнуў Міхаіла Васільевіча за тое, што, пералічваючы творы, змешчаныя ў нейкай анталогіі, ён побач з класікамі не ўспомніў яго імя, хаця яго верш быццам бы гэтага заслугоўваў. Ісакоўскі вельмі адкрыта адказаў яму:

«...пісьменнікі, жыццёвы шлях якіх яшчэ не закончаны, усё ж павінны быць значна-значна сціплейшымі. Прынамсі, такая назва, як «вялікі», «геніяльны», «класік», звычайна ўжо даецца пасля смерці (ды і то не адразу). У Маскве жывуць пісьменнікі, пра якіх напэўна можна сказаць, што пазней яны будуць названы і вялікімі, і класікамі, і праслаўленымі, і як хочаце. Але сёння ніво-

дзін з іх — ну, скажам, Ікс, Ігрэк ці Зэт — нізашто не дазволіць паставіць сябе ў такі рад: Пушкін, Ікс, Талстой, Лермантаў, Ігрэк, Някрасаў. Ну і гэтак далей».

Міхаіл Васільевіч вельмі радаваўся, калі да яго прыходзілі сябры. Ён як быццам ператвараўся тады. І, звычайна не велямоўны, любіў пагаварыць пра тое, што яго хвалявала, пра новае, што з'яўлялася ў паэзіі. У апошнія гады ён пабываў у турысцкіх паездках у Францыі і Італіі. Памятаю, на адной з сустрэч у яго, на якой былі Аляксандр Пракоф'еў, Мікалай Грыбачоў і даўні друг гаспадара генерал авіяцыі, Міхаіл Ісакоўскі здзівіў нас сваёй вострай наглядальнасцю: ён расказваў пра асаблівасці замежнага быту і, як заўсёды, рабіў гэта з тонкім, глыбокім гумаркам.

На нашых сустрэчах ён, які звычайна не любіў публічных выступленняў, адыходзіў ад гэтага правіла, чытаючы што-небудзь з новага, а больш гумарыстычныя, сяброўскія пароды і эпіграмы. Яму падабаліся такія гутаркі, і ён доўга не адпускаў сваіх сяброў.

Ды гэта і зразумела: ён часта і падоўгу хварэў, і гэта засмучала яго. Памятаю, Міхаіл Васільевіч цяжка перажываў і тое, што не можа прымаць належны ўдзел у грамадскім жыцці. Асабліва яго хвалявала, што, як здавалася яму, ён недастаткова актыўна выконвае свае абавязкі перад выбаршчыкамі як дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР.

— Вось разумееш,— скардзіўся ён,— на пісьмы я, вядома, адказваю і таксама з дапамогаю пісьмаў раблю сёетое па просьбах выбаршчыкаў, але ж гэтага мала. Я прывык сам гаварыць з людзьмі пра іх патрэбы. З юнацкіх гадоў звычка...

Так, Міхаіл Васільевіч, член партыі з 1918 года, у юнацкім узросце быў не толькі сведкам станаўлення Савецкай улады на сяле, але і актыўным удзельнікам падзей. Жыццё народа дыктавала яму запаветныя радкі вершаў, і ён вельмі пакутаваў ад вымушанага, з прычыны хваробы, адрыву ад сваіх землякоў-выбаршчыкаў. Затое з якой цікавасцю і пяшчотай ён расказваў пра паездку са сваім другам Аляксандрам Трыфанавічам Твардоўскім у родную Глотаўку. Ён як быццам ажываў пры гэтым, і твар яго святлеў, калі ён успамінаў пра добрыя перамены ў родным сяле. А выязджаць яму ў апошнія гады было ўсё цяжэй, хіба што ўдавалася іншы раз пабываць у сваім драўляным дамку ва Унукаве. Так хацелася наведаць родныя мясціны, успомніць юнацтва, хацелася праведаць

блізкую яго сэрцу Беларусь, куды настойліва запрашалі сябры. Ён радаваўся, калі ўдавалася ажыццявіць сваю задуму. Аднойчы ён напісаў мне:

«А адказаць своечасова на тваё пісьмо я проста не праспеў: спакусілі нас паехаць у Ленінград, дзе мы і пражылі некаторы час. У прыватнасці, былі мы ў Сашы Пракоф'ева на дачы, начавалі там, ездзілі на возера Красавіца. Антаніна Іванаўна ездзіла глядзець Карабельны гай, які пасадзіў яшчэ Пётр Вялікі. Адным словам, усё было добра. Дрэнна толькі тое, што, як яшчэ раз пацвердзіў ленінградскі вопыт, ездзіць мне стала цяжка. Ды і з вачамі маімі робіцца нешта такое, што часта становіцца страшнавата за тыя рэшткі зроку, якія ў мяне яшчэ захаваліся».

Але хворы паэт не здаваўся. Ён працаваў далей, і, хаця зрэдку, у друку з'яўляліся яго вершы, артыкулы і пераклады. Ён адабраў лепшае, найбольш важнае, створанае ім за творчыя гады, і склаў чатырохтомнік выбраных твораў, які выйшаў у выдавецтве «Художественная литература». Многа і захоплена працаваў ён і над аўтабіяграфічнай аповесцю «На Ельнінскай зямлі» — аповесцю пра сваё юнацтва. Як ён радаваўся, што завяршыў першую частку! Але прадоўжыць напісанае яму ўжо не прыйшлося...

Напэўна, ён прадчуваў непазбежнае, хаця ніколі не гаварыў пра гэта. Толькі скардзіўся, што з-за хваробы хрыбетніка седзячы працаваць ужо не можа. А не працаваць таксама не мог і таму збіраўся заказаць нейкую падстаўку, каб пісаць лежачы. Аднойчы я прыехаў да Ісакоўскага і застаў Міхаіла Васільевіча і Антаніну Іванаўну надзвычай ажыўленымі. Міхаіл Васільевіч быў «парадна» апрануты, чыста паголены, увесь нейкі прыстроены, ды і Антаніна Іванаўна прыбралася. Усё растлумачылася, калі з'явіўся фатограф Кочнеў. Міхаіл Васільевіч сказаў:

— Я ж ведаў, што ты прыйдзеш сягоння, і таму папрасіў таварыша зайсці... Давай паздымаемся на памяць...

Сказана гэта было паўжартам, але з ноткай затоенага смутку.

Фатограф зрабіў шмат здымкаў і Міхаіла Васільевіча аднаго, і з Антанінай Іванаўнай, і са мною.

Той вечар запомніўся яшчэ адной знамянальнай падзеяй. Па тэлебачанні ішла цікавая перадача, прысвечаная Аляксандру Твардоўскаму. Гаварылася ў ёй і пра верную, сардэчную дружбу вялікіх паэтаў-смалян.

Я сачыў за перадачай і час ад часу паглядаў на Міхаіла Васільевіча. Ён прагна праз свае вялікія акуляры ўглядаўся ў экран, уважліва слухаў, баючыся прапусціць хаця б слова, і часамі ўздыхаў... Усё жыццё, відавочна, пераносілася ў гэтыя хвіліны перад ім.

Калі перадача скончылася, ён як быццам схамянуўся і пачаў расказваць пра тое добрае, што яму давялося перажыць разам са сваім другам. Я выкарыстаў тое, што размова ішла пра Аляксандра Трыфанавіча, і папрасіў Міхаіла Васільевіча паслухаць напісаныя мною ўспаміны пра Твардоўскага. Міхаіл Васільевіч уважліва праслухаў, зрабіў пару слушных заўваг, а потым са смуткам дабавіў:

— Успаміны, успаміны... Вось і яны прыйшлі да нас.

Прыкладна праз месяц, будучы ў Маскве, я пазваніў Міхаілу Васільевічу. Да тэлефона падышла Антаніна Іванаўна і засмучана сказала, што ён ужо не падымаецца і вельмі дрэнна сябе адчувае. Прасіла прыйсці.

З цяжкай душой ішоў я гэты раз да іх на Вялікую Бронную. Антаніна Іванаўна адчыніла дзверы, я ўбачыў яе заплаканыя вочы і зразумеў, што становішча хворага трывожнае. Міхаіл Васільевіч ляжаў на пасцелі ў сваім кабінеце. Сэрца маё зайшлося. Ён быў амаль у непрытомным стане, часамі быццам прачынаўся, гаварыў некалькі слоў і зноў забываўся.

— А-а... вось і ты... Пятрусь... Дзякуй, што прыйшоў... А я вось, бачыш як...— і змаўкаў.

Праз нейкі час, быццам прачнуўшыся, гаварыў далей:

— А ведаеш, мяне прасілі напісаць успаміны пра Глебку... хацелася зрабіць... ды бачыш як...

Мне было цяжка сядзець ля яго пасцелі. Я бачыў, што ён ужо адыходзіць. Думаю, што ён і сам адчуваў гэта, калі гаварыў:

— Добра, што прыйшоў... убачыліся...

Я пацалаваў яго на развітанне, запэўняючы, што ён ачуняе, што мы яшчэ з'ездзім туды, куды збіраліся... але ён ужо не адказаў. Я адыходзіў, азмрочаны цяжкімі прадчуваннямі. Моўчкі мы развіталіся з Антанінай Іванаўнай. Па яе вачах я бачыў, што і яе прадчуванні вельмі горкія. Некалькі разоў на наступны дзень я даведваўся аб стане здароўя хворага. Адказы былі несуцяшальныя, а праз дзень пасля таго, як я быў у Міхаіла Васільевіча, яго не стала.

Праз месяц мне давялося па справах быць у выдавецтве «Молодая гвардия», дзе мне падаравалі цудоўна вы-

дадзеную аповесць Ісакоўскага «На Ельнінскай зямлі». Праглядаючы яе, я знайшоў і наш здымак, зроблены ў той час, калі я чытаў Міхаілу Васільевічу ўспаміны пра Твардоўскага. А Міхаіла Васільевіча ўжо не было...

Я выходзіў з выдавецтва з думаю пра яго — пра вялікага, сапраўды народнага рускага паэта, я думаў пра тое, што, хаця яго ўжо няма ў жывых, слова яго будзе ісці і ісці да людзей, бо яно неўміручае!

## НАШ ДОБРЫ СЯБРА

Упершыню я пазнаў Аляксандра Пракоф'ева, прачытаўшы яго першую кніжку вершаў «Вуліца чырвоных зор».

Памятаю, мы, маладыя беларускія паэты, сабраліся ў Мінску на вуліцы Розы Люксембург ці то ў Пятра Глебкі, ці то ў Максіма Лужаніна. Здаецца, быў яшчэ Валодзя Хадыка. Мы пільна цікавіліся ўсімі навінкамі і рускіх і ўкраінскіх паэтаў. Ды гэта і зразумела, бо горача шукалі сябе. Нехта з маіх сяброў у гэты дзень прапанаваў:

— А давайце, хлопцы, пазнаёмімся з новым ленінградскім паэтам!..— і пачаў па парадку чытаць вершы.

І мы не маглі адарвацца. Чыталі, змяняючы адзін аднаго, перачытваючы вершы, што найбольш усхвалялі нас, часамі спрачаючыся, хто і як успрымае Пракоф'ева.

Так можна знаёміцца толькі з паэтамі, глыбока таленавітымі, якія адразу авалодваюць намі. А такое і было: Аляксандр Пракоф'еў захапіў усіх нас. Мы любілі ў той час многіх рускіх паэтаў, у тым ліку і ленінградскіх, а вось прачыталі Пракоф'ева і адчулі, што ён стаў у шэраг самых найлепшых, самых першых. Адчулі яго асаблівы, узгадаваны на народнай песеннасці голас і яго нейкую выключна выразную манеру пісьма. Адчувалася яго кроўная сувязь з надзённымі справамі маладой тады нашай Савецкай краіны, чуліся ў вершах і пахі Поўначы, пахі Ладагі, якія даляцелі і да нашых сэрцаў у Беларусь.

Мы амаль усю ноч абмяркоўвалі вершы паэта, што так палюбіўся нам, пасля пільна сачылі за новымі творамі Аляксандра Пракоф'ева, якія з'яўляліся і ў газетах, і ў часопісах.

Хутка выпала мне быць у Ленінградзе. Я вельмі хацеў пазнаёміцца з Аляксандрам Пракоф'евым. Імкнуўся, ды не асмеліўся. Ужо занадта вышэйшым за мяне здаўся ён мне ў той час. І калі ў наступныя гады я, моцна пасябраваўшы з паэтам, расказаў яму пра гэта, Саша, усміхаючыся, дакараў:

— Ну і дзівак жа ты, Пеця!.. Да... да... да...— як звы-

чайна, скорагаворкай дадаваў ён.— Колькі мы з табой дарэмна часу страцілі.

І, вядома, дарэмна — асабліва я. Бо ў Аляксандра Пракоф'ева я адчуў паэта, які, здавалася, надзвычай проста, нібы вострай сялянскай гамонкай, выказваў самае патаемнае, вялікае, што хвалюе чалавечыя душы.

Пасаромеўся я адшукаць паэта і на 1-м з'ездзе пісьменнікаў у 1934 годзе і на наступных пленумах Саюза пісьменнікаў. Ды і сам Пракоф'еў у той час, нам здавалася, больш хіліўся да ўкраінскай паэзіі. І гэтая прыхільнасць засталася ў яго на ўсё жыццё.

Але і мы, беларусы, хутка адчулі ў ім самага вялікага і шчырага сябра. А пазнаёміліся мы з ім і пасябравалі па-сапраўднаму ў Рызе ў чэрвені 1941 года, на 1-м з'ездзе пісьменнікаў Латвіі. І да гэтага сваё багатае любоўю сэрца прыклаў наш незабыўны Янка Купала. Аднойчы ў перапынку, у часе абеду, Купала, што сядзеў побач з Пракоф'евым, запрасіў падсесці Міхася Лынькова і мяне. Вось ужо, сапраўды, падселі мы да Сашы і — назаўсёды. Мы некалькі разоў сустракаліся з ім у тыя памятныя дні, вядома, гаварылі пра паэзію, захапляліся яго вершамі. Чытаў і Янка Купала, ды і мне ў сваю чаргу давялося. І ўбачылі мы ў Пракоф'еве не толькі цудоўнага паэта, але і простага, шчырага сябра. Ён здаўся нам блізкім, родным, як быццам мы жылі з ім разам яшчэ ў маленстве і ў юнацтве, быццам хлопцы з аднае вёскі.

Але па-сапраўднаму пасябраваць мы змаглі трохі пазней. Грымнула Вялікая Айчынная. Аляксандр Пракоф'еў быў у гераічным Ленінградзе, адданым сынам якога застаўся да канца сваіх дзён. Ды і нас выгнала з родных гнёздаў вайна і раскідала то па франтах, то ў мясціны далёкія, дзе прытулілі выгнаннікаў нашы сардэчныя браты.

Але і ў суровыя гады вайны мы слухалі галасы адзін аднаго і іншы раз перакідваліся весткамі. Аляксандр Пракоф'еў быў у страі армейскім і паэтычным, дзе яго палымянае слова знаходзілася заўсёды на перадавой.

Памятаю, як мы былі ўзрушаны, калі ў цяжкія дні на Бранскім фронце пачулі па радыё яго ўсхваляваны голас з Ленінграда. Мы адчулі яго побач з голасам дарагога ўсім нам Мікалая Ціханава, і сэрцы нашы поўніліся ўпэўненасцю, што горад рэвалюцыі вытрымае, што словы і справы такіх мужных людзей, як Ціханаў і Пракоф'еў, з'яўляюцца шчырымі.

У Маскве, куды мы прыязджалі з фронту і дзе пасля і пасяліліся, працуючы пры Цэнтральным штабе партызанскага руху, нам, з вуснаў Аляксандра Аляксандравіча Фадзеева, які наведаў асаджаны Ленінград, давялося шмат даведацца пра бессмяротны подзвіг ленінградцаў, у тым ліку і пра Аляксандра Пракоф'ева.

У першыя ж дні пасля прарыву блакады выпала сустрэцца ў Маскве і з самім Аляксандрам. Быў ён у вайсковай форме, прыкметна схуднелы, але духам, як заўсёды, быў бадзёры і малады.

— Да... да... да...— як звычайна, сцвярджаў ён, барабанячы кароткімі пальцамі па стале.— Ніколі, ніколі не скарыць, Пеця, горада Леніна: ён выстаяў і выстаіць...

Але нізка схілялася яго галава, што пачынала ўжо сівець. Ён гаварыў пра герояў-пакутнікаў, якія загінулі ў цяжкай барацьбе.

Пракоф'еў у гады вайны прыязджаў у Маскву рэдка і ненадоўга. Выканаўшы свае абавязкі, хутчэй імкнуўся ў горад, дзе заўсёды была перадавая.

У вайну, сустракаючыся з ім, мы дзяліліся сваімі творчымі справамі, задумамі. Мяне радавала, што мірнае слова Пракоф'ева было па-сапраўднаму ўзята на ўзбраенне. Яно, захоўваючы сваю ваяўнічасць, не страчвала вялікага мастацкага майстэрства. З вялікім хваляваннем я прачытаў яго цудоўную паэму «Расія», напісаную ў тыя дні і так любоўна выдадзеную.

Вядома, Пракоф'еў цікавіўся — а што ў нас, на Беларусі? І калі мы яму расказвалі пра баявыя справы больш чым трохсоттысячнай арміі ўзброенага народа, пра асабліва яскравыя праявы гераізму народных мсціўцаў, вочы яго заўважна іскрыліся радасцю.

— Да... да... да... Пеця!.. Гаворыш пра Арлоўскага... Пра былога Муху? Дык гэта ж адданы герой, Пеця! Панская Польшча... Іспанія. ЧК... А ведаеш, і я ж працаваў у ЧК... Яшчэ пры Дзяржынскім...— і ён яўна ганарыўся сваім мінулым.

Пракоф'еў быў не з тых, хто насіцца са сваімі заслугамі. Успамінаў свае былыя слаўныя справы толькі тады, калі гэта было неабходна.

Сардэчная прыхільнасць да людзей у Пракоф'ева была надзвычайная. Ён іх любіў моцна, і калі ўжо не любіў каго-небудзь, дык па-сапраўднаму. Памятаю, калі гаварыў пра трагічную гібель Купалы, вочы яго блішчалі ад слёз.

— Да... да... да... Дык гэта ж — вялікі беларускі каб-

зар, Пеця! Ці разумееце вы, чэрці?..— па-сяброўску звяртаўся да нас ён.— Я так хацеў пасля вайны пагаварыць з ім... Я так паверыў у прыгажосць яго душы, у прыгажосць вашага краю... А гэта зрабілі вершы Купалы і Коласа. Да... да... да... Не крыўдуй, Пеця,— і твае, і тваіх сяброў, вядома. Як толькі будзе магчыма, я абавязкова паеду ў ваш край. А вы — у Ленінград. Добра, Пеця?

І ў першыя ж месяцы пасля вызвалення Аляксандр Пракоф'еў са сваімі сябрамі быў ужо ў нас. І знаёмства з Беларуссю, пасля кароткага прыпынку ў Мінску, пажадаў ён пачаць з Брэста.

І вось мы з ім, з Машай Камісаравай, Мікалаем Браўнам і Анатолем Чапуровым ужо на тым кавалку зямлі, дзе пачалася самая крывавая для нашай Радзімы вайна. Мы хадзілі ля Мухаўца, не дапаўзаючы да якога, паміралі ад смагі нашы байцы; хадзілі ля сцен крэпасці, дзе літаральна не было жывой мясціны ад куль, ад снарадаў, хадзілі ля фортаў, па сутарэннях якіх пісалася самае запаветнае, пісалася крывёю: «Паміраю, але не здаюся...»

Мы хадзілі па зямлі, багата палітай крывёю і абгарэлай ад пораху, і, падымаючы яшчэ захаваныя ад першых дзён вайны патронныя гільзы, думалі пра людзей, якія пасылалі кулі ў фашысцкага звера, і ганарыліся імі. Мы ганарыліся тымі, хто прыняў смерць тут, на беразе свяшчэннай савецкай зямлі, у імя Радзімы і ўсяго чалавецтва.

Давялося нам выступаць у пагранічнікаў Брэста і ў чыгуначнікаў, перад студэнтамі, што ўпершыню пасля вайны прыйшлі ў аўдыторыю. І ўсюды з захапленнем прымалі цудоўныя вершы Аляксандра Пракоф'ева.

А ён яшчэ быў сапраўдным інтэрнацыяналістам. Шмат перакладаў з брацкіх паэзій, асабліва з украінскай і беларускай. І на гэтых вечарах з вялікім поспехам чытаў свае пераклады.

Аляксандр Пракоф'еў быў чалавекам цвёрдага слова і цвёрдай справы. У яго яны ніколі не разыходзіліся. Вось і ў той раз, у Брэсце, прапанаваў нам па-сяброўску:

— Хлопцы, а давайце зробім анталогію беларускай паэзіі. Вось гэта будзе справа! Да... да... да...— і ў яго ўжо загарэліся вочы.— Вы складзеце яе на беларускай, а мы, ленінградцы, перакладзём і выдадзім. Ды як мага змястоўна рабіце!.. Ад першых беларускіх песняроў — да нашых дзён.

Вядома, акрамя слоў падзякі, мы нічога не маглі сказаць яму ў адказ. Паабяцалі скласці нашу анталогію з

удзелам паэта-ленінградца Паўла Кабзарэўскага. Не адкладаючы, мы і выканалі сваё.

Не бяруся гаварыць сёння дакладна, за які тэрмін ленінградскія паэты на чале з Аляксандрам Андрэевічам зрабілі гэтую сапраўды натхнёную творчую справу. Але памятаю добра, што і тэрмін быў кароткі, і зроблена было выдатна. Упершыню на рускай мове ў пасляваенным Ленінградзе выйшла аб'ёмная двухтомная анталогія беларускай паэзіі. І мы, беларусы, навечна ўдзячны нашаму дарагому другу і яго таварышам за гэты багаты падарунак.

А сяброўскія сувязі з ленінградскімі літаратарамі і іх кіраўніком Аляксандрам Пракоф'евым усё мацнелі. Ужо без узаемнага ўдзелу не адбывалася ніводная буйная літаратурная падзея. Мы дапамагалі адзін аднаму, раіліся. Аляксандр Пракоф'еў быў ужо ў нас не госць, а проста свой чалавек. Ад яго ў нас не было ніякіх сакрэтаў. А кола сяброў яго было бязмежнае. Не вельмі схільны да скорай дружбы, наш патрыярх Якуб Колас шчыра палюбіў Пракоф'ева. Вельмі ўжо яны былі падобныя па любові да народа, па шчырасці, па дабраце душы.

Памятаю, давялося мне з Якубам Коласам быць у гасцях у Аляксандра Андрэевіча і ў яго мілай сяброўкі Анастасіі Васільеўны. Колас звычайна не любіў заседжвацца ў гасцях, ды і скардзіўся часам на нездароўе, а ад Аляксандра Пракоф'ева толькі на світанні наступнага дня мне ўдалося ўгаварыць яго пайсці адпачыць. Гэта не было толькі «піціе», хаця і без чаркі не абыходзілася, а была такая шчырая гутарка, якая ўзбагачала ўдзельнікаў. Колас шмат даведаўся ў той вечар і пра Ладагу, і пра бязмежна чыстых людзей нашай Поўначы, і пра вершы Пракоф'ева, ды і заслухаўся песнямі яго. А Саша Пракоф'еў любіў спяваць і нават складаць песні, ды не толькі тэксты да іх, а і музыку, сваю. Ён не ведаў нотнай граматы, але створаная ім музыка на свае ж словы была заўсёды меладычная, глыбока народнага паходжання. І хаця аўтар не валодаў нейкім бы выдатным голасам, слухаць яго было надзіва прыемна. А Коля Браўн, Маша Камісарава, Толя Чапуроў, ды і ўсе, хто прысутнічаў з ленінградцаў, дапамагалі свайму Сашу. Якуб Колас прымушаў нас, беларусаў, адказваць сваімі песнямі, ды і сам у меру сваіх сіл дапамагаў. Чыталі мы і вершы.

Так, гэта былі незабыўныя вечары!

Хутка пасля вайны мне давялося працаваць старшы-

ней Саюза пісьменнікаў Беларусі, а Пракоф'еў быў ужо кіраўніком ленінградскіх пісьменнікаў. Вядома, гэта садзейнічала таму, што мы даволі часта сустракаліся. Больш за ўсё ў Маскве на з'ездах і пленумах Саюза пісьменнікаў. Даводзілася нам нярэдка выступаць і па прынцыповых пытаннях развіцця савецкай літаратуры. Аляксандр Пракоф'еў у сваіх выступленнях заўсёды вызначаўся шчырасцю, прынцыповасцю, прастатой, глыбокай партыйнасцю. Гэта было ў яго крыві. Ды і як жа магло быць інакш, і камуністам жа ён быў з юных гадоў, з 1919 года.

Гаворачы пра душэўную дабрату Аляксандра Пракоф'ева, я не хачу, каб вобраз яго выглядаў сусальным, у любві ўсеабдымным. Ён быў і суровы, і патрабавальны, калі патрэбна. Мне не раз даводзілася бачыць яго і сярдзітым, раззлаваным. Але гэта было не тады, калі хто-небудзь рабіў крыўду яму,— на такое ён хутка забываўся і дараваў. А вось калі справа датычыла народа, краіны, роднай партыі — тут ён быў непрымірымы. Улятала поўнай меркай таму, хто пасмеў, бывала, нават хоць у вузкім коле сумнявацца ў чым-небудзь важным. І, вядома, моцна граміў ён з вялікіх трыбун пісьменніцкіх дыскусій тых, хто, па-простаму кажучы, забаўляўся словам.

Сварыўся Пракоф'еў і з бліжэйшымі сябрамі, калі яму здавалася, што яны няправільна выказваюцца па пытаннях развіцця літаратуры ці, будучы рэдактарамі, змяшчаюць у давераных ім часопісах не тое, што трэба. Але калі тыя з часам разумелі, што не іх праўда, мірыўся з імі хутка.

Памятныя сустрэчы з Пракоф'евым у Твардоўскага і ў Ісакоўскага. Усюды ён быў жаданы друг.

Але асабліва запомнілася мне гутарка ў Мікалая Сямёнавіча Ціханава. Нас было нямнога. Акрамя мілага гаспадара нас прымала яго найдабрэйшая спадарожніца Марыя Канстанцінаўна. Адчувалася, што Саша Пракоф'еў (для Ціханавых — іменна Саша) — даўнейшы сардэчны друг. Бо яны і побач пажылі нямала ў Ленінградзе, і побач пакутавалі. Разам, як гаворыцца, і галадалі, і марнелі. Пракоф'еў заўсёды з вялікай любоўю гаварыў пра свайго старэйшага друга, Мікалая Сямёнавіча. Можа быць, з такой любоўю ён гаварыў яшчэ толькі пра Аляксандра Фадзеева. І адданы быў абодвум бязмежна.

Мы доўга сядзелі ў Ціханава ў той вечар, калі ўспаміналі больш за ўсё блакадныя дні сябры-ленінградцы.

Я ўважліва слухаў і спачуваў, бо раўнадушны быць бы ніхто не мог.

А потым, калі вярталіся дамоў у гасцініцу, Саша не спяшаўся крочыць і доўга яшчэ расказваў мне пра свайго цудоўнага сябра.

— Пеця!.. Мы, ленінградцы, звалі і завём Колю Ціханава «магучым». Ды гэта ж і сапраўды «магучы» чалавек. Колькі толькі адных войнаў ён выстаяў: і першую імперыялістычную... і грамадзянскую... і Вялікую Айчынную... Да... да... да... Ён — сапраўды «магучы»... Ён сапраўды герой... Ды і талент яго сапраўды «магучы»... Ты ж сам адчуваеш гэта, Пеця!..

Мне б прыйшлося шмат расказваць пра сяброў Пракоф'ева.

У яго сапраўды іх было многа. Дзе б я яго ні сустракаў, ён не быў адзінокі.

І ў раз'ездах па рэспубліках яго заўсёды нехта суправаджаў. Часцей за ўсё Камісарава і Браўн. Яны былі як быццам адной сям'ёй. І песні складалі. І спявалі разам. І добра гэта ў іх атрымлівалася.

У кожнай рэспубліцы ў яго былі самыя блізкія сябры: на Украіне — Максім Рыльскі, Астап Вішня, Мікола Бажан, Андрэй Малышка; у Ташкенце — Гафур Гулям; у Тбілісі — Георгій Леанідзе і Іраклій Абашыдзе; у Вільнюсе — Антанас Венцлава і Эдуардас Межэлайціс, ну, а ў Рызе — Ян Судрабкалн і Валдзіс Лукас, а ў Беларусі — усіх і не пералічыць. І многім ён імкнуўся рабіць дабро. І перакладаў іх творы. І пісаў пра іх свае водгукі. І рэдагаваў. Ну, а калі ўжо трапляў хто ў Ленінград, не адпускаў ад сябе.

Аляксандр Пракоф'еў — паэт актывіст. Ён часта друкаваўся ў часопісах і газетах. І засядаў. І выконваў вялікія партыйныя і грамадскія даручэнні. І ўсюды паспяваў.

Мяне дзівіла яго працаздольнасць. Жывучы падоўгу ў адной гасцініцы, звычайна ў «Маскве», бачыўся я з ім амаль штодня.

Памятаю такія дні, калі ў паэта, здавалася, не было вольнай хвіліны.

Удзень у яго сядзелі літаратары-ленінградцы, шмат было ў іх просьб да яго, свайго кіраўніка, а ўвечары нялёгка было застаць Сашу з сябрамі за таварыскай бяседай. І паслухаць яго песню.

А раніцай зойдзеш да яго, па яго просьбе, і дзіву даешся. Вымаючы маленькі блакноцік, ён раптам прапаноўвае:

— Паслухай, Пеця, вось — напісаў!..— і чытае новы верш.

Нязменна дзівішся:

— Калі ж ты паспеў, Саша?..

— Вось бачыш як... Так працуюць ленінградцы. Да... да... да... Пеця, так — ленінградцы...— паўтарае ён. І самазадаволена ўсміхаецца Саша і закурвае свой улюбёны «гвоздзік». Так ён называў свае, самыя танныя, тоненькія папяросы, да якіх, відаць, прызвычаіўся яшчэ з юных гадоў.

А міне некаторы час пасля сумеснага жыцця ў Маскве — паедзеш куды-небудзь да сяброў, ці то ў Кіеў, ці то ў Вільнюс, і абавязкова сустрэнеш Сашу. Такі ўжо ён быў неспакойны.

І вось калі я сёння думаю пра нашага вялікага друга Аляксандра Андрэевіча Пракоф'ева, з якім пашчасціла мне быць разам і ў гады станаўлення, і ў гады росквіту савецкай літаратуры,— я бачу яго сярод многіх, сапраўды вялікіх яе ўтваральнікаў. Добра сказана пра выдатных рускіх кампазітараў XIX ст. назвай «Магутная кучка».

І ў гады станаўлення нашай многанацыянальнай літаратуры, хай будзе так дазволена мне сказаць, была сапраўды «Магутная кучка», сярод удзельнікаў якой я бачу слаўны вобраз народнага песняра вялікай Расіі — Аляксандра Пракоф'ева.

# ВЫ КЛІКАЛІ НАС, МАЛАДЫХ АРЛЯНЯТ...

Калі я праходжу ў парку каля помніка Янку Купалу, мне вельмі хочацца павярнуць у той бок да рэчкі, дзе стаяў вядомы ўсім дамок народнага паэта. І хоць Купалу бачыў я ў апошнія хвіліны ростані, ніяк не верыцца, што ўжо ніколі не ўгледжу яго жывога. Я ж так хацеў яшчэ змалку пабачыць любімага паэта, і нарэшце гэта адбылося ў гады майго творчага юнацтва, што зміруцца з тым, што яго няма цяпер, надта цяжка.

А ўпершыню я пабачыў і пачуў Янку Купалу ў 1930 годзе, і было гэта так. Улетку Мінск адзначаў выдатную дату — дваццаціпяцігоддзе літаратурнай дзейнасці народнага паэта. У той час я ўжо вучыўся на III курсе педфака Белдзяржуніверсітэта. Пісаў сам і сябраваў з маладымі літаратарамі-студэнтамі. Усе мы былі ў той час так званымі пачаткоўцамі, і жаданне пазнаць таго, у каго мы вучыліся, было надзвычайным. Тым больш мне, які яшчэ нядаўна прыехаў у сталіцу з цудоўнага, але тады маленькага і па літаратурнаму асяроддзю Полацка.

І вось я з сябрамі на юбілейным вечары ў Доме працасветы на Камуністычнай вуліцы. Параўнаўча невялікая зала перапоўнена. Я прыладзіўся на галёрцы і вельмі задаволены, што ўсё мне добра відаць. А на сцэне паміж старэйшых сяброў-літаратараў Янка Купала. Прысутнічаюць і кіраўнікі ўрада рэспублікі. Яго віншуюць горача, шчыра. Кветкі, кветкі навокал. І між кветак ён, задумлівы, ціхі. Нейк дзіўна, што так спакойна ён прымае ўсё. Толькі ўдзячна схіляе галаву ў часы віншавання. І, здаецца, больш хвалявання ў яго не адчуваецца, калі ён слухае віншаванні дзяцей і юнацтва.

Нягледзячы што ў той час народнаму паэту падыходзіла блізка да пяцідзесяці, душа яго была маладая. Як ён усхваляваў усіх і асабліва нас, юнакоў, калі, у словах падзякі звяртаючыся да будучыні, прачытаў сваіх «Арлянятаў».

Я пільна прыглядаўся да Янкі Купалы, якога бачыў упершыню. І нават крыху быў разгублены. У маім уяўленні ён павінен быў быць гераічным па выгляду, а ён быў

хоць і статны, прыгожы, але такі сціплы, нават сарамлівы. Але прывабнасць яго ад гэтага не меншылася. Пасля таго вечара я яшчэ некалькі разоў бачыў Янку Купалу ў Доме пісьменніка на літаратурных сустрэчах з чытачамі, слухаў яго, прысутнічаў нават пры сяброўскіх гаворках паэта з некаторымі пісьменнікамі, але падысці да яго не адважваўся. Ды воблік яго быў заўсёды неадлучны са мною. Я перачытаў усе яго творы і аднойчы, а гэта было ўлетку 1931 года, не мог, каб не напісаць верш, прысвечаны яму. Ён так і зваўся: «Янку Купалу». А напісаны быў пад уражаннем таго ж вечара ў Доме працасветы, калі ён чытаў верш «Арлянятам». Вядома, што гэта зрабіла ўплыў на мой верш:

Курлоўскія ночы над краем гасцілі,
І смерць вандравала хадою бясконцай...
А недзе жалейка жывой галасіла
І клікала сонца!

. . . . . . . . . . . . . . .

Да вас надыходзілі мужнасць і гарт,
І чулі мы голас бадзёры і юны.
Вы клікалі нас, маладых арлянят,
Па песню, па сонца, па шчасце камуны.

Мяне дзівіла, чаму ў той час некаторыя маладыя, але старэйшыя па творчасці за мяне, пад надуманай, так званай плынню «У дубкі, а ці то ў рожкі са старымі» спрабавалі прыніжаць альбо скідаць дасягнутае, хоць бы ў форме верша, нашымі настаўнікамі-паэтамі дакастрычніцкага часу. Гэта рабіла непрыемнае ўражанне пра іх, і адчувалася, што пры ўсёй сціпласці і Янка Купала незадаволены такімі выбрыкамі. А ён жа любіў моладзь, і па сваёй натуры цяжка пераносіў адзіноту, і вельмі прыязна ставіўся да маладых, якія хінуліся да яго.

Гэта неўзабаве адчуў і я. Неяк аднойчы (а яна часта прыходзіла ў Дом пісьменніка) Уладзіслава Францаўна, якую мы ўсе з любоўю звалі — «цёця Уладзя», сказала мне: «Пятрусь, а ваш верш спадабаўся Янку». Я ведаў, што гэта пра верш, прысвечаны Купалу, і гэта вельмі ўзрушыла мяне. А праз некалькі дзён я пазнаёміўся і з самім «дзядзькам Янкам». У бібліятэцы Дома пісьменніка я застаў Купалу, калі ён шукаў адну з патрэбных яму кніг. Крыху счакаўшы, я ўжо збіраўся выйсці, каб не перашкаджаць яму, як нечакана ён звярнуўся да мяне:

— А ведаеце, вы добра чытаеце, голас у вас моцны — ды і верш ваш мне спадабаўся...

Я стаяў разгублены. І задаволены, і няўпэўнены ў тым, пра які верш ён мне гаворыць. Нешта казаў яму ў падзяку, а дзядзька Янка яшчэ больш ашаломіў мяне сваёй прапановай:

— А ведаеце, калі маеце час, пойдзем да мяне, пасядзім там і пачытаем...

Ён заўсёды, у пачатку знаёмства, і да маладых звяртаўся на «вы», толькі ўжо пасля добрага знаёмства пераходзіў на сваё, заўсёды ласкавае, «ты».

Вядомая рэч, што я з падзякай, вельмі ахвотна ўспрыняў гэтую прапанову. І неўзабаве мы ішлі па вуліцы Савецкай. Купала па дарозе заглянуў яшчэ ў кніжны магазін, а пасля, калі павярнулі на Ленінскую вуліцу, на рагу заўважыў аб'яву фатографа, што здымкі робяцца хутка і выдаюцца праз 5—10 мінут гатовымі.

— А ведаеце, давайце зойдзем і праверым ягоную аб'яву,— пажартаваў Купала.

І сапраўды, праз нейкія паўгадзіны мы ўжо мелі так званыя «маланкавыя здымкі». Я быў на сёмым небе. Знянцца, так нечакана, з самім Янкам Купалам і мець ужо здымак пры сабе. На ражку плошчы Свабоды, ва ўтульным падвальчыку дзядзька Янка пачаставаў мяне шклянкай лёгкага віна і славутым у тым прытулку, добра спечаным «пончыкам».

Спусціўшыся ўніз па Кастрычніцкай вуліцы, мы апынуліся ў доме славутага гаспадара. Я быў разгублены ад шчасця. І знаёмства з вялікім песняром, і фотаздымак на памяць, і нават тое, што ўсё замацавана ў падвальчыку, вельмі ўскрылілі мяне.

А дома ў Купалы не было і далей перадыху. Гасцінная цёця Уладзя хуценька накрыла стол і запрасіла абедаць. Абед цягнуўся даволі доўга, бо ў гэты ж час, пры змене страў, чыталіся вершы. Я чытаў вершы гаспадара, і так старанна, як толькі мог, бачыў, што яму падабаецца маё чытанне, хоць па ходу была і заўвага:

— Петрусёк!.. Гэта добра, калі так узнёсла чытаюцца вершы, але трэба мясцінамі і спакайней, каб за моцным голасам не губляўся і моцны змест...

Відаць, я ўжо занадта ўзнёсла чытаў у той час вершы Янкі Купалы... Ну што ж, мне хацелася як лепш.

Прапанаваў Купала і мне прачытаць свае вершы. Я прачытаў верш, прысвечаны яму, а больш чытаць не адважыўся. Спаслаўся, што не маю з сабою, хоць у той час я заўсёды насіў некалькі сваіх вершаў у кішэні.

Я выходзіў з хаты Купалы бязмежна ўзрадаваны, бо ён нібы зацвердзіў мяне ў маіх летуценнях— да таго часамі прыходзіла да мяне думка, а ці за сваю справу я ўзяўся.

Нікому, што я быў у Купалы, не пахваліўся, бо ведаў, што я не адзіны такі шчаслівец, а старэйшыя па творчасці за мяне наведвалі яго і часцей, а яшчэ і таму, што баяўся, каб сябры не палічылі мяне хвальком.

Ды ціхі драўляны дамок на Кастрычніцкай вуліцы з невялічкім утульным садком заўсёды стаяў у мяне перад вачыма, і я быў вельмі рады, калі мне зноў і зноў даводзілася быць у ім.

Янка Купала не любіў адзіноцтва ні дома, ні ў дарозе, за выключэннем таго, калі пісаў, вось чаму я зразумеў, што маё наведванне не дакучае яму, ды я і сам хадзіў да яго толькі па запрашэнню. Давялося мне пазнаць яго і ў дарозе. У пачатку трыццатых гадоў ездзіў я з ім у тагачасную сталіцу Украіны — Харкаў. Я адчуў, што і ў гасцях, акружаны вялікай славай і ўвагаю, ён не забываўся на мяне, свайго спадарожніка, і, хоць я быў мала вядомы ў той час, заўсёды падаваў мяне як аднаго з тых, хто заслугоўвае ўвагі ў Беларусі. Не скупіўся ён на пахвалу, і мне часамі ад лішняга было няёмка.

Чым бліжэй да Купалы, я ўсё больш і больш адчуваў веліч і яго ўнутранае багацце, чаму належала павучыцца. Ён карыстаўся ўсенароднай славаю і любоўю і ніколі гэтым не адгароджваўся ад іншых. А слава яго была сапраўды бязмежнаю. Я гэта адчуў асабліва добра на I Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Колькі ўжо ў той час было ў яго сяброў з розных рэспублік. І асабліва нас, беларусаў, радавала тое, як прыхільна сустракаў яго Максім Горкі. Гэта ён першы заўважыў выдатныя таленты беларускіх народных песняроў Купалы і Коласа і ўскрыліў іх сваім прыязным словам. Люба было глядзець, калі ў часе з'езда яны сядзелі побач. Мне здавалася, што і па характары і вялікі настаўнік і вялікі вучань роўныя. Нездарма яны ў адзін момант выціралі хустачкамі слёзы радасці, усхваляваныя ў час віншавання «Базы курносых».

А я радаваўся, што пасля з'езда мне давялося быць да Купалы бліжэй і бліжэй. І калі ён прапанаваў у тым жа годзе паехаць з ім адпачываць у Кіславодск на снежань месяц, я з радасцю згадзіўся. Праўда, у той час мы адпачывалі ў розных санаторыях: Янка Купала, як звычайна, у санаторыі навуковых працаўнікоў, якому надалі пазней імя Максіма Горкага, а я ў прафсаюзным санаторыі «Ска-

ла». Але невялікая адлегласць не перашкаджала нам сустракацца даволі часта. Звычайна пад вечар, вызваліўшыся ад працэдур, я ўжо сядзеў у яго ўтульным пакойчыку і заўсёды быў усцешаны ад гутаркі з ім.

Янка Купала Кіславодск любіў. Ён спрыяў ягонаму здароўю і падабаўся сваёю асаблівай велічнаю прыродаю. Чырвоныя камяні, цудоўны парк, выключна дагледжаныя прагулачныя дарожкі і ўдалечыні велічны белагаловы Эльбрус цешылі яго сэрца, і я заўсёды адчуваў, з якім задавальненнем Купала хадзіў на «Храм воздуха» і радзей на «Красное солнышко», куды было значна далей і не заўсёды выпадала схадзіць туды па часе, ды і па дазволу ўрачоў.

У Янкі Купалы было ўсюды шмат шчырых прыхільнікаў і добрых сяброў. Ён адразу ўвёў і мяне ў іх кола. Я часта хадзіў з ім да сям'і Калітоўскіх, з якой Купала быў дружны яшчэ з часоў, калі яны жылі ў Мінску. Сябраваў ён і з медыцынскімі сёстрамі і афіцыянткамі, якія абслугоўвалі яго. Помню, як аднойчы, накупіўшы падарункаў, ён павёў мяне ў госці да сваіх афіцыянтак. І з усімі ён добра адчуваў сябе і знаходзіў прыязную, патрэбную гутарку. Гэта было пэўнаю навукаю і для мяне, бо апрача ўсяго я адчуваў, што ў такіх сустрэчах Янка Купала чэрпаў для сябе пазнанне, чым жыве народ, якія ягоныя настроі і інтарэсы.

Гэта ж жаданне прыводзіла яго і ў месцы, дзе найбольш шырока раскрывалася ў той час народная душа. На рынак. У Кіславодску рынак быў вельмі шумны і разнастайны. Каго-каго толькі на тым рынку не было і чаго-чаго толькі не было на яго шматлікіх сталах, ды і на арбах і вазах.

Мы хадзілі з Купалам, і я наглядаў, як ён цікавіўся і тым, што прадаецца, па чым каштуе, і сам купляў тое, што было яму асабліва даспадобы. Выпівалі мы і па шклянцы натуральнага віна з бурдзюкоў, прывезеных горцамі. Любіў Купала і пажартаваць. Раптам ён заўважыў фатографа. На вялікім палатнішчы-малюнку скакаў між гор смелы джыгіт з узнятаю востраю шабляю. Толькі замест галавы была велізарная дзюрка, куды трэба было прасунуць галаву самому, зняцца, і гатова — кожны станавіўся адважным джыгітам.

— Давай, Петрусёк, здымемся і пашлём жонкам. Няхай яны ведаюць, якімі храбрымі мы сталі.

І мы зняліся. Колькі ж рагаталі і самі мы і нашы знаё-

мыя, калі бачылі нашы здымкі. Шкада, што не засталося ніводнага!

Наогул Купала вельмі любіў сустракацца з народам. Не на сходах, не на выступленнях, а непасрэдна ў жыцці: у калгасах і саўгасах, за працаю. Адтуль ён чэрпаў і тэмы сваіх твораў.

Творчасць яго ад пачатку да канца сведчыць, што на працягу ўсяе сваёй дзейнасці ён быў непарыўна звязаны з жыццём. Я б мог падаць шмат прыкладаў, як ён заўсёды вельмі аператыўна рэагаваў на ўсе падзеі жыцця. Але спынюся на некаторых.

Памятаецца, як у пачатку калектывізацыі, стварэння калгасаў і камун, Янка Купала, апынуўшыся ў самай гушчы жыцця, напісаў сваю выдатную паэму «Над ракой Арэсай». А гэта сведчанне і таму, што высокамастацкія творы можна пісаць, не толькі счакаўшы шмат гадоў пасля пэўных падзей, але і неадкладна па жывых іх слядах. Янка Купала сябраваў з людзьмі, якія арганічна звязвалі яго з жыццём. У яго была доўгая дружба з сакратаром Барысаўскага РК КПБ т. Чарнышовым, са старшынёй Аршанскага РВК т. Міцьковым, з кіраўнікамі саўгаса «Стара-Барысаў».

Каб лепш ведаць жыццё, ён часта наведваў рынак і ў Мінску, і там, дзе даводзілася хоць часова быць. Неяк ён гаварыў мне:

— Ты прыгледзься да людзей на рынку, Петрусёк... Да таго, што яны прадаюць, і ты пазнаеш, як яны жывуць, прыгледзься да іхніх убораў, асабліва да жаночых улетку, якое багацце фарбаў... А мова, мова!.. Ты прыслухайся толькі і да звычайнай размовы, і да жартаў, і да спрэчак!.. Не, не, нам, пісьменнікам, нельга не ведаць усяго гэтага!..

У Кіславодску ў снежні 1934 года Янка Купала адчуваў сябе добра. Адно што вельмі ўсхвалявала і ўстрывожыла яго — гэта забойства Сяргея Міронавіча Кірава. Памятаю, што на другі ж дзень пасля паведамлення аб гэтым злачынстве, калі я прыйшоў да Купалы, ён прачытаў мне хвалюючы верш, прысвечаны памяці аднаго з любімых кіраўнікоў партыі.

Вярнуўшыся з Кіславодска, праз некалькі месяцаў Купала прапанаваў:

— А давай, Пятрусь, з'ездзім і пажывём на вёсцы... І людзей пабачым, і адпачнём, і папрацуем!..

Ён расказаў мне, што запрашае на адпачынак ягоны

добры сябра — старшыня Аршанскага райвыканкома таварыш Міцькоў.

І мы паехалі. У Оршы нас і сустрэў Міцькоў на райвыканкомаўскай машыне і адвёз у Ляўкі на высокі бераг Дняпра да ляснічага Шыманскага.

Праз дзень, калі прыгледзеліся да ўсяго, мы былі ў захапленні. Такі цудоўны куток, як Ляўкі, цяжка і ўявіць. На крутым беразе, парослым статнымі соснамі, над шырокім Дняпром стаяў нядаўна збудаваны будынак лясніцтва. А па Дняпры плылі плыты, баржы і чоўны. Чуліся песні плытагонаў.

Захоплены Купала, стоячы над Дняпром, гаварыў мне:

— Ты толькі паглядзі, Петрусёк, якая веліч гэтая рака, а яна ж звязвае ўсіх нас: і рускіх, і беларусаў, і ўкраінцаў...

— А вы падумайце, дзядзька Янка, і пра тое, што недзе на такім, а можа, яшчэ вышэйшым беразе Дняпра стаіць і ваш настаўнік Тарас Шаўчэнка...

— Ай, праўду кажаш, праўду кажаш, а я яшчэ думаю і пра тое, што недзе ля Дняпра ў Смаленску жыве і мой малодшы сябра Міхаіл Ісакоўскі...

Да ўспамінаў пра гэта ён пасля варочаўся неаднойчы.

Спадабаліся нам і хата і сям'я Шыманскіх. Янку Купалу быў адведзены асобны пакой, а я змяшчаўся побач у пакоі-канцылярыі. Да таго ўлетку ў канцылярыі лясніцтва амаль ніколі нікога не было.

Сям'я ляснічага Мікалая Ігнатавіча Шыманскага была выключна добраю і гасціннаю. Яго сціплая, слаўная жонка-настаўніца мясцовай школы Марыя Іосіфаўна вельмі ўмела гаспадарыла. Мы дзівіліся, калі толькі яна паспявала ўсё рабіць, бо стравы, прыгатаваныя ёю, былі надзвычайна смачнымі.

У Шыманскіх было двое слаўных дзетак — сын Віктар год 5—6 і дачушка, крыху большая. На жаль, я запамятаў яе імя.

Мы былі Шыманскімі так дагледжаны, што першы добры настрой ад сустрэчы з Ляўкамі яшчэ павялічваўся. Падабаліся Ляўкі і ўсё навакольнае. На другі ж дзень нас запрасілі на выпускны вечар у Копыскую сярэднюю школу. Доўга мы бавіліся там. Пазнаёміліся з настаўнікамі, з выпускнікамі і з многімі з іх бацькоў. Здаецца, што там жа быў і старшыня калгаса Белкін, які і запрасіў наведаць калгас. Янка Купала быў у асяроддзі ўвагі. Выпускнікі і выпускніцы з захапленнем акружылі яго і прасілі што-не-

будзь прачытаць. І народны паэт чытаў ім вершы, пакуль не стаміўся.

Позна мы вярнуліся дамоў, а назаўтра ж, відаць, жадаючы больш поўна пазнаёміцца з наваколлем, Янка Купала павёў мяне ў калгас. Старшыня Белкін паказаў нам усю гаспадарку. Калгасы тады былі невялікія. І пазнаёміў з людзьмі за працаю. Справа ў калгасе ішла параўнаўча добра, і гэта падабалася Купалу.

Пахадзілі мы па гаспадарцы і па палетках. Усюды адчувалася дбайная гаспадарская рука. Была цудоўная пара. Чэрвень — жыта красавала, ды дзе-нідзе ўжо на сенажацях званілі косы. А скрозь уперамежку з палямі — гаі і дубровы, ды і лясныя велізарныя ўчасткі, адзін з іх чамусьці зваўся «Амерыка».

А Янка Купала, хутка асвойтаўшыся з лясным наваколлем, абышоўшы яго некалькімі раніцамі з кіёчкам у руцэ, аблюбаваў сабе цудоўную мясцінку для працы непадалёк ад будынка лясніцтва. Яна была сапраўды цудоўнаю. З высокага пагорка пад стогадовымі меднастволымі соснамі віднеўся ціхаплынны Дняпро. Дол усланы, што коўдраю, сухім зеленаватым мохам, дзе-нідзе аздабляўся чаборам, рамонкам і мядункамі... На гэтым узгорку, у невялічкай упадзінцы і прыладзіўся працаваць паэт. А побач былі старыя акопы ці то з грамадзянскай вайны, ці то яшчэ з часоў першай імперыялістычнай. Яны і навялі Янку Купалу на першы верш, напісаны ім у Ляўках. Ён так і зваўся «Старыя акопы».

А пасля пачаўся вельмі плённы творчы месяц. Зранку, паснедаўшы, мы разыходзіліся па сваіх месцах. І працавалі. Калі збіраліся на абед, дзяліліся здабыткамі. З кожным днём я заўважаў, што настрой дзядзькі Янкі ўсё ўздымаецца. Ды гэта было і зразумела. Ён напісаў за месяц каля 20 вершаў, сярод якіх такія выдатныя, што сталі хрэстаматыйнымі, як «Старыя акопы», «Хлопчык і лётчык», «Вечарынка», «Госці», «Лён», «Як у госці сын прыехаў» і інш.

Вельмі паказальна, што творчасць Купалы была цесна звязана з жыццём. Вершы ляўкоўскія напісаны пад непасрэдным уплывам таго, што ён бачыў вакол, пад уплывам сустрэч з людзьмі тых мясцін, з падзеямі таго часу. Вось, скажам, верш «Госці» быў напісаны пасля таго, як госці непасрэдна наведалі яго.

А было гэта так. Неяк вечарам, калі мы з «лясных кабінетаў» вярнуліся дахаты, заўважылі, што каля ганка

чакае старшыня калгаса Белкін у сваім акружэнні. Не паспеў падысці Купала, як дзяўчаты Белкіна ўздзелі Купалу на шыю вянок з каласоў, перавітых палявымі кветкамі, заспявалі прывітальную, а Белкін падаў вялізны каравай...

Янка Купала разгубіўся, падзякаваў і запрасіў да сябе. Яшчэ большым было яго здзіўленне, што ў канцылярыі лясніцтва ўжо стаяў велізарны стол, багата накрыты калгаснымі гаспадарамі. Чаго-чаго там ні было: і вяндліна, і каўбасы, і грыбы, і мёд, і масла, і сыр...

Адным словам, доўга цягнулася ў той вечар бяседа. І гаварылі аб калгасных справах, аб уборцы, пра вершы, пра жыццё ў горадзе і на вёсцы...

Янка Купала быў вельмі расчулены, а назаўтра ж, калі я, ідучы дахаты, заглянуў да яго ў «старыя акопы», ён запрасіў:

— Давай, Петрусёк, я табе прачытаю яшчэ адзін верш...— І ён прачытаў мне «Госці», а калі я пахваліў новы верш, папрасіў: — Прачытай цяпер ты, а я паслухаю...— Я стараўся зрабіць гэта як найлепш і атрымаў належную ацэнку:

— У цябе на голас яшчэ лепш выходзіць!..— І мы, задаволеныя, пайшлі на сваю сялібу.

Весткі пра тое, што Янка Купала жыве і працуе ў Ляўках, распаўсюдзіліся шырока. І яго ўсё часцей пачалі наведваць то рабочыя з Копыскага кафлянага завода, то вучні і настаўнікі са школы, то раённыя прадстаўнікі, асабліва часта старшыня райвыканкома таварыш Міцькоў, які вельмі прыязна ставіўся да паэта.

Цудоўна мы пажылі тады ў Ляўках. І для мяне гэта адна з самых запамінальных і хвалюючых часін майго жыцця.

Янка Купала ад'язджаў з Ляўкоў з цвёрдым намерам пабудавацца і ўлетку жыць там. Ён нават аблюбаваў некалькі мясцін пад сваю сялібу. Памятаю, на развітанні ён доўга стаяў на адной з іх. Задумліва ўглядаўся ў Дняпро, як бы імкнучыся сказаць, што развітваецца ненадоўга...

Так і адбылося. У бліжэйшы ж год вырас там драўляны, прапахлы смалою, двухпавярховы, але невялікі дамок Янкі Купалы.

Мне даводзілася пабыць у ім яшчэ некалькі разоў, гасцюючы ў народнага паэта разам з сябрамі.

Янка Купала ж звычайна вясною прыязджаў з Уладзіславай Францаўнай у Ляўкі. Прыязджала туды і ягоная

сястра Леакадзія з дзецьмі, Уладкам і Янкам. І сястра Марыя і пляменніцы Уладзя, Ніна, Насця і Ядзя.

У гэтыя ж гады Янка Купала ўзначаліў вялікую справу — пераклады і рэдагаванне свайго любімага паэта, вялікага Кабзара. Да перакладаў ён запрасіў Якуба Коласа, Пятра Глебку і мяне. Надзвычай уважліва ставіўся ён да гэтае справы. І патрабавальна. Я адчуў гэта добра на сабе.

А ў Янкі Купалы ўсё больш павялічваўся лік сяброў у братніх рэспубліках. Шмат хто з іх наведваў паэта ў Мінску. Амаль на ўсіх такіх сустрэчах даводзілася прысутнічаць і мне. Памятаю наведванні Гарадзецкага і Новікава-Прыбоя, Пятра Паўленкі, Міколы Бажана, Тарэня Масэнкі, грузінскага драматурга Шалвы Дадыяні, армянскага паэта Наіры Зар'яна. Некаторыя з іх падоўгу гасцілі ў Купалы, і ён быў гэтым вельмі задаволены.

Памятаецца мне яшчэ адна вялікая таго часу падзея, якая вельмі ўзрушыла народнага паэта,— гэта першая ўзнагарода ўрадам савецкіх пісьменнікаў. Адбылося гэта ў лютым 1938 года. Янка Купала і Якуб Колас былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна, Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Эдуард Самуйлёнак — ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Пятро Глебка і я — ордэнамі «Знак Пашаны».

Узнагароду ўручаў Міхаіл Іванавіч Калінін у Крамлі. Памятаю, што пасля ўрачыстасці, калі мы абедалі ў рэстаране «Нацыяналь», як быў усхваляваны Янка Купала. Ён звычайна не вельмі гаваркі, каб адзначыць сваю высокую ўзнагароду, на гэты раз часта гаварыў:

— Петрусёк, якая радасць ва ўсіх нас, якая радасць у мяне. Цяпер толькі жыць і жыць... І працаваць, працаваць!..

А жыццё прыносіла яму радасць за радасцю: у верасні 1939 года была вызвалена Заходняя Беларусь, вёска, дзе ён нарадзіўся, недалёка ад Мінска, якая заўсёды хвалявала ягонае сэрца. Праўда, Купалу вельмі трывожыла фашысцкая навала, што распаўзалася па Еўропе, але тое, што родная зямля вызвалялася ад пілсудчыны, радавала паэта. Весціну пра вызваленне ён атрымаў у часе звароту з паездкі ў Ерэван на ўрачыстасці Давіда Сасунскага і ў цягніку ж, за некалькі дзён дарогі, напісаў свой вядомы цыкл «Заходнебеларускія матывы».

А неўзабаве яму давялося быць у Беластоку на ўрачыстасцях уз'яднання. І ўсе мы наглядалі, што Янка Купала і Якуб Колас былі ў самым цэнтры ўвагі і павагі ўсяго

шматтысячнага грамадства, якое адзначала ўз'яднанне, і гэта зразумела — палымяныя словы паэтаў будзілі і заклікалі народ увесь час да волі і лепшай долі, звалі іх у адзіную, родную савецкую сям'ю.

З узвышаным добрым настроем у канцы снежня таго ж 1939 года прыехаў ён на адпачынак у Кіславодск. Давялося і на гэты раз мне быць разам з ім.

Купала ўвесь час гаварыў пра Заходнюю Беларусь. Успамінаў сваю маладосць і часы працы ў Вільні. Збіраўся, як толькі выпадзе час, паездзіць па тых мясцінах, якія некалі ў юнацтве абышоў пехатой. Наогул быў у добрым настроі. І ўсё ж тое, што гітлераўская чума набліжалася да нас, часта засмучала яго. Асабліва ўсхваляванага яго бачыў я, калі пачалася вайна з белафінамі. Аднойчы я знайшоў Купалу ў ягоным пакойчыку за «Калевалай». Ён чытаў выдатнейшы фінскі эпас. Адклаўшы кнігу на стол, Купала ў нейкім асаблівым задуменні сказаў:

— Не ведаю, Петрусёк, што здарылася... Фінскі народ сумленны і працавіты... Я быў там... А цяпер ліецца і кроў нашага народа і фінаў... Вось што робіць фашызм... Няйначай пракляты Манергейм вінаваты.

Купала даў «Калевалу» і мне — параіў прачытаць яшчэ раз. Ён ніколі не ставіўся ў тон ментарскі, павучальны і калі хацеў што-небудзь параіць, дык рабіў гэта вельмі асцярожна і тактоўна. У той жа час у Кіславодску, даведаўшыся, што я амаль нічога не раблю, аднойчы мне сказаў:

— А я ў маладосці, бывала, і па 2—3 вершы ў суткі пісаў. Нават пры месяцы...

Справа як быццам не кранала мяне, але я зразумеў, што ў гэтым яго парада не губляць часу дарэмна.

Наогул, не толькі ў творчых справах быў Янка Купала прыязным да ўсіх, але і ў справах жыццёвых. Любіў рабіць людзям добрае, прыемнае.

Успамінаю, што ўзімку, прыехаўшы з Кіславодска, Янка Купала завітаў да нас на Чырвонаармейскую вуліцу, дзе мы жылі ў той час з малым Юрачкам, якому было тады крыху болей 3-х год. Купала, пагаварыўшы па розных справах, пацікавіўся нашым малым хлопчыкам. Алена Міхайлаўна, як кожная маці, відаць, выказала свой клопат аб тым, чаго яму не хапае: — Вось ніяк валёначкаў яму не знайду,— між іншым сказала яна...

Якое ж было наша здзіўленне і наша ўдзячнасць, калі праз тыдзень-два завітаў да нас, вярнуўшыся з Масквы,

Янка Купала і, сам узрадаваны не меней нас, паставіў перад хлапчуком цудоўныя маленькія валёначкі. І як ён цешыўся, што валёначкі прыйшліся яму якраз па назе, і ўсё загадваў: — Пабегай!.. пабегай па хаце!..— каб пабачыць, што ягоны падарунак і малому па сэрцы.

Улетку 1940 года падзеі хвалявалі Купалу адна за другой. І асабістыя. Ён збіраў матэрыялы да працы і пісаў. І цікавіўся пастаноўкай БДТ-2 яго любімай «Паўлінкі». Я ездзіў з ім і цёцяй Уладзяй у Бабруйск, дзе ўсіх нас парадавала сапраўды майстэрская ігра акцёраў.

А яшчэ і справы дзяржаўныя ўзрушвалі яго. Літва, Латвія і Эстонія, увайшоўшыя ў Савецкі Саюз, прыцягвалі да сябе вялікую ўвагу. А ў яго ж і там было многа сяброў, з якімі ў час панавання там буржуазіі не мог ён сустракацца.

А цяпер адкрываліся такія магчымасці! Вось чаму з вялікай ахвотаю ехаў ён на І з'езд пісьменнікаў Савецкай Латвіі ў чэрвені 1941 года. Разам з ім былі на з'ездзе Міхась Лынькоў і я. Янку Купалу добра ведалі ў Рызе ўжо даўно. Яшчэ ў дваццатых гадах сустракаўся ён у Мінску з Янам Райнісам. І паслядоўцы Райніса паважалі нашага народнага паэта. Гэта адчувалася ў тым, як цёпла сустракаўся ён з Андрэем Упітам, Янам Судрабкалнам, Вілісам Лацісам і маладзейшымі. Нам з Лыньковым было прыемна адчуваць, што беларуская савецкая літаратура можа ганарыцца і быць шчаслівай, што яе прадстаўляе такі выдатны паэт. Выключна карысна прайшлі для кожнага з нас гэтыя дні ў Латвіі. Я ўжо не кажу пра Купалу, а і для нас з Міхасём Лыньковым яны былі вельмі значнымі — мы таксама шмат займелі новых сяброў і замацавалі сяброўскія адносіны з многімі з братніх рэспублік, з якімі былі знаёмы раней.

Памятаецца вечар перад ад'ездам на Рыжскім узмор'і. Андрэй Упіт са сваімі сябрамі даваў гасцям развітальную вячэру. Гэта быў дзівосны вечар. Чэрвеньскі, цёплы, у паху кветак буйнога красавання. Было шмат тостаў за дружбу, і гаворкі, гаворкі...

Праўда, калі мы для адпачынку выходзілі на паветра і паглядалі ў далеч мора, нас часам трывожылі, здавалася нам, нейкія дзіўныя водбліскі ўдалечыні. Прыгадваліся, што некаторыя вокны ў Рызе былі зацемнены чорнаю паперай. Але мы чыталі ў газетах, што маюцца адбыцца вялізныя вайсковыя манеўры, і гэта нас заспакойвала.

З намі ў Каўнас варочаліся нашы новыя сябры — лі-

тоўскія пісьменнікі. Яны запрасілі нас спыніцца на дзянёк у іх, і мы з падзякаю згадзіліся. Каўнас тады быў сталіцаю Літвы. Адпачыўшы і крыху пазнаёміўшыся за дзень з горадам, увечары мы былі запрошаны на пачастунак да нашых літоўскіх сяброў. Сустрэча наша адбывалася ў Доме пісьменніка, які належаў нейкаму мільянеру ў час панавання буржуазіі ў Літве.

Было вельмі радасна, цёпла, сардэчна. З літоўцаў я запамятаваў Пятраса Цвірку, Антанаса Венцлаву, Вітаўтаса Монтвілу, Саламею Нерыс, Юстаса Палецкіса, Тэафіліса Цільвіціса, Костаса Корсакаса. Чыталі вершы. Спявалі. Янка Купала быў у прыўзнятым настроі. Ён, не вельмі гаваркі,— успамінаў пра сваіх літоўскіх сяброў, з якімі знаўся яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы, і таксама чытаў вершы. Запрашаў сяброў наведаць Мінск.

Недзе каля 3—4 гадзін раніцы мы вярнуліся ў сваю гасцініцу. Мы жылі з Янкам Купалам у адным нумары, а Міхась Лынькоў побач. Толькі заснулі, як нейкія выбухі абудзілі нас. Я ўстрывожыўся, але дзядзька Янка заспакоіў, што гэта манеўры. Паспрабавалі заснуць яшчэ, але праз нейкую гадзіну гул выбухаў стаў часцейшы. Тут ужо і ўзнікла ў нас падозранне, а ці сапраўды гэта манеўры? Мы апрануліся, пазвалі Міхася і выйшлі на вуліцу. Было нешта ўжо каля 7—8 гадзін. Насустрач ідучы, адзін пажылы літовец сказаў нам: — Таварышы, пачалася вайна!.. Так!.. так!..— пацвердзіў ён.

Бясспрэчна, гэта нас усхвалявала, але мы так верылі ў моц нашай зброі, што асабліва не трывожыліся. Пайшлі ў кафэ. Паснедалі. А адтуль у ЦК КП Літвы. А там нас ужо чакалі, растлумачылі, што справа вельмі складаная і небяспечная. Далі нам машыну, праводзілі на вакзал. Мы ехалі з Каўнаса ў цягніку, а ў адным з вагонаў ужо везлі раненых з фронту. Па дарозе бамбілі. Гарэлі ўжо склады, заводы... Было вельмі цяжка. Але ніхто не панікаваў. Янка Купала хоць і быў устрывожаны, але разважаў спакойна, быў пэўным, што не скарыць свабоднага савецкага народа. Ён падаваў нават прыклад спакою суседзям па вагоне і, дарэмна рызыкуючы, як нам здавалася, і ў часе бамбёжак не выходзіў з вагона.

Прыехалі ў Мінск. Разышліся па хатах. У кожнага хапала сваіх клопатаў. Ды гора ўсенароднае хвалявала больш за ўсё. Горад бамбілі. Вораг набліжаўся, Народ узнімаўся на змаганне. І пісьменнікі хто пайшоў у армію, а хто мусіў пакінуць свой дом.

І Янка Купала з Уладзіславай Францаўнай выехалі ў Ляўкі. Думалі, што, можа, туды не дойдуць фашысты.

Праз некалькі дзён і я пакінуў Мінск. Пешкам, не маючы нічога з сабой, пайшлі мы з Віталем Вольскім і Алесем Кучарам па дарозе на Пухавічы, маючы на ўвазе ратаваць пісьменніцкія сем'і. Выехалі неўзабаве і адтуль, але пра гэта асобная гаворка. А што Колас быў у Ляўках і паехаў з Ляўкоў на Маскву, а ўслед за ім і Янка Купала, даведаліся ўжо недзе каля Магілёва, куды мы сабраліся пад загад ЦК КПБ.

Сустрэў я ўжо Янку Купалу недзе праз месяц у Маскве. Амаль уся беларуская зямля была захоплена ворагам, і паэт цяжка перажываў гэтае гора. Жыў ён часова ў мастака Елісеева, даўняга сябра, наведваў Якуба Коласа ў Клязьме. Аднойчы прапанаваў ён мне з'ездзіць адведаць ляснічага Шыманскага, які працаваў і жыў цяпер з сям'ёй непадалёк ад Масквы.

Але, дзе ён ні быў, гутарка была адна: туга па Беларусі, клопаты пра маці, якая засталася ў акупаваным Мінску. Ды вера ў тое, што, нягледзячы на вялікія страты, народ пераможа, ніколі не пакідала яго.

Неўзабаве мы з Максімам Танкам і Алесем Кучарам накіраваліся на Бранскі фронт, куды атрымалі прызначэнне. І хутка даведаліся, што Якуб Колас эвакуіраваўся ў Ташкент, а Янка Купала ў Печышчы пад Казанню.

Толькі ў чэрвені 1942 года мне давялося зноў сустрэцца з Купалам. Пасля доўгіх блуканняў па франтах нашу рэдакцыю «За Савецкую Беларусь» аддалі пад загад Заходняга фронту, і мы апынуліся ў Маскве і размяшчаліся ў казармах рэзерву на 5 Данскім завулку. Часта наведвалі Саюз пісьменнікаў СССР, каб дазнацца пра сваіх таварышаў, якія траплялі туды, прыязджаючы з розных франтоў.

І вось аднойчы Аляксандр Твардоўскі, сустрэўшы мяне, сказаў:

— А ведаеш, прыехаў Янка Купала, давай наведаем яго.

Цераз гадзіну мы сядзелі ў гасцініцы «Масква» ў нумары 412 у Янкі Купалы. Усе былі ўзрадаваны сустрэчы. Мяне цешыла тое, што на гэты раз дзядзька Янка быў весялейшы, чым у першыя месяцы вайны. Ды гэта і зразумела — усіх узбадзёрыла моцна, што гітлераўцаў пабілі пад Масквой і рашучыя дзеянні ў вайне пераходзілі ў нашыя рукі. Аляксандр Трыфанавіч, які толькі што вярнуўся з Заходняга фронту, расказваў аб апошніх падзеях і нашых

поспехах, аб баявых настроях франтавікоў. Янка Купала вельмі цікавіўся ўсенароднай партызанскай барацьбой і відавочна ганарыўся гэтым. Ён нават прачытаў свой славуты верш: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны». Вельмі спадабаўся яму ўрывак з «Васіля Цёркіна», які прачытаў Твардоўскі. Час ад часу Купала ўсё варочаўся да роднай Беларусі. Быў у добрым настроі. Спадзяваўся хутка вярнуцца дахаты. Нават планаваў, што ён будзе рабіць па прыездзе. Бясспрэчна, успамінаў Ляўкі. І маці, маці, якую ён меў надзею яшчэ пабачыць. Доўга мы тады засядзеліся ў Купалы. Забавіліся так, што і заначавалі ў Купалы, бо тады ўночы забаранялася хадзіць без дазволу па Маскве. Гэта было ў самым канцы чэрвеня, і назаўтра ён, развітваючыся, запрашаў нас:

— Хлопчыкі!.. Праз некалькі дзён мне шэсцьдзесят. Прыходзьце да мяне, сустрэнемся!

І мы з радасцю парашылі, каб адзначыць славутую дату вялікага песняра, любага нам чалавека...

Але гэтаму не собіла збыцца. Праз некалькі дзён Янкі Купалы не стала. І, заместа прыязнае бяседы, мы развіталіся з ім назаўсёды.

Вялікае гора ахутала наша сэрца. Усе, хто быў з беларусаў у той час у Маскве, стаялі, нізка схіліўшы галовы, перад дамавінай, у якой ляжаў найвялікшы сын нашага народа, пясняр і барацьбіт за свабоду і шчасце народа. Ляжаў маўклівы, нават, здавалася, задумны, а над галавой яго будзіла ўсе нашы сэрцы ягонае найшчырэйшае жаданне: «Мне сняцца сны аб Беларусі...»

Мы ў вялікім горы ішлі па прыціхлых вуліцах Масквы, бо на апошнім шляху паэта быў прыпынены рух, і праз некаторы час ужо не маглі і пабачыць самага дарагога нам вобліку. Але мы не развіталіся з любым паэтам. Ён заўсёды з намі. У нашых сэрцах. Навечна. Ніяк не хочацца верыць, што яго ўжо ніколі не сустрэнеш. Не пачуеш яго ласкавага слова. І заўсёды, калі мне даводзіцца быць у парку яго імя, хоць я і праходжу каля велічнага помніка, мне здаецца, што ён недзе недалёка, у сваім невялічкім дамку, і мяне так цягне зайсці да яго, спадзеючыся сустрэць любага песняра і настаўніка з тым жа кіёчкам, прыязна запрашаючым:

— А-а... даўно... даўно не бачыліся... Заходзь!.. Заходзь, Петрусёк!

Прыгадаеш усё і толькі ўздыхнеш!

## ЗАБЫЦЬ ЦЯБЕ НЕ МАЮ СІЛЫ...

Малым, калі я прачытаў «Тоўстае палена» Якуба Коласа, я быў захоплены гэтаю кніжкаю, а яшчэ і здзіўлены тым, што ўсе ў ёй гавораць так, як і ў нашай вёсцы. А хіба я мог думаць, што ў жыцці здзейсніцца нават нечаканае для мяне. Хіба я мог уявіць, што прыйдзе такі час, калі я буду часта бачыць, слухаць любімага пісьменніка і нават стану блізкім да яго.

Я ўспамінаў пра гэта заўсёды, калі ў пачатку трыццатых гадоў праходзіў побач двухпавярховага, сціплага драўлянага дамка па Вайсковым завулку № 3, у якім і жыў тады дарагі майму сэрцу чалавек. Прызнаюся, што мяне вельмі цікавіла, што Колас робіць там, і я аднойчы адважыўся глянуць праз шчыліну агарожы і быў уражаны. Замест таго каб угледзець паэта за кнігамі, я, звярнуўшы ўвагу на пэўны грукат, убачыў, як «дзядзька Якуб» калоў дровы. Прычым рабіў гэта, можна сказаць, натхнёна, са смакам і па-сялянску дбайна. Паколатыя паленцы, складзеныя ім, прыгожа ўзвышаліся грудком за яго спіной.

Крыху пасля, калі пазнаёміўся з аўтарам твораў, якія хвалявалі мяне, я пазнаў, што праца літаратурная і праца фізічная былі звязаны ў яго непадзельна і што гэта, відаць, і спрыяла таму, што чалавек працы, чалавек-будаўнік, чалавек новага жыцця былі асноўнымі героямі яго кніг. А яшчэ, нягледзячы на ўяўную, некаторую вонкавую замкнёнасць, ён быў чалавекам калектыву і не мог дня пражыць, каб не адчуць таго новага, чым жывуць людзі, каб не расказаць каму-небудзь з блізкіх пра свае думы і пра тое, што ім зроблена. І што надзвычайна характэрна для яго, чаго я такога выразнага за доўгае жыццё не сустракаў амаль ні ў каго, гэта нейкая асаблівая любоў да зямлі, да ўсяго прыроднага свету — паветра, неба, якая запаўняла яго так, што ён не мог і жыць, каб не пагаварыць з зямлёю, не адчуць усёй душою яе радасці і яе болі...

Памятаю, што першая яго больш сардэчная размова са мною пачалася зноў жа з таго, што адбываецца з зям-

лёю. Было гэта ўлетку не то 1933, не то 1934 года, калі я жыў на Чырвонаармейскай вуліцы, блізка каля завода Кірава. Якуб Колас тады быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР, працаваў на рагу вуліц Кірава і Леніна. Па дарозе дамоў, калі ісці цераз парк Горкага, яму было зручна зайсці і да мяне. А я быў заўсёды бясконца рады гэтаму.

— А вось, Пятруська, і я,— звычайна ласкава вітаўся ён, уваходзячы ў хату. І мы неўзабаве сядзелі за сталом, накрытым тым-сім, і гаварылі. Бачыў я, што Колас нечым заклапочаны. Ды доўга не даводзілася чакаць.— Баліць маё сэрца,— скардзіўся ён,— гэта ж трэці тыдзень як ні кроплі дажджу... Гарыць усё!.. І збажына... і травы... нават зямля трэскаецца... Што будзе... што будзе...— і трэба было ўмела падтрымаць размову, каб палепшыўся яго настрой. Я ведаў, што дзядзька Якуб і не верыць мне, але, калі я настойліва пераконваў яго, што вось-вось пойдзе дождж, падаючы зноў жа даўнія, дзедаўскія, вясковыя прыкметы, ён весялеў. Але памятаю, падышоў ён да барометра на сценцы і, злёгку пагрукаўшы па ім, сказаў: — Не паказвае ён, гад, таго, што ты сцвярджаеш... Але быццам шавяльнуўся ў бок дажджу... Малайчына, што ты барометр маеш!..— І я мусіў яму прызнацца, што навучыўся гэтаму ад яго.

— А калі ж ты мой бачыў?

— А вы і не памятаеце, дзядзька Якуб, што тады, калі дзядзька Янка з цёцяй Уладзяй ратаваліся ў вас ад паводкі. Я быў тады ў вас упершыню з сябрамі і прыкмеціў гэта.

— Малайчына!.. малайчына!..— задаволена цвярдзіў ён.— Трэба ж ведаць, як жывецца зямельцы, на якой мы жывём... Яна ж гадуе нас.. Трэба і з небам размаўляць. Яно таксама спрыяе нам. Хоць не заўсёды... Вось тады, калі Янка з Уладкай жылі ў нас, яны ратаваліся ад паводкі. Вада ж падышла амаль пад страху да іхняе хаты...— І праз колькі часу, яшчэ раз пагрукаўшы па барометры, ужо больш вясёлы, праказаў:

— Дарма я яго лаяў... А можа, і недарма. Здаецца, прыслухаўся. Яшчэ больш хіснуўся ў бок дажджу...

Якуб Колас вельмі любіў родную зямлю і дасканала ведаў народ. Мала таго што ён сам жыў у вёсцы, ён добра ведаў тых, пра каго пісаў. І гэтыя веды папаўняў усё жыццё, бо непарыўна быў звязаны з народам і актыўна супрацоўнічаў з ім. Многа год я бачыў гэта, але хачу ко-

ратка расказаць, можа, толькі пра адну сотую са зробленага ім.

Яшчэ ў 1932 годзе ён піша: «Перада мною жыва ўстаюць бяскрайнія Палескія балоты з бясконцымі грэблямі і брадамі на цэлыя вёрсты і панурыя, замкнёныя ў сабе постаці палешукоў... І жылі яны ў адвечнай цемры паміж дзвюх варожых стыхій: суровых прыродных умоў і ціску царскага самаўладства».

І Якуб Колас заклікае ў наступ на балоты. У той жа час ён дбае і аб рабоце нашай літаратуры. Клапоцячыся пра актыўны ўдзел пісьменнікаў у жыцці, ён з болем у сэрцы піша: «Мы мала рухаемся, мала вандруем і вельмі слаба, трэба прызнацца, уключаемся ў бурлівае жыццё нашай эпохі». Гэта пра нас, літаратараў.

А хутка, амаль праз год, у 1935 годзе Якуб Колас, клапоцячыся пра жыццё вёскі, яшчэ тады выступае з артыкулам, у якім прапануе: «Ці не час падумаць аб дамах калгаснікаў новага тыпу, сучаснага, больш культурнага і знадворнага і па ўнутраным устройстве?»

А яшчэ праз год мы бачылі народнага паэта ў працоўнай калоніі Віцебска, дзе выхоўваліся правапарушальнікі. Ён з радасцю адзначае: «На ўсім заўважаецца адбітак клапатлівасці і ўвагі да гэтых дзяцей, прайшоўшых у маладым свой век суровую цёмную дарогу жыцця».

І ў дзядзькі Якуба паляпшаўся настрой, звычайна, пагаварыўшы ў мяне ў хаце, ён вымаў свежы рукапіс, напісаны прыгожым, выразным почыркам, і пачынаў чытаць верш.

Нялёгка было мне, маладому, рабіць якія-небудзь заўвагі. Ды і не выклікаліся яны. Класіка — ёсць класіка. Майстэрства Коласа, вобразнасць яго паэзіі і слоўнік — менавіта коласаўскія — былі так усталяванымі і агульналюбімымі, што было б неразумна выказваць нейкія новыя фармальныя патрабаванні, якія тады бывалі сярод некаторых маладых паэтаў. Калі ж даводзілася прапанаваць што-небудзь слушнае, дзядзька Якуб, памеркаваўшы, прымаў заўвагу. Ды было іх у мяне мала.

Звычайна я праводзіў Канстанціна Міхайлавіча цераз парк Горкага да хаты. Траплялася так, што нельга было адмовіцца і я прыходзіў у хату разам з ім. Мар'я Дзмітраўна, ветлівая, сціплая, добразычліва прымала і мяне разам са зваротам гаспадара з працы. Тут жа з'яўляліся яго слаўныя сыны Даніла, Юрка і маленькі Міхасёк. І дзядзя Саша, брат Мар'і Дзмітраўны, стары настаўнік.

Адчувалася, што ў сям'і дзядзькі Якуба ўсе вельмі любілі яго. А ўся сям'я ўважліва прыслухоўвалася да размоў гаспадара, імкнулася зараз жа выканаць яго пажаданні. Святлелі сцены ад бацькоўскіх дасціпных заўваг і жартаў, якіх з даўніх дзён, пранікнёных, сялянскіх, быў у яго невычэрпны запас. Так цераз усё жыццё глыбока ўспрынятае паэтам яшчэ ў дзіцячыя і юначыя гады засталося назаўсёды.

Вось чаму Колас не любіў ездзіць і на курорты. За лепшы адпачынак яму было пажыць лета дзе-небудзь у зацішным кутку Беларусі, а выбіраць такія мясціны ён добра ўмеў. Там абавязкова павінен быў быць добры грыбны лес, хоць невялікая рачулка сярод прасторных сенажацей. Каб былі і грыб і рыбка, каб спявалі птушкі і каб нават бусел дзесьці клекатаў на сваім разложыстым гняздзе.

Вось у адной з такіх мясцін мне давялося пажыць летам побач з Якубам Коласам. Гэта было ў Загібельцы, непадалёк ад станцыі Талька. Улетку 1935 года. Якуб Колас толькі наладзіў свой адпачынак, як, нечакана для яго, выпала паездка ў Парыж на Сусветны кангрэс міру. Тады гэта было рэдка, а сама паездка вельмі неабходная і пачэсная, і адмовіцца было нельга. І хоць дзядзьку Якубу, памятаю, нялёгка было развітацца і са сваімі вудачкамі і грыбнымі кошыкамі, а больш за ўсё з цудоўным наваколлем, што так лагодна ўплывала на яго душу, ён накіраваўся ў Парыж.

Мы сачылі за Сусветным кангрэсам, які ўзнімаў свой магутны голас супраць фашызму, і радаваліся, што і наш прадстаўнік, дарагі дзядзька Якуб, выказаў на кангрэсе шчырае, цвёрдае слова ў абарону міру нашага народа.

Але чакалі яго. І калі Якуб Колас з'явіўся, заўважылі, што самаю вялікаю для яго радасцю было акунуцца ў такі звычны для яго штодзённы побыт. Неяк раніцай, выйшаўшы на прагулку каля 8 гадзін, я заўважыў, што дзядзька Якуб ужо варочаецца з цікавейшага паходу. Ён мяне не бачыў, а я, каб не перашкодзіць ягонаму задаволенаму настрою, не абзываўся і толькі сачыў, стаіўшыся за густым ажынавым кустом. Трэба было бачыць, з якім задавальненнем нёс Якуб Колас з лесу поўненькі, з каптуром, кошык чорнагаловенькіх баравікоў у адной руцэ, а ў другой вялізны прут з панатырканымі баравічкамі на плячы, якія ўжо не лезлі ў кошык. Ён ішоў босы з падкасанымі штанінамі і, здавалася, нешта напяваў сам сабе

ад вялікае радасці. Відаць, яму так хацелася хутчэй дахаты, каб пахваліцца сваёй удачай. Дзесьці на добрай сцяжынцы ён нават падбег, але асцярожна, каб не пагубляць здабытак.

У гэтым была стыхія яго любові, любові да прыроды, да роднае зямлі. І нездарма Кандрат Крапіва ў сваёй добразычлівай эпіграме так удала раскрыў коласаўскую душу пасля яго звароту з Парыжа:

Быў я ў Парыжы на кангрэсе —
То ў Загібельцы, браце, лепш:
Грыбоў няма ў Булонскім лесе,
А ў Сене — хоць бы адзін лешч.

Якубу Коласу спадабаўся Кандратаў жарт, і ён неўзабаве адказаў:

Быць можа, я крыху дзівак,
Але люблю я Загібельку,
Там кожны хвойнік мне сваяк,
Там ясным днём надрэчны гак
Мне суліць мяккую пасцельку...

. . . . . . . . . . . . .

Калі агледзіш хвайнякі
І гэты кут пазнаеш бліжай,
Збіраючы баравікі,—
То вывад я раблю такі:
Мне Загібелька лепш Парыжа.

Так у гэтым адказе ёсць поўнае адлюстраванне пачуццяў Коласа ў яго любові да роднае зямлі і прыроды.

І можна з упэўненасцю сказаць, што і настрой яго залежаў не толькі ад уласных, унутраных спраў, але і ад надвор'я. Ён быў добрым, калі не толькі добра пісалася, але калі і на полі расло дружна, ці красавала, ці спела. Тады Колас быў і, як кажуць, у добрым гуморы, жартаваў, прыгадваў розныя прыгоды са свайго даволі доўгага жыцця і глыбокага наглядання за людзьмі і настрой быў дрэнны, а сам Колас хмуры, замкнёны, калі былі празмерныя суш ці дажджы. Асабліва дзядзька Якуб не любіў сушы. Не расло на полі, знікалі грыбы, трэскалася зямля. Памятаю, што і ў Загібельцы, сустрэўшы мяне, аднойчы пытаў:

— Ну, што твой «баран» паказвае? — так ён жартаўліва называў барометр.

— Ды на суш, дзядзька Якуб...

— А, каб ён згарэў, падла!..— і ўжо заклапочана пераходзіў на другія справы.

У наступнае лета, у 1936 годзе, Якуб Колас перабраўся ў Падбярэжжа на прыгожы бераг Свіслачы. Жыў ён у калгасніка Андрэя Асіеўскага, якога вельмі паважаў за гаспадарлівасць. Мясціны там навокал былі адна лепш другое. Ды гэта і не дзіва. Красавалі хаткі на абодвух берагах там ужо даволі шырокае Свіслачы. А вакол лясы, лясы... І грыбоў, грыбоў... А ў Свіслачы ў той час і рыбы хапала. Так ужо да вайны Колас улетку і сяліўся ў гэтых мясцінах. З Падбярэжжа ён перабраўся ў Вусце да Язэпа Рыкашоўскага, а пасля на другі бок Свіслачы да гаспадара Шчэрбы. І ўсюды ён адчуваў сябе добра. Адно лета жылі каля яго Глебкі, а ён любіў, каб да яго, хоць зрэдку, завітвалі госці. Мне даводзілася сустракаць там шмат каго са шчырых сяброў Коласа. А ён быў рад пахваліцца перш-наперш цудоўнымі краявідамі наваколля, сваімі здабыткамі — грыбамі ці рыбай, ды і пачаставаць нагсцей свежынаю. Калі прасілі, дык і чытаў тое-сёе з напісанага.

І дзе б ні жыў Якуб Колас, тыя мясціны пакідалі след у яго творчасці. Калі цяпер перагортваеш поўны збор яго-ных твораў, дык знаходзіш і Загібельку, і Падбярэжжа, і Вусце. Але больш за ўсё займае месца ў ягонай творчасці родная Мікалаеўшчына, якая ніколі не пакідала ягоных думак і сэрца. Можа, і сяліўся Якуб Колас улетку ў такіх мясцінах, якія нагадвалі яму дарагое і роднае. І тая ж, ужо шырокая Свіслач у Вусці ці Балачанцы былі падобны нечым на прыгожае роднае Паднямонне:

Мой родны кут,
Як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы...

І гэта было сапраўды так. Амаль ні разу не памятаю больш-менш доўгае сустрэчы з дзядзькам Якубам, каб ён не прыгадаў Мікалаеўшчыны, ці Акінчыц, і Ластка, і Альбуці, ды іншых мясцін, дзе давялося яму нарадзіцца і зведаць у сям'і бацькі-лесніка такое дзяцінства і юнацтва, якое стала яго глыбокай духоўнай і творчай крыніцай на ўсё жыццё.

Ён цяжка перажываў, што родныя мясціны былі пад белапольскай акупацыяй, успамінаў сваіх родных, якія жылі там, і неаднаразова пісаў пра тое з поўнай верай, што прыйдзе і для іх жаданая Воля.

І Воля прыйшла. У верасні 1939 года Якуб Колас з Янкам Купалам удзельнічалі ва ўрачыстасцях, прысвечаных уз'яднанню ў Беластоку. Гэта былі незабыўныя дні

для нас, хто ўпершыню пазнаў вызваленую заходнебеларускую зямлю, тым больш для Коласа і Купалы, якія там нарадзіліся і шмат гадоў жылі і працавалі. Адведаў Якуб Колас і сваю Мікалаеўшчыну, дзе сустрэўся з сёстрамі і братамі, і ўсе найдаражэйшыя куткі, якія глыбока запалі яму ў сэрца. Ён часта ўспамінаў пра гэта пры сустрэчах і нямала напісаў натхнёных вершаў. Уз'яднанне з'явілася для яго і пэўным творчым этапам большага плана. Ён напісаў з вялікай пранікнёнасцю сваю новую паэму «Хата рыбака». Колас радаваўся, што вольнае жыццё прыйшло ў роднае Паднямонне, збіраўся займець куток для працы і адпачынку ўлетку бліжэй да родных мясцін, дзе ўсё было яму добра знаёмым яшчэ з дзяцінства, але гэтаму не давялося адбыцца. Гітлераўскія банды распачалі свой звярыны паход, і першымі пад удар якраз падпалі тыя мясціны. А пасля падзеі разгортваліся яшчэ больш грозна.

Якубу Коласу з сям'ёю давялося пакінуць родны дом на Вайсковым завулку ў Мінску і ратавацца ўжо 24 чэрвеня на трэці дзень вайны. Ён доўга і не ведаў, што ягоны жыццёвы прытулак згарэў ад запальных бомбаў праз дзве гадзіны пасля таго, як Колас пакінуў свой кут. Яго сярэдні сын Юрка, які загінуў пасля на Заходнім фронце, прыйшоўшы праз дзве гадзіны пасля ад'езду бацькоў, знайшоў ужо толькі папялішча. Усё, што было прыдбана за жыццё, загінула.

Пачаўся новы час жыцця для Якуба Коласа. Час цяжкое вайны. Час вельмі нялёгкі і трывожны. Мне давялося ў вайну некалькі разоў сустракацца з ім у Клязьме пад Масквой, дзе ён спыніўся часова з сям'ёю ў доме брата жонкі. Ён вельмі балюча перажываў страту роднае зямлі, гора народнае, няведанне пра сына Юрку. Колас пахуднеў і спахмурнеў. Не чуліся ягоныя жарты, якія ён так дасціпна расказваў з даўнейшага жыцця. Ён жыў адным — змаганнем. Пільна сачыў за падзеямі фронту, шмат разоў на дзень слухаў апошнія паведамленні, вельмі перажываў няўдачы і пісаў. Пісаў вершы, поўныя гневу супраць забойцаў і поўныя веры ў тое, што прыйдзе перамога. Радаваўся, калі даведваўся пра першыя поспехі беларускіх партызан.

— Вось пабачыш, Петрусёк, як дадуць нашы перцу гэтым бандытам. Нашы людзі на выгляд ціхія, ды яны і добрыя па душы, але крыўды і здзеку не даруюць. Ты прыгадай майго Талаша. Які герой. А ён жа і цяпер, я

пэўны, не сядзіць склаўшы рукі. А ўсе маладзейшыя... Чытаў ты пра Бумажкова і Паўлоўскага? Вось бачыш!..

Сустракаў я ў Клязьме і Купалу і Коласа. Яны жылі адным. Верылі, што вернуцца на родную зямлю. Але падзеі на фронце ішлі так, што гэтага чакаць вельмі хутка не было надзеі. Занадта ж яшчэ моцнай была гітлераўская разбойная зграя, і, хоць хрыбет яе надломваўся, яна працягвала свой крывавы паход. Пагроза навісла над Падмаскоўем, ды і над самою Масквою. Купалу і Коласу параілі паехаць у тыл. І Якуб Колас з сям'ёю выехаў у Ташкент, куды пераехалі шмат хто з маскоўскіх пісьменнікаў, а Купала ў Печышчы пад Казань. У час ад'езду мне не давялося бачыць іх, я з Танкам і Кучарам былі накіраваны на Бранскі фронт. Калі ж пасля давялося бачыць пляменніц Коласа па Мар'і Дзмітраўне Вольгу і Ніну, дык яны расказвалі, што вельмі неахвотна дзядзька Якуб ад'язджаў у Ташкент. Ён верыў, што неўзабаве ворага спыняць. І ворага спынілі і неўзабаве ўжо ў снежні добра яму надламалі хрыбет, але Коласу яшчэ даволі доўга давялося жыць у Ташкенце, чакаючы звароту ў Маскву.

А праз год мне выпала сустрэцца з Якубам Коласам у Ташкенце. Гэта было ў пачатку жніўня 1942 года, у час, калі прыпадала шасцідзесяцігоддзе паэта.

Наша франтавая рэдакцыя «За Савецкую Беларусь» была на Заходнім фронце, але размяшчалася ў прыфрантавой Маскве ў казармах на 5 Данскім завулку. Ворага адагналі ад сталіцы, ды Масква ўсё ж была на франтавым становішчы. Рэдакцыя наша змяшчалася ў Маскве яшчэ і таму, што там працавалі ў той час і ЦК Кампартыі Беларусі, і ўрад Савецкай Беларусі, і Цэнтральны штаб партызанскага руху, які ўзначальваў Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка.

І хоць было цяжка, бо на франтах разгортвалася нечуваная па жорсткасці бітва, нас радавала тое, што партызанская барацьба ў Беларусі прыняла ўсенародны размах. Усё больш з'яўлялася ў Маскве герояў-падпольшчыкаў і адважных партызан з-за лініі фронту, якія расказвалі пра выключныя подзвігі нашых слаўных людзей. Мы гэтым ганарыліся. Але ў тыя дні цяжкі ўдар абрушыўся на нас: раптоўная смерць нашага дарагога Янкі Купалы. Мы пахавалі яго, агорнутыя нечуваным болем, і вельмі шкадавалі, што на апошніх провадах не было нашага дарагога настаўніка, самага бліжэйшага сябра Купалы Якуба Коласа. Ён жыў вельмі далёка, ажно ў Ташкенце, ад-

куль у Маскву, у ваенны час, дабрацца было нялёгка.

Цяпер я ўжо добра не памятаю, у каго ўзнікла такая думка — ведаю толькі добра, што не без ініцыятывы таварыша Панамарэнкі,— паслаць мяне ў Ташкент да Якуба Коласа.

Мяне не трэба было ўгаворваць. На другі ж дзень, забяспечаны камандзіроўкай і належным салдацкім пайком, качаўся я ў вагоне па дарозе на Ташкент.

Ад Масквы да Ташкента ехаў я тады восьмера сутак. Ды гэта і зразумела, наш поезд пасажырскі ўвесь час па дарозе прапускаў эшалоны з войскам і грузамі, якія накіроўваліся на фронт. Шмат давялося пабачыць па дарозе, як цяжка жыў народ, асабліва жанчыны, якім давялося ўзваліць асноўны гаспадарчы груз на свае плечы, але радаваў агульны настрой, цвёрдая ўпэўненасць у бясспрэчнай перамозе над ворагам.

Памятаю адзін эпізод. Недзе, на невялічкай станцыі, сустрэліся два эшалоны. Адзін з раненымі, які накіроўваўся ў тыл, а другі з маладымі ўзбекамі, што ехалі на перадавыя лініі фронту.

— Не гаруй, таварышы,— крычалі маладыя бязвусыя хлопцы,— мы дапаможам!.. Пакуль будзеце папраўляцца, мы пакалечым добра гітлераўцаў...

— Малайцы, хлопцы!.. Так трымаць!..— гукаў нехта з эшалона параненых.— І мы хутка вернемся, а разам ударым, дык ударым!..— падтрымліваў яго другі.

І ніводнага слова панікі, нявер'я не чуў я за ўсю дарогу да Ташкента.

У Ташкенце на вакзале сустрэў мяне Данік — сын Коласа — Даніла Канстанцінавіч, і неўзабаве я апынуўся ў абдымках дзядзькі Якуба, любага і дарагога ўсім нам. Памятаю, што і ў яго і ў мяне заблішчалі на вачах слёзы.

Праз момант дарагая Мар'я Дзмітраўна, жонка народнага паэта, найбліжэйшая сяброўка дзядзькі Якуба, накрыла стол. Гэта было нялёгка зрабіць у той цяжкі час, але, відаць, былі пастаўлены некаторыя запасы, захаваныя на самы патрэбны выпадак, ды і я дастаў з торбы тое-сёе.

Некалькі гадзін расказваў я Канстанціну Міхайлавічу і пра астатнія дні Купалы, і пра тое, што адбывалася тады на прыгнечанай зямлі Беларусі. Колас цікавіўся ўсім і ўсімі. Не было ніводнага з нашых франтавых хлопцаў, пра каго б ён не ўспомніў. Выгляд яго быў схуднелы і даволі засмучаны, расказваў ён і пра свае вандраванні, часта

ўспамінаў Юрку, свайго сярэдняга сына, ад якога не было вестак з фронту. З болем гаварыў ён пра пакуты роднага народа. Але ў паэта не было роспачы.

— Зломіць, зломіць сабе карак гэты бандыт Гітлер, Петрусёк. Захлынецца ён у сваёй жа крыві,— перакanана сцвярджаў ён.— І мы з табой паходзім яшчэ і па Мінску і па балачанскіх сцежках па грыбкі...

Гаварыў Колас і аб ташкенцкім жыцці. Між іншым дзякаваў узбекам за нядрэнны па тым часе прыём.

Відаць, яму хацелася пазнаёміць мяне і з горадам, бо ён, калі я адмовіўся ад адпачынку, прапанаваў мне пайсці прагуляцца, за што я быў удзячны.

А Мар'я Дзмітраўна, я тады і не даведаўся чаму, настойліва прапанавала зняць мне вайсковае абмундзіраванне. Дала цывільнае, дзядзькі Якуба.

— Вам будзе спакойней,— казала яна. А яшчэ жартаўліва: — А то рука забаліць, каб вітацца з вайскоўцамі.

Я паслухмяна пераапрануўся, і праз некаторы час мы крочылі ўжо з дзядзькам Якубам па вуліцах Ташкента.

Я заўважыў, што Канстанцін Міхайлавіч добра ведаў горад і, мне здавалася, палюбіў яго. Ён паказваў цікавыя кварталы і асобныя будынкі, нават пахваляўся арыкамі. Яны, па-першае, дарылі прахалоду, а па-другое, відаць, нагадвалі яму маленькія рачулкі і ручаінкі на радзіме.

Якуб Колас не мог быць адарваным ад прыроды. І хоць Ташкент у той час быў не такі ўжо шумны, але ўсё ж горад ёсць горад, і яго цягнула на прастор. І хоць ён зусім адменны ад беларускага, Колас глыбока ўспрыняў яго асаблівую прыгажосць і, быццам баючыся, каб у мяне не склалася ўражання, што навокал Ташкента толькі стэп і пустэльня, расказваў пра прыгажосць узбекскіх цюльпанаў, якія вясною заліваюць рознакаляровымі фарбамі ўсё навокал, пра своеасаблівую гамонку арыкаў, пра дзіўныя горы і асабліва пра Чымган.

Звадзіў мяне дзядзька Якуб і ў Саюз пісьменнікаў, дзе пазнаёміў са сваімі новымі ўзбекскімі сябрамі. Яго там любоўна звалі аксакалам. А аксакал Колас ужо напісаў нямала і вершаў, прысвечаных гасціннай узбекскай зямлі і слаўнаму працавітаму народу.

Я адчуў, што ён усёй душойірвецца ў Маскву, бліжэй да роднай Беларусі, да тых падзей, якія вырашалі лёс барацьбы, але справы Акадэміі навук БССР, якая знаходзілася часова ў Ташкенце, затрымлівалі яго там. Аднак, хоць і так званы бежанец, ён не стаяў убаку ад жыцця

братняга Узбекістана. Колас не мог не зведаць і яго прыроды. І нават не палюбіць яе. З любоўю ён расказваў аб яе асаблівых прыгажосцях, ды і чытаў вершы, прысвечаныя цудоўным мясцінам братняга краю. Успамінаў сваіх добрых узбекскіх сяброў, з якімі сустракаўся ў іхніх хатах і паэзію якіх высока цаніў: Гафура Гуляма, Зульфію і Хаміда Алімджан.

Але больш за ўсё пісаў Колас у той час аб любай яго сэрцу Беларусі. І чытаў мне на памяць некаторыя строфы і з «Голасу зямлі» і з «Суда ў лесе».

Гадзін толькі цераз пяць мы вярнуліся да Мар'і Дзмітраўны. Яна нават крышку і ўпікнула нас за спазненне. Але не паспела гэта яшчэ мяне крануць, як узрушыла і ўсхвалявала другое: на канапе, на распасцёртым ручніку, ляжала чысценькае, вымытае і выпрасаванае маё вайсковае абмундзіраванне. Гэта яна зрабіла сама, пакуль мы гулялі. Другі раз у новым прыпірышчы дядзькі Якуба ў мяне набеглі слёзы. Я цалаваў яе рукі, як роднае маці.

Цудоўнай, выключна цудоўнай душы была жыццёвая сяброўка Якуба Коласа, Мар'я Дзмітраўна.

Так, у доме Якуба Коласа, у яго самога, у Мар'і Дзмітраўны, у яго сыноў заўсёды захоўваўся ўклад працавітай, дбайнай, добрасардэчнай сям'і, якая па-сапраўднаму сабрала ў сабе ўсё лепшае, што атрымала ад свайго народа: ягоны ўклад, звычкі, яго непамерную дабрыню. Мне ўжо многа год, а я ніяк не магу забыцца на ласку незабыўнай Мар'і Дзмітраўны і заўсёды пры выпадку расказваю нашым маладзейшым пра гэта ў павучанне.

Позна мы леглі ў тую ноч. І, відаць, спалі, усхваляваныя сустрэчай, нямоцна, бо вельмі рана ўзняліся. Хацелася яшчэ пагаварыць, але ж мне трэба было спяшацца на цягнік, які адыходзіў раніцой на Алма-Ату. Я адчуваў, што дзядзька Якуб вельмі неахвотна расстаецца са мной і сам з вялікаю ахвотаю паехаў бы ў Маскву, бліжэй да роднае зямлі, якую яму так хацелася пабачыць. І ён пераконана гаварыў на развітанне:

— Перадай падзяку таварышу Панамарэнку і нашаму ўраду за ўвагу да мяне, а ўсім хлопцам (ён меў на ўвазе пісьменнікаў, якія былі ў Маскве), што я адразу ж прыеду, як толькі пачую першы кліч.

Я ехаў у казахскую сталіцу ў чаканні сустрэчы з маім маленькім Юрам і з Лёляю, а ўсю дарогу не выходзілі з галавы і дзядзька Якуб, і Мар'я Дзмітраўна, і Данік, і Міхасёк, уся іхняя такая любая і родная сямейка.

А праз некаторы час Якуб Колас быў зноў разам з намі. Па-ранейшаму ён жыў у сваякоў у Клязьме. І як заўсёды вельмі шмат працаваў. Друкаваўся ў газетах, выступаў па радыё, прымаў удзел у розных канферэнцыях. І вельмі радаваўся таму, што ягоны голас даходзіць да народа. Пра гэта яму гаварылі партызаны і партызанкі, якія з'яўляліся з рознымі заданнямі ў Беларускі штаб партызанскага руху альбо на лячэнне пасля ранення.

Вельмі яго ўсхвалявала сустрэча з героем ягонае аповесці — дзедам Талашом, якога на самалёце прывезлі з глыбокага Палесся, з партызанскае зоны. Я быў пры тым, як яны сустрэліся. Гэта было ў невялічкім нумары гасцініцы «Масква», куды тады пасялілі Талаша. Яны абняліся і пацалаваліся, як родныя, і я заўважыў, што дзядзька Якуб з гонарам аглядае яшчэ даволі моцную, каржакаватую постаць дзеда. Колас нават на жарт сказаў дзеду:

— Ану, давай паспрабуем, хто каго перацягне!..— І ён зачапіў паказальным пальцам за такі ж палец Талаша.— О-го!.. Дык ты, дзядок, яшчэ дужэйшы за мяне!.. — засмяяўся Колас, калі заўважыў, што той не паддаецца.

А дзед Талаш хоць і стогадовы, але яшчэ хутка рэагаваў на жарт:

— А што ж ты думаў, слабакі з фрыцамі б'юцца? Вось толькі нешта пра мяне ты мала стаў пісаць.— Дзеду і сапраўды ўпадабалася, што дзякуючы Коласу ён стаў такім вядомым; а славы яму, відаць, яшчэ хацелася...

— Ну, пачакай, пачакай, напішу яшчэ,— заспакойваў яго Колас.— А ты вось лепш раскажы, як ты жыў там без нас і з фрыцамі змагаўся?.. — звяртаўся ён да дзеда, бо і сапраўды яго вельмі цікавіла баявая дзейнасць партызанаў у тыле ворага.

І дзед Талаш расказваў па-старэчаму, па-просту, па-вясковаму, нават з непазбежнымі ў час расказу моцнымі слоўцамі, і Якуб Колас з хваляваннем слухаў і тое-сёе запісваў. А Талаш з грозных, суровых тонаў, калі расказваў пра бойкі, успамінаючы пакуты народа, так расчульваўся, што ў яго набягалі слёзы.

— Дзеткі... мае дзеткі, як вы там жывяце... — гаварыў ён, выціраючы рукавом сарочкі вочы.

— А колькі ж гадоў тваім дзеткам? — спачувальна, але з пэўнай цікаўнасцю запытаўся Колас.

— Ды аднаму восемдзесят, а другому трошкі менш,— усё яшчэ не супакойваючыся, працягваў Талаш.

Калі мы развіталіся з Талашом, Якуб Колас у калідоры мне сказаў:

— Вось бачыш, Пятрусь, для бацькі дзеткі любога ўзросту — дзеткі... А мой жа Юрка, такі малады, і не пажыў яшчэ... — і ён прыкметна спахмурнеў.

У Маскве ў гэты час яшчэ адна найважнейшая падзея адбылася ў жыцці народнага паэта. Ён быў прыняты ў Камуністычную партыю Савецкага Саюза.

Памятаю, аднойчы ў час наведвання майго кутка (а жыў я тады з сям'ёю ў гасцініцы «Еўропа» на Нягліннай вуліцы), Якуб Колас прыйшоў асабліва прыўзняты. Пагаварыўшы аб падзеях на франтах і аб тым, што чуваць з родных мясцін, ён запытаў мяне так, што не выклікала ніякога сумнення ў яго рашэнні:

— Пятрусь, ты дасі мне рэкамендацыю ў партыю? — І, відаць, каб гэта не выклікала розных разваг, тут жа дадаў: — Мне ўжо Іван Фролавіч Клімаў рэкамендацыю даў.

Я не пасмеў перапытваць яго, хоць некаторыя думкі і ўзнікалі, яму ж ужо за шэсцьдзесят... Але тое, што дзядзька Якуб рашыў стаць членам ленінскай партыі ў такі суровы час, напаўняла мяне гонарам за яго рашэнне. Я заўсёды верыў у высакародную душу паэта, у тое, што жыццё народа — яму даражэй за ўсё, але рашэнне стаць у самыя першыя шэрагі барацьбітоў за перамогу над фашызмам у такі грозны час так усхвалявала мяне, што я адразу ўзяўся за ручку. Якуб Колас падзякаваў, ды параіў:

— Ты не спяшайся, напішы спакойна і падрабязна, што пра мяне думаеш, а я зайду да цябе заўтра...

Мы расцалаваліся на развітанне. І хоць прыём Якуба Коласа ў члены партыі адбыўся праз некаторы час, неабходны для афармлення, ён ужо тады, калі клапаціўся пра рэкамендацыі, стаў для мяне членам вялікай партыі Леніна. Гэта ў пэўнай ступені нагадвала мне просьбы франтавікоў, якія ішлі ў рашучую атаку супраць ворага: — Лічыце мяне камуністам!

У канцы 1943 года, пасля таго калі была вызвалена першая часцінка нашай гаротнай, але гераічнай беларускай зямлі з горадам Гомелем, мне давялося бачыць яго пасля прыезду з Навабеліцы ў Маскву. Як ён радаваўся, як падрабязна распытваў пра ўсё. Ён, здавалася, памужнеў і нават памаладзеў.

— Хутка будзем, хутка будзем, хлопчыкі, ў Мінску,—

гаварыў ён мне з Глебкам, калі мы зноў збіраліся ў дарогу на родную зямлю.

І гэтая ўпэўненасць здзейснілася. Мы з вялікай радасцю пабачылі вызвалены Мінск. Неўзабаве прыехаў і Якуб Колас, і пачалося для яго новае жыццё на вызваленай зямлі, пра якую ён думаў усе гады ростані з ёю, і дні і ночы.

Фашысцкія зграі былі выбіты з беларускай зямлі. Савецкая армія паспяхова гнала іх полчышчы далей на Захад. А на беларускай зямлі рабілася надзвычайнае. І вялікае свята і вялікая напружаная праца. І свята вызвалення і праца па адбудове з руін гарадоў і сёл. Увесь народ працаваў. Не было абыякавых. І Якуб Колас быў у першых радах будаўнікоў. Яго можна было бачыць усюды: і на вуліцах і плошчах сталіцы, дзе разбіраліся руіны і ўзводзіліся новыя дамы, і каля зямлянак у далёкіх вёсках, у якіх тады жыло шмат нашых людзей, і ў былым Азарыцкім лагеры смерці, і на працэсе, дзе судзіліся акупанты-забойцы. І пісаў ён многа. Артыкулы і вершы Коласа з'яўляліся часта амаль ва ўсіх газетах і часопісах на Беларусі. Ды і ў саюзным друку яго імя заўсёды было на відным месцы.

А сам ён жыў вельмі проста і сціпла. Побліз Акадэміі навук БССР, дзе ён па-ранейшаму выконваў абавязкі віцэ-прэзідэнта, ён пасяліўся ў невялічкім, фактычна не прыстасаваным для халадоў, фінскім дамку. Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка прапанаваў яму пабудаваць больш-менш прыстойны асабнячок, але, падзякаваўшы, Якуб Колас адмовіўся:

— Не магу я, Панцеляймон Кандратавіч, прыняць добрую ласку нашага ўрада, пакуль шмат нашых людзей жыве яшчэ ў зямлянках.

І жыў Якуб Колас ў цясноце і ў пэўных нястачах ваеннага часу, але ніхто не чуў, каб ён калі-небудзь скардзіўся на гэта.

І працаваў, працаваў... Ды ўсё ж перанесенае ліхалецце давала сябе знаць. І ён прыхворваў. Асабліва падупаў, калі напаткала яго найцяжэйшае гора: памерла яго самы блізкі і родны спадарожнік — Мар'я Дзмітраўна. Яго, як мне памятаецца ўжо, ніколі не пакідала горыч гэтае непазбыўнае страты. Ён перажываў боль і будаваў помнік свайму найбліжэйшаму, сардэчнаму сябру. І па-сялянску, за агароджай, дзе пахавана была Мар'я Дзмітраўна, пакінуў і сабе месца.

Але на свой боль ён скардзіўся самым блізкім да яго людзям, а сам увесь час працаваў так, што было б не пад сілу нават некалькім. А хвароба ўсё часцей давала сябе знаць. Яго час ад часу можна было наведаць у невялічкім пакойчыку ў рэспубліканскай лечкамісіі-бальніцы, дзе ён скардзіўся то на хрыпы, то на рою. Мне даводзілася наведваць яго, і што я заўважыў: і свае хваробы ён пераносіў мужна, стойка, нават жартуючы часамі. Нямала ён напісаў эпіграм з гэтае прычыны, прысвечаных і свайму любаму доктару Сяргею Восіпавічу Ліяранцэвічу і сёстрам, якія наглядалі за ім.

І Колас выходзіў з бальніцы і зноў браўся за сваю непамерную працу. А да ўсяго яшчэ прыбавіліся дэпутацкія справы. Народ выбраў яго сваім пасланцом у Вярхоўны Савет СССР. Пасыпаліся пісьмы і пісьмы. З рознымі просьбамі.

Вось у гэты час яму шмат дапамог Максім Лужанін. Дарэчы, ён сам пра гэта добра напісаў у сваёй кнізе пра Коласа.

Ды між напружанае працы дзядзька Якуб знаходзіў у летнія месяцы часіны і для адпачынку. Хоць, па праўдзе кажучы, суцэльным адпачынкам гэтага назваць было нельга. Бо не было ў яго дня, каб чаго-небудзь не зрабіў, каб не напісаў радка верша ці старонкі прозы, каб не адказаў на пісьмо ці не звярнуўся да якое ўстановы з просьбай дапамагчы чалавеку.

Ды ўсё ж мы бачылі яго і з кошыкам з грыбамі. Пасля вайны пісьменнікі асталяваліся ў Каралішчавічах. Наш урад даў дзеля гэтага даволі ўтульны па тым часе двухпавярховы драўляны дом. Так з'явіўся ў нас свой дом адпачынку. У той час цяжка было яшчэ мець каму-небудзь асобную дачу, і мы ўсе сяліліся там. Прыязджаў улетку на 2—3 месяцы туды і Якуб Колас. Ён сяліўся звычайна ў невялічкім, асобным пакойчыку на першым паверсе, адкуль быў адразу выхад у лес. Ён нікому не перашкаджаў, і яму ніхто таксама. А для дзядзькі Якуба гэта было вельмі важна. У яго быў свой расклад працы. Ён уставаў тады, калі ўсе яшчэ спалі, а як пачыналі ўздымацца, дык часта маглі пабачыць яго, калі ён варочаўся ўжо з паходу з поўным кошыкам грыбоў.

Усе, хто жылі ў Каралішчавічах, стараліся не дакучаць Коласу, бо ведалі, што шмат ён працуе, але былі вельмі рады, калі ён у часіны адпачынку далучаўся да якое-небудзь групы і прымаў удзел у гутарках.

У тыя гады было заведзена, што вечарамі запальваўся вялікі касцёр. Галоўным аматарам гэтага быў Міхась Лынькоў. Пад яго ж кіраўніцтвам штодня зарыхтоўваліся смольныя карчы — надзвычайны матэрыял для паліва. А ў той жа час расчышчаўся ад хлуду і лясок, які абкружаў пісьменніцкі дом. Якуб Колас звычайна быў сталым удзельнікам тых вечаровых бясед. Ах, колькі цікавых прыгод, жартаў, прыказак са свайго багатага на веды жыцця расказваў ён прысутным. Ды і шмат павучальнымі яны былі.

А за прыродай Колас наглядаў нязменна. Амаль кожную раніцу, калі сустракаўся са мной, пытаўся, як і некалі:

— Ну, што твой баран паказвае?..

І асабліва калі было засушліва, быццам спадзяваўся пры гэтым, што, можа, мой барометр паказвае на штонебудзь лепшае.

А ў Мінску каля свайго невялічкага дамка ён завёў невялічкі, але цудоўны садок. У ім былі сабраны найлепшыя гатункі дрэў: яблынь, груш, сліў, вішань, розных кустоў. Тут ужо ўсё рабілася па ўсіх навейшых дасягненнях навукі. Нездарма ён як віцэ-прэзідэнт вельмі сябраваў з вучонымі-біёлагамі. А садок свой добра даглядаў і бярог. Нават калі наспела неабходнасць пабудовы новага дома, ён не вельмі разгортваўся ўшыр, каб не прымусіць высякаць чаго-небудзь у садзе.

Любіў Колас пахваліцца тым, што выгадаваў у садзе, і пачаставаць, ды падзяліцца і сваімі вопытамі. Асабліва тым, што, па яго задуме, мела важнае значэнне для ўсяе народнае гаспадаркі. Так было з невялічкай дзялянaчкай у садзе, на якой ён даследаваў магчымасць адначасовай сяўбы ячменю і жыта. Весткі пра гэта ён пачэрпнуў з хронікі Гваныны, што такі спосаб ужываўся ў Беларусі яшчэ ў канцы XVI стагоддзя. У 1952 годзе ён пасеяў вясной разам жыта з ячменем. І пачаў сваё назіранне. Ячмень хутка пайшоў у рост і засланіў пакуль рунь жыта. А калі ячмень зжалі, дык жыта хутка пайшло ў рост, і восенню яго давялося скасіць.

А вясной 1953-га, калі жыта прабаранавалі, яно добра вырасла, адкрасавала і налілося. Колас хваліўся, паказваючы ўраджай, што кожнае зерне дало да 20—25 сцяблін на 160—170 сантыметраў вышыні і што з дзялянкі ў 40 квадратных метраў ён сабраў 8 кілаграмаў жыта.

І гэта не было забавай для гаспадара, улюбёнага ў род-

ную зямлю. Ён думаў шырока. Яму здавалася, што выкарыстанне такога метаду дасць значны прыбытак нашым калгасам.

Пра рост сельскай гаспадаркі, пра дабрабыт калгаснікаў ён дбаў заўсёды. Па сваёй працы ён не быў непасрэдна звязаны з тым, як павысіць ураджайнасць нашай зямлі, але імкнуўся, як толькі быў перакананы ў чымсьці вельмі важным, каб давесці свае довады да шырокага выкарыстання. Памятаю, як на XXII з'ездзе КПБ ён выступіў з прамовай, у якой вельмі пераканальна давёў аб неабходнасці ачышчэння нашай зямлі ад камення і гаспадарчага выкарыстання яго на будаўніцтве.

— Пакуль нашы палі не будуць ачышчаны ад камення, мы не будзем мець падставы называць іх культурнымі палямі,— гаварыў ён,— а камень,— сцвярджаў,— даскалалы матэрыял для збудавання скацінных двароў і розных памяшканняў для жывёлы і складаў для сельскагаспадарчых патрэб. А будынкі, узведзеныя з камення, вечныя, трывалыя і не паддаюцца пажарам.

Якуб Колас гаварыў пра гэта на XXII з'ездзе КПБ, а праз некалькі год мы з вялікай радасцю наглядалі, якімі прыгожымі і ўрадлівымі сталі ачышчаныя ад камення докшыцкія палі.

Хапала ў Якуба Коласа працы дома. Але ён ахвотна выязджаў, каб даведацца, што робіцца па-за межамі Мінска, ды і рэспублікі. Не адмаўляўся паехаць на літаратурныя сустрэчы, калі было трэба. Памятаецца паездка ў Ленінград. Яна адбылася хутка пасля вайны. Ён вельмі любіў і паважаў Аляксандра Пракоф'ева і з прыемнасцю прыняў яго запрашэнне. У той час ленінградцы на чале з Сашам Пракоф'евым (так яго любоўна звалі ўсе) стварылі першую анталогію беларускай паэзіі ў 2-х тамах і наогул шмат перакладалі беларусаў. А яшчэ падабаўся Якубу Коласу Пракоф'еў і як выдатны паэт, і як цудоўны чалавек. Колас неаднойчы гаварыў:

— Калі хочаце пазнаць сапраўдную душу рускага мужыка, прыгледзьцеся да Пракоф'ева. Ён і ў працы і па сваёй душы шырокі, як Расія...

Паездка ў Ленінград на чале з Якубам Коласам зрабіла на ўсіх нас незвычайнае ўражанне. Мы ўсе бязмежна любім горад Леніна, але тое, што перажыў ён як герой у гады Вялікай Айчыннай вайны, і тое, што перажыла наша шматпакутная Беларусь, радніла нас яшчэ больш.

А ленінградцы зрабілі ўсё, каб паказаць душу свайго

любага горада. Мы хадзілі па яго праспектах, паглядаючы, як мужна залечваў ён раны, выступалі на заводах, схілялі свае галовы на Піскароўскім могільніку, дзе ляжалі незлічоныя ахвяры вайны, і сустракаліся з літаратарамі, абмяркоўвалі агульныя справы.

Часта можна было заўважыць, як, ходзячы па праспектах цудоўнага горада, Якуб Колас быў вельмі задумным, як бы ўваходзячы ў сябе. Аднойчы я яго спытаў:

— Дзядзька Якуб! Што вы такі хмуры?.. Можа, дрэнна адчуваеце сябе?..

— Не, Петрусёк!.. Не ў тым справа... Я вось хаджу і думаю, што тут кожная мясцінка гісторыя... Як жа тут не задумацца... Вось, каб хацеў пералічыць, што бачылі гэтыя камяніцы на Неўскім, не пералічыш...

А ленінградцы зрабілі так, што самае важнейшае з гісторыі горада паказалі нам вельмі ўважліва. Праўда, мы стамляліся, бо ім хацелася паказаць як найбольш, а нам пабачыць, але ніхто на стому не скардзіўся. Ды і адпачынак у такіх гасцінных гаспадароў, як Саша Пракоф'еў і яго найлепшая сяброўка Анастасія Васільеўна, здымаў з нас стому. Былі і жарты і вясёлыя спевы. Не абыходзілася, канешне, і без чаркі. Аднойчы Якуб Колас жартаўліва сказаў гаспадару:

— А ці не досыць, Сашачка, чарак?.. Мы ўжо, здаецца, палову ісакіеўскага купала выпілі.

Калі цяпер падумаеш, можа, і сапраўды тады крыху, як кажуць, перабіралі, але гутаркі былі такімі сардэчнымі, такімі шчырымі, а нашы душы ў адзінае злітымі, што, здавалася, без сяброўскага тосту абысціся было цяжка.

Але, як сабе ні было, ехалі мы з Ленінграда ўсе надзвычайна расчуленыя ленінградскімі сяброўскімі сустрэчамі, тым, што пазналі і пабачылі, адчуваннем вялікае еднасці нас усіх, савецкіх людзей. Мы жылі Ленінградам так, як жылі ленінградцы нашай Беларуссю.

А дома Якуб Колас па-ранейшаму не меў ні дня адпачынку. Так было і ўсе яго апошнія гады. Я цяпер думаю, што, можа, і мы вінаваты, што часамі не стрымлівалі яго, каб ён адпачыў, але гэта было немагчыма. Без працы Колас не мог жыць. І, бясспрэчна, часта быў перагружаны.

І гэта давала сябе знаць. Амаль некалькі разоў на год ён клаўся ў бальніцу, каб крыху падлячыцца. А яшчэ працінаў яго заўсёды няўцешны сум па Мар'і Дзмітраўне. Без яе яму ўжо і не вельмі хацелася ад'язджаць куды-небудзь у лес на цэлае лета. Ды і хатні куток яго, тады яшчэ на

ўскрайку горада, быў увесь пад соснамі. Але ўсё ж родныя палявыя прасторы непазбежна цягнулі Коласа. І ён нават увёў выезды за горад, хоць на гадзіну, у абавязковы свой распарадак дня. Звычайна выязджаў за гадзіны дзве перад абедам па Маскоўскай шашы ў лясок. Там прагульваўся, сачыў за зменамі неба, робячы свае вывады пра надвор'е, і варочаўся дахаты.

А назаўтра — зноў праца. На другім паверсе, вокнамі ў сад, ён займаў два невялічкіх пакойчыкі, у адным з іх ён працаваў. Пакойчыкі вельмі сціплыя, Колас не любіў празмернае раскошы. Такая сціпласць хатняй абстаноўкі, відаць, спрыяла яго творчаму настрою.

На другім жа паверсе знаходзіўся ўжо большы пакой, у якім гаспадар любіў сустрэцца з гасцямі. Я ўспамінаю апошнюю сустрэчу, і боль напаўняе маю душу. Хіба я мог падумаць тады, што яна будзе астатняй з любым дзядзькам Якубам. Не памятаю, з якое прычыны, а былі тады ў яго першы сакратар ЦК КПБ Мікалай Сямёнавіч Патоліčаў, Старшыня Савета Міністраў БССР Кірыл Трафімавіч Мазураў, пісьменнікі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка, Максім Лужанін.

Была вельмі шчырая і прыязная размова. І пра гаспадарку рэспублікі і пра літаратараў. Нам, маладзейшым, было вельмі прыемна адчуваць, з якой любоўю і павагаю ставяцца кіраўнікі рэспублікі да нашага патрыярха. Мы ганарыліся тым, што па некаторых пытаннях, што хвалявалі народ, яны раіліся з ім.

А праз некалькі дзён я з Аленай Міхайлаўнай і Юркам выехалі ў падарож на параходзе па маршруце Масква — Астрахань. Паездка па шырокай Волзе падабалася нам, прыносячы шмат новага. Я з вялікай любоўю наглядаў за бяскрайнімі волжскімі краявідамі, захапляўся імі і ў той жа час вяртаўся думкамі да роднай Беларусі, і на памяць заўсёды прыходзілі неўміручыя словы Якуба Коласа: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..»

І я ўспамінаў дарагога нашаму сэрцу дзядзьку Якуба, прыгадваючы, што недзе ён сядзіць за сваім сціплым пісьмовым сталом і з-пад яго рукі кладуцца на паперу новыя і новыя словы, якія хутка будуць хваляваць мільёны людскіх сэрцаў.

Так яно і было, але, на жаль, у апошні раз. Ён і памёр, седзячы за рабочым сталом, не здолеўшы дапісаць пачатага...

А я дазнаўся пра гэта з паведамлення радыё, пад'яз-

джаючы да Валгаграда. Вестка аб смерці найлюбімага паэта і чалавека ашаламіла мяне. Мне некалі было разважаць, што рабіць, сэрца рвалася хутчэй, хутчэй туды, дзе я ўяўляў, як ён ляжыць, такі спрацаваны, цяпер нерухомы і маўклівы навекі. Праз некалькі гадзін, прыплыўшы ў Валгаград, я ўжо быў у аэрапорце, а адтуль на першым самалёце ў Маскву і далей другім самалётам на Мінск. Нялёгка было ў той час дабірацца хутка да Мінска. Я і не спаў і не адпачываў, адна мяне вяла думка: хутчэй да яго!..

І вось я кружу ў самалёце над Мінскам. З заміраннем сэрца гляджу на дол. І бачу, як з Палаца культуры прафсаюзаў выносяць труну, у ёй такі родны і непаўторны... Праз гадзіну я ўжо ішоў, апусціўшы галаву, разам з усімі ўслед за труною. А праз некаторы час мы апусцілі яго ў родную зямельку, як ён любіў гаварыць, побач з роднай і любай ягонаму сэрцу Мар'яй Дзмітраўнай...

А я стаяў і думаў: як несправядліва жыццё. Гэта ж зусім нядаўна я быў у іх у Ташкенце, так яны рваліся дахаты. Здзейснілася жаданне. Вярнуліся на родную зямлю. Ім бы яшчэ жыць і жыць, працаваць і працаваць, дорачы шчасце людзям.

Але, на жаль, ёсць для ўсіх нас такое непазбежнае і няўмольнае.

Вось ужо больш за дваццаць год, як Якуба Коласа не стала. А здаецца, я гаварыў з ім яшчэ ўчора.

А калі іду каля таго дамка, дзе я часта быў з сябрамі, ды і адзін, адкуль на ўсё жыццё запалі ў душу незабыўныя сустрэчы, з сэрца рвецца:

Не магу згадзіцца
І не разумею,
Як ты стаў, наш Колас,
Як ты стаў музеем?!

# А КОЛЬКІ ЁН МОГ ЯШЧЭ ЗРАБІЦЬ!

Гэта было, як толькі скончылася вайна. У 1945 годзе. Ляжаў разбураны Мінск. Усюды руіны і руіны. Але беларуская сталіца ўжо станавілася на ногі. Дзе-нідзе ўзнімалі галовы адноўленыя будынкі і, хоць зрэдку, нанова збудаваныя. Жыццё набірала сілу. Мацнела і наша пісьменніцкая арганізацыя. Шмат хто вяртаўся з фронту. Раслі новыя літаратурныя сілы. Распачалі працу літаратурныя выданні. Я прызначаны быў адказным рэдактарам часопіса «Полымя». Змяшчалася наша рэдакцыя ў адноўленым Доме прафсаюзаў на плошчы Волі ў адным пакойчыку. Штат быў малы — чатыры чалавекі. Ды і той незапоўнены. Не было ў нас працаўніка, хто б узначальваў прозу.

І вось аднойчы ў летні дзень у выцвілай ад вятроў і сонца франтавой гімнасцёрцы прыйшоў да нас дэмабілізаваны малады афіцэр. Стройны, падцягнуты, адчувалася, што малагаваркі. Аднак мэту свайго прыходу выклаў адразу:

— Хачу працаваць у вас. Можа, ёсць месца?..

— А чаму вы прыйшлі да нас? — запытаўся я.

— Люблю літаратуру!..

— А як вас завуць?..

— Іван Мележ,— паволі адказаў ён.

— А вы самі пісалі?..— зноў спытаў я.

— Як вам сказаць...— І змоўк. Так і недачулі мы тады яго адказу.

Мінуў некаторы час, і мы даведаліся, што Іван Паўлавіч Мележ франтавы журналіст, што да вайны спрабаваў свае сілы ў вершах, хоць не паспеў шырока яшчэ друкавацца. Дазналіся мы пасля, і то не ад яго, [redacted] ад другіх, што на фронце ён быў цяжка паранены.

Вось такім, некалькі маўклівым, які не любіў шмат гаварыць пра перажытае асабіста, мы ведалі яго і пасля.

А працуючы ў рэдакцыі, ён дбайна ставіўся да сваёй справы, хоць часта наглядалася, што быццам яму нечага не хапае. Хутка высветлілася, што Мележу проста не ха-

пае часу. Аднойчы ён папрасіў вызваліць яго ад пасады.

— Чаму?..— пацікавіўся я.

— Буду працаваць...

— Дык вы ж працуеце?..

— Узяўся пісаць...— нібы саромеючыся, прызнаўся ён.

— Ну, дык калі ласка, з поспехам!..

— Не хапае часу!.. А для таго, каб нешта зрабіць вартае, трэба мне яшчэ пажыць і на Палессі, ды і з'ездзіць туды-сюды...

— Дык мы вам дазволім часам адлучыцца...

— Не, не хачу падводзіць рэдакцыю...

Так тады Іван Мележ пайшоў з «Полымя». І сапраўды на творчую працу... На працу дапытлівую, усю ў пошуках, старанную...

А хутка на старонках друку пачалі з'яўляцца яго апавяданні, замалёўкі, артыкулы, а пасля аповесці і раманы... І па-сапраўднаму цікавыя, якія адкрылі яму шлях у вялікую літаратуру, а літаратуры далі новае таленавітае імя.

Іван Мележ рос год ад году. З кожным новым творам. І не спыняўся на дасягнутым. У пэўны час прыцягнуў шырокую ўвагу чытача яго раман «Мінскі напрамак», у які пісьменнік уклаў усе свае багатыя франтавыя назіранні і тое, што было творча сабрана. Асаблівую ж увагу і шырокае. усесаюзнае прызнанне атрымала ягонае шырокае мастацкае палатно — дылогія «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»,— прысвечанае роднаму Палессю. Ды не толькі прызнанне ўсесаюзнае, а і далёка па-за межамі нашай Радзімы. Нездарма яму была прысуджана самая высокая літаратурная ўзнагарода — Ленінская прэмія.

Здавалася б, што пісьменнік дасягнуў усяго жаданага, што можна б і адпачыць. Але не такі характар быў у гэтага знешне спакойнага, як бы нетаропкага чалавека.

І Мележ няспынна шукаў. Жыў новымі і новымі задумамі. Не адрываўся ні на момант ад жыцця. Шмат ездзіў. Збіраў матэрыялы. А найболей наглядаў за тым, як раслі і мяняліся людзі, як яны пад жыватворчым уплывам дзейснага жыцця самі рабілі цуды.

Памятаю нашу пісьменніцкую паездку ў Докшыцы. Дасягненні раёна ў той год захапілі шмат каго. Усіх здзіўляла, як докшыцкія хлебаробы на некалі дужа багатай на камяні, пясчанай глебе здолелі сабраць небывалы ўраджай. Многа было гаворкі пра першага сакратара райкома партыі Ульяну Крышталевіч. Нас было шмат. Мы аб'ехалі некалькі калгасаў і саўгасаў. Розныя былі думкі і мерка-

ванні. Мележ найбольш маўчаў, калі вялася групавая гаворка. Але я заўважыў, што ён часта адлучаўся і гутарыў то з трактарыстам, то з камбайнерам, з брыгадзірамі і аграномамі, а то і з тымі простымі калгаснікамі, якія працавалі непасрэдна на полі.

На схіле дня за бяседным застоллем выказваліся розныя меркаванні пра тое, што паспрыяла докшынцам. Многа было і слушнага. А Іван Паўлавіч, які доўга прыслугоўваўся да ўсяго, на гэты раз цвёрда запэўніў:

— А я вам скажу, уся справа ў людзях. Я нагледзеўся на докшыцкіх і бягомльскіх хлебаробаў, і яны мне нагадалі маіх палешукоў. Тут перамаглі каменне, а ў нас перамагаюць балоты. Пацікаўцеся, што ў нас за людзі!..

І ён давёў гэта сваім цудоўным раманам «Людзі на балоце».

Пісьменнік працаваў грунтоўна. Мне доўгі час давялося ўлетку жыць побач з ім у Ждановічах. У яго быў цвёрды расклад у працы, і ён трымаўся яго. Праўда, побач шчырэў яшчэ адзін наш нястомны і таленавіты працаўнік Іван Шамякін, працавітасць якога, відаць, падабалася і Мележу.

У вольныя хвіліны, калі я выходзіў пагуляць у лес, я часта сустракаў там Івана Паўлавіча. І мяне заўсёды здзіўляла адно: здавалася, ён не жыў ніякімі клопатамі апрача творчых. Толькі аб тым, што ўжо ім надрукавана і як да гэтага ставяцца людзі, а найбольш пра свае творчыя планы гаварыў ён. Вядома, прыгадваў і тое, што яму падабалася з навінак літаратуры. І вельмі нерваваў, калі нешта перашкаджала. А перашкаджала, ды і цяпер яшчэ перашкаджае, абыякавасць некаторых людзей.

Не адзін раз я сустракаў яго ў лесе разгневанага:

— Не магу... не даюць працаваць... Вось чуеце!..— І ў гэтыя часы бачыў я Мележа злосным.

А я чуў, як няўмольна грымелі радыёрупары ў Доме адпачынку «Беларусь» ці на спартыўнай базе «Спартак», хоць гэта было забаронена санінспекцыяй.

Я ўпэўнены, што на сумленні тых грубых людзей, якія не паважаюць іншых, не адзін ненапісаны твор Мележам. Дый тых, каму даводзіцца там жыць.

А крыху адпачыўшы, зноў браўся за працу.

У апошнія гады ён так увайшоў у творчую працу, што адпрасіўся нават з пасады сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Расказваў пра свае намеры. А намеры і планы ў яго былі надзвычай цікавыя і багатыя.

Усе мы былі ўпэўнены, што Іван Паўлавіч многа зрабіў, а яшчэ больш можа зрабіць. Тым больш што быў ён поўны творчага гарэння. Адно засмучала — пісьменнік часта наведваў бальніцу. Але пры сустрэчы, бачачы яго статнага і прыгожага, ды і не хворага на выгляд, думалася, што недамаганні пройдуць.

Аднак няўмольная хвароба ўдарыла жорстка і нечакана.

Неяк я накіраваўся ў лячэбніцу. Прыйшоўшы, сустрэў на двары паэта Браніслава Спрынчана. Той прагульваўся. Ён мне расказваў, што тут жа Іван Мележ.

— А як ён сябе адчувае?..— пацікавіўся я.

— Ды робяцца абследаванні... А сам Іван Паўлавіч трымаецца спакойна.

— Перадайце яму прывітанне! — папрасіў я.

А вечарам вестка як абухом па галаве: — Мележа няма!

— Як жа так?..— спытаўся я зноў Браніслава Спрынчана назаўтра.— Вы ж казалі, што як быццам нічога...

— Ды так яно і было. Развітаўшыся з вамі, я пабачыў яго на калідоры. Перадаў прывітанне. Ён падзякаваў. І здавалася, што нішто яму не пагражае. А праз некаторы час мы даведаліся, што ў палаце яму стала блага, і ўсё — раптоўна.

Так, вельмі рана адышоў выдатны майстра нашай прозы Іван Мележ. Выдатны грамадзянін і цудоўны чалавек. А колькі ён мог яшчэ зрабіць!..

Дзякуй жа сардэчнае і за тое, што стварыў ён дбайна і таленавіта!

# КАМЕНТАРЫІ

Сёмы том Збору твораў Петруся Броўкі складаюць апавяданні, аповесці і ўспаміны паэта. Усе творы падаюцца ў кожным раздзеле ў храналагічным парадку.

У том уключаны чатыры раннія апавяданні пісьменніка: «Сымонава гора» (1927), «Памылка» (1927), «Тры сасны» (1928), «Янка Кашэль» (1928). Усе яны пасля першых публікацый больш не перадрукоўваліся і, такім чынам, друкуюцца ўпершыню пасля 1927 і 1928 гг. Гэтыя малавядомыя чытачу творы дапамогуць больш канкрэтна ўявіць шлях развіцця Броўкі-празаіка.

У іх, яшчэ вучнёўскіх паводле творчага вырашэння задумы, тым не менш ужо праглядаюцца якасці, характэрныя для стылю будучай прозы П. Броўкі: пранікнёная паэтычнасць, лірызм, душэўная цеплыня.

За асноўны тэкст большасці твораў дадзенага тома прыняты тэкст шостага тома апошняга прыжыццёвага Збору твораў у 7-мі тамах (1978) як выдання, у якім з найбольшай паўнатой выявілася апошняя творчая воля аўтара. Творы, якія не ўваходзілі ў гэтае выданне, друкуюцца па апошніх прыжыццёвых публікацыях.

Паколькі крыніца асноўнага тэксту пераважнай большасці ўключаных у том твораў адна і тая ж, у каментарыях да кожнага твора яна не называецца. Выключэнні агавораны.

Тэксты апавяданняў, аповесцей і ўспамінаў пісьменніка, уключаныя ў том, упершыню зверany па ўсіх наяўных рукапісных і прыжыццёвых друкаваных крыніцах. У выніку тэксталагічнай зверкі выпраўлены памылкі і недакладнасці, якія мелі месца ў ранейшых публікацыях асобных твораў («Каландры», «Законы сэрца», «Донька-Даніэль» і інш.), удакладнены час напісання некаторых твораў.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца:

I. Рукапісны і машынапісны матэрыялы [1]:

а) рукапіс аповесці «Вечная пляма» (88 с.);

б) машынапісы апавяданняў «Перапыненая вечарынка», «Анэтка», «Кантрабандысты», «Спакуса», «Быў такі...», «Хрысця», «Паштавічка».

У тэкстах машынапісу адсутнічаюць аўтарскія праўкі, датаванне твораў у машынапісах і прыжыццёвых выданнях супадае.

II. Перыядычныя выданні 1927, 1928, 1931, 1968—1978 гг.: газеты «Чырвоная Полаччына», «Літ. і мастацтва»; часопісы «Працаўнік асветы», «Полымя», «Маладосць».

III. Прыжыццёвыя выданні асобных зборнікаў пісьменніка: Каландры: Аповесць.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1931; Каландры: Аповесць.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1933; Разам з камісарам: Апа-

---

[1] Месца знаходжання рукапісных і машынапісных матэрыялаў у каментарыях не называецца, паколькі ўсе яны захоўваюцца ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.

вяданні. Аповесць.— Мн., Маст. літ., 1974; Збор твораў: У 4 т.— Мн.: Беларусь, 1966.— Т. 4; Збор твораў: У 7 т.— Мн.: Маст. літ., 1978.— Т. 6.

Аналіз правак, якія ўносіліся аўтарам пры перапрацоўцы твораў ад выдання да выдання, паказвае, што яны носяць галоўным чынам моўна-стылёвы характар. Пісьменнік шукаў разнастайныя, больш змястоўныя вобразна-выяўленчыя сродкі. Назіраюцца таксама выпадкі перастановак асобных месцаў у тэксце, нязначнага скарачэння паасобных сказаў. Дапрацоўваючы празаічныя творы, П. Броўка настойліва вызваляўся ад русізмаў і запазычаных моўных канструкцый.

Народны паэт П. Броўка пачаў пісаць мастацкую прозу ў найбольш сталы перыяд сваёй творчасці, хаця шлях да празаічных твораў пачаўся з тых ранніх апавяданняў, якія пісьменнік друкаваў на старонках газеты «Чырвоная Полаччына» ў 1927 і 1928 гг.

Большасць літаратуразнаўцаў лічаць, што проза П. Броўкі з'яўляецца своеасаблівай, «паэтычнай» прозай. Звяртаючыся да прозы, паэт па сутнасці застаўся тым жа лірыкам, захаваў сваё спецыфічна-паэтычнае ўспрыняцце рэчаіснасці, сардэчнасць, улюбёнасць у прыгажосць жыцця.

Рамантычнай і тонкай паэтычнасцю авеяны многія вобразы апавяданняў і аповесцей пісьменніка, у творах паэтызуецца маладосць, шчасце, каханне. Гэта датычыцца ў першую чаргу апавяданняў «Пачатак», «Разам з камісарам», «Анэтка», «Зайздрасць і заспакаенне», «Паштавічка», аповесці «Донька-Даніэль». Але можна пагадзіцца з А. Адамовічам, які піша, што «стаўшы празаікам, Броўка значна больш упэўнена адчувае сябе там, дзе ён можа прама выкарыстаць свой вопыт паэта (пейзаж, лірычныя адступленні, паэзія дзявочага кахання і г. д.). Разам з тым адчуваецца, што аўтару не стае вопыту псіхалагічнай лепкі характараў: ён не столькі раскрывае чалавечыя адчуванні і думкі, колькі называе іх — часам вельмі паэтычна, эмацыянальна, але іменна называе» [1].

Па гэтай і па іншых прычынах шмат што ў прозе П. Броўкі сёння падаецца архаічным, спрошчаным, надуманым. Досыць схематычнай выглядае абмалёўка канфлікту, што выспявае на класавай глебе: паміж вясковымі камсамольцамі, селькорамі, актывістамі — і кулакамі, дыверсантамі, самагоншчыкамі... Прыкрай зададзенасцю ды прасталінейнасцю вызначаецца тая сюжэтная лінія аповесці «Каландры», у якой разгортваецца гісторыя «зладзейнай групы» дыверсантаў і шкоднікаў, што дзейнічалі на папяровай фабрыцы.

Больш сугучнымі нашаму часу выглядаюць тыя празаічныя рэчы П. Броўкі, у якіх пісьменнік раздумвае над неўміручымі чалавечымі каштоўнасцямі: дабратой, каханнем, пошукам справядлівасці. Асабліва цікавая ў гэтых адносінах аповесць «Донька-Даніэль». Яе герой надзелены даволі распаўсюджанай паміж беларусамі рысаю — няўрымслівасцю, з-за якой трапляе ў недарэчныя, часам анекдатычныя сітуацыі. Ды ў Донькавых прыгодах пры ўважлівым чытанні часам можна ўбачыць нешта глыбейшае, чым проста бесклапотны смех.

[1] Адамовіч А. Беларускі раман. Мн., 1961. С. 272.

Большасць празаічных твораў П. Броўкі носяць аўтабіяграфічны характар, грунтуюцца на рэальным жыццёвым матэрыяле. Многія апавяданні напісаны ад першай асобы, што надае дадатковую сілу пераканаўчасці і даверлівасці, адчуваецца прысутнасць абагуленага вобраза.

Апавяданні і аповесці П. Броўкі ў нечым паўтараюць і працягваюць у галоўнай думцы, галоўным пафасе яго папярэднія кнігі паэзіі, таму што паэт і ў мастацкай прозе ў першую чаргу застаецца лірыкам, чуйным да праяваў жыцця, да рухаў чалавечае душы.

## I

## АПАВЯДАННІ

*Пачатак* (с. 7)

Упершыню — Полымя, 1968, № 10; пад тэкстам: 1960 г.

Датуецца 1960 годам.

У аснову апавядання пакладзены сапраўдны біяграфічны факт. «У 1918 годзе, трынаццацігадовым хлапчуком, паступіў на работу ў Вяліка-Далецкі валасны ваенны камісарыят. Што я мог рабіць? Перапісваў паперы. І, трэба сказаць, аддаваўся гэтай справе з усім запалам. Бо ў кожнай з такіх папер гаварылася аб вялікім і новым, што прынесла Савецкая ўлада на вёску, аб тым, што кроўна цікавіла сялян, у тым ліку і мяне, сялянскага хлопца» [1].

Пры падрыхтоўцы першадрукаванага тэксту твора да выдання ў зб. «Разам з камісарам» (Мн., 1974) аўтар змяніў імя галоўнага персанажа (Сымон — Фёдар) і ўнёс нешматлікія моўнастылёвыя змены.

Ва ўспамінах пра Петруся Броўку Кандрат Крапіва зазначае: «Калі мы чытаем яго кнігу аўтабіяграфічных апавяданняў і аповесцей «Разам з камісарам», нам не цяжка ў вобразе Федзі Марцінёнка, якога камісар Будай за добры почырк прызначыў у ваенкамат перапісчыкам, пазнаць самога аўтара.

Але перапісванне папер было не самым галоўным у жыцці Федзі. Самае галоўнае было тое, што, пішучы пад дыктоўку Будая загады і пратаколы, юнак акунаўся ў самую гушчу жыцця, калі ад подыху рэвалюцыйнай буры ламаўся і крышыўся стары лад і нараджалася новае жыццё. Аўтар з дабратлівай усмешкай расказвае пра наіўныя Федзевы мары аб неадкладнай сусветнай рэвалюцыі, пра яго гарачнасць і заўзятасць у змаганні з варожымі элементамі, а між тым гэта была вялікая жыццёвая школа, як бы першы клас палітычнай вучобы на практыцы, якая мела важнае значэнне для фарміравання светапогляду будучага паэта» [2].

Дванаццаць аўтабіяграфічных апавяданняў і аповесць былі аб'яднаны пісьменнікам у кнізе «Разам з камісарам» (Мн., 1974): «Пачатак», «Разам з камісарам», «З драўляным сажнем», «Пера-

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 56.

[2] Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986. С. 5.

пыненая вечарынка», «Анэтка», «Кантрабандысты», «Чырвоны аловак», «Зайздрасць і заспакаенне», «Спакуса», «Быў такі...», «Хрысця», «Паштавічка», аповесць «Донька-Даніэль».

У зб. «Пишу о сердце человечьем...» (М., 1974) апавяданне «Пачатак» уваходзіла ў раздзел «Истоки», які складае 9 аўтабіяграфічных апавяданняў: «Начало», «Вместе с комиссаром», «С деревянной саженью», «Прерванная вечеринка», «Винчестер», «Анэтка», «Контрабандисты», «Красный карандаш», «Зависть и надежда». Гэтаму цыклу папярэднічае наступная прадмова аўтара: «Сегодняшней молодежи уже трудно представить себе то время — 20-е годы в белорусской деревне. На расстоянии более полувека это видится уже историей, чем-то неповторимым. Я написал о той поре целый цикл рассказов. Думаю, что они могут заинтересовать нынешнюю молодежь. Все пережитое нами, молодежью, комсомольцами двадцатых годов, может и взволновать да и принести известные познания.

Вот почему в раздел «Истоки» — о начале, формировании моих человеческих, идейных, писательских воззрений и интересов — включены рассказы — этот переосмысленный, дополненный воображением, но тем не менее строго исторический документ».

У 1978 г. выйшаў на экран тэлевізійны мастацкі фільм «Побач з камісарам», створаны па матывах аўтабіяграфічных апавяданняў П. Броўкі. Сцэнарый В. Ганчаровай. Пастаноўка А. Чакмянёва. Музыку да фільма напісаў беларускі кампазітар І. Лучанок. У гэтым жа годзе беларускае тэлебачанне паказала спектакль па кнізе П. Броўкі «Разам з камісарам». Аўтар сцэнарыя Р. Барадулін. Рэжысёр-пастаноўшчык У. Забела. Песні да спектакля напісаў І. Лучанок.

*Салька* — вышка, зробленая над амбарчыкам накшталт каланчы ў панскіх і шляхецкіх дамах, для вывескі вяндліны, сала і інш.

*Мыцельнік* — куток у хаце, дзе мыюцца, мыюць пасуду.

*Ахмістрыня* — жанчына, якая вядзе хатнюю гаспадарку ў багатым доме.

### *Хрысця* (с. 12)

Упершыню — Полымя, 1968, № 10 пад назвай «Зварот з пекла»; пад тэкстам: 1961 г.

Датуецца 1961 годам.

Рыхтуючы першадрукаваны тэкст да выдання ў зб. «Разам з камісарам» (Мн., 1974), аўтар унёс нешматлікія моўна-стылёвыя змены.

### *Паштавічка* (с. 17)

Упершыню — Полымя, 1968, № 10; пад тэкстам: 1967 г.

Датуецца 1967 годам.

Пры падрыхтоўцы першадрукаванага тэксту да выдання ў зб. «Разам з камісарам» (Мн., 1974) П. Броўка ўнёс нешматлікія моўна-стылёвыя праўкі і скарачэнні. Прывядзём некалькі прыкладаў праўкі: «цяжкая сумка» замяніў на «туга набітая сумка», «адпачынак Яся вельмі хутка праляцеў» выпраўлена на «водпуск Яся праляцеў вокамгненна», «прайшла зіма» — «перайшла зіма».

### *Быў такі...* (с. 23)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1968, 19 крас.

Датуецца 1968 годам.

*Трысцен* — прыбудова да хаты і пад. з трох сцен.

*Спакуса* (с. 33)

Упершыню — Полымя, 1973, № 1; пад тэкстам: снежань 1971 г. Нясвіж.

Датуецца: снежань 1971 года.

*Разам з камісарам* (с. 37)

Упершыню — Полымя, 1972, № 12.

Датуецца 1972 годам.

Назва апавядання ўзята для ўсяго зборніка, у якім пісьменнік аб'яднаў трынаццаць аўтабіяграфічных твораў (Мн., 1974). Спачатку П. Броўка меркаваў назваць гэты зборнік «Вяртанне ў юнацтва». Аб гэтым сведчыць яго ліст да журналіста Мікалая Абалкіна ў лістап. 1967 г.: «...апроч вершаў мне хацелася б да вялікага свята (50-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі.— С. З.) выдаць кнігу апавяданняў пад агульнай назвай «Вяртанне ў юнацтва». М. Абалкін тлумачыць змену назвы зборніка тым, што «...для наступальнай, энергічнай, мэтанакіраванай натуры такога дзейснага чалавека не ўласціва, відаць, тэма вяртання да таго, што даўным-даўно ўжо ім пройдзена. У вершах і прозе ён, зразумела ж, мог бы вярнуцца да вытокаў свайго жыцця, але вярнуцца да іх як да працягу так рана пачатага жыццёвага шляху... Усю сваю службу на зямлі, да самага апошняга свайго дня ён заўсёды быў побач з камісарам. Ужо не з рэальным Іванам Будаем, не. У яго паэтычным уяўленні разуменне «камісар» неадлучна зраднілася з разуменнем «Партыя»! Яго камісар — гэта сам гонар, само сумленне новага рэвалюцыйнага веку, жывое ўвасабленне ідэалаў, духоўных імкненняў нашага вялікага бальшавіцкага часу. Таму і сказаў паэт гэтай сваёй кнігай, з кім прайшоў ён увесь свой жыццёвы шлях...» [1].

*Абора* — тут — тонкая вяровачка, якой прывязваецца лапаць да нагі.

*З драўляным сажнем* (с. 45)

Упершыню — Полымя, 1972, № 12.

Датуецца 1972 годам.

Дзеянне апавядання «З драўляным сажнем» разгортваецца ў першы год Савецкай улады. Пісьменнік успамінаў пазней у сваёй аўтабіяграфіі аб тых падзеях, якімі навеяны быў змест яго апавядання: «Дванаццацігадовым сустрэў я Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю. Усім сэрцам адразу адчуў сапраўдную волю. Паноў, як віхурай, змяло з маёнткаў. Загуло, захвалявалася сяло. Памятаю, з якім уздымам выбіраліся першыя камбеды. З драўлянымі сажнямі хадзілі натоўпы сялян і парабкаў па панскіх палях. Дзялілі панскую зямлю» [2].

*Цвінтар* — царкоўны двор ці агароджанае месца пры царкве.

*Перапыненая вечарынка* (с. 50)

Упершыню — Полымя, 1972, № 12.

Датуецца 1972 годам.

*Вінчэстэр* (с. 54)

Упершыню — Полымя, 1972, № 12.

---

[1] Абалкін М. Разам з камісарам... // Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986. С. 222—223.

[2] Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1963. С. 56.

Датуецца 1972 годам.

*Вінчэстэр* — тып паляўнічага ружжа.

*Анэтка* (с. 58)

Упершыню — Полымя, 1972, № 12.

Датуецца 1972 годам.

*Юхтовыя — юхт* — спецыяльна выробленая і дубленая скура коней, кароў і інш.

*Вельмі зграбны кімаўскі значок... — КІМ* — Камуністычны інтэрнацыянал моладзі — міжнародная масавая арганізацыя працоўнай моладзі, якая існавала ў 1919—1943 гг. як секцыя Камінтэрна. Ідэя стварэння КІМа належыць У. І. Леніну.

*Кантрабандысты* (с. 64)

Упершыню — Полымя, 1974, № 4; пад тэкстам: верасень 1973 г.

Датуецца: верасень 1973 года.

*Фацэцыя* — тут — смехата.

*«Чырвоны аловак»* (с. 73)

Упершыню — Полымя, 1974, № 4; пад тэкстам: верасень 1973 г.

Датуецца: верасень 1973 года.

У 1922 г. П. Броўка становіцца сельскім карэспандэнтам газеты Барысаўскага павятовага камітэта партыі «Бядняк», а ў 1924 г. 19-гадовага юнака выбіраюць старшынёй Маладолецкага сельсавета.

У апавяданні «Чырвоны аловак» пісьменнік і расказаў аб тым, што з'явілася штуршком для яго селькораўскай дзейнасці, і аб выбарах старшынёй сельскага савета.

*Зайздрасць і заспакаенне* (с. 82)

Упершыню — Полымя, 1974, № 4; пад тэкстам: верасень 1973 г.

Датуецца: верасень 1973 года.

Пад загалоўкам «Зависть и надежда» надрукаваны ў часоп. «Нёман», № 7, 1974 г.

*З успамінаў аб П. Броўку М. Абалкіна:* «А вось у прозе, у апавяданні «Зайздрасць і заспакаенне», сустракаеш у яго (у П. Броўкі.— *С. З.*) іншае прызнанне: «Я не мог паехаць не развітаўшыся з ёю. І я прыйшоў на запаветны масток каля млына. Шумела шлюзавая белапенная вада, і плылі па ёй занесеныя ветрам, адцвіўшыя пялёсткі. Прыйшла і Тамара. Мы глядзелі на імклівую ваду і на пялёсткі, якія знікалі ў ёй. Тады я адчуў у сабе паэта...» Так сам Пятрусь Броўка (праўда, у кнізе ён назваў сябе іншым імем) сказаў, што абудзіўся ў ім паэт у тое самае шчаслівае імгненне юнацтва, калі каханне так уладна і так пяшчотна ўзварушыла яго хлапечае сэрца.

Гэта праўда, каханне нараджае паэта. І каханне натхняе паэзію.

Не ведаю, у якой меры гэта правільна ў дачыненні да ўсёй паэзіі, да ўсіх паэтаў. Але сам Пятрусь Броўка, трэба прызнаць, рашуча стаяў на гэтым» [1].

---

[1] Абалкін М. Разам з камісарам... // Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986. С. 207.

*Законы сэрца* (с. 93)

Упершыню — Полымя, 1977, № 10.

Датуецца: лістапад 1976 — студзень 1977 года.

Дата напісання апавядання, пазначаная аўтарам у апошнім прыжыццёвым выданні: лістапад 1976 — студзень 1977 г. Захоўваецца аўтограф апавядання (48 с.), напісаны сінім чарнілам на вялікіх лістах з блакнота. На старонках аўтографа шматлікія аўтарскія праўкі мастацка-моўнага характару, а пад тэкстам дата: лістапад — снежань 1976 г. Па нашых меркаваннях, гэты аўтограф уяўляе сабой найбольш ранні этап працы пісьменніка над апавяданнем.

Захаваўся таксама ліст паперы, на якім П. Броўка напісаў загалоўкі, якія меркаваў даць апавяданню: «Навеянае соснамі...», «Ласіны (ласёвы) кліч» ,«Трывожны кліч», «Прыгоды ў лесе», «Законы сэрца».

## Раннія апавяданні

*Сымонава гора* (с. 115)

Друкуецца па газ. «Чырвоная Полаччына», 1927, 21 мая, 22 чэрв., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

Першы празаічны друкаваны твор народнага паэта.

Пра асаблівасці першых празаічных твораў П. Броўкі, якія былі наогул уласцівы тагачаснай маладой беларускай прозе, вельмі слушна зазначае А. Адамовіч: «...як гэта ні дзіўна, але маладнякоўцы-празаікі, даволі каларытна малюючы старую вёску, яе тыпы, не стваралі канкрэтных і тыпізаваных характараў, якія б выяўлялі светаадчуванне маладога пакалення. Маладнякоўцы-празаікі першай палавіны 20-х гадоў не паглыбляліся ў псіхалогію свайго пакалення» [1].

*Бросня* — тут — плесня.

*Памылка* (с. 121)

Друкуецца па газ. «Чырвоная Полаччына», 1927, 14 верас., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

Апавяданне падпісана псеўданімам: Юрка Баравы.

*Тры сасны* (с. 128)

Друкуецца па газ. «Чырвоная Полаччына», 1928, 18 крас., дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

Апавяданне было надрукавана таксама і ў літаратурна-мастацкім дадатку-альманаху да газ. «Чырвоная Полаччына» «Зарніцы» за 1928 г., які выпусціла полацкая філія літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

*1920 год. На тым беразе палякі. У нас чырвоныя.*— Гаворка ў апавяданні ідзе аб барацьбе беларускага народа супраць буржуазна-памешчыцкай Польшчы ў гады грамадзянскай вайны, а менавіта ў час савецка-польскай вайны. Савецка-польская вайна вялася ў красавіку — кастрычніку 1920 года. Была яна выклікана

---

[1] Адамовіч А. Беларускі раман. Мн., 1961. С. 119.

агрэсіяй Польшчы, якую справакавалі і падтрымлівалі дзяржавы Антанты. На Беларусі лінія фронту праходзіла па р. Бярэзіна.

*Янка Кашэль* (с. 131)

Друкуецца па часоп. «Працаўнік асветы», 1928, 6 мая, дзе ўпершыню апублікавана.

Датуецца годам апублікавання.

Тэматыка ранніх празаічных твораў П. Броўкі, як і вершаваных, паводле прызнання самога пісьменніка, «гэта — радасць новага жыцця, радасць, якая напаўняла нашы грудзі, што дзякуючы Кастрычніку адкрылася дарога ў свет. Галоўным у нашых творах было жыццё камсамольскай моладзі» (Літ. і мастацтва, 1962, 13 лют.).

## II

## АПОВЕСЦІ

*Каландры* (с. 137)

Упершыню — Маладняк, 1931, № 2, 3, 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1931 годам.

Захоўваецца машынапіс аповесці з шматлікімі праўкамі моўна-стылёвага характару і датай пад тэкстам: 1931 г.

Праўкі, зробленыя ў машынапісе, амаль усе ўлічаны ў першадрукаваным тэксце. Урывак з аповесці «Каландры» — «Андрэй Ганушчанка» — змешчаны ў газ. «Звязда», 16 студз. 1934 г.

У артыкуле «Майстэрства пісьменніка. У чым яно?» П. Броўка расказаў, як ствараласяаповесць. «Свое первое прозаическое произведение, повесть «Каландры», я написал после того, как более полугода пожил на писчебумажной фабрике «Герой труда». На фабрику я приходил каждый день и не только ходил по цехам, но и жил жизнью фабрики: работал в клубе, писал для стенгазеты, общался с молодежью, «болел» за план. И только тогда, когда интересы фабрики стали моими интересами, заботы коллектива — моими заботами, я осмелился, наконец, сесть за повесть»[1].

Аповесць «Каландры» перапрацоўвалася і рэдагавалася аўтарам пры перавыданнях.

У выданні «Каландры» (1933), акрамя нязначных моўна-стылёвых правак, аўтар зрабіў шэраг купюр: скараціў або зусім зняў любоўныя сцэны і інтымныя размовы Ванькі Крука і Веры Сізовай, апусціў апошні раздзел аповесці аб нараджэнні ў Веры сына і г. д. Купюры такога роду можна растлумачыць, відаць, тым, што асобнае выданне «Каландры» (1933) рыхтавалася для дзяцей, аб чым сведчыць яго рубрыка «Школьная серыя». Рэдагуючы аповесць да выдання ў чатырохтомным Зборы твораў 1965—1966 гг., аўтар не зрабіў змен у асноўнай сюжэтнай схеме і расстаноўцы дзеючых асоб, але перабудаваў некаторыя эпізоды і карціны. Так, у першапачатковым варыянце («Каландры», 1931) Рыгор Архіпаў у рольным аддзяленні падсыпаў такі парашок у масу, ад якога на самай большай на фабрыцы машыне рвалася папера. У перапрацаваным варыянце Архіпаў краў пакункі сшыткаў і лепшыя

---

[1] Бровка П. Пишу о сердце человечьем. М., 1974. С. 230—231.

гатункі паперы з фабрыкі, а потым крадзенае прадаваў. Аўтар унёс таксама змены ў біяграфічныя звесткі Курачкіна і Архіпава, зняў адзін персанаж аповесці (лабарант Івін). Акрамя гэтай сэнсавай праўкі назіраюцца і непшматлікія розначытанні тэксталагічнага характару. Пры падрыхтоўцы ж да наступнага, апошняга прыжыццёвага перавыдання аповесці (6 т. Зб. твораў 1975—1978) пісьменнік унёс толькі нешматлікія моўныя праўкі.

17 сак. 1934 г. П. Броўка сустрэўся ў Добрушы з прататыпамі герояў сваёй аповесці і чытачамі на літаратурным вечары. Прысутныя віталі новы твор пісьменніка, указвалі на актуальнасць тэматыкі, на яе надзённасць. Разам з тым яны адзначылі і недахопы ў творы, зрабілі слушныя заўвагі аўтару [1].

П. Броўка, ацэньваючы свой твор, адказаў: «Недахопаў у маім творы вельмі шмат. Няведанне тэхнічных працэсаў, непрадуманасць некаторых мясцін у маім творы гавораць аб той спешцы, з якой пісалася аповесць. Цэлы рад герояў маёй аповесці з-за гэтага недапрацаваны, яны маглі б быць ператвораны ў больш яркія і тыповыя вобразы, калі б я больш над імі папрацаваў» [2].

Але пры ўсёй недасканаласці, аповесць «Каландры» садзейнічала расшырэнню тэматычнага дыяпазону тагачаснай беларускай прозы. «Выразнікам нацыянальнага пачатку ў паслярэвалюцыйны час з'яўляецца не толькі вёска, але і горад. Гэта абумовіла пашырэнне паэтычных даляглядаў беларускай літаратуры. Першымі прыкладамі твораў гэтага тэматычнага цыкла з'яўляюцца аповесці М. Лынькова «Апошні зверыядавец» і П. Броўкі «Каландры» [3].

У 1934 г. па аповесці быў зняты мастацкі фільм пад назвай «Хто твой сябра?». Рэжысёр М. Авербах.

*Каландр* — машына, што складаецца з сістэмы валоў, паміж якімі прапускаецца тканіна, папера або гума, каб надаць ім гладкасць, глянцавітасць ці атрымаць лісты, пласціны.

*Асаавіяхімаўкі* — Асаавіяхім — скарочаная назва добраахвотнага Таварыства садзейнічання абароне, авіяцыйнаму і хімічнаму будаўніцтву. Існавала ў СССР з 1927 г. па 1948 г.

*Абрахаваць* — тут — абгаварыць.

*Донька-Даніэль* (с. 244)

Упершыню — Полымя, 1973, № 1; пад тэкстам: май — чэрвень 1972 г.

Датуецца: май — чэрвень 1972 года.

Захоўваецца машынапіс аповесці (40 с.), тэкст якога супадае з першадрукаваным. Пад тэкстам дата: май — чэрвень 1972 г.

У 1982 г. у выдавецтве «Юнацтва» выйшла апошняя кніга прозы П. Броўкі — аповесць «Донька-Даніэль», у падрыхтоўцы да выдання якой пісьменнік прымаў непасрэдны ўдзел. «Паэт яшчэ сам прыносіў рукапіс у выдавецтва,— успамінае А. Васілевіч,— яшчэ цікавіўся і клапаціўся, калі выйдзе кніжка і які будзе мець выгляд... Але кніжка спазнілася... А сам паэт паспяшаўся. А як бы ён пацешыўся, сустрэўшыся са сваім Донькам-Даніэлем, гэтак адмыслова, гэтак трапна апранутым у кніжнае адзенне выдатным беларускім мастаком Арленам Кашкурэвічам» [4].

---

[1] Літ. і мастацтва. 1934. 31 сак.

[2] Там жа.

[3] Пшыркоў Ю. С. Беларуская савецкая проза. Мн., 1960. С. 319.

[4] Успаміны пра Петруся Броўку. Мн., 1986. С. 403.

*Вечная пляма* (с. 275)

Упершыню — Маладосць, 1975, № 9.

Датуецца: люты — сакавік 1975 года.

Захоўваецца рукапіс аповесці (88 с.), напісаны чорным чарнілам на стандартных лістах белай неліноўанай паперы. На першай старонцы рукапісу назвы, якія аўтар меркаваў даць аповесці: «Вечная пляма», «Чужы сярод сваіх», «Неапраўданы», «Адшчапенец», «Недаравальнае». Усе назвы закрэслены. На старонках рукапісу не шматлікія праўкі моўна-стылёвага характару. Пад тэкстам: люты — сакавік, 1975. Мінск — Аксакаўшчына.

Захоўваецца таксама аўтарызаваны машынапіс (75 с.), які мае дзве назвы — «Недаравальнае» і «Чужы сярод сваіх». На старонках машынапісу шматлікія аўтарскія праўкі моўнага і стылёвага характару, невялікія скарачэнні і перастаноўкі. Амаль усе гэтыя праўкі ўлічаны ў першадрукаваным тэксце. Пад тэкстам машынапісу: люты — сакавік, 1975 г. Мінск — Аксакаўшчына.

## III

## УСПАМІНЫ

*Бессмяротнасць аратага* (с. 331)

Упершыню — Лит. Россия, 1973, 17 жн., пад назвай «Бессмертие пахаря» з падзагалоўкам: «Воспоминания об Александре Трифоновиче Твардовском»; на беларускай мове — Полымя, 1977, № 5.

Датуецца 1973 годам.

Уваходзіў у раздзел «Перекрестки» зб. «Пишу о сердце человечьем...», 1974.

С. 331. *Упершыню я сустрэўся з Аляксандрам Твардоўскім у Мінску ў пачатку трыццатых гадоў.*— Пісьменнік мае на ўвазе 1934 год. 5—8 лют. 1934 г. Мінск наведала брыгада аргкамітэта ССП Заходняй вобласці ў складзе М. Ісакоўскага, А. Твардоўскага, М. Рыленкава, І. Мандрыка і інш. Смаленскія пісьменнікі прынялі ўдзел ў творчай нарадзе, арганізаванай аргкамітэтам ССП БССР, сустракаліся з работнікамі літаратуры і мастацтва, працоўнымі Мінска.

*Мне было тады нешта каля дваццаці пяці...*— П. Броўку ў 1934 г. было 29 гадоў.

*...як суседка Смаленшчыны, з якой ён быў звязаны кроўнымі сувязямі...*— А. Т. Твардоўскі нарадзіўся ў вёсцы Загор'е Пачынкаўскага павета Смаленскай губерні.

С. 332. *...як з аўтарам «Краіны Муравіі»...*— Паэма ўбачыла свет у 1936 г. Дзяржаўнай прэміі СССР удастоена ў 1941 г.

С. 333. *Ен ужо вучыўся ў ІФЛІ...*— А. Твардоўскі скончыў Маскоўскі інстытут філасофіі, літаратуры і гісторыі (МІФЛІ) у 1939 г.

*Яны расказвалі мне пра поспехі Твардоўскага...*— Маюцца на ўвазе зборнікі «Дарога. Вершы. 1934—1937» (1938), «Сельская хроніка. Вершы 1937—1938» (1939), паэма «Краіна Муравія» (1936), цыкл «Пра дзеда Данілу» (1938).

С. 334. «Краіна Муравія» (1936), «Васілій Цёркін» (1941—1945,

Дзяржаўная прэмія СССР у 1947), «Дом ля дарогі» (1946, Дзяржаўная прэмія СССР у 1947).

С. 337. *Асвенцім* — горад у Польшчы, паблізу якога ў 1940—1945 гг. знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер, дзе загінула звыш 4 млн. чалавек.

С. 338. *...тое, што засталося з выступленняў Твардоўскага па пытаннях літаратуры...* — Маюцца на ўвазе кнігі «Артыкулы і заметкі аб літаратуры» (1961), «Паэзія Міхаіла Ісакоўскага» (1969), артыкулы аб творчасці А. Пушкіна, І. Буніна, С. Маршака, А. Куляшова.

*Ён жа параіў свайму старэйшаму другу Міхаілу Васільевічу Ісакоўскаму перакласці яе на рускую мову.* — Паэма «Сцяг брыгады» ў перакладзе М. Ісакоўскага выйшла асобным выданнем у Маскве ў 1943 г.

С. 339. *...а часцей за ўсё разам працаваць у сакратарыятах праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.* — А. Твардоўскі працаваў сакратаром праўлення СП СССР у 1950—1954 і 1959—1971 гг.

С. 340 *...а яго выступленне на 2-м з'ездзе пісьменнікаў Беларусі...* — Другі з'езд пісьменнікаў Беларусі праходзіў з 20 па 24 чэрв. 1949 г.

*Я разглядаю яго новую кнігу, што выйшла ў «Библиотеке всемирной литературы»...* — П. Броўка мае на ўвазе кнігу «Стихотворения. Поэмы», якая выйшла ў Маскве ў 1971 г.

*Незабыўны паэт і чалавек* (с. 341)

Упершыню — Беларусь, 1974, № 1, пад назвай «Пра незабыўнага сябра».

Датуецца 1974 годам.

Уваходзіў у раздзел «Перекрестки» зб. «Пишу о сердце человечьем...», 1974 пад назвай «Жаль, что нет Глебки».

С. 341. *...калі прыехаў у Мінск з Полацка вучыцца.* — П. Броўка пераехаў у Мінск у 1928 г. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (1928—1931).

*...я яшчэ з полацкай філіі...* — Маецца на ўвазе полацкая філія літаратурнай арганізацыі пісьменнікаў БССР «Маладняк».

*«Маладняк»* — літаратурнае аб'яднанне пісьменнікаў БССР (лістап. 1923 г.— лістап. 1928 г.). Аб'ядноўвала пераважна маладыя літаратурныя сілы рэспублікі. У канцы 1925 г. налічвала больш за 300 чалавек. Філіі «Маладняка» былі ў Віцебску, Магілёве, Полацку, Бабруйску, Гомелі, Слуцку, Оршы, Барысаве, Клімавічах, Мазыры, Маскве, Ленінградзе, Смаленску. На чале арганізацыі стаяла Цэнтральнае бюро (ЦБ знаходзілася ў Мінску). Заснавальнікі: М. Чарот, А. Дудар, А. Бабарэка і інш.

*«Узвышша»* — літаратурнае аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў (26.5.1926 — снеж. 1931). Чл.: К. Чорны (старшыня), К. Крапіва (нам. старшыні), А. Бабарэка (сакратар), У. Дубоўка, З. Бядуля, П. Глебка, Я. Пушча і інш. Арганізацыя ставіла задачу стварыць літаратуру вялікай ідэйнай і мастацкай каштоўнасці.

*А пасада сакратара часопіса «Узвышша», якую тады займаў Пятро Глебка...* — Сакратаром рэдакцыі часопіса «Узвышша» П. Глебка працаваў у 1928—1930 гг.

С. 342. *...калі я друкаваў у «Чырвонай Полаччыне» свой першы верш...* — 18 жн. 1926 г. у газеце «Чырвоная Полаччына» быў надрукаваны першы верш П. Броўкі «Ой, не шапчы, бяроз-

ка...». Ва ўсіх наступных публікацыях: «Ой, не шапчы, мая бярозка».

*...а я неўзабаве паводле гісторыі Самарскай кавалерыйскай дывізіі — сваю паэму «Праз горы і стэп».*— Паэма «Праз горы і стэп» упершыню была апублікавана ў альманаху «Атака», 1935, № 1 пад загалоўкам «Мінеральныя воды». Дата напісання: 1932 г.

С. 343. *...калі я напісаў сваю паэму «1914 год»...*— Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях паэма датуецца 1935 г.

С. 344. *...а я старшынёй сельсавета.*— У 1924 г. П. Броўку, якому тады было 19 гадоў, выбіраюць старшынёй Маладолецкага сельсавета.

*...наведалі Вялікую Вусу на Уздзеншчыне.*— У вёсцы Вялікая Уса Уздзенскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся П. Глебка.

*...мая Вушаччына і асабліва Пуцілкавічы...*— П. Броўка нарадзіўся ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці.

С. 346. *Так мы і апынуліся ўлетку...*— Гэта было лета 1933 г.

*...нашу калектыўную кніжку «Ураджай».*— Кніга нарысаў «Ураджай», напісаная П. Броўкам разам з П. Глебкам, была выдадзена ў 1933 г.

*...доўгі час працаваў галоўным рэдактарам створанага ў гады вайны ў Маскве Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі.*— Галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР у Маскве П. Глебка працаваў у 1943—1945 гг.

*Ён стаў супрацоўнікам Акадэміі навук БССР...*— У 1944 г. П. Глебка прызначаны кіраўніком групы па складанню руска-беларускага слоўніка, у 1945—1957 гг. загадваў сектарам у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР. У 1957—1969 гг.— дырэктар Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У 1969 г.— акадэмік-сакратар аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

С. 348. *...ў гонар Кандрата і двух Пятроў...*— Маецца на ўвазе Кандрат Крапіва, Пятро Глебка і Пятрусь Броўка.

*Дарагое імя* (с. 349)

Упершыню — Лит. Россия, 1974, 7 чэрв. пад назвай «Доброе имя», на беларускай мове — пад загалоўкам «Дарагое імя» — Полымя, 1977, № 5.

Датуецца 1974 годам.

Уваходзіў у раздзел «Перекрестки» зб. «Пишу о сердце человечьем» (1974), пад назвай «Слово его будет идти и идти к людям».

С. 349. *...аб зборніку вершаў Ісакоўскага «Правады ў саломе»...*— Кніга «Правады ў саломе» выйшла ў Маскве ў 1927 г. Першы зборнік паэта.

С. 350. *...паэма Аркадзя Куляшова «Сцяг брыгады»...*— Паэма «Сцяг брыгады» ў перакладзе М. Ісакоўскага была выдадзена асобным выданнем у Маскве ў 1943 г.

С. 351. *...сваю цудоўную аповесць «На Ельнінскай зямлі»...*— Аўтабіяграфічная кніга «На Ельнінскай зямлі» была напісана ў 1969 г., выдадзена ў 1973 г.

*...у трыццатых гадах Міхаіл Ісакоўскі...*— У 1931 г. М. Ісакоўскі пераехаў у Маскву.

С. 353. *...у родную Глотаўку...*— Глотаўка — сяло, дзе нарадзіўся М. Ісакоўскі.

*Наш добры сябра* (с. 357)

Упершыню — зб. «Разам з камісарам» (1974), у раздзеле «З незабыўных сустрэч».

Датуецца 1974 годам.

Уваходзіў у раздзел «Перекрестки» зб. «Пишу о сердце человечьем...», 1974 пад назвай «Поистине народный».

С. 357. *...прачытаўшы яго першую кніжку вершаў «Вуліца чырвоных зор».—* Зборнік вершаў «Вуліца чырвоных зор» выйшаў у 1931 г.

С. 359. *...прачытаў яго цудоўную паэму «Расія»...—* Паэма ўбачыла свет у 1944 г., у 1946 г. атрымала Дзяржаўную прэмію СССР.

С. 360. *Мухавец* — рака, правы прыток Буга. Даўжыня 123 км. На рацэ г. Брэст.

С. 361—362. *Хутка пасля вайны мне давялося працаваць старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі...—* П. Броўка абраны старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР у 1948 г.

С. 362. *...Пракоф'еў быў ужо кіраўніком ленінградскіх пісьменнікаў.—* У 1945—1948 і 1955—1965 гг. А. Пракоф'еў быў адказным сакратаром Ленінградскага аддзялення СП СССР.

С. 364. *Добра сказана пра выдатных рускіх кампазітараў XIX ст. назвай «Магутная кучка».—* «Магутная кучка» — творчая садружнасць выдатных рускіх кампазітараў, якія адлюстравалі ў сваёй дзейнасці нацыянальна-патрыятычныя ідэалы і эстэтычныя прынцыпы рэвалюцыйных дэмакратаў 60-х гадоў XIX ст. Члены «Магутнай кучкі»: М. Балакіраў (кіраўнік), А. Барадзін, М. Мусаргскі, М. Рымскі-Корсакаў, Ц. Кюі.

*Вы клікалі нас, маладых арлянят...* (с. 365)

Упершыню — Полымя, 1977, № 6; пад тэкстам: 27 лютага 1977 года.

Датуецца: люты 1977 года.

С. 365. *У той час я ўжо вучыўся...—* П. Броўка вучыўся ва універсітэце ў 1928—1931 гг.

*...які яшчэ нядаўна прыехаў...—* П. Броўка пераехаў у Мінск у 1928 г.

*І вось я з сябрамі на юбілейным вечары...—* Вечар адбыўся 28 мая.

*...прачытаў сваіх «Арлянятаў».—* Верш «Арлянятам» упершыню цалкам быў надрукаваны ў зб. «Безназоўнае» ў 1925 г.

С. 366. *...Уладзіслава Францаўна, якую мы ўсе з любоўю звалі...—* Гаворка ідзе пра Уладзіславу Францаўну Луцэвіч (Станкевіч), жонку Янкі Купалы.

С. 368. *...на І Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў.—* І Усесаюзны з'езд пісьменнікаў адбыўся з 17 жн. па 1 верас. 1934 г. 15 жн. у Маскву прыбыла дэлегацыя пісьменнікаў БССР.

*Кіславодск* — бальнеакліматычны курорт з групы Каўказскіх Мінеральных Водаў, за 38 км ад Пяцігорска.

С. 370. «Над ракой Арэсай» (1933).

С. 372. *Ён так і зваўся «Старыя акопы».—* Верш «Старыя акопы» быў упершыню надрукаваны ў газ. «Звязда», 1935, 5 ліп., з паметкай: Ляўкі. Аршаншчына, чэрвень 1935 г.

С. 374. *Адбылося гэта ў лютым 1938 года.—* Недакладнасць: Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагародзе савецкіх пісьменнікаў выйшаў 31 студз. 1939 г.

*Узнагароду ўручаў Міхаіл Іванавіч Калінін ў Крамлі.*— Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР М. І. Калінін уручыў узнагароды савецкім пісьменнікам 7 лют. 1939 г.

*...вёска, дзе ён нарадзіўся...*— Я. Купала нарадзіўся ў фальварку Вязынка былога Вілейскага павета. Зараз Маладзечанскі раён Мінскай вобласці.

*...ў Ерэван на ўрачыстасці Давіда Сасунскага...*— 7 верас. 1939 г. Я. Купала ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў выехаў у Ерэван для ўдзелу ў VII пленуме Праўлення ССП СССР, прысвечаным 1000-годдзю армянскага народнага эпасу «Давід Сасунскі».

*«Сасунцы Давід» («Давід Сасунскі»)* — армянскі гераічны эпас. Упершыню запісаны ў 1874 г. Г. Срвандзцянам. Складаецца з чатырох адгалінаванняў: «Санасар і Багдасар», «Мгер Старэйшы», «Сасунцы Давід» (галоўнае), «Мгер Малодшы». У Ерэване пастаўлены помнік герою эпасу Давіду Сасунскаму.

*...напісаў свой вядомы цыкл «Заходнебеларускія матывы».*— Цыкл вершаў («Ой, павей, вецер...», «Накарміліся панскаю ласкай...», «Ты мне песню спей, дзяўчына...», «Калыханка», «Расшумеўся лес зялёны»), які быў упершыню апублікаваны ў газ. «Звязда», 1939, 4 кастр. пад рубрыкай «На заходнебеларускія матывы», з паметай: Ерэван — Мінск, верасень 1939 г.

*А неўзабаве яму давялося быць у Беластоку...*— 8 кастр. 1939 г. Я. Купала разам з Я. Коласам на чале брыгады беларускіх пісьменнікаў (М. Клімковіч, З. Бядуля, З. Аксельрод, Я. Маўр, М. Паслядовіч і інш.) выязджае ў Беласток для правядзення творчых вечароў і ўдзелу ў падрыхтоўцы да выбараў у Народны сход.

С. 375. *Успамінаў сваю маладосць і часы працы ў Вільні.*— Я. Купала жыў у Вільні ў 1908—1909 гг. Працаваў бібліятэкарам у прыватнай бібліятэцы «Веды» Б. Л. Даніловіча і адначасова супрацоўнічаў у газеце «Наша ніва».

*...пакойчыку за «Калевалай».*— *«Калевала»* — карэла-фінскі эпас аб подзвігах і прыгодах казачнай краіны Калева. Складзены з народных песень фінскім паэтам і фальклярыстам Э. Лёнратам; надрукаваны ў 1835 і 1849 гг.

С. 376. *...з вялікай ахвотаю ехаў ён на І з'езд пісьменнікаў...*— У складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў Я. Купала выехаў у Рыгу 12 чэрв. 1941 г. на Першы з'езд пісьменнікаў Латвійскай ССР, які адбыўся 14—15 чэрв. 1941 г.

*Яшчэ ў дваццатых гадах сустракаўся ён у Мінску з Янам Райнісам.*— Я. Купала сустракаўся з Я. Райнісам у лістап. 1926 г. Я. Райніс прыехаў у Мінск для ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21 лістап.).

С. 379. *...свой славуты верш: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны».*— Маецца на ўвазе верш «Беларускім партызанам» (1941).

*Забыць цябе не маю сілы...* (с. 380)

Упершыню — Полымя, 1977, № 12; пад тэкстам: 25 сакавіка 1977 г.

Датуецца: сакавік 1977 года.

С. 380. *...калі я прачытаў «Тоўстае палена» Якуба Коласа...*— Апавяданне «Тоўстае палена» ўпершыню было выдадзена асобным выданнем у 1913 г. у Пецярбурзе.

С. 381. *Якуб Колас тады быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР...*— З дня ўтварэння Акадэміі БССР (1 студз. 1929 г.) Я. Колас быў яе нязменным віцэ-прэзідэнтам.

*...калі дзядзька Янка з цёцяй Уладзяй...*— Пісьменнік мае на ўвазе Янку Купалу і яго жонку Уладзіславу Францаўну Луцэвіч (Станкевіч).

С. 382. *Яшчэ ў 1932 годзе ён піша...*— Размова ідзе аб артыкуле Я. Коласа «У наступ на балоты» (1932).

*«Мы мала ~ нашай эпохі».*— З прамовы Я. Коласа, з якой ён выступіў 26 лют. 1933 г. на пашыраным пленуме аргкамітэта ССПБ, прысвечанага творчым пытанням беларускай савецкай літаратуры.

*...яшчэ тады выступае з артыкулам...*— П. Броўка мае на ўвазе прамову Я. Коласа, з якой ён выступіў 16 студз. 1935 г. на XI Усебеларускім з'ездзе Саветаў. Прамова пад загалоўкам «Вялікія грандыёзныя задачы» надрукавана ў газ. «Звязда», 17 студз. XI Усебеларускі з'езд Саветаў праходзіў у Мінску ў 1935 г. з 14 па 22 студз.

*«На ўсім заўважаецца ~ дарогу жыцця».*— З артыкула «Савецкі гуманізм». Надрукаваны ў газ. «Звязда», 18 студз. 1937 г. Артыкул напісаны пасля наведвання віцебскай дзіцячай працоўнай калоніі.

*Мар'я Дмітраўна, ветлівая...*— Маецца на ўвазе Марыя Дзмітрыеўна Міцкевіч (Каменская) — жонка Я. Коласа.

С. 383. *Гэта было ў Загібельцы...*— Загібелька — невялічкая вёска ў Пухавіцкім раёне БССР. Там Я. Колас часта праводзіў свой адпачынак.

*...выпала паездка ў Парыж на Сусветны кангрэс міру.*— Размова ідзе аб паездцы Я. Коласа на Міжнародны кангрэс пісьменнікаў у абарону культуры, які адбыўся ў Парыжы ў чэрвені 1935 г.

*...дзядзька Якуб, выказаў на кангрэсе шчырае, цвёрдае слова...*— Я. Колас выступіў на кангрэсе з прамовай 24 чэрв. 1935 г. Прамова Я. Коласа пад загалоўкам «Магутная савецкая рэчаіснасць жывіць нашы мыслі і нашы пачуцці» надрукавана ў газ. «Літ. і мастацтва», 1935 г., 6 ліп.

С. 384. *...Кандрат Крапіва ў сваёй добразычлівай эпіграме...*— П. Броўка мае на ўвазе эпіграму К. Крапівы «Інтэрв'ю Якуба Коласа». Гэтая эпіграма была змешчана разам з сяброўскім шаржам В. Волкава ў газ. «Літ. і мастацтва», 16 верас., 1935 г.

*Булонскі лес* — вялікі парк на заходняй ускраіне Парыжа, традыцыйнае месца гулянняў парыжан.

*...і ён неўзабаве адказаў...*— Размова ідзе аб вершы Я. Коласа «Загібелька», які датуецца 24 кастр. 1935 г.

С. *385. ...Якуб Колас перабраўся ў Падбярэжжа...*— Падбярэжжа — вёска у Пухавіцкім раёне БССР.

*...З Падбярэжжа ён перабраўся ў Вусце...*— Вусце — хутар (пяць хат) Пухавіцкага раёна (75 км ад Мінска). Жыў на гэтым хутары з сям'ёй летам 1937 і 1938 гг.

*...да Язэпа Рыкашоўскага...*— Дакладнае прозвішча гаспадара — Рымашэўскі.

*...творчасці родная Мікалаеўшчына...*— Я. Колас нарадзіўся ў засценку Акінчыцы, недалёка ад с. Мікалаеўшчына.

*Балачанка* — рака, левы прыток Свіслачы (бас. Бярэзіны).

*«Мой родны ~ сілы...».*— Радкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Паэма пачата пісьменнікам ў Мінскім астрожным замку ў сак. 1911 г. і скончана 5 студз. 1923 г.

*...і Ластка, і Альбуці...*— У 1883 г. сям'я Міхала Міцкевіча перабіраецца з Акінчыц у Ласток (Сухошчына), дзе жыве да 1890 г. З 22 крас. 1890 г. па 8 лют. 1902 г. Міхал Міцкевіч служыць у леснічоўцы Альбуць.

*У верасні 1939 года Якуб Колас з Янкам Купалам удзельнічалі ва ўрачыстасцях...*— 8 кастр. 1939 г. Якуб Колас разам з Я. Купалам на чале брыгады беларускіх пісьменнікаў (М. Клімковіч, З. Бядуля, З. Аксельрод, Я. Маўр, М. Паслядовіч і інш) выязджае ў Беласток для правядзення творчых вечароў і ўдзелу ў падрыхтоўцы да выбараў у Народны сход.

С. 386. *...сваю новую паэму «Хата рыбака».*— Размова ідзе аб паэме Я. Коласа «Рыбакова хата» (1940—1947).

*Ты прыгадай майго Талаша.*— Герой аповесці Я. Коласа «Дрыгва» (1933).

С. 387. *І Якуб Колас з сям'ёю выехаў у Ташкент...*— 14 жн. 1941 г. Я. Колас прыязджае з сям'ёй у Ташкент, куды была пераведзена Акадэмія навук БССР.

*...а Купала ў Печышчы пад Казань.*— З 13 лістап. 1941 па 13 чэрв. 1942 г. Я. Купала знаходзіцца ў пасёлку Печышчы (ваколіцы Казані). Разам з У. Ф. Луцэвіч спыніўся ў дырэктара мельзавода І. Я. Наякшына.

*...раптоўная смерць нашага дарагога Янкі Купалы.*— Я. Купала трагічна загінуў 28 чэрв. у Маскве, у гасцініцы «Масква».

С. 389. *...пра дзіўныя горы і асабліва пра Чымган.*— *Чымган* — кліматычны курорт на тэрыторыі Узбекскай ССР (90 км ад Ташкента). Пазней, у 1943 г., Я. Колас напісаў два вершы аб Чымгане: «Чымган» і «У Чымгане». Пасля першай публікацыі яны пачалі друкавацца як адзін твор пад назвай «Чымган».

*Аксакал* — тут — паважаны чалавек.

С. 390. *...і з «Голасу зямлі» і з «Суда ў лесе».*— Верш «Голас зямлі» датуецца 31 снеж. 1941 г. Паэма «Суд у лесе» — 24 кастр. 1942 г.

*...і з Лёляю...*— *Лёля* — Алена Міхайлаўна Броўка, жонка П. Броўкі.

С. 391. *Па-ранейшаму ён жыў у сваякоў у Клязьме.*— Я. Колас пераязджае ў Клязьму ў лістап. 1943 г.

С. 392. *Ён быў прыняты ў Камуністычную партыю Савецкага Саюза.*— У красав. 1945 г. на агульным сходзе партыйнай арганізацыі СП Беларусі Я. Колас быў прыняты ў члены ВКП(б).

*Навабеліца* — прыгарад г. Гомеля.

С. 393. *Неўзабаве прыехаў і Якуб Колас...*— 6 снеж. 1944 г. Я. Колас з сынам Данілам і выхаванкай сям'і Вольгай Антонаўнай Прачук прыязджае ў Мінск.

*...і ў былым Азарыцкім лагеры смерці...*— канцэнтрацыйны лагер, створаны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Азарыцкім раёне Палескай вобласці як жывая заслона на шляху наступлення Савецкай Арміі.

*...памерла яго самы блізкі і родны спадарожнік — Мар'я Дзмітраўна.*— У ноч з 20 на 21 мая 1945 г. у філіяле Крамлёўскай бальніцы ў Сакольніках памерла Марыя Дзмітрыеўна Міцкевіч. Пахавана 24 мая ў Мінску на Ваенных могілках.

С. 395. *...пачэрпнуў з хронікі Гваньыны...*— Гваньіні Аляксандр (1534—1614) — польскі гісторык. Пад сваім імем выдаў «Хроніку Еўрапейскай Сарматыі» на лацінскай і польскай мовах.

С. 396. *Памятаю, як на XXII з'ездзе КПБ ён выступіў з прамовай...*— XXII з'езд КПБ праходзіў з 24 па 27 студз. 1956 г. 25 студз. Я. Колас выступіў з прамовай аб ачыстцы палёў ад камення.

*Памятаецца паездка ў Ленінград.*— Маецца на ўвазе паездка Я. Коласа ў Ленінград у 1947 г. Ён узначальваў дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў (П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка, П. Пестрак, М. Клімковіч і інш.), якая па запрашэнні ленінградскага аддзялення СП СССР з 18 па 23 жн. 1947 г. знаходзілася ў Ленінградзе.

*А колькі ён мог яшчэ зрабіць!* (с. 400)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1978, 28 красав.

Датуецца 1978 годам.

С. 401. «Мінскі напрамак» (1950—1952), «Людзі на балоце» (1961), «Подых навальніцы» (1964—1965).

# АНАТАВАНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ

## А



## Б



## В

## Л

## М



## Н



## П

## Р



## С

## Т



## У



## Ф



## Х



## Ц

## ЗМЕСТ

### I

### АПАВЯДАННІ



### II

### АПОВЕСЦІ



### III

### УСПАМІНЫ

**Броўка П.**

**Б 88** Збор твораў: У 9 т. Т. 7. Апавяданні, аповесці, успаміны.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 430 с. [5] л. іл.

ISBN 5-340-00295-0.

Бровка П. Собрание сочинений. Т. 7.

У сёмы том Збору твораў Петруся Броўкі ўвайшлі апавяданні, аповесці і ўспаміны пра А. Твардоўскага, Янку Купалу, Якуба Коласа, Івана Мележа і інш.

Б $\frac{4702120201-160}{М302(03)-90}$ 94—90

ББК 84Бел7



**Петр Устинович (Петрусь) Бровка**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ДЕВЯТИ ТОМАХ

**Том 7**

*Рассказы, повести, воспоминания*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы*
*Пятрусь Броўка, 1970-я гады*
*На другім форзацы*
*Дом па вул. Прыгожай у Мінску,*
*у якім П. Броўка жыў у час вучобы ў БДУ*

Рэдактар Н. І. Семашкевіч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічныя рэдактары Т. М. Сокал, Г. П. Тарасевіч
Карэктары К. У. Дзмітрыенка, Л. А. Дзядзюля

ІБ № 3128
Здадзена ў набор 21.08.89. Падп. да друку 27.07.90. **Фармат** 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 25,73. Ул.-выд. арк. 24,37. Тыраж 6700 экз. **Зак. 2850. Цана** 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.